


*Уладзімір Ябарыўскі*

# МАРЫЯ З ПАЛЫНОМ У КАНЦЫ СТАГОДДЗЯ

*Уладзімір Аляксандравіч Яварыўскі шырока вядомы на Украіне і за яе межамі як празаік і публіцыст. Ён аўтар многіх апавяданняў і аповесцяў, публіцыстычных артыкулаў і эсэ, раманаў «Ланцуговая рэакцыя» (1978), «Азірніся з восені» (1979), «Аўтапартрэт паводле ўявы» (1981), «А цяпер — ідзі» (1983).*

*Нарадзіўся 11 кастрычніка 1942 года ў в. Тэклійка на Вінніччыне. Скончыў Адэскі універсітэт (1984), працаваў у перыядычных выданнях, на тэлебачанні, у апараце Саюза пісьменнікаў Украіны. Цяпер — сакратар СП УССР. Народны дэпутат СССР і УССР.*

*Раман «Марыя з палыном у канцы стагоддзя» (1988) прысвечаны чарнобыльскім падзеям, пра якія пісьменнік ведае не з газетных допісаў. У першыя ж дні трагедыі ён добраахвотнікам паехаў у Прыпяць, стаў непасрэдным сведкам гераічнага і драматычнага, высакароднага і эгаістычнага, самаахвярнага і подлага ў паводзінах і ўчынках тых, хто будаваў, эксплуатаваў АЭС, а пасля ліквідоўваў вынікі аварыі на ёй. Не можа не ўсхваляваць чытача і мастацка-дакументальная аповесць У. Яварыўскага «Вечныя Картэлісы» (у 1984 г. яна была адзначана Дзяржаўнай прэміяй УССР імя Т. Шаўчэнкі) пра ўкраінскую сястру беларускай Хатыні.*

ПРОЗА НАРОДАЎ СССР

*Уладзімір Яварыўскі*

# МАРЫЯ З ПАЛЫНОМ У КАНЦЫ СТАГОДДЗЯ

РАМАН, АПОВЕСЦЬ

ПЕРАКЛАЛІ З УКРАІНСКАЙ МОВЫ
ВЯЧАСЛАЎ РАГОЙША І УСЕВАЛАД РАГОЙША

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1991

ББК 84Укр7
Я16

СЕРЫЯ ЗАСНАВАНА Ў 1984 ГОДЗЕ

Пераклады зроблены з выданняў:
В. Яворівський. Марія з полином у кінці століття.— Київ: Радянський письменник, 1988.
В. Яворівський. Вічні Кортеліси.— Київ: Молодь, 1981.

Книгу известного украинского прозаика, лауреата Государственной премии Украинской ССР имени Т. Шевченко В. Яворивского (род. в 1942 г.) составили одноименный роман о судьбе обычной украинской семьи, для которой трагедия Чернобыля стала не только огромным потрясением, но и испытанием, и документальная повесть «Вечные Кортелисы», которая рассказывает на основании многочисленных документов и свидетельств очевидцев о страшной трагедии волынской деревни, сожженной фашистами в сентябре 1942 года вместе с 2875 жителями.



Я $\frac{4702640201-116}{М\ 302(03)-91}$ 150—91
ISBN 5-340-00549-6

# МАРЫЯ З ПАЛЫНОМ У КАНЦЫ СТАГОДДЗЯ

**РАМАН**

## *1*

Карані. Вузлаватыя, жылістыя карані на пясчанай вясковай дарозе. Усё роўна як цесна ім там, пад зямлёю, і яны цяжка выпручваюцца на паверхню.

Патрушчаныя гусеніцамі трактароў, коламі вазоў і грузавікоў, некім са зла пасечаныя сякерамі і лапатамі, але — жывыя. Пакарэжаныя, пакручаныя, на свежых ранах выступаюць кропелькі жывіцы. Дарога быццам вымашчана каранямі, тут можна праехаць у самую бездараж.

Каля дарогі стары вясковы цвінтар. Драўляная, праламаная ў многіх месцах агароджа, звараныя з труб, збітыя з сасновых брусоў крыжы, абстаўленыя жэрдкамі і драцяной арматураю магілы, выцвілыя, пажоўклыя ад дажджоў і сонца фотакарткі, танныя помнікі. А паміж імі жывыя, нібы высечаныя з бронзы, сосны, карані якіх аплялі аселыя, прыземленыя капцы магіл. Ціша, самотнасць, запусценне, якія вясною паражаюць амаль кінжальна.

Сярод магіл пасецца рабая карова з высокімі і вострымі рагамі. Як два кап'і, нацэленыя ў неба. Скубе маладыя кусцікі чарнобылю, што ўжо зазелянеў ускрай дарогі, а тут, на цвінтары, найбольш. Пасецца, шумна дыхае ў зямлю і час ад часу паглядае ў адно месца.

Да камля старой тоўстай сасны прыбіта дошка, якая папаездзіла ў бартах машыны, бо на ёй і цяпер праступае частка дзяржаўнага нумара грузавіка — 86-КХЕ. Хтосьці абы-як абсек яе на канцы сякерай, завастрыў, ад рукі напісаў чырвонай фарбаю: «в. Гарадзішчы». Гультаіна, мабыць, і не шманаў, што гэты самаробны ўказальнік падобны на бязглузды крыж з жывой сасны і мёртвай шэрай дошкі.

Карова пажадліва скубе чарнобыль ды зноў і зноў паглядае перад сабою. Што там яе зацікавіла?

Цяжка, хапатліва дыхаюць два дзядзькі-далакопы. Вы-

лятае мокры пясок з ямы, чысты, з залатым адлівам. Пагойдваюцца шапкі далакопаў, быццам яны выныраюць з-пад зямлі і зноўку хаваюцца ў ёй. Скрыгат рыдлёвак, цяжкае дыханне, фантаны пяску.

Над ямаю ў куфайцы, у кірзачах стаіць проставалосы хлопец Фёдар. Найменшы сын нябожчыка Івана Міровіча. Найменшы і — глуханямы. З нараджэння. У вёсцы гэта нікога не дзівіць. Тут, у Гарадзішчах, ён і жыў пры тату і маме, а вось ужо другі дзень — толькі пры маме, бо тата Іван пазаўчора памёр. Далакопы ведаюць пра ўроджаную Фёдараву загану, таму не цырымоняцца пры ім, усё гавораць уголас:

— Стаіць, як грэх над душою, нямко!

— І пляшку, відаць, не ўзяў, глухарына, каб горла прамачыць пасля катаржнай працы...

— Нябожчык сп'яна яго змайстраваў. На дурную галаву...

— Думаў, што гэта не яго Марыя, а Насця-палюбоўніца. Калі вылупіўся глуханямы Федзька, калі ўшалопалі, што яно і глухое і нямое,— ужо было позна. Куды яго падзенеш, калі яно ўсё бачыць і разумее?

Фёдар вачыма дапамагае далакопам, яго погляд вядзе кожны кідок пяску, кожны рух мужчын у яме. Здаецца, калі б не вясковы звычай (родзічам спаконвеку забараняецца капаць дол, несці дамавіну), Фёдар не стрываў бы гэтых гультаёў, сам ускочыў бы ў яму і выкапаў бы яе ўмомант. Нельга. Дол тату. Трэба вытрываць п'янчуг, якіх з цяжкасцю ўпрасіў (упрошваў на мігі — не маглі дапетрыць, пра што мова, аж пакуль не паказаў паўлітроўку — адразу заківалі галовамі). Каб не стаяць без работы, Фёдар адграбае рукамі пясок — толькі б не асыпаўся назад, у яму.

Далакопы са злосцю сякуць карані, якія падлазяць ім пад рыдлёўкі. Сякуць і выкідаюць наверх. Фёдар падхоплівае іх, абмацвае доўгімі чуйнымі пальцамі і складае ў кучку.

— Ну і выпетрыў рак дзядзьку Івана. Як трэску! Цётцы Марыі не галасіць, а... з палёгкай уздыхаць трэба. Намучылася старая. Год сушыла Івана.

— Пажыў, і годзе! Уступі месца іншым. А пажыў дай божа! Гарэлкі з цыстэрну выглушыў...

— І ўсё на дурніцу. То старшыняваў у калгасе пасля вайны, то брыгадзірыў. Адно пераступі парог у Гарадзішчах — пляшка сама на стол скача. У самага скупярдзяя з-пад зямлі вылезе і — на стол, бо старшыня сядзіць.

— А ўдоў колькі ператаптаў. Мужыкі на вайне палеглі, а яму, Міровічу, воля. Ніхто і мызу не расквасіць. Гуляй, колькі сілы! Ото жытуха была! Не тое што нам дасталося — адны бабы ды клячы ў Гарадзішчах. Дажыліся! Горад усіх талковых маладзіц за падол і да сябе, каб атамнікі маглі ўволю паласавацца, пакуль «певень кукарэкае», бо кажуць, што ў іх у кожнага, хто даглядае рэактар, хутка кроў радзее... А нам таўчыся тут са сваёю, усё роўна як мы толькі ўдваіх на планеце, не раўнуючы як Адам з Еваю. Годзе! Ужо дол да вачэй!

— А і дапраўды, хопіць, бо вада зараз пакажацца! Стары не ўстане! Рак — не чума, хопіць глыбіні... за такія грошы...

Фёдар кожнаму з іх падае руку і, цяжка тужачыся, ажно чырванеючы, выцягвае далакопаў з ямы. Чакае, пакуль яны аддыхаюцца і павытрасаюць пясок з шапак, кішэняў, з-пад кашуль, з халяваў. Твар у Фёдара напружаны, нібы ўвесь час ён хоча нешта ўчуць, зразумець, штосьці сказаць іншым, але не можа. Калі б не куфайка і кірзачы, калі б яго пераадзець у касцюм з гальштукам, ніхто не пазнаў бы ў ім вяскоўца — рознарабочага калгаснай брыгады.

## 2

Шнурок поля, зацíснуты з усіх бакоў лесам. Суцэльны пясок, па якім абы-як раскіданы гной. Пасярод поля трактар «Беларусь» з прычэпам. Закарэлы, з выбітымі бакавымі шыбамі ў кабіне, замест іх — фанера.

Разгружае прычэп з гноем чалавек гадоў сарака, хударлявы, непрыкметны, у новым касцюме, у белай сарочцы з стракатым гальштукам, у мадэльных туфлях. Дзе цяпер убачыш такога грузчыка гною? Замок у яго куртачцы расшпілены. Спяшаецца, выцірае спатнелы лоб. Папраўляе гальштук, што ўвесь час вылузваецца з-пад крыса пінжака.

Трактарыст сядзіць у кабіне ў трактары, дэманстратыўна зневажае «грузчыка», курыць і разгадвае красворд у зашмальцаваным часопісе. Абыякава праз выбітае ззаду ў кабіне шкло кідае:

— Я не да гною адзеты.— Глядзіць на свае гумовікі, запэцканыя да верху халяў.— Трактарыст я, а не жук-гнаявік. Заела, зараза, пад'ёмнік, не пераварочваецца прычэп. Бяры больш, кідай далей, а-тамнік... калі не змог на сваёй атамнай машыну выпісаць на бацькава пахаванне.

— Не да таго мне было. Спяшаўся. Думаў, яшчэ застану бацьку, пагавару з ім, развітаюся. Сусед гнаў матацыкл, каб паспець... Не застаў. Адмучыўся...

— Колькі ты зарабляеш на тым чорце, Міколе-ўгоднік?

— Хапае...

— А я на «Жыгулі» натоптваю. На цёмна-сінія, як вароніна крыло. У цябе Людка гандлярка. У іх грошай як гною. Што, не дае? Скажы: усё адно канфіскуюць! Цяпер часы суровыя, пракурорскія. Перавядзі грошы на матку, памрэ — спадак будзеш мець, пад які камар носа не падточыць. Толькі пры жыцці завяшчанне на сябе зрабі, пры жыцці старой, бо потым усялякае можа быць...

— Не сушы сабе мазгі, Архіп, маім клопатам. У цябе не пазычаю. А мая маці — няхай жыве доўга.

— Нейкі ты, Мікола, неда... недацягнуты да стандарту. Быў і застаўся неда... цягнуты да нармальнага гарадзішчанца. Скідай гной ды паедзем да рэчкі, памыеш прычэп, бо мне трэба дома свінням даць, бычку. На восень паўтары тысячы нарасце. Можна браць цёмна-сінія, як вароніна крыло, «Жыгулі». Чыстыя і чэсныя, як сляза, грошы, Мікола...

## *3*

Да шыкоўнага ў райцэнтры будынка, дзе размясціўся райкам, падкаціла чорная, бліскучая, як чаравік у спевака на сцэне, «Волга», новай, трыццаць першай, мадэлі. Нумары яе ажно рабацяць нулямі.

З яе няспешна, натомлена высоўваецца чалавек. Быццам па частках вылазіць: спачатку ногі, потым галава ў чорным, а-ля Фідэль, берэце. Нарэшце выціскваецца ўвесь, выпростваецца. Высозны чалавек у чорным аўстрыйскім макінтошы. Худы, нязграбны, рост — з два метры. Век, калі звыклы зварот «малады чалавек!» успрымаецца як іронія і выклікае кароткі прыступ смутку. Пяцьдзесят пяць, але на выгляд больш. Калі размаўляе з кім-небудзь, вымушаны ўвесь час нахіляцца, каб пачуць суразмоўніка там, унізе. Гэта нагінанне і разгінанне стала яго звычкаю. Ножык-складанчык, Іван-паківан.

Ды не перад кожным ён завучана нахіляецца, не перад кожным. Гэта не аўтаматызм, а кантраляваная звычка.

Яго імя і аблічча многім вядомыя з газет і з тэлевізійнага экрана. Аляксандр Іванавіч Міровіч — найстарэйшы сын у сям'і нябожчыка — вядомы ў краіне чалавек.

Аляксандр Іванавіч распрацаваў праект таннага, простага, па яго словах, бяспечнага, як самагонны апарат, рэактара-мільённіка, які ўжо звыш дзесяці гадоў спакойненька (ну, не без невялікіх тэхнічных выбрыкаў) ганяе турбіны на многіх атамных электрастанцыях дзяржавы, выпрацоўваючы самую танную ў свеце электраэнергію.

Сашку Міровіча — кемлівага, але амбітнага і ўпартага вяскоўца з Гарадзішчаў, які настойліва прэў над сваёю дысертацыяй у курчатаўскім інстытуце,— у шасцідзесятыя гады імкліва вынесла хваля асваення мірнага атама, а найгалоўней — патрэба ў шырокім будаўніцтве атамных электрастанцый. Падаваліся розныя праекты, стваралася безліч творчых груп, якія шукалі варыянт самага простага і таннага рэактара.

Бліскавічна адчуўшы новую і перспектыўную справу, Сашка з групаю маладых фізікаў таксама ўзяўся за праект. Рэч была малавядомая ўсім — гэта рабіла роўнымі шанцы, і яго крыху авантурная натура не вагалася.

На вучоным савеце думкі спецыялістаў пра варыянт рэактара групы Міровіча разышліся, але нехта паблажліва прапанаваў: падаць разам з іншымі праектамі для азнаямлення дзяржаўнай камісіі на чале з тагачасным міністрам энергетыкі краіны. Сашка не дужа каб і нерваваўся, бо, уласна, надзеі на поспех не ўскладаў. Якраз закахаўся ў Вольгу — маленькую, прыгожую і беззаганна скроеную прыродаю студэнтачку медыцынскага інстытута, якая была яму, як любіў паўтараць, «па сэрцы». Каб пацалаваць яе, адрываў ад зямлі і паднімаў да сваіх губ. Павёз яе паказваць бацькам і сваякам у Гарадзішчы.

Толькі пераступіў парог бацькоўскае хаты, а яго ўжо чакала ўрадавая тэлеграма: «Тэрмінова вяртайцеся інстытут».

Міністр і камісія прызналі рэактар Міровіча найперспектыўным на дадзеным этапе, сапраўды самым танным, які не патрабуе будаўніцтва велізарных падземных шахтаў на выпадак аварыі. Яго можна ставіць усюды, дзе ёсць возера ці рэчка. Сцвердзілася думка, што яго можна будаваць і каля вялікіх гарадоў, дзе існуюць чыгуначныя камунікацыі, рабочая сіла, жыллё.

Міністр далажыў пра гэта «на найвышэйшым узроўні», групу шчодра фінансуюць, узмацняюць патрэбнымі спецыялістамі, ствараюць ёй асаблівыя ўмовы, каб у найкарацейшы тэрмін гатовы, распрацаваны ва ўсіх дэталях праект рэактара можна было здаць будаўнікам.

Аляксандр працаваў як закляты. Каб не траціць часу, нават адклаў вяселле з Вольгаю, і яна ледзьве не выйшла замуж за іншага. З рэактара Міровіча зласловілі, называлі яго дылетанцкім. Сашку і самому такі маланкавы поспех здаваўся падманлівым, чакаў: вось-вось яго выкрыюць і высмеюць і ён, аслаўлены, вернецца ў свае глухія Гарадзішчы выкладаць фізіку ў школе. Але магутная адміністрацыйная машына падхапіла ўжо праект, рэактар Міровіча каштаваў толькі паўмільярда рублёў (разам з жыллёвым сектарам), дзяржаве патрэбны былі атамныя электрастанцыі, каб забяспечыць электрыкай краіны Варшаўскага Дагавору, хтосьці «на самым версе» пахваліў яго, сказаў прэзідэнту Акадэміі навук, каб той прыгалубіў адоранага вучонага. Міровіч атрымаў Дзяржаўную прэмію, апазіцыянеры прымоўклі. Калі рэактар часам называлі «дылетанцкім» (пра гэта Аляксандру Іванавічу даносілі), ён велікадушна адсмейваўся: «Ды яно ўсё геніяльнае на першы погляд здаецца элементарным, дылетанцкім, бо геніяльнае...»

Але найбольшай радасцю Аляксандру Іванавічу было тое, што ўрад падтрымаў яго прапазіцыю будаваць атамную ў бацькоўскім краі, за дваццаць кіламетраў ад яго родных Гарадзішчаў, у якіх бываў радзей і радзей. Цяпер з'явілася быццам бы службовая нагода — закладаць блок А. На пяцідзесяцігоддзе яго ўзнагародзілі Залатою Зоркаю, і аўтарытэт Міровіча ў атамнай энергетыцы стаў непахісны. Адзінае, чаго ён не дасягнуў яшчэ,— звання акадэміка, хоць акадэмікам яго часта называлі самі атамныя энергетыкі і партыйнае кіраўніцтва тых рэгіёнаў, дзе будуюцца рэактары.

Калі памёр бацька, Аляксандр Іванавіч якраз быў на Украіне, у Адэсе, поблізу якой цяпер узводзяць атамную. Вольга пазваніла яму ў гасцініцу, і Міровіч выехаў на пахаванне назаўтра. Сакратар абкама даў сваю службовую машыну, і вось ён ужо ў Івангорадзе, заходзіць у райкам.

Першы — Андрэй Цімафеевіч, ён прысланы з іншага раёна, ніколі раней не сустракаўся з такою велічынёй. Таму і ліслівы, прыслужліва-ветлівы.

— Званілі, званілі мне з абкама. Рады з вамі пазнаёміцца і паспачуваць. Шкада, страцілі бацьку, а раён — яшчэ аднаго самаадданага ветэрана калгаснага руху і вайны. Чым можам дапамагчы, Аляксандр Іванавіч?

— У Гарадзішчах цяпер брыгада, а ў Трылісах старшыні калгаса не ведаю. Трэба труну зрабіць, грузавік вы-

дзеліць, аркестр сабраць. Новы старшыня калгаса можа і не ведаць бацькавых і маіх заслуг, а клянчыць у яго, тлумачыць... самі разумееце. Пазваніце, каб усё было на ўзроўні. Ну і хачу на хаўтуры... — Аляксандр Іванавіч расшпіліў макінтош, адкінуўся на спінку крэсла, бліснула на штрыфелі Залатая Зорка, і сакратар налёг на селектар.

— Райспажыўсаюз? Юра! Праз дзве гадзіны каб быў у Гарадзішчах, у бацькі славутага нашага земляка акадэміка Міровіча... Паўтараю, Мі-ро-ві-ча, таго, што вынайшаў рэактар. Так-так, з нашых Гарадзішчаў. Няма калі мне ўсё табе тлумачыць. Будзь там, у бацькі, які памёр... Ды не мароч галавы: памёр бацька, а паедзеш да сына. Запішаш усё, што закажуць на хаўтуры, і выграбі загашнікі сваіх гадавальнікаў...

Першы выключыў селектар, заўсміхаўся. З палёгкаю закурыў.

— Старшыні званіў. Яго расшукваюць цяпер па рацыі. Будзе ў вас дома як штык. Не цырымоньцеся, гэта такі вахлак, што сам не здагадаецца або забудзе. Трэба гнаць, а няма кім яго замяніць. З такімі перабудову не зрушыш з месца. Будуць нейкія праблемы — званіце мне па прамым.

Праводзячы Міровіча, сакратар выйшаў з ім аж да машыны і спытаўся:

— Аляксандр Іванавіч, гэта ваша ідэя будаваць у раёне атамную электрастанцыю?

— Не. Гэта справа дзяржаўная, звязаная з эканамічнай палітыкай найвышэйшага рангу. У дадзеным разе шчаслівая выпадковасць...

Машына рванула і паімчала да Гарадзішчаў.

Першы, быццам наўздагон ёй, кінуў акурак. Уздыхнуў і выпрастаўся. Твар стаў шматзначны, нават насуплены.

— Сяўба на носе, а я дзень, лічы, змарнаваў. Калі ж перабудоўвацца?

## *4*

Горад атамных энергетыкаў. Малады, зводдаль нават рамантычны, быццам і не запусціў сваіх каранёў у гэтую зямлю, а ляціць над ёю; высокія старыя сосны імкнуць па-над будынкамі, як мачты,— напні ветразі, і горад, што стаіць на беразе рэчкі, лёгка паплыве па хвалях. Можа, яшчэ і не пазначаны на ўсіх картах, такі ён юны. Яго жыхары не затузаныя рамонтам кватэр і дамоў, увесь будаў-

нічы азарт ідзе на новыя вышынныя будынкі, на ўпарадкаванне двароў, пляцовак для адпачынку. Жыхары яго толькі знаёмяцца адзін з адным. Горад яшчэ не мае сваіх традыцый, свайго непаўторнага жыццёвага ладу, бо і звычаі сюды прывезлі з навакольных сел і раёнаў, як рэчы, нечым мілыя тваёй душы, але архаічныя, нямодныя, адно для ўласнага, без старонніх вачэй, карыстання.

Горад гэты існуе толькі таму, што вунь там, непадалёку ад яго, у бетонных утаймавальных кашулях шалёна грукочуць чатыры атамныя рэактары, кожны з якіх штогадзіны ўлівае ў энергасістэму краіны мільён кілават-гадзін. Энергія гэта сапраўды зусім танная, рэактары ціха сапуць у бетонных скрынях, не чадзячы, не пажыраючы вугаль ці нафту. Атамная станцыя чыстая і па-свойму прыгожая. Быццам і няма яе паблізу. Пераступіўшы парог, увесь персанал пераадзяецца ў белыя камбінезоны, белыя чаравікі, белыя каўпакі, белыя рукавіцы. Нават дактары так не пераадзяюцца, ідучы да хворых у палату.

На станцыі людзі хутка дабіраюцца да высокіх пасад, бо тут раней ідуць на пенсію (амаль як танцоры, замалада, калі яшчэ жыць і жыць, не косячыся вокам на заднія колы), вызваляюцца пасады. Станцыя на добрым рахунку і ў міністэрстве энергетыкі, і ў дзяржавы, гоніць свае кілаваты штодуху, гоніць, бадай, без перадыху. Начальнік будаўнічага падраздзялення паблісквае ўжо Залатою Зоркаю і рэспубліканскім дэпутацкім значком, пагаворваюць, што ён нават заціраe, прыцiскае сваім аўтарытэтам самога дырэктара станцыі, у якога такія адзнакі недзе яшчэ наперадзе, ды калі справы будуць так ісці і далей — будзе мець і ён.

Гэтаму маладому гораду найбольш да твару лета, калі яго вокны і дзверы наросхрыст, калі яго залівае адчайная зеляніна, калі шчодра аддаюцца яго жыхарам вялікая рака, грыбныя і ягадныя лясы. Адна тутэйшая сям'я нават памяняла сваю кватэру на ленінградскую, без даплаты, толькі на адзін пакой менш. Горад безаглядна прынаджвае да сябе моладзь з навакольных раёнаў, ад чаго, зразумела, вёскі адчувальна зачахлі, некаторыя сталі неперспектыўныя, але... штогадзіны горад дае ў энергасістэму чатыры мільёны кілават. Не жартачкі. Праўда, расплачваецца за гэта зноў жа такі вёска.

Хоць у горадзе культ лета, аднак і гэта ранняя вясна, красавік, што непрыкметна перакоціцца ў травень,— таксама пара цудоўная. Так ужо ліслiва вылізвае яго прас-

пекты і мікрараёны красавіцкае сонейка, што горад ажно разамлеў ад гэтай, хоць і даўно чаканай, раскошы.

У адным з яго двароў гуляюць у класы дзеці, скачучы на адной назе па цёплым асфальце, вымытым дворнічкай Адаркай, якую прывёз сюды з вёскі дзядзька Сцяпан, бо жонка яго памерла, пакінуўшы хлопчыка і дзяўчынку без маці. Прывёз, каб цётка Адарка стала мамаю Руслану і Лідзе.

З дасвецця працуе ў двары прыбіральніцай. Вунь яна сядзіць на вышарганай, яшчэ не пафарбаванай да майскіх святаў лавачцы каля ўвахода ў будынак.

Адарка прыгожая, але краса яе ціхая і непаказная зусім. Трэба з Адаркаю пагаварыць, разглядзець яе вочы з нейкаю рухаваю прозеленню і цёплымі іскаркамі, яе мякка выпучаныя губы, роўны, заўсёды крыху павільгатнелы ад хвалявання лоб. Толькі тады зразумееш: прыгожая.

Цяпер погляд яе пакорны, быццам вінаваты перад кожным, хто выходзіць з будынка ці заходзіць у яго. Сарака год ёй яшчэ няма, але сама яна лічыць, што ўжо едзе з кірмашу, што ўжо цётка, хоць сваіх дзяцей і не радзіла.

Ідзе з крамы бабуля з сеткаю бульбы — суседка, якая жыве над імі.

— Не з'явіўся, Дарачка?

— Будзе! Зараз прыйдзе Сцяпан. Затрымаўся, відаць, на рабоце. Не перажывай...

— Мне, Дарачка, што, а ты вось за што за якое бядуеш? У горад цябе забраў? А якая б дурніца пайшла на двое чужых дзяцей ды яшчэ і за п'яніцу? Не адну прасіў за мілую душу, нават прыводзіў са тры... ніводная не вытрымала.

— Прыйдзе ён, цётка Марына, бо ведае: тата мой памёр учора. Выскачыў Сцяпан замок дружку ўставіць у дзверы. Зараз будзе.

— Чакай! Уставіць замок, раздушаць пляшку, тады гадзіннік у іх спыняецца, язык меле час...

— Прынялі сухі закон у горадзе. І не п'яніца ён у мяне, а так... не без таго... часам. Жаночыя рукі на пахаванне трэба, мама сама не ўправіцца, а я сяджу тутака, як пані. Стыдна без работы аціраццa.

Бабуля пракашлялася, безнадзейна махнула рукою і пачыкільгікала растаптанымі суконнымі буркамі ў будынак.

Адарка зажурылася зноў. Паглядае то на сваіх дзяцей, якія гуляюць у пяску, то на гадзіннік на руцэ, то ў

бок вуліцы. Няма мужыка. Уранку пабег выпіць піва, і няма ўжо трэцюю гадзіну. Няўжо давядзецца ехаць у Гарадзішчы адной з дзецьмі?

Бяжыць дзяўчынка са школы, суседава, дачка нейкага начальніка са станцыі.

— Добры дзень! А я вашага дзядзьку Сцяпана бачыла! На праспекце Энергетыкаў. Дзе сок у пластмасавых слоічках прадаюць. І марожанае з вішнямі. Пад'ехала міліцэйская машына-будка, узяла яго і павезла некуды...

— Ты памылілася, донечка. Дзядзька Сцяпан пайшоў да таварыша, у суседні дом замок устаўляць. Я вось чакаю яго... Падалося табе... Такіх, як ён, шмат...

Дзяўчынка ніякавата паціснула худзенькімі плечыкамі, папpавіла шлейку школьнага фартуха, праскакала на адной назе ў класіках і пабегла дадому.

Адарка канцом чорнай хусткі выцерла губы і вочы, устала, паклікала да сябе дзяцей, узяла дзве сумкі прыгатаваных на пахаванне харчоў і павольна пайшла на гарадскую аўтастанцыю.

— А тата дзе? — пытаецца ў аўтобусе ў малога Руслана гарадзішчанская маладзіца.

— Замок у міліцыі ставіць, а тады прыедзе ў Гарадзішчы пахаваць дзеда Івана ў яму.

— Не ў яму, а ў вялікую драўляную скрыню,— папpавіла брацiка Ліда і стала абдзіраць апельсін. Не па-дзіцячы задумалася, нахілілася да Адарчынага вуха і шэптам спыталася: — Дзедку Івана пахаваюць, як нашу першую маму пахавалі ў зямлю? Назаўсёды?

### 5

Маленькая халасцяцкая кватэра-«гасцёўня» ў маладзёжным інтэрнаце. Чыстая, дагледжаная. Нават занадта, як на нежанатага хлопца. Аднак цяжка паверыць, каб абстаўляў гэта памяшканне нехта адзін, бо ўперамешку тут густ і безгустоўнасць. Стэлажы з кніжкамі. Дзве сапраўдныя старыя іконы з гарадзішчанскай царквы. Самабытныя вырабы з кары, з каранёў. Гнуткая зеляніна вазона звісае над канапаю, старанна засланай гуцульскім лежнікам. Паляўнічая стрэльба. Маніста гуцульскіх пісанак. Вышываныя ручнікі замест штораў. І поруч выразкі з замежных часопісаў ды айчынных каталогаў мод — дзяўчаты, якія пазіраюць дзёрзка-пажадліва, а некаторыя (вядома ж, за-

межныя, не нашы!) і зусім непрыстойна. Іх безліч: на сценах, на дзвярах, на ложы стрэльбы, на кухоннай шафцы, нават на столі. На вешалцы — старанна адпрасаваны кіцель і штаны капітана пажарнай службы. Аднаго гэтага дастаткова, каб зразумець: франт і чысцюля тут жыве.

Рыгор стаіць перад люстэркам у ваннай. Сляпуча прыгожы, з маладзецкай паставаю і самаўпэўненым выглядам. Яму ўжо трыццаць пяць, але яшчэ цвіце ў ім маладосць, нерастрачанасць жыццёвае сілы, свеціцца прага падабацца іншым — найперш дзяўчатам. Аднак ён не рафінаваны «спаднічнік» ці бабнік-прыгажун, а надзелены прыгажосцю, прыемны і разумны мужчына, якога, праўда, крыху сапсавалі жанчыны, але ж на сваю такі галаву.

Пабачыўшы красуню, ён успыхвае тут жа, натхнёна абагаўляе ў сваёй уяве. Ідэалізуе, імкнецца пазнаёміцца, а тады і зблізіцца і, не адчуўшы цяпла духоўнага (ці душэўнага), перажывае спустошанасць ды, як кажа старэйшы брат-рэактарнік Мікола, ідзе на расхалоджванне.

Пагляд яго цяпер прысмучаны, але тыя хітраватыя чорцікі ўсё ж выбліскваюць з глыбіні. Можа, і сам ён таго не хоча, а выбліскваюць. Апрануты ён у цывільнае, модна, нібы не на пахаванне бацькі едзе, а спяшаецца на сустрэчу. Іншага адзення ў яго проста няма. Больш сціплага, саліднага не носіць. Скураная куртачка на замках-маланках, сарочка-сафары, чорныя вельветавыя джынсы ў дудачку, груваскія красоўкі.

Агледзеў сябе з ног да галавы, правёў далонню па шчацэ: трэба пагаліцца.

Шуміць электрабрытва, а Рыгор гаворыць свайму двайніку ў люстэрку:

— Ну вось, Грышка, ужо няма таты. Цяпер мама дасць прыкурыць. Няма каму і заступіцца за цябе, валацугу. Цяпер як прывязу на агледзіны чарговую нарачоную — мама з дрынам выйдзе сустракаць аж да варотаў. І тата ўжо не заступіцца.

І раптам прычуўся бацькаў голас:

«Я, цяльпук, ажаніўся ў дзевятнаццаць, завязаў з табою, Марыя, свой век, дык няхай хоць Грышка пагуляе. І за мяне, дурнога, адгуляе, хай і мая кроў пагарцуе ў ягоных жылах. Так што ты, баба, не абараняй валасатых. Чым пазней ажэніцца, тым менш часу застанецца, каб разводзіцца... Гуляй, Грыша...»

Калі бацька заступаецца, то маці не змоўчыць:

«Я яму, басяку, пагуляю. Вунь ужо сівізна ў чупрыну

лезе, а ён, пустадомак, пад кожную спадніцу зазірнуць хоча... Увесь у свайго татку. Парода Міровічаў, ваша міровіцкая кроў на аналізах адны б дурноты паказала...»

«Якія там спадніцы? Яны цяперака ўсё ў штанах ходзяць. Вунь і Міколава Людка на свой «лафет» ад стодваццацідвухміліметровай гаўбіцы таксама нацягнула штаны на заклёпках, каб не разлезліся. А кроў, Марыя, кроў не выбіраюць. Якая ўжо дасталася... Гуляй, сыне. Гуляй, пакуль кроў не астыла...» — прагучаў Рыгору бацькаў голас.

— Бачыце, мама, а вы казалі: «Ты, Іван, загоніш мяне ў магілу, і сам яшчэ і ажэнішся. І не раз ажэнішся...» А ўжо няма бацькі. Ведалі яшчэ ў тым годзе — не адступіцца рак, ведалі. А цяпер няма. Гэта точна. Быў жывы, а — няма і не будзе. Ужо я без таты, ужо я з таго боку безабаронны. Толькі з мамаю... Толькі з ёю... Ды яшчэ з Адаркаю і братамі... Ды яшчэ з Наталкаю... Не спяшайся, Грыша, не кідайся ў полымя, а то яшчэ раз падсмаліш крылы. Пагуляй, Грышка. Ёсць мама. Адарка. Браты. Агаліўся фланг. Фланг, які можа прыкрыць толькі... жанчына? Не! Жанчына можа забяспечыць толькі тыл. А флангі? Толькі твае дзеці...

Грышка збягае па сходах, ускоквае на абцягнутае веправай шкураю сядло сваёй «Явы», торгае стартэр матацыкла і вылятае з двара.

Выязджае на ходнік, ажно пад самы казырок тэлефона-аўтамата. Няроўна круціцца дыск, набіраючы нумар.

...Аднапакаёвая кватэра, перагароджаная ўдоўж тоўстай брызентавай шырмай, раздзелена напалам. Звініць тэлефон у калідоры. Тоўсценькі, з пузікам малады мужчына з раннімі залысінамі, у спартыўным касцюме з лампасамі, неахвотна ўстае з канапы, бярэ трубку:

— Нечыпарэнка слухае... Ну, гаварыце ж! Заняло? Гаварыце. Я і так ведаю, хто гэта.

Гукае за брызентавую шырму:

— Ваш «вогнетушыцель», мадам. Пажараў у горадзе няма, дык ён хоча свой вогненны запал хоць каля вас пагасіць...

## *6*

На адной з гарадзішчанскіх вуліц, каля расчыненых насцеж варотаў, людна. Старыя жанчыны збіліся ў гурт, скрушна ківаюць галовамі, перашэптваюцца. Мужчыны

курацъ, седзячы на лавачцы каля весніц, тыя, што не курацъ, адаграваюцца на сонцы, адарваўшыся ад працы на гародзе. Дзеці гуляюць, голасна верашчаць.

Хата Міровічаў нічым не адрозніваецца ад іншых. Збудавана даўно, але ўжо не раз паднаўлялася, перакрыта бляхаю, паднята на бетонны падмурак. Да яе прылеплены вялікі, прасторны ганак, дзе ўлетку спяць унукі, якіх прывозяць з горада Мікола і Адарка. Сашкавых дзяцей тут ведаюць толькі па фотакартках, расказах.

Непадалёку ад варотаў стаіць вымыты Міколам трактар «Беларусь» з прычэпам. Барты прычэпа адкінуты, днішча яго ўслана чарнобылем і глухой крапівою — гэта адзінае зелле, што не толькі зазелянела, а і выкінула лісце, выгнулася над зямлёю ў гэтую раннюю пару. У кабіне ў трактары курыць, сплёўвае на пясок і разгадвае красворды трактарыст Архіп. Пазірае на гадзіннік і ў Міровічаў двор: чаго яны марудзяць?

Падкочвае да двара запырсканы рудой пясчанай юшкай «уазік». З яго ледзь не выпадае старшыня калгаса. Доўга вымае калгасны сцяг, бо сталяры зрабілі задоўгі дзяржак, ажно не маглі запхнуць яго ў машыну. Старшыня ставіць сцяг каля весніц і па-качынаму дыбае ў хату.

З жаночага гурту пачулася:

— Будуць выносіць Івана — начальства прыехала. Пара ўжо, пара...

— Даўно пара. Думала, сёння паспею картоплю з пограба выцягнуць, каб абагрэлася. Дзе там! Ужо заўтра...

— Табе, Параска, трэба быць да канца і памянуць душу яго мнагагрэшную. Ты ж, лічы, не раўнуючы як Марыя яму была. Дый доўга. Папаначаваў на тваіх падушках, аж пакуль Гагарын не паляцеў у космас. Не, брашу, Параска, аж пакуль грашовая рэформа не пачалася...

— А цябе абышоў, бо ты і дзеўкаю была як шчэпка. Я ў дзевятнаццаць гадкоў удавою засталася з дзіцем на руках. Чатыры гады чакала свайго Паўла. Як каменная баба, стаяла каля варотаў, выглядала ўсё. Так бы і скамянела, а Міровіч ажывіў мяне, адагрэў. Ты не чапляйся, Таццяна, ужо і Івана няма. Я яму ўсё дарую...

— А мяне ўдарыў раз, як звеннявою была. Ён старшынём быў тады. Пагрызліся за аплату канопляў. Напісалі ўсім звяном скаргу ў вобласць на Івана, а яна да яго і вярнулася, каб разабраўся на месцы. Ён звар'яцеў тады і... Урэмя дурное было, псіхі з людзей лезлі, вайна з нерваў

выходзіла, як стрэмкі з пальцаў. Марыя мяне ўпрасіла не заяўляць нікуды. Ды я і не збіралася... Дарую...

Пад'язджае да двара калгасны грузавік, запэцканы сіласам і жамерынамі. Спыняецца каля чорнай абкамаўскай «Волгі», якою прыехаў старэйшы Міровіч. Шафёр грузавіка, абстрыжаны хлопец-дапрызыўнік, увесь час жуе жуйку, лезе пад капот, капаецца ў маторы. Перагнуўся так, што відаць толькі яго заношаныя на седале джынсы.

З Міровічавай хаты выкочваецца, перавальваючыся з боку на бок, старшыня калгаса. Неўзабаве выходзіць за ім, нізка сагнуўшыся, каб не стукнуцца цеменем у дзвярную папярэчыну, Аляксандр. Бліпчыць на сонцы яго лысіна, слепіць баб каля варотаў.

Старшыня заманьвае «акадэміка» за хату, становіцца на дыбкі, каб Аляксандр Іванавіч яго лепей чуў, каб не нагінаўся да яго лішні раз.

— Два вапросы я рашыў: сцяг, дамавіна. І сцяганосец ёсць, брыгадзір цяперашні будзе несці, выйдзе нібы пераемнасць пакаленняў. Прамовачку мне камісар напісаў на дзве старонкі тэксту... Ад моладзі можа школьніца выступіць, выдатніца... З музыкантамі, Аляксандр Іванавіч, не палучылася. Іхнія жонкі кажуць, што вяселле паехалі іграць на Саўчыныя хутары,— дык чаму ж тады ўсе трубы вісяць на калках у клубе? Відаць, агароды садзяць — час гарачы. Нічога, прафесар, у маёй машыне ёсць магнітафон, і на плёнцы запісаны пахаронны марш. Я ўзяў касету. Шафёр будзе ехаць машынаю ззаду за працэсіяй і граць. Нябожчыку Івану Васільевічу ўсё адно, толькі б музыка. Так што ўсе вапросы рашылі, Аляксандр Іванавіч, можна пачынаць выносіць...

— Колькі вёсак пад вамі, таварыш старшыня? Тры? — спытаўся Міровіч і наморшчыў пераноссе.

— Чатыры, прафесар, чатыры брыгады па лясах раскіданы. Пакуль горада не было і стары Падкова трымаў калгас на сваім аўтарытэце, усе вёскі заставаліся перспектыўнымі, а цяпер толькі Слабада, цэнтральная сядзіба. Горад засмоктвае моладзь, як пыласос... Штодня паўтысячы кіламетраў намотваю па пясках, каб рады даць, каб перабудавацца. А каго тут перабудуеш? Баб, якія нагатавалі адзежу на сваё пахаванне? Дапамажыце, Аляксандр Іванавіч, выбіць праз вобласць пару грузавікоў, цэглы і насенкі, бо ў нашай бульбе нейкая балячка завялася...

Міровіч шаснуў рукою ў кішэню ў чорны макінтош, дастаў таблетку і ўкінуў яе ў рот. Увачавідкі ссутуліў-

шыся і змізарнеўшы, паволька пайшоў у хату. Старшыня разгублена правёў яго позіркам, выйшаў да людзей, дастаў з пінжака прамову і стаў чытаць, каб не збіцца на могілках, у час мітынгу. Усе вось так прыязджаюць: дай тое, дай сёе, а для калгаса ніхто і пальцам не варухне.

Дзеці за хатаю качаюцца па маладым чарнобылі і малачаі. Дзяцей трое: Адарчыны Руслан і Ліда і Міколаў хлопчык Тарасік, старэйшы за іх, другакласнік,— худы і хваравіты (Міколава жонка кажа, што ў яго ўроджаная хвароба сэрца, што яго трэба везці на курорт, ды ўсё няма калі). Ён адрозніваецца ад Адарчыных дзетак не толькі гадамі, але і вялікімі самотна дарослымі вачыма, якія, здаецца, пражылі ўсё жыццё. Тарасік увесь час спрабуе нешта маляваць: на пяску, на асфальце, на паркане, на запатнелым шкле, на забруджанай машыне. Ды цяпер ён разам з Русланам і Лідаю цвеліцца з белым цюцькам Пушком на зялёным муражку за дзедавай і бабчынай хатаю. Бацькі пра іх забыліся, не пакрыкваюць, не забараняюць — вось яны і ўпіваюцца сонейкам, цеплынёю, вяснянай воляю. Ужо вызеленілі майтачкі і калготкі, але маці гэтага не бачаць, а белы цюцька нібы правакуе іх — паспрабуй дагнаць мяне! Калі яшчэ такая радасць выпадзе? Праўда, дзед Іван ужо памёр і не гаворыць ні з кім.

Каля труны ў вялікай святліцы стаіць уся радня Міровічаў. Падковаю абступілі дамавіну. У цэнтры падковы мама Марыя. Маленькая, спрацаваная і лёгкая, як чорная птушка, з вялізнымі блакітнымі вачыма, якія так і не выцвілі за доўгі век.

Побач з ёю згорблены (столь у хаце высокая, але згінаецца ён па звычцы ў любым памяшканні, нават у актавай зале акадэміі і ў тэатры) Аляксандр. З-пад чорнага макінтоша выблісквае Залатая Зорка. Зморшчкі заляглі на лбе глыбока, як шрамы. Каля яго — маленькая (меншая нават за маці), усё яшчэ прыгожая і зграбная, з матавай, мабыць пастаянна паджыўлянай крэмамі, скураю на твары яго жонка Вольга. Ахінутая простай сялянскай хусткаю, якую ёй знайшлі ў мацерыным куфры, яна ўсё адно прываблівая. Вольга загадвае аддзяленнем у Маскоўскай эксперыментальнай клініцы прамянёвай хваробы, мае некалькі навуковых прац, але найбольш ганарыцца тым, што некалькім безнадзейна хворым уратавала жыццё. Якое яно ні ёсць, а ўсё-такі жыццё, цаны яму няма. Сашкаў бацька, мусіць, любіў яе, сваю першую нявестку, прынамсі, ніколі не ўмешваўся ў іхняе сямейнае жыццё. А мама часам

хацела пакамандаваць Сашкам, а таксама і ёю, Вольгаю. Яна цяпер прыгадала гэта, і ёй стала сапраўды шкада старога. Не заплакала, але адчула, як запяклі і павільгатнелі яе вочы. Прамакнула іх асляпляльна белаю хустачкаю, што тонка запахла французскімі духамі «Містэр Раша».

Стаіць худы, са змарнелым, стомленым тварам, з чырвонымі ад бяссоння вачыма Мікола. Раннія глыбокія залысіны. Пакамечаны касцюм, з'ехаў набок гальштук. Побач з ім жонка Людміла, прадаўшчыца гарадскога універмага «Энергетык», гандлюе ў аддзеле дэфіцытных тавараў, якія прадаюць толькі ўзамен на сабраныя лекавыя травы. Не заўсёды, праўда, на зёлкі, але... з гэтым строга. Энергічная, рухавая маладзіца, якая з гаркотаю адчувае, што маладосць ужо адыходзіць, што гожае цела яе пачынае вянуць, тлусцець, хоць калісьці здавалася, што зносу яму не будзе. Усё гэта яна ўжо ведае і часам крадком думае, што заўтра ўжо ніводны мужчына не зірне ёй услед, і, можа, варта пакарыстацца апошнім шанцам, каб потым было што згадаць... Вочы яе трапна пастрэльваюць ва ўсе бакі, нават тут, каля труны з нябожчыкам свёкрам.

Папраўляла чорную велюравую сукенку пад расшпіленым скураным палітом. Людміла без хусткі, праставалосая, але праз лоб вакол галавы — чорная муаравая перавязь, якая ёй да твару. Нахіляецца да Міколы і шэпча яму на вуха:

— Ну на каго ты падобны? Такія туфлі югаслаўскія ўхайдохаў у гнаі! Штаны і пінжак ніякая хімчыстка не прыме. Людзі падумаюць, што я цябе не гляджу...

Ды Мікола ўжо прывык да яе наракання, прывык і не заўважаць іх. Тым больш цяпер. Глядзіць на бацьку ў дамавіне і дакарае сябе за тое, што не прыехаў у Гарадзішчы ў мінулую нядзелю, не развітаўся, прамяняў паездку да таты на падзаробак у брыгадзе рыбкалгаса. Ды няхай бы яны згарэлі, тыя грошы! Можа, тата хацеў нешта сказаць перад смерцю?

Усхліпвае ў кончык хусцінкі Адарка, перавязвае шнуркі на татавых чаравіках, падцягвае шкарпэткі і папраўляе калошы на яго нагах. Быццам і не разумее, што бацьку ўсё гэта не патрэбна. Ёй хочацца, каб яму было зручна і добра нават у дамавіне.

Стаіць Рыгор. Нязвыкла сур'ёзны, заглыблены ў свае думкі. Нібы назірае за сабою збоку. Ад руху плячэй і рук гучна парыпвае ягоная скураная куртачка з мноствам замкоў-маланак. Бацька яго любіў, як сваю маладосць. І лю-

біў па-сапраўднаму, як можна толькі ў старасці любіць сваю маладосць. Калі прыязджаў у горад, спыняўся толькі ў Грышы. Наведае Міколу і Адарку, а на начлег, на чарку, на начную гутарку — да Грышкі. Усё. Няма таты. Ня-ма!

Замыкае падкову-паўкруг глуханямы Фёдар. Стаіць, глядзіць на тату, на маму, на братоў сваіх, на Адарку. Варушыць губамі, бытта ўсім цяпер хоча сказаць нешта надта важнае, але не можа. І работы ніякай няма цяпер пад рукамі. Дык ён намацаў у кішэні кавалак карэньчыка, выкінутага далакопамі з татавай ямы, і абмацвае яго нервовымі пальцамі.

У галавах дамавіны сядзіць на табурэце Марыя. Сядзіць моўчкі. Ужо выплакалася. Ёй восьмы дзесятак, але і дагэтуль адсвечваюць на твары сляды колішняй вясковай красы.

— Што ён прасіў у апошнія мінуты, мама? — спытаўся Аляксандр.

— Смерці. Толькі смерці, так яму нясцерпна балела і пякло ў жываце. Смерці прасіў і... панюхаць расцёртага ў пальцах маладога палыну-чарнобылю...

— А што завяшчаў тата? — зноў спытаўся старэйшы Міровіч.

— Каб мы ўсе жылі. І шанаваліся. І трымаліся свайго роду, сваёй радні. Усялякім ён быў — вы гэта знаеце. Гнязда свайго не пільнаваўся, чарка яго часта вадзіла, людзі наракалі, але ўсіх вас я нарадзіла з любові да яго. Толькі перад смерцю ён стаў думаць пра нас, толькі перад смерцю і палюбіў нас усіх. То ваяваў, то камандаваў у калгасе, то гарцаваў, нібы з ланцуга сарваўшыся, хоць я і не прывязвала яго ніколі, то піў, калі з начальства знялі. Вы гэта ведаеце, і людзі ведаюць. З ім памерла ўсё маё. Ёсць толькі наша сям'я. Даруем яму ўсё, бо іншага бацькі ў нас не будзе. Пра гэта мы з ім гаварылі, калі нават болька стамлялася балець і адступалася ненадоўга. Фёдар! Нарві за хатаю чарнобылю і пакладзі тату ў дамавіну.

Яна глядзіць на Фёдара, і ён зразумеў яе па вачах, па губах. Заківаў галавою і пайшоў.

За ім выйшаў з хаты і Мікола. Стаў на кола калгаснага грузавіка, зазірнуў у кузаў, з якога нават не вымелі рэштак жамерын і сіласу. Мыць ужо няма калі, таму падганяюць яго да трактара і чапляюць на крук грузавіка чысты прычэп: так лепей, не будзе «Беларусь» трашчаць тату над вухам.

Павыплішчваліся карані на вясковай вуліцы. Цераз іх перасоўгваюцца або і прывычна пераступаюць кірзавыя боты і бліскучыя чаравікі, грубыя гумовікі і модныя жаночыя туфелькі. Зранку прайшоў вясновы дожджык, у пясчаных калдобінах стаяць рудыя лужыны. Пранізліва рыпіць пад нагамі і коламі мокры вымыты пясок, ад якога ажно рэжа вочы.

Спераду брыгадзір з калгасным сцягам, увесь час пазірае пад ногі, каб не заблытацца ў гэтым тройчы клятым карэнні, якое за столькі гадоў язды на матацыкле па гэтай дарозе вытрасла ўсю брыгадзіраву душу. Пешкі ён амаль не ходзіць, таму і чапляецца цяпер за кожны корань.

За брыгадзірам едзе грузавік, пляшывы шафёр якога ўвесь час жуе жвачку — яе цяпер у сельскай краме прадаюць у нагрузку да марожанай рыбы. За грузавіком — прычэп, усланы зяленівам, з дамавінаю Міровіча, над якою ўвесь час кружыць аса.

Воддаль купка родзічаў.

За імі — «уазік» старшыні калгаса. Апошнія бягуць дзеці і цюцька Пушок.

Амаль усе жыхары Гарадзішчаў выйшлі да сваіх варотаў, каб развітацца з Іванам. У асноўным дзяды і бабы. На хвілінку адарваўшыся ад град і агародаў, сёй-той абапёрся на матыку, граблі ці рыдлёўку. Адны нікнуць галавою, слязлівейшыя бабы плачуць, ды большасць з цікавасцю разглядаюць радню Міровічаў, перашэптваюцца між сабою:

— Ага, толькі двух музыкантаў сабралі — барабаншчыка і трубача. Астатнія пайшлі на маторках у вярхоўе ракі, награбуць рыбы сеткамі. Нераст...

— Івану ўжо тая музыка не патрэбна. Не пачуе. Яму ўжо анёлы спяваюць.

— Хто знае, хто знае, можа, і чэрці падступаюцца, завязаўшы хвасты банцікамі. Награшыў нябожчык, награшыў. Хто знае, куды і апрадзеляць яго...

— Можа, і там у начальства?

— Цяпер і там граматных хапае...

— Ціхаця, Фёдар вунь... блізка...

— Ды ён не пачуе. А як пачуе — нікому не скажа.

Двое старых замоўклі, бо працэсія падышла да іхніх дворышчаў, правялі Іванаву дамавіну, родзічаў і падаліся на гарод.

Прычэп параўняўся ўжо з іншым дваром, каля варотаў якога стаяць дзве бабулі і дзядок.

— Божа, божа, а Сашка вунь лысы!..

— А што ж ты хацела? Радзіяцыя! Столькі год з радзіяцыяй робіць.

— Глянь, а Адарчынага ўдаўца няма! Відаць, ужо разбегліся.

— Затое ў горадзе будзе жыць, а ў Гарадзішчах згарбела б у старых дзеўках. Адсудзіць палову кватэры ва ўдаўца, можа, яшчэ і да яе нейкі пенсіянер-атамнік прыстане.

— Лепей ужо ў дзеўках да магілы сядзець, чым на двое чужых дзяцей ісці.

— А Грышка ўсё бабылюе. Ніяк не перабесіцца, а тады як возьме якога дурня маляванага...

— Увесь у Івана, мусіць выгуляецца. Эйш як выфранціўся. Як з гулянкі ды на пахаванне.

— А твой хіба не так з горада прыязджае?

— Дык то ж не на пахаванне...

— Ты, Алена, ужо не пабачыш, як і ў чым ён прыедзе хаваць цябе...

— Мікола зблажэў надта. Нашто яму той рэактар, быў бы, можа, брыгадзірам у нас...

— Гэта Людка пацягнула яго ў горад. Ушалопаўся і паваломся за ёю, выдраю. Паглянь, круціць сцёгнамі, што жорнамі. Начапурылася, як з іголачкі адзета, а Мікола... жаль зірнуць.

— Дачка, Алеся, у іх харошая. Казала неяк Марыя — на выданні, хлопец з арміі вяртаецца.

— Ох і вымучыла Івана. Усё рак паз'ядаў. Адны косці і скура,— нарэшце ўклініўся ў жаночую гамонку дзядок.

— Хай бог сцеражэ ад такой напасці! Вось бы заснуць і не ўстаць. Ото найлепей.

— Смерць, Вера, выбіраюць толькі самагубцы...

— А Марыя ўжо і не плача.

— У маладосці ўсе слёзы выплакала...

— Бо дурная. Любіла яго без памяці.

Вадзіцель старшыні калгаса ўключае магнітафон. Хрыпла і разлівіста лунае пахавальная мелодыя ў выкананні калгасных духавікоў.

— Пяцёра дзяцей выгадаваў Міровіч, а яны нават музыкі не нанялі...

Брыгадзір нясе сцяг з чырвонаю стужкаю. Вецер торгае палотнішча, і яно балюча сячэ сцяганосца махрамі па

твары. Ды яшчэ і пад ногі трэба паглядаць, каб не зачапіцца за карані і не ўпасці са сцягам.

Сумная працяжная мелодыя неспадзявана абрываецца. Нешта моцна клацнула, прахрыпела, і з машыны старшыні калгаса брава выхапіўся голас Алы Пугачовай:

> Гаснет в зале свет, и снова
> я смотрю на сцену отрешенно...

Аляксандр Міровіч ураз згорбіўся і ўцягнуў лысую галаву ў плечы. Брыгадзір са сцягам азірнуўся і ледзьве не ўпаў, загнаўшы нос чаравіка пад тоўсты корань, але паспеў абаперціся на дзяржак сцяга. Старшыня калгаса замітусіўся, адстаў ад купы родзічаў, замахаў кулаком на вадзіцеля сваёй машыны.

Вадзіцель разгубіўся, пакуль дакеміў, што сталася: прагучаў куплет песні «Маэстра».

Далакопы на цвінтары адагналі ад ямы велікарогую рабую карову Міровічаў, бо падышла дужа блізка і стаіць, як грэх над душою. Ледзь адагналі, размахваючы бліскучымі рыдлёўкамі, яна стала непадалёк, прасунуўшы галаву скрозь вецце абрыкоса, што выкінуў першы, яшчэ нясмелы цвет.

Капачы пачулі знаёмую песню Алы Пугачовай, і Андруха сказаў:

— Мірон! Старшыня едзе!

Зладзеявата дапілі пляшку, шпурнулі яе сярод старых магіл, захадзіліся дажоўваць кілбасу з хлебам.

У глыбіні лесу, дзе знікае за дрэвамі пясчаная дарога з Гарадзішчаў, спынілася таксі. З яго выйшла Наталка. Тая самая, якую Грыша запрашаў паехаць з ім на пахаванне і яна рашуча адмовілася. Наталка паклала на сядзенне дваццаць пяць рублёў.

— Я нядоўга. Пачакайце...

Стары таксіст (з такім не страшна ехаць жанчыне нават у лясную глухамань) абыякава кіўнуў галавою, закіраваў машыну ў бок горада.

Наталка ідзе лесам, недалёка ад цвінтара хаваецца за сасну, каб яе не ўбачылі.

Каля ямы камандуе старшыня калгаса, усчынае лішнюю мітусню. Аляксандр Іванавіч згінаецца ледзь не ўдвая, нешта кажа яму на вуха, і старшыня хавае паперку ў кішэню, падыходзіць да школьніцы ў вучнёўскай форме.

— Адбой! Не трэба прамовы. Мітынгу не будзе.

Глядзіць у бок цвінтара Наталка, прытуліўшыся шчакою да сасновай кары.

Развітваюцца з бацькам дзеці, па чарзе цалуючы яго пачарнелы твар, над якім кружыцца аса. Намагаюцца адагнаць яе, але тая прылятае зноў.

Нецярпліва круцяць малаткі ў руках далакопы Андруха і Мірон.

Старшыня калгаса штурхае брыгадзіра, каб апусціў сцяг над труною, ківае свайму шафёру — давай пахавальны марш. Але той спалохана разводзіць рукамі — рызыкаваць не хоча...

Падыходзіць да Іванавай дамавіны карова, падхоплівае доўгім слізкім языком жмуцік чарнобылю, якім абкладзена ўзгалоўе нябожчыка. Далакопы замахваюцца на яе малаткамі, і карова адыходзіць у глыбіню могілак.

Стала каля труны Марыя. Спакойна ўкленчыла ў галавах свайго мужа, строга, без галашэння і слёз пацалавала яго ў губы, лоб, адкрытыя ад цюлевай накідкі рукі. Паправіла чарнобыль каля Іванавых скроняў, расцерла траву далонямі і паклала яму на грудзі.

Устала, трымаючыся за край дамавіны.

— Я тутака нядоўга, Іванка. Нашто мне затрымлівацца? Пабачымся...

Гулка ўдарылі малаткі далакопаў па плешках цвікоў, што ахвотна палезлі ў дошкі века. Удары глуха перагукваюцца між гарадзішчанскіх хатаў, у лесе. Пасярод вясновага цёплага дня гукі іхнія ўспрымаюцца нават як нейкая вясёлая дзёрзкасць будаўнікоў, якія ставяць кроквы ці прыбіваюць латы. Заціхаючы ў Гарадзішчах, у гушчары лесу, адбіваючыся ад паверхні вясновай ракі, што цячэ непадалёку, яны так перайначваюцца, што нечым нагадваюць хуткае ціканне насценных ходзікаў, а магчыма, і ўдары чалавечага сэрца.

Марыя ўздрыгвае, сочачы за малаткамі далакопаў. Не чуе іх толькі Фёдар, але бачыць і быццам падстаўляе свой позірк пад малаткі. Яго пальцы моцна, да пасінення, сціскаюць руку сястры Адаркі і плячо брата Рыгора.

## *7*

Вечар. Дзе-нідзе паміж дрэў свецяцца гарадзішчанскія вокны. Найбольш асветлена хата Міровічаў. У прыцемках, што ўжо згушчаюцца ў непраглядную цемру, разыходзяцца ад Міровічаў вясковыя хаўтурнікі. Выпілі на хаўтурах, закусілі, нагаварыліся дасхочу.

Паводле гарадзішчанскага звычаю кожнаму, хто быў на хаўтурах, Марыя раздала па піражку, уціснуўшы ў яго запаленую свечку. Вечар бязветраны, таму свечкі гараць нават на дварэ. Агеньчыкі па адным, па два расцякаюцца па цёмным сяле, у яго неасветленыя вулічкі. Адны гаснуць, другія доўга гараць, бо іх захінаюць грубыя сялянскія далоні. Агеньчыкі і галасы ў цемры. Паспрабуй разгледзець іхнія абліччы і пазнаць агеньчыкі і галасы.

*Першы жаночы голас.* Нагу табе пад сталом адтаптала: не еш столькі ікры, бо Людка Міколава стаіць за спіною, а ты жарэш і жарэш як не ў сабе...

*Першы мужчынскі голас.* Дык Адарка запрашае і падкладае. Не хацелася яе пакрыўдзіць. Відаць, Сашка ажно з Масквы прывёз... Усё! У Гарадзішчах ужо толькі тры ветэраны вайны засталіся...

*Другі мужчынскі голас.* Гэ, цяпер нам, неветэранам, будзе з шыферам на хату лягчэй. І з цэглаю...

*Першы жаночы голас.* А дзеці Адарку мамаю называюць і слухаюцца люба-міла. Прыручыла дзяцей, а ўдаўца не змагла.

*Другі жаночы голас.* Адарка кажа, што муж на змене, бо план завалілі на будаўніцтве новага рэактара, а хлопчык кажа, што тата ў міліцыі замок уставіць і прыедзе... Адарка пачырванела, адвяла сынка на кухню.

*Першы жаночы голас.* І ўсё гэта ты чуеш, Кацярына. А я толькі чула, як ты жуеш у мяне пад вухам. Нібы табун коней пасецца...

Захмялелы мужчынскі голас раптам на ўсё горла заспяваў на далёкай вуліцы:

Мо-ой ма-э-ге-стро...

З іншай вуліцы, што вядзе на другі край Гарадзішчаў, чуваць:

*Мужчынскі голас.* Як ты думаеш, Насцін Васіль, што на атамнай у начальстве ходзіць, ад Івана Міровіча ці не? Выкапаны Іван.

*Жаночы голас.* Гэта толькі Насця ведае. Яе Карп вярнуўся са шпіталя ўвесь прарашэчаны і перакроены. Кашляў так, што яблыкі абсыпаліся і вароны ў лесе ўзляталі ў неба. Насця ўжо цяжарная была, калі яго пахавала. Толькі Насця і знае, але не скажа...

Нервуецца пад варотамі вадзіцель абкамаўскай «Волгі», курыць, праграваае машыну, прагазоўвае, уключае і выключае святло. Яшчэ ж трэба на Кіеў поначы ехаць, ад-

возіць гэты «громаадвод» і яго «дзюймовачку» на самалёт.

Міровічы засталіся адны ў бацькавай хаце. Сядзяць за сталом пад сцяною, дзе яшчэ нядаўна ляжаў у дамавіне бацька. На сцяне безліч фотакартак і старэнькая, шырспажывецкая ікона — прымітыўна намаляваная божая маці з тлусценькім хлопчыкам на руках. Шлюбная картачка (пакалечаная і бяздарна падмаляваная анілінам) Марыі з Іванам. Малы Сашка ў таты на шыі, а Іван сядзіць на кані. Армейскі Міколаў здымак, дзе ён высоўваецца з люка танка. Мікола і Людмілаю ў вясельных строях. Падлетак Адарка сядзіць са школьным партфелем на возе. Грыша ў марацкай форме павіс на шыі ў вярблюда. Малы Фёдар у чоўне на рэчцы.

Фотакартак шмат, смешныя і не ў меру сур'ёзныя, у асобных рамачках і ў агульных планшэтах. Твары, твары, вочы — увесь іх род, галапузенькія ўнукі.

Натомленыя за дзень дзеці спяць покатам на печы. Толькі старэйшая Міколава дачка Алеся — студэнтка медыцынскага вучылішча — сядзіць з дарослымі. Дзіва што! Ёй ужо дзевятнаццаць, праз некалькі дзён вяртаецца з арміі яе Раман, відаць, ідзе на вяселле. Просценькая, нават вельмі звычайная з выгляду, але юная, гожая, з сакаўной чырванню. Радасна і бясшумна ўслугоўвае старэйшым каля стала.

Аляксандр Іванавіч узяў чарку, хацеў устаць, але мала не грукнуўся цемем у столь, сеў.

— Яшчэ раз памянём нашага бацьку. Няхай родная зямля, што насіла яго і забрала ў яго сілу, не ціснe яму грудзі.— Залатая Зорка дзінькнула аб чарку, і ён прытрымаў узнагароду даўгапалаю рукою.— Мама ведала пра яго ўсё, бо ведала яго даўжэй за нас. Мы яго дзеці і таму павінны памятаць толькі ўсё добрае. І перадаць гэта нашым дзецям. Я ганаруся тым, што нашу прозвішча Міровіч, што не аславіў яго, а зрабіў вядомым у нашай краіне. Мы ўсе — Міровічы, усе — Іванавічы. Не будзем жа забывацца пра нашу маму, пра наша котлішча, з якога ўсе выйшлі, каб заўсёды вяртацца сюды. Да хаты, да бацькавай магілы. Цяпер я найстаршы ў сям'і. Звяртайцеся, чым змагу — пасаблю. Які б заняты ні быў, братам і сястры я цяпер за бацьку.

Вольга, якая сядзіць побач з ім, непрыкметна для братоў і Адаркі выняла са сваёй сумачкі заклееены пачак чырвонцаў, усунула мужу ў руку. Ён паклаў грошы перад мамаю.

— Распараджайцеся, мама, як знаеце. На дзевяты дзень я, відаць, не прыеду, буду ў Венгрыі, а на сарачыны сустрэнемся. Тады пабуду даўжэй. А цяпер мне пара... — Ён адным махам выпіў чарку, а кроплі, па звычаі, які напомнілі яму сёння вясковыя дзядзькі, выліў на падлогу.— Ты нешта хацела сказаць, Вольга?

— Я яшчэ раз напамінаю Міколу: прыедзь улетку ў Маскву, у нашай клініцы, што займаецца... найсучаснымі хваробамі... прайдзі абследаванне. Як спецыялісту мне не падабаецца колер твайго твару. Можа, нават давядзецца пайсці з рэактара, Сашка дамовіцца з начальствам...

— Вольга, не сей залішняга страху. Рэактар больш бяспечны, чым самагонны апарат...

— Я доктар. І кажу толькі пра тое, што датычыцца медыцыны. Калі будзеш ехаць, Мікола, вазьмі з сабою Фёдара. Я раздабуду яму японскі слухавы апарат, але трэба пракансультавацца ў спецыялістаў.

Аляксандр і Вольга паспешліва расцалаваліся з усімі і выйшлі з хаты. Сямейнікі правялі іх да машыны, яшчэ раз абняліся, пацмокаліся ў цемры, праўда, на гэты раз забыліся пра Фёдара, што стаяў убаку.

Святло фар выхапіла тоўстае карэнне на дарозе, ствалы соснаў, паснулыя хаты Гарадзішчаў, крыжы на могільніку...

Міровічы вяртаюцца ў хату, Фёдар зачыняе вароты. З цемры вуліцы вынырае рабая карова Міровічаў Маўра, і Фёдар упускае яе ў двор праз весніцы.

Фёдар у хаце паказвае на мігах Адарцы, што карова нядоеная. Сястра бярэ даёнку і зэдлічак, падпяразвае мамін фартух: ёй гэтая работа звычайная і прыемная.

Марыя разглядае сваіх дзяцей. Напружана, учэпіста разглядае. Перад ёю на стале талерачка з чырвонаю ікрою, пачак грошай, глянцаваная Аляксандрава візітка, дзе сказана, што ён Герой Сацыялістычнай Працы, член-карэспандэнт АН СССР, дырэктар праектнага інстытута атамнай энергетыкі, адрасы, тэлефоны.

Дагарае свечка, і Марыя запальвае новую, ставіць яе ў шклянку з пшаніцай. Водбліскі свечкі варушацца на тварах дзяцей, на фотакартках сям'і.

Фёдар шукае сабе якую-небудзь работу, але тут, за сталом, яе няма, а пакідаць братоў, маму і ісці ў хлеў, да Маўры, яму не хочацца. Заўважыў, што маятнік насценнага гадзінніка спыніўся. Устаў, падцягнуў гірку, гайднуў пальцам маятнік. Цікаюць ходзікі ў цішыні пакоя.

Марыя чуйна прыслухоўваецца і чуе... удары малаткоў па веку Іванавай дамавіны.

Міколава Людміла ўвесь час крадком паглядае на пачак грошай і папраўляе душную велюравую сукенку на грудзях.

— Мама, едзьце да нас з Міколам хоць на колькі дзён, каб развеяцца ў нас, у горадзе. Каляровы тэлевізар паглядзіце, з Тарасікам пагуляеце, адпачняце з бабулямі на лавачках.

Але Марыя не чуе яе слоў, яна прыслухоўваецца да цікання гадзінніка, што нагадвае ёй удары трунароў па цвіках на цвінтары.

Стаіць сярод стала поўная бацькава чарка.

Рукі Фёдара зноўку шукаюць сабе нейкага занятку. Тут, за сталом, яны не знайшлі яго, таму зноў намацваюць пальцамі кавалачак кораня з бацькавага долу.

— А Сцяпан Адарчын так і не з'явіўся. Няўжо праўда на змене? — спытаўся Мікола і выпіў чарку. Людміла правяла гэты яго рух зняважлівым позіркам. Дачка Алеся падсунула бацьку талерку з квашанінай, адкроіла свежага хлеба, наліла ў шклянку «Фанты».

— На пахмелле, відаць, з'явіцца. У горадзе ўведзены сухі закон,— рубануў Грыша, але гэтай фразы Фёдар, здаецца, не зразумеў, балюча напружыў твар.

— Каму сухі, а каму і мокры, Грыша. Калі трэба, звяртайся,— шматзначна стрэльнула вокам Людміла і зняла з галавы чорную муаравую павязку. Спаленыя хіміяй яе валасы рассыпаліся, і яна нават пабрыдчэла.

Зайшла Адарка. Паставіла глечык свежага малака на стол.

— Маўра нечага як шалёная, ледзь падаіла... Піце, хто хоча, бо дзеці спяць...

— А яна была на магілках... каля дзеда,— спрасонку ці свядома прамармытаў Тарасік з печы. Усе павярнуліся да яго, але ён пазяхнуў і спіць далей, абняўшы Ліду і Руслана.

— А цяпер, дзеці, пра жыццё,— ціха і строга сказала маці, папраўіла агеньчык свечкі.— За татам мая чарга. Але я не пра смерць. Пра жыццё. Мне нічога не трэба ад вас, дзеці. Я ўсё маю. Нават на пахаванне прыгатавала і прыхавала, каб не мітусіліся потым. З Фёдарам нам усяго хопіць. Але мне трэба... Зараз вам скажу, а вы паслухайце старую і не ўздумайце гневацца. Усё адно скажу, бо мушу, бо гэтага вам ніхто не скажа.

Марыя надоўга замоўкла, агледзела ўсіх сваіх дзяцей, а потым погляд яе засяродзіўся на свечцы.

Непрыкметна зайшоў і сеў на парозе іхні белы сабачка Пушок. Алеся кінула яму кавалачак шынкі, але ён яго толькі панюхаў, улёгся ў сенях, паклаў галаву на лапы і глядзіць у пакой.

— Чую, што мой гадзіннік скора спыніцца. Пайду я ад вас, дзеці. Сашка дасць сабе рады. Ён першанькі нарадзіўся, доля насыпала яму з верхам. Для мяне ён адрэзаная луста. Таму кажу: цяжка мне пакідаць Міколу. Не сярдуй на мяне, дачка Людміла, а страшна. Калі вы пажаніліся, стары быў такі добры тады, такі шчаслівы, што я, як асleпленая любоўю дзеўка, хадзіла за ім і сляды нават яго любіла. Удваіх вы раслі, вучыліся, адружыліся. Закарцела ў горад — едзьце. А з часам пабачыла — не так жывяце. І хата ёсць, і дзеці, а ладу няма. Толькі і чуваць ад вас: грошы, грошы, даўгі. За грошы і на рэактар пайшоў, і на падзаробкі начныя ў рыбацкую брыгаду, дзе за малым не ўтапіўся. Колькі ж вам іх трэба?

— Так і знала, што я буду вінаватая ва ўсім,— нервова папраўіла сукенку на грудзях Людміла.— А паспрабавалі б вы, мама, пажыць з Міколам. Мне гаспадар у доме трэба. Стамілася я, пастарэла. Кватэру сама выхадзіла ў яго начальства, ногі пухнуць ад стаяння за прылаўкам, а ён... рады, што яго партрэт вісіць на гарадской Дошцы гонару і ў прэзідыум садзяць на кожнае свята. Алеську трэба замуж выдаваць, кватэру кааператыўную будаваць ёй. Трасіка везці на курорт, бо сэрца ў яго нікудышняе. Я Міколу касцюм і туфлі на выплату ўзяла, ужо на Алесьчына вяселле, яшчэ грошы не выплаціла, а гляньце, што ён з імі зрабіў. Транты.

— Мама, я ж казала, не трэба мне таго кааператыва. Мяне абяцаюць накіраваць пасля медвучылішча ў нашу гарадскую бальніцу. Раман будзе вадзіць «хуткую». Вяселле рабіць не будзем. Дзед памёр, нельга. Ды хто ведае, як яно яшчэ пойдзе...— сказала Алеся і пачырванела, стала перасоўваць сподкі на стале.

Мікола паблядне яшчэ больш, на залысінах заблішчаў пот. Дастаў цыгарэту і нервова выйшаў на двор, пераступіў цераз белага сабачку.

— О, бачыце, ён і слухаць не хоча. Не толькі мяне, але і вас. Вось так заўжды. Як манекену гаворыш. Ды няхай бы агрызнуўся ці нават ударыў. Хай бы нават трошкі падгульваў, як тата...

— Тату, Людміла, не чапай. Мы з ім выгадавалі пяцёра дзяцей. Я яго ніколі не зганьбіла перад людзьмі. І ў нас быў такі час — бедны, галодны, але гарачы.

— А хіба ж я Міколу вашага ганьблю? Чым? Калі? Хто бачыў?

І тады ўстрасянуў чорным чубам Грыша, вочы яго злосна бліснулі.

— Люд-мі-ла! Не правакуй мяне!

— Ну што-што? Пажарніцкія плёткі будзеш распускаць? Вам рабіць няма чаго, вось і выдумляеце, бугаі. Такая сям'я была ў Нічыпарэнкаў, а ты разбіў. На сябе лепш глядзі.

— Я Грышу яшчэ скажу, Люда. І няхай паспрабуе не паслухацца мяне! Вы мне ўсе родныя. Але зараз пра цябе. Клапаціся пра сям'ю, а не пра самую сябе. На старасць успомніш мае словы. Калі б ты за Грышкам была, я б ва ўсім яго вінавація, пустадомка, але ж ты знаеш, які Мікола...— Марыя зноў паправіла агонь у свечцы.

— Няўжо ж, знаю. Мужа, мама, у хаце няма. Кватарант, які двойчы на месяц зарплату прыносіць. Мне надаела быць і за жонку і за мужыка ў доме,— сказала Людміла ўжо без злосці, з сумам.

— Мама! Нашто вы так? — абражана паглядзела на яе Алеся.

— Ці ж ён п'е, ці па выцвярэзніках валяецца, ці дома не начуе? Калі б мне такога мужа доля паслала, я б яму ногі мыла, я б яго каля прахадной штодня сустракала... Не давядзі божа табе, Люда, такога шчасця, як я маю... І то рада,— сказала Адарка.

— Мікола інакшы і не можа быць... Я ўжо паверыла, што па вайне засталася на белым свеце з Сашкам-сіратою. Паперу мела, што Іван без весткі прапаў, недзе ў Аўстрыі. Ужо і змірылася з доляю, запрэгла сябе ў цяжкую работу і моўчкі, не раўнуючы як скаціна якая, цягнула яе, каб упасці і заснуць на колькі гадзін, а потым пачаць зноў. А ён, Іван мой, прыйшоў. Вясною сорак пятага. Там, на беразе рэчкі, дзе зараслі чарнобылю, я яго ўбачыла. І ногі мае падкасіліся. З таго чакання і маладога чарнобылю наш Мікола, Люда. Адзінае дзіця, якога ні я, ні тата ні разу не ўдарылі. Шкодзіў, бывала. Бягу да яго з дубцом, злосная, стрыму няма. А ўбачу яго вінаватыя вочы, у якіх страху няма, толькі правіна, і рукі самі апускаюцца. Неяк мячом высадзіў бабе Каліне ўсе да адной шыбы ў акне. Я схапіла сякеру, пасяку, думаю, той мяч на кавалачкі, хай

ведае, жаба чубатая. Замахнулася, секанула. А сякера як адскочыць ад мяча! Калі паспела ўвіхнуцца — сама не ведаю. Толькі слізгануў па лбе. Вось шрам і застаўся, каб напамінаць: умей даравань, умей змяніць гнеў на ласку, жанчына! Гэта твая зброя — даравань.

— А як мне жыць, калі Міколу і даравань няма чаго? Ці, можа, яму ўсё жыццё патрэбна мама, а не жонка?

— Нічога ты, Людміла, не зразумела. І рэч не ў тым, што не можаш, а бяда ў тым, што не хочаш. Тут я ўжо бездапаможная. І ўлады ў мяне — як у жабрака. Пастарэеш — успомніш мяне. І дай божа, каб заплакала, згадаўшы старую Міровічыху. На гэтым мая казань і канчаецца.

— Так і знала — са святым Мікалаем жыву, змяя і грахаводніца. З яго іконы пісаць на Дошку гонару, а мне воз сямейны цягнуць. Ды няхай, дзякуй, што сказалі ўсё, што думаеце...

— Як знаеш, дачка, як знаеш... А ты, Грыша, ветрагон, пасля сарачын татавых каб ажаніўся мне! Інакш і знаць цябе не хачу. І памру з каменем на душы.

— Ды я ж стараюся, мама...— хітравата зіркнуў Рыгор.

— Пятнаццаць гадоў, як з арміі прыйшоў, стараешся, ажно мне перад людзьмі стыдна. Стольків людскіх дачок збаламуціў, а можа, і долю ім скруціў...

— Хіба былі заявы ці скаргі, мама? Усе мае нарачоныя спакойна павыходзілі замуж. Ніводнага скандалу ці прэтэнзіі, жывуць, размнажаюцца па гнёздах... Вітаюцца са мною на вуліцы, знаёмяць мяне са сваімі мужамі.

— Маўчаў бы ўжо, баламут, бо я табе твае патлы цыганскія павырываю. За ўсіх, каго прывозіў у Гарадзішчы на агледзіны. За ўсіх.

— Ужо, мама, і маё змалолася...

— Ці раз я гэта ад цябе чула, блудлівы млынар?

Фёдар раптам страпянуўся, нешта паказвае маці на мігах. Ніхто, апрача Марыі, не звярнуў на яго ўвагі, а яна зразумела, ледзь кіўнула галавою: малайчына, Фёдар, што заўважыў тую дзяўчыну ў лесе.

— А чаго ж яна не тут цяпер? Чаму не пазваў да нас? Баішся, што і гэту пакінеш ці за іншага замуж аддасі?

— Не, мама, на гэты раз не аддам, бо сам ледзьве выхапіў яе ў іншага. Добра, што не прыехала. Пры ёй мы б так не пагаварылі.

— Пагаварылі б! Пра цябе, прайдзісвета. Яна б узнала ад мяне больш, чым сам ты ёй раскажаш. Белявая такая, з доўгімі валасамі?

— Ужо Людміла вам накляпала?

— Прыснілася мне. Бытта мы хаваем бацьку, а яна стаіць у лесе за цвінтаром, пад сасною. Стаіць бедная, чужая і вачэй з цябе не зводзіць. Ты хоць варты таго?

— Ёй відней, мама...

— Глядзі, Грыша, калі і гэту пакрыўдзіш — няма табе месца ў маім сэрцы. Адарку беражыце. Доля яе шчарбатая, нікога, акрамя вас, у яе няма. На свет яна не абазліцца і дапамогі ў вас прасіць не стане. Павінны самі прыйсці і падаць ёй руку. Калі мяне не будзе, дзеці мае, гаварыце да Фёдара, забудзьце, што ён не чуе вас, гаварыце, і ён адкажа. Усё. Раздзяліце паміж сабой гэтыя Сашкавы грошы, бярыце, каму колькі трэба, ды давайце яшчэ раз памянем татаву душачку і... будзем адпачываць, бо заўтра вам у горад.

Марыя пасунула пачак грошай на сярэдзіну стала. Прыпаліла новую свечку і наліла ўсім па чарцы.

— Мама, вы ж ведаеце, што сваім грашам не ўмею рады даць, а вы яшчэ чужыя прапануеце. Хай Люда Міколу касцюм купіць,— сказала Адарка.— У мяне дзеці і Сцяпан адзетыя.

— А я да вяселля яшчэ пасля арміі як прыгатаваўся, то так усе пятнаццаць гадоў гатовы. На два пярсцёнкі і пляшку шампанскага хопіць. У Міколы і ў Адаркі сем'і, дзеці. Мне не трэба...— малайцавата страсянуў чупрынай Рыгор.

Фёдар з самага пачатку склаў накрыж рукі і трымае іх каля твару: мне не трэба нічога!

— Дык што, толькі мы з Міколам засталіся? Мы таксама не возьмем! — адкінулася на спінку крэсла Людміла.

— Люда, і не бяры. Абыдземся сваімі,— усцешыўся Мікола, які толькі што вярнуўся з двара.— Да Першага мая дадуць мне прэмію, у рыбкалгасе на рамонце сейнераў зарабіў некалькі соцень — усё табе аддам. Толькі не бяры гэтых грошай, Людачка. Цяпер пышныя вяселлі выйшлі з моды. Нечым Раманавы бацькі дапамогуць, зробім вячэру. І няхай сабе жывуць... А касцюм хімчыстка возьме...

— А я не бяру. Мы ж не жабракі, але... і не найбагацейшыя...— Людміла папраўіла сукенку на грудзях і, вейнуўшы чорным велюрам, выйшла на двор.

— А можа, напраўду мы, Міровічы, несправядлівыя, патрабуем ад яе таго, чаго ў яе няма, бо яно ёй не патрэбна? Пакліч яе, Адарка, ды будзем спаць класціся. Такі дзень перажылі...— Марыя глядзіць на свечку, на мігатлівы яе агеньчык. Глядзіць, аж покуль свечка не згасае.

З падворка відаць, як заварушыліся ў вялікім пакоі, дзе былі хаўтуры, жаночыя постаці. Неўзабаве гасне электрычнае святло, але затое загарэлася свечка.

На лаўцы каля варотаў Міровічаў сядзяць трое.

Успыхвае запалка, разгараецца ў далонях. Рыгор прыкурвае — асвятляецца Міколаў твар. Фёдар сядзіць пасярод старэйшых братоў, радасна адчуваючы цеплыню іхніх плячэй. На Грышку парыпвае скураная куртачка, паблісваюць ад цыгарэты замкі-маланкі. Камечыць у руках кавалачак кораня з бацькавай магілы Фёдар і ў цемры ночы намагаецца разгледзець твары братоў: ці часамі не гавораць цяпер між сабою? Мікола закінуў галаву, глядзіць, абапёршыся патыліцай на паркан.

Недзе ў розных канцах Гарадзішчаў перагаўкваюцца сабакі, перагаўкваюцца ад няма чаго рабіць, каб толькі нагадаць іншым пра сваё сабачае жыццё, каб скараціць гэтую вясновую, яшчэ прахалодную ноч. Недзе і сонны певень ударыў сваім кукарэкам па соннай цішы. Уздыхнула карова ў хляве.

— Гэта ж і мы, браце, некалі вось так пойдзем. Зачыняць века, заб'юць цвікі — не адчыніш. А рвёмся некуды, уцягваем у сваё жыццё, у сваю мароку іншых, амаль нічога не даючы ўзамен, мучым дзяцей, каб яны абавязкова былі падобныя на нас, мучым душу бацькоў сваіх, бо самі ўжо хочам жыць інакш. Адсюль і вечная неўладкаванасць і смутак. І страх, што вось-вось усё гэта закончыцца, толькі што пачаўшыся... Але ж... ніхто не хоча адмаўляцца ад гэтай спробы: раптам удасца, раптам усё будзе, як я хачу...— ціха, з перападамі голасу сказаў Мікола.

— А чаго ж, браце, ты хочаш? — азваўся Рыгор, асвяціўшы свой твар агеньчыкам цыгарэты.

— Жыць. Жыць разумна і ў любві. Я пастарэў, пабрыдчэў і палысеў не ад работы. Ад таго, што пастаянна маніў сабе: усё нармальна, я не горшы за іншых, маю прозвішча, дах над галавою, жонку, дзяцей, зарплату, чакаю павышэння па службе (чым больш дагаджаю начальству, тым хутчэй гэта будзе). А што, уласна, мяняецца? Я не кажу пра свет. Я маю на ўвазе хоць бы некалькі метраў навокал

кожнага з нас. Што мы можам, браце, даць тым, хто ўступае ў зону ўласнага нашага быцця?

— Ты часам не начытаўся Бібліі, дзяжурачы па начах за пультам рэактара? Я не чуў ад цябе такога раней. Можа, сапраўды мяняй работу, выйдзі з зоны. Дык не, табе некалькі гадоў да ранняй пенсіі засталося, і з гарадской Дошкі гонару знімуць. Ты ўжо запушчаны ў сюжэт уласнага жыцця, не ты яго, а яно цябе вядзе. Менш наганяй на сябе гэтай інтэлігентшчыны і суму. Жыві прасцей, і табе адразу ўсё праясніцца. Не ўскладняй жыцця, яно і так складанае.

— Не Дошка гонару мяне трымае, не пенсія, нават не ордэн, на які, кажуць, падалі да дзесяцігоддзя пуску першага блока. Маё жыццё становіцца сапраўднае толькі тады, калі я заступаю на начную змену, ведаючы, што ўсе кіраўнікі станцыі, усе яе цыфроіды, інтээраўцы, дырэктар і яго замы захраплі на дамашніх (або чужых) падушках, што твой Нечыпарэнка, Наталчын былы муж, а мой цяперашні начальнік змены, па вушы залез у замежны дэтэктыў, і ў гэты час у маіх руках, толькі ў маіх, бо Нічыпарэнку ж не церпіцца скарэй дазнацца — хто ж сапраўдны забойца? — мільён кілават, распад ядзер у актыўнай зоне рэактара, на які накінута смірыцельная рубашка, як на каварнага, шалёнага псіхапата. І я яго не баюся! Не, табе, браце, не адчуць гэтага.

— Чаму ж не адчуць? Калі кахаеш жанчыну, абагаўляеш яе, любіш у яе ўсё: ад пазногцяў на нагах да валасоў на галаве, любіш нават яе нашчэрблены ці запламбаваны зубок, калі яна ўсміхаецца табе. І ўжо табе няма ні жыцця, ні радасці, ні зямлі пад нагамі без яе ледзь растуленых вуснаў, без штуршкоў яе рук, якімі яна апошні раз вырываецца з тваіх абдымкаў, ужо баючыся адштурхнуць цябе назаўжды, і з гэтай боязі раптам прытуляць тваю галаву да сваіх грудзей... Які там чорта рэактар, Міколе?! Якія адчуванні могуць параўнацца з тым, калі ты ў гэтую мінуту самы ласкавы, самы добры на ўсёй планеце! Ты ўтаймаваў, пакарыў, завалодаў нечым больш важным, чым мільёны тваіх нябачных кілават...

— А потым, браце? Потым...

— Потым усё спачатку, але па-новаму. У тым і сэнс...

— Гэта не па мне, Грыша. Я люблю Людмілу і знаю толькі яе. Нашы родзічы хацелі б, каб яна была дабрэйшая. Я, мабыць, таксама таго хачу. Але што я ёй даў, каб была шчаслівая, каб любіла толькі мяне?

2 Зак. 534

— Пачакай, а што даў бацька нашай маці? А любіла ж як! Усё жыццё... Жанчына шчаслівейшая тады, калі любіць сама, а не тады, калі закаханы ў яе.

— Тата вярнуўся з вайны тады, калі мама ўжо змірылася з доляю ўдавы. А ён прыйшоў. Адзін з нямногіх. Ён падарыў ёй сябе, калі ў Гарадзішчах засталося некалькі мужчын. А ў маёй Людмілы вочы разбягаюцца ў людным горадзе. Я яе разумею. Праз год бабуля. Разумею яе і дарую. Вось ажэнішся, браце, набудзеш дзяцей, тады мяне поймеш. Тады і дагаворым...

— Калі рогі вырастуць...

— Не юродствуй, брат. Не нацягвай на сябе маску. І без таго сумна, нібы ўсё ўжо ў мінулым. І не надта хочацца азірацца назад. Нават ты мяне не хочаш зразумець, брат адзінакроўны, то што ўжо ад Людмілы, ад чужых чакаць? Чаго жывём, чаго шукаем?..

— І, не дазнаўшыся, паміраем. А пакідаем справы. Яшчэ ў мінулым стагоддзі пытаўся адзін разумны, але дужа самотны чалавек...

У час іхняй размовы, калі загараецца запалка або зырчэе агеньчык цыгаркі, высвечваюцца Міколаў і Рыгораў твары. Пра Фёдара яны абодва нібы і забыліся. Ён, мусіць, адчувае, пра што спрачаюцца старэйшыя браты, але не чуе іх і таму павінен дадумваць сэнс іх гаворкі і перажываць яе разам з імі. Браты гавораць пра нешта вялікае, вечнае і сумнае. Пра жыццё пад зоркамі.

— Вось і ўсё. Пабраталіся. Хоць тут пагаварылі, бо ў горадзе ўсё некалі. Мне ў сем заступаць на дзяжурства. Я паехаў! — сказаў Рыгор і ўстаў.

Ён выводзіць з-за хаты сваю бліскучую ў святле месяца «Яву», не заводзіць, каб не разбудзіць жанчын і дзяцей. Мікола з Фёдарам штурхаюць матацыкл на цэнтральную дарогу, Грыша сядае ў сядло, браты яшчэ раз штурханулі яго, матацыкл раўнуў і пакаціўся, скачучы на каранях. Каля цвінтара спыніўся, павёў фараю па крыжах і паімчаў у лес, за якім бледна свяціўся горад.

## *8*

Туга была нетрывалая, яе хапіла Міколу, Адарцы, Людміле, Алесі і дзецям толькі на дарогу да свайго горада. Тут іх шпарка закруціў жыццёвы калаўрот, дробязныя клопаты, спешка і тузаніна — памяць напамінала толькі

пра тое, што ў суботу, дваццаць шостага (любата! Два выхадныя! Два апошнія выхадныя перад вялікай чарадой святаў!) — бацькавы дзевяціны.

Смерць старога Міровіча нічога не змяніла ў іхнім жыцці і характарах, у стасунках між братамі і сястрою. Не заўсёды нават вялікім драмам і ўзрушэнням пад сілу змяніць нешта ў сутнасці чалавека, а гэта... Пажыў бацька, нахварэўся, папамучыўся... Выкапалі я́му на цвінтары... застукалі малаткі далакопаў... выпілі памінальную чарку... пагаварылі. На дзевяты дзень трэба сабрацца зноўку. У маці хата, ёсць каля яе Фёдар, дзеці будуць прыязджаць у госці... Няма ўжо таты, але ж усе мы не вечныя. Рана ці позна (хацелася б, каб як мага пазней) адыдзем. А свет будзе стаяць.

Горад прыхарошваўся да майскіх святаў. Абнаўлялася наглядная агітацыя, гаспадыні мылі вокны, выбівалі кілімы, сушылі зімовае адзенне, каб схаваць яго ажно да глыбокай восені. У мясных аддзелах магазінаў усчалася штурханіна, бо надыходзяць святы, госці, выезды на дачы.

Пры ўваходзе ў гарадскі парк адпачынку з'явіўся новы лозунг: «Дэвіз атамных энергетыкаў: Першамаю — сто мільёнаў кілават-гадзін звыш плана!» На вялікіх шчытах рэкламаваўся кінафільм «Ідзі і глядзі!». У гарадскім шпіталі адкрылі наркалагічнае аддзяленне, дзе прымусова лячылі першы набор алкаголікаў горада і раёна. Па просьбах працоўных гарсавет прыняў рашэнне пра сухі закон, і цяпер мужчыны збіраліся ў невялікія групы, скідаліся на бензін, наймалі аўтамашыну да суседняй вобласці, дзе грамадскасць была больш памяркоўная...

На гарадскім рынку з'явіліся першыя агуркі і памідоры. Удосталь было і свежай рыбы, але купіць яе можна толькі з-пад крыса, бо яшчэ нераст.

Горад прагна прыслухоўваўся да падзей, якімі жыла дзяржава. Цэнтральныя газеты раскупляліся з самага ранку, кіяскёры сумавалі ледзь не цэлы дзень, прадаючы хіба што маркі школьнікам ды цыгарэты курцам. Газеты пісалі пра агіднасці ў гандлі, гэта тут жа праектавалася на гарадскіх «харчавальнікаў» і «апранальнікаў» народных, пакрысе ўзнімала свой голас і шматтыражка энергетыкаў, асцярожна пакрытыкавала аддзел рабочага забеспячэння: можа, і ў нас будзе нарэшце парадак і справядлівасць у размеркаванні тавараў?

Спавілі на пенсію старога міністра энергетыкі. Даўно пара! Дырэктар атамнай Чыжоў, кажуць, нагою дзверы ў

2*

яго маскоўскі кабінет адчыняў. Цяпер стукаць давядзецца, запісвацца на прыём, новы міністр спытаецца не пра здароўе сям'і, а пра станцыю, пра тое, як забяспечваюцца атамныя энергетыкі ўсім неабходным...

Жыццё цяпер набывала нейкі свежы прысмак, кожны чакаў прыемных неспадзевак і змен да лепшага. А тут яшчэ набліжалася паласа святаў. Першамай, вялікдзень (няхай яго адзначаюць адны старыя бацькі, але ж нагатуюць прысмакаў — пагасцяваць у іх не грэх), Перамога, а тады яшчэ і дзесяцігоддзе з дня пуску першага блока — не сакрэт, што пры такой нагодзе і ўзнагароды нейкія надарацца...

З двароў вымяталі зімовае смецце, паднаўлялі дзіцячыя пляцоўкі, садзілі дрэвы, дэкаратыўныя кусты, клумбы.

Учора апошнім рэйсам аўтобуса прыехаў у горад дэмабілізаваны са службы Алесін хлопец Раман. З Душанбе да Барыспаля самалётам, паспеў ускочыць у апошні аўтобус і адразу да Алесі. Міровічы ўжо спалі, але ён усё-такі разбудзіў іх. Мікола адчыніў дзверы, голасна і мітусліва радаваўся, падняў Людмілу і Алесю. Людміла дастала шампанскае. Раман застаўся начаваць, паслалі яму з Міколам на канапе. Мікола прасіў прабачэння, што можа і захрапці, але спаў ціха, і Раман чуў, як уздыхае і варочаецца з боку на бок Алеся ў суседнім пакоі.

Вось, уласна, і ўсё, што змянілася ў жыцці гарадскіх Міровічаў за чатыры дні пасля пахавання.

Сёння ў горадзе першы дзень усё роўна як летняй спёкі. Здаецца, можна пачуць, як похкаюць пупышкі на абрыкосах, як ідзе ў стрэлкі трава, як выпараюцца лужы на пясчаных дарогах, звініць вярбовае лісце на абодвух баках ракі.

У гарадскім парку вытыркае на паўнеба пафарбаванае ўжо на новы сезон «чортава кола». Усю зіму яно свяціла сваімі непрыгляднымі рэбрамі, аблушчанаю фарбай, нават сваёю недарэчнасцю над голымі кронамі дрэў і над зялёнымі папахамі соснаў, а цяпер, размаляванае, выцацканае, абвешанае стракатымі люлькамі, задзірліва весяліць вока, дапаўняе гэты перадсвяточны настрой горада, над якім яму круціцца ўсё лета.

Нерухомае, у цёплым вясновым марыве, яно нагадвае штучную вясёлку над горадам. Тут, каля вялікай рэчкі, нярэдка бачаць і сапраўдныя вясёлкі, але штучная таксама цешыць вока.

Спёка, але гарадскі пляж яшчэ пусты і самотны. Перакошаныя за зіму грыбкі, нагорнутыя ветрам дзюны, некалькі завезеных сюды для экзотыкі валуноў, на якіх ужо зліналі выведзеныя фарбамі імёны мужчынскага і жаночага роду. Паліналі ад вясновай паводкі ды ад ветру.

Купка вераб'ёў і варон чубіцца за пакінутыя рыбакамі аб'едкі. Птушыныя і чалавечыя сляды на пяску...

Зазелянелі вербалозы на супрацьлеглым беразе, да пахіленай вярбы рыбак прывязаў свой човен і санліва пагойдваецца ў ім, сочачы за нерухомым паплаўком. Завалілася набок раздзявалка, збітая ў час паводкі вадою.

На гэтым пустэльным пляжы знайшлі сабе суцішак ад гарадскога мурашніку, ад лішніх вачэй тры пары, якія занялі месца воддаль адна ад адной. Прыхавацца тут цяжка, ды ім гэта і не патрэбна, хіба што Раману з Алесяю, але ж няма дзе.

Праваруч ад іх, аблюбаваўшы сабе гранітныя валуны, сядзяць хлопчык і дзяўчынка, школьнікі, мабыць, пятага ці шостага класа. Абое ў школьнай форме. Убаку, на пяску, прытуліліся іхнія школьныя сумкі, нібы таксама размаўляюць між сабою. Школьнікі ўцяклі з урокаў, бо сёння ў іх грамадзянская абарона, якую яны страх як не любяць. Мінулы раз пасварыліся з настаўнікам — афіцэрам-адстаўніком, які няўдала, па-салдафонску пажартаваў з дзяўчынкі, сказаўшы, што яна ў процівагазе выглядае больш сур'ёзнаю, чым без яго. Дзяўчынка затаіла злосць, хлопчык, які ва ўсім пагаджаецца з ёю, ахвотна ўцёк з урока. З'елі па марожаным у «Сняжынцы» і прыйшлі на пляж. Разуліся і грэюць босыя ногі на камені, што ўжо прагрэўся як след,— па ім споўдаюць мурашкі.

У дзяўчынкі ўжо выразна акрэсліліся формы цела, у рухах ужо праступае штосьці прыцішана жаночае. Часам яна адчужана прыслухоўваецца да сябе самой, палохаецца нечага нябачнага, няўмела радуецца яму. У такія хвіліны яна крыху звысоку, паблажліва пазірае на свайго аднакласніка, і ён ніякавее ад гэтага, штурхае яе ў плячо, падае з каменя і качаецца па цёплым пяску.

Хлопчык яшчэ нязграбны, з-пад школьнага пінжака выпінаюцца худыя лапаткі, рухі яго залішне мітуслівыя, ён саромеецца прышчыкаў на носе, на лбе, на шчоках. Выпадкова дакрануўшыся да дзявочай рукі ці яе голай нагі, ён успыхвае, чырванее, спалохана зіркае на Алесю і Рамана, але тыя не звяртаюць увагі на іх, цалуюцца сабе, распластаўшыся на пяску пасярод пляжа.

— Галіна Аляксандраўна сёння сумная нейкая, ты заўважыла?

— Толькі пасля таго, як яна ўляпіла тры двойкі запар. Кажуць, муж яе пакінуў. А, рыхтуй ці не рыхтуй матэматыку — больш тройкі не паставіць.

— А чаго яна злая і несправядлівая?

— Без мужа... Даўгалыга-фізкультурнік за ёй прападае...

Хлопчык спрабуе закурыць, дастае з верхняй кішэні пінжака пакамечаную цыгарэту. Дзяўчынка смяецца, хоча выхапіць з яго рук курыва, але ён паспявае схаваць. Не курыць, хочацца папіжоніцца перад аднакласніцаю.

— Маме скажу, што курыш! Выверне яна твае кішэні...

— Я ўжо вырас з таго веку, калі бацькі па кішэнях шараць. Хочаш, пакупаюся?

— Дурны! Не хачу. Лепш ужо закуры, калі так карціць...— хітравата ўсміхаецца дзяўчо і сочыць, як палка, па-сапраўднаму цалуюцца хлопец і дзяўчына пасярод пляжа, не баючыся нікога, бо ўжо дарослыя. Прагная хлопцава рука так пажадліва шастае па дзявочых плячах, што школьніца праз сілу адводзіць ад іх свой позірк, скіроўвае на другі бераг ракі.

Хлопчык чыркае запалкай, дзяўчынка выхоплівае з яго губ цыгарку і выкідае ў рэчку, што цячэ амаль каля іхніх ног. Аднакласнік абражаецца, саскоквае з каменя, дзяўчынка даганяе яго, абнімае рукамі за шыю, кідае на пясок і падае сама. На адно імгненне яны заціхаюць, адчуўшы нешта салодкае і жаданае, і, нібы спалохаўшыся гэтага, падхопліваюцца на ногі, забягаюць у халодную ваду, боўтаюцца ў ёй, а астудзіўшыся, зноў сядаюць на гранітны валун, каб адчуць яго лагодную цеплыню.

Леваруч ад Рамана і Алесі, у другім канцы пляжа, пад пахіленым набок грыбком, у старым, пакінутым чоўне з мноствам прабоін, выламанымі дошкамі сядзяць лядашчыя, пакарабачаныя жыццём, як і гэты човен, што кармою ўгруз у пясок, дзед з бабкаю. Апрануты па-гарадскому, з мілаю старамоднасцю людзей, абыякавых да адзення. Няўмела, на тоўсты вузел завязаны яго гальштук, сарочка з доўгімі язычкамі каўняра. На штрыфлі крымпленавага пінжака ордэнскія планкі.

Бабуля ў цёмна-карычневым плашчы, у шэрым жаночым капялюшыку, які калісьці шыкоўна ўпрыгожвала брошка — цяпер на тым месцы проста цямнейшая, бо выгарала на сонцы, плямка. У яе на левай руцэ тоненкі

срэбны пярсцёнак. На левай. Ці яны некалі, у далёкай ужо маладосці, палка кахаліся, ды жыццё развяло іх і вось, пасля маленькіх і вялікіх перамог і паражэнняў, сустрэліся зноўку? Ці былі жанатыя, маюць агульных дзяцей, але неразумна калісь развяліся, не знайшлі паасобку раўнавагі і зацішку і сустрэліся-такі зноў на беразе рэчкі, на пустэльным вясновым пляжы? Алеся думала пра гэта, сочачы за старымі ў чоўне. Думала, але пэўнага нейкага адказу даць не магла, бо Раман зноў горача туліў яе да сябе. Лёс-загадка, лёс-таямніца. Пра яе ведаюць толькі тыя двое старых, што моўчкі глядзяць адно на аднаго.

Усё маўчаць. Таксама, як стары, засыпаны пяском човен сам распавядае пра сябе сваімі прабоінамі, кочатамі і струпелымі бартамі, гэтак і старыя могуць расказаць пра сябе:

ордэнскімі планкамі;

вытатуіраваным на яго руцэ імем «Ліна» (рука яго ссохлася, на ёй выступілі жылы і вены, але імя чытаецца);

бабулінымі завушніцамі, што адцягнулі зморшчаныя, звялыя мочкі вушэй;

сіваю валасінкаю, якую яна знімае з яго пінжака...

Адарваны гузік на гэтым пінжаку.

Пакручаныя, дрыжачыя бабуліны пальцы.

Дзедавы акуркі вакол чоўна.

Ім ёсць што сказаць адно аднаму, але словы за доўгае іхняе жыццё сцерліся, страцілі сэнс. Маўчанне, позіркі, дотыкі, кроплі поту, якія яны пастаянна выціраюць адно аднаму на лбе, няспынная плынь вады перад іхнімі вачыма, яшчэ адна вясна ў іхнім жыцці. Цалуюцца хлопец з дзяўчынаю? Няхай цалуюцца. Жыццё. Бавяцца школьнікі на камені? Няхай сабе. Гэта таксама жыццё...

Паміж школьнікамі і двума старымі на чоўне пад грыбком ляжаць ап'янелыя ад блізкасці, знясіленыя ад пацалункаў і абдымкаў Раман з Алесяю.

«Няўжо і я некалі буду такая, як гэтая бабуля? Божа, як горка. Мая бабка Марыя чамусьці ніколі не выклікала ў мяне такіх думак. Можа, таму, што старэла ў мяне на вачах. Ці будзе любіць мяне Раман і такую?» — падумала Алеся, гледзячы ў бок старога чоўна.

«Ох і даспела яна за два гады! Успыхвае, як порах»,— думаў Раман.

Ён яшчэ ў зялёных салдацкіх штанах, але ў красоўках, у белай вадалазцы і сіняй штармоўцы. Алеся ў джын-

сах і кофтачцы. Адзенне, аблягаючы яе стан, падкрэслівае тугую спеласць маладога цела.

Раман туліцца да яе, абдымае моцнаю рукою, цалуе вуха, шыю, закрытае кофтачкай плячо. Алеся набірае ў жменю цёплага пяску, што павольна працэджваецца між пальцамі. Чым мацней яна стараецца яго сціснуць — тым хутчэй ён высыпаецца.

— Воля! Ні табе ўедлівага, з трыма сталёвымі зубамі прапаршчыка, ні прапахлай салдацкім потам казармы, ні куцага звальнення ў далёкі аул, дзе прадаюць пракіслае піва і тлусты халодны шашлык. Усё. Цяпер воля і любоў! Ох і пагуляем з табою, Алеся! Два гады доўгу. Жыццё мне задаўжала. І ты, пакуль абараняў цябе ад імперыялістаў.

— А ці цяжка, Рамане? Па-рознаму кажуць...

— Як каму. Смаркатыя маміны сынкі выюць на месяц увесь першы год, а я ў яфрэйтары скочыў на шостым месяцы. А ты тут амурчыкаў не пускала? Рогі воіну-абаронцу азіяцкіх граніц Айчыны не настаўляла?

— Бяссовесны... Я вечарамі табе пісьмы пісала...

— Зачарсцвелі ў ратных паходах, загрубелі душою пад гарачым азіяцкім сонцам. Акрамя трох афіцэравых жонак ды старой таджычкі — прадаўшчыцы ваенторгу, з жаночага роду толькі гадзюкі. Усё! Скончылася. Цяпер — воля і любоў!

Яны замаўкаюць, цалуюцца, не звяртаючы ўвагі на тое, што іх бачаць староннія вочы. Школьнікі з сарамлівай цікаўнасцю падглядаюць за імі са свайго каменя, дзед з бабкаю глядзяць час ад часу ў іхні бок. Не асуджаюць, бо ўспамінаюць і сваё, даўняе, але не забытае.

Дуга «чортавага кола» стаіць над горадам.

Алеся заўважыла, што за імі пільна сочаць хлопчык з дзяўчынкаю, адчула, што Раман расшпіліў ёй станік, што ён ужо ледзь не страчвае ўладу над сабою, і асцярожна, каб не абразіць яго, выпручваецца з абдымкаў, адкочваецца ад хлопца, заграбаючы рукамі пясок. Там, дзе яна толькі што ляжала, глыбокая пясчаная выемка яе росту. Выемка і Раман.

## *9*

Раман з Алесяю ідуць гарадскім паркам, над якім на паўнеба высіцца «чортава кола». Ідуць, спыняюцца, цалуюцца, бягуць, трымаючыся за рукі, зноў спыняюцца, каб абняцца, не саромеючыся прахожых.

Падыходзяць да машыніста «чортавага кола» — казлінаю бародкаю гарбуна. Раман дае яму закурыць, адзывае ўбок, паказвае на свае салдацкія штаны, упіхае пяцірублёўку ў кішэню ў яго пінжак і па-змоўніцку падміргвае яму. Алеся пачула толькі апошнія Раманавы словы:

— ...Два гады... пустыня... толькі ў кіно бачыў... не грэх пагусарыць... класная дзеўка... чакала...

Яшчэ толькі паўдня, «чортава кола» ўпершыню запусцяць вечарам, калі назбіраецца ахвотнікаў. Ды можна і цяпер зрабіць пробны пуск, бо надта просіць дэмабілізаваны салдацік з дзяўчынаю. Яшчэ і тыцнулі пяцёрку — няхай сядаюць. Якраз будзе пробны пуск. З пасажырамі.

Яны займаюць месца ў люльцы. Алеся ледзь сунімае страх, бо ўпершыню адважылася на такое катанне, ды Раман каля яе, яна не адна.

— Воля і любоў! — хвацка прымаўляе Раман і махае рукой машыністу.— Паехалі! Любоў і воля, чорт пабяры!

Ціха закружылася кола, і Алеся замерла, нават вочы заплюшчыла і прыпала да гарачага Раманавага пляча.

Іхняя люлька паднімаецца ўсё вышэй і вышэй, Алесі відаць рэчка і далёкія зялёныя сенажаці за ёю, відаць залатая паласа пляжа, на якім самотна сядзяць у разбітым чоўне двое старых людзей, якім ужо няма куды спяшацца.

— Няхай чорт круціць кола, а мне — свабода і ты! — радасна выгуквае Раман.

Яны паднімаюцца да самага верху. Перад імі разгортваецца панарама вясновага горада: атамная электрастанцыя на беразе рэчкі, малады прыгожы горад з вышынных будынкаў, шырокія праспекты, стадыён, рынак, сонечныя зайчыкі ў вокнах, людзі ў дварах і на вуліцах. Ён сапраўды гожы і малады, іх горад-равеснік. Алеся ўпершыню бачыць яго з такой вышыні. Ды, уласна, і мы ўпершыню бачым яго з гэтай вышыні.

На цэнтральнай плошчы, на велічэзнай клумбе, ажно гараць цюльпаны, вакол клумбы катаюцца дзеці на роварах, гуляюць маладыя маці з калясκамі, крышталёва пераліваецца кусцісты фантан.

Горад пабудаваны ў лесе, засталося шмат старых соснаў. Цвітуць абрыкосы, здаецца, нават металічныя апоры высакавольтных ліній, якіх тут, каля станцыі, безліч, таксама хочуць зацвісці жалезным цветам, бо на іх драты сядаюць адпачыць захмялелыя ад цеплыні і сонца ластаўкі, вераб'і. Навокал горада зялёныя вёскі. Ужо не супраціў-

ляюцца наступленню вялікага горада, вышынных будынкаў, а ўсё роўна як туляцца да іх, просячы абароны.

— Вось гэта жыццё! Аж дух займае! Свабода! Ні старшыны, ні нарадаў, ні... пісем табе пісаць не трэба. Усё радам, усё маё! Давай, жыццё, сплачвай даўгі!

Алесі здалося, што там, за лесам, яна ўбачыла Гарадзішчы — вёску, у якой штолета жыла, у якой ёй заўсёды было добра ў дзеда з бабкай.

Ёй было страшна, і таму глядзела не ўніз, а ўдалечыню, на лес, на зялёныя лугі, на прыгарадныя вёскі і шэрыя карпусы атамнай, дзе кіпяць рэактары. На адным з іх працуе яе тата.

Галава ў яе закружылася ад вышыні. Здавалася, што «чортава кола» вось-вось спыніцца, яны з Раманам так і застануцца на гэтай страшнай вышыні і яна не вытрымае і будзе крычаць штосілы, каб яе пачулі ў горадзе. Таму мацней туліцца да Рамана, абняўшы яго за плечы.

Тая люлька з імі паляцела ўжо ўніз, знікае прастор і далёкая перспектыва, мільганулі постаці дзеда з бабуляю ў засыпаным пяском чоўне, зялёныя кроны соснаў, стайка галубоў каля драўлянай скрыні, куды гараджане кідаюць крошкі хлеба. А за галубамі пільна сочыць, прыгатаваўшыся да кідка, вялікі кот.

— Ты вельмі чакала мяне? Праўду скажы: вельмі?

— Хіба не бачыш?

— Хочацца большага... Хочацца ўсяго! Хіба не заслужыў за два гады ў пустыні сярод змеяў? Хіба не?

— Ты, Рамане, адзін быў на заставе? Ты і змеі? А пісаў жа пра грузіна Надара, пра Васіля-гуцула, пра лейтэнантаву жонку Раісу, якая па вечарах пад гітару спявала «Темную ночь», ды так, што аж за граніцай прыслухоўваліся...

— Раіса-лейтэнанціха такі вымотвала нам душы сваімі спевамі, а пасля гэтага пераадзявалася ў доўгую начную сарочку, слала пасцель, старанна вынішчала камароў, што наляталі ў спальню, і... гасіла святло, не чакаючы, пакуль лейтэнант размундзіруецца... Затое лейтэнант з Райкай кормяць азіяцкіх камароў, а я ў цэнтры Еўропы, у цэнтры цывілізацыі, каля цябе. Закіпаю, як рэактар...

— Мой тата кажа ў такіх выпадках: «Апусці графітавыя стрыжні».

Кола паварочваецца хутчэй і хутчэй. Мільганулі ў Алесіных вачах рэчка, пляж з дзедам і бабаю, далёкія лугі, атамная каля вады, плошча з купкамі людзей, кот, якога

зноў абдурылі галубы. Усё гэта мільгае хутчэй і хутчэй. Алеся сутаргава ўчапілася левай рукою ў металічныя стропы, на якіх вісіць люлька. Твар яе перапалоханы і бледны.

Гарбаты машыніст забыўся пра іх, забыўся-такі, бо адышоўся і размаўляе з нейкай маладзіцай, наўючанай гаспадарчымі сумкамі, з якіх вытыркаюцца жоўтыя курыныя лапы.

— Твае бацькі паслязаўтра паедуць на памінкі. Забяруць Тараса з сабою. А мы давай застанемся ўдваіх у кватэры. Любоў і воля! Не едзь з імі, прашу цябе, не едзь! Хіба я не заслужыў... у пустыні, сярод гадзюк?

Ды Алеся ўжо не чуе ягоных слоў, бо ў вачах усё зліваецца ў стракаты ўзвіхраны паток, у суцэльнае і парванае адначасова, расчлянёнае, як на палатне супермадэрніста, кола, у якім ашалела ляцяць: далёкія і блізкія вёскі з паварочанымі набок хатамі, рэчка, што вось-вось выльецца са свайго рэчышча і пацячэ на горад, барадаты гарбун з маладзіцаю, якая замахваецца на яго сваімі сумкамі, перакошаныя гарадскія небаскробы з расчыненымі балконнымі дзвярыма і вокнамі, бетонныя кубікі атамнай, нібы складзеныя дзецьмі і кінутыя потым, бо яны страцілі да іх цікавасць, цэнтральная гарадская плошча, як велізарная міса з тортам-клумбаю пасярэдзіне, і людзі навокал — як дзеці, а дзеці — як цацкі...

Алеся заплюшчвае вочы, але ўсё адно бачыць у гэтай вар'яцкай кругаверці, якой, здаецца, ужо не будзе канца: складзеныя ў дамавіне на грудзях рукі дзеда Івана, Раіса-лейтэнанціха стаіць у акне ў белай начной кашулі, расчэсвае валасы, млосна пацягваецца, а ў цемры стаіць Раман з аўтаматам і глядзіць, узіраецца ў яе, ажно пакуль не падыходзіць да яго Алеся, абдымае і адводзіць ад акна; Алеся ідзе над прорваю па тонкім разгайданым канаце, траціць раўнавагу, узмахвае рукамі і ляціць у глыбозную прорву, але... у апошні момант ёй падстаўляе рукі глуханямы дзядзька Фёдар, бабуля Марыя сядзіць у сваёй хаце, утаропілася на запаленую свечку, язычок полымя трапеча ў яе вялікіх зрэнках...

А кола нясе і нясе іх з Раманам, быццам не на восі сваёй паварочваецца над паркам, а коціцца ў нейкую іншую, жудасную, невядомую дагэтуль рэальнасць, дзе ўсё змясцілася, ссунулася са сваіх звыклых месцаў, страціла мэтазгоднасць і ўзаемасувязь. Нібы і сапраўды ўсё гэта толькі нахабная і жорсткая выдумка чорта, што коціць сваё кола ў невядомасць, і няма каму спыніць яго, бо ра-

гоча ўнізе барадаты гарбун, куплены Раманам за пяць рублёў.

Алеся здранцвела абдымае Рамана праваю рукой, але гэта чамусьці не дадае ёй упэўненасці, бо цела яго абмякла і асунулася, нібы цяпер ён трымаецца за яе. Трымаецца моўчкі і пакорліва. І таму ёй здаецца, што яна адна-адненькая ляціць у халоднай прасторы паміж зямлёю і небам, не будзе ёй прыстанку ні на гэтай вясновай планеце, ні ў іншым нейкім свеце, дзе няма ні бабулі Марыі, ні таты, ні мамы, ні Рамана.

Свядомасць пакідае яе, але не адразу, а нейкімі кароткімі пужлівымі штуршкамі, то вяртаючыся, то знікаючы.

— Тата-а-а! Та-атачка-а-а! — раптам крычыць яна, і крык гэты не толькі ўскінуўся над горадам, але і прывёў да памяці яе самую.

Жанчына з гаспадарчымі сумкамі спалохана кіўнула гарбуну, той страпянуўся, кінуў недакурак і пашыбаваў да будкі кіравання «чортавым колам». Аднак спыніць яго адразу ён і сам не можа, разгублена выскачыў, каб уключыць аварыйны тормаз. А кола круціцца, выйшаўшы з-пад кантролю.

Пранізлівы скрыгат аварыйных тармазоў. Адскоквае ў кусты перапалоханы кот, што паляваў на галубоў. Пагладжвае казліную бародку гарбун. Спынілася кола.

Алеся з Раманам сядзяць у люльцы. Сядзяць нерухома — так яны абое знясілелі за час гэтага шалёнага, дурнога вярчэння. Натомленыя, быццам пражылі цяжкія гады свайго жыцця. Сядзяць. І ў гэтую хвіліну нечым падобныя да тых дваіх старых у разбітым чоўне на пляжы. Сапраўды падобныя, падумала Алеся, нават не зварухнуўшыся. Не мела сілы.

## 10

У гарадскім універмазе «Энергетык» сёння людна. Надыходзіць канец красавіка, гандляры павінны «выкінуць» усё тое, што ўжо перабрана, раздзелена між сваімі, а плана ўсё адно няма, дык няхай раскупяць, што засталося, пабочныя. Гэта стала ледзь не інстынктам жыхароў горада: зайдзі ў апошнія дні месяца ў магазін, а раптам нешта там ды «выкінулі». Быццам уся прамысловасць краіны працуе толькі дзеля таго, каб перад першым чыслом пера-

крыць свае страты на імпартных таварах. Дзівацтва, але з ім звыкліся.

Аднак яшчэ рана. Ва універмазе яшчэ не думаюць пра план, бо толькі дваццаць пятага красавіка. Пакупнікі расчаравана швэндаюцца з паверха на паверх, прадаўцы пазяхаюць і менцяць языкамі. Толькі ў культтаварах даюць туалетную паперу, па пяць рулонаў у адны рукі. Людміла ўжо ўзяла сабе дзесяць скруткаў і сядзіць у сваёй секцыі, схаванай у глухім закутку гандлёвай залы, дзе надпіс папярэджвае: «Тавары прадаюцца толькі на здадзеныя лекавыя травы».

Над Людмілінай галавою вісяць імпартныя скураныя польты і пінжакі, лёгкія спартыўныя курткі, штанысафары з вялікімі накладнымі кішэнямі, красоўкі на тоўстай падэшве, модныя мужчынскія кашулі з стаячым каўнерыкам, жаночыя блузкі з рукавамі-крыламі. Тыя дэфіцытныя рэчы, у якіх цяпер багата хто ў горадзе ходзіць, але ў продажы іх ніколі не бывае. Быццам усе, хто модна адзяецца, усё лета толькі тое і робяць, што на карачках збіраюць у лясах і на сенажацях лекавыя травы, каб затаварыць усе аптэкі горада атамнікаў.

На відным месцы вісіць прэйскурант, што дапамагае збіральніку траў, ахвотніку модна і прыгожа адзецца, зарыентавацца ў сітуацыі і не задаваць прадаўцу лішніх пытанняў.

«...Чарнобыль — 7 кап. за 1 кг
Палын горкі — 8 кап. за 1 кг».

Цана скуранога пінжака — 550 руб. Думай сам, колькі трэба сабраць таго палыну горкага і чарнобылю, каб купіць скуранку. Думай.

Людзі ўсё-такі падыходзяць да прылаўка, за якім сядзіць Людміла, з захапленнем аглядаюць замежныя тавары, прыцмокваюць языкамі і расчаравана адыходзяць, галасна каменціруючы:

— Планету трэба падстрыгчы пад нулёўку, каб купіць скураное паліто ці дублёнку. І карэньчыка не застанецца ні чарнобылю, ні румянку, ні чыстацелу...

— Схадзі ў аптэку, купі румянку, завары і выпі. Кажуць, добра супакойвае пасля наведвання гэтага аддзела.

— Толькі па рэцэпце доктара. Толькі з круглаю пячаткаю. І то... у канцы месяца.

Людміла прывыкла да такой балбатні, таму не ўмешваецца ў яе, каб не псаваць нерваў.

Работу сваю яна любіць, чакала, пакуль звольніцца месца якраз у гэтай секцыі, праз якую мае выхад на патрэбных ёй людзей. Людміла забяспечвае таварамі аптэчных работнікаў, а тыя выдаюць ёй даведкі на нібыта прынятыя травы. Не распрададзеныя за квартал рэчы потым «спісваюць» у звычайны распродаж, і іх рэалізуе сама Міровічава.

Цяпер яна яшчэ здалёку пазнала Васіля Галабародзьку — намесніка галоўнага інжынера атамнай, свайго земляка з Гарадзішчаў, які да нядаўняга часу выкладаў у мясцовым тэхнікуме, вучыў студэнтаў фізіцы, а вось цяпер забралі яго на атамную. Калісьці, яшчэ ў Гарадзішчах, Васіль упадаў за Людмілаю, цалаваліся ў кустах, над рэчкаю. Ён, тады ўжо дзесяцікласнік, настырна дамагаўся яе, васьмікласніцы, і яна ледзь не аддалася яму (ад згадкі пра тую ноч, пра цёплую і слізкую капу саломы з-пад камбайна Людміла выпростваецца і ўцягвае жывот, міла ўсміхаецца). Але тады ўвесь час паміж копамі шмыгалі грузавікі, бліскалі фарамі камбайны, яна баялася, што нехта са сталых гарадзішчанцаў застукае іх, данясе маці, расплешча па вёсцы, а Васіль не ажэніцца з ёю, і перамагла сябе. Калі выходзіла замуж за Міколу, нават хвалілася, як дала адлуп Галабародзьку.

Васіль яшчэ і да гэтага часу намагаецца маладзіцца. Адзенне, стараннае галенне, кароткая прычоска — выглядае ўпэўнена і нават піжоніста. Асабліва цяпер, калі зморшчкі пад вачыма прыкрываюць сонечныя акуляры «слязінка» фірмы «Ягуар».

— Гамеапатам ядзерны прывет! — сказаў Васіль і моцна ўпёрся рукамі ў прылавак.

— А я, Васіль, ужо нервуюся: пераказала табе твая сакратарка ці забылася, варона? Двойчы звоніла...

— Засядалі ў дырэктара. Звольніўся, на машыну і — да цябе. Ну і спякота сёння, хоць на пляжы валяйся...

— Ты прасіў нешта моднае і лёгкае на лета? Дастала табе фінскі «вікенд», камплект: штаны і кашуля з кароткімі рукавамі, з пагончыкамі, гесткаю, накладнымі кішэнямі. Пяцідзесяты размер, трэці рост. Штаны завужаныя. Сто сорак шэсць — і цвіці на здароўе. Добра выглядаеш. Некалі... дзесяцікласнікам... у жніво... дужа на дзяўчыну быў падобны, саладжавы быў з твару, а цяпер — здалёку відаць — мужчына! Жанчыны з часам брыдчэюць, а вы мужнееце. На жаль, ужо для малодшых за нас...

— Не насміхайся, Людка. Ты сказала і забудзеш, а я

такі прыдурак, што буду думаць пра тое, што сказала, ці нават і паверу. А нашто яно мне?

— А нашто мне брахаць, Васіль? Ды яшчэ табе, якога некалі, даўно-даўно, любіла. І не забылася дагэтуль...

— Сама вінаватая. І гаворыш так, нібы нам па семдзесят і мы згорблена коцім каляскі са сваімі праўнукамі...

— Ой, Васіль, Васіль! Я дачакаюся-такі, пакуль ты пастарэеш і дзяўчаты будуць казаць табе «дзядзька»... А цяпер... бачыш: прычапурваю цябе для іх... Заплаці ў касу і бяры свой «вікенд» ды пакажыся ў ім на мае вочы, пагляджу, ці дагадзіла земляку і даўняй маёй зазнобе.

— Ды трэба ў ашчадную забегчы, я ж з работы.

— Не перажывай. Я за цябе ўнясу грошы. Да заўтра, бо касцюм трэба забраць цяпер, бо рэвізоры шастаюць...

— Толькі заўтра вечарам, Людачка, позна вечарам, бо запускаем адзін гістарычны ў атамнай энергетыцы эксперымент на чацвёртым, Міколавым, блоку. Дамо сто мільёнаў кілават дзяржаве. З нічога сто мільёнаў хачу выкруціць. Я нават спецыяльна на заўтрашнюю начную змену стаўлю твайго Міколу. І таму, што ён дасведчаны атамны воўк, і таму, што твой муж, мой землячок. Заўтра ўночы будзе самы адказны этап, таму, сама разумееш: грошы, узнагароды, прэса. Правяду з імі інструктаж і заскочу да цябе, каб аддаць грошы і паказацца ў «вікендзе». Пад'еду да дома, тройчы прасігналю. Калі заступіць Міколава вахта. Раней ніяк не змагу...

Да прылаўка падышлі дзве жанчыны, сталі разглядаць тавары, вывучаць цэны.

— Будзе вісець гэта дублёнка, пакуль моль не паточыць. За ўсё жыццё столькі траў неназбіраеш.

— Тая моль, што жывіцца ўсім гэтым, залятае са службовага ўвахода...

Людміла зразумела, што ім не дадуць дагаварыць з Васілём, падала яму скрутак.

— Дзякую вам за травы. Сабралі на модную сарочку, цяпер старайцеся на красоўкі. Чарнобыль, горкі палын, любі-мяне-не-пакінь... Якраз пара...

— Вось і дамовіліся. Заўтра пасля работы пачынаю выконваць вашу параду. Раней, хоць забіце, не выйдзе.

Беручы скрутак, Васіль непрыкметна для дзвюх пабочных паціснуў Людміле руку.

## 11

Нядаўняя смерць Івана Міровіча — маленькі заканамерны і ўвогуле звычайны эпізод у жыцці малалікай неперспектыўнай вёскі Гарадзішчы. Памёр чалавек — то і па ўсім, а нам жыць, пакуль жывецца, пакуль касілка пайшла па суседніх вёсках. Пра Івана забыліся, бо настала ранняя вясна, трэба як бачыш абсеяцца, пабяліць хату да святаў, прыбраць у двары, прыгатавацца да сустрэчы гасцей, што наедуць з горада.

Вёска садзіць агароды, ставіць найвышуканыя пудзілы на пасеяным, каб адпалохваць лясное птаства, якое чародамі кружыцца над вёскаю, цэлячыся ў кожнае пасеянае зернетка.

— З пудзіламі Гарадзішчы не такія ўжо і неперспектыўныя! Лічы, насельніцтва вырасла ўдвая! За некалькі дзён! — крычыць брыгадзіру Капшуку, які нёс на пахаванні калгасны сцяг, птушніца Ева, але ён не чуе, бо адзін глушнік ад матацыкла прагарэў і гулка страляе чорным дымам, а да таго ж дужа трасе яго на каранях. Праехаў туды, у бок брыгаднай канторкі, куды выклікаў Андруху.

З каляскі яго матацыкла выглядаюць тонкія рулончыкі чырвонай матэрыі. На носе свята, а ён яшчэ не абнавіў нагляднай агітацыі ў сваёй брыгадзе. А спытаюцца. І дадуць па шапцы.

Андруха, які капаў яму Міровічу (не далакоп ён, а рознарабочы ў брыгадзе, выконвае, што скажуць, ідзе, куды пашлюць), ужо чакае Капшука каля канторкі. Сядзіць на вышараванай лаўцы, твар яго памяты і апатычны, на кожнай скуле па дзве глыбокія складкі, і таму рот у Андрухі нібы ўзяты ў дужкі, як і ўсё, што ён гаворыць. Аднак у Гарадзішчах да яго прывыклі і не заўважаюць гэтага. Абапёрся спіною на старую сасну, што расце пры ўваходзе ў канторку, глядзіць на фанерны шчыт «Брыгадныя навіны», на якім вісіць аб'ява, напісаная ад рукі на другім баку кінаафішы: *«Увесь перыяд сяўбы аб'яўляецца месячнікам суцэльнай цвярозасці. За парушэнне штраф 200 руб. Савет старэйшын брыгады».*

Андруха чытае, быццам хоча знайсці граматычную памылку, але не можа, бо нязграбныя літары скачуць у яго перад вачыма: учора памаглі з Міронам адной бабе раскідаць гной на агародзе — расшчадрылася так, што Мірон і на работу не выйшаў.

Падкаціў Капшук, наўздагад дастаў з каляскі два чырвоныя рулоны.

— Памажы, пакуль ветру няма, бо рукі, бачу, дрыжаць — не ўтрымаеш.

Над уваходам у кантору яны нацягнулі чырвонае палотнішча: *«Што ты даў Харчовай праграме?»* — прыбілі вялікімі цвікамі. Пакуль брыгадзір шукаў месца яшчэ аднаму лозунгу, Андруха перадыхнуў і выжлукціў у канторы кварту цёплай, застаялай вады з эмаліраванага бачка. Ідучы да выхаду, адчуў, як вада хлюпаецца ў жываце.

*«Працаўнікі брыгады! Своечасова справімся з сяўбою!»* — яны нацягнулі між сасною і электрычным слупам, становячыся на сядзенне матацыкла. Прыкруцілі дротам, вецер не парве.

Вось цяпер адчуваецца, што набліжаецца свята, што ў Гарадзішчах рыхтуюцца да яго.

Брыгадзір адышоўся на другі бок вуліцы, палюбаваўся сваёй работай. Вяртаецца да матацыкла, зручна сядае на яго і, не запускаючы матора (не дасць, зараза, пагаварыць, так трашчыць левы глушнік!), гукае Андруху:

— Дзела ёсць на паўсотні! Ужо семдзесят тры курыцы пахапала з птушніка лісіца. Семдзесят тры! А сёння досвета лічба дайшла да сямідзесяці шасці! Бухгалтар ужо актаў не прымае пра падзеж.

— А я тут пры чым? Не быў на куратніку ўжо дзён з пяць, яшчэ на мінулым тыдні камбікорм завозіў...

— Не бойся, не пра цябе куры сакочуць. Сёння якога? Дваццаць чацвёртага красавіка. Бяры ружжо, і першага мая каб і лісінага хваста не засталося ў раёне брыгадных зямель! Гані іх на цэнтральную сядзібу, на Трылісы, і смалі наўздагон, каб ажно поўсць лісіная ляцела, каб пеўні за імі, як ваўкі, гналіся! Пачынай сёння, Андруха! Час ідзе, не баўся!

Раўнуў матор матацыкла, і брыгадзір паімчаў па пясчанай дарозе, а далей па каранях, на якіх яго трэсла, нібы малярыйнага. Адной рукою ён прытрымліваў рулоны ў калясцы, а таму матацыкл кідала яшчэ больш.

Андруха вяртаецца да «Брыгадных навін», шарыць па кішэнях пінжака, дастае агрызак алоўка і каля сумы штрафу за парушэнне сухога закону «200 руб.» дамалёўвае спераду «1». Адступаецца на некалькі крокаў і задаволена чытае: «Штраф 1200 руб.».

— Ды я сягоння лісіную гару накладу за пяць чырвонцаў. А на шкурах які навар будзе! Зараз такую кана-

наду зраблю, што і сабакі з вёскі паўцякаюць. Толькі б дзе апахмяліцца, каб палец на курку не дрыжаў... У Міровічаў ёсць, але старая не дасць, а глушэц Хведар без яе дазволу не рызыкне...

Брыгадзір вешае на франтоне птушніка яшчэ адзін лозунг. Яму дапамагае старая птушніца ў шэрым халаце, прыгаворваючы:

— Тамака, у пакінутай хаце, яны логвішча зрабілі на гарышчы. Неяк іду з фермы, а яны вачыма свецяць з кожнай дзіркі ў саломе. А тут яшчэ цвінтар збоку. Страшна стала. Лісіныя вочы мільгаюць, дарогу мне падсвечваюць: ідзі, ідзі, баба, не мяшай нам ловы пачынаць, гэта і чакаем, пакуль пратупаеш дадому. Там, на гарышчы, мусіць, цэлая база курынага пер'я, Іване. Ты б наведаўся туды. Знаеш, колькі падушак паявіцца ў Гарадзішчах? А пярын?

— Да святаў навядзём парадак, цётка. Будзе і пер'е, і пух, і футра. Птушніцам лісіныя каўняры на паліты выдам, як уніформа будзе. Праўда, трэба і бухгалтару адзін выдзеліць, каб спісаў яшчэ з паўтара дзесятка курэй на падзеж, бо з мяне вылічаць...

Брыгадзір спускаецца па лесвіцы на зямлю, кідае ў каляску малаток і цвікі. Не перакасіў, і чытаецца добра: «Перабудова — справа ўсіх і кожнага!»

Не, усё ж нармальна. І памяшканне птушкафермы прычапурылася...

— Ты ж пра мяне, старую, не забудзь, брыгадзір, як будзеш каўняры лісіныя дзяліць. Я абыдуся, а Вітцы ў горадзе якраз. Не забудзь, а то я цябе знаю...

## *12*

Марыя садзіць цыбулю-сеянку на сваім агародзе, садзіць па-гарадзішчанску, як яшчэ мама яе навучыла: соўгаецца на каленях на шырокай, кінутай на ўжо пасеяны радок дошцы і кешкаецца ў наступным радку, каб не затаптаць зямлю, каб хутчэй прарастала. Перастаўляе дошку далей. Яна ў чорным мужчынскім пінжаку, у цёплых суконных бурках, у шэрай хустцы.

Цераз мяжу таксама садзяць агарод. На невялічкай лапінцы зямлі, адведзенай пад пасадку (дачнікам наразаюць толькі пяць сотак), блізка дзесятка чалавек: мужчыны ў плаўках, жанчыны ў купальніках, у стракатых каптурах, белацелыя, тлусценькія, галасістыя. Не работа — пляжны кірмаш.

Гэта дачнікі, якія купляюць за бесцань у Гарадзішчах старыя пакінутыя хаты. Будавацца яны тут не хочуць, усялякімі праўдамі і няпраўдамі афармляюць закінутыя котлішчы, прычапурваюць жытло і гарцуюць тут з віскатлівымі гасцямі з вясны да восені. Прынаджваюць іх лес і рэчка, цішыня і свежыя «вітаміны» з агарода. Гэтых наезджых кіяўлян, якія імкнуцца да зацішку і патрыярхальшчыны, у Гарадзішчах ужо амаль паўвёскі. Варта прайсціся вуліцамі, і гэта абавязкова кінецца ў вочы: каля старой, аселай у пясок драўлянай хаціны пад саламаю — прасторная, сабраная са шкла і дзюралю, са шкляным дахам пабудова, майстэрня мастака ці скульптара. З-за штораў выглядаюць гіпсавая галава Сакрата, рэпрадукцыя карціны Босха, што паказвае шумнае застолле. Пучок леташніх, засушаных аксамітак-чарнабрыўцаў, пэндзлі ў глечыку.

Іншая сядзіба: запэцканыя, даўно не мазаныя сцены, а ліштвы вокан, уваходныя дзверы размаляваны алейнымі фарбамі з нейкай агрэсіўнай безгустоўнасцю, страката, быццам бы з выклікам. На дзвярах вялізны замок з сакрэтам. Побач капітальны, нядаўна збудаваны бетонны гараж на дзве машыны. Каля капітальнага гаража хаціна выглядае як бедная родзічка.

Яшчэ на адной хаце, разлезлай, як стары грыб, вісіць пад страхою ліст тоўстай медзі, на якой старанна выгравіравана: «Тут жыве і адпачывае анколаг П. Красоўскі і заслуж. раб. культуры Кавальская Святлана Фёд. з Кіева». У двары, па суседстве з сядзібаю Міровічаў, стаяць два «Жыгулі» з кіеўскімі нумарамі, на вяроўках сушацца старыя коўдры, гуцульскія лежнікі, абшараванае, абцягнутае чырвоным аксамітам таўстаногае крэсла з падлакотнікамі, на ім дрэмле пакаёвы пудзель з банцікам на шыі. Штучны, пластмасавы сланечнік «у час цвіцення» ўваткнуты ў зямлю каля самага парога. На голлі каліны, што расце на прызбе, абы-як развешана жаночая бялізна рознага колеру... Выстаўка. Без наведвальнікаў.

Чаму ўсё гэта бачым у Гарадзішчах? Нашто яны нам, гэтыя аматары моднай цяпер не толькі сярод інтэлігенцыі, але і сярод мяшчан «настальгіі» па зямлі, цішыні, вёсцы, адзіноце?

Яны ў пераважнай большасці не нясуць у гэтыя неперспектыўныя вёскі ні культуры, ні душы, ні новых звычаяў, а толькі дачную бесклапотнасць, маральную стомленасць ад вялікіх гарадоў і цывілізацыі. Прыязджаюць

падзарадзіць свае душэўныя акумулятары, але вёска сёння сама вымагае гэтай падзарадкі, духоўнага допінгу. Яны тут чужыя, без каранёў, без сапраўдных жыццёвых турбот. Іхняя дачная пабыўка не робіць вёску больш сучаснай, жыццяздатнай — наадварот, падкрэслівае яе неперспектыўнасць.

Таму Марыя, бадай, не звяртае ўвагі на сваіх суседзяў, ігнаруе іх, хоць яны і знаёмыя, бяруць у яе малако, прывозяць у аддзяку гарадскі хлеб ці торт. Марыя дапамагае ім у агародняй рабоце. А на пахаванне Івана яны не прыехалі, хоць і ведалі — вось-вось памрэ стары. Той самы стары, які па просьбе сына Сашкі напытаў гэтую хату фізіку-атамніку, дапамог абмінуць закон, каб праз сельскі Савет аформіць куплю. На Фёдара запісалі хату. Не пабаяліся, паверылі.

— Марыя Ігнатаўна! — гукае галапузы фізік, успёршыся на рыдлёўку.— Аляксандр Іванавіч прыедзе з Масквы на дзевяціны?

Марыя прытвараецца, што не чуе яго. Ён падыходзіць бліжэй, да мяжы, цяпер яна вымушана пачуць:

— Паслязаўтра дзевяць дзён? Мы тут палічылі — паслязаўтра. Будзем! Можа, трэба транспартам пасабіць ці... вунь колькі жаночых рук, каб вячэру прыгатаваць... Кажыце, не саромейцеся. Іван Трыфанавіч гэту хату напытаў, аформіў, можна сказаць, купіў мне дачу...

— Сашка надта прасіў — бацька і памог. А з памінкамі спраўлюся, мае ж прыедуць заўтра. Абыдземся родзічамі. Дзякаваць богу, нямала...

— І Аляксандр Іванавіч будзе?

— Паехаў толькі што, дык нашто з-за свету зноў вяртацца?

— Мы ўсё адно будзем у вас. Можна, я і сяброў сваіх запрашу? Іван Трыфанавіч варты таго, каб я затрымаўся на дзень... з таварышамі. Ох, які чалавек быў! Якога сына падарыў навуцы! Дык застанёмся, Марыя Ігнатаўна...

— Хаты не выседзіце, харчоў не пераясце, а звычай у нас хрысціянскі: хто хоча, той і прыходзіць. Дзела ваша... Дзверы будуць адчынены.

Маладзіца ў купальніку, мабыць фізікава жонка, абмахваючыся ад духаты пляжнай шапачкай, бадзёра апавяшчае сваіх пасядзельцаў:

— У суботу вячэру гатаваць не трэба! У суседзяў на памінках пагуляем. Райскае жыццё на дачы! Калі б толькі есці нехта гатаваў...

## 13

Фёдар пасе Маўру ў лесе, непадалёку ад цвінтара. Лясная траўка ледзьве зазелянелася, праткнуўшы леташняе лісце, ціха рассунуўшыігліцу і крохкі хмыз. Маўра цельная, але яшчэ доіцца. Магчыма, і апошнія дні, бо малако густое, тлустае. Пад праламанаю ў многіх месцах агароджаю цвінтара зазелянеў чарнобыль. Гарчыць ён карове, але, апрача крапівы і чарнобылю, іншага наедку няма. Трэба пратрымацца на гаркоце, тады і салодкае падрасце.

Фёдар намотвае доўгую вяроўку на рогі карове, і яна — усё роўна як у кароне. Хлопец расшпільвае стары кіцель афіцэра-пажарніка з адпоранымі пагонамі, вымае з-за пояса бліскучую сякерку, мацае пальцам яе лязо. Фёдару пастаянна трэба нешта рабіць. Агледзеўшыся вакол, ён пачынае правіць старую, прагнілую ад дажджоў, паваленую скацінай агароджу вясковага цвінтара.

Гэпае сякера, каркае, шырока разяўляючы дзюбу, стары крук на пажухлым ад дажджоў і сонца крыжы, чамусьці раве карова ў бок горада, але Фёдар гэтага не чуе, аднак усё бачыць. Завярнуўся над Гарадзішчамі, над Фёдарам верталёт рыбааховы, але Фёдар не чуе рову яго матора, прыбівае новы акораны кол замест старога, зламанага. Моцна заціснуў моцнымі, каранастымі, што яшчэ не ведалі бормашыны, зубамі некалькі цвікоў.

Не, ён не адчуў нейкай асаблівай душэўнай позвы, каб ладзіць гэты, забыты жывымі, паркан, проста ён нервуецца, не знаходзіць сабе месца без работы, нешта мусіць мець у руках, толькі б яны былі заняты справаю. Можа, ён вось так і ратуецца ад сваёй нематы і глухаты?

Аднак найменшы Міровіч, які нарадзіўся з гэтым цяжкім недахопам, усё-ўсенька бачыць і памятае. Забраўшы слых і голас, прырода надзяліла яго выключнаю відушчасцю і памяццю. Не такая яна ўжо і шчодрая, прырода, як мы пра яе думаем, назіраючы за прыгожай жанчынай ці мужчынам, кветкай ці райскім кутком зямлі. Значыць, у іншым месцы нехта ці нешта абакрадзены. А жыць трэба ўсім.

Фёдар заўважыў, што на бліскучы абух сякеркі ўспаўзла кволая мурашка. Ужо замахнуўшыся, каб убіць цвік, ён прыпыняецца, бярэ пальцамі мурашку і выпускае яе ў куст чарнобылю. Зрэшты, Фёдар адзіны, хто заўважыў тут, сярод дрэў, Наталку пад час бацькавага пахавання. Заў-

важыў і сказаў пра гэта маме, бо толькі яна разумее амаль усё, што ён хоча ёй сказаць.

Паправіўшы агароджу могільніка, Фёдар дастае са скураной афіцэрскай сумкі, якую носіць цераз плячо, кавалачак магазіннага хлеба, металічную конаўку, надойвае з вялікага Маўрынага вымя малака. Палуднуе, але ўвесь час назірае за мурашкамі, што спрытна снуюць у траве.

Заўважыў і лісіцу, што рудым полымем шуганула ў заraснікі могільніка. Заўважыў і жураўліны ключ у глыбіні неба, і пчалу, што села на цёплае вымя Маўры, і... Фёдар бачыць усё, на што іншы проста не зверне ўвагі.

Дапамагаючы сабе сякеркаю, разграбае пясок вакол куста лясной каліны. Ужо пазначылася яе карэнішча, хлопец асцярожна доўгімі тонкімі пальцамі вызваляе кожны карэньчык, каб адняць ад куста адно сцябло. І старая каліна будзе расці, і маладая прымецца.

Фёдар садзіць тонкую калінавую сцяблінку, што ўжо абліпла пупышкамі, у галавах бацькавай магілы. Выграбае рукамі ямку, носіць конаўкаю з лужыны, што засталася на дарозе пасля дажджу, ваду, загортвае пяском.

Папраўляе металічны, з пафарбаванымі бляшанымі лістамі і кветкамі вянок на бацькавай магіле.

За бацькаваю магілаю невялікая пустка, пакінутая для пашырэння цвінтара, бацькава магіла крайняя і самая свежая, каля яе дзікая абложная зямля, на якую кладзецца Фёдар. Наеўся, разамлеў пад сонцам, павінен перапачыць. Ляжыць ніцма, а пальцы раскінутых рук прамацваюць маладую траву, леташнi крохкі кавыль, малачай, які ўжо зацвіў, выкінуўшы жоўты вяночак, цупкі атожылак чарнобылю.

Пад парканам цвінтара кленчыць на пярэднія ногі, а тады кладзецца, цяжка Заваліўшыся на бок, цельная Маўра. Прынюхваецца да зямлі, заплюшчвае вочы і з асалодаю жвакуе, памахваючы каранаванаю галавою.

Ці Фёдар задрамаў, ці, можа, натаміўся, ці проста чамусьці пачулася яму вось тут, на цвінтары: невыразны, прыглушаны мужчынскі голас, якога не чуў ніколі. Не чуў, не ведаў, але гэты голас меў яго родны бацька Іван:

«Там у вас, Хведзька, усё ж такі лепей. Нават у вайну, у моры і пошасці».

І зноўку мёртвая, стэрыльная цішыня, якая заўсёды стаіць у Фёдаравых вушах.

## 14

Зміцер Палівода злаваўся: сам захацеў, дамогся тэрміновай нарады ў дырэктара і — прайграў яе, лічы, з сухім лікам. Паражэнне было відавочнае. Ад яго засталася не гаркота, а навальная, тупая злосць, якую вылечваў цяпер, едучы са станцыі, тузаючы свайго падрапанага «Масквіча». Ні ў чым яно не вінавата, гэта цярплівае жалеза, якое служыць яму вось ужо колькі гадоў, але Змітро торгаў слізкую педаль акселератара, ціснуў на тармазы, рызыкоўна абышоў на закрытым павароце парожні бензавоз і сказаў сабе: жалеза не вінавата! Не збыткуйся! Адпомсціць.

Ён спыніў машыну, выключыў матор, заплюшчыў вочы, каб супакоіцца. Адкуль гэта благое прадчуванне? Не быў ніколі прымхлівы, апіраўся на ўчэпістыя рацыяналістычныя довады, не цярпеў «настроевых феерверкаў», іранізаваў над людзьмі завельмі эмацыянальнымі, якія гавораць «з прыдыхам», а сёння сам ускочыў у пастку, у якой душа яго пачувалася аголенаю, безабароннаю.

Чаму вось ужо колькі дзён ён не знаходзіць сабе месца ні дома, ні на працы? Калі гэта пачалося?

Тае начы, калі маленькая Ніна цяжка трызніла, закочвала вочы і сутаргава корчылася ад прыступу нейкай хваробы, а яны з Сафіяй ніяк не маглі даць рады, бездапаможна нахіляючыся над яе ложачкам. Ужо былі паверылі, што гэта хвароба адчапілася ад дзіцяці, казалі дактары, што ў немаўлят гэта бывае часта, але з часам праходзіць. Берaглі яе ад найменшага нервовага напружання, патуралі ёй ва ўсім, а хвароба проста прытаілася і ўдарыла зноў. Ніна адышла надоўга ў нейкі іншы свет, у нейкія далёкія страхі і запечанымі губамі паўтарала:

— Не закопвайце мяне ў зямлю, бо там надта холадна! І ваўка, ваўка праганіце ад мяне. Тата, татачка, вунь ён — ваўчына, у цябе каля ног!

Змітро парываўся выклікаць «хуткую дапамогу», але Сафія сказала: нават усемагутны педыятр іхняга горада Сівaконь — не перашкодзіць гэтай хваробе, трэба перачакаць.

Ніначка трызніла ўсю ноч, канвульсіўна білася на ложку і прасіла яе не закопваць. Гарачымі невідушчымі вачанятамі яна глядзела на тату, і Змітро не мог вытрываць гэтага позірку.

За што ім з Сафіяй такая кара? Чым правініліся яны?

Сафійчына мама казала, каб павезлі дзіця да шаптухі, выгналі пярэпалах, але Змітро не верыць у прымітыўныя забабоны, не хоча аддаваць дзіцячую душу нейкай затурканай бабе: пайдзі даведайся, што яна там будзе рабіць з ёю. Сіваконь не ведае, як дапамагчы, а баба — тым больш.

На ранку Ніна ўсё ж заснула, а Змітра абселі кепскія прадчуванні. І не адпускаюць вось ужо трэці дзень. Ці ўвогуле адпусцяць?

Чамусьці зноў і зноў памяць вяртала да той першай сустрэчы з Сафійкай.

Позна ўвечары патрульныя аб'язджалі ваколіцы горада, які тады не меў цэнтра, а адразу за будынкамі пачынаўся лес. Іхнюю ўвагу прыцягнула вогнішча ў глухіх кустах між соснамі. Там, каля сатлелых галавешак, міліцыянеры і знайшлі дзвюх п'яных дзяўчат у купальніках. Іхнія хлопцы ўцяклі, са страху захапіўшы ўсю адзежу. Вось так, у адных толькі купальніках, дзяўчат прывезлі ў выцвярэзнік, і дружыннікі збягаліся паглядзець на гэтае дзіва. У выцвярэзніку не было жаночага аддзялення, і міліцыянеры, маладыя хлопцы, сяляне, якія толькі што вярнуліся з арміі, шумна пацяшаліся, трымаючы Сафію з сяброўкай у перапоўненым дружыннікамі і патрульнымі пакоі дзяжурнага. Ад холаду, ад нахабных мужчынскіх позіркаў, ад павольнага ўсведамлення таго, што сталася, дзяўчаты прыходзілі ў прытомнасць.

Якраз тады зайшоў Палівода. Яго найперш уразіла, як адна з іх (Сафія) намагаецца далонямі закрыцца ад незнаёмых вачэй, як дрыжыць яе ніжняя, надтрэснутая пасярэдзіне, губа, як доўгімі чорнымі валасамі яна закрывае свае вочы і грудзі. Дзяўчына была надта падобная на яго меншую сястрычку, і Змітро ажно скалануўся ад такога ўражлівага падабенства.

Ён скінуў з сябе кашулю, падышоў да Сафіі, дапамог ёй надзець.

— Гэта мая меншая сястра! Прыехала ў госці, з вёскі. Першы раз выпіла шампанскага, даверылася, дурніца, гарадской шпане. Цяпер будзе ведаць! Дома атрымае на ўсе будучыя цвярозыя гады!

Міліцэйскаю машынаю дзяўчат падвезлі да інтэрната, дзе Змітро меў асобны пакой, ён вынес ім свае штаны і куртку, каб маглі па чарзе праслізнуць інтэрнацкім калідорам.

Сяброўка выспалася, выкупалася пад халодным душам

(Змітро досвіткам пайшоў на змену), надзела Змітравы штаны і футболку і назаўсёды знікла з горада.

Сафія не мела ў чым уцячы. Змітрава апратка была на ёй карыкатурна вялікая, штаны спадалі і брындаліся па падлозе, дый хварэла яна цяжка, нудзіла, кружылася галава. Яна праз сілу мыла падлогу, мыла Змітру бялізну, варыла боршч, зноў доўга адлежвалася.

Змітро памятае, як спяшаўся ён тады дадому, ведаючы, што яго чакаюць (чамусьці верыў, што Сафія не ўцячэ ад яго). Яе вочы вінавата і пакорліва сачылі за ім, калі хадзіў па пакоі, калі вячэраў, калі сядзеў за сталом, пішучы сваю дыпломную.

Яна саромелася папрасіць, каб купіў ёй хоць якое-небудзь адзенне, а ён не рабіў гэта наўмысна, ведаючы, што гэта стане простым намёкам на развітанне.

Змітро баяўся нават наблізіцца да яе, каб не падумала пра што благое: маўляў, выручыў з бяды, але... не задарма. Яна ўсё больш і больш падабалася яму, але ён суцішаў у сабе гэтае захапленне. Адседзеўшы да поўначы над дыпломным праектам, слаў вялікі салдацкі кажух, прывезены з Мурманска пасля службы ў арміі, слаў яго наводдаль ад Сафійчынага ложка. Прытвараўся, што спіць, прыслухоўваючыся да яе дыхання, яе ўздыханняў, паскрыпвання старых спружын у канапе, калі яна варухне сваім целам.

Сафія вымыла шторы, зашпаклявала дзіркі пад плінтусамі, зацерла ў сценах дзіркі ад цвікоў (умела гэта рабіць — скончыла будаўнічае вучылішча ў Палтаве), падладзіла краны на кухні, прачысціла каналізацыю, аскелкамі шкла пацыклявала вышмарганы паркет.

У вучылішчы быў у яе хлопец, не любіла яго, сустракалася, каб не сядзець у пакоі адной, калі дзяўчаты разбягаліся на спатканні. Хлопец пакруціўся каля яе, не адчуў узаемнасці і знайшоў сабе «цялушачку» сярод новага папаўнення вучылішча.

Сюды, у горад атамнікаў, яе запрасіла сяброўка на канікулы, пазнаёміла з таварышам свайго хлопца, вось і паехалі ў лес, каб пасядзець каля вогнішча. Пілі нейкае салодкае, ліпкае віно проста з горла пляшкі. Піць нагбом Сафія не ўмела, сказаць пра гэта пасаромелася і заглынула таго зелля нямала. Памятае сіпкае дыханне вогнішча, прыдуркаваты смех сяброўкі, нудотлівы смак цыгарэтнага дыму... А пасля — вочы міліцыянераў у аддзяленні міліцыі...

Аднае ночы Змітро пачуў, што Сафія ўстала, падышла да яго логвішча, сцягнула з яго дэмісезоннае паліто і накрыла сагрэтаю яе целам коўдраю. Ён не спаў, але чамусьці соладка пацягнуўся ўсім целам і абняў ватную падушку. Яе дрыготкія пальцы дакрануліся да яго шчакі, і ён не заўважыў, як пацалаваў іх і сапраўды заснуў.

О, колькі часу збегла з тае пары!

Ён такі купіў Сафіі адзенне. Купіў вясельную сукенку, белыя туфлі з банцікамі і пляшку шампанскага, якую выпіў сам, бо яна баялася і прыгубіць гэтай гідоты.

Цяпер у іх ужо двое дзяцей, трохпакаёвая кватэра, Сафія завочна канчае інстытут культуры. Змітро ведае, што сёй-той і дагэтуль за вочы пустазвоніць, маўляў, Палівода падабраў сабе жонку ў выцвярэзніку, падабраў амаль голую, і яна ажаніла яго на сябе, калі б не зрабіла таго, ён бы і дасюль халасцякаваў. Змітро ж пераканаsucc, што жонку яму паслаў сам бог, вось толькі за што за якое?

Чаму на малую Ніну ўпала такое цяжкае насланнё? Чаму не адступаецца?

Змітро зноў запусціў матор, выехаў на бетонку. Сонца пякло па-летняму, аб шкло білася, пакідаючы плямкі, матылькі. Калі ехаў на станцыю — не прыкмячаў гэтага, а цяпер — нават такая дробязь — гняла таксама.

Ехаў наўздагад, вырульваў на пясчаную дарогу, якую густа абступалі вербалозы, што лупцавалі бакі «Масквіча» ўжо аблупленым голлем.

Колькі разоў спынялі на станцыі рэактары, колькі разоў ён уласнаручна выводзіў першы, другі, трэці блокі з рабочага рэжыму на расхаладжванне для планавай прафілактыкі — і ніколі не адчуваў найменшага страху. Было толькі максімальнае напружанне, а потым — радасная палёгка.

Чаму ж цяпер, калі трэба спыніць чацвёрты блок,— такая цяжкая хмара стаіць над душою? Прыступ хваробы ў дачушкі? «Не закопвайце мяне, бо там холадна! Татачка, адгані ваўка!» Хіба ад гэтага?

Можа, ён перабольшвае сваю трывогу? Перакладвае свой настрой і свае прадчуванні на тое, што адбываецца на станцыі?

Ён ужо некалькі разоў заяўляў Чыжову: так эксплуатаваць станцыю нельга, гэта дабром не скончыцца. Гаварыў, але — толькі нажыў сабе ворага ў яго асобе. Пры-

стойненька ўсміхаецца, але злосць затаіў, чакае нагоды, каб ударыць.

Вось і сёння, сабраўшы нараду ў сваім кабінеце, Чыжоў вяльможна пазбыткаваўся над ім, над яго, Зміровымі, засцярогамі.

Змітро спыніў машыну на пакатым беразе поплаву, які нядаўна вызваліўся ад паводкі, разуўся, закасаў калошы і зайшоў у цёплую ваду.

У яго памяці зноў і зноў паўставала нарада ў дырэктаравым кабінеце.

...Бачыў, як сядзіць у масіўным скураным крэсле тоўсты і нязграбны, з учэпістым і прыцэльным паглядам Чыжоў. Нядаўна на атамную прыязджаў інжынер з Ленінградскай атамнай, колішні аднакурснік Чыжова, і расказаў, што на першым курсе Іосіф быў Чыжом, але прозвішча гэта было немілагучнае, яго дражнілі «чыжыкам», вось ён і прадоўжыў у сваім пашпарце яго на адзін склад, і яно стала важчэйшае і саліднейшае. Амаль усе на АЭС ведаюць, што ён даканаў свайго папярэдніка, калі яшчэ быў галоўным інжынерам. Наводзіў шматлікія камісіі на неабвергнутыя факты, бо дырэктар часта любіў рызыкаваць (было ў яго натуры нешта хлапечае і прастадушнае, умеў ён у просценькай, нават «круглай сітуацыі» нажыць сабе ворагаў, гаворачы ўсё, што думае).

Нажыўшы сабе такім спосабам вопыт, Чыжоў, узначаліўшы АЭС, падбіраў памочнікамі людзей старанна правераных, аддадзеных яму, надзейных. Адразу спыніўся паток ананімак, жыццё на станцыі пайшло роўна і спакойна, у міністэрстве энергетыкі гэтым задаволены, сам міністр двойчы прыязджаў сюды на паляванне і нават забіў у мясцовых лясах лася.

Калі Чыжоў узнімаецца са свайго крэсла, можна заўважыць, як ён падмошчвае туды тоўстую скураную падушку, якую, ідучы дадому ці едучы ў камандзіроўку, хавае ў шафу.

За доўгім прыстаўным сталом сядзеў выкліканы на тэхнічную нараду галоўны інжынер Юрый Ігнатавіч. Вылучэнец Чыжова, Іосіф вядзе яго ўжо амаль дзесяць гадоў, запрымеціўшы яшчэ радавым інжынерам. Цяпер яны дружаць сем'ямі, у іхніх стасунках няма і шчылінкі, куды б мог улезці нейкі хітры прайдоха ці правакатар. Юрка ў дырэктары не рвецца, атрымлівае асалоду ад цяперашняй вышыні, пра якую нядаўна яшчэ і думаць не мог. Вось толькі пакінуць яго на час свайго адпачынку Іосіф не ры-

зыкуе, адпачывае паблізу, каб прыняць рашэнне, калі вынікне такая патрэба. Нервуецца Юрка, губляецца, стрымгалоў імчыцца па нараду. А вось недругаў не нажыў, пад час выбараў у парткам ён адзіны, каму не кідаюць ніводнага «супраць».

Сядзеў каля галоўнага інжынера яго намеснік па навуцы Васіль Галабародзька, якога Юрка выхапіў у мясцовым тэхнікуме: яны суседзі па дачы, маюць агульныя таямніцы. На вакантную пасаду інжынера па навуцы міністэрства хацела прыслаць нейкага кандыдата навук з Белаярска; хто ведае, што ён за чалавек?! А Васіль свой, правераны па ўсіх тэстах.

Сяргея Нечыпарэнку, начальніка змены, якая павінна заступіць сёння на начную вахту, выклікалі на нараду. Сяргей яшчэ тыдзень таму быў законны Наталчын муж. Можа, яны, сварачыся і на кароткі час мірачыся, каб пералаяцца зноў, так бы і жылі, каб не з'яўленне нейкага пажарніка-франта Рыгора. Пляткараць, што Нечыпарэнка, перахварэўшы ў дзяцінстве на свінку, не здатны прадоўжыць свой род, але хто там ведае, хто палезе ў гэту далікатную таямніцу, можа, гэта жаночая, Наталчына, віна? Пачакалі б яшчэ... Не, ужо разбегліся, хоць і жывуць у аднапакаёвай кватэры «праз шырму» з брызенту тае палаткі, у якой правялі свой мядовы месяц на беразе рэчкі, бо жылі ў перанаселеных пакоях розных інтэрнатаў. Змітро ўглядаецца ў іхнія твары і ўсё больш пераконваецца: яны ўжо ўсё вырашылі, пра ўсё дамовіліся і дадуць яму ўрок сваёй аднадушнасці. Ведаючы гэта, ён усё ж мусіў сказаць усё, што думае.

— Варта было б весці пратакол, Іосіф Кузьміч, пакольні ёсць «іншадумцы»,— сказаў Змітро, і на яго твары не варухнуўся ніводзін мускул.

— У сітуацыі, звязанай з рызыкай, пратакол — гэта шырма...— адказаў дырэктар, а галоўны інжынер, Юрый Ігнатавіч, прадоўжыў і развіў ягоную думку:

— Шырма для перастрахоўшчыкаў і тых, хто хоча адседзецца ў закутку, а то і ігнаруе перабудову.

— Вы мяне не абразіце, не старайцеся, Юрый Ігнатавіч. Эмоцыі, а тым больш дэмагогія тут не да месца,— сеануў і паварушыў жаўлакамі.

Галабародзька (ён у лёгкім фасоністым касцюме «вікенд») выпрастаў ногі пад сталом, пакруціў залаты пярсцёнак на пальцы і прамовіў:

— Сапраўды, эмоцыі цяпер не да месца. Яны будуць

тады, калі мой эксперымент пацвердзіцца і мы заявім пра яго якраз да дзесяцігоддзя пуску АЭС...

Ч ы ж о ў. У вузкім коле я магу паведаміць, што з дакладных міністэрскіх крыніц знаю: указ пра высокую ўзнагароду нашай станцыі ўжо ўзгоднены на ўсіх узроўнях, а пры такой узнагародзе не забываюць і пра людзей. Тым больш што блок чацвёрты ў нас чысцюн і разумнік.

Ю р ы й І г н а т а в і ч. Не толькі ягня, а і талісман. Шчаслівы талісман яшчэ з моманту закладкі фундамента. Шэф будаўнікоў узнёсся на ім, хапануў Героя, і тым, хто ніжэй, таксама перапала. Вязучы блок. Запусціўся, як экспартны «Жыгуль» у магазіне. Я яму веру, як сабе самому.

Ч ы ж о ў. А што думае маладзейшае пакаленне, будучыя галоўныя інжынеры АЭС, а можа, і дырэктары? Га, Сяргей? — Дырэктар шматзначна ўсміхнуўся Нечыпарэнку, і той пачырванеў ад такой увагі, зашморгаў носам і стаў зашпільваць зялёную тэніску на ўсе гузікі.

П а л і в о д а. Паабяцайце Сяргею яшчэ кватэру і ордэнчык, і застануся ў апазіцыі толькі я. Але ў мяне такі хрыбет, што яго толькі ламаць — не гнецца, Іосіф Кузьміч. Тое, што задумаў Галабародзька, а вы з галоўным інжынерам падтрымліваеце,— авантура. Мы проста забыліся, што маем справу не з цагельняй або гарадской кацельняй, а з рэактарам! Не талісман ён, а зверына ў клетцы. Усе мы на высокім узроўні цывілізацыі надта расслабіліся, пажынаючы плады сваіх безаглядных перамог над прыродаю. Помсліваю і няўступліваю прыродай, дарэчы. Нельга рэактар эксплуатаваць так, як сялянскі воз. Чым вышэй мы паднімаемся па спакуслівых прыступках НТР, тым з большай вышыні даводзіцца часам падаць. Вы ж добра разумееце, што для правядзення эксперыменту Васіля Галабародзькі (так вы ўжо яго называеце для прэсы і рапарту) прыйдзецца адключыць аварыйную аўтаматыку. Тады ўсё будзе залежаць ад асобных людзей, ад Паліводы, Нечыпарэнкі, аператара Міровіча... Нехта з нас можа памыліцца... Сутнасць вашай спробы — расхаладзіць рэактар за кошт інерцыі турбагенератара. Што гэта дае энергетыцы? Капейку эканоміі. Я прыкінуў — сапраўды мізэр, таму ёй ніхто дасюль не займаўся. А ступень рызыкі?

Г а л а б а р о д з ь к а. Ці-кава вы ставіце пытанне: калі ніхто не займаўся, значыць, неперспектыўна. Дзяленнем ядра да Рэзерфорда таксама ніхто не займаўся, не

цікавіўся. Да Эйнштэйна пра тэорыю адноснасці ніхто нават не здагадваўся. Ваша пазіцыя, Змітро Карнеевіч, не толькі артадаксальная, але і шкодная.

Палівода. Але яна выключае рызыку і авантурызм. Жаліо і Ірэн Кюры, Нільс Бор і Курчатаў рызыкавалі, атрымлівалі дозы апраменьвання, ад гэтага дачасна памiралі. Але яны ставілі на карту ўласнае жыццё. Толькі сваё асабістае і больш нічыё. Як Пастэр і Забалотны, як, урэшце, Гагарын. Тут жа... вы ведаеце, што я маю на ўвазе. Не хачу быць злым прарокам, але ігнараваць гэта, я лічу...

Юрый Ігнатавіч. Ну-ну, Змітро, смялей...

Палівода. Так, так, зла-чын-ствам. Тым больш што эксперымент не ўзгоднены з канструктарамі, вучонымі, у главку міністэрства.

Юрый Ігнатавіч. Вы ж ведаеце, што ўзгадненне зойме паўгода. Не забывайце, у які гістарычны момант мы жывём: увесь дзяржаўны механізм перажывае інтэнсіфікацыю, прыдаецца рух рэзервам, ад нас патрабуюць дзеяння, а не слоў, пошуку, свежасці ў падыходзе да сваёй справы.

Палівода. Для гэтага трэба, прынамсі, навесці парадак на станцыі. Хоць бы элементарны.

Юрый Ігнатавіч. Гэта ўжо вас занесла на слізкае. На вашым блоку парадак дакладна такі, як і на ўсёй станцыі, а вы старшы інжынер блока. Вось і пачынайце. Хто вам перашкаджае?

Палівода. І пачну, хоць рэактар існуе ў сістэме станцыі, на якой шмат хто забыўся, што мы не ў школьнай фізічнай лабараторыі здабываем іскру паміж двума шарыкамі, а маем справу з рэактарамі, у кожны з якіх закладзены дзесяткі тон урану. А ў нас толькі некалькі сапраўдных дазіметраў і групы дазіметрыстаў укамплектаваны, як жаночая трупа Галівуда: усе па пратэкцыі.

Нечыпарэнка. Мяне сюды не замешвайце. Наталка ўжо не мая жонка...

Галабародзька. Фізкабінет — не ў мой агарод камень. Так, я выкладаў фізіку ў школе, потым у тэхнікуме. Я тэарэтык і таму намеснік Юрыя Ігнатавіча па навуцы. Аляксандр Іванавіч Міровіч — таксама тэарэтык, а спраектаваў рэактар.

Чыжоў. Хопіць! Завяліся, як бабы на кірмашы. Да выключэння рэактара з энергасістэмы роўна гадзіна. Як дырэктар бяру адказнасць на сябе, але кожны з нас адказ-

вае за свой участак. Васіль Пятровіч! Чаргуеце з начною зменаю, праводзіце інструктаж. Вы на блоку пастаянна. Сяргей! Твая змена ўкамплектавана?

Нечыпарэнка. У адпачынку аператар энергацэха. Замена ёсць.

Чыжоў. Мы з Юрыем Ігнатавічам на хатніх тэлефонах. Ну, ні пуху ні пяра!

Палівода. Нават калі Галабародзькаў эксперымент удасца, помніце — гэта дылетанцкая авантура, якую вы санкцыяніравалі.

## 15

Дугою выгнулася Дошка гонару на цэнтральнай плошчы горада.

Мастак з бародкаю і фатограф, абвешаны апаратамі, абнаўляюць і мяняюць партрэты да святаў. Ляжаць на зямлі партрэты, якія назусім зняты з Дошкі, бо гэтыя людзі не апраўдалі нечых спадзяванняў і авансаў. Яны глядзяць на прахожых паліняла і вінавата. Замест іх выстаўляюць фотапартрэты іншых. Усе месцы ўжо запоўнены. Толькі адно пустуе, пад ім подпіс: «Міровіч Мікола Іванавіч, ст. аператар ЦЦ АЭС».

— А перафатаграфаваць з гэтага старога партрэта не можаш? — спытаўся мастак, пасмоктваючы люльку.

— І гэты ўжо з пропуска паразняты.

— Піжоніцца? Апускае вочкі? Ці ігнаруе пашану?

— А хрэн яго знае! Двойчы сёння быў у яго дома, жонка сказала: пайшоў фатаграфавацца, а дачка цвердзіць, што пайшоў памагчы таварышу човен прасмаліць і матор перабраць. Шукай ветру ў полі!

— У гарсавеце мне бараду абсмаляць, калі не закончу гэты іканастас. Апошні тэрмін — сёння.

— І маіх пяць рублёў за партрэт Міровіча ляснуць. Рэтушні як след, падмалюй, і — шабаш!

— Гэта табе лёгка. Націснуў на кнопку апарата, вылецела птушачка — і гатова, а мастаку ведаеш колькі трэба гібець над партрэтам? Каб падобны быў, каб падабаўся ўсім. Я не рамеснік, я дызайнер.

— За гэта і плацяць больш. А я пабіраюся: там пяцёрку, там траячку. Пасмешышча. Хоць сёння пашчасціла: сфатаграфаваў жонку гэтага Міровіча. Паабяцала красоўкі сыну дастаць, ва універмазе гандлюе. Міровіч мізэрненькі, а баба ў яго на ўсе сорак градусаў.

— Трэба канчаць. Давай рэтушну твайго прошанага Міровіча, так і быць. Горшы, як ёсць, не будзе. Ведаеш, што ён пастаялец на Дошцы, то павінен мець яго негатывы ў запасе. Адлаві яго і наляпай...

Мастак сеў на бардзюр, паклаў цвёрды Міколаў партрэт на калені і заспяшаўся падмалёўваць яму бровы, губы, зменшыў залысіны, падкінуў у позірк іскрынак мужнасці і аптымістычнай бадзёрасці, закругліў пад апошнюю моду каўнер сарочкі. Пільна ўглядаецца ў аблічча Міровіча, і яму здаецца, што той нават заахвочвае яго: не шкадуй фарбы, каму не хочацца быць лепшым, чым ёсць?

## *16*

Несамавіта лямантуюць жабы ў вясновых завоінах рэчкі. Здаецца, усе яны выпаўзлі на ўвагрэтыя сонцам берагі і штодуху крумкочуць: перазімавалі! Выжылі! Гатовы прадоўжыць свой жабін род насуперак усім вашым дустам, гербіцыдам, смярдзючым сцёкам, якія вы зліваеце ў нашы воды! Жывём самі і вам не перашкаджаем: жывіце!

Круціцца «чортава кола» ў вечаровым небе над дрэвамі парку. Развяваюцца на ветры стракатыя дзявочыя падолы, русыя косы, мігцяцца запаленыя цыгарэты, успыхваюць смех, выгукі, ускрыкі, як толькі калыска падымаецца ў найвышэйшы пункт і нібы замірае, каб зноў паляцець уніз. Якія захапленні можна перажыць толькі за пяцьдзесят капеек!

Імчацца, выгінаючыся лазіною, размахваючы рукамі, па-заліхвацку абмінаючы прахожых у той апошні момант, калі тыя ўжо гатовыя прыняць балючы ўдар, джынсавыя хлопчык і дзяўчынка на бясшумных ролінгах, што запаланілі горад, пацясніўшы веласіпеды. Аматараў ролінгаў лаюць, махаюць ім услед кулакамі, а паспрабуй дагані! Яны, як прывіды, нячутна выныраюць перад вачыма і, як здані, знікаюць, балансуючы гнуткім целам.

На дзвярах мадэрнай гарадской гасцініцы, як заўсёды, вісіць выцвілая таблічка: «Свабодных месцаў няма». Прыезджыя хутчэй здзівіліся б, калі б не было гэтага надпісу. Аднак усё адно заходзяць у хол, стаяць у чарзе да адміністратара.

На светлавым электронным табло, размешчаным на даху кінатэатра «Сучаснік», бягуць мігатлівыя радкі: «Заўтра, у суботу, гарадскі крос! Здаровых целам і духам чакаем

на цэнтральнай плошчы, каля фантана. Усе прызавыя месцы вольныя. Форма адзення дэмакратычная. Збор у 10.00. Увага! На старт!»

На балконах і лоджыях сохнуць дзіцячыя паўзункі, мужчынскія сарочкі, жаночыя сарафаны і халацікі. Прыгрэла, трэба асвяжыць пасля зімы летняе адзенне. Тым больш што заўтра субота, за ноч высахне.

Сярэдзінаю рэчкі пралятаюць асветленыя агнямі, агучаныя музыкаю «Ракеты» з пасажырамі. За імі, за іхнім адлюстраваннем у вадзе назіраюць з вокан і балконаў набярэжнай. Зрок згаладнеў за зіму па гэтым вечаровым відовішчы, якое абуджае ў душы мілую прагу вандраванняў, плавання, плёскату хваль, мільгання зялёных берагоў з адзінокімі парачкамі каля яркіх палатак, хлапчукамі, што галышом купаюць коней... Як мала трэба для шчасця, а мы не ўмеем ім карыстацца...

У прасторным двары гарадскога шпіталя стаяць у рад мікрааўтобусы «хуткай дапамогі». Падфарбаваны нумары, зарыхтаваны ўсе зімовыя грахі на кузавах — ужо прайшлі вясновы тэхагляд у аўтаінспекцыі. У адной з машын дзверцы расчынены з абодвух бакоў, бо прылёг падрамаць ад безрабоцця шафёр, які не месціцца на сядзенні, а хочацца выцягнуцца на ўвесь рост, вось і тырчаць з кабіны яго вялікія ногі ў кедах. Як шлагбаўм між дзвюма «хуткімі дапамогамі».

Свеціцца атамная за горадам, на яе карпусах павесілі ўжо святочную ілюмінацыю, якая то загараецца, то гасне, гэта яе пульсоўнае святло дасягае горада, яго вуліц і будынкаў. Нібыта вось так і дыхае станцыя — роўна, спакойна выпісваючы бездакорную кардыяграму. Самой атамкі не відно, а прытушанае адлегласцю ззянне струменіць з-за небакраю малочным марывам.

У першым мікрараёне, у будынку, самым блізкім да атамнай станцыі, пранізліва заплакала немаўля, і плач яго вырваўся праз адчыненыя балконныя дзверы на апошнім паверсе. Завіхнулася маці над калыскаю, але дзіця крычыць яшчэ мацней. Жанчына ўзяла дзіця на рукі, захадзіла з ім па хаце, завесіла шторы, каб непрывычнае мігатлівае святло ілюмінацыі не раздражняла немаўляці. Плач сцішыўся. Яшчэ. Яшчэ. Ужо чуваць толькі плёскат вады, што набягае ў ванну.

Каля высотнага будынка з лоджыямі-пакоямі, з шчыткам перагаворнага прыстасавання на ўваходных дзвярах стаіць зялёная «Волга», каля якой завіхаюцца Чыжоў, га-

лоўны інжынер і іх жонкі. Усе ў імпартных спартыўных касцюмах, гаваркія, узбуджаныя. Набіваюць у багажнік валізкі з наедкамі, курткі, вялікі брызент, мангал на шашлыкі. Іх жонкі такія падобныя між сабою, што ў прыцемках іх лёгка пераблытаць нават мужам.

Чыжоў ужо сядзіць за рулём, пабач аддыхваецца пасля беганіны Юрка, чакаюць, пакуль зачыняць багажнікі і зоймуць свае месцы жонкі.

— Так несвоечасова ўлезла гэтая аблэнерга са сваім жабраваннем: падтрымайце нас яшчэ двума мільёнчыкамі. Так ужо шчабятаў Барыс, так ужо да мяне падлешчваўся. Ведаў бы, што гэта ён, не паднімаў бы трубкі! Улялёскаў мяне, затапіў мядамі, чорт залатазубы. А што зробіш, і ён часта нас выручае... Не хацелася трапляць на яго залатыя разцы...— сказаў і сплюнуў праз адчыненае акно машыны дырэктар.

— Мы танцавалі — вы назіралі, цяпер вы спявайце, а мы паслухаем. Так растлумачвае падобныя жыцейскія выпадкі мой цесць. У вас, Іосіф Кузьміч, лёгкая рука — усё будзе прыгожа, як у мульціку. На змену заступіць Галабародзька. І Палівода. Змітро любіць на ветры хвост распушыць, стаць у апазіцыю начальству пры старонніх, выпусціць пару, але справу ведае. Ненашмат горш за мяне. Натура казліная, але кацёл у яго варыць. На ўсякі выпадак сядуць на «аварыйку».

— Не хацелася б... Плёткі пачнуцца... Смурод...

— Дырэктар Г, Іосіф Кузьміч, як немаўлятка ў пялёнках, і не прачнецца, калі стануць расхалоджваць.— Юрка перадаў жонцы паношаны партфель з пляшкамі, убачыўшы, што яна ўжо ўселася ў машыну.

— Хопіць вам ужо пра тую праклятую станцыю і работу! І ў мой дзень нараджэння будзеце балбатаць цэлы вечар?! — прытворна надзьмулася жонка дырэктара.

— А чаго ты вартая без маёй станцыі? Нават у твой дзень нараджэння! — агрызнуўся Іосіф Кузьміч, чыркнуў стартэрам і выкаціў «Волгу» на вуліцу. Яна ўлілася ў паток машын і хутка згубілася ў ім, толькі дымок у двары яшчэ доўга віўся, бо было ціхае надвор'е.

## *17*

Людміла прыйшла з работы ў добрым настроі, зусім не стамілася, быццам і не стаяла цэлы дзень за прылаўкам, а збірала грыбы ў лесе. Дзіва што! Мела тры радасці:

павярнула да сябе Васіля «вікендам». Нешта такое... даўняе, прыемнае ёй, наблізіла Галабародзьку, а чалавек ён вядомы ў горадзе, можа, пасобіць з кватэраю ці кааператывам Алесі. Заўтра прыедзе, пабачым... Сфатаграфавалася за прылаўкам у розных позах, пры розным асвятленні, у дублёнцы, у скураным паліце, у спартыўнай куртачцы, увогуле, ва ўсім, што налазіла на яе з «травяных» тавараў секцыі. І, нарэшце, Раманавы тата і мама (яны даўно разбегліся, маюць свае сем'і, малых дзяцей, Раман для іх ужо апалы яблык) далі сыну па сотні ў гонар дэмабілізацыі ягонай, і Людміла як будучая цешча праз сваю секцыю прыадзела ўчарашняга салдаціка. Цяпер і не скажаш, што колькі дзён таму назад Раман яшчэ грукацеў падкаванымі кірзавікамі ў казарме і ўскідаў руку да скроні пры сустрэчы з кожным афіцэрам. І ўсё гэта за адзін рабочы дзень. Ажно не верыцца. Ой, памылілася! З Галабародзькам сустракалася ўчора. А нібыта сёння («Ой, Васіль, Васіль! Я такі дачакаюся, пакуль ты пастарэеш і дзяўчаты будуць называць цябе дзядзькам...») яго пальцы дакрануліся да яе рукі, калі браў скрутак з «вікендам». Прыедзе сёння, бо грошы вінен. Дый я не такая з выгляду, як у люстэрку пры яркім святле...

Кватэра Міровічаў цесная, бо захламлена мэбляю, усё роўна як яе расставілі абы-як, часова. Слепяць вочы крышталь і поліэтылен, якім накрыты канапа і крэслы (відаць, што дарагія, але не вышморгваюцца). На сцяне, абклеенай шпалерамі з выявамі каранькоў кніг — гэта нагадвае салідную бібліятэку,— вісіць рэпрадукцыя Рэпінавых «Запарожцаў» і вышыты Людмілаю яшчэ перад замужжам певень-галаган, падобны на гусара ў ваяўнічай позе. На стале вазачка з папяровымі кветкамі, але не нашымі, а з ГДР. Трэба памацаць рукамі, каб пераканацца, што не сапраўдныя. Ды хто ж будзе правяраць?

Алеся стаіць каля выхаду з кватэры. Яна ў джынсах, у цёплай спартыўнай куртачцы, у белым берэце, прышпіленым да валасоў дэкаратыўнай шпількаю. Адзеты ў новы маладзёжны касцюм а-ля космас, сталёвага колеру, стаіць на парозе Раман, пасе вачыма кожны Алесін рух, а Людміла задаволена сочыць за яго захопленымі позіркамі. Калісьці і я была такая, і Мікола гэтаксама раскісаў... Было і сплыло...

— Гуляйце, дзеці, пакуль маеце ад таго радасць. Не вечная яна, гуляйце... Дарослыя. Алесю я трымала на кароткім ланцугу, пакуль ты, зяцёк, служыў. Цешцеся ўво-

лю. Вясна. А вясною нават молат у кавадла ўлюбляецца... Гуляйце хоць да світанку сёння, бо заўтра паедзем у Гарадзішчы на памінкі. Вось што я прыдумала: вазьмі, Рамане, у дзядзькі Грыцька матацыкл, скажы, што я прасіла і дазволіла, ды гайсаніце сабе за горад. Дарослыя.

Алеся здзіўлена зіркнула на маму: што гэта з ёю сёння? Бабуля Марыя кажа: «Святыя ладзьбавалі і з вядра мёдам частавалі...» То трымала на школьным рэжыме, а то сусветная шчодрасць...

У дзвярах побач з Раманам з'яўляецца Мікола. Бледны яго твар абпаліла за дзень сонца, нават залысіны пачырванелі. Вінавата ніякавее, намагаючыся прыхаваць заляпаную смалою робу. Няхай бы Людміла хутчэй накінулася на яго, выдала ўвесь свой рэпертуар! У яе ажно два мужы: адзін на Дошцы гонару, другі — на рэактары, ды яшчэ і наракае, калі большасць сяброўак ва універмазе не маюць ніводнага...

Ды Людміла чамусьці не звяртае на яго ўвагі, папраўляе берэт Алесі, цалуе дачку ў шчаку і праводзіць іх з Раманам аж на лесвіцу:

— Ды не надта гані матацыкл, Рамане! Самае дарагое даручаю табе.

— А куды нам з Алесяю спяшацца? Будучыня і так належыць нам! — адказаў Раман, пераскокваючы праз некалькі прыступак адразу.

Цяпер Мікола збянтэжыўся яшчэ больш, уцягнуў шыю, намагаецца адкалупнуць са скроні прысохлую смалу, што прыліпла да няголенай скуры.

— Не гневайся, Людачка. Скажы ўсё, што назапасіла, я хутка папрашу прабачэння і буду збірацца на змену. Гарача сёння будзе на рэактары... Думаў, за некалькі гадзін управімся з лодкаю, а там работы гібель...

— Што мне да таго? Вось не адпачыў, а на змену ідзеш... сам кажаш. Фатограф цябе шукаў... на Дошку... Нават на работу да мяне прыходзіў. Абразіўся. Яму начальства заданне дало. Мыйся. Я табе зараз дзеруноў усмажу. Такіх, як маці твая гатуе.— Людміла з жалем агледзела мужа з ног да галавы (на міг прыгадала Галабародзьку ў сонечных акулярах, старанна паголеныя шчокі, белая сарочка, акуратны вузельчык гальштука, мілая, інтрыгальная ганарыстасць і даступнасць адначасова), уздыхнула і пайшла на кухню.

Мікола яшчэ больш збянтэжыўся ад неспадзеўнага сямейнага раю, якога ўжо даўно не заўважаў і не дужа ве-

рыў, што ён можа быць у яго хаце. Ды вось маеш! Цешся тым, пра што марыў!

Памыўся, пагаліўся, пераадзеўся ў цёмна-сінія, вялікаватыя на яго штаны, белую тэніску, зачасаў валасы, прыкрыўшы адну залысіну. Радасць і ўпэўненасць у сабе раптам зрабілі яго сапраўды сімпатычным, свежым з твару чалавекам. Людміла падала дзеруны, але за стол не села.

— Бачыш, жонка, як добра, калі... усё добра. Калі я адчуваю сваю віну і ты не сварышся на мяне — разумею, што вінаваты ўдвая больш. І ўлюбляюся ў цябе зноў. Як тады, у Гарадзішчах, на беразе рэчкі... на мяккай атаве... калі вуж прапоўз скрозь твае валасы і ты не ведала пра гэта... Адбуду вахту, шаснем па магазінах, закупім усё і — да маці. Хочаш, уночы зваджу на тое самае, наша месца?

— Заказала дзяўчатам з гастранома сухой кілбасы, парніковых агуркоў, сыру, шынкі. Не забудзь, што трэба забраць твой касцюм з хімчысткі. Прадала дырэктару нашага быткамбіната японскую хустку жонцы (а можа, палюбоўніцы, што мне да таго?), дык прынялі касцюм і паабяцалі на заўтра пачысціць. І новыя туфлі заўтра вазьму табе, паабяцалі ў абутковым аддзеле. Мама такі ўвапхнула мне ў кішэню Сашкавы грошы. Разбагацеем — паможам і маме. Бачыш, як падрыхтавалася да памінак па тваім бацьку. Калі б вось так усе: і Адарка, і Грыцько...

— Ты ж такая харошая сёння, Людачка. І таму ўсё іншае не мае значэння. Вахта, праўда, надта цяжкая, нервовая. Калі Галабародзька сапраўды выключыць аварыйную аўтаматыку— рэактар будзе трымацца толькі на нашых нервах. Нам дастанецца. А слава пойдзе Галабародзьку.

— Ну і няхай! Табе славы той хопіць! А ў атамных справах разбірайцеся самі, я ў іх нічога не разумею. Галабародзька, пагаворваюць у Гарадзішчах, братам табе... па бацьку прыходзіцца...

— Усе мы, Людачка, браты, калі нараджаемся, але потым жыццё нас разводзіць на такія адлегласці, па такіх далёкіх дзялянках, што і не пачуеш адзін аднаго. Як на варожых пазіцыях. Так што, можа, і брат... Ты, Люда, калі добрая, вельмі прыгожая. Запомні гэта.

Мікола зайшоў у дзіцячы пакой, дзе ўжо спіць Тарасік, спіць, схаваўшы галаву пад падушку. Так ён робіць заўсёды, з гэтага ўжо ніхто не дзівіцца ў хаце Міровічаў. Затое ў бабулі, у Гарадзішчах, спіць, як усе. Можа, гарадскі гул перашкаджае яму і яго кволенькаму сэрцу?

Увесь дзіцячы пакой размаляваны каляровай крэйдаю на белых шпалерах, што не баяцца вады, можна сцерці. Над яго ложачкам намалявана велізарная дзівосная кветка, падобная і на атамны грыб, і на расцвілую вадзяную лілею, з якой вылузваецца двухгаловы змей-гарыныч.

— Можа, Мікола, павезці яго ў Трылісы, да бабкі-варожкі, кажуць, пярэпалах выганяе за адзін сеанс. Бачыш, што выдумляе? А падрасце — будзе жанчын на парканах маляваць. Бяда з ім. Закончыцца навучальны год — і паедзем у Трылісы. Нядорага бярэ баба.— Людміла папра-віла коўдру і крышку адсунула падушку, каб лягчэй дыхалася дзіцяці.

— Можа, спачатку ў Балотню, а не ў Трылісы? Да Марыі Прымачэнкі. Настаўніца вазіла іх да яе на экскурсію... Нагледзеўся і малюе... Хай ацэніць старая мастачка, бо што я ў гэтым разумею,— адказаў Мікола і пагартаў яшчэ некалькі Тарасікавых малюнкаў: ваўкі з рагамі, кветкі з разяўленымі ратамі, лісцікі ў выглядзе чалавечых вачэй, дрэва пра нешта крычыць некалькімі сваімі дупламі...

Узяў дзённік, разгарнуў яго. «Размаляваў сцяну ў класе пасля ўрокаў. Затрымала, каб выцер». І подпіс класнага кіраўніка.

Мікола распісаўся ў дзённіку, доўга разглядае кветку-грыб над ложкам, малюнкі, што ляжаць на стале. Людміле гэта надаела, і яна выйшла прыбраць посуд пасля вячэры.

Адкуль гэта ў малога, думаў Мікола, ніхто з радні Міровічаў не мае здольнасці да малявання, нават почырк ва ўсіх курыны. Дый Людмiліны бацькі не алоўкам, а плугам і матыкаю выводзілі толькі простыя лініі на полі, а Тарасіка не адпускае, мучыць, як насланнё... Яму надта ж захацелася ўбачыць сына, асцярожна падняў падушку — і на яго глянулі расплюшчаныя Тарасікавы вочы.

— А праўда, паедзем да Марыі Аксенцьеўны? Да бабкі-варожкі не хачу...

Мікола пагладзіў сына па нахохленым чубіку, кіўнуў галавою. Хлопчык вызваліў рукі з-пад коўдры, гарачліва і моцна абняў тату. Накрыў галаву падушкаю і не варушыўся.

Мікола пастаяў над сынавым ложкам, уздыхнуў і на дыбачках выйшаў з пакоя.

— Іду я, Людміла! Пара! Нечыпарэнка прасіў быць раней. Дачакайся Алесі і спі. Усё будзе добра, бо ты сёння добрая і прыгожая ў мяне...

— Хацела табе новы касцюм купіць на тыя грошы, што мама дала, але імпарту не было, а пераяслаў-хмяльніцкага ці чарнігаўскага браць не хачу.

— Думаеш, я не разумею? Ты б хацела мець лепшага, чым я, мужа. Гэта натуральнае жаданне, якое жанчыны асабліва востра перажываюць у твае гады, калі маладосць ужо ззаду. Ведаю, не такі я. Вось і сёння хацеў загадзя прыйсці з прычала, прыгатаваць табе вячэру, сустрэць каля універмага. А праклятая лодка вымучыла нас да позняга вечара, і пакінуць нельга, бо што пра мяне падумае таварыш? Не мог я яго пакінуць, а іду дадому і каюся: такі трэба было сустрэць цябе. Вось такі я... двоякі. А прыгатаваў бы вячэру, ішоў бы з табою дадому — і дакараў бы сябе, што пакінуў Ігара з недасмаленаю лодкаю. А можа, прывабнасць жыцця якраз у тым, каб мучылася, працавала і грызла нас наша сумленне?

— Вазьмі вунь колькі дзеруноў, з'ясі на змене. Пасля святаў абяцаюць нам нарэшце тэлефон паставіць. Тады зажывём...

## 18

Марыя здаіла карову, падаслала ёй саломы, каб дашчаны насціл не муляў бакоў, бо Маўра цельная, цяжкая. Прычыніла дзверы ў хляве. Цяпер сядзяць удваіх з Фёдарам каля стала, п'юць сырадой з казённым хлебам.

— Цяжка мне нешта, Федзечка. Адбуду дзевяціны, а далей і не ведаю...— ціха прамовіла мама. Нашто голасна, калі Фёдар па вуснах чытае яе мову? — Горкае малако ад чарнобылю, ды што паробіш, калі іншай травы яшчэ няма? Можа, цукрам падсалодзіш сабе малако, Федзя?

Сын адмаўляецца, запярэчліва пакруціўшы галавою, згортае крошкі хлеба са стальніцы і з маху кідае іх у рот. Сярод стала гарыць свечка, хоць у пакоі запалена святло. Маятнік насценнага гадзінніка нястомна даганяе свой цень і не можа яго дагнаць.

Люстэрка, устаўленае ў дзверцы адзежнай шафы, дагэтуль зацягнута хусткаю з часу пахавання.

З боку цвінтара прагрымела некалькі выстралаў.

Пад акном, у кустах, нешта зафыркала, заварушылася. Марыя пачула гэтыя гукі і здагадалася: іхні вожык, што зімуе ў стозе сена пад хлявом. Наліла ў місачку малака і вынесла, паставіла пад кусцік чарнобылю.

— Падрамаць бы з гадзінку, бо ці вытрываю заўтра... Не засну. Сэрца некуды падае і падае. Лепш стану корпацца, хутчэй ноч мінецца. Мне б толькі пераажыць яе, гэту дзевятую ноч... без Івана. Ды дзяцей дачакацца ў сваёй хаце...

Стаіць на сходках ганка, Фёдар у хаце. Але ўсё адно яна гаворыць уголас.

## *19*

Адарка парабіла ўсю хатнюю работу ў сваёй кватэры, прыбранай на любы яе вясковай душы смак: вышываныя ручнікі і над вясельным фотаздымкам Сцяпана з першаю, пакойнаю, жонкаю, і над фотакарткаю, дзе яна, Сцяпан і двое яго дзяцей — каля гарадскога фантана, калі ён прывёз яе ў горад; сухія макаўкі ў паліваным глечыку; стары, з маленькім экранам тэлевізар, які аддала ёй Людміла, купіўшы сабе каляровы; вялікая вязанка цыбулі і турэцкага перцу вісіць над уваходам у цесную кухеньку. Усё прыбрала, памыла, чакаючы, можа, усё-такі прачнецца Сцяпан. Заснуў у крэсле, храпе так, што ажно трасуцца макаўкі ў глечыку. Хоць і п'яны вярнуўся, але добра, што дома, душа спакойная. Цурок сліны звісае з падбародка, вось-вось дасягне сарочкі. Адарка хапае ручнік і выцірае Сцяпану бараду. Вось і добра, зноў ёсць работа, памыю ручнік.

Які ні ёсць, а мужчына ў хаце, падумала Адарка, вылечыць бы яго ад дурману, і можна век дажываць, дзяцей на ногі ставіць. Маю-такі мужа, а як угамоніцца — дык лепшага і не трэба.

Расчуленая гэтай думкаю, яна разувае Сцяпана, асцярожна сцягвае з яго рабочыя штаны, сарочку. Худы, аслаблы, вялы, Сцяпан нагадвае цяпер Ісуса пасля Галгофы. Адарцы становіцца яшчэ больш шкада яго, набірае ў пластмасавы тазік цёплай вады, мые Сцяпану ногі, выцірае іх чыстаю анучкаю. Падстаўляе пад яго рукі і, штосілы напружваючыся, пераносіць соннага мужа на канапу, накрывае коўдраю. Дастае з халадзільніка графін з квасам, ставіць на тумбачку каля Сцяпанавага ўзгалоўя, прыносіць шклянку і гасіць святло.

Прачыняе дзверы ў пакой, дзе моўчкі прытаіліся Руслан з Лідаю.

— Думала, вы паснулі. Як тата...

— Ужо едзем да бабулькі, да Пушка, да Маўры? — спытаўся Руслан, саскочыўшы з ложка.

— Едзем, але трэба пакупацца і паспаць,— сказала Адарка, узяла дзяцей на рукі і панесла ў ванную.

Купае Руслана і Ліду. Абаіх адначасова. Дзеці ў час купання нязвыкла паслухмяныя, пакорлівыя і маўклівыя, быццам правініліся перад мамаю тым, што бацька зноўку прыйшоў дадому нецвярозы. Доўга крычаў, лаяўся, соўгаў табурэткамі, не хацеў вячэраць, а потым страшэнна хроп... Вось няхай яны падрастуць, няхай падрастуць...

## 20

Рыгор у сваёй халасцяцкай келлі збірае на стол. Спяшаецца, бо вось-вось павінна прыйсці Наталка. Увіхаецца і злуецца на сябе, як хлопец, што рыхтуецца да першай сустрэчы з жанчынай і ад гэтай сустрэчы залежыць яго далейшая доля. Ці мала іх тут перабывала, у гэтых сценах? Часамі толькі дзеля таго і запрашаў, каб прыбралі ў пакоі, прыгатавалі боршч, сагрэлі сваім цяплом і на досвецці выслізнулі з яго бярлогі, пакінуўшы на пліце гарачае сняданне.

Заслаў белую сурвэтку, паставіў пляшку «Кабернэ», нарэзаў каўбасы, сыру. Каля пляшкі віна — тры цюльпаны ў гаршчэчку. Прыдзірліва аглядае пакой, папраўляе стрэльбу на сцяне. Вунь тая дзяўчуля з часопіса «Америка» нахабна ловіць мяне сваімі бессаромнымі вачыма. Ану, перастань! Не хочаш, кабылка з штата Тэхас? Не хочаш — тады мы цябе зачынім у сакрэтэры. Не ўпірайся, знімем з выстаўкі і — пад ключ, бо Наталка прыйдзе і ты ўсё роўна зблякнеш і панікнеш перад ёю. Сядзі і не падавай голасу, бо вылеціш на сметнік!

Меладычна ўдарыў па цішыні званок у калідорчыку.

Рыгор развязаў фартух, кінуў яго на кухні. На бягу зірнуў у люстэрка, прыгладзіў непакорлівы чуб, паправіў каўнерык белай сарочкі, пракашляўся і адчыніў дзверы.

На парозе Алеся з Раманам.

— О, пляменнікі! З Байканура? Ці ўжо з космасу?

— Не, толькі збіраемся туды, але на вашым матацыкле, дзядзька Рыгор,— у тон яму адказала Алеся.— Вы ж некага чакаеце, значыць, матацыкл вольны...

Рыгор паспешна знаходзіць у кішэні афіцэрскага кіцеля ключ, аддае яго Раману.

— Кран бензабака перакрыты. Пры хуткасці сто кіламетраў ужо не ты яго, а ён цябе вядзе. Не забудзь.

Маладыя пратупалі па калідоры, пабеглі па сходках, шарпаючы рабрыстымі падэшвамі красовак.

Рыгор вярнуўся ў пакой, агледзеў яго, зняў са сцяны яшчэ адну кралю, выразаную з часопіса.

## 21

Людміла зачыніла за Міколам дзверы, вярнулася ў пакой, ногі яе падкасіліся, упала на крэсла — так намучылася за гэты вечар. Усё ў гэтым жыцці не мае сапраўднай радасці і асалоды. Толькі стома і сум страшэнны. Загаласіць бы цяпер на ўсю хату, зайсціся слязамі з крыкам, ды нават на гэта не хапае волі і пачуццяў. Нават гэта будзе няшчырае, не дасць палёгкі, а прынясе толькі стому, стому, стому!

Людміла сарвала плашч з вешалкі, ажно лопнула пятля (нічога, прышыю!), на хаду апранаючыся, кінулася даганяць Міколу. Ён ішоў тратуарам, ішоў павольна, азіраючыся на вокны сваёй кватэры. На некаторых слупах не гарэлі вулічныя ліхтары, але Мікола не знікаў у цемры — бялела тэніска. Упэўнена чуліся яго нетаропкія крокі па асфальце. Ён яшчэ раз азірнуўся і ўжо гатоў быў хутчэй пайсці да прыпынку службовага аўтобуса, што курсіруе на атамную, як убачыў Людмілу, нават не ўбачыў, а ўсёй істотай адчуў: яна!

— Я ведаў! Ведаў, што ты правядзеш мяне сёння.

Хацеў абняць яе тут пасярод вуліцы, але засаромеўся, збаяўся сваіх пачуццяў і ўзяў Людмілу за руку, якая здалася яму халоднаю і дрыготкаю.

— Ты змерзла... Стамілася са мною... Вось вярнуся ранкам ■ рэактара, расхалодзім яго, і я пастараюся быць інакшым, добрым да цябе, Людачка. Колькі таго жыцця засталося, каб марнаваць яго на непаразуменні і злосць? Я перакананы, што і тата, паміраючы, шкадаваў, каяўся: не так, не так ён пражыў, спакусы, якім паддаўся, толькі абкрадалі яго. А што засталося пасля яго? Мы, яго дзеці, мама— яго цярплівая жонка, неўладкаваны, а лепш сказаць — па-дурному, бяздарна ўладкаваны свет, перанасычаны страхам. Я сёння падумаў, што наш Тарасік — дзіця страху, чаго ж бы ён несвядома маляваў тых звяроў? Яны, намаляваныя ім страшылішчы, жывуць і ў нас, толькі мы

хаваемся ад іх. У абстаўленыя кватэры, гарнітуры, пасады, задавальненне свайго славалюбства. А ў Тарасіка свядомасць яшчэ нічым не ахавана...

— Вунь ужо аўтобус, Мікола! Паспееш дабегчы. Я ў хатніх сандалях выйшла...

Мікола хацеў пацалаваць яе ў шчаку, ды Людміла нагнулася, каб паправіць капронавы падследнік, і ён ткнуўся ў яе валасы. Прагна ўдыхнуў іх пах і пабег да аўтобуса.

Людміла пастаяла, пакуль муж паздароўкаецца за руку з таварышамі, зойме месца каля акна, памахае ёй рукою. Рыпнулі дзверцы, зачыніліся. Шафёр стрэльнуў недакуркам у урну на прыпынку, але не пацэліў. Палыпаўшы левымі падфарнікамі, аўтобус пакаціў у бок атамнай. У асветленым акне яшчэ доўга шчасліва ўсміхаўся ёй Міколаў твар.

Яна стаяла, калі аўтобус знік за выгінам дарогі, туга абцягнула сваё цела плашчыкам і ледзь не бегма заспяшалася дадому.

«Не, не толькі Тарасіка трэба да бабкі-варожкі ў Трылісы везці. Міколу таксама...»

## 22

«Чортава кола» яшчэ круціцца над горадам, але толькі ў некалькіх яго люльках сядзяць тыя, каму не хапае вострых адчуванняў, лёту ў вячэрнім небе, захаплення і страху. Барадаты гарбун яшчэ працуе, хоць іншыя атракцыёны ўжо даўно закрыты. Машыніст нежанаты, дамоў яму ісці не хочацца, вось і круціць «жывую» капейку, пакуль ёсць ахвотнікі праветрыцца.

Крэкчуць жабы ў цёплых завоінах, усё роўна як шчыльным колам акружылі горад і павольна насоўваюцца на яго і несамавіта крычаць, лямантуюць, бо вось-вось настане пара салаўёў у вербалоззі і пушчах — каму патрэбны тады жабін крумкат?

З расчыненага акна маладзёжнага інтэрната, у якім жыве Рыгор, вырываецца магнітафонны голас спевака Лявонцьева: «Все бегут, бегут, бегут, бегут...» У акне хутка рухаюцца цені, якія то збліжаюцца, то разыходзяцца, выбягаюць на балкон хапануць свежага паветра і зноў знікаюць у пакоі. Музыка, рытмічнае соўганне ног, канвульсіўныя рухі ценяў...

Электронны гадзіннік на будынку гарсавета высвеціў

суцэльныя нулі на табло, і яны на момант замерлі ланцужком, у якім колцы, не з'яднаныя між сабою, здаецца, могуць распасціся. Ды выскоквае першая хвіліна новых сутак, час пайшоў далей.

Дваццаць шостага красавіка. Адна тысяча дзевяцьсот восемдзесят шостага, без прыпынкаў, без разрываў сувязей, без выключэння на прафілактыку. Здавалася б, трэба, але — некалі, некалі, некалі!

Некалі думаць самім, і мы напіхваем свой мозг інфармацыяй.

Некалі адпачыць, расслабіцца, і мы купляем пляшку.

Некалі выхоўваць дзяцей, і мы скупляем перад імі віну японскімі магнітафонамі, джынсамі, купецкімі вяселлямі, кааператыўнымі кватэрамі.

Некалі па-сапраўднаму любіць жонку ці мужа — і мы прапануем ім «скарочаны варыянт» — ужо пасланы ложак, «дзень добры» і «да пабачэння».

Не хапае энергіі — падзелім ядро.

Толькі прыгатаваліся зрабіць нешта добрае, вечнае, галоўнае, а ўжо смерць стаіць у галавах.

А неўзабаве на гадзінніку гісторыі выскачаць тры нулі і двойка спераду. Новы век, новае тысячагоддзе. «Чортава кола» вынесе нас у свой найвышэйшы пункт. Ці найвышэйшы ён? Ці не забудзе барадаты гарбун уключыць тормаз? Ці не загаворыцца ён з маладзіцаю, якая ідзе з кірмашу?

Ну вось, варта было задумацца над гэтым, як на гарсаветаўскім гадзінніку ўжо тры хвіліны новага, дваццаць шостага, дня красавіка. Уперад!

З горада вырываецца на прастор чырвоная «Ява» з двума пасажырамі ў чырвоных шлемах. Алеся моцна прыціскаецца да Рамана, абхапіўшы яго рукамі за шыю. Яны ляцяць у ноч, як адна фантастычная істота з маторам і двума чалавечымі сэрцамі. Матацыкл вылятае на крутую дугу моста, і ў гэты міг ён падобны на ракету, што вось-вось узляціць, прарэзваючы сабе шлях у цемры шчупальцам святла.

— Свабода! Хуткасць — гэта рэальная свабода, Алеся!

Яна нешта адказала, але вецер выхапіў з вуснаў словы, і нават яна іх не пачула.

Раяцца камары, машкара, матылькі навокал кожнай лямпачкі ў вулічных ліхтарах, навокал гарадской Дошкі гонару, асветленай з сярэдзіны. На яе дашку дрэмле некалькі галубоў. З Дошкі гонару глядзіць на горад падмаляваны супермен з бровамі-шаблямі, са сталёвым поглядам-

бліскам, з тонкімі, загадкава сціснутымі вуснамі. Калі б не подпіс «Мікола Іванавіч Міровіч», мабыць, і ён сам не пазнаў бы гэтага самаўпэўненага малайца з німбам камароў і матылькоў над галавою. Глядзіць праз плошчу, глядзіць так, быццам яму не перашкаджаюць бетонныя сцены будынкаў, бачыць кожнага, хто схаваўся ў сваім каменным мяшку: спіць або есць, купаецца або праглядае газеты, лічыць грошы ці маршчыны на твары, прагна абдымае або гаворыць несправядлівыя, найабразлівыя словы, ляжыць каля аднаго, а думае пра другога, у цёплую ноч мерзне ад адзіноты або змывае з цела яшчэ гарачы пот салодкай страсці... Ён глядзіць, бачыць усё гэта, але глядзіць на ўсё звысоку, бо — драбяза, марнота.

У двары гарадской бальніцы, каля стала, накрытага лістом нержавейкі, азартна лупяць у даміно вадзіцелі «хуткіх дапамог». Лямпачка, прыкрытая абажурам з алюмініевай міскі, звісае з дрэва над самым сталом, асвятляе толькі рукі вадзіцеляў і даміно. Гуляюць на вылет, і тыя, хто чакае сваёй чаргі ўвайсці ў гульню, правакуюць гульцоў на памылкі, каб хутчэй закончылася партыя. Адна машына вярнулася з выкліку. Драбяза: сардэчны спазм у бабуленцыі, восемдзесят два гады, пара... Удары даміно заглушаюць крумканне жаб у рачных затоках, галасы балельшчыкаў і сапенне даўгалыгага вадзіцеля, які спіць у кабіне РАФа, не знаючы, што хлопцы бінтам звязалі яму ногі, але... няма выклікаў, а таму няма і пацехі...

## 23

Даўжэзны бетонны калідор. У столь уманціраваны лямпы дзённага святла, падлога заслана прасвінцаваным лінолеумам бледна-лімоннага колеру. На невялікай адлегласці адна ад адной тэлефонныя будкі з масіўнымі тэлефоннымі апаратамі, асветленымі чырвонымі ліхтарамі,— аварыйныя. Калідор — як падземны тунель. І даўжэзны, нібыта вядзе з аднаго мацерыка на другі, з цяперашняга часу ў... невядомы. Але для мужчын, якія пасля кароткай лятучкі ў Галабародзькі ідуць на свае рабочыя месцы, гэта проста калідор, якім трэба прайсці да свайго рабочага месца.

Некаторыя лямпы пад столлю не гараць, асобныя толькі стомлена лыпаюць, але ногі атамнікаў ведаюць тут кожнае шво лінолеуму, памяць падказвае, дзе трэба прыгнуць

галаву, каб не грымнуцца аб вентыляцыйную сістэму, якую рамантуюць.

Усе яны як селезні: у белых робах, белых палатняных чаравіках, шапачках. У нагрудных кішэнях патроны-дазіметры, якія трэба кожную змену зараджаць, але... лепш гэтыя пяць хвілін пасядзець у курылцы. Калі інжынерам па тэхніцы бяспекі была смяхотная маладзічка — сёй-той хадзіў «на падзарадку», а цяпер нейкі хмыраваты піжон, які з дырэктарам і галоўным інжынерам лупіць у прэферанс, пайшоў ён пад тры ўзяткі на мізеры. Вісіць «бірулька» на гузіку — няхай лічыць, у канцы месяца здамо яе ў лабараторыю, яна і пакажа, што там нацюкала. Пайдзі, каб зарадзіць патрон-дазіметр,— засмяюць таварышы па вахце, з'ядуць, як эскімос дыню.

— Ой, баюся, хлопцы, што кіеўскае «Дынама» спаткнецца ў Ліёне. Раскідалі ўсіх, а тут сцялежыцца. Ім бы з месяц дома пагуляць...

— Яшчэ тыдзень пабойся — там лягчэй будзе. На Крашчаціку Кубак выставяць. Паедзеш куму праведаць — палюбуешся...

— Чым?

— І кубкам, і кумою...

— Не напамінайце яму пра яе перад эксперыментам Галабародзькі.

— Эх, хлопцы, смешкі-пацешкі. Вунь мне расказвалі, што да інжынера блока А прыязджала з Масквы маладзічка. Аднакурсніца. Грыбоў пазбіраць, варэнікаў украінскіх паспытаць, на пейзажы пазырыць. Ён яе завёз на дачу таварыша, каб далей ад атамнай станцыі, ад жончыных вачэй, бліжэй да прыроды. Вось і ўсё.

— Ха! Здзівіў. Хрэстаматыя, якую цяпер ведаюць яшчэ да шаснаццаці гадоў...

— Гэ, хлопцы, гэта толькі завязка. Насушыла маладзічка грыбоў і ляціць на Маскву. Зарэгістравала білет, праходзіць кантроль для пасадкі ў самалёт. Праз кантрольную арку. Сігналізацыя звініць, ажно разрываецца. Маладзіца зняла залаты пярсцёнак, завушніцы, кашалёк з капейкамі паклала — усё роўна звініць. Зняла туфлі, бо на абцасах залатыя наканечнікі, выняла шпільку з валасоў. Звініць. Тады жанчына-міліцыянер завяла яе ў пакой, і пасажырка мусіла прызнацца, што... збірала грыбы з інжынерам атамнай, які ў той час бываў на рэактары. Так што не трэба забываць, хлопцы, мы мечаныя, можна ўліпнуць.

— Не плявузгайце глупства! Вунь турбіністы з Харкава яшчэ павераць вам, брахунам...

— Няхай сабе жартуюць...— адказаў адзін з харкаўчан, якіх выклікаў для ўдзелу ў эксперыменце Галабародзька, бо вырашана з Міколавай турбіны зняць інерцыйную энергію і выкарыстаць яе на ахаладжэнне рэактара. Робяць выгляд бывалых, але рэактарнікі бачаць: нервуюцца навічкі, прыслухоўваюцца да кожнага іхняга слова.

Мікола ідзе прасветлены, ён яшчэ адчувае водар Людміліных валасоў, бачыць яе ў плашчыку, у хатніх тапачках, адчувае яе халаднаватую руку ў сваёй руцэ. Ён спыніў у сваім уяўленні той міг ціхага шчасця, згоды і паразумення, які яму падаравала жонка. Нават баечка пра інжынера з блока А і аднакурсніцу не кранула яго, не сапсавала настрою. Толькі калі цынічна рагатнулі вахтавікі — ён усміхнуўся таксама, але... сваім уласным думкам.

Паказваюць пропускі на апошнім кантрольным пасту і ідуць далей даўжэзным калідорам.

— Дарэмна Галабародзька аварыйку вырубіў. А як звар'яцее рэактар, як скіне аброць?

— Гарцуе Галабародзька. Штрыфель пінжака свярбіць пад арданок. Адзін ход — і ў дамках.

— Закалыхаў усіх блок Г. Два гады мурлыча, не кусаецца. Цішыня.

— Не суроч, маць яго кілават-гадзіну!

— Нібы я не буду там, дзе і ты...

Змітро Палівода дагнаў Міколу і ідзе поруч.

— Нешта хацеў сказаць, Змітрок? — спытаўся Міровіч, каб не маўчаць.

— Дурань я, Мікола. Трэба было ўзяць у цябе тэлефон старэйшага брата і сказаць яму пра авантуру Галабародзькі. Толькі што ўспомніў пра твайго Аляксандра. А яшчэ лепш, каб у праекце была прадугледжана немагчымасць выключэння аварыйных сістэм. Цяпер... будзем спадзявацца на выпадак... на размяшчэнне зорак. Трымайся! — Палівода як з'явіўся, так і знік, павярнуўшы ў залу цэнтральнага пульта кіравання рэактарам. За ім і Нечыпарэнка з кніжкаю пад пахай.

Мікола ішоў і думаў, што ўсё ж трэба сказаць Сашку і пра гэты яго промах у рэактары, ды бачацца яны з братам гады ў рады і ўсё паспешліва. Міколу не хочацца з гарачкі вярэдзіць Сашкава славалюбства. А трэба... Вось прыедзе на сарачыны, абавязкова скажу!

Хаваюцца ў цень і зноў выплываюць на святле гэтыя

бледныя здані ў бетонным тунелі. Нехта адлучаецца ад гурту і знікае ў бакавых дзвярах, быццам хаваецца ў сваю надзейную мушлю.

Над атамнаю, над навакольнымі лугамі пульсуе яркае святло святочнай ілюмінацыі. Ужо святочнай.

## 24

Пад акном Міколавай кватэры спыняецца вішнёвы «Жыгуль» з цацачным шкілецікам, падвешаным на гумку да ўнутранага люстэрка. Машына спынілася, і шкілецік доўга гайдаецца перад вачыма ў Галабародзькі.

Васіль выключае музыку, закурвае, высоўвае галаву і ўглядаецца ў асветленыя вокны будынка.

На трэцім паверсе варухнулася штора, мільгануўся цень, расчыніліся дзверы балкона — Людміла!

Толькі цяпер, убачыўшы Людмілу, якая махала яму рукою, каб падымаўся ў кватэру, Васіль зразумеў, што ён прыехаў да яе, да васьмікласніцы з Гарадзішчаў, да той рана даспелай школьніцы, у якой губы былі пульхнейшыя, чым у настаўніц, якая сонна і млосна вадзіла вачыма за хлопцамі-старшакласнікамі, ахвотна выходзіла на спатканні, калі задрэмле яе маці, млела ад абдымкаў і не адштурхоўвала, калі шнарыш рукамі па яе целе. Які ж дурыла ён быў тады, ніводнага разу не ўзяўшы таго, што яна і не дужа бараніла. То саромеўся, то адкладаў на потым. І ажно цяпер, амаль праз трыццаць год, калі яна пастарэла, звяла і асунулася, а ён дасягнуў становішча ў грамадстве, увайшоў у мужчынскую сілу,— з'явілася мажлівасць расквітацца за сваю памылку. Не тое, не тое, але чаму і не прыглушыць тую даўнюю гаркоту? Тым больш што яна на гэты раз пераступіць не страх, а сваё сумленне. У гэтым нават больш інтрыгі і прынады. Дасведчаная жанчынка, з клёкам... Можа, гэта і лепш. Толькі часу мала. За гадзіну трэба вярнуцца на атамную.

Васіль прадбачліва загнаў машыну пад суседні будынак і, зладзеявата азіраючыся, хаваючыся ў цень, шуснуў у пад'езд. «Зрэшты, пабачым, як сустрэне...»

## 25

Святло матацыклетнай фары выхоплівае з цемры камель старой сасны, прыбітую да яе пагабляваную дошку з надпісам «в. Гарадзішчы», крыжы цвінтара. Матацыкл за-

трэсла на вузлаватым карэнні. Раман збавіў абароты матора, цяпер можна пачуць Алесін голас, а не толькі пабачыць яе руку, якой яна паказвае дарогу.

— Можа, заедзем да бабы Марыі?

— Іншым разам, Алеся, я хачу пабыць з табою. Два гады чакаў гэтага...

Раман паварочвае на лясную сцежку, усланую шыльнікам і тонкім шыгаллем, адхінае рукою пруткія, ужо набрынялыя сокам атожылкі кустоў. Бліснула ў святле фар паласа рэчкі, што сонна перакочвае хвалі і малочна бялеецца ў цемнаце.

Ён глушыць матор, саскоквае з матацыкла. Алеся ледзь паспявае ссунуцца на зямлю, як ён хапае «Яву» за рогі, вядзе ў гушчар, надзейна маскіруе ад старонняга вока. Вылузваецца з кустоў і кідаецца цалаваць Алесю, якая падперла спіною старую сасну і глядзіць у неба.

Цалуюцца, разгарачаныя хуткай яздою, адасобленасцю на гэтым бязлюдным беразе ракі. Не паспелі скінуць шлемы, і яны замінаюць ім, неяк нават жудасна стукаючыся адзін аб адзін. Быццам грукае чэрап аб чэрап, ды яны гэтага не чуюць. Яшчэ свішча ўвушшу вясновы вецер, стракаціць у вачах дарога, лес і зорнае неба, а ўжо гарачы хмель сатанее і абязвольвае іх, дурманіць і салодка пазбаўляе ўлады над імі самімі...

Але ж Алесі здаецца, што скрозь ноч, скрозь начную тоўшчу лесу на яе глядзіць цяпер баба Марыя з акна сваёй хаты. Глядзіць пільна, спакойна і неадступна. Няма ў яе паглядзе ні дакору, ні ўхвалы, ні гневу, а нешта такое, што прымушае дзяўчыну не хаваць вачэй, напружвацца, быццам вось-вось яе строга паклічуць дадому і калі не паслухае — прыйдуць па яе з лазовым дубцом. Бабуля такая, што можа і прыйсці.

Алеся падумала, што гэтае дзіўнае адчуванне падступала да яе ўжо не ўпершыню. Адкуль яму ўзяцца, калі яна вырасла каля бабкі і дзеда, да восьмага класа хадзіла ў Гарадзішчах у школу, бабуля ведала пра яе больш, чым тата з мамаю, якія прыязджалі ў вёску пабавіць час, пабачыць дачку і напакаваць валізу харчамі? Баялася Алеся толькі мамы, сціналася пры ёй, неяк меншала і бязмоўна падначальвалася. Можа, у той нямой пакоры і затаіўся страх?

Бабуля Марыя проста заўсёды прысутнічала ў яе жыцці. Лаяла за непаслушэнства, карала, але ўсё гэта было натуральна, без істэрыкі і крыку, нібыта прадугледжва-

лася, што Алеся застанецца сам-насам са сваім сумленнем і гэта выпрацуе ў яе патрэбу да самастойнага, магчыма, аж занадта разважнага, як на яе век, унутранага жыцця. Тры апошнія школьныя гады яна вучылася ў горадзе, равесніцы лічылі яе несучаснаю, закамплексаванаю, бо ўсе яны перажывалі ўжо бурныя любоўныя раманы, без доўгіх ваганняў аддаваліся хлопцам-старшакласнікам, адкрыта хваліліся гэтым і звысоку, асуджальна пазіралі на сваю «старамодную» сяброўку. Былі хлопцы, якія ўлюбляліся ў Алесю, бегала яна да іх на спатканні, цалавалася, хадзіла ў кіно, прастойвала з імі каля свайго пад'езда, а ўсё ж перамагала спакусу быць як усе. Перад тым як Раман павінен быў ісці ў армію, яна ледзь не аддалася яму (Раманава маці паехала з мужам да сваякоў, і яны былі ў кватэры адны), але ў апошні момант перад ёю зноў паўсталі вочы бабы Марыі, пранізлівыя і суровыя. Яна не спалохалася іх, але міг салодкага бязволля ўмомант прайшоў, і Алеся магла кіраваць сабою.

Цяпер яна дарослая, дачакалася з арміі Рамана, мама адпусціла яе на цэлую ноч, дурнап'яніста зайграла вясна, цёплая ноч гудзе, што брага, сосны расставілі над ёю свае дужыя рукі, цячэ вада з вытокаў да вусця, выносіста расце пад нагамі чарнобыль... Цяпер ёй дазволена ўсё, бо яна даспелая часцінка гэтага свету, бо гарачыя Раманавы далоні гарачліва галубяць яе плечы і грудзі...

## 26

Калі побач з Рыгорам была прыгожая жанчына, яго жыццё набывала нейкі асаблівы, завострана-адчайны смак. Нават тады, калі ён не намагаўся абавязкова завалодаць ёю,— усё адно весела і задзірыста працавала ягоная душа, ён святлеў, рабіўся яшчэ прыгажэйшы, зухаваты, нехаця падабаўся ёй, прынаджваў. Гэта амаль не патрабавала ад яго намаганняў, не знясільвала. У гэтыя хвіліны ён жыў усмак, урачыстасць рабіла яго дабрэйшым, ён выпраменьваў столькі цёплай мужчынскай пяшчоты, што ўстаяць перад ёю не маглі нават зацятыя рэалісты і скептыкі жаночага роду. «Колькі любіў — столькі і жыў» — гэта Рыгорава праграма.

Аднак сёння, седзячы з Наталкаю ў сваім халасцяцкім пакоі, ён не мог пазбыцца нейкай гіпсавай скутасці ў рухах, затарможанасці ў словах, навязлівай, аднастайнай

сентыментальнасці ў пачуццях. Апошняе зусім было ў яго ненатуральнае, вязкае і гідотлівае, але прагнаць гэта ён не мог ніяк. Столькі даверлівых гарадскіх авечак прайшло праз яго рукі, праз гэтую халасцяцкую келлю, а тут не ў сядле, а вобземлю. Няўжо ва ўсіх, калі па-сапраўднаму, вось так? Нібы ў брата Міколы. Ды ў Міколы натура мяккая, паралонавая.

На сценах пакоя не выцвілі на сонцы плямы ад жаночых партрэтаў. Са ствала паляўнічай стрэльбы тырчыць зялёны лісцік цюльпана, як зялёны язычок полымя пасля стрэлу. Пазваньвае шкляны плафон пад столлю — на верхнім паверсе балююць перад двума выхаднымі.

У Наталчын і Рыгораў кілішкі наліта сухога чырвонага віна.

— Вось і ўсё, Грышка, прыехалі! Распрагайся! — выдыхнуў Рыгор і павёў плячыма, нібы і сапраўды выпрагаўся з нябачнай шляі, якая цяпер, у нязвычным для яго стане скутасці, здавалася амаль рэальнаю.

— Распрагаешся? І хамут скідаеш? — матлянула беласіваватымі, як малады палын, валасамі Наталка.

— Калі хамут не муляе, яго амаль не адчуваеш...

— Гэта калі нічога не вязеш. Толькі тады. Толькі тады, Грышка. Можаш мне паверыць — я два гады была замужам.

— А я пераладлю цябе на свой лад, маладзіца. І следу Нечыпарэнкавага не застанецца!

— Які ж ты быстры і... славалюбны! Са сваім мінулым я спраўлюся сама. Ты пра будучае падбай...

— За што вып'ем, жонка?

— Моўчкі памянём твайго бацьку Івана Міровіча...

Рыгор на момант апусціў сваю прыгожую галаву, зажурыўся (убачыў татавы рукі, складзеныя на грудзях, рассыпаны на падушцы чарнобыль, худы твар з вострымі скуламі, сінія сцятыя губы), рашуча выпіў віно, выліў колькі кропель на падлогу. Наталка толькі прыгубіла з келіха і паставіла яго на стол.

— Так бацьку не памінаюць, жонка. Ён, нябожчык, царства яму нябеснае, любіў чарку і красунь. Гэта ж тваё любімае «Кабернэ», якое нібыта выводзіць стронцый з крыві. Ажно з Кіева прывезлі хлопцы. Дапі! А другі келіх за нас з табою. За цябе і за Грышку, які ўжо адгуляў...

— Адгуляў толькі тата Іван, а табе яшчэ жыць і жыць, не заракайся згарача, каб потым не каяўся...

## 27

Старая, з патрухлелым дахам, аброслым сям-там мохам, хата ў Гарадзішчах, насупраць цвінтара. Цёмныя вокны, што люструюць толькі знадворныя агні, крыж-накрыж забіты дошкамі — усё роўна як складзеныя рукі ў мерцвяка. Уваходныя дзверы сарваліся з адной завесы і кантам ураслі ў зямлю. Халодная, жудасная пустка. Нават магілкі побач з гэтым дваром і хатаю здаюцца месцам абжытым.

З дзірак у падстрэшшы хіжа паблісквающь агеньчыкі лісіных вачэй, быццам рухомыя свечкі ўспыхваюць і тут жа гаснуць. Як тады, пасля хаўтур Івана Міровіча, калі разыходзіліся памінальнікі.

Гучыць стрэл з могілак. Другі. Трэці. Гаснуць агеньчыкі лісіных вачэй, сухі пыл узнімаецца над саламяным дахам пакінутай хаты.

Лісіны піск — як трывожная марзянка ў начны свет. Яшчэ стрэл. Засакаталі ў гарадзішчанскіх куратніках перапалоханыя куры. Забрахалі сабакі ва ўсіх кутках вёскі. У некалькіх вокнах мясцовых дачнікаў засвяцілася святло. Недзе скрыпнулі дзверы, зарыкала карова. Андруха ў цемры перазараджаў стрэльбу, прысеўшы паміж дзвюма старымі магіламі. Яшчэ двойчы выстраліў па старой пакінутай хаце, што вырысоўвалася па той бок вуліцы. Нясцерпна балеў плячук.

Андруха закінуў стрэльбу за спіну, яго даўгалыгі цень загайдаўся між крыжоў. Загубіўся сярод іх ці ў густой цемры сам стаў крыжам?

## 28

Хваля цёплага ўзрушэння і душэўнага спакою не пакідала і цяпер, калі Мікола звыкла ўліўся ў апаратарскае крэсла, якое заўсёды амаль без намаганняў адгароджвала яго ад сям'і, ад бытавога клопату і пачуццяў. Адступала ўсё, і ён быццам уключаў свае нервы, свае адчуванні ў гэта напружанае назіранне за турбагенератарам, за яго натруджаным дыханнем. Міколава вока паспявала бачыць усе датчыкі адразу, рэагаваць на іх з халодным і таму беспамылковым спакоем.

Мікола разумеў, што тое сямейнае жыццё, пра якое марыў, жэнячыся з Людмілаю, не толькі не дало яму шчас-

ця, а і звычайнай душэўнай раўнавагі. Праца — тое, дзе ён мог дарэшты задаволіць сваё славалюбства. Асабліва любіў ён начныя змены, калі спаў горад, навакольныя вёскі, калі роўна ўздрыгвала яго турбіна ў бетонным мяшку, а ён пільна сачыў за яе норавам, яе натужным дыханнем. Твар у твар з расшчэпленым атамам. Штогадзіны пасылаючы мільён кілават энергіі, што некаму асвятляе цемру, рухае электрапаязды, саграваае кватэры, пакрывае інеем сценкі халадзільнікаў, здабывае музыку з магнітафоннай стужкі... Уголас Мікола ніколі не сказаў бы пра гэта, лічачы такія думкі занадта напышлівымі нават для напісанага выступлення з трыбуны, але ў адзіноце, седзячы за пультам, ведаючы, што яго ніхто не бачыць і не чуе,— ахвотна падпускае іх да сябе: усё-такі нечага ды варты ён у жыцці!

Але цяпер ягоная душа, ціхенька засвяціўшыся перад пачаткам вахты, сагрэўшыся ў сямейным гняздзе, не хацела звыкла згасаць, быць непрыкметным дадаткам старэйшага аператара Міколы Міровіча.

Не, усё-такі трэба берагчы Людмілу. Узяў яе за жонку — беражы. Што яна здабыла, выйшаўшы замуж за цябе? Хатні клопат, кухарства, мыццё бялізны... Што адчула з табою? Тры гады любоўнай уцехі, пакуль не нарадзілася Алеся. А пасля будні і павіннасці, сваркі і замірэнні, цеснага ў «гасцініцы», чаканне кватэры, а яшчэ потым — мэбля, дываны, посуд, адзенне... Усё гэта дастала яна, даставала, прыніжаючыся, падлабуньваючыся да некага, ашчаджаючы кожную капейку, перапрадаючы дэфіцытныя тавары. За гэтымі турботамі і пастарэла. Іншым усё дасталося лягчэй, бо ў іх заможныя бацькі, и ў мяне родзічы — брыгадны падрад можна арганізоўваць, у Людмілы мама-пенсіянерка, якая памерла адразу пасля нашага вяселля.

Цёплы туманок пяшчоты ахінуў Міколаву душу, ён убачыў перад сабою Людмілу ў шэрым плашчыку і хатніх тапачках, адчуў пах яе валасоў і гарачую вільготнасць яе рукі...

Падскочыла тэмпература!

Перадаў на цэнтральны пульт кіравання рэактарам, каб прыгасілі ядзерны азарт.

Успомнілася Людміла, калі з акна радзільнага дома паказвала яму Алесю ў пялёнках — маленькі ружовы кружок дзіцячага тварыка. Сонны, зморшчаны, як печаны яблык. Цяпер вунь якая дзеўка, неўзабаве сама народзіць.

Мікола стаяў тады пад акном бальніцы з букетам папяровых кветак, бо знайсці хоць бы адзінную жывую кветку ў раёне не змог, закупіў у раённым універмазе цэлае бярэмя. Людміла нюхала і ўсміхалася...

Ды што гэта такое?! Што з рэактарам?

— Сяргей! Нечыпарэнка! Ты што, аглух? Нечыпарэнка! Чуеш?!

## 29

— Хто ў мой дзень нараджэння ўспомніць работу, таму штрафная чарка і шашлык проста з агню! Пакаранне, вартае злачынства! — сказала жонка дырэктара атамнай і адкінулася ў падатлівы шэзлонг, які ўзялі ў лес спецыяльна для імянінніцы, каб сядзела, як прынцэса. Усе іншыя госці качаліся па разасланым брызенце, становячыся на калені толькі тады, калі прамаўляўся тост.

— ...І ідзе ў лес збіраць дровы на вогнішча...— падтакнула жонка галоўнага інжынера, гулліва парнуўшы свайго мужа пад рабро шампурам ад шашлыка. Юрый Ігнатавіч падумаў, што, мабыць, сказаў нешта лішняе.

Фары дырэктаравай «Волгі» падсвечвалі ім у лесе, груваcткі цень дырэктаравай жонкі ляжаў на ўсёй паляне. Як сухое сучча, патрэскваў прыёмнік у салоне машыны.

— За найлепшую палову чалавецтва! — сказаў дырэктар і доўга ўставаў на калені, раздушыўшы пры гэтым рукою свежую памідорыну, што цыркнула сокам на спартыўны касцюм яго жонкі.

— ...Якая найлепшая толькі таму, што побач з ёю — горшая палова,— дадаў галоўны інжынер.

— Цішэй, Юрка, цяпер можна прамаўляць тосты толькі пад коўдраю або пісаць іх на паперы. Вунь як загрымеў старшыня райвыканкама! — Дырэктар выцер запэцканую руку аб край брызенту.

— А ўжо субота. Выхадны. Тыдзень адпрацавалі — можна і адпачыць! — Жонка галоўнага інжынера сваёй насоўкаю завіхнулася выціраць сок ад памідора на спартыўным касцюме дырэктарыхі.

— О! Успомніла работу! Наліваю штрафную чарку і падаю гарачы шашлык! — узрадаваўся галоўны інжынер.— Плакала твая асіная талія, мадам!

— А я схуднею, пакуль у гэтым лесе знайду дроў на вогнішча. Так што не запалохвай, мужанёк, сваю жонку. Я кожнага тыдня хаджу ў сауну...

## 30

Васіль Галабародзька не меў радасці ад таго, чаго яшчэ нядаўна так настойліва прагнуў. Не вагаючыся, пакінуў начную вахту, прымчаўся ў горад, нерваваўся, думаючы, як яго сустрэне Людміла, як складзецца размова, ці не завязнуць яны ў дробязных дакорах адно аднаму за тое школьнае мінулае?

Калі пераступіў парог кватэры і ўбачыў Людмілу ў прыцемку зялёнага таршэра, напружанне адпусціла яго. Па-свойску разуўся, расшпіліў сарочку на грудзях, расслабіўся ў мяккім крэсле. «Усё будзе вельмі проста»,— толькі падумаў ён, як скрыпнулі дзверы і адтуль увайшоў Тарасік.

Галабародзька нават шкадаваў, што паддаўся свайму настрою. Трэба было адкласці на потым, старанна выбраць час і месца, выехаць на нейкую пустую дачку, разагрэцца каньячком і камінам, адасобіцца, а тады ўжо адпомсціць Людміле так, каб і душа спатолілася, і цела таксама. Іншым разам... Хто ведае, ці засне дзіця?

Хацеў закурыць, але ў яго было «Залатое руно», а Мікола такіх не ўжывае. Трэба пацярпець, каб не пакінуць свайго паху ў пакоі...

Паклаў на стол грошы за касцюм, каб не забыцца. Сто пяцьдзесят рублёў. Купюры былі дробныя, і на стале пры святле вулічнага ліхтара віднелася цэлая горка грошай.

— І не думай, Васіль, каму-небудзь пахваліцца, прыбрахаўшы. Не Міколы баюся, а нагавору і Гарадзішчаў,— прашаптала Людміла, праводзячы яго.

— Чаго б гэта я на сябе самога нагаворваў, Людачка? Тым больш што кажуць, нібы Мікола — мой брат па бацьку...

— А ты, спакуснік, сваю братавую ў блуд хочаш завесці.

— Шкада, што гэта не сталася дваццаць пяць гадоў таму назад. У Гарадзішчах, у капе свежай саломы. Трэба ехаць. Вахта чакае! — сказаў Галабародзька і адразу пачужэў, быццам надзеў маску на твар, потым паклаў руку на засаўку ў дзвярах.

— Не забудзь пра кааператыў Алесі. Лічы, пляменніца твая. Не забудзь...

## 31

Пасля антыалкагольнага ўказа, што маланкава прайшоў скрозь свядомасць, выклікаў актыўную рэакцыю ў кожнага дарослага, уваходзілі ў моду ціхія, малалюдныя застоллі. Дзіва што: паляцела столькі раней недатыкальных асоб! А каму патрэбна такое пахмелле? Лічы, пажыццёвае.

Таму стары акадэмік-атамнік адзначаў сваё сямідзесяцігоддзе дома, на маскоўскай кватэры, у коле сям'і ды блізкіх сяброў і паплечнікаў. Адзначаў ціха, гасіў патэтыку тостаў, збіваў эмацыянальны надрыў калег самаіроніяй, пераадрасоўваў кампліменты сваёй жонцы і калектыву інстытута. Калі прыйшла чарга сказаць тост Міровічу, Аляксандр ужо пераарыентаваўся. Хацеў гаварыць пра тое, што атамная фізіка стала цяпер «супернавукаю», то што ўжо казаць пра чалавека, які ў гэтай навуцы «суперспецыяліст»? Вядома, стары асадзіць яго. Таму сказаў іншае. Калі чалавек нараджаецца, прырода і бацькі надзяляюць яго многімі вартасцямі. Жыццё намагаецца перамяшаць гэтыя вартасці з недахопамі і грахамі. Толькі сапраўдныя асобы здольныя на працягу ўсяго веку адстаяць у сябе тое дзіцячае, сапраўднае, ісцінна чалавечае. Сутнасць у тым, каб не ісці на кампрамісы. Такі ўрок нам усім даў юбіляр. Дык няхай жа не мінаецца ў наступных дзесяцігоддзях усё тое, што адстаяў у сабе імяніннік.

Гэта сапраўды прагучала задушэўна, з пачуццём і без адкрытага падхалімства. Акадэмік не перабіваў яго, расчулена прамаўчаў. Вольга ціхутка ганарылася сваім мужам.

Міровічаў тост выклікаў успаміны юбіляра пра яго вясковае дзяцінства на Пскоўшчыне, а пасля і справакаваў усіх прысутных на спаборніцтва: хто найлепш раскажа пра свае дзіцячыя гады.

Гэтая гульня дарослых людзей так упрыгожыла застолле, так зрадніла і зблізіла іх, нібыта ўсе яны пражылі міг ненаўмыснага ачышчэння, шчырасці і шчасця.

Аляксандр Іванавіч успамінаў апошні.

— На досвітку, калі страшэнна хочацца спаць, цябе будзіць мама. Асцярожна, каб не спалохаць. Карова ўжо здоена, трэба гнаць на пашу. А раса яшчэ халодная з начы, туман з рэчкі пранізвае кожную тваю костачку. Пясок на вуліцы яшчэ не пыліць, бо прыбіты расою і вільгаццю. Гоніш карову ў лес. Басаніж. Холадна. Зубы ляскаюць,

выбіваюць такія рытмы, што куды там сучасным мадэрным ВІА. Адпускаеш у лесе карову з вяроўкі і не ведаеш, куды схавацць пасінелыя ад халоднай расы ногі. Ажно тут карова наляпае «коржыкаў». І ты мігам становішся ў іх, бо яны цёплыя. Здаецца, большага шчасця і асалоды ў гэтым свеце няма, так табе добра. Стаіш, пакуль не астыне куча, тады перабягаеш да далейшай, яна яшчэ цёплая. У шэсць гадоў гэта было маё самае яскравае ўяўленне пра шчасце. Ходзіш за кароваю па лесе і чакаеш, калі яна пачне пячы «каржы»...

Вочы старога гаспадара заслязіліся, ён адпіў з келіха шампанскага і сказаў:

— Міровічу — першае месца! І за адвагу, і за праўду. Мы ўсё ж найлепшыя ў дзяцінстве.

## *32*

Скрозь тонкае, празрыстае плеціва вербалозу металёва паблісквае стужка рэчкі. Цяжкая, упэўненая, таямнічая апоўначы. Пад сасною, прыцісну ўшы куст крапівы, ляжаць два чырвоныя шлемы, прытуліліся цеменем адзін да аднаго. На іх паблісваюць кроплі расы. Сонна прыцмоквае рачная вада пад крутым выступам берага.

Раман з Алесяю ляжаць пасярод лясной паляны. Улетку тут будзе ўсё вытаптана, здратавана дачнікамі, закідана акуркамі, недапалкамі, поліэтыленавымі мяшэчкамі, галавешкамі, а цяпер чыста, нібы гэта планета яшчэ зусім маладая і неабжытая, быццам на ёй толькі павінна распачацца цывілізацыя.

Спачатку Раманава навальнічная страсць адпалохвала дзяўчыну, ён здаваўся ёй грубым і хіжым. Чула пра гэта ад сваіх сяброўак і равесніц, а ўяўляла інакш. Ды, лежачы тут, на начной паляне, дзе гаркавата пахне раздушаным чарнобылем, дзе плюскоча рэчка пад берагам, дзе яны нібыта адны-адзіныя на ўсім белым свеце, ад Раманавых пацалункаў, ад яго гарачых і ўпартых рук, што разбуджвалі ў яе целе, ва ўсёй яе сутнасці нейкую нязведаную яшчэ, цёмную, але ўсёпаглынальную і непераможную страсць, яна ўсё-такі страчвала ўладу над сабою.

На нейкі момант сабралася з сіламі і адкацілася ад яго, але ён тут жа дагнаў яе, прагна заціснуў у абдымках і, цяжка, з хрыплымі спазмамі дыхаючы, цалаваў яе ў шыю, вушы, бязвольна растуленыя губы.

Алеся спрабавала апошні раз вызваліцца з яго абдымкаў, але не змагла, Раман адчуў гэта і яшчэ больш пасмялеў.

Ён ужо меў невялікі вопыт, які ў дачыненнях з Алесяю можна было нават перабольшваць і быць смелым. У дзевятым класе Раман наведваў гарадскую секцыю барацьбы самба, бацька з маці якраз разводзіліся, і сын карыстаўся амаль неабмежаванаю свабодаю. Пасля таго як ён стаў чэмпіёнам горада сярод юніёраў, яго прыгрэла і наблізіла да сябе кампанія старэйшых хлопцаў, якія мелі нямала «кішэнных» грошай. Яны збіраліся ў вясковай хаціне на ўскраіне горада, хата належала аднаму кандыдату ў майстры спорту па самба. Гэтае жытло завяшчала яму бабуля перад сваёю смерцю. Будынак неўзабаве павінен быў ісці пад знос, нашчадку дадуць сучасную кватэру, хоць жыве ён у бацькоў у цэнтры горада. Слухалі музыку, ласаваліся віном, танцавалі. Раман быў наймалодшы ў кампаніі, але гэтага ніхто не падкрэсліваў, наадварот, называлі «чэмпіёнам горада». Хлопцы і дзяўчаты курылі, часта пускаючы па крузе нейкую спецыяльна прыгатаваную цыгарэту, пасля гэтага станавіліся дзёрзка ўзбуджаныя і бессаромныя, разыходзіліся парамі па пакоях хаты, забіраліся нават на сена ў пустым хляве. Раман не курыў, бо ў пятым класе нехта даў яму зацягнуцца, дык яго так занудзіла і скруціла, што ён панічна баяўся другі раз паспрабаваць цыгарэтнага дыму. З часам адзін хлопец «выпаў» з гурту, бо бацька паехаў на Паўднёва-ўкраінскую атамную станцыю, з ім падаўся і сын, а яго «авечка» — машыністка домакіраўніцтва — засталася без пары. Раман заняў яго месца. Кампанія не толькі не запярэчвала, а і актыўна спрыяла гэтаму. Пасля віна, танцаў, цыгарэтнага «кайфу» трэба было вызваліць вялікі пакой кандыдату ў майстры, і Тамара ўзяла за руку «чэмпіёна горада», павяла яго ў пусты хлеў са старым сенам, духам стайні і пацучыным піскам па кутах. На шорсткім калючым сене, пад нізкаю, з павуціннем столлю ў хляве Раман пакінуў свой страх і сорам перад жанчынай, якая хоць і называла яго Артурам (гэта імя Раманавага папярэдніка), але цярпліва, на правах больш дарослай і дасведчанай, навучыла хлопца адчуць сябе мужчынам.

Раман і дасюль да драбніц помніць тую першую ноч, ванітоўны смак пракураных Тамарыных губ, яе павольную дзелавітасць і іранічную перавагу бывалай жанчыны, трэск пераляжалага сена, пацучыную мітусню, пах сухога гною,

павуцінне над галавою. Тамара хутка заснула, а ён сядзеў каля яе да самага ранку, кідаў перасохлым гноем у пацукоў, што нахабна бегалі каля Тамарынай галавы. У сне Тамара некалькі разоў называла яго Артурам, нехта выходзіў з хаты, ляпаў дзвярыма драўлянага нужніка. Спрасонку Тамара зноў прытуліла да сябе «Артура», не расплюшчваючы вачэй, аддалася яму яшчэ раз і, адвярнуўшыся, моцна спала да самай раніцы. Прачнулася яна чужою і далёкаю, усё роўна як яны проста ехалі цэлую ноч у аўтобусе і выйшлі на канечным прыпынку, нават не пазнаёміўшыся. Паспешліва адзелася, памыла заспаны твар ласьёнам, што быў у сумачцы, дзелавіта падвяла губы і бровы і, не развітаўшыся, пабегла на работу, пакінуўшы Рамана на калючым сене з яшчэ больш нахабнымі пацукамі.

На наступны дзень да кандыдата ў майстры прыехаў стрыечны брат — студэнт, у якога былі канікулы, і Тамарка ў той жа вечар перайшла да яго, тым больш што кандыдат уступіў брату вялікі пакой, а не стары хлеў. Тым самым Тамарка нібы пераходзіла ў «эліту», вылучалася на больш важную ролю ў кампаніі. Раман, затаіўшы ў сабе тупую абразу, больш не з'яўляўся там, праўда, яго ніхто і не запрашаў. Некалькі разоў сустракаў Тамарку ў горадзе, але яна яго не пазнавала. Ліха з ёю, галоўнае, што дала ўрок, што ён ужо не смаркач, а мужчына.

Неўзабаве з'явілася Алеся, заінтрыгавала сваёй непрыступнасцю, гэта было цікава, падагравала яго гонар, не дамогшыся яе, Раман пайшоў у армію. І вось вярнуўся. Цяпер яна не ўстоіць, не каменная ж.

— Не трэба сёння, Раман. Ну не трэба. Ты ўсё сапсуеш...

— Ды не. Ты станеш мне яшчэ бліжэйшая...— шаптаў Раман, шарачы рукою пад яе світэрам.

— Хіба я такая далёкая?

— Ты жорсткая. Насміхаешся з мяне... Пасля двух гадоў Азіі...

— Я не так гэта сабе ўяўляла.

— Лепш і не прыдумаеш, хоць бы і стараўся: лес, вясна, рэчка, маладая трава, месяц...

— Гэта не трава, чарнобыль. Палын, толькі не такі горкі.

— Тым больш.

Алеся апошні раз напружылася, зняможана размякла, заціхла і бязвольна раскінула рукі на вясенняй зямлі.

Плесканулася над рачной плынню вялікая рыбіна.

Раман выпадкова зачапіў нагою іхнія шлемы, і яны раскаціліся па зямлі ў розныя бакі.

## *33*

— Сяргей! Нечыпарэнка! Чаму не адказвае Галабародзька?! Дзе, гад, падзеўся? Уключай аварыйку! Тэмпература зашкальвае! Адмовілі ахаладжальныя насосы! Турбіна не ўпраўляецца! Апускай стрыжні! Дарагая кожная секунда! Ірване! Гасі, гасі, я табе кажу! Загадваю!

Мікола крычаў у тэлефон, налёгшы грудзьмі на стол. Крычаў, не слухаючы, што яму адказвае Нечыпарэнка, не слухаючы нікога, бо ўжо дрыжаў бетонны пакой, бо турбіна зусім не падначальвалася яму і ён адчуваў сваё поўнае бяссілле, што ў той жа момант ператварылася ў адчай.

— Апускай стрыжні, гад ты печаны! Баязлівец! Што ж ты робіш?!

У нетрах рэактара прагучаў глухі выбух. Пасыпаўся тынк са столі. Цяжка здрыгануўся блок, нібы хацеў выскачыць з зямлі з падмуркам.

Пранізліва, люта завылі сірэны ў калідоры.

Аператарскі журнал зляцеў з пульта і ўпаў на падлогу.

Патухла святло.

— Вось і ўсё, Люда. Жыві. І, не даведаўшыся, паміраем... А пакідаем...

Бетонную каробку запоўнілі спрасаваны змрок і духата.

— Сашка, браце, памажы! Што рабіць?..

Мікола ў цемры намацаў гнуткую шыю мікрафона і прастагнаў:

— Сяргей! Гасі яго... Не дай яму вырвацца на волю...

Сувязь ужо не працавала, яго ніхто не чуў.

Міколу здалося, што ён усёй сваёй істотай адчувае, як напружваецца бетон, як патрэскваюць швы між плітамі, як...

Выбухам яго выкінула з крэсла.

Трэск, грукат, скрыгат металу, жудасны свіст пары.

Цяжкія металічныя дзверы ўпалі на Міколу.

Цёплая маміна рука слізганула па яговым ілбе...

З руінаў рэактара вырваўся ў начное неба велізарны

рухомы клубок пары, узнімаўся ўгору і большаў, большаў, заступаючы месяц і зоры над станцыяй, над горадам, над навакольнымі вёскамі, палямі, лесам, рэчкаю...

На раструшчаным выбухам даху плавіўся гудрон і сплываў на зямлю, як чорныя слёзы гэтага мнагагрэшнага стагоддзя.

З рэактара вырываецца ў неба слуп злавеснага агню, пары, аскабалкаў перакрыцця, бліскучых труб, палаючых кавалкаў графіту. Слуп імкліва, як фантастычная ракета, узнімаецца ў неба, асвятляючы карпусы атамнай, рэчку з вербалоззем, з ціхімі вогнішчамі рыбакоў па абодвух берагах, асвятляе крайнія будынкі горада, паўкруг «чортавага кола», пустэльны пляж са старым чоўнам, кінутым пад нахіленым грыбком.

Вогненны слуп замірае на вышыні паўтара кіламетра, на вяршыні яго ўтвараецца зыркі шар, які быццам усмоктвае ў сябе гэты прывідны ствол, усярэдзіне якога нешта рухаецца, скурчваецца і выпростваецца, але сам ён стаіць над начной зямлёю, як агромністая ёлачная цацка бледна-вішнёвага, амаль крывавага колеру. Ноч бязветраная, і слуп гэты стаіць, не апускаючыся і не ўзнімаючыся, між небам і зямлёю, нібы вагаецца, куды ж яму пусціць свой корань.

## 34

Раман і Алеся зняможана ляжаць пасярод паляны, на вясенняй зямлі. Між імі ўсё ж сталася тое, чаго так настырна дамагаўся хлопец. Раман спустошана і абыякава ляжыць, уткнуўшыся тварам у стоўчаны імі чарнобыль, Алеся — дагары, глядзіць у начное неба над Гарадзішчамі, накрыўшыся Раманавай штармоўкаю.

— Ромка, скажы мне што-небудзь...

Ён не варухнуўся, прамармытаў нібы скрозь сон:

— Дзякуй, што дачакалася. Зберагла. Я не дужа і верыў. Думаў, што ты яшчэ ў школе, калі Глушчанка за табою ўвіваўся... Цяпер гэта модна... яшчэ ў школе. У нашым класе ўсе дзяўчаты нават узялі такое абавязацельства: да выпускнога вечара стаць жанчынамі...

— Такая я... дурная і старамодная...

— У нас на заставе адзін эстонец пераконваў усіх, што яго чакае ў райцэнтры дзяўчына. Нядократка. Дык з яго ўсе смяяліся: значыць, бракаваная і нікому не патрэбная...

— Ты таксама смяяўся?

— Я ж не ведаў, што ты ў мяне такая самая... як эстонка з райцэнтра.

Раптам адтуль, з боку іхняга горада, загарэлася неба. Чырвоныя сталі рэчка, лес, чарнобыль. Асвяціліся Алесіны твар і вочы, у якіх праступілі дзве маленькія слязінкі. Яна спачатку засаромелася гэтага зыркага святла, усхапілася, села, падагнуўшы голыя ногі і закрыўшы іх рукамі, але святло ў небе мацнела, за лесам узнімалася фантастычнае святло, яна пахапкам пачала адзявацца.

Раман драмаў, уткнуўшыся тварам у чарнобыль, быццам хаваючы выраз застылай іроніі.

### 35

Галабародзькавы «Жыгулі» ляцяць на высокай хуткасці ў бок атамнай станцыі. Вішчаць тармазы, шыны пакідаюць чорныя палосы на бетонцы. Машыну заносіць на абочыну, і колы ўзбіваюць пыл, пырскаюць шчэбенем. Цацачны шкілет-талісман разгойдваецца ў яго над галавою, нібы хоча выскачыць з машыны, якая можа вось-вось перакуліцца ці зляцець у кювет. У вачах вадзіцеля гарачліва палыскуецца жах.

— Крэціны! Навалач! Гнаць усіх!

Талісман-шкілецік адарваўся і ўпаў Галабародзьку на калені.

### 36

Людміла хоча праветрыць пакой. Адсоўвае цяжкую аксамітную штору і адскоквае ад балконнага акна: агромністая дрыготкая хмара з-над станцыі ўзнімаецца ў неба, за ёю цягнецца слуп чорнага дыму, фасфарычнага агню. У пакой уварвалася халоднае, здаецца, душу пранізвае, як рэнтген, святло.

Упусціла падушку на падлогу, упала на канапу, у якой чамусьці зарыпелі спружыны, усё роўна як заплакала маленькае дзіця.

### 37

У лесе, дзе спраўляюць дзень нараджэння дырэктаравай жонкі, усе ўжо прытаміліся. Выпілі, насыціліся гарачымі шашлыкамі, надыхаліся кіслародам — заўладарыла сонная змора.

— На каня — і па конях! — сказаў галоўны інжынер.

Жанчыны выліваюць недапітую мінеральную ваду ў вогнішча, каб затушыць яго, топчуць галавешкі нагамі, гучна вішчаць.

Мужчыны п'юць «аглабельную» і адбіваюцца рукамі ад уедлівых камароў. Уключаныя фары «Волгі» слепяць ім вочы ў цемені, і дырэктар з інжынерам не бачаць, што гарыць неба над атамнай станцыяй. Яны глядзяць пад ногі, скручваюць брызент, складваюць шэзлонг, раскідаюць па кустах парожнія пляшкі.

## 38

Старая Марыя ўвіхалася на кухні, гатавала стравы на сарачыны. Зарыва над лесам яна заўважыла адразу, бо ў бок атамнай выходзіла кухоннае акно.

Прыпала тварам да шыбы. Так прыпала, што ажно ўліпла ў яго, сплюшчыўся яе нос, пабялеў і разгладзіўся ад маршчын лоб — аблічча стала размытае і непадобнае, як на малюнку мадэрніста. Толькі вочы яе. Трывожна ўглядаюцца ў далёкае зарыва за лесам.

— Гарыць нешта. Гарыць у горадзе. Гэта ж Грышка палезе тушыць... Адвядзі, божа, агонь ад майго баламута. Адвядзі, няхай ужо ажэніцца...

Цікае гадзіннік у святліцы. Не чула яго дасюль, а цяпер нібы каля самага вуха маршыруе. Нібы зноў далакопы забіваюць цвікі ў века Іванавай дамавіны. Колькі ж гэта можна ўслухоўвацца?

Фёдар нячутна зайшоў у кухню ў трусах і майцы, басанож. Ён ступае так ціха, што Марыя і не заўважыла яго з'яўлення. Стаў у маці за спіною і таксама глядзіць у акно. Твар яго напружваецца, на скулах ходзяць цвёрдыя вузлы жаўлакоў.

У вялікім пакоі водбліскі зарыва падаюць на сямейныя фотакарткі, што вісяць на сцяне. Ад гэтага аблічча ўсё роўна як ажываюць, нячутна перамаўляючыся між сабою.

## 39

— Выпі, Наталя, я нешта задумаў. Вып'еш — збудзешца. Натал-ка...

— Калі б ты толькі бачыў, як табе не пасуе быць сен-

тыментальным. Іншы, не знаёмы мне чалавек. Гэта «Кабернэ» ці старасць, Грыша?

— Старое віно і першае каханне. Амаль тое самае, што маладое віно і каханне апошняе,— сказаў Рыгор і ўключыў партатыўны магнітафончык, з якога ціха выслізнула мелодыя на чатыры мужчынскія галасы. Чатыры мужчыны быццам стаялі ў Рыгора і Наталкі за спіною і пранікліва спавядаліся:

Прыпаў я брату на плячо
Ускрай лесу яваровага...

Акно Рыгоравага пакоя загадзя зашторана, бо выходзіць яно на суседні будынак, на акно кватэры, дзе нядаўна пасялілася маладая пара, якая яшчэ нават не купіла фіранак. Рыгор спачатку міжволі бачыў, як яны вяртаюцца вечарам у сваю хату, пераадзяюцца, гатуюць вячэру, клеяць шпалеры, абдымаюцца, зноў гаспадараць, кладуцца спаць. Гэта чужое шчасце часам наганяе такі сум, якім ахвотна ласуецца ягоная самотная душа. Учора маладыя пасварыліся, мабыць, абразілі адно аднаго, бо маладзён на цэлы вечар сышоў з дому, а яго жонка нервова пляла шалік ці шапачку, а потым легла спаць на раскладушцы. Ён ведаў, што з таго акна таксама відаць яго халасцяцкая каробка, таму яшчэ звечара, чакаючы Наталку, зацягнуў штору.

Магнітафонны запіс песні, завешанае акно — праз гэта і не пачулі яны выбуху, не бачаць і зарыва.

— А цябе нібы падмянілі. Чужая, наструненая. Выпі, расслабся. У цябе, відаць, была нейкая размова з Нечыпарэнкам?

— Ты паклікаў, і я прыйшла. Астатняе — дробязі, Грыша... Прыйшла.

— Назаўсёды!

— Не гані вараных, хлопча. Чым павальней едзеш — тым больш усяго разгледзіш.

— Ужо наразглядаўся. Ажно ў вачах рабаціць...

— Ад прыгожых дзяўчат. Але яшчэ ёсць і праўда, якая не заўсёды прыгожая. Старому халасцяку і бабе гэта трэба ведаць.

— Ты яшчэ не выпіла за ўпакой татавай душы, а ўжо бярэш на рэнтген маю грэшную.

— Божа, як я стамілася, Грыша. Нібы пражыла адно дурацкае, няўдалае, прымітыўнае жыццё. Дай мне перавесці дых ад яго, бо не ведаю, ці будзе іншае! Кінулася да цябе, як у палонку. Пакінула розум: што будзе — тое

і будзе! Ні пра што не думаю. Узлавалася, абрыдла. Жыву, і ўсё. На рабоце хоць вушы затыкай, каб не чуць з усіх бакоў пра змея-спакусніка Рыгора Міровіча, які не ведаў паражэнняў.

— Ты хочаш адкрыць лік маіх няўдач?

— Гэтая арыгінальнасць дорага мне абыходзіцца, а ў што абыдзецца ўрэшце, проста не хачу думаць, бо ўсё можа быць надта банальнае. Такіх старых гультаёў, як ты, прымітыўна жэняць на сабе, зацяжараўшы і намякаючы на партарганізацыю, прафсаюз, грамадскасць. Будзь спок.

— Ты хочаш сказаць, што...

— Я амаль усё сказала, што думала.

— Дык вось... чаму ты не п'еш, Наталка? Няўжо?..— Рыгор усхопліваецца з табурэта, абдымае Наталку, хоча яе пацалаваць, але яна хавае губы, адварочваецца, а калі ён становіцца настырлівейшы, засланяе іх келіхам.

— Заўтра едзем да мамы. Ты ўбачыш, як яна ўзрадуецца. Едзем!

— Заўтра я еду на два дні ў Кіеў. Да знаёмага гінеколага... Сустрэнемся ў панядзелак.

— Мы едзем да мамы. Першым рэйсам. Тут твой дом, тут твой муж! Усё!

У дзверы часта, спалохана загрукалі.

— Мяне дома няма. Я — ажаніўся! — крыкнуў Рыгор, каб пачулі ў калідоры, трымаючы Наталку ў абдымках.

— Капітан Міровіч! Міровіч! Трывога! Аварыя на станцыі! Авары-я! Вас чакаюць у часці!

Рыгор страпянуўся, перакуліў табурэт і зачапіў локцем келіх з віном. Келіх упаў на падлогу і разбіўся, друзкі яго рассыпаліся па пакоі, а чырвонае віно вылілася на яго белую сарочку і на падол бэзавай Наталчынай спадніцы.

Цяпер ужо Наталка хоча абняць яго, але ён спешна накідае на сябе кіцель, форменную фуражку.

— Спі! Спіце абое! Я прагуляюся з хлопцамі на станцыю і прыеду. Хто ж гэта задумаў нам святочны феерверк, які вар'ят? І так горача, а тут яшчэ жару паддаюць. Я — мігам!

На парозе ён нібы завагаўся, хацеў яшчэ абняць Наталку, але заспяшаўся, каб хутчэй вярнуцца.

Пратупаў уніз па бетонных сходках, і бязлюдны калідор доўга перагукваўся рэхам яго быстрых крокаў.

— Там і Нечыпарэнка... на змене...— прагаварыла Наталка, але Рыгор гэтага, мабыць, не пачуў.

## 40

Падобная на медузу хмара павольна разрастаецца над горадам. Неба вакол яе нібы падпаленае, аплаўляецца па краях і растае.

Ды горад ужо спіць у прадчуванні выхадных дзён, хатняга клопату, паездак на дачы, гасцін, рыбалак.

Запальваюцца вокны толькі ў бліжэйшым ад станцыі мікрараёне, бо тут чуваць, як лямантуюць аварыйныя сірэны атамнай і «хуткія дапамогі», відаць зарыва над рэактарам, з якога вырываецца нейкае змярцвелае полымя, што амаль нерухома стаіць над станцыяй, як фантастычная свечка.

Навокал блока валяюцца аскабалкі бетонных перакрыццяў, жалеза, выкінутага з рэактара урану і графіту. Усё гэта раскідана на клумбах ружаў і цюльпанаў перад уваходам на станцыю, на бетонных плітах плошчы, на пясчаным беразе водазаборнага канала, на зялёным лузе, на дахах дапаможных памяшканняў.

На апошнім паверсе маладзёжнага інтэрната, дзе жыве Рыгор Міровіч, гуляе кампанія хлопцаў і дзяўчат. З глыбіні кватэры вырываецца скрозь расчынены насцеж балкон хрыплы, з гартанным надрывам голас Уладзіміра Высоцкага: «Эта ночь для меня вне закона. Я не сплю, я кричу: поскорей! Почему мне в кредит, по талону, предлагают любимых людей?!»

Нехта першы заўважыў зарыва над станцыяй, і танцоры выйшлі на балкон.

— О, цяпер можна зусім гасіць святло і працягваць танцулі над эфектную светамузыку,— рагатнуў румянашчокі хлапчына.

— Гэта лятаючая талерка. Іншапланецяне! Кажуць, яны крадуць прыгажунь,— прытворна перабольшвае страх поўненькая дзяўчына, дзьмухаючы праз адтапыраную ніжнюю губу на свой разгарачаны танцамі твар.

— Да нас яны не прыйдуць. Няма каго красці. Нават па зямны густ няма каго, не то што на касмічны.

— Дурны ты, Ігар. Дурны і сляпы,— абразілася поўненькая.

— Правільна, сляпы. Я люблю навобмацак, без святла. У мяне пальцы чуйныя, сталяр.

— Ды не блазнуйце! Мне чамусьці страшна! — адступіла ў пакой другая дзяўчына, даўганогая, на галаву вышэйшая за хлопцаў, краўчыха з атэлье.

— Не бойся. Як толькі гасне святло, я раблюся страшэнна ласкавы і смелы,— адказаў сталяр.

— І яшчэ больш дурны, чым пры святле,— дадала краўчыха.

— У цемнаце розуму не відаць. Ён не свеціцца.

— Ой, нейкая цёплая раса падае на рукі, на галаву,— спалохана прашаптала поўненькая дзяўчына.

— Значыць, бог плюнуў або ўраніў слязу.

«Живи себе нормальненько, есть повод веселиться. Ведь, может быть, в начальника душа твоя вселится. Пускай живешь ты дворником — родишься вновь прорабом...» — надрываючыся на галосных гуках, дадаў Высоцкі.

## 41

Цяжкія кроплі расы ўпалі на клумбу цюльпанаў пасярод цэнтральнай плошчы горада, у цішыні затрымцелі тонкія лісцікі і пялёсткі. Праз афішу, што абвяшчала гарадскі крос, таксама пацяклі пісягі, размылі некаторыя літары. І па шкле Дошкі гонару павольна плыве кропля расы, пакідаючы пасля сябе вільготны след. На момант спынілася насупраць левага вока на партрэце Міколы Міровіча.

Крумкаюць жабы. Крумкаюць бесперастанку, быццам акружаюць горад з усіх бакоў і папярэджваюць пра гэта сонных жыхароў.

З пажарнай часці з уключанымі сірэнамі і мігалкамі, што распырскваюць густа-сіняе святло, вылятае першая пажарная машына, рэзка тармозіць, у яе кабіну ўскоквае Рыгор, які паспеў абуць толькі тоўстыя боты і надзець каску, застаючыся ў сваіх вельветавых джынсах, у моднай белай сарочцы са стаячым каўнерыкам пад брызентавую робаю. З падножкі машыны ён дае каманду:

— Другая рота! За мною! Лейтэнант Сабко! Фарміруйце астатнія экіпажы і — на станцыю. Сувязь па рацыі!

Грукнулі дзверцы, і першыя чатыры аўтамабілі паімчаліся бязлюдным праспектам туды, за горад, да атамнай станцыі.

Рыгор закурыў, прагна зацягнуўся і сказаў вадзіцелю:

— Беднаму жаніцца — ноч кароткая. Мудра прыдумалі продкі. Не паправіш...

Ды вадзіцель, што прыкіпеў рукамі да руля, нічога не ўшалопіў, толькі тое, што капітан не нервуецца, усё яму як забаўка, як вучэбны выезд. Вось ужо натура. Калі ма-

шына вылецела на бетонку, вадзіцель крыху расслабіўся і адказаў:

— Патушым, капітан. Нафтабазу, калі загарэлася, лічы, мокрым мяшком ураз накрылі, а тут пакрэпім — і парадак. Можна падрамаць і дапісваць пульку...

## *42*

З ляснога гушчару, павольна перавальваючыся на каранях і калдобінах, выязджае дырэктарава «Волга». За яе задні бампер зачапіўся вырваны з пясчанага грунту куст каліны, цягнецца па зямлі, пакідаючы сляды-драпіны. На кусце ўжо набрынялі пупышкі, з якіх паказаліся зялёныя лісцікі. Неўзабаве павінна была зацвісці каліна.

— О, нехта салютуе ў гонар твайго дня анёла! — выгукнула жонка галоўнага інжынера і замітусілася на заднім сядзенні, прытулілася плячом да дырэктарыхі.

— Юрка! Я без акуляраў. Паглядзі ты: што там за прывід? Ці не рэшткі «Чэлінджэра» даляцелі да нас ад імперыялістаў? Ці не камета Галея блудзіць над нашымі лясамі? Не бачу нічога,— бесклапотна прамовіў дырэктар, сочачы за дарогай.

— Чорт яго пойме. Быццам Ісус узносіцца...— хіхікнуў галоўны інжынер, стукнуўшыся лбом у ветравое шкло «Волгі».

— Гэта рэпетыцыя. Праз тыдзень вялікдзень. Бабуленцыя ў двары казала, што чацвёртага мая пасха,— нарэшце далучылася да балбатні дырэктарава жонка.

— Можа, заскочым на станцыю, глянем, як там нашы эксперыментатары? — дырэктар.

— Мы ж зарakліся: сёння пра работу ні слова. Пакаранне — заўтра прапыласосіш кватэру,— жонка.

— А штрафную чарку? — галоўны інжынер.

— Няхай лепш пацалуе жанчын,— жонка галоўнага інжынера.

— Не, не паедзем. Спартыўныя касцюмы, алкагольны пах, не тыя часы. Балбатні або і ананімак не абярэшся. Не варта рызыкаваць. Пазвонім Галабародзьку з маёй кватэры, калі ўсё «хакей», запаліруем шашлык шампанскім і па конях...

— А смалы б вам гарачанькай. З ацэтонам, з меленым шклом, з працёртым палыном-чарнобылем,— нязлосна пракаменціравала дырэктарыха і паклала руку на плечы свайму мужу.

## 43

У цёмных прамавугольніках вокан гарадской бальніцы запальваецца святло. Замітусіліся постаці ў палатах. Зашаркалі тапачкі па калідорах, па сходках. Замільгалі белыя халаты і пярэстае адзенне хворых, якія могуць хадзіць. Звоняць усе тэлефоны на станцыі «Хуткай дапамогі».

З варотаў бальніцы вылятае некалькі «хуткіх».

Выпаў з кабіны даўгалыгі вадзіцель, якому жартуны звязалі ногі, разрывае путы, запускае матор РАФа.

— Чорная субота. Паматаемся, як макавае зерне пад макагонам.

— Вы хоць выспаліся...— наракае маладзенькая медсястра, сядаючы ў машыну.

— Што з таго,— сумна, стомлена запярэчыла дзяўчыне пажылая дакторка.— Я вунь задрамала, а тако-ое прыснілася, што не давядзі госпадзі. Прачнулася — як камяк гліны, якую мясілі сланы. Два тыдні да пенсіі засталося — і такая аварыя, такая бяда. Паехалі ўжо. Паехалі.

## 44

Даўжэзным калідорам рэактарнага аддзялення бяжыць, заціснуўшы пад пахаю вахтавы журнал, Сяргей Нечыпарэнка. Без белага каўпака, рукаў камбінезона ў чорнай сажы. Водбліскі чырвоных аварыйных ліхтароў хвошчуць яго па твары, і здаецца, што вочы яго таксама то ўспыхваюць, то гаснуць, як у робата.

— Дазіметрыстаў выклікайце, такую вашу маць! Дазіметрыстаў сюды! У мяне прысмак металу на зубах і пячэ ў горле! Хана! Значыць, ірванула актыўную зону! Дазіметрыстаў!

Выюць сірэны.

Стукочуць па ўсіх калідорах ногі ў белых чаравіках. Грукаюць цяжкія дзверы пакояў. Гучнае дыханне людзей. Жудаснае мігаценне аварыйных ліхтароў уздоўж усяго калідора.

Змітро Палівода малымі хударлявымі грудзьмі налягае на масіўныя чыгунныя засланкі, якія расчыніла выбухам, і адтуль са свістам вырываецца радыеактыўная пара. Касцюм у Змітра мокры, брудны і парваны ў многіх месцах. Твар бледны і пастарэлы, як у цяжкахворага дзеда. Ка-

шаль ірве яму горла, і ён задыхаецца, але ўсё ж зачыняе засланку.

— Галабародзькам затыкаць бы гэтыя дзіркі! Галабародзькам! І іхнімі барановымі галовамі!

Да яго падбягае ўпэцканы ў сажу, запырсканы гудронам хлапчына.

— Няма Міровіча! Няма Хадамчука! Нечыпарэнкі няма!

— А Галабародзька?

— Толькі што абазваўся... з бункера.

— Я яго, скаціну, і там дастану! Уцякай адсюль! Табе яшчэ жыць і дзяцей кляпаць! Перадай на ўсе блокі — хай зараз жа! зараз жа! уключаюць аварыйку, бо садане і іх, і наш горад! Трэці ўжо спыняюць. Уцякай, кажу табе!

— А вы?

— Я яшчэ выключу рубільнікі. Буду жыць, пакуль не знайду Галабародзьку, Чыжова...— Змітро выштурхнуў хлапчыну ў калідор і кінуўся да энергетычнага шчыта на верхнім паверсе.

Пераадолеўшы некалькі пралётаў лесвіцы, Палівода знясілена спыняецца перад праломам у сцяне, з якога відаць агонь над рэактарам.

Па прыстаўных драбінах паднімаюцца на сцяну зруйнаванага выбухам блока пажарнікі ў касках, якія злавесна барвовіць графітнае полымя. Скрозь трэск агню, свіст пары чуюцца ўжо ахрыплыя галасы пажарнікаў:

— Пайшоў! Пайшоў!

— Зацягвай шланг!

— Хутчэй злучай рукавы!

— Гарачая смала цячэ за каўнер! Ніякай радыяцыі тутака няма — смала пячэ, зараза! Агонь і смала!

— Давай ваду! Ці яна ў цябе ў штаны выйшла, Валодзька?! Вось я табе дам, як патушым! — Гэта голас Рыгора Міровіча, які ўжо ўскараскаўся на верхні край сцяны рэактара.

Змітро хоча крыкнуць пажарнікам, каб не лезлі проста ў пашчу рэактара, каб адсякалі агонь ад блока А, але з горла змог выціснуць толькі балючы стогн. Ён асядае на прыступку лесвіцы. З верхняй кішэні спяцоўкі вывальваецца бліскучы аловак-дазіметр і коціцца ўніз па сходках.

Яго рука намацвае край пралому ў сцяне, пальцы хапаюцца за востры выступ, і Змітро павольна ўстае на ногі, кашляе, намагаецца хапануць паветра, бо пачынае нудзіць, але радыеактыўны ёд яшчэ больш раз'ядае горла.

Праз пралом ён бачыць, што абвалілася века рэактара, агаліліся графітавыя стрыжні, што пажарнікі, якія мітусяцца на верхніх краях сцен, стараюцца патушыць полымя, льюць ваду ў пашчу графітнага агню.

— Што ж вы робіце, хлопцы?! Самагубства. Вар'яцтва смелых... — Ён напружыўся штосілы, і голас у яго заклекатаў, а тады і прарэзаўся тонка, заклікальна: — Радыяцыя! Вар'яты! Адсякайце агонь ад трэцяга! Ад трэ-э-эцяга! Адсякайце яго! Куды лезеце?!

Яго крык на руінах рэактара нехта ўсё ж пачуў. Спынілася нечая постаць, і загучаў голас Рыгора Міровіча:

— Браце! Дзе ты? Што я скажу маме? Мі-ко-ла?! — Бетонныя сцены атамнай глуха шпурляюць апошнія словы і выпускаюць іх з каменнага мяшка на волю. Яны, здаецца, даляцяць да горада, да Гарадзішчаў, столькі ў іх страсці, смутку, болю.

Змітро асцярожна спускаецца ўніз па сходках. Надоўга завісае рукамі на парэнчах, скочваецца, б'ючыся аб выступы, зноў паднімаецца. Яго нудзіць, пячэ ў горле, кружыцца галава.

Трымаючыся за сцяну, дабіраецца да будкі аварыйнага тэлефона, знімае трубку з рычага і павісае на тоўстым дроце, не выпускаючы яго з рук.

— Дзяўчынка! Перадайце: дах блока... сарвала... завалена. І заднюю сценку... З выкідам у паветра радыеактыўнай пары... урану... графіту... газаў... Радыяцыя ў зоне смяртэльная. Зніміце пажарнікаў. Прамое апраменьванне... Шукайце Міровіча... Хадамчука... Галабародзьку я сам знайду... нават на тым свеце...

Трубка выслізгвае з рук, ён асядае ў тэлефоннай будцы.

Змітро пачынае ванітаваць, рукі яго пачарнелі, твар стаў земляністы і апатычны, толькі вочы паблісквающь, і то ад успышак аварыйных агнёў у калідоры.

## 45

Алеся сіліцца разбудзіць Рамана, не разумеючы — спіць ён ці прытвараецца, уткнуўшыся тварам у зямлю.

— Раман, Ромка! Уставай! Што з табою? У мяне душа разрываецца! Там нешта сталася. Тата на змене сёння. Ну, устань жа, Ромчык. Як ты можаш спаць? А калі нешта сталася на станцыі... з татам, з усёй вахтаю...

— На заставе старшына не даваў спаць, тут ты. Мужчына павінен адпачыць. Такая фізіялогія. Жанчына му-

сіць гэта ведаць і ўлічваць. Тым больш калі жанчына яшчэ і медык...

— Я вучуся на аперацыйную сястру. Нам гэтага не казалі. Уставай, уставай! Трэба ехаць у горад. Позна, і душа крычыць: што з татам?! Што з татам?!

Яна пераварочвае яго дагары, гладзіць чуб, твар, цалуе, паднімае Раманаву галаву, трасе ёю.

— Прашу цябе, калі з татам усё добра, прыедзем сюды зноў, будзем да раніцы, я стану такая, як ты захочаш. Толькі едзем, Рамане, едзем. Бо я памру ад дурнога прадчування.

## 46

Дырэктар, галоўны інжынер і іхнія жонкі ў кватэры ў дырэктара. Чыжоў, стоячы каля мяккай канапы, размаўляе па тэлефоне. Юрый Ігнатавіч надзяе штаны, якія яму дастала з шафы жонка, не можа пацэліць праваю нагою ў калошыну, хістаецца, скачучы на левай.

— Дайце алею! Свежага алею! Ён забівае пах!

Пузач некаму крычыць у тэлефонную трубку:

— Не можа быць! Гэтага ніяк не павінна быць! Няпраўда! Панікёры! Радыяцыйную абстаноўку толькі мне! Зараз буду! Галоўны ўжо каля мяне! Едзем. Брахня! У страху вочы вялікія! Да майго прыезду не дакладваць!

Абодва прагна п'юць алей з горла пляшкі, выціраюць тлустыя падбародкі.

— Зноў гэта праклятая работа...— праказала дырэктарыха.

— Змоўкні, індычка! Можна было і дома пагуляць, дык не: на лона, на лона, у душу лона маць! Калі ўсё праўда, нарэшце мы праславіліся. Можа, і на цэлы свет з тваім, Юра, Галабародзькам.

— А чаму маім, чаму маім, Іосіф? — наструніўся Юрый.

— Зачыніце форткі! Не выходзьце на вуліцу! Не выпускайце дзяцей... калі гэта праўда. Выпіце самі і давайце дзецям па таблетцы ёдзістага калію... Калі гэта праўда... Не веру! — Чыжоў яшчэ раз выпіў алею і ўлазіў у касцюм, які трымала жонка.

— А як мы будзем ведаць, што сталася? Як? У нас жа дзеці!

— Я крыкну адтуль, пачуеш. Прыслухайся! — адказаў Чыжоў, каб ад яго адчапіліся.

## 47

Імчацца калідорамі рэактарнага памяшкання лекары з ношамі. Іншыя бягуць ужо ім насустрач, несучы смяртэльна паражонага радыяцыяй і апёкамі рэактаршчыка. Касцюм на ім абгарэў. Акрываўленага, апечанага твару амаль не пазнаць. Вочы заплюшчаны, валасы абгарэлі, пасохлыя губы нешта хочуць сказаць, але каму цяпер да таго, каб зразумець, што іменна? «Мама»? «Вады»? «Жыць»?

Адзін з дактароў, якія нясуць цяжкахворага, паспявае сказаць, размінаючыся з тымі, якія бягуць ім насустрач:

— За другім лесвічным пралётам, каля тэлефона. Хутка!

## 48

Падземны бункер пад атамнаю. Нізкая, укрытая вільготнымі плямамі бетонная столь з лямпамі дзённага святла. Стосы чыстага рабочага адзення рэактаршчыкаў: белага, чорнага, шэрага. Пажылая жанчына выдае яго мужчынам і жанчынам, якія ўжо прыбываюць на станцыю па выкліку — дазіметрысты, інжынеры, аператары.

— Запісвайце, дзеткі, запісвайце самі, хто што ўзяў, бо я ж без загаду выдаю, а ў мяне зарплата дзевяноста рублікаў. Бярыце, бярыце, але запісвайце... Мне ж адчытвацца. От горачка...

— Тое, што здарылася, маці, доўга, відаць, будуць апісваць. Ведамасцей не хопіць...— адказвае ёй малады, але з густою барадою хлопец.

Мужчыны і жанчыны пераадзяюцца тут жа, у зале, амаль не саромеючыся адны адных, пераадзяюцца паспешліва, не звяртаючы ўвагі на шматлюддзе, толькі некаторыя з дзяўчат просяць адна адну заступіць іх ад мужчынскіх вачэй, хоць тыя і не звяртаюць увагі, не да гэтага цяпер.

У меншай, далейшай зале бункера за сталом з некалькімі тэлефонамі сядзіць Галабародзька ў белым марлевым рэспіратары, у белым новым камбінезоне. Каля стала стаіць Нечыпарэнка, бледны, разгублены.

— Ідзі і шукай Міровіча. Без Міколы не вяртайся, сукін сын! Ты чаму пакінуў вахту? Дзе мой брат Мікола Міровіч? Што я скажу ягонай жонцы, маці? Што скажу, дэзерцір?

— Дайце дазіметрыста! Там жа сотні рэнтгенаў б'юць

напрамую, Васіль Пятровіч! На безразважную смерць пасылаеце. Мне толькі дваццаць сем гадоў...

— Бяры, бяры, каго хочаш, толькі знайдзі мне Міровіча!

Звоніць тэлефон, Галабародзька паднімае трубку.

— Галабародзька! Намеснік галоўнага. Так. У час астаноўкі блока адказала аварыйная сістэма. Цеплавы выбух. Не, не домыслы панікёраў. Тэхналагічны выкід у атмасферу. Якія там ахвяры?! Зараз прыбудуць Іосіф Кузьміч і Юрый Ігнатавіч — усё будзе добра. Не знаю. Гэта іх кампетэнцыя. Едуць. Ужо выклікалі...

## 49

У кутку, схаваўшыся ад іншых жанчын, пераадзяецца Наталка. Нечыпарэнка адразу пазнае яе: цела, распушчаныя валасы...

— Нечыпарэнка Наталя! Галабародзька загадаў суправаджаць мяне да турбіннай залы. Хутчэй! — загадвае ён, завязваючы сабе новы рэспіратар.

— У мяне няма дазіметра,— спакойна адгукнулася Наталка.

Жанчына, што заступае сабою Наталку:

— Ні ў кога няма. Нехта забраў ключ са шчыта ад дазіметрычнай. Вахцёрка кажа, што Галабародзька, а ён кажа, што не браў і ў вочы не бачыў. Гэта і павінна было стацца з нашымі парадкамі.

— Трэба ўзламаць дзверы,— гарачыцца хлопец з бародкаю.

— Дык Галабародзька дырэктара і галоўнага чакае.

Убегла ў бункер дзяўчына ў лёгенькай сукенцы. Твар перапалоханы, памада развэдзгалася па губах, уся дрыжыць, як у ліхаманцы.

— Ой, якога страшнага неслі да «хуткай»! Страшнейшага за мерцвяка! Абгарэлы ўвесь. А санітары ўсё бягуць, бягуць... Я не пайду туды, не вытрываю, я не магу бачыць крыві!

— Цыц, сікуха! Трэба было ў дворнічкі ісці, а не ў дазіметрысты, білеты ў кіно прадаваць, закройшчыцаю ў атэлье. Не — у дазіметрысты: малінка, дупай перад начальствам вярцець, манікюрыцца на рабоце, пра мужыкоў балбатаць! — гучна, але нязлосна прагула жанчына, за спіною ў якой пераадзяецца Наталка.

Нечыпарэнка ўбягае да Галабародзькі.

— Ёсць Міровіч! Ёсць, Васіль Пятровіч! Павезлі яго ў бальніцу. Жывы.

— Ты сам бачыў?

— Сваімі вачыма. Абпаліла яго здорава. Але жывы! Толькі што панеслі санітары. Ужо ў дарозе да бальніцы. Давайце ўзламаем дзверы дазіметрычнай. Ніводнага дазіметра няма.

— Не лезь не ў сваю справу. Трэба было аварыйную ўключыць на некалькі хвілін раней, злачынец! А я яму кватэру выбіваю ў прафкаме.

— Ды вас жа не было, а ўказанняў вы не пакінулі.

— Я быў. Запомні гэта назаўсёды! Толькі сядзеў у кабінеце галоўнага. Мог дадумацца і пазваніць, а ты, відаць, дэтэктыў чытаў, ёлупень!

## *50*

Радыеактыўная хмара над атамнаю распаўзлася на паўнеба і павольна рухаецца на поўнач, куды націху падзьмуў вецер, які на зямлі амаль не адчуваецца.

Вакол станцыі ў даволі вялікім радыусе гараць раскіданыя пад час выбуху кавалкі паліва. Зыркія свечкі-гейзеры ў траве, на бетоне і асфальце, на дахах памяшканняў прамысловай плошчы, у выбітых грузавікамі каляінах з гразёю — булькаюць і кіпяць гэтыя раўчукі, з іх выпаўзаюць сонныя, ледзь жывыя жабы-варопаўкі, выпаўзаюць, але ўцячы ад небяспекі ўжо не могуць. Ні паўзці, ні крумкаць няма сілы.

Рыбакі, што вудзілі рыбу пасярод водазаборнага канала, штосілы гоняць сваю гумовую лодку да берага.

Улятаюць на плошчу перад атамнаю службовыя аўтобусы, «хуткія дапамогі», пажарныя машыны з суседніх раёнаў. Заварочваючыся, пажарнік бамперам стукнуў Галабародзькавага «Жыгуля», памяўшы яму багажнік, але не спыніўся, пагнаў машыну да рэактара.

Бягуць да прахадной людзі, бягуць, пераскокваючы праз выкінутыя выбухам з блока кавалкі урану і графіту. Хіба можа нехта з іх падумаць, што гэтыя аскабалкі выпраменьваюць смяротную небяспеку? Яны ж бачаць іх упершыню. Адкуль ім ведаць? Нехта нават зачапіў наском чаравіка і пабег далей.

Чацвёра спутаных калгасных коней стаяць у лузе за

каналам, спалохана збіліся ў купу і стаяць, насцярожана ўглядаючыся ў людскі тлум каля станцыі. Напалоханы жарэбчык іржэ ў ноч.

Вуліцамі горада бегаюць машыны: міліцэйскія, «хуткія дапамогі», службовыя і прыватныя. Рух іхні нервовы, з парушэннем усіх правілаў, рэзка тармозяць, падбіраюць знаёмага пешахода, які бяжыць сярэдзінаю вуліцы, зноў зрываюцца з месца. У гэтым начным руху адчуваецца татальная трывога, цень бяды — у горадзе здарылася нешта непапраўнае, але пра гэта ведаюць толькі тыя, каго падняў суровы покліч абавязку. Горад спіць: дзе-нідзе хтосьці сонна выгляне з балкона ці зірне праз акно, успыхне святло ў пакоі і патухне: каго там носіць зацемна?

## 51

Прачнуўся Дар'ін муж Сцяпан. Смага даняла і разбудзіла. Рука прывычна шаснула па тумбачцы, намацала графін з квасам. Прагавіта п'е, нават не падняўшы галавы. Квас цячэ па шчацэ, па белай падушцы, рэзка торгаецца кадык. Паляжаў. Устаў, чухаючы жывот пад майкаю, пайшоў у туалет. Зашумела вада ва ўнітазе. Зноў з асалодаю пачухаў сваё цела. Лёг і заснуў. Смага не сушыць — можна спаць.

## 52

Стаяць у расчыненых дзвярах на парозе ў сваёй хаце Марыя з Фёдарам. Чуйна і напружана ўглядаюцца ў бок горада за лесам. Марыя, нават калі застаецца адна з Фёдарам, заўсёды гаворыць уголас, і ён збольшага ўсё разумее. Часам нават не бачачы яе твару і губ. Таму яна гаворыць так, быццам ён усё-ўсенька чуе.

— Відаць, ужо згасілі. Дагарае. Хата ці сціртa так не гараць, Федзя, нафта або газ. На змене Грыша ці халасцякуе? А тая, што прыязджала на татава пахаванне, прыгожая, Федзька?

Сын зазірнуў ёй у вочы, бо не ўсё зразумеў. Яна спыталася яшчэ раз, і ён ухвальна ківае галавою і паднімае ўверх тоўсты палец.

— Бензакалонку неяк Грыша тушыў, хваліўся мне, што пах бензіну ніяк не адмываўся з цела і перасіліць

той дух нават адэкалонам не мог. Нешта там, у горадзе, дагарае, але ўжо не страшна, Федзя. Дасць бог абыдзецца. Якраз у гэтую гадзіну дзевяць дзён таму тата пайшоў ад нас, сыне. Душачка яго яшчэ ў Гарадзішчах. Лётае над вёскаю, развітваецца і рыхтуецца ў дарогу. Можа, і між нас цяпер стаіць, слухае, але сказаць нічога не можа. Нямая, як і ты, сынку.

Фёдар стаіць на парозе, а мама ідзе ў святліцу, чыркае запалкай, запальвае свечку на стале, ставіць яе ў шклянку з пшаніцаю.

Белы сабачка Пушок шуснуў між ног у Фёдара ў хату. Быццам уцякае ад нечага, хаваецца, шукае абароны ў гаспадароў. Марыя ўбачыла яго ў сенях, дастала з халадзільніка кавалачак каўбасы, кінула яму, але ён і на гэты раз толькі панюхаў і замалаціў хвосцікам, аддана глядзячы ў вочы. Нібы просіць: не праганяйце мяне.

Няхай гарыць у хаце сярод ночы гэтая мацярынская свечка. Бо яна ўжо не толькі па бацьку, але і па Міколу, а можа, і па іншых... Марыя запаліла яе — няхай гарыць...

Гэта адзіны ў Гарадзішчах агеньчык. Адзіны.

— Ты спі, Федзька, а я ўжо не засну. Падушка як камень. На тым свеце, каля таты, адляжуся за ўсе гады. Паспі, сыне, бо дзень будзе цяжкі. Спі, а я сабе работу знайду. За такую ноч можна пастарэць, але мне гэта не страшна. Толькі б не памерці.

### *53*

**Матацыкл з Раманам і Алесяю выскоквае на мост над** чыгункаю. Мост, з якога адкрываецца панарама начнога горада, па вуліцах якога гойсаюць аўтамабільныя агні, і — атамная станцыя над рэчкаю. Над рэактарам стаіць амаль нерухома сінявата-чырвоны язык полымя. Дарогаю да станцыі імчаць з уключанымі сірэнамі і мігалкамі «хуткія», аўтобусы, легкавушкі.

Убачыўшы гэта, Алеся крычыць на вуха Раману:

— Паварочвай да таты! Правей. Ромчык! Не шкадуй матора! Хутчэй, бо я звар'яцею...

Ён адказвае, задыхаючыся ад ветру:

— Не чую! Я ў шлеме! Не чую!

Яна ўпілася тонкімі спруцянелымі пальцамі яму ў плечы, штосілы трасе імі, і Раман усё ж паварочвае матацыкл на станцыю.

Алеся ўбягае ў бункер. Сярод мужчын у белых халатах шукае вачыма бацьку. Не знаходзіць.

— Хоць бы ты, дачка, сюды не лезла. Хто ж нам унукаў народзіць? — з тугою глядзіць на яе пажылая жанчына, якая выдае спецадзенне.

— Мой тата, Мікола Міровіч? Жывы? — задыхаючыся, пытаецца Алеся.

— Спытай, дзіцятка, у Галабародзькі... Той усё ведае. Нават дзе ключы ад дазіметрычнай...

Алеся стаіць перад намеснікам галоўнага інжынера. Ён пазнаў яе, бачыў і ў Гарадзішчах, і тут, у горадзе. Яна таксама яго ведае, татавага і мамінага земляка.

Пазнаў і ўтрупеў: мабыць, убачыла, калі выходзіў ад іх. Вось будзе гісторыя! А калі яшчэ з Міколам... бяда? Ох і несвоечасова спакусіўся. Няўжо малая нешта ведае?

— Дзядзька Васіль, скажыце! Дзе мой тата?

— Жывы, жывы Мікола Міровіч. Трошкі апякло яму рукі, ужо ў бальніцы. Да твайго вяселля паправіцца. З накіраваннем у нашу бальніцу я ўжо ўсё вырашыў. А там і кватэру выб'ем... зямлячцы і... можна сказаць, пляменніцы, сваячцы...

— Я ж прасіла маму: не ўмешвайся... Не апякуйцеся мною, у вас свае дзеці...

Алеся выскоквае ў вялікую залу бункера, бяжыць наўслеп да выхаду — сутыкаецца з прыгожай дзяўчынай у чорнай спяцоўцы (ёсць тут і такія, якая каму трапілася). Гэта Наталка, але яны не знаёмыя. Наталя вінавата адступілася, падтрымала дзяўчыну ў джынсах, з раскудлачанай галавою, каб тая не ўпала. Міжволі прылашчыла яе і адпусціла: бяжы, уцякай адсюль, калі занесла цябе выпадкова.

*54*

Устае Адарка, хутка саскочыўшы з ложка. Глядзіць на гадзіннік. Пачатак чацвёртай. Не праспала. Папраўляе ссунутыя коўдры на сонных Руслане і Лідачцы.

Ногі яе мужа Сцяпана ўпалі з канапы на падлогу. Падымае іх, шкадуючы, якія ж худыя і тонкія, умошчвае, накрываючы коўдраю. Налівае з халадзільніка квасу ў парожні графін на тумбачцы. Хуценька мыецца, накідвае на плечы ватоўку, абувае гумовікі з закасанымі халявамі. Выходзіць з пад'езда свайго дома з мятлою і вялікім

бляшаным саўком. Выцягвае шланг, адкручвае кран і пачынае сваю дворніцкую працу.

Падмятае двор, тратуары, выграбаючы з калдобінак недакуркі, закрывалкі ад мінеральнай вады і піва, адарваныя гузікі, выкарыстаныя аўтобусныя талоны, абгорткі ад цукерак і марожанага. Мяце яна роўна, размашыста, пасялянску, быццам ідзе ў пракосе з касцамі. За ёю застаецца чысты асфальт, незасмечаная зямля, чыста і роўна забаранаваны пясок на дзіцячай пляцоўцы. Не праспала, рана спраўлюся і — да маці. Сцяпан не паспее знікнуць, паедзе з намі.

Роўны шоргат яе мятлы чуваць на ўвесь квартал, але ён нікога не нервуе, наадварот — супакойвае: спіце сабе, людцы, спіце, я раблю сваю справу, люблю гэта рабіць уночы, каб вам не назаляць, каб выходзілі з дому, калі горад ужо чысты. Люблю ноччу прыбраць двор, бо раніцою прачынаюцца дзеці, муж, трэба даць ім рады... Замужам, клопату шмат.

Знайшла капейку, схавала яе ў кішэню. Мяце зноў.

## 55

Раман затармožвае матацыкл каля бальніцы. Алеся саскоквае на асфальт, хістаецца, у яе з галавы злятае чырвоны шлем, коціцца, падскокваючы на выемках, ажно на сярэдзіну вуліцы, яго ледзьве паспявае абмінуць міліцэйскі «ўазік», што імчыцца на вялікай хуткасці.

— Я аддам капітану лайбу. Можа, да зарэзу патрэбна яму цяпер. І прыйду сюды, да цябе. Знайду каля... таты.

Ды Алеся пабегла ўжо праз двор, дзе набілася «хуткіх дапамог», да ганка бальніцы.

Раман выехаў на сярэдзіну вуліцы, падхапіў згублены шлем, газануў і з палёгкаю ўздыхнуў: нарэшце матор і ён і ніхто не крычыць над вухам. Воля! Любоў ужо была... у лесе.

Праўда, перад тым як Раман знік за рогам дома, зноў упаў на асфальт і гучна заскакаў па ім чырвоны шлем. Хлопец вярнуўся, падхапіў яго і раўнуў гарачай «Яваю», ажно сыпанула іскрамі з глушніка.

Ды нават за ровам матацыкла ўсё адно чуваць, як недзе ранні дворнік мяце сваю вуліцу.

— Свабода! — яшчэ раз сказаў Раман.

# 56

У дырэктаравым кабінеце няма святла, але гарыць блок, і пачынае світаць. Відаць, Чыжоў зняў трубкі з усіх тэлефонаў на сваім стале, каб выслухаць Галабародзьку і Нічыпарэнку,— адусюль звоняць безупынку, а што ён можа адказаць, не выслухаўшы віноўнікаў?

Пад'язджаючы да станцыі, ён паволі дапетрываў, што, мабыць, сарвала-такі века рэактара, а ўсё ж не верыў, пакладаючыся на цуд. Са студэнцкай лавы яго пераконвалі, што нашы рэактары бяспечныя, што абшыўка іхняя надзейная, што заўсёды можа спрацаваць аварыйная сістэма. Калі б нехта стаў сумнявацца ў гэтым — яго б назвалі правакатарам. Хмель яшчэ бадзёрыў Чыжова, зрушваў рэальнасці, і дырэктар, нават убачыўшы руіны рэактара, сумняваўся, што здарылася менавіта тое, ніколі і нікім не прадбачанае. Не, гэта, магчыма, недзе і магло стацца, але не ў я г о, не тут, не сёння. Можа, аформіць адпачынак з учарашняга дня?

У жудасным змроку Чыжоў заўважыў сваё крэсла і праваліўся ў яго, забыўшыся на гэты раз падкласці скураную падушку, таму толькі галава і плечы выглядаюць з-за масіўнага стала ды свеціцца прыкураная цыгарка ў зубах.

Галабародзька ўжо ўлавіў чуйнымі ноздрамі: гулялі начальнікі, добра, што я не прычасціўся ў Людмілы. На ўсё горла лыкалі мае саколікі, а я толькі маладзіцу наведаў, лічы, і не чужую, а знаёмую змалку...

Белы марлевы рэспіратар закрывае Васілю губы і нос, і ў прыцемках здаецца, што яго рот залеплены алебастрам.

— Ты нешта гаворыш, Васіль, бо я не чую? — з прыціскам вымаўляе кожнае слова Чыжоў і пазірае ў акно.

— Усё ішло па схеме. Папярэдняя вахта здала змену, эксперымент прадаўжаўся. У Нечыпарэнкі не было заўваг. Рэактар выходзіць з-пад кантролю, а Сяргей чытаў дэтэктыў...— Васіль апусціў рэспіратар на шыю, бо голас гугнявіць і дыхаць цяжка.— Я сядзеў у прыёмнай, яшчэ раз удакладняў свой эксперымент. Сяргей зачытаўся ці задрамаў, і тады...

— Вас не было, Васіль Пятровіч! Я званіў і ў прыёмную. Не было! Знайшлі дурня, на мяне ўсё хочаце спіхнуць! Я вас шукаў, калі гэта пачыналася. Па ўсіх тэлефонах шукаў. І страціў тыя хвіліны, якіх і не хапіла, каб уключыць аварыйку! Не было вас! — крычыць Нечыпа-

рэнка і адступае ў куток кабінета, быццам шукае абароны ў дырэктара, за яго скураным крэслам.

— Будзь хоць у гэты час мужчынам, дрыстун! — сказаў Галабародзька падупалым голасам і зноў насунуў рэспіратар, забыўшы, што ў руках цыгарэта.— Нездарма табе жонка рогі наставіла... з маім земляком, кажуць, яшчэ і родзічам...

Галоўны інжынер ціха ходзіць па кабінеце, і з яго разрозненых думак павольна складаецца адна, уцешная: я не ў чым не вінаваты, ёсць дырэктар, які прымаў рашэнне, ёсць Галабародзька, які заварыў усю гэту кашу, ёсць Нечыпарэнка, які разгубіўся ў крытычную хвіліну, добра, што я не паставіў свой подпіс на Галабародзькавай прапанове. Чысты, нідзе не пакінуў сваіх слядоў. Чыжоў выкруціцца, паедзе да міністра, выкарыстае сувязі, вінаватых пакараюць. Ён з палёгкаю ўздыхнуў, прыслухоўваючыся, як паднуджвае яго ад выпітага алею і лішку шашлыка.

— Ды змоўкніце ўжо, бабы базарныя! Якая радыеактыўная абстаноўка? У залах блока? У адміністрацыйным корпусе? Вакол станцыі? — спытаў ён, гледзячы на Нечыпарэнку.

— Гэта Галабародзькава кампетэнцыя,— агрызнуўся Сяргей.

— Я не хацеў сеяць панікі. Вось ключ ад дазіметрычнай. Чакаў вас, Іосіф Кузьміч і Юрый Ігнатавіч. Зараз пачнём замерваць. Не хацеў самаўпраўнічаць без вас.— Васіль паклаў ключ на дырэктараў стол.

— У прычынах аварыі разбяромся пазней, а то і... разбяруцца ўжо без нас. Цяпер трэба ратавацца... ратаваць людзей! Юрка! Пасылай групу дазіметрыстаў на блок! Яшчэ адну на тэрыторыю, куды выкінула гаручае. Паказанні мне ў рукі! Толькі мне!

— А горад, горад, Іосіф Кузьміч? Трэба прамераць бы горад, праз тры гадзіны ён ажыве, дзеці пойдуць у школу,— асцярожна азваўся Нечыпарэнка.

— Трэба было думаць пра гэта, калі сядзеў за пультам, а не чытаць дэтэктыў.— Галабародзька зацягнуўся «Залатым руном» і закашляўся.

— Прамераем і горад. Шыла ў мяшку не схаваеш. Грымнулі на ўсю краіну, а можа, і далей. А яшчэ як за граніцай вынюхаюць — праславімся на ўвесь свет. І спакусіў жа нас чорт на Галабародзькаву авантуру! Што дакладваць наверх? Што? — ажно прастагнаў Чыжоў, і ад-

чай яго стаў амаль рэальны ў гэтым цёмным кабінеце пры святле світанку і зарыва. І вясенняя муха між шыбамі ў акне трывожна зазвінела, як самалёт у вышыні.

— Можа, закідаем? Збяром людзей і закідаем сваімі сіламі, Іосіф Кузьміч? — Галоўны інжынер канчаткова прызнаў сябе невіноўным, і голас яго гучаў роўна, ледзь не бадзёра, як на рабочых лятучках.

— Шапкамі, Юра, шапкамі, кіслымі памідорамі, мокрымі анучамі і куфайкамі... Хопіць! Арганізуйце дазіметрыстаў! — Чыжоў ледзь дакрануўся трубкаю да рычагоў апарата, як зазваніў тэлефон.— Так, Чыжоў, Віктар Канстанцінавіч. На жаль, вельмі сур'ёзна, маніць не буду. Разарвала блок. З выкідам у атмасферу. Зарэгістравана ажно ў Кіеве і Мінску? Шкада. У міністэрства я пазваню сам. Праз паўгадзіны змагу далажыць. Разумею, разумею, але ж мы рыхтаваліся да астаноўкі блока, а не да аварыі. Недахопы праекта, адсутнасць яшчэ аднаго ахоўнага контуру. Не-не, паводле папярэдніх дадзеных горад абсалютна чысты. Пра эвакуацыю не можа быць і гутаркі! Планета вялікая, хмару разнясе ветрам, а рэактар закідаем пяском. Не-не, гэта перабольшанне. Не едзьце, паберажыце сябе, я далажу сам. Людзі праяўляюць гераізм. Не, з вывадамі не спяшайцеся. Калі дзеці не пойдуць у школу — ведаеце, што будзе ў горадзе?.. Так, але не забывайце, што некалькі гадзін таму я ўзначальваў узорную станцыю. Мой калектыў выстаіць.

Чыжоў кінуў трубку на тэлефонны апарат. Пусты кабінет упершыню ўразіў яго сваімі памерамі.

Муха гула між шыбамі, як перагружаны бамбавоз.

## 57

У прыёмным пакоі гарадской бальніцы трывожная штурханіна, стогны, соўганне падэшваў, беганіна дактароў і медсёстраў. Мясцовыя медыкі, здаецца, звыклі да ўсяго: да чалавечых пакут, слёз, пераламаных касцей, смяротных ран, крыві, згасання чалавечага жыцця, але тое, што дзеецца ў шпіталі сёння... гэта ўжо з іншага часу, з іншых уяўленняў, а магчыма, і з іншай рэчаіснасці, якая раптам паказала сваё аблічча. І таму дактарам страшна, і таму многія з іх разгубіліся. У большасці з тых, каго прывозяць сюды, няма ран, не цячэ кроў, ніхто не просіць дапамогі, толькі нямая асуджанасць, велічэзная стомле-

насць ад жыцця, жудасная абыякавасць, ад якой дранцвее душа беспрасветным смуткам. Душа, якая не павінна б ні з чога дзівіцца. Чаму старэюць на вачах гэтыя маладыя хлопцы? Чаму не змагаюцца за жыццё моцныя з выгляду мужчыны? Чаму іхнія вочы не выяўляюць ні болю, ні смутку, ні надзеі — толькі старэчую ўсёдаравальнасць і застылую абыякавасць да свету? Што сталася з імі? У якой галактыцы яны пабывалі, за адзін міг вычарпаўшы ўсю сваю энергію і пражыўшы свае будучыя гады? Якія дактары павінны ратаваць іх: хірургі ці псіхіятры, тэрапеўты ці нарколагі? Якая немач мучыць іх? Што рабіць з імі?

Вось-вось пад'едзе галоўны, Валодзя Маслюк, можа, ён нешта ведае. Няўжо яна, прамянёвая? Няўжо тая, пра якую чулі на агульных лекцыях, але, дзякаваць богу, з якой не сустракаліся з вока на вока, адпраўляючы нават некаторых рэактарнікаў, што дачасна выбралі радыяцыйную норму, у Маскву, у спецыялізаваную клініку?

Хворых ужо поўны калідор, але іх усё падвозяць і падвозяць. Адны ідуць калідорам самі, ідуць, пахістваючыся і прытрымліваючыся за сцяну, іншых вядуць пад рукі толькі што выпісаныя, недалечаныя алкаголікі, ды ёсць і такія, якіх дактары і санітары заносяць на насілках. У прыёмным пакоі ўжо заняты ўсе крэслы, тапчаны, некалькі працятых радыяцыяй стаяць, абапёршыся аб сцяну, іншыя ляжаць на насілках, на пасцеленых матрацах. Амаль ва ўсіх шэрыя, шынельнага колеру твары, пакрытыя халодным потам.

Некалькі найцяжэйшых хворых балюча, няспынна ванітуюць, надрываючы нутро. Не паспяваюць дайсці да вялікай вываркі і ванітуюць на падлогу, вінавата паглядаючы на медыкаў.

У Змітра Паліводы на нейкі момант адступілася нудота і галавакружэнне, і ён намагаецца прабачальна ўсміхнуцца дзяўчыне ў белым халаце, але ўсмешка яго надта штучная, усё роўна як прыклеена да твару, як у асуджанага. Дзяўчына закрывае далонямі свой твар, заходзіцца глухім, гартанным плачам і павольна асоўваецца на падлогу, але на яе ніхто не звяртае ўвагі.

Халодная Змітрава ўсмешка пачынае раставаць і ажываць. Ён устае з крэсла, паднімае самлелую дзяўчыну і садзіць яе на сваё месца, а сам выходзіць у калідор. Няўжо хвароба мінула, няўжо гэта быў кароткачасовы шок, які ўжо ззаду?

Галоўны ўрач на хаду надзяе халат.

— Прыгатуйце ўсе прэпараты для ачышчэння крыві! Заносьце хворых у вызваленыя наркалагічныя палаты! Я выклікаю спецыяліста з Масквы. Медперсаналу прыняць ёдзістыя таблеткі!

Сярод цяжкага сапення, хрыпаў, шоргання падэшваў, тэлефонных званкоў, стуку дзвярэй раптам ускінулася такое ненатуральнае і фальшывае:

Як служыў жа я ў пана
Дый першае лета,
Зарабіў жа я ў пана
Качачку за гэта...

Голас у Змітра зрываецца і нагадвае шыпенне пары, што вырываецца праз шчыліну, але ён усё адно спявае, ідучы калідорам да выхаду.

— Пераймiце яго! Эйфарыя! Перыяд паказной лёгкасці прамянёвай хваробы. Лятэнтны этап! — крычыць галоўны ўрач і сам кідаецца наўздагон за Змітром.

Як служыў жа я ў пана
Дый другое лета...

Змітро захістаўся, але Маслюк паспеў падхапіць яго пад рукі.

Зарабіў жа я ў пана
Гусачку за гэта...

Падбегла дзяўчынка ў джынсах і ў забруджанай у зяленіва белай ваўнянай кофтачцы, дапамагла завесці Змітра ў бліжэйшую палату.

— Прымі таблетку і надзень халат! — не гледзячы на Алесю, загадаў Маслюк.— Пакліч рэаніматара!

Яшчэ прывезлі хворых. Мужчына і старэнькая бабуля заносяць пажарніка ў тоўстай брызентавай робе, з бледным, амаль мёртвым тварам, з расплюшчанымі, утаропленымі ў адну кропку вачыма. Алеся напружана ўглядаецца ў яго: не, не тата.

Худы, даўгалыгі рэаніматар пабег у палату, куды паклалі Змітра.

А той качар добра скача...

Гэта бязглуздая бравурная песенька дзейнічае на медыкаў страшней, чым перадсмяротны стогн, як маленне дапамогі. Вынеслі маладзенькую медсястру, якая зноў самлела.

— Ідзі адсюль, дзіцятка, ідзі сабе. Гэта нам, старым, усё роўна,— сказала Алесі санітарка з вялікай барадаўкай на носе.

— Тату шукаю, цётка. Тут мой тата.

— Хіба іх цяпер пазнаеш? Вар'яцкі дом. Некалькі такіх, што і пазнаць нельга. Вазьмі халат, бо выганяць. А лепей уцякай адсюль.

Нясуць яшчэ аднаго хворага. Нясуць два хлопцы, але аднаго водзіць з боку на бок, ён хістаецца, можа вось-вось упусціць насілкі. Алеся з санітаркаю падбеглі яму на дапамогу.

Хворы ў кірзавіках, у заляпаных у смалу джынсах, у абгарэлым кіцелі, з-пад якога вылезла сарочка. Хлопец, якога яны замянілі, адступіў да сцяны і стаў ванітаваць.

Перад вачыма ў Алесі пагойдваецца вялікі, у смале бот, ад якога і дагэтуль патыхае цяплом і гудронам. Толькі б данесці! Толькі б не расслабіліся рукі!

Яна ўсё ж адважылася глянуць на яго твар.

Пульхныя, далікатныя губы...

Бровы зрасліся на пераноссі... рэзкая складка між імі...

Востры падбародак з ямінкаю пасярэдзіне...

Непакорлівыя кольцы чорнага чуба прыліплі да лба...

Тонкі нос з ледзь прыкметнаю гарбінкаю...

Дзядзька Грыша!

Нібы адчуўшы яе пякучы позірк, Рыгор расплюшчыў вочы.

Пазнаў? Ці прыняў за прывід?

Толькі б данесці! Яшчэ некалькі крокаў!

«Я каля вас, дзядзька Грыша! І тата таксама тут!»

— Адзежу апраменены х хавайце ў пакеты! Хавайце, бо да раніцы ўсе тут ляжам! Выпісвайце з бальніцы ўсіх, хто можа хадзіць! Чаму дагэтуль не прынялі ёдзістага калію? Даставайце ўсе запасы, званіце, хай прывозяць з суседніх раёнаў! — крыкнуў Маслюк у калідоры і знік у адной з палат.

Алесі здалося, што дзядзька Грыша ледзь усміхнуўся ёй і варухнуў губамі.

### *58*

Галінка марэлі ў шклянцы з вадою. Напалоханы верабей, што непрыкметна заляцеў у фортку, сядзіць на карнізе ў пакоі, дзе размешчана тэлефонная станцыя атамнай.

Бледная, з пакудлачанымі валасамі тэлефаністка толь-

кі што сама падключыла станцыю да аварыйных акумулятараў, бо выбіла ток. Запрацавалі тэлефоны. У пакой урываецца голас дырэктара, які крычыць некаму:

— Я ж і кажу: нельга дапусціць панікі! Распарадзіцеся, каб выключылі тэлефонны выхад з горада, бо праз гадзіну будзе ведаць увесь Саюз. Не выпускайце рэйсавых аўтобусаў! Перакрыйце ўсе выезды транспарту! Бескантрольны рэактар не бяда, а вось бескантрольны горад... Вы ж улада, адказваеце за паніку! Будзем засыпаць рэактар пяском. Фон у горадзе нармальны, ніякай эвакуацыі! Да святаў усё патушым і выйдзем на першамайскую дэманстрацыю! За горад адказваеце вы, а я толькі за станцыю. Не суньцеся не ў сваю справу!

Верабей, млява страпянуўшы крылцамі, зляцеў на падлогу і сцяўся ў кутку, апусціў галаву, плямкае дзюбкаю.

Тэлефаністка пахілілася на стол, валасы ў яе рассыпаліся. Шклянка з галінкаю марэлі перакулілася, і вада пацякла пад шчаку самлелай жанчыне.

Учора яе сястра абмяняла кватэру з Адэсы на горад энергетыкаў, тры гады Люся ўгаворвала яе: чыстая рэчка, грыбы, лясы, азон, хоць нажом наразай, сталічны Кіеў пад бокам, танны рынак, пасля адэскай аднапакаёвай «хрушчоўкі» будзеш мець двухпакаёвыя мадэрныя харомы і некалькі тысяч даплаты, зажывём разам. Угаварыла. Учора пераехала сястра з дзіцем, першую ноч начуе ў новай хаце; збіраліся за лета распрадаць маміну гаспадарку і забраць маму ў горад. Такое планавалі, і — калі ласка! Прачнецца сястра і пракляне яе. Назад ужо не адменішся. Парачка, што рванула ў Адэсу, сёння будзе рукі паціраць, калі даведаецца пра аварыю...

Хтосьці крычыць у слухаўку, але тэлефаністка ўжо не чуе.

— Люська! Люська! Перадай на прахадную! Медыкам! У электрацэху яшчэ два паражоныя! Дзе ты, лялька маляваная?! Аглухла? Мне таксама кепска...

## *59*

Адарка старанна мые вадою свой двор. Перакрывае пальцам струмень са шланга, каб тонкім цурком збіць кожную парушыну, ад гэтага палец пасінеў і зморшчыўся. Колькі прасіла Сцяпана: зрабі мне металічны наканечнік — усё яму некалі. Вымывае дошкі дзіцячай пясочніцы,

качалак з драўлянымі конікамі, палівае кусты і клумбы. Вось-вось выйдзе сусед з жонкаю рабіць фіззарадку, будуць выганяць з сябе пот, падскокваць і прысядаць тут, на дзіцячай пляцоўцы, таму Адарка хоча хутчэй прыбраць, каб не круціцца ў іх на вачах,— хто ведае, можа, яны саромеюцца яе.

Дзевяць дзён як няма таты, а ўжо ўсё дрэннае забылася, адышло. Жыццё ідзе, трэба месці двор, накарміць дзяцей і Сцяпана, ехаць да мамы — вось і ўсяго таго клопату на дзень. Чысты двор, памытыя і дагледжаныя дзеці, цвярозы Сцяпан, накрыты памінальны стол, уся сям'я сабралася ў хаце, каб у злагадзе памянуць тату,— гэта і ёсць шчасце, бо тату не паднімеш. Рэальнае, канкрэтнае шчасце.

Іншых радасцей Адарка не ведала. Ёсць абавязкі, і іх трэба выконваць. Выканала — вось найбольшая радасць. Горад ёй падабаецца толькі таму, што ў яе ёсць канкрэтная праца: прачынаешся і ведаеш — трэба прыбраць двор, не чакаеш нарад у брыгадзіра, а бярэшся за мятлу.

Яшчэ памыць на вуліцы ходнік, і ўсё.

Халера нейкая ў горле — дзярэ так, што і адкашляцца нельга, і ў роце жалезная аскоміна. Хоць бы не загрыпаваць на татавы дзевяціны.

Зноў закашлялася і зашпіліла ватоўку на верхні гузік. Такая цёплая раніца, а яна прастудзілася. Не, усё роўна паеду ў Гарадзішчы, вып'ю гарачага чаю, ніхто і не заўважыць нямогласці, бо Сцяпану толькі таго і трэба... адразу махне да сваіх сябрукоў.

## *60*

Раннія рыбакі коцяць на веласіпедах да прыстані. Прывязаныя да рам вудзільны тырчаць далёка ўперадзе і пакалыхваюцца, быццам ужо даўно пачала кляваць вялікая рыбіна, што затаціла паплавок. Нешта сёння неба пахмурае, набрыняла дажджом, відаць, рыбалка будзе няважная, але ж хочацца пасля зімы параскашаваць над вадою, нават калі вернешся дадому з парожняю торбаю. Так зорна было звечара, а цяпер нешта зацягнула неба...

Прычаліў катэрок да гарадской прыстані, тыцнуўся старою аўтамабільнай шынай аб прычал — і з яго высыпаўся гурт сялян з мяшкамі, кошыкамі, старымі чамаданамі, перавязанымі матузамі. Замоўк матор катэра, уга-

манілася рачная хваля пад берагам — і запахла зялёнаю цыбуляю, агуркамі, сялянскаю кілбасою. У прадчуванні суботняга кірмашу, гандлёвага азарту, свежай капейчыны сяляне гаваркія, узбуджаныя, мітуслівыя. Пойдуць па гарадскіх кватэрах іхняя радыска, парніковыя агуркі і памідоры, свежая свініна і цяляціна, бо каму ж перад святамі не хочацца мець запас?

— Гэты год радыска дуплаватая. Чамусьці проста распірае знутры. А зверху камень...

— Перабіраеце з хіміяй. Гною, гною давайце, не лянуйцеся.

— А ў мяне сусед памідорам нейкія ўколы робіць. Хірург. Шпрыц з рук не выпускае. За два дні ўжо і чырвоныя, ажно лопаюцца.

— Навука! На службе Харчовай праграмы. Усё правільна. Хіба калі-небудзь у красавіку елі спелыя памідоры? Ад кіслых крывіліся.

— А цяпер ты ясі? Усё ж на продаж вязеш. Хіба што гнілаватага дзіцяці парэжаш.

— Малая ў мяне мандарыны любіць. А старшы японскі магнітафон. Так што абыдуцца без памідораў, калі хочуць мандарыны і магнітафон.

— Сын павінен быў выехаць машынаю, а ўсё няма. І аўтобус не прыйшоў. Як жа я данясу свайго бычка да рынку? — наракае бабуля ў балоневай куртцы.

— Не трэба было рэзаць, ён бы і сам да рынку дайшоў...— зарагатаў мужчына з вялікім чамаданам на плячы.— Паспяшаліся купіць сыну машыну, вот ён і спазняецца. Я і прадам усё, пакуль ён па вас прыедзе... Паспяшаліся, мамаша, паспяшаліся з машынаю...

## *61*

Задыхаючыся, Наталка ўбягае ў прыёмную дырэктара. Скідае абрыдлы рэспіратар, што перашкаджае ёй дыхаць. Чорны камбінезон узмакрэў і прыліп да цела. Срэбны талісман — знак задыяка, пад якім яна нарадзілася, гайдаецца на ланцужку паверх курткі (Грыша заўсёды жартаваў: «Нарадзілася пад Вадалеем — павінна быць жонкаю пажарніка»).

Чыжоў крычыць некаму ў тэлефонную трубку:

— Зрабіце ўсё, як мы казалі! Таблеткі ў шуфлядзе ў маім стале, дзяцей на вуліцу не выпускайце!

Наталка хоча скінуць з шыі дазіметр, але стары рэмень яго ў некалькіх месцах завязаны на вузлы і таму кароткі, не скідаецца. Заціснуўшы цяжкі шчуп пад пахаю, яна, як чорны прывід, вырастае перад Чыжовым. Бледная, белыя валасы, што выбіліся з-пад чорнай шапачкі, прыліплі да спатнелага лба, памада размазана вакол губ, павекі набрынялі і пачырванелі. Чыжоў міжволі ўціскае сваё цела ў скураное крэсла і папраўляе тэлефонную трубку на апараце. На ўсялякі выпадак.

— Я замерала толькі ў трох мікрараёнах. Толькі ў трох, але і гэтага дастаткова. Нават гэты, з заніжанымі паказаннямі, стары дазіметр, які даўно трэба было спісаць, крычыць: трэба неадкладна пачынаць эвакуацыю! Зараз жа! Не марудзячы ні хвіліны! У раёне моста і выезду на Кіеў дазіметр зашкальвае. Чатыры дазіметрысткі ўцяклі дадому, каб папярэдзіць сваіх родзічаў. Трэба аб'явіць па мясцовым радыё, каб ніхто не выходзіў на вуліцу, і пачынайце эвакуацыю! Людзі ўсё зразумеюць, толькі скажыце ім праўду. Выступіце самі — гэта адзіны шлях у гэтай сітуацыі. Чаму вы закрылі горад? Гэта злачынства, якое вам не даруюць дваццаць тысяч дзяцей! Яны будуць праклінаць вас і праз дзесяцігоддзі!

— Ты, здаецца, была Нечыпарэнкавую жонкаю?.. Але і ён не вытрымаў такога характару...

— А што, ад гэтай акалічнасці палепшыцца радыяцыйны ўзровень у горадзе? Зніжаецца фон? Тады я згодная зноў выйсці за яго замуж і тут жа памяняць нораў.

— Вострая каса хутчэй вышчэбліваецца. Твая справа — вызначыць радыяцыйную абстаноўку і далажыць мне. Ты гэта зрабіла, а дэзерціры будуць адказваць. Я адпускаю цябе дадому. Тут цяпер музыку заказваюць іншыя.

— Спадзяюся, не эстрадную, а...

— Давай лататы, я ж сказаў: ты вольная. Зараз прыбудуць салдаты-дазіметрысты.

— Скажыце хоць адну праўду. Сярод пажарнікаў ёсць цяжка апрамененыя?

— А хто вінаваты, што яны палезлі на сцяну, проста на адкрытую радыяцыю?! Не ў першабытным веку жывуць. Зарплату атрымлівалі з прыбыткаў атамнай энергетыкі. Не калгасную стайню ці дзядзькаў хлеў прыехалі тушыць...

— А вы былі дырэктарам атамнай ці раённай цагель-

ні? Хоць і другая вам завысокая пасада,— сказала Наталка ўжо з парога і затупацела туфлямі на высокіх абцасах па сходах.

— Набралі ў калектыў усялякага смецця... той жонку, той каханку, а адказваць за ўсё Чыжову...

Дазіметр біў Наталку ў грудзі, тупы боль аддаваўся ва ўсім целе, колькі разоў шчуп выпадаў з-пад пахі, але яна падхоплівала яго і бегла. Ускочыла ў РАФ «хуткай дапамогі», у якім не паспелі зачыніць дзверцы. Сесці не было дзе, і яе моўчкі ўзяў на калені худзенькі, дробны, як падлетак, чалавечак, што заходзіўся кашлем.

## *62*

На Рыгору куцая, мытая-перамытая бальнічная піжама, з якой карыкатурна тырчаць яго вялікія рукі і ногі. Сядзіць на канапцы ў прыёмным пакоі. Паказвае маладой медсястры, якія кароткія ў яго рукавы і калошы, намагаецца ўсміхнуцца, але твар балюча перасмыкаецца, на яго находзяць ваніты, і Алеся ледзь паспявае падставіць яму цэлафанавы мяшок.

— Як ваша прозвішча? — пытаецца медсястра.

— А як цябе завуць, галубанька? Няўжо такая кветка ў нашым горадзе вырасла? Ці любіць цябе ўжо нехта? І ці геніяльна любіць? Цяпер у асноўным раменікі, падзёншчыкі на кароткачасовым падрадзе. Спажыўцы і нездары.

Алеся зашпільвае дзядзьку гузікі на піжаме, папраўляе рукавы, што закасаліся вышэй локцяў, выцірае густы пот на ягоным ілбе.

— Міровіч яго прозвішча, як і маё. Рыгор Іванавіч Міровіч. Пяцьдзесят другога года нараджэння. Капітан пажарнай часці. Нежанаты.

— Капітан, але на маёрскай пасадзе. Лічы, маёр, толькі пагоны перашыць. Дзе ты сустракала маёра-жаніха, каб ніводнага разу не ажаніўся, галубка? Не спяшайся мяне спісваць. Я нежны, як пух адуванчыка...

Жудасна бачыць гэта Рыгорава заляцанне сярод стогнаў хворых, мітусні дактароў, крыку і плачу пад вокнамі бальніцы.

Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але зноў захацелася ванітаваць, і Алеся кінулася да мяшка, ды рукі яе не слухаліся, не паспела.

— Эйфарыя! У пачатковай стадыі. Пад капельніцу! Ды хутчэй, бо потым не паспеем з ім! — загадала дакторка з грубым, амаль мужчынскім тварам і з рэдзенькім валоссем на верхняй губе.

— Нікуды я не пайду. Такая прыгожая дзяўчына, а мяне чамусьці забіраюць ад яе...— Рыгор хацеў выявіць на твары пяшчоту заляцання, але выйшла нейкая халодная, сумная грымаса.

## *63*

У адміністрацыйным будынку, дзе размясцілася гарадская ўлада, дзверы расчынены наросхліст і падпёрты драўляным калком. З вокан валіць цыгарэтны дым. Нават скрозь шэрую плёнку світання відаць, што дым. З адчыненых вокан. Горача.

На плошчы, каля клумбы з цюльпанамі, збіраюцца аматары ранішняга бегу (з плошчы да лесу, там інтэнсіўныя практыкаванні, і зноў да плошчы). Яшчэ сонныя, абыякавыя да ўсяго навакольнага, чорт бы яе пабраў, гэтую беганіну, але што зробіш — трэба, кажуць, прадаўжае жыццё, значыць, трэба некуды бегчы. Толькі чаму гэта не спіць гарадская ўлада, чаму мітусяцца там людзі, чаму з расчыненых вокан чуваць галасы?

— Дзяржаўны транспарт запраўляйце без талонаў! Па ведамасці запраўляйце! Бюракратычныя фармальнасці сёння прыроўніваюцца да сабатажу! Я не маю часу вас слухаць. Выконвайце! Я ўсё завізую! Сустрэнемся, калі застанёмся жывыя! Запраўляйце!

— Сандружыннікі пойдуць па кватэрах з таблеткамі? А гэта не выкліча панікі? Не, я павінен параіцца з хазяінам, а ён цяпер заняты, у яго генерал з Масквы. Зробіш самавольна? Тады я з табою не гаварыў, ты мне не званіў...

— Не знаю. Я гэтага пытання не вырашаю, праз нейкі час прыступіць да работы камісія, ужо прыбыў намеснік саюзнага міністра энергетыкі.

— Аляксандр Юр'евіч, у вас сарочка вылезла.

— Гандлюйце! Выкласці ўсе дэфіцыты і — гандляваць! Вывезіце ў парк шашлыкі, піва, марожанае. Гэта распараджэнні шэфа! Цяпер не да пісаніны, дзейнічаюць вусныя распараджэнні. Выконвай!

— Якая радыяцыйная абстаноўка ў горадзе? Гэта пустыя словы, генерал патрабуе дакладных дадзеных, Іосіф

Кузьміч, радыяцыйнай карты раёнаў горада! Вы ведаеце, чым гэта пагражае? У вас не хапае дазіметрыстаў? А я вас прасіў тыдзень таму ўладкаваць аднаго чалавека. Вы сказалі — ніводнай вакансіі. Цяпер, відаць, і дырэктарава будзе свабодная. Генерал выязджае на станцыю. Полк радыяцыйнай разведкі ўжо будзе пад Івангорадам. Мяне гэта не цікавіць, Іосіф Кузьміч. Вы выкладзіце ў тлумачальнай запісцы кампетэнтным органам.

— Перакрыйце паўночную дарогу! Міліцэйскія падраздзяленні ўжо прыбываюць. Вы ж ведаеце, што першае будзе драпаць смецце. Калі бура — яно паднімаецца першае.

— Колькі паступіла ўжо? Сто сем? Палівода? Памёр у рэанімацыі? Валодзя, маскоўскія дактары ўжо вылецелі. Яшчэ крышку пратрымайся. Леўчанка круціцца тут, бліжэй да начальства, затое не перашкаджае табе. Няхай хтонебудзь вывесіць спісы, бо зараз кінуцца сваякі, жонкі. Пратрымайся, дарагі...

— Хоць бы хто чаю заварыў, горла перасохла. Дай цыгарэту, хоць я і кінуў год таму гэту нечысць.

— А што, у вас на лбе напісана, што вы з міністэрства? Машыны ў мяне няма ўсё адно. Ну, выбачце. Але машыны не маю, аддаў генералу.

— Патрэбен час, каб мы зразумелі, што здарылася. Чыжоў проста адбрэхваецца. Спрацавала тое, што збіралася шмат гадоў і дасягнула крытычнай масы. Вінаваты мы ўсе. Бо маўчалі, бо лічылі, што неяк абыдзецца, што атам ужо прыстасаваўся да нас, што ён падлягае нашым пастановам і рашэнням, як паслушны чыноўнічак, шэранькі выканавец...

— Ды хопіць ужо. Трэба дзейнічаць, а не філасофстваваць, Сяргей!

— Занадта доўга мы дзейнічалі не думаючы, Міхайле!

— Верталётчыкі прыбылі! Але хто будзе грузіць пясок? Хто? Добра. Вось няхай будаўнікі і займуцца. На пляжы пяску хопіць. Дзе ўзяць мяшкі? Шый з той матэрыі, на якой хацеў пісаць лозунгі, яны ўжо не патрэбны! У мяне самога трое малых, і бацькі на свята прыехалі, а я не знаю, калі дадому траплю...

— Што ж, гэтага і трэба было чакаць. Сёння гэта трэба расцэньваць як дэзерцірства. Бяры ўсю адказнасць на сябе!

— Ад блока В пажарнікі адсеклі агонь! Блок Г некіроўны, ідзе адкрыты распад. На жаль, не гатовы ніхто.

Калона машын, нагружаных салдатамі і міліцыянерамі,

уязджае на плошчу, і роў матораў паглынуў галасы ў адміністрацыйным будынку, з якога выйшаў міліцэйскі генерал у расшпіленым кіцелі і фуражцы са збітым набок казырком.

## *64*

Адарчын Сцяпан доўга, знясілена прарываецца скрозь ачмурэнне, чапляецца вачыма за зялёны плафон пад столлю, за сервант з чаркамі і келіхамі, за вышытага Адаркаю малайцаватага паўліна на сцяне, нарэшце, за тумбачку з графінам: дома, ядры яго корань, дома! Дай божа здароўя таму, хто прыдумаў квас, ён уратуе чалавецтва на світанку, а пад абед яно здольнае і само нешта прыдумаць...

Крэхча, вохкае і ахае, чухае сябе пад рэбрамі.

Некуды мяне баба хоча сёння заарканіць... Будзе сядзець пад рукою і штурхаць локцем: не пі! І шабашка ёсць сёння — гаспадар вязе машынаю на дачу, пазвоньваюць пляшкі ў багажніку, шалясцяць купюры ў кішэні, жытуха абрастае сэнсам... З бабаю пашанцавала. Першая была цыркулярка, пакуль рубільнік не выключыш — не замоўкне, а Дарка — свечка. Дзьмухнуў — і патухла, толькі дымок курыць. А куды падзенецца? Хата, дзеці, муж з галавою і рукамі...

Дапівае квас. Адзяецца.

Хутка, зладзеявата, нібы заскочыўшы ў чужы дом, складае свой сталярскі інструмент у зялёную торбу ад процівагаза.

Выглядае ў акно: ужо вымыла двор, вунь скручвае шланг. Налягай на падэшвы, Сцяпан, бо спрацуе пастка, ядры яго ў каршэль... Трэба прашмыгнуць, бо пшыкнуць заробкі, і шабашка, і магарыч.

Ён паднімаецца на паверх вышэй і прыслухоўваецца, пакуль жонка зойдзе ў кватэру. Яе тату-нябожчыку ўсё роўна, а мяне жывыя чакаюць...

Адарка яшчэ раз аглядае прыбраны і вымыты двор. Памыла каля дзіцячай пляцоўкі адарваную пластмасавую ляльчыну руку. Ідзе, паднімае яе, выцірае аб ватоўку, тады — краем хусткі, але не выкідае, кладзе ў кішэню. Хоць і ляльчына, але ж рука.

У двор на рызыкоўнай хуткасці ўлятае УАЗ. І тут жа з пад'езда выбягае, нервова адзяваючы пінжак, жылец гэтага будынка, нейкі начальнік, але які — Адарка не ведае. Начальнік, бо па яго штoранку заязджае машына.

Аднак яна паспявае пачуць урывак размовы паміж вадзіцелем і кіраўнічым чалавекам:

— ...аварыя страшэнная... рыхтавацца да эвакуацыі... ахвяры... Выпісалі з бальніцы ўсіх хадзячых, а месцаў не хапае...

УАЗ, выстраліўшы дымам, вылецеў з двара.

Адарка машынальна выняла з кішэні пластмасавую ляльчыну руку, доўга трымае яе на далоні, выцірае яшчэ раз і глядзіць на вокны сваёй кватэры. Яе нібы штурханула нейкая ўнутраная пружына. Кладзе ў кішэню кавалак цацкі і бяжыць да пад'езда.

Неўзабаве адтуль выскаквае Сцяпан, зладзеявата крадзецца пад сцяною, каб яго не заўважылі з акна. Перабягае вуліцу і знікае за будынкамі.

## *65*

Прыёмная палата ў бальніцы. За акном ужо раніца. Хворых прыбывае менш і менш. Знясілелі вадзіцелі і дактары. Ці прывезлі ўсіх?

Алеся ў брудным халаце, у каўпаку, што з'ехаў на патыліцу, вялікай анучай, кавалкам бальнічнай коўдры, зграбае з падлогі рвоту ў палаце..

(Не падабаецца? Натуралістычна? Ведаю, ведаю, браты-эстэты, сам такі, ды медыкі, якія перажылі ўсё гэта, у адзін голас сведчаць: хадзілі да костачак у ванітах, і гэта было страшней за кроў, бо змяшчала ў сабе «белую смерць». Дык што: сарамяжліва абыдзем? Надта цесны пакой!)

Завіхаецца Алеся старанна, палошча анучу ў вялікай выварцы і мые падлогу, абмінаючы нечыя ногі ў бальнічных тапачках, у парусінавых чаравіках, у якіх ходзяць па атамнай. Пот залівае ёй вочы. Яна заплюшчвае іх, і ў яе стомленым мозгу на міг узнікае:

...густыя кроны сосен у начным, з густымі зоркамі небе...

Сонная рэчка, над якой скача тлустая рыба...

Вочы бабы Марыі ў акне...

Кусцік чарнобылю нахіліўся над яе, Алесіным, тварам, рука Раманава адхінае зёлку, ён хоча пацалаваць яе, але галінка зноў выпростваецца і замінае...

Стомлены тата ў адзенні, заляпаным смалою, вінавата стаіць на парозе іхняй кватэры, чакае мамінай нахлабучкі, усміхаецца...

Раманавы пальцы прагна шараць па яе целе...

Яе бязвольныя рукі, раскінутыя на зялёнай зямлі, развесістыя сосны, зорнае неба — усё гэта закрывае Раманаў разгарачаны, нават нейкі хіжы твар...

Боль!

Чужы, амаль азвярэлы незнаёмец прыціснуў яе цела да вільготнай зямлі, ахрыпла дыхае ёй у твар. Чаму? Чаму ніякага пачуцця, апрача болю?

Боль і — апусташэнне...

Алеся расплюшчвае вочы і яшчэ больш зацята мые бальнічную падлогу ад бруду.

Дакторка з мужчынскім тварам і ледзь прыкметнымі вусікамі — да свайго калегі-мужчыны:

— Дзе ж той Лелячэнка? Папрасіўся выкурыць цыгарэту. Дазволіла, бо не надта шмат, відаць, хапануў. Кліччце яго...

Ды ў прыёмны пакой заводзяць, трымаючы за рукі, маладога хлопца ў цывільным касцюме. Ён увесь час намагаецца вырвацца, звольніцца, але два дужыя медыкі трымаюць яго штосілы.

Дакторка ажно адхіснулася, пазнаўшы знаёмага вадзіцеля «хуткай»: вар'яцкі пагляд, страх і агрэсіўны выгляд твару.

Адзін з медыкаў, што суправаджаюць вадзіцеля:

— Галіна Кірылаўна! Валянцін не выходзіць з нервовага шоку. Ледзьве злавілі яго ў калідорах станцыі. Няма чым звязаць — трымаем. Рыхтуйце дземідрол. Буйны...

— Хто б мог падумаць... Такі ціхі і спакойны. Не дабудзішся ў машыне, калі на тэрміновы выклік ехаць... Усё ў гэтым свеце стала з ног на галаву... Я б не здзівілася, калі б звар'яцела сама.

Убегла медсястра:

— Лелячэнка ўцёк на станцыю! Бачыла, як ускочыў у машыну. Крычаў, што не засунуў нейкую засланку! Ой! Валерка! Што з табою?!

Але хворы нават не глянуў у яе бок, намагаецца вырвацца ад медыкаў, кусае іх за рукі.

Алеся зацята мые падлогу, абмінаючы апучаю іхнія ногі.

У вокны прыёмнага пакоя зазіраюць спалоханыя жаночыя вочы: можа, і мой тут?.. Не адны, шмат розных вачэй... Вочы. Вочы. Вочы... А ў іх страх, што іх могуць пазбавіць надзеі...

Раман сапраўды хацеў аддаць матацыкл пажарніку, але заблудзіўся ў горадзе, усе будынкі яму здаваліся аднолькавымі, як і двары, у якія ён заязджаў. Па вуліцах сноўдалі машыны з уключанымі фарамі, парушалі правілы, імчаліся супраць руху, выязджалі на ходнікі, і яму з кожнай хвілінай усё больш здавалася, што ўсе яны гоняць некуды якраз яго, як паляўнічыя зайца, злоўленага ў скрыжаванне фар. Вырваўшыся на шырокую вуліцу, ён аддаўся ўсёй разгарачанай сіле «Явы», і яна панесла яго напрасткі.

Часам здавалася, што Алеся дыхае яму ў патыліцу, а яе рукі ашчаперылі яго плечы, што вось-вось яны ўдваіх выскачаць з гэтай пасткі і тады — воля, і любоў, і бяспека!

Каля моста, на кіеўскім выездзе з горада, дзяжурыць нарад міліцыі, стаяць некалькі дзесяткаў машын перад апушчаным шлагбаўмам. Шафёры чапляюцца да міліцыянераў, стараюцца пераканаць іх, што едуць па неадкладнай справе, але тыя завучана паказваюць жазлом: заварочвайцеся!

Адзін з міліцыянераў заўважыў на трасе матацыкліста і прадбачліва становіцца пасярод дарогі: гэта матарызаваная шпана можа і пад рукой праскочыць.

Раман здалёк убачыў, што яго чакаюць спераду, і цяпер яго страх стаў амаль рэальны: сапраўды, усе палююць якраз на яго, пастка замкнулася!

Віскнулі тармазы, засмярдзела гарэлаю гумаю, ён завярнуўся, не даехаўшы да міліцыянера, і пагнаў назад.

Адзін з затрыманых вадзіцеляў зразумеў, што на гэтым пасту яго не прапусцяць, ведае яшчэ некалькі дарог, вылаяўся і таксама паехаў у бок горада. Раман некалькі разоў азірнуўся і ўжо не сумняваўся: гоняцца! А ў яго ні правоў, ні дакументаў — толькі дзве ліпкія дурманныя гарошыны, якія падарыў яму знаёмы казах, у якога Раман перахоўваў сваё цывільнае адзенне, бо надыходзіла дэмабілізацыя, і хацеў ехаць дадому як усе, а не аддаваць чэсць кожнаму стрэчнаму ваеннаму. Казах выпрасіў у Рамана скураную каўбойку, пачаставаў, даў новенькую сотню і ўсунуў дзве гарошыны: «Жыццё — пекла. А гэта рай! Два білеты ў рай дае табе кунак...» А калі дагоняць і знойдуць у кішэні?

Ён пачуў, як зноў выпаў запасны шлем, як заскакаў

ён па бетонных плітах, глуха і жудасна барабанячы сваёй пустацеласцю. Няхай бяруць, галава пры мне. Галава і матор!

Выкінуць гарошыны ці праглынуць? У пекла ці ў рай?

## 67

«Вось быў бы ў нас тэлефон — даўно б ужо ўсё ведала. І Мікола пазваніў бы. Калі за дзвесце рублёў «на лапу» можна было паставіць тэлефон па-за чаргою — пашкадавала, бо Мікола запэўніў, што рэактарнікам і так павінны правесці, спісы пададзены ўжо на АТС. А цяпер клянч у Галабародзькі...»

Людміла амаль не звяла вачэй. То розная жыцейская лухта лезла ў галаву, то раптам сцялася, як сляпое шчаня на марозе, сумленне: ці не раззвоніць Васіль, ці не пахваліцца каму-небудзь, што запрашала ўначы дадому? Што гэтым вырашыла? Паабяцаў, каб адчапіцца... Вось прыйдзе Мікола, паедзем у Гарадзішчы, і ўсё забудзецца. Галабародзька няхай праб'е тэлефон і кааператыў. Скісла, выкінулі і забыліся.

Супакоіўшы сябе, Людміла пачала звыкла збіраць Тарасіка ў школу.

Ён снедае лена, неахвотна, дзеля мамы, каб толькі не сварылася. З вялікай яечні адкалупвае відэльцам невялікія кавалачкі, і перад ім на талерцы застаецца кветка з жоўтаю сарцавінаю... Але мама гэтага не заўважае, прышывае гузік у яго школьны пінжак.

— Папрасі Галіну Аляксандраўну, каб адпусціла з чацвёртага ўрока, скажаш, што мы ўсёй сям'ёй едзем памінаць дзеда. І — бягом дадому. Не малюй на асфальце, а стрымгалоў дадому. У цябе набралася грахоў на даўжыню бацькавай дзягі.

— А я таты не баюся... Мама, а дзе гэта Алеся?

— Пайшла ўжо ў вучылішча.

— Я ёй на падушку паклаў малюнак, ён чамусьці там і ляжыць...

— Не тваёй галавы клопат. Яна... спала са мною на канапе. Давай ляці ў школу, бо спознішся...

## 68

Аляксандра Іванавіча разбудзіў сонечны зайчык ад Залатой Зоркі на штрыфлі цёмна-шэрага пінжака, што

5 Зак. 534

вісіць на спінцы крэсла пасярод кабінета. Мілая неспадзеўка. Прыемна. Калі б учора не перапіў кавы на ноч — ілюзія дзяцінства. Зайчык, як маміна рука на досвітку, цёплая, ласкавая... Уявіў сябе басаногім падлеткам на халоднай расе... Маўра (у іх усе каровы так называліся, як толькі сябе памятае) скубе траву, ленавата памахвае хвастом, парыпвае капытамі. О, нарэшце пакідае цёплыя «коржыкі» на траве... Сашка ўступае ў іх босымі нагамі... Божа, асалода якая незямная, касмічная, стэрыльна чыстая, без дамешак, без удзелу розуму, які любіць нагадваць пра часовасць усяго на свеце...

Як дарэчы ўчора ўспомнілася гэта дэталь! Баяўся, што акадэмік з жонкаю не зразумеюць, інтэлігентна прамаўчаць, як уцэліў, як паклаў усіх на лапаткі! Цяпер акадэмік будзе ўспамінаць пры кожнай сустрэчы, ён такі: за драбніцу можа чалавека палюбіць, але і за драбніцу можа гэтак жа неўзлюбіць. І ўсё! Хоць голасам галасі!

Ён чуў, як Вольга ці дачка Іванка складалі талеркі пасля снедання ў кухонную ракавіну, як зяць шукаў ключы ад машыны, як зачыніліся за ім дзверы, як пах пражанай бразільскай кавы пранік скрозь шчыліны ў спальню. Можна яшчэ паляжаць...

Аляксандр Іванавіч заплюшчыў вочы, павярнуўшы галаву так, каб сонечны зайчык грэў яму пераносіцу, і зноў уявіў сябе Сашкам, які толькі што ступіў на цёплы Маўрын «коржык». Нічога больш не трэба. Нічога. Вось толькі ў чатырнаццаць гадзін калегія міністэрства па перабудове стылю работы ўсіх галін энергетыкі... Шуміць лес... жвакуе Маўра... Новы міністр усё будзе звальваць на свайго папярэдніка, і ўсе згодна будуць ківаць галовамі, як коні ў спёку... Першыя гілі пачынаюць кусаць Маўру, і яна адмахваецца ад іх... Звініць, цёхкаючы салаўём, маленькі японскі тэлефончык, падобны на рудую плітку шакаладу, у якую ўманціраваны і мікрафон, і слухаўка, і кнопкі набору нумароў. Гэты кабінетны нумар ведаюць толькі ў дырэкцыі інстытута ды ў атамным главку міністэрства. Вось калі б адмянілі калегію, сеў бы ў электрычку, махнуў бы на дачу, пахадзіў бы па вясновым лесе, спусціў бы бярозавага соку, можа, убачыў бы недзе і хлопчыка, які пасе карову... Хоць з акна электрычкі, здалёку ўбачыць яго між бярозамі і соснамі... Тэлефончык цёхкае і цёхкае... Няўжо адмяняюць калегію? І рука пацягнулася да стала.

— Чую, чую вас... Так, Міровіч! Сёння дваццаць шостага красавіка, а не першага, з жартам, ды яшчэ з такім вар'яцкім, вы спазніліся!.. Павел Рыгоравіч, гэтага не можа быць ніколі! Хлусня! Хлусня або — дыверсія! Зараз буду!

## *69*

Фёдар нясе на плячы праз лес цяжкі чырвоны балон з газам. Трэба ж такое: пліта ранкам пагасла пад каструляй з квашанінай і пад саганом з капустаю. Мама чакае, пакуль утушыцца капуста, а саган ужо і астыў. Хацеў у суседзяў-дачнікаў пазычыць, а яны хай у нас папалуднуюць, але мама нечага ажно ўскіпела: лепей печ распалю.

Узяў тайком паўлітроўку з той скрыні, што прырыхтавалі на хаўтуры, ускінуў на плячо парожні балон, данёс яго да рэчкі, адвязаў човен, пераплыў на супрацьлеглы бераг. Шафёр, які развозіць грузавіком газ па вёсках, убачыўшы пляшку з новенькаю «бесказыркаю» і ўспомніўшы, што гэты гарадзішчанскі хлопец нямко, таму не данясе нікому, ахвотна памяняў парожні балон на поўны.

Фёдар увапрэў. Нязручны цяжар нацёр плячук, хіліць яго набок, але нясе, пераступаючы праз карэнне на лясной сцяжыне. Ужо віднеецца спераду гарадзішчанскі цвінтар, старая, пакінутая гаспадарамі хата, якую безліч разоў аглядалі пакупнікі-дачнікі, але ўсіх палохаюць магілкі праз дарогу і крыжы, якія відаць з вокан.

Згарэла нешта ў горадзе. Не, патушылі, людзей шмат, збегліся, залілі вадою, Грышка з хлопцамі пад'ехаў — колькі там тае работы... Трэба адпачыць, не данясу, скура на плячы лопне.

Скінуў балон, але на зямлю апусціў асцярожна, падтрымліваючы рукою, бо тата ж ляжыць непадалёк, на цвінтары, таму не стукай, Фёдар, няхай адпачывае бацька...

Марыя выйшла падаіць Маўру, але вымя ў каровы чамусьці зацвярдзела, відаць, баліць, бо скаціна незадаволена памахвае рагамі, адступаецца.

— Не час яшчэ, не пара, Маўрачка, чаго табе спяшацца? Панасі яшчэ яго, бо і трава добрая не падаспела, толькі крапіва і чарнобыль. Зараз вынесу табе цёплых памыяў, калі толькі Фёдар газ прынясе...

Малако цыркала густое, усё роўна як малодзіва, на сценках даёнкі заставаліся тлустыя падцёкі.

— Не скупіся, Маўрачка, гэта дзецям, вось прыедуць, то хай вып'юць сапраўднага, а не белай вадзіцы з магазіна...

Ледзьве выцягнула з яе палову даёнкі і выходзіць з хлява, перакуліўшы дагары ножкамі табурэтку, на якой сядзела, за парогам. Белы сабачка трэцца аб яе ногі, зазірае ў вочы, нібы шукае абароны ад нябачнага гіцля са стрэльбаю. Марыя рэзка адштурхнула яго нагою, але ён не ўзлаваўся, а зноў лашчыцца.

— Пайшоў вон, гультаіна. Ішоў бы ды хоць вераб'ёў паганяў на градах, бо павыпорваюць усё чыста. Закармілі цябе кілбасамі, то абгультаіўся і страху набраўся. Вось зараз прыедуць унукі на тваю галаву. Не дам малака, абыдзешся сёння, не жабрач.

Пушок усё-такі ўлучыў момант і лізнуў Марыю ў руку.

Суседзі-дачнікі яшчэ спяць, перапрацаваліся ўчора на градах. Дзверы замкнуты, вокны завешаны хусткамі. На галінах каліны, што расце пад хатаю, вісяць завільгнелыя за ноч старыя шкарпэткі, стаптаныя туфлі, пляжныя шапачкі, сядзяць вераб'і і вароны. На пластмасавым сланечніку блакітная каструля. Нехта спіць у машыне, скрозь захуканае бакавое шкло выглядае худая валасатая галёнка, на якой ляжыць жаночая рука з чырвонымі пазногцямі і тоўстым залатым пярсцёнкам.

Марыя перавяла вочы на суседскі агарод. Не дасадзілі. Сямёра душ таўкліся на градах, а ўсё роўна як куры грэбліся. А што ім — адпачываюць...

Вунь ужо школьнікі сабраліся на скрыжаванні вуліц, на гарадзішчанскай плошчы. Адны ўжо ніштаватыя, касцістыя, з грудкамі, а больш дробненькія, з ранцамі за плячыма. Школы ў Гарадзішчах няма ўжо, ходзяць і ездзяць па навуку ў суседнюю вёску. Па-рознаму дабіраюцца, бо брыгадзір тугі на памяць, забывае пра іх. Гарадзішчанскіх ужо і не лаюць, калі спазняюцца на ўрокі. Адна выпускніца з вёскі ў гэтым годзе — дачка Андрухі Кудыпашлюць. Кажуць, выпусцяць яе са школы з атэстатам і пасведчаннем пра нараджэнне дзіцяці, бо школьны фартушок не сходзіцца на жываце. Калгасны эканаміст нібы сядзеў з Андрухам у чайной, паабяцаў, што ажэніцца, толькі няхай дзеўка школу закончыць, народзіць, каб ён убачыў, ці на яго падобнае дзіця. Выпускны вечар, хрэсьбіны, вяселле. «Ты, карова, не магла сказаць матцы, калі цябе нудзіць стала?!» — крычала Таццяна Андрухава, але біць дачку баялася.

Пад'язджае грузавік з мінеральным угнаеннем. Школьнікі абляпілі яго барты, мігам залазяць у кузаў, старэйшыя падцягваюць за рукі малодшых, а тыя матляюць нагамі, як жабяняты. Уселіся, ажно руды пыл з мінералкі пайшоў. Паехалі. Вучыцца паехалі. Ужо без Андрухавай дачкі. Няхай родзіць — і то прыбытак Гарадзішчам. Яшчэ ў адной метрыцы ўспомніцца наша вёска, і крык немаўляці пачуем.

Марыя выпусціла курэй з куратніка, церабіла ім кукурузу з кіяхоў, але ўвесь час не зводзіла вачэй з дарогі — вось-вось павінен прыбыць аўтобус з горада.

## *70*

Круціцца «чортава кола» ў парку. Павольна, штуршкамі, быццам яго нехта рукамі круціць. Тры адзінокія дзяўчыны, кожная ў асобнай люльцы, нанялі кола з самага ранку. Можа, прагулялі недзе цэлую ноч, не спалі, а цяпер асвяжаюцца на ветры, як вавёркі ў коле, толькі дрымотныя, нерухомыя, з запаволенай крывёй у жылах.

Спыняецца машына, уся ў рознакалёрных стужках, з вялікай лялькай, што сядзіць на капоце, абапёршыся спіною на ветравое шкло. Выходзіць жаніх з нарачонаю. Вадзіцель адчыняе багажнік, дзе стаіць выварка з кветкамі. Маладыя бяруць два букеты, з якіх сцякае вада. Замітусілася маладая — кроплі, што сцякаюць з кветак, замачылі падол яе вясельнай сукні. Трэба ж такое: толькі што надзела і ўжо запэцкала?!

Вылез з машыны фатограф, які афармляў Дошку гонару. Два пацёртыя сундукі з апаратураю зрабілі яго непаваротлівым — ледзь выбраўся. Цэліцца аб'ектывам на маладых — і нарачоная выструньваецца, бярэ жаніха пад руку. Кладуць кветкі да помніка на магіле салдатаў, што палеглі ў гады вайны. Гучна пастрэльвае кароткімі чэргамі фотаапарат.

Наступны прыпынак — Палац шлюбу.

Палівальная машына мые гарадскія вуліцы, ходнікі. Моцны струмень апырсквае афішу, што заклікае прыняць удзел у сённяшнім кросе здароўя. Гуаш размылася і пацякла ўніз пісягамі.

Наталка ў чорным камбінезоне (плячыма недзе пацерлася аб шэры тынк) падстаўляе старую аўтамабільную

шыну пад бальнічнае акно, каб стаць на яе і зазірнуць у палату.

Яна ўжо нібы існавала паміма ўсяго, што сталася гэтай ноччу. Яно было складанае, напорыстае і загадкавае, як фатум, у якім яна толькі парушынка, што нясе ўраган. Мела б дзіця — інстынктыўна кінулася б абараняць яго, затульваць сваім целам, выносіць з горада, ахвяраваць сабою і сваім жыццём. Ды яна яшчэ не нараджала, не адчувала ў сабе ніводнага цёплага дзяцінага штуршка, пазаўчора забегла да знаёмай дакторкі з жаночай кансультацыі, і тая, ведаючы пра развод, сказала: «Папалася, русалка, відаць, так заснула пасля ўсяго, што рыба прыснілася... Пагуляй яшчэ з месяц, пагуляй, а тады прыйдзеш, памагу...» У горадзе ў яе быў толькі Рыгор, з якім здарылася бяда. Ёй трэба было толькі ўбачыць яго, упэўніцца, што ён на самай справе існуе. Жыла яна цяпер толькі дзеля таго, каб пераканацца: сярод гэтага стоўпатварэння, бязладдзя і жуды ён ё с ц ь. Убачыць, а тады ўжо думаць пра сябе. Жывы Рыгор — гэта яе апора. І паратунак, і сэнс жыцця. Пакуль не ўбачыць — не здатная ні на што. Няма яе...

Расчыняюцца шкляныя дзверы універмага «Энергетык», і ў яго ўвальваецца натоўп жанчын.

— Канец месяца, можа, выкінуць добры тавар...

— Чула, жаночы абутак завезлі, план у іх гарыць...

— О, калі б гэта канец квартала або года...

— Лепш бы нашым абутнікам ручкі павыкручваць.

— На атамнай, кажуць, нейкую трубу парвала, некалькі апаратараў апрамяніла, у бальніцу завезлі.

— Ото некаму святы будуць, няхай бог сцеражэ.

— Дзе тыя тавары, што па тэлевізары паказваюць? Дыктары, няйначай, носяць...

— Паспрабуй разлічы хатні бюджэт, калі хапаеш, што гандляры выкінуць, што ім ужо не патрэбна. Улетку футра купляеш, зімою басаножкі.

— Калі там, на станцыі, нешта сур'ёзнае — хай бы прадалі ўсе дэфіцыты. Усё адно прападуць...

— Летнія мужчынскія сарочкі з пагончыкамі даюць!

— Ага, такія ўчора былі ў магазіне інвалідам вайны.

— А я развялася — напалавіну клопату паменшала. Паспрабуй на мужыка нешта купіць. Два месяцы — «як рыбка на Дунаі»...

— Не спяшайся, галубанька, як ты заспяваеш праз два гады...

— А няго ж, яны проці немца ішлі і радыяцыю на сябе бяруць. Што мы варты без іх. У чарзе пастаяць не гора...

— Калі ўсё ў дзяржаве пойдзе, як пачалося, то і лад настане. І да нас чарга дойдзе.

— Ці дажывём?

— А іншага выхаду няма, дочанька...

## *71*

Раман імчаў амаль усляпую, кіруючыся на захад. Не адставаў ад яго і жоўты «Жыгуль». Наадварот, здавалася, што вось-вось апярэдзіць і перакрые дарогу.

Вецер выхапіў змятую абгортку, а ліпкія гарошыны, што пахлі канапляным духам, зліпліся між зубоў, на момант склеіўшы сківіцы.

«Уцякаючы з пекла, шукай раю...»

Дарога раздваілася. Асфальтаванка паварочвала направа, а гравейка дугою загіналася ў лес.

«Свабода, як і любоў, жыве ў нас саміх. Патрэбна азарэнне, успышка, каб стаць відушчым і ўбачыць...»

Матацыкл павярнуў улева, пясок ударыў па бляшаных крылах, руль ледзь не вырвала з рук, Раман штосілы налёг на яго, і сціснутыя сківіцы павольна разышліся.

Жоўты «Жыгуль» вырулiў на галоўную дарогу і знік за бярозавым гайком. Мабыць, пабаяўся глыбокай пясчанай каляіны, выбітай грузавікамі. Матацыкл — гэта транспарт! Аднаму, што прагне волі. Асобе, а не бязлікаму вывадку.

За паласою пералеску дарога раздзялілася яшчэ раз. Важнейшая вяла да глыбокага лога, дзе горад ссыпаў сваё смецце. Здалёку на купінах паблісквалі слоікі, бітае шкло, старыя вёдры, каструлі, вываркі, асобна чарнелі зношаныя аўтамабільныя шыны, млява чадзіла гара смецця, побліз якой стаяў гусенічны трактар з сляпуча-люстэркавым нажом спераду. Зграя бяздомных сабак з пакалечанымі нагамі, сківіцамі, выцеклымі вачыма валтузілася на сметніку, а пачуўшы трэск матацыкла, адбеглася да лесу і спынілася.

Раман завярнуў на глухую лясную дарожку, за ім яшчэ доўга гнаўся вязкі, гідотны пах гарадскога сметніка і сляпучы бляск бульдозернага нажа. Два колавыя сляды між дрэвамі непрыкметна згубіліся пад старой ігліцаю, сухім ламаччам і маладой крапівою, далей была толькі сцежка, па якой ён з матацыклам ссунуўся ў глыбокі пяс-

чаны яр, парослы палыном і крапівою. Кола матацыкла забуксавала, і, папярхнуўшыся, матор адразу замоўк. У той жа момант у яры, па самы яго край, паднялася вільготная і чыстая цішыня. Пасля доўгіх уцёкаў, свісту ветру пад шлемам, рову матацыкла, гаўкання пакалечаных сабак — першасная цішыня, усё роўна як пасля самалёта, што сеў у пустыні і заглушыў маторы.

А хіба яму цяпер трэба нечага іншага? Яшчэ паспеў краёчкам свядомасці зразумець, што на матацыкле адсюль не выедзе, сюды можна толькі згарача спусціцца. Аднак цяпер гэта ўжо нічога не значыць.

Цішыня. Свабода. Рай...

Стомленае за ноч цела стала лёгкае, амаль бязважкае. Адпусціў з рук руль матацыкла, і той гарачым бокам лёг на пясок. Зашыпела раса на траве, да якой дакрануўся распалены метал.

Раман адышоўся на колькі крокаў, але не адчуў пад нагамі апоры, нібы нейкая дужая рука перанесла яго і апусціла на зялёнай лапінцы. Душа прагла яшчэ большае волі, і ён лёг на траву і на мяккі пясок.

Усё тое, што было з ім у гэту вар'яцкую ноч, адыходзіла, соладка выпаралася са свядомасці. Наступала чысціня, спакой. І зусім не хацелася спаць, а — жыць, жыць, жыць! У іншым, райскім, свеце.

Глядзеў у неба над галавою, яно апускалася да яго вачэй, усё бліжэй і бліжэй.

...З аднае ружовае хмары, як з-пад цюлевай фіранкі, выйшла да яго Раіса-лейтэнанціха. У ружовай начной кашулі на доўгіх шлейках. Дастала флакон парфумы, памачыла палец і правяла за вухам, між грудзей. Кашуля яе становіцца ўсё больш празрыстая. Відаць два вішнёвыя гузікі на грудзях, тугія, прыплюснутыя і гарачыя... Вось гэта рай! Гэта жыццё! Няма на Раісе ніякай кашулі! Грудзі пругка пагойдваюцца з кожным яе дыхам. Малочныя рукі лейтэнанціхі цягнуцца да Рамана, дурманяць яго пахам дарагой парфумы.

— А лейтэнант? А пісталет у яго кабуры?

— У цябе ж аўтамат...— хітра падказвае Раіса і ўжо расшпільвае гузікі на тваёй гімнасцёрцы.

— Гаўптвахта...

— Затое параскашуеш. У рай сходзіш — я ж Райка. Лейтэнант ведае, што гэта такое, а ты на ўсё жыццё запомніш, будзеш пасля ўспамінаць, зялепуха... Я такому цябе навучу, такому...

...Раман адкідае ўбок аўтамат і сцягвае з ног стаптаныя, усе ў пыле кірзачы, раздзяецца, лёгка ўскоквае ў расчыненае акно афіцэравай кватэры, дзе Раіса палюе на апошняга, не забітага яшчэ камара. Ён прыгадаў, што часам лейтэнант браў Райку на рукі і нёс да ложка. Хоча зрабіць таксама, але не можа падняць. Ад бяссілля ўпіваецца ў яе ружовае цела, але яна выслізгвае з-пад яго пальцаў, як вішнёвы кісель, з якога ўтвараюцца і бегаюць па персідскім дыване мітуслівыя, падобныя да Райкі немаўляткі і жаласна просяць мамчыных грудзей...

Раман хоча выскачыць назад, у акно, але на падаконні сядзіць лейтэнант з гітараю, перавязанай ружовым бантам, і з пісталетам у руцэ.

«Темная ночь... только пули свистят по степи...»

## *72*

Некалькі верталётаў змалацілі неба над горадам, раскруцілі віхор, паднялі пыл і селі ў раёне гарадскога пляжа. Яны праляцелі так нізка, што відаць былі твары пілотаў у вайсковых рэспіратарах, якія нагадвалі ноздры бегемотаў. А выхавацелька дзіцячага сада стала хутчэй заганяць непаслухмяную малечу з дзіцячай пляцоўкі ў памяшканне.

Праз некалькі хвілін верталёты зноў узняліся, доўга набіралі вышыню, натужна равучы маторамі. На доўгіх лінах яны паднімалі велізарныя сеткі-невады, набітыя мяшкамі. Мабыць, некаторыя мяшкі былі дзіравыя, бо з неба цадзіўся на горад залацісты рачны пясок. Груз разгойдваўся. Людзі, якія былі на вуліцы, з перапалаху кідаліся ў пад'езды дамоў. Адна з сетак ледзь не зачапіла «чортава кола», праплыла над верхняю люлькаю (гарбун паспеў схавацца ў сваю будку).

Людна каля піўной бочкі і вялікай жароўні, на якой смажаць шашлыкі. Адарчын Сцяпан, прагавіта выліўшы ў сябе тры куфлі піва, пераводзіць дых, закурвае, прымасціўшыся воддаль ад бочкі, на вольнай паркавай лаўцы. Над яшчэ поўным куфлем кружыць аса, і ён адганяе яе рукою, пыхкае цыгарэтным дымам.

«Языкамі мянцяць, што кацёл на станцыі разнесла, станцыя дух спусціла. Сюды не дастала, горад стаіць, піва далі да святаў, а вэнджанай цюлечкі пашкадавалі, з хвастамі ўмінаў бы...»

З сеткі, падвязанай на лінах да верталёта, вывальваецца адзін мяшок і глуха гэпаецца непадалёк ад мужчыны, што апошні заняў піўную чаргу.

— Гэ-эй! У цябе нешта вывалілася з кішэні! Вялікае. Ці не кашалёк з грашыма?! — гукае руды лысы маладзён, выціраючы піўную пену з тоўстых губ.

— Мяшок таранаў кінулі! Налятай! — угрызаючыся ў жылаваты шашлык, адказвае дзядок, што абапёрся на руль веласіпеда, да якога прывязана качка ў авоськы.

— Той, хто зранку піва п'е,— радыяцыі не прызнае! — падахвочвае півалюбаў напханы тлушчам прадавец, падстаўляючы твар пад тонкія струменьчыкі вады для мыцця куфляў.— Піўцо не раўнуючы як ▪ чэшскіх бровараў. Па чацвёрты куфаль становішся рады і актыўны!

### 73

Тарасікава настаўніца не прыйшла на ўрокі. Спачатку думалі — спазняецца, пашумелі, пагалёкалі ў класе. Двойчы заглядаў да іх дырэктар, заціхалі, подбегам беглі за парты, але ніхто не прыходзіў іх вучыць — зноў усчыналі штурханіну і гаману.

Так і не прыйшла Галіна Аляксандраўна, а пасля перапынку прыслалі ім Толіка з дзесятага, капітана школьнай баскетбольнай каманды, бо яго малодшыя вучні баяліся больш, чым настаўнікаў. Толік назваў іхні ўрок «грамадзянскай абаронай», прынёс з сабою сумку з проціvагазам і вучыў, як надзяваць на твар гумовую маску з хобатам і шклянымі вачыма. Спярша паказаў на сябе, і клас доўга рагатаў, пакуль баскетбаліст не даў па карку Гарбузу (у Тарасікавым класе ёсць хлопчык, у якога вылазіць чуб, і яго ахрысцілі Гарбузом). Тады кожны павінен быў выйсці да дошкі і паказаць, як ён умее надзяваць процівагаз. Кожнага разу ўзрываўся рогат, але Толік хадзіў між радамі партаў — баяліся, стрымлівалі смех, задзіраючы рот далонямі. Усе радаваліся — вунь які вясёлы ўрок выйшаў, вось бы такога вясёлага настаўніка на ўсю чвэрць далі! Толькі б'ецца занадта моцна.

Пасля другога перапынку іхні клас адпусцілі дадому, раздаўшы кожнаму таблетку «ад грыпу», але толькі чацвёра выдатнікаў праглынулі, бо дужа горкія. Шпурлялі адзін у аднаго тымі «гузікамі», бо ні настаўніцы, ні Толіка не было.

Тарасік у школе не маляваў, а цяпер даастатку сцёр усе кавалкі каляровай крэйды. На заасфальтаваных ходніках пазаставаліся намаляваныя ім дзеці ў процівагазах, з хобатамі маленькіх сланянят...

Спяшаўся, бо трэба было ехаць да дзеда.

## 74

— І Грышкі няма. Бегала ў пажарную, а там усе чужыя, кіеўскія, з суседніх раёнаў, нічога не ведаюць.— Адарка адводзіць ад Людмілы вочы, бо кажа няпраўду, хітруе, адзін з пажарнікаў сказаў ёй, што ўсе, хто кінуўся на пажар першы, у шпіталі.

— Што ж з намі будзе? Што будзе, калі ўсё гэта праўда? — прастагнала Людміла.

— Мы пажылі трохі. Пацешыліся і паплакалі. А дзеткі, дзеткі... што з імі? Што чакае іх? Як ратаваць? Куды схаваць? Чула ад аднаго начальніка, што будуць вывозіць.

— Каму патрэбны сіроты? На ўсіх такіх мачых, як ты, не хопіць, Адарачка. Дый мы толькі паспыталі жыцця, толькі прынараўіліся да яго, толькі ў смак увайшлі.— Людміла замоўкла, бо ў расчыненую фортку ўляцеў маленькі, з брудным, абшарпаным пер'ем голуб і сеў на люстру, што ціха загайдалася пад ім. Адпачыў і юркнуў у фарфоравы плафон, як гняздо, толькі галоўка тырчыць.

— Мама, паехалі да дзеда і да Пушка,— зарумзаў Руслан.

— Паедзем, дзеці, паедзем, бо ў бабулі душа, відаць, перагарэла,— адказала Адарка і ціха заплакала, што ўжо не трэба абражацца на братавую за «мачыху».— Падбяжы, Люда, у лякарню, кажуць, што туды навезлі столькі народу, месцаў ужо няма, нібыта і парадзіх выпісваюць дадому...

— Алеська загуляла з Раманам... Думаю, яны ўжо ў бабы. Раман за яе адказвае, не хвалююся. Дачакайся Тараса і ідзі, Адарка, а я загляну ў бальніцу, а тады ва універмаг, там усё ведаюць.

— Я забяру дзетак і напрасткі, праз лес, сваімі сцежкамі на Гарадзішчы. Буду абмінаць тую праклятую радзіяцыю, каб ёй пуста было. Можа, Мікола табе расказваў, што гэта за нечысць і як яе адолець?

— Сашка больш ведае, а ніколі не гаварыў. Толькі і

чула: на даху рэактара можна абсталяваць дзікі жаночы пляж. Калі дырэктрыса універмага на рабоце — няма чаго баяцца. Варвара ўсё ведае, бо адзяе ўсё гарадское начальства.

— Паведамілі б па мясцовым радзіве, сказалі б людзям, што рабіць, як ахоўвацца. Ціхенька б так, толькі нам, хто сядзіць дома з дзеткамі... паведаміла б дыктарка — і ўжо ніякіх чутак, плётак, страхаў. Гэтага ж не схаваеш усё адно...

— Ты, Адарка, так і засталася калгаснаю цёткаю. Гэта ж трэба, каб нашы пазванілі ў вобласць, спыталіся дазволу, а там мусяць параіцца, ці варта пра **т а к о е** гаварыць па радыё. А там падумаюць, ці варта людзей палохаць, а раптам за граніцай дазнаюцца. Тут палітыка, Адарка, а дзе палітыка — трэба ўсё ўзважыць, гэта не мятлой двор падмятаць.— Людміла ўключыла святло, каб выгнаць голуба з плафона, бо загадзіць. Птушка замітусілася, затрапятала абадранымі крыламі і пераляцела на шафу.

— Зайдзі да Галабародзькаў, можа, Васіль скажа праўду. Зямляк і нібы родзіч...

— Няхай бы нават калекам, але толькі б жывы застаўся мой Мікола. Каму я патрэбна цяпер?..— Людміла неспадзявана нават для сябе самой разжалілася, уявіўшы, што можа застацца адна, бо ўжо полудзень, а Міколы няма. І нікога няма, апрача гэтай затурканай вясковай цёткі, мачыхі, якая выдумляе сабе шчасце з двума чужымі дзецьмі і непрабудным алкашом-шабашнікам. Хіба не мог прыехаць Васіль і сказаць, што там сталася? За парог — і забыўся пра мяне...

— Толькі б жывы наш Мікола, толькі б жывы быў... Мой вунь які няўдалы, а шкода. Падаўся некуды з самага ранку, можа, таксама туды паклікалі...

## *75*

Прачнуліся суседзі-дачнікі. Забегалі да нужніка. Мужчыны галіліся, вынесшы з хаты старое люстэрка ў даўняй разной раме, жанчыны мыліся, льючы з чайніка цёплую ваду адна адной, прычапурваліся і стагналі ад учарашняе стомы. Усім вывадкам прыйшлі да Міровічаў на сырадой. Няма, карова захварэла. Доўга гатавалі сняданне, глушылі Гарадзішчы музыкаю з магнітафона, які выставілі на

капот машыны. Фізікава жонка прыходзіла да Марыі пазычыць цукру да кавы. Марыя насыпала ёй цэлы слоік і запыталася, ці не ведаюць яны, што гэта гарэла ноччу ў горадзе. Не ведае, бо спала, як валяр'янкі абпіўшыся.

За кавай, успомніўшы пра пазычаны цукар і пра Марыю, сказала пра гэта свайму фізіку. Той прапусціў нават міма вушэй, бо якраз спрачаліся з таварышам пра тое, ці павінна галоснасць мець нейкія межы, ці не? Ці зможам мы пакарыстацца гэтым даброццем жыцця? Можа, проста перасварымся, нагаварыўшы адзін аднаму праўды? Каб перапыніць гэту безнадзейную спрэчку, фізікава дачка стала круціць партатыўны прыёмнік, выкінуўшы доўгае вудзільна антэны між дыскутантамі. Яна вучылася ў інстытуце замежных моў і часта дапякала бацькам тым, што, калі яны маралізавалі на яе адрас, слухала замежную праграму на англійскай мове і перакладала ім. На гэты раз яна чыніла свой рытуал нязлосна, а толькі з непрыхаванаю іроніяй і скепсісам.

Ды ўраз яе аблічча напружылася, рука далікатна настроіла хвалю, ружовае вушка ажно прыпала да прыёмніка.

— Хадзем пакапаемся ў зямлі, бо неўзабаве і на памінкі ісці,— сказаў фізік і першы ўстаў з-за стала. Налета, падумаў ён, трэба заплаціць цётцы Марыі, няхай пасадзіць нам агарод — дзешавей і хутчэй будзе. З нямком яна гэта гуляючы зробіць.

— Ну вось, май дые фазэ! Давай закручвацца ў белыя прасціradлы, абуваць белыя тапачкі і... перапаўзаць у пячорны век. Твой інстытут ядзернай фізікі і гэту сялянскую халупу давядзецца пакінуць. Атамны Хатабыч гуляе на свабодзе! А ты садзі бульбачку, садзі. Пакінь сваё прозвішча на доктарскай дысертацыі. Для наступнага дня, для новага вітка цывілізэйшн... тваім унукам, якіх я табе ўжо не нараджу.

### *76*

Аўтобусы ледзь прасунуліся скрозь шчыльны людскі натоўп у шпітальны двор. Яны сігналілі, вадзіцелі высоўваліся з кабін, угаворвалі і злосна лаяліся.

Разагрэты за спякотны дзень асфальт прагінаўся пад нагамі жанчын, якіх тут было найбольш, таму тыя, хто прыбег сюды ў туфлях на вострым абцасе, хадзілі баса-

нож. Невядомасць, пагалоскі прыгналі сюды тых, чые родзічы былі падняты па трывозе пасля аварыі ці паехалі зранку на змену, яшчэ нічога не ведаючы.

Расчыніліся дзверы шпіталя. Натоўп загуў, зарухаўся, нечае дзіця прыціснулі да колаў аўтобуса, і маці залямантавала.

Няголены, з глiністым, абыякавым да ўсяго тварам Уладзімір Маслюк стаў у дзвярах. Мабыць, хацеў нешта сказаць ці папрасіць у людзей, але закашляўся, безнадзейна махнуў рукою і пайшоў назад, у шпіталь.

Наталка стаіць каля самага шпітальнага ганка. Перад ёю стары мужчына на пратэзе, які ўжо каторы раз наступае ёй на нагу, але яна не чуе болю. Са спіны на яе націскаюць, але і спіна анямела.

У дзвярах з'явіўся згорблены мужчына ў шпітальнай піжаме.

— Жанчынкі! Даражэнькія мае! Пусціце, пусціце — муж у мяне...

— Ды не верашчы над вухам! У мяне сын, адзіны! Ой, як жа я яго нарадзіла, кесарава рабілі. Аднюсенькі, як жыццё. Дай хоць слова яму скажу. Ён пачуе мяне, пачуе...

— Блізка няможна да іх падыходзіць! Куды вы працеся? Ды яшчэ з дзіцем. Ад іх жа радзівацыя ідзе.

Адзін за адным, ціха пахістваючыся, ідуць праз людскі калідор тыя апраменены, якія здольныя яшчэ рухацца. Нейкія аднолькавыя, абыякавыя і невідушчыя, усё роўна як пераходзяць з гэтага жыцця ў іншае, не цікавае ім, але ідуць, бо загадваюць дактары.

— Віктар! Віцечка! Я табе касцюм купіла!

Малады, але з цяжкім, ашклелым паглядам хлопец, якога падтрымлівае санітарка, на хвілінку спыняецца, нібы прыслухоўваецца да нечага да болю знаёмага, аднак забытага. Не можа ўспомніць. Апускае вочы і ідзе далей. Маладая жанчынка з плямамі на твары, відаць яго жонка, штосілы выбіраецца з натоўпу, каб перастрэць мужа яшчэ раз, каля ўваходу ў аўтобус. Ды праціснуцца другі раз ужо не можа, бо рукі яе занятыя: імі яна засланяе вялікі цяжкі жывот.

Наталка яшчэ не пабачыла Рыгора, але раптам напружылася, замерла: зараз! Зараз выйдзе і ён! Павінен выйсці! І — пазнаць!

Вунь!

Рыгора вядуць пад рукі. Разбэрсаны чуб лезе ў вочы.

Кароткая паласатая піжама робіць яго вартым жалю. Убачыўшы столькі жанчын у двары, ён спыніўся, вызваліўся ад двух лекараў: чаго вы, я і сам магу ісці... На шэрым твары ледзь-ледзь засвяцілася яго (нечым усё ж падобная да яго) натужная ўсмешка.

— Божа, няўжо ў нашым гарадку столькі прыгожых жанчын? Ды ўсе як ружы! А я не ведаў і выйшаў у гэтых трантах...

Наталка крычала. Штосілы крычала, але не чула свайго голасу, ніхто не чуў, бо крык перасядаў у горле.

Санітарка ўзяла Рыгора пад рукі, ён стомлена панік і пайшоў, нізка схіліўшы галаву. Ды раптам азірнуўся і ўбачыў Наталку.

— А мы ўсё ж патушылі! Адрэзалі агонь ад трэцяга рэактара, Наталка! Я здаровы! Гэта эскулапы нічога не разумеюць! Едзь да мамы ў Гарадзішчы! Я хутка вярнуся! Сашкава Вольга мяне хутка выпіша!

Ды ўжо з бальніцы панеслі тых, што не могуць ісці, санітары падганяюць хадзячых. Наталка паспрабавала праціснуцца скрозь натоўп, але інвалідаў пратэз уціснуў ёй нагу ў размяклы асфальт. Рыгорава постаць паплыла, паплыла ў яе вачах — такая родная і такая чужая, як у юродзівага.

Яго падсадзілі на прыступку аўтобуса, ён спыніўся, але не азірнуўся. Толькі плечы раптам апусціліся, і шпітальная піжама здалася нават завялікай на яго. Рукі санітараў падхапілі яго, і ён знік у аўтобусе, на вокнах якога шчыльна зацягнуты фіранкі.

Такі родны і такі абыякавы да яе. Што зрабіла з ім гэта праклятая ноч? Чаму маўчала маё прадчуванне, чаму не крычала крыкам: гэта апошнія хвіліны! Праз момант мы будзем інакшыя, назаўсёды іншыя, радыяцыя ўдарыць па самым святым — па дзёрзкай, палымянай Рыгоравай крыві,ператворыць яе ў звычайную вадкасць! Гэта кроў яшчэ б дзесяцігоддзі гула ў яго жылах, жывіла б яго жвавую, не здольную абняможыцца, прыгаснуць, стаць падобнай на іншых натуру. Гэта кроў старэла б паволі і доўга-доўга, як у бацькі Івана, а радыяцыя знішчыла яе за гадзіну.

— Толя! Андрэевіч! Эльвіра пабегла па дачку! Зараз прыйдзе! Варухні губамі, я буду ведаць, што ты чуеш: Эльвіра ўвесь час была тут!

— Ігнатэнка! Вася! Што перадаць Галі ў вёску?

— Скажы, што ўчора нам далі кватэру! Няхай возьме ордэр у гарсавеце, у панядзелак. І селіцца... без... мя...

— Мы адпраўляем у Маскву, у спецыяльную клініку, толькі самых цяжкіх. Астатнія застаюцца тут. Не перашкаджайце, расступіцеся, таварышы,— прасіў галоўны ўрач, калі вынеслі апошняга хворага, але голас яго толькі прашалясцеў над галовамі, яго адцяснілі выгукі з натоўпу, уздыхі, стогны.

— Паўлік! Я табе ўсё дарую! Гэта я, я, дурная, ва ўсім вінаватая!

— А Лелячэнкі не бачылі? Што з ім? Скажыце праўду, я гатовая да ўсяго!..

— Толькі адвязу дзяцей да мамы — і ляту ў Маскву, да цябе!

— Што ж ты нарабіў? Заўтра вяселле ў нашай Тані!

Жанчына з дзіцем на руках вырываецца з натоўпу і кідаецца да мужа, які ляжыць на насілках, але доктар паспявае перагарадзіць ёй дарогу:

— Нельга! Дзіця пабеaccording! Ён ужо сам выпраменьвае... Дайце дзіцяці шклянку малака, тры кроплі ёду і сядзіце ў хаце!

Медсястра выносіць вялікія пакеты з лекамі на дарогу, папкі з гісторыямі хвароб, наспех зробленымі аналізамі і пастаўленымі дыягназамі. Нясе, закінуўшы на плячо, мяшок з медыкаментамі Алеся. Ідзе апошняя. Нечыя рукі забіраюць мяшок у аўтобус. Ледзь паспявае стаць на прыступку, як дзверы зачыняюцца, прышчаміўшы ёй нагу. Моўчкі разводзіць рукамі палавінкі дзвярэй, і белы яе каўпак паплыў над верхнім краем аблезлых аўтобусных фіранак.

Вадзіцелі ўключылі фары, і толькі цяпер усе заўважылі, што на дварэ зашарэла.

Жанчыны абступаюць аўтобус, бо ў вокнах з'яўляецца некалькі твараў. Маўклівыя позіркі, выраз пакуты і мучэння, нячутныя словы, млявыя ўзмахі рук.

Растоўхваючы іншых рукамі і локцямі, ірвецца да аўтобуса Людміла. Яна пабывала ўжо ва універмазе і такога там начулася, такога, што, бегучы ў шпіталь, згубіла туфлі і касынку і цяпер гатовая была прарвацца хоць у пекла, каб толькі пераканацца, што Мікола жывы.

Карэта «хуткай дапамогі», трывожна мігаючы чырвоным святлом, павольна пракладае дарогу аўтобусам, што ўжо зараўлі маторамі. Людзі павольна расступаюцца, закрываючы вочы ад яркага святла ўключаных фараў.

Людміла паспявае праравацца да вокнаў, грукае ў іх кулакамі.

— Мікола! Колечка! Прасіся да Вольгі! Яна вылечыць!

З-за фіранкі паказваецца Алесін твар. Стомлены, знясілены, хвараблівы. Ды ўбачыўшы маму, яна крыху адсоўвае шыбу, прыпадае губамі да маленькай шчыліны.

— Таты няма. Ні тут, ні ў бальніцы. Шукай яго, шукай на станцыі!

— А ты куды?

— На станцыі шукай яго. Тут дзядзька Грыша...

— Вярніся. Што ты робіш?

— Я толькі да аэрапорта, з дзядзькам Грышам... Шукай тату, шукай!

Людміла бегла за аўтобусам, але ўжо не чула дачкі, сутыкнулася з нейкай бабуляй, збіла яе з ног і ўпала сама. Нехта дапамог ім устаць, але калона ўжо выехала з бальнічнага двара, у якім яшчэ клубіўся бензінны перагар, яе ўзначаліла міліцэйская машына, і, набіраючы хуткасць, калона паімчалася ў Кіеў.

Бальнічнае дворышча папрастарнела, людзі павольна разыходзіліся, некаторыя стоўпіліся каля ганка, дзе павінны былі вось-вось вывесіць спісы тых, хто пацярпеў у час аварыі.

За столікам, дзе вадзіцелі так і не дайгралі партыю ў даміно, прыходзіла да сябе Наталка. Дзе яна? Што з ёю адбывалася? Хто пасадзіў яе тут? Дзе Грышка?

Круціцца «чортава кола» над горадам, але ў прыцемках не відаць, ці сядзяць у яго люльках пасажыры, ці круціцца яно паражняком.

На гарадскім пляжы, на старым пакінутым чоўне пад пахілым грыбком кураць і адпачываюць дабравольцы, якія грузяць пясок у верталёты, перагаворваюцца між сабою:

— Баюся, што наш пясок рэактару — як сабаку муха...

— Ім відней.

— А крыкуноў-актывістаў, бачыце, ніводнага няма...

— Што ім тут рабіць? Ім трэба быць на вачах у начальства, кажуць, шма-ат яго панаехала.

— Цяпер паляцяць. З каго — галовы, з каго — пацяруха.

— Я вам скажу, што яно да гэтага і ішло. Хоць закідайце мяне каменнем, але калі і далей мы будзем так гаспадарыць — аварыі немінучыя. І такія, і большыя, і меншыя. Навука вырвалася ўперад, развіваецца імкліва па

ўзыходнай, а сумленне выканаўцаў, культура эксплуатацыі яе дасягненняў, узровень маральнай адказнасці, прафесійнае сумленне... Ды што там казаць — новаму не навучыліся, а старое забыліся. Толькі б адрапартаваць круглаю лічбаю, а далей хоць патоп. Хіба нельга было прадбачыць хоць бы і ўсе сто магчымых (і нават немагчымых!) варыянтаў аварыі рэактара? Не гарачую ваду з трубы прарвала, а запраўлены уранам рэактар. Загадзілі такі край, і хто ведае, можа, і праўнукі нашы будуць расплачвацца.

— Складна гаворыш, праўду. Толькі цішэй, тут усялякія ёсць... Хадзем лепш пясок перапапачваць. Маё дзела соўгаць рыдлёўкай...

Груган, што сядзеў на гранітным валуне пляжа, каркнуў і паляцеў у буракова ад далёкага зарыва над рэактарам неба. Неўзабаве адтуль, прамацваючы зямлю магутнымі пражэктарамі, загулі верталёты.

## 77

Фёдар бачыў, як ускочылі ў свае машыны суседзі-дачнікі, як ірвалі слізкую траву колы на выездзе з двара, як трэсла аўтамабілі на каранях каля цвінтара. Думаў: паехалі купацца на рэчку ці па харчы ў Івангорад, бо вісяць на калінавым кусце шкарпэткі і стары абутак, бо мяккае крэсла стаіць пасярод двара, бо не зачынілі варотаў.

Фёдар двойчы выходзіў на дарогу (можа, хоць нейкая машына прыедзе з таго боку за цэлы дзень, толькі школьнікаў прывёз малакавоз у прычэпе), але сустракаўся вачыма толькі з гіпсавым Сакратам, што скрозь шыбіну майстэрні мастака таксама ўзіраўся ў бок горада. Дасюль Фёдару здавалася, што белая галава гэтага дзядзькі была павернута на вёску, а цяпер на цвінтар, дарогу і горад. Можа, быў мастак, выціраў пыл на падаконні... Ды не, не чуваць, каб прыязджаў...

Архіп-трактарыст паехаў з фермы, растрасаючы з прычэпа сілас, украдзены сваёй карове, і распырскваючы гной, што паналіпаў на колы трактара.

Фёдар махаў рукою, каб той спыніўся, але Архіп удаў, што не заўважыў яго. Бег за прычэпам, але дагнаў толькі тады, калі трактарыст стаў каля свайго дворышча. Фёдар прасіў яго (а дзіця зразумела б па яго жэстах і міміцы): давай паедзем на тваім матацыкле хоць бы да тра-

сы — там браты і сястра чакаюць, але Архіп не зразумеў яго. Тады Фёдар папрасіў яшчэ раз, ужо не спяшаючыся. Тады пісаў пальцам па пяску: «Толькі да трасы». «Цяпер і нармальных цяжка зразумець, а тут яшчэ нямко прычапіўся...» Фёдар прачытаў гэта на Архіпавых губах, што сціскалі згаслую цыгарэту.

Марыя пайшла ў склеп, каб набраць квашаных памідораў у каструлю. Паслізнулася на сходах, але не ўпала, паспела схапіцца рукою за сцяну.

— Колькі грызла цябе, Іване, зацэментуй гэтыя шчыліны, так і памёр, не знайшоўшы гадзіны...

У цемры нахілілася над дзяжою, вылоўлівала памідорыны, якія не раскіслі, не лопнулі. Расол заходзіў у драпіну на пальцы, пякло ўсярэдзіне, калі разгіналася, каб выкінуць памідорыны ў пасудзіну. Нешта заварушылася каля нагі.

— Чаго цябе носіць сёння, псіна? Чаго?

Выпрасталася. Вочы ўжо звыклі да цемені, убачыла пад нагамі нейкі чорны клубок.

— Гэта ты, душа Іванава, за мною ходзіш? Хіба я грэшная перад табою?

Марыя не адчувала цяпер ні страху, ні радасці, ні агіды да гэтага невядомага стварэння, што варушылася на доле каля ног. Спакойна ўзяла яго рукою (слізкае, валахатае, дыхае, слаба супраціўляецца), укінула ў падол і панесла.

— Родную хату праведаць ці па мяне, Іване? Ото ўжо нецярплівы, ззамаладу зусім забываўся, што я ў цябе ёсць, а цяперака і дзевяць дзён вытрываць не можаш...

Не ўключала святла, хоць і была шарая гадзіна, цікаў на сцяне гадзіннік, радыё на верандзе расказвала пра ход сяўбы на Украіне, пра брыгадны падрад у адным з калгасаў (хтосьці кінуў на дынамік стары Іванаў кажух, то дыктарка бубніла, быццам расказвала тое ўсё сабе самой).

Марыя выпусціла стварэнне на падлогу.

— Змёрз, Іване, у склепе. Сагрэйся. Стол накрыты — гаспадаруй сам. Дзеці пра нас ужо і забыліся. Нават Адарка не прыехала. Праўда, ніводнага аўтобуса з горада не было. Пачакаем. Доля старых — чакаць. Дзяцей у госці. І смерці — назаўсёды.

Яна зачыніла дзверы ў вялікі пакой і пайшла ў склеп забраць каструлю з кіслымі памідорамі.

## 78

Да вышыннага будынка, дзе кватэра Міровічаў, падкаціў «жыгулёк» са знявечаным заднім крылом. Галабародзька выключае святло, моўчкі чакае, пакуль выскачыць з гнязда электрычная запальнічка, прыкурвае і кажа Нечыпарэнку, які сядзіць побач:

— Ідзі, ідзі! Гэта ж не ў радыеактыўную зону, а ў кватэру твайго падначаленага. Колішняга...

— Гэта яшчэ горш, Васіль Пятровіч...

— Ідзі, начальнічак. І скажы праўду. Далей брахаць нельга. Ужо і ў Маскве ведаюць: ёсць ахвяры. Ідзі! — Галабародзька ледзь не выштурхвае Нечыпарэнку з машыны.

— А калі спытаюць, хто мяне паслаў?

— Урадавая камісія. Чыжоў. Мяне ты не бачыў...

Нечыпарэнка неахвотна вылазіць з машыны. Доўга курыць каля рога будынка, старанна затоптвае і расцірае падэшваю чаравіка акурак, баязліва заходзіць у пад'езд.

## 79

Першыя кіламетры дзеці беглі за Адаркаю, вырываліся наперад, а потым зарумзала Ліда — чаравічак нацёр нагу. Узяла дачку на плечы. Пасля Тарасік з Русланам адсталі. А далей шэрая лясная дарога з лапінамі ранняй зеляніны, пот, што залівае вочы, стома, страх («Толькі б не ўпасці, не заначаваць у лесе!»). Клала сонную Ліду пад дрэвам, а сама вярталася да хлопчыкаў. Гуло цела, хацелася і самой прылегчы, звесці вочы. Тулілася спіною да камля сасны, адпачывала і ішла далей. Разарвала папалам хустку, прывязала да яе за спіною палку, пасадзіла на яе Тарасіка і Руслана, Ліду несла на руках. Ліда закрывала ёй дарогу, і Адарка ў цемнаце заблудзілася. Ужо хацела нагрэбці лісця і начаваць з дзецьмі ў лесе, але выйшла на паляну, дзе нядаўна была высечка: паблісквалі пад месяцам пятакі сасновых пянькоў, валялася яшчэ не прыбранае голле, віднеліся кучы прыгатаваных да вывазкі дроў.

Адарка апусціла дзяцей на зямлю, перапачыла, пільна агледзела мясціну і быццам пазнала яе, хоць і не хацела даць веры: абмінула Гарадзішчы, трэба было трымацца рэчкі, гэта ўжо трыліскі лес, калі б не памылка — была б

ужо дома... Пайшла палянаю. Між кучамі дроў разгледзела: аднаконны вазок, нагружаны калодамі, зламана задняе кола, вылезла спіца з вобада... Разгрузіла дровы, перанесла на вазок дзяцей, упраглася ў яго і пацягнула ўтрамбаванаю лясной дарожкай: некуды ўсё ж выведзе...

Гадзіннік у вясковай хаце Міровічаў паказвае поўнач.

Марыя сядзіць каля акна з адслоненай фіранкай, пазірае на веснiцы. Маленькае крацяня (баялася і брыдзілася гэтага стварэння ўсё жыццё, а цяпер усё адно) кешкаецца ў кутку пад куфайкаю (склеп у іх не забетаніраваны, з земляным долам, вось і пракапала дзірку).

Прыходзілі памянуць Івана некалькі яго равеснікаў, не заседзеліся, бо бяда нейкая ў горадзе, бо таксама не прыехалі на выхадныя дзеці, пабедавалі, паўздыхалі — разышліся.

Сядзяць толькі Мірон з Андрухам. Час у іх не мераны, і бяда не страшная, калі вочы залітыя.

Фёдар налівае ім яшчэ па адной.

— Не, яму мы выкапалі дзядзьку — дай божа ўсякаму! Катарга, карэнне жалезнае, сякера шчэрбіцца, іскры ляцяць, а — выкапалі... — кажа Андруха і ўпіваецца зубамі ў квашаную памідорыну, яна ўраз моршчыцца, як гумовы шарык, з якога выпусцілі паветра.

— На мой рост. Па вочы, Андруха,— падтаквае Мірон.

— Гэта напраўду трэснуў рэактар і дух з яго выйшаў?

— Залатаюць. Дастануць добрага цэменту і залатаюць...

— А да нас дастала ці не? Мабыць, не, бо гэтаксама хочацца і выпіць і закусіць, як учора.

— Мо і дастала, бо нешта мая Ганна сёння як аса. Страшна дахаты ісці, мяне аса ўкусіць, а ў яе пад вокам распухне.

— Калі б лісаў яно знішчыла. А то ўсе патроны пастраляў, а куры на птушніку ўсё знікаюць...

— Чуў, на зямлі, каля станцыі, на два пальцы радзівацыя ўсё пакрыла...

— На вадзе — толькі на палец.

— Гарадскім гэта чапуха, прывучаны, грошы за гэта палучаюць...

— Ну, царства нябеснае дзядзьку Івану. Жалезны чалавек быў.

— Залаты, Андруха, залаты. Цяпер такіх няма. Хіба

ў нас брыгадзір? Мяшок высевак. А дзядзька Іван, расказвала мама, як Сталін: сказаў і больш не паўтарае...

Марыя хутка ўстала з табурэта.

— Дапівайце і — марш дахаты, да жонак! Вам ці памінкі, ці хрэсьбіны, ці вяселле, абы зенкі заліць! Фёдар! Выводзь іх, бо і ты зараз дастанеш! Знайшлі час плявузгаць! Бывайце здаровы!

Крацяня выпаўзла з рукава куфайкі і тыцкалася Марыі ў нагу.

## *80*

Дзядок з ордэнскімі планкамі на штрыфлі старамоднага пінжака ўжо даўно топчацца каля дзвярэй, абцягнутых белым дэрмацінам, на які прыбіта старая падкова.

Не прыйсці ён не мог, а вось ужо колькі часу баіцца націснуць на кнопку званка. Нібыта націснеш — і раздасца аглушальны выбух, і яго жыццё рассыплецца на пыл.

Пачуліся нечыя крокі на сходах, і гэта дадало яму смеласці. А, што будзе, тое будзе!

Адчыняюцца дзверы. На парозе маладая прыгожая жанчына, галаву абселі бігудзі, вельветавы касцюм аблягае яе стан. Дзядуля разгублена маўчыць і клыпае падслепаватымі вачыма.

— Мама! Гэта, здаецца, да цябе! — гукае дачка ў пакой і адыходзіць, пераступаючы праз падрыхтаваныя да ад'езду чамаданы.

У калідоры з'яўляецца ўжо знаёмая нам бабуля. Сівая галава, пакамечаны халацік, клубок у руках.

Выходзіць за парог, прычыняе за сабою дзверы.

— Мае, Ксеня, паехалі... Я пайшоў да знаёмага, каб даведацца, што сталася, пасядзеў з ім... Вяртаюся — запіска ў дзвярах: «Нас забралі ў сваю машыну таварышы. Больш месцаў няма. Шукай нас у Палтаве ў сваякоў...» Не паеду нікуды, Ксеня, каму я там патрэбен. З Курскага «катла», ад «тыграў», не ўцякаў, то чаго цяпер зрывацца?..

— Ходзяць чуткі: ненадоўга, на тры дні ўсяго...

— Тым больш. Няхай маладыя з дзецьмі едуць, а мы давай застанёмся. Пераседзім у мяне, пагаворым, ніхто не перашкаджацьме...

— А як памром, Астапе? І няма каму пахаваць...

— Тады ўжо ўсё адно, Ксеня. Затое нагаворымся...

— Мае не пакінуць мяне... Уклад у ашчадкасе на маё імя... Не адпусцяць, Астапе... На рабоце сыну будуць дакараць, што маці пакінуў, а ён у партыю збіраецца паступаць...

## 81

Адарка нарэшце пазнала дарогу, і ёй здалося, што воз пакаціўся лягчэй. Мінула старое, без даху гумно з хімікатамі (калісьці тут быў летні лагер працы і адпачынку гарадзішчанскіх школьнікаў, аднакласнікі нават выбіралі Адарку звеннявою), вецер шкуматаў папяровыя мяшкі ад мінеральных угнаенняў, дзеці спалі, прытуліўшыся адно да аднаго, ужо блізенька, ужо, лічы, дома.

Далей стала яшчэ лягчэй, бо воз пакаціўся ўніз, яна толькі прытрымлівала яго за аглоблі, баючыся выпусціць з рук. І раптам успомніла: за спускам будзе пад'ём, крутая пясчаная гара, за якою пачынаюцца гарадзішчанскія хаты. Адарка ўявіла гэтую гару, убачыла яе ў сваёй памяці так рэальна, што магла згадаць кожны калдабан, кожны вымыты вадою корань.

У тую ж хвіліну перастала стрымліваць воз, перавяла дых і штосілы пабегла, каб паспрабаваць з разбегу выхапіцца на ўзгорак. Імчалася як магла, заціскаючы аглоблі пад пахамі, зламанае кола вадзіла возам і рыпела, ускрыкнула ў сне Ліда, гайсануў у кусты лясны звярок.

Засталася ззаду лагчына, студня з жураўлём-калекам. «Не спыняцца! Толькі б не спыніцца! Тады ўжо не зрушу з месца!»

Марыя сядзіць за сталом перад запаленаю свечкаю, тварам да адчыненых дзвярэй. У падоле спадніцы, між каленямі, дрэмле крацяня, з якім ужо звыклася і якога не брыдзіцца, пагладжвае яго рукою, невідушча ўтаропіўшыся вачыма ў агеньчык свечкі.

Фёдар ходзіць у двары, надоўга знікае некуды, а потым зноў чуваць яго кашаль і павольныя, цяжкія крокі пад вокнамі. Зноў некуды падаўся, зманіўшы за сабою Пушка. Падумала: сёння вербная нядзеля, у Івангорадзе жанчыны з вербачкамі, летась і мяне клікалі, не пайшла, Іван не пусціў, балела яму надта, заўтра пачынаецца перадвелікодны тыдзень, Марыя. Заплюшчыць вочы і... не прач-

нуцца... Тады яшчэ раз збяруцца дзеці. Тады і Сашка прыедзе...

Убег у сені захэканы Пушок, чырвоны яго язык, здаецца, вось-вось вываліцца з рота, скавыча, драпае падлогу, азіраецца на ганак, таўчэ хвастом аб расчыненыя дзверы. Зачэпалі на дворышчы Фёдаравы крокі... І яшчэ нечыя... лёгенькія, асцярожныя... не нашы...

Зайшоў Фёдар з сумкаю. У сенях стаіць дзяўчына. Божа, як з крыжа знятая! Жоўтая касынка з'ехала на патыліцу, валасы пакудлачаны, у іх уплялася сухая галінка. Парваныя панчохі на каленях... Грышава скураная куртачка. Грышава!

— Заходзь, дачка! Скажы, як цябе зваць, і заходзь. Сядай да стала, памяні нашага бацьку. Адпачні, а тады... раскажаш...

Ужо відаць роўная дарога. Яшчэ некалькі метраў — і воз пакоціцца лёгка. Ужо дыхнула духам родных Гарадзішчаў, віднеецца лапінка святла за дрэвамі. Самлелі і наліліся холадам рукі. Не выпусціць аглобляў! Дзеці на возе!

Адарка падае на калені, паспявае сутаргава ўхапіцца пяцярнёю за аголены корань сасны, другой рукою трымае воз. Калі хоць на міг яго адпусціць — не дагоніш. Воз і корань разрываюць яе. Ну і няхай, але — дзеці! Дзеці!

Трэба павярнуць пярэднія колы, і воз стане ўпоперак дарогі! Гэта паратунак! Колькі хадзіла па гэтых каранях, колькі пераступала іх! Паратуйце мяне і ў гэту праклятую ноч! Паратуй мяне, сасна! Не мяне — дзетак маіх...

Марыя накрыла краццяня куфайкаю на падлозе, папраўіла агеньчык у свечцы.

— Налі нам, Фёдар. З самага дна. Найгарчэйшай налі.

Наталка села за стол і... сустрэлася вачыма з Рыгоравым позіркам з фотакарткі на сцяне. Ён глядзеў проста на яе, глядзеў дзёрзка і іранічна, збіўшы набакір бесказырку і абдымаючы пальму на беразе мора. «Чаму ты такі сёння, Грышка? Не муч мяне...— Але адвесці вачэй не можа.— У цябе звальненне на бераг, надзейная зямля пад нагамі, заляцаешся да дзяўчат, падміргваючы сваімі цыганскімі вачыма... Мне купляюць першы школьны ранец, я ўжо магу напісаць «Рыгор», але яшчэ нічога не

ведаю пра цябе. Мне сем год, мама кожнае раніцы заплятае мне косы, мажа зялёнкаю збітыя калені... А ты ўжо іранізуеш, глядзіш звысака і абдымаеш пальму... Што сказаць маці? Што?»

Фёдар напружана сочыць за Наталкаю і за маці, баіцца прапусціць хоць слова, позірк, жэст. Зразумеў: мама здагадалася, што гэта Грышава дзяўчына. Бо і ён яе пазнаў; сустрэўшы за могілкамі, на дарозе, яна не спалохалася яго, а пакорна пайшла следам, аддаўшы сваю сумку.

— За ўпакой татавай душы, дзеці,— сказала Марыя і ўзяла чарку. Рука яе дрыжала, і Марыя злавалася на сваю правую руку.— А яшчэ за чый упакой, дачка? — І паглядзела на Наталку так востра і пільна, што тая адразу адчула: схлусіць не зможа, гэтая жанчына ўжо ўсё ведае, нават больш, чым яна.

— ...І за Міколаў...— выдыхнула яна і зайшлася сухім кашлем.— А Рыгор — жывы! Павезлі ў Маскву лячыць. Гаварыў са мною, прывітанне вам перадаваў. Будзе жыць! А Міколы няма. Цэлы дзень шукалі, не знайшлі нават цела. Так і застаўся на рэактары. Там такое сталася, такое страшнае, што будуць вывозіць і горад, і ўсе вёскі, і Гарадзішчы...— Наталка не стрымалася і загаласіла. Няголасна, вінавата неяк, па-дзіцячы, але плач ад таго быў яшчэ больш жудасны.

Фёдар усё зразумеў, галава яго ўпала на стол, плечы дробна задрыжалі, ажно зазвінеў посуд на стале, нарэзаны хлеб раз'ехаўся на хлебніцы. Гарэлка з яго чаркі вылілася і пацякла на падлогу.

Недзе каля птушніка прагучалі сярод ночы два стрэлы, і іхняе рэха, уляцеўшы ў расчыненыя дзверы, доўга лётала па хаце Міровічаў.

Цікание насценнага гадзінніка раптам стала гучнае, быццам забіваюць цвікі ў века дамавіны, забіваюць нервова, каб хутчэй скончыць справу.

Марыя асела на табурэтку, стала маленькая.

Краціяня вылузалася з куфайкі і каля сцяны папаўзло да парога. Марыіны вочы ўтаропіліся ў фотакарткі роду Міровічаў. Твары сыноў, мужа, дачкі, нявестак, унукаў плывуць і плывуць перад ёю, ледзьве паспяваючы ўсміхнуцца ці засумаваць, яна ўжо не можа іх пазнаць — такія яны ўсе падобныя і аднолькава родныя. Быццам уся радня наняла тое «чортава кола», якое бачыла ў горадзе, уселася ў люлькі і кола коціцца і коціцца некуды. А куды? Куды?

Твары размываюцца, знікаюць, каб з'явіцца зноў — вочы, губы: Іванавы, Міколавы, Сашкавы, Адарчыны, Рыгоравы, унукавы. Яна (толькі яна!) чуе іхнія галасы ў чуйнай цішыні хаты:

— Мама, есці хачу...

— А я тату бачыў. На матацыкле. З нейкай цёткаю...

— Пастуліў у інстытут! Буду жыць у Маскве!

— Не сварыся, мама, жанюся. З Людмілаю. Мы ўжо заручыліся, трэба толькі распісацца і вяселле зладзіць...

— Бабуля, у мяне штаны разарваліся на каленях. Я ішоў, а яны парваліся...

— Ад мяне Маўра ўцякла!

— Вось і не пайду качак з рэчкі заганяць, бо вы мяне Сашкаю называеце. Я — Алеся. Не пайду!

— У Руслана зубок выпаў, ён мне яго падарыў.

— І чаму вы мяне так не любіце, маці? Я ж не вешалася на шыю Міколу. Ён бы ўтапіўся, калі б я не выйшла за яго замуж. Пажалела...

Марыя ўстае, і галасы аціхаюць.

— Памяні, дачка, Івана і Міколу.

Зноў прагучалі два стрэлы, але ўжо бліжэй, недзе на ўскрайку вёскі.

— Дый мяне можаш памінаць. Ужо можна... Не абражуся...

## 82

Равуць верталёты над горадам, намацваючы сабе пражэктарамі дарогу з берага рэчкі да рэактара. На адзін міг заміраюць над полымем, скідаюць свой груз, агонь крыху асядае і ўспыхвае зноў. Злавесна, хіжа.

Ад рову матораў звіняць шыбы ў вокнах, асыпаецца цвет з абрыкосаў. Свецяцца агні ва ўсіх кватэрах. Здаецца, што горад напружыўся дарэшты: будзе эвакуацыя ці не будзе? Калі? На колькі? Чаму нічога не аб'яўляюць? Кватэрныя гучнагаварыцелі ўключаны на ўсю магутнасць, каб не прапусціць аб'яву, а яны маўчаць...

Кіеўская траса, пачынаючы ад моста, запруджана аўтобусамі, што выстаіліся ў калону адзін за адным. Яны стаяць тут звечара, але недзе там, кажуць, ажно пад самым Кіевам, гэты цуг усё прыточваецца і расце, ствараючы заторы.

Збіліся ў гурт вадзіцелі. Кураць, ледзьве стрымліваюць

наструненыя чаканнем нервы, лаюць начальства і аўтаінспекцыю.

— Есці хочацца, і курыва скончылася. Па пачку «Паміру» выдалі б... За шкоднасць.

— Дагоняць і яшчэ дадуць.

— Кажуць, і Кіеў будзем вывозіць. А куды?

— Заўгар набрахаў: нібы чан са спіртам стаіць сярод горада, падыходзь і пі колькі хочаш. Аўтаінспектар падае гарэлку, каб запіць, бо вады няма, заражана.

— Стаім, а рэнтгены хапаем. Падарунак жонцы прывязу: імпатэнт, ды яшчэ і лысы. Вецер у штанах і на галаве.

— Як не было ні там, ні там — не прыбудзе...

— Колькі я сюды на рыбалку і ў грыбы прыязджаў — усё прапала!

— Ой, хлопцы! У жываце бурчыць! Гэта не яно? Відаць, радыяцыя...

— Чаго яны цэляцца? Тых у горадзе, нас тут трымаюць...

Сігналячы і засцерагальна бліскаючы святлом, паўз гурт шафёраў праімчалася туды, на Кіеў, супраць руху аўтобусаў зялёная «Волга», за бампер якой зачапіўся вырваны з коранем куст каліны і валочыцца па зямлі. Шафёры заўважылі, што за рулём жанчына. І поруч таксама маладзіца, на заднім сядзенні клумкі і дзеці.

— Дзве сцервы рванулі...

— Такога дабра і ў Кіеве як акуркаў.

— Каму яны цяпер патрэбны, як па мужыках радыяцыя разане?

— Эге ж, пад жывот б'е, зараза, па гонары.

— Свінцовыя трусы трэба надзяваць...

## 83

— Гэта ж і магілы тваёй не будзе, Мікола... Дзе ж я галаву прыхілю? Як паверыць, што цябе ўжо няма? Тры смерці цябе надчэквалі, размахвалі касою — не ўтапіўся маленькі, не разбіўся на машыне хлопцам, не згарэў на той атамнай, калі пару вырвала пяць гадоў таму, незвычайную пару. Казаў, што смерці ўжо капут, знемаглася. Хіба ж так можна паміраць, Мікола? Так рана і так страшна...— прамовіла Марыя, і Наталка здрыганулася ад яе слоў. Чакала, што мама закрычыць, залямантуе, прыгата-

валася, каб супакоіць яе, а яна праказала, усё роўна як Мікола сядзіць вось тут, за сталом.— Павінны былі сёння картоплю садзіць... Гэта ж выходзіць, што старэйшы брат малодшаму смерць прыдумаў. Чаму я дажыла да такога? Мала вам, людзі, ра́ку, халеры, гарэлкі, злосці, варожасці? Наце вам яшчэ і радыяцыю. Загубіце сябе — і памінай як звалі. Такую вайну перажылі, так нішчылі нас, а род Міровічаў збярогся. Толькі жыць цяпер з розумам, а яно да вар'яцтва ідзе. Хоць якая яна з выгляду, тая бяда, Наталя?

— У тым-та і гора, што ніякая. Не ўбачыш, не адчуеш. Скажа пра сябе толькі тады, калі позна ўжо. Нябачная, як доля, Марыя Ігнатаўна. Не адпросішся, не адкупішся. Не мілуе нікога — ні старых, ні маладых, ні радавых, ні начальнікаў. Нават — яшчэ не народжаных дзяцей. Праўдаpraўда, і — яшчэ не народжаных...— Толькі цяпер Наталка зразумела, што гэта стасуецца і да яе. Не думала пра гэта, не мела калі ў той кругаверці, якую перажыла за гэты час.— Праз некалькі пакаленняў можа дагнаць. Каго мы народзім? Каго народзяць нашы дзеці і ўнукі? Ніхто не ведае. Вось што страшна. Раней жанчыны раджалі ў радасці: прадоўжыла род, выканала святую сваю павіннасць. А цяпер мы не пазбудземся мацярынскага страху: якое яно? Ці загаворыць? Ці будуць у яго ручкі і ножкі?

— Знаю, знаю, дзіцятка, той страх. У майго Івана быў дзед глуханямы, і я ўвесь час баялася, калі радзіла. Адарка позна гаварыць пачала — я ледзьве не звар'яцела. Калі яна сказала «дай» — свет бы прытуліла, жыццё аддала б. Грэх сказаць, але не хацела я Фёдара, усё роўна як прадчувала душа... Ды Іван тады зноў загуляў — хацела вярнуць яго. Перад смерцю казаў: «Фёдар — гэта мае грахі». Хіба ж толькі яго? Абодвух родаў нашых — Міровічаў і Палішчукоў, якія некалі, кажуць, варагавалі і хаты адны адным палілі ў Гарадзішчах. А за што ж цяпер унукі і праўнукі будуць пакутаваць? Ні Адаркі, ні Людмілы з дзецьмі няма...

— Не выпускаюць з горада. Будуць усіх арганізавана вывозіць. Раскідае цяпер людзей. Доўга будуць шукаць адны адных. Можа, хоць зараз навучымся, як жыць трэба. Паганага шаўца ці сталяра адразу відаць. Калі ты не ўмееш вадзіць машыну — не схаваеш гэтага. А вось кіраваць у нас умеюць усе. Ведалі ж, што Чыжоў, дырэктар станцыі, падняўся на пасаду па хрыбтах і галовах сваіх папярэднікаў, ды маўчалі. А Міколы ўжо няма, а Рыгора і некалькі дзесяткаў асуджаных павезлі самалётам у Ма-

скву, а яшчэ горад будуць эвакуіраваць, увесь раён; уся гэта зямля можа стаць бязлюднаю, мёртваю зонаю. За тое, што патуралі чыжовым, што маўчалі, што спадзяваліся: «Неяк яно будзе, усе так жывуць, і я пражыву маўчком...»

— Ні зямлі, ні сям'і, ні родных магіл... Ці ж патрэбна я каму-небудзь на гэтым свеце? Гэта ж і Сашку майго пасадзяць. За Міколу, за Рыгора, за ўсіх...— сказала Марыя і скрывілася ад болю. Думала, што скамянела за гэты дзень, што душа яе — як хата Іўгі Палішчуковай, дзе лісы гняздзяцца: парожняя, з накрыж забітымі вокнамі і дзвярыма. Ажно не, азвалася сэрца, забалела-такі. Памерці б зараз! У гэтую хвіліну! Фёдар з Наталкаю пахаваюць. Апошняя радасць — у родную зямлю, каля свайго Івана лягу. І з хаўтурамі клопату не будзе — нагатавала сама.

Фёдар на пачатку размовы зразумеў, што Міколы ўжо няма, што з Рыгорам дужа пагана, што ў горадзе вялікае гора ходзіць. Упершыню яму захацелася мець голас, каб закрычаць на ўсе Гарадзішчы. Ён ніколі не чуў чалавечага крыку, але бачыў: калі крычаць — іншым становіцца страшна. А тым, якія крычаць, робіцца лягчэй. Таму і хацелася загаласіць. Ён выйшаў з хаты, стаў за парогам, пад бледным, перадсвітальным месяцам, што сыходзіў рэдкім малаком на зямлю, хапаў губамі паветра, падставіўшы твар небу.

Фёдар крычма крычаў у шэрую непраглядзь неба, што ў яго ўжо няма і не будзе брата Міколы, таго брата, які найбольш разумеў яго, цярпеў і любіў. Тата памёр, як памірае дрэва, што стамілася цвісці і пладаносіць. Мікола не быў гатовы да смерці, не хацеў яе. Лепей бы я за яго. Лепей бы я, Мікола. Ты б расказаў усім, які я быў, як любіў цябе, як кінуўся ў ледзяную ваду, калі адкалолася крыга і брата пачало зносіць на быстрыну. Ты б не дазволіў, каб пра мяне забыліся ў Гарадзішчах...

Не рабілася лягчэй. Голасу б яму, голасу хоць бы на міг, і ён згодны зноў замаўчаць. Назаўжды!

Нешта трэба рабіць. Што? Не ведаю, але трэба, бо душа зараз пэнкне і паляціць у гэту шэрую невядомасць. Няхай бы ляцела, але каб жыў Мікола! Каб не было бяды, каб усім было добра! Не ўсім, тым, каго я люблю. Яго рукі былі нічым не занятыя, таму іх зводзіла сутаргаю, яны сціскаліся ў кулакі, ажно пахруствалі пальцы.

Фёдар ведаў, што цяпер яго можа ўратаваць толькі нейкая цяжкая, нават катаржная работа.

Убачыў вялікую кучу карчоў пад хлявом. Летась яны з Міколам накарчавалі іх у лесе поўную машыну, лясніцтва не толькі аддавала пні на дровы, а і аплачвала работу. Зарабілі грошай і паліва прыдбалі. Фёдар некалькі разоў браўся секчы іх, але сякера адскоквала ад іх, як ад гумы. Пні ляжалі, пераплеценыя высахлым карэннем, нібы выкінутыя на бераг васьміногі, жылаватыя, самаўпэўненыя, непарушныя.

Дастаў з хлява калун, жалезныя кліны, цяжкі молат (а хто ж яго возьме ў рукі, калі такі цяжкі?). Выцягнуў крайні пень, скінуў куфайку і стаў лупіць штосілы, шукаючы слабінку ў дубовым пні. Глухое рэха ад удараў вухкала і стагнала ў лесе, за могілкамі, але Фёдар не чуў яго. Уздрыгвала ад напружання яго цела, на шэрым цеме-ні пня пасля кожнага ўзмаху сякеры заставаліся толькі ледзь прыкметныя шрамы. Падступала злосць, тупая і ўпартая зацятасць, якую Фёдар падаграваў, заносячы над галавою сякеру, прыгаворкаю: «За Міколу!»

Біў і біў навослеп («За Міколу! За Грышку! За Адарку! За Тарасіка! За род!»).

Нарэшце сякера засела. Ён доўга выцягваў яе, наляга ючы на тапарышча, уставіў металічны клін і ўзяўся за молат. Біў з усяе сілы, засяроджваўся на кожным удары і адчуваў, што яму становіцца лягчэй ад гэтага занятку, бо аддае яму ўсю сваю страсць і моц. Клін увайшоў у дрэва, але Фёдар асатанела перыў яго молатам, нібы хацеў увагнаць сухое дубовае карэнне ў зямлю. У тую самую зямлю, у якой яно расло.

Прыбег аднекуль задыханы Пушок, абвешаны дзядоўнікам, і стаў хрыпла гаўкаць на Фёдара, але той не чуў. Тады сабака забег спераду, каб яго бачылі, круціўся вакол пня, кідаўся Фёдару пад ногі. «Вось яно што: трэба ісці за табою, цюцік. Іду».

## 84

Калі самалёт з хворымі на прамянёвую хваробу павольна выпаўз на ўзлётную паласу, раўнуў, прысеў на заднія колы, паімчаў у начную невядомасць, Алеся адчула, як задрыжалі ў яе калені і зямля пайшла кругам. Яна толькі паспела падумаць, што ўсё самае страшнае засталося ззаду, і спалохалася гэтай думкі. Не, самае страшнае наперадзе. І ў дзядзькі Рыгора, і ў тых, што з ім, і ў тых,

што засталіся ў горадзе. І... у яе самой. Было ўсё, і не засталося нічога. За гэты дзень яна пабывала ў пекле, у самых жудасных яго закутках. Ёй здавалася, што цяпер яна ведае пра жыццё больш, чым нават бывалыя людзі. Бачыла вочы асуджаных на смерць, чула іхнія галасы, стрымлівала іхнія стогны, упарта маніла ім, што ўсё пройдзе, што яны абавязкова будуць жыць.

— Дзе пісьмовае распараджэнне генерала, што ён сапраўды аддае свой самалёт? Дзе? — сонным, абыякавым (гэта Алесю аглушыла!) голасам дапытваўся афіцэр, ледзь прачыніўшы вароты аэрадрома. І пайшоў, не выслухаўшы Юрыя Асауленку, намесніка старшыні гарвыканкама, які адказваў за перавозку хворых. Юрый страшэнна раззлаваўся, біў кулакамі ў жалезныя вароты, брыдка лаяўся, пагражаў высокім начальствам. Хворыя, што былі на нагах, выйшлі з аўтобуса, ванітавалі, адзін з іх двойчы спрабаваў уцячы, і Алеся (самая маладая!) даганяла яго, хапала за ногі і падала разам з ім, чакаючы, пакуль падбягуць на дапамогу...

Вадзіцелі аўтобусаў паехалі мыць машыны. Ажно ў суседні райцэнтр, да пажарнікаў. Алеся, дакторка і яшчэ дзве медсястры ўжо думалі, што вадзіцелі пакінулі іх на волю лёсу. Хацелі купіць у аэрапорце піражкоў, але ні ў кога не было грошай. Падышоў салдацік у чорным камбінезоне, папрасілі хлеба. Прынёс бляшанку тушонкі, буханку. Дакторка дастала пляшачку спірту (не спатрэбіўся ў дарозе). Выпілі ўсе, Алеся не змагла, закашлялася, упала на клумбу пасярод вакзальнага скверыка і на хвілінку заснула.

Разбудзілі. Прыйшлі вымытыя аўтобусы. Юрка Асауленка ўвесь мокры.

— Знайшлі пажарнікі нейкі стары дазіметр, паднеслі да мяне, а ён як махане стрэлкаю, шкалы не хапае. Загналі мяне пад струмень вады. Да рубца змок, а яно ўсё адно зашкальвае.

Вялікі горад спаў, праскочылі яго хутка, а далей пачалося: аўтамабільныя заторы, застылыя калоны аўтобусаў, дарожныя аварыі, вадзіцелі шукалі праезду, але засядалі яшчэ надаўжэй. Ваенная бронемашына спіхнула ў кювет разбітыя «Жыгулі». Заскрыгатаў метал, машына некалькі разоў перавярнулася і легла набок пад дрэвам. Нейкі дзядзька зладзеявата падкраўся да яе і адкручваў колы.

«Уцякаюць. Ужо адтуль уцякаюць,— падумала Але-

ся.— Адных вывозяць непрытомных, а іншыя — уцякаюць...»

У аўтобусе было холадна і волка, дапякаў кашаль. Дакторка і медсёстры паснулі, прытуліўшыся да шкла, прачыналіся толькі на крутых паваротах і калі лаяўся вадзіцель, зноў і зноў пасылаючы Юрыя, каб той тыцкаў пад нос аўтаінспекцыі сваё пасведчанне, якое цяпер мала што значыла.

Алеся ўжо ведала, што ёсць чалавечыя ахвяры, што горад заражаны, што будуць вывозіць людзей, што чуткі пра аварыю прасачыліся да Кіева.

Здавалася сабе маленькаю, як парушынка. Знайсці б толькі Рамана, сям'ю, схавацца ў бабулі Марыі і перачакаць бяду. Бацька [illegible] Раманам абароняць яе, закрыюць ад радыяцыі — на тое яны і мужчыны, таму іх прырода надзяліла сілаю. Яна яшчэ верыла, што ад гэтай бяды можна схавацца ў хаце ці ў лесе, у склепе ці проста ў некага моцнага за спіною. Яшчэ верыла...

Калі яна намагалася ўспомніць паляну на беразе рэчкі, галіны соснаў над галавою, нецярплівага Рамана, ёй рабілася горка і тужліва: не трэба было расслабляцца, не трэба, недарэчна гэта ўсё, у нядобры час і не так, як яна хацела. Гэтая ноч не на дабро, гэтая ноч [illegible] тварам смерці і смутку. Не для кахання яна, ноч страт і трагедый.

Світала, але світанак быў нейкі знясілены і стомлены, хоць і ранняя вясна, хоць па вёсках ужо зааралі гароды, пабялілі хаты, прыбралі дворышчы, павапнавалі дрэвы ў садах,— свята вачам, ехаць бы вось так куды-небудзь далёка-далёка, прытуліўшыся да Раманавага плечука, і ўзірацца ў гэты свет, адчуваючы, як ён зазірае табе ў душу і адгукаецца ціхенькім галаском: будзем жыць, бо мы жывыя. На трасе гурчалі маторы, тысячы машын прасавалі шэры асфальт, Алесі здавалася, што і зямля ўгінаецца пад цяжарам гэтага рухомага жалеза, пад крытымі брызентам грузавікамі, у якіх панура і насцярожана сядзелі салдацікі (калі ў горадзе праязджала такая машына — колькі ж дасціпных жартаў, пякучых намёкаў ёй адрасавалася, а цяпер маўчаць), міліцыянеры, пажарнікі ў касках. Усё туды, туды, туды.

Юрава пасведчанне ўжо ні на кога не ўплывала, іх аўтобусы паволі паўзлі ў агульнай калоне. Асауленка беспрастанку курыў, і Алесю ад цыгарэтнага дыму нудзіла, але саромелася сказаць яму пра гэта: там, у горадзе, ён пакінуў жонку, якая тыдзень таму нарадзіла, за суткі ён

не змог ёй нават пазваніць. Няхай курыць, калі яму лягчэй ад гэтага, я пацярплю.

Можа, усе нашы сабраліся ў Гарадзішчах і чакаюць мяне? Можа, выйсці на скрыжаванні і — пешкі ў вёску? Але ж Раман не ведае дарогі, і тату трэба знайсці. Знайсці, і яны абароняць нас усіх. Я ж ужо жонка і павінна адшукаць свайго мужа. Баба Марыя расказвала, што двойчы хадзіла пешкі на Лютыжскі плацдарм шукаць дзеда Івана. Не знайшла, не выпытала, але ён вярнуўся жывы, бо яна яго шукала.

Не, паеду ў горад з усімі. Паеду, бо прачнуцца жанчыны-медыкі і падумаюць: уцякла. Мне ж з імі працаваць давядзецца. Калі застанёмся жывыя... Калі ў горадзе будуць жыць людзі...

За Івангорадам, дзе пачыналіся ўжо знаёмыя і родныя ёй мясціны, бо непадалёку, за пагоркам, выбягала на трасу старая гарадзішчанская дарога, калона спынілася надоўга. Вадзіцель адчыніў дзверы, Асауленка пабег уперад, каб разведаць, што там сталася. Алеся выйшла таксама. З правага боку падступаў да трасы вясновы лес, у якім трава паднімала на сваіх зялёных піках перасохлае лісце. На бярозах ужо зарубцаваліся шрамы, з якіх цадзілі сок. Адчайна лямантавала птаства. Мужчыны спраўлялі малую патрэбу проста пад колы аўтамашын, не спадзеючыся ўбачыць тут жанчын. Алеся зніякавела і зайшла ў лес. Шурхацела леташняе лісце пад нагамі, пахла пранізлівай, вострай прэласцю, духам жыцця і духам памірання. Скрозь кавалак старога рубероіду, што валяўся ў бярозавым гайку, праціснуўся адзін-адзіны лісцік і прасунула кветку чубатка. Колькі ж гэта ёй трэба сілы, каб прарвацца да сонца і зацвісці! Зацвісці, хоць і ведае, што яе затопчуць.

Ад стомы, знясілення ці ад хвіліннай радасці і расчуленасці яна падае тварам на маладзенькую траву і старое лісце. Раскідае шырока рукі і нагадвае ў сваім брудным бальнічным халаце белы крыж сярод лесу. Пальцы рук упіліся ў зямлю. Шуганулі ў кроне бярозы вераб'і, збілі ранішнюю расу, што ўпала Алесі на шыю. Цяжка ўздыхнула і нечакана для сябе самой пранізліва, гучна зарыдала, канвульсіўна ўздрыгваючы ўсім целам, у якім заходзілася ад болю душа. Няхай выплачацца, можа, палягчэе, можа, хоць трохі выйдзе з яе ўсё пяражытае і перабачанае. Можа, так і трэба, можа, гэта адзіны выхад, бо іншага яна проста не ведае.

6 Зак. 534

Алеся замірае, абдымаючы сваю вясеннюю зямлю, якая неўзабаве будзе называцца мёртваю зонаю, але не раз успомніць гэты плач і гэтыя абдымкі.

### 85

Калона аўтобусаў павольна, як вясновы вуж, упаўзае ў горад, запаўняе вуліцы, двары, плошчы. Аўтобусы спыняюцца каля пад'ездаў, дзе ўжо стаяць міліцыянеры і жэкаўцы са спісамі жыхароў. Гадзіну таму азвалася нарэшце мясцовае радыё, і завучана бравурны галасок гарадской славутасці — прыгожанькай дыктаркі Ніны — абвясціў, што на атамнай здарылася аварыя і ёсць патрэба ўсяму насельніцтву выехаць за рысу горада, усім без выключэння трэба застацца ў кватэрах, узяць з сабою толькі харчоў на тры дні і чакаць, пакуль не паклічуць на выхад, дзе будуць стаяць аўтобусы. Праз нядоўгі час дыктарка абвясціла тое самае зноў, але роўна, без таго звычнага, тропкі нават дурнаватага пафасу, з якім яна заўсёды чытала гарадскія навіны. Голас яе гучаў натуральней — усхвалявана, але роўна. Праўда, якая б яна ні была, але ўсё ж супакоіла горад. Ну, выедзем на тры дні, вымыюць вуліцы, дэзактывуюць, закідаюць пяском рэактар, урэжуць па завязку вінаватым і — зноўку па гнёздах. Можа, хоць начальства на атамнай ды ў гарадской уладзе абновіцца.

Бясконцая калона аўтобусаў расцякаецца між будынкамі.

У «Ікарусы» і ЛАЗы заходзяць дзеці: з лялькамі, з цацачнымі пісталетамі, з кошкаю на руках, з клеткаю, у якой сядзіць канарэйка, са школьным ранцам за плячыма, з белымі мышкамі ў шкляным слоіку...

Хлопчык з новым японскім магнітафонам.

Выводзяць старых і калек. Упаўнаважаныя для гэтага складаюць спісы, робяць паметы ў дамавой кнізе.

— Я ваду не перакрыла, а ўжо дзверы апячаталі.

— Трэба ж такое — якраз перад зарплатаю, ні капейкі дома няма.

— Нарэшце! Усю ноч не спалі. Казалі, што вечарам павязуць...

— Чула, што а ж н о т а м прымалі рашэнне. А нашы, мясцовыя, думалі, што шыла ў мяшку схаваюць. Праславіліся на ўвесь свет, чынушы безгаловыя.

— Што ж яно будзе з намі праз тры дні?
— Цяпер няхай яны думаюць, калі раней не хацелі.
— Ой, не к дабру гэта, людцы, не к дабру, чуе мая душа!
— Хоць вы, мама, імшу не праўце. Хапае і без вас...
— Куды ж яны павязуць нас?
— Кажуць, па вёсках у суседнія раёны.
— А там чакаюць, сталы панакрывалі, ждуць... Госці едуць...
— Чаго ж, паможам гароды пасадзіць. На яду і начлег заробім...
— А калі даўжэй, не на тры дні? Мы ж сабаку ў кватэры пакінулі.
— Вунь у суседнім доме брат паралізаваную сястру пакінуў...
— Во так жывеш, цягаеш дадому транты, кілімы, мэблю. З ног збіваешся. І — пакідай. Нібы дарэмна жылі...
— А што бяром? Душу! І дзяцей! Каб хоць гэта вывезці!
— А гарам яно гары! Хоць бы самім жывымі застацца...
Апошняя з гэтага будынка выходзіць Людміла. У тым самым адзенні, у якім была на пахаванні свёкра: чорная велюравая сукенка і нават тая самая чорная стужка перацягвае лоб і галаву.
Сплаканая, змарнелая. З вялікаю спартыўнай сумкай цераз плячо.
У аўтобусе адразу пачуўся шэпт:
— Першы згарэў у рэактары...
— Вось яго і зробяць вінным, пабачыце...
— У такой справе вінаватыя застаюцца жывыя...
— А спісваюць усё на мёртвых.
— Не, гэты быў найлепшы аператар, у прэзідыумах, на Дошцы гонару фатаграфія...
— Удава... з двума дзеткамі...
— ...жонка героя...
Апошнія словы Людміла пачула, зайшоўшы ў салон. Мужчына ў гадах уступіў ёй сваё месца каля выхаду, сам перайшоў назад.
Аўтобус выехаў з двара і адразу ўліўся ў вялікую калону, што павольна рухалася да выезду з горада.
Уздоўж калоны, насустрач ёй, бяжыць дзяўчынка гадоў пяці, прыцiснуўшы да грудак буханку хлеба і пачак

солі. Відаць, бацькі паслалі яе ў магазін, і яна цяпер не можа знайсці іх.

Бяжыць, углядаючыся ў твары, якія высоўваюцца з вокан аўтобуса. Тых, каго ёй трэба, не відаць. Бяжыць. Усё хутчэй і хутчэй мільгаюць чалавечыя вочы, твары, старыя, маладыя, напалоханыя, сумныя, прыгнечаныя, усялякія — няма толькі вясёлых.

Не, мільгануў адзін па-дурному ўсмешлівы. І таму вернемся да яго, каб разгледзець. Як-ніяк, а рэдкасць — сярод тысячы зажураных адзін радасны. Пазналі? П'яны Адарчын муж Сцяпан. Сядзіць каля акна, трымае на каленях у бруднай сетцы дзве пляшкі піва і мармыча:

— Вы ўсе, не тут кажучы, загняцеся! А я прыняў антырадыяцыйных чатырыста, не тут кажучы, свянцонай! На кожны рэнтген па градусе — няхай пацягаюцца. Кажуць, і дзецям трэба даваць. З соскі...

Дзяўчынка бяжыць далей.

Зноў твары, твары, твары. Здаецца, не будзе ім канца, і не хопіць у дзяўчынкі моцы, каб дабегчы да бацькі і маці.

Выпадае хлеб у яе з рук, але яна бяжыць, хлеб коціцца ў супрацьлеглы бок. Сыплецца соль з падранага пачка, паказвае яе след на дарозе.

У аўтобусным акне часам прамільгне знаёмае нам аблічча: сталай жанчыны, якая выдавала адзенне на атамнай, машыніста з «чортавага кола», бабулі, якая сядзела ў чоўне, маладых, што ўчора спраўлялі вяселле, тэлефаністкі, якая самлела, але потым ёй палягчэла, Людмілы з чорнаю стужкаю вакол ілба.

Вёрткі маладзенькі міліцыянерчык супакойвае нейкую маладзіцу:

— Трэба было халадзец паставіць варыць. Праз тры дні вернецеся — сама ўпрэе, разлівай толькі па талерках.

— А за аўтобус трэба плаціць ці задарам правязуць?

## 86

Фёдар прыцягнуў аднаконны воз, на якім ляжала Адарка з дзецьмі. Воз стаіць перад дворышчам, упёршыся аглоблямі ў вароты. Дзеці гуляюць у садзе, за хатаю, дзе Наталка распаліла агонь пад цынкавымі ночвамі.

— Памыйце іх, мама, памыйце, а тады адзежу выкінь-

це, хоць у транты захутайце, але выкіньце! — сказала Наталка.

— Дык жановенькае ўсё, з іголачкі.

— Цяпер многае страціць каштоўнасць. А можа, і ўсё. Апрача жыцця і сумлення.

Наталка пайшла. Была ажно каля могілак, а тады вярнулася, чамусьці зайшла ў хату, доўга глядзела на Рыгораў здымак і пабегла, пабегла, распытаўшы дарогу на суседнюю вёску, дзе, можа, трапіцца машына да Івангорада. Сваячка там у яе. Наведае і вернецца. Чаму ж так развітвалася, быццам вось-вось заплача? Можа, такая лёгкая на слёзы? Надта рвалася туды, да сваячкі. Прасіла, каб не хваляваліся, калі заначуе. Фёдар парываўся на ровары падвезці — адмовілася.

Адарка не прачынаецца. Фёдар знёс яе з воза на руках, паклаў на канапу ў верандзе. Дрыжыць уся, уздрыгвае і трызніць: «Сцяпан! Памажы смецце вынесці!»; «Не спі, Лідачка! Не спі, я табе марожанага куплю»; «Хапайся за корань! За корань трымайся! Хоць зубамі, але за корань! Кладзіся пад кола, бо паедзе!»; «Адыдзіце! Адыдзіце, бо радыяцыя!»

— Няхай адаспіцца, няхай выйдзе з яе пярэпалах і гэтая змора — устане і не ўспомніць, што з ёю было. Не раз ужо так бывала, я ведаю, добра, што дзяцей уберагла і прывезла дахаты. Выйдзе з яе тая радыяцыя, і Адарка ўстане.

Фёдар сячэ пні. Фёдар, як сабака, ведае сам, чым лячыцца. Працаю. Чым цяжэйшая, тым хутчэй адужае. Ужо з тае кучы палову перамалаціў, молат у руках гарачы. Зараз палягчэе, Фёдарка. Сячы, калі — гэта табе цяпер трэба, табе, бо дроў у нас поўная падпаветка.

Я, Мікола, буду хадзіць да таго клятага рэактара, як да тваёй магілы. На радаўніцу панясу туды цукеркі і маляванкі, і ўкленчу, і прыпаду чалом, і пагавару з табою. А ты, Грышка, калі кінеш яшчэ і гэту, калі Наталку звядзеш,— выскубу твае кучары, вось пабачыш — павырываю і лысы будзеш хадзіць. Здаецца мне, што яна зацяжарала ад цябе. Прыхоўвае, але бачыла — паднуджвае яе.

Падбегла Ліда, жаласна засакатала:

— Бабулька, я хачу пакатацца на дзядзьку Фёдару. Так, як на маме. Няхай ён запражэцца ў воз, я буду паганяць. Хлопцы не хочуць са мной гуляць, кажуць, я тэлевізійная...

— Радыеактыўная...— паправіў Тарасік.

Раман паволі, некалькімі хвароблівымі спробамі прыходзіў да свядомасці. Якраз уяўлялася, як Раіса-лейтэнанціха прышывае яму яфрэйтарскія адзнакі, а пастроеная сярод плаца застава не дыхае, чакаючы яго, Раманавых, распараджэнняў. Разжалаваны за прыніжэнне годнасці радавога салдата лейтэнант стаіць на левым флянзе, чакае Раманавай каманды, каб стрымгалоў яе выканаць. Які цуд! Якая паўната свабоды! Колькі любові ў вачах у Раісы...

І раптам нейкая там пясчаная яма, пакінуты кар'ер. Пахмельнае расчараванне і апатыя, страшэнны голад. Месяц — як вылізаная патэльня, на якой смажылася нешта надзіва смачнае і ўжо з'едзенае некім... Дзе ён? У азіяцкай пустыні? Ці на іншай планеце? Чаму разбеглася застава? «Темная ночь, только пули...» Чаму не спявае Раіса? Спяваць! Усёй заставе — падпяваць!

Нарэшце ачомаўся. Ад сабачае гаўкатні недзе высока над галавою, у небе. Гаўканне ваўкадаваў і голад. І нудотны смурод сметніка. Нашто глынуў дзве гарошыны адразу? Па адной хапіла б надаўжэй. Не паспеў нагледзецца на сябе збоку, у ролі лейтэнантавага начальніка. «Темная ночь, только пули свистят...» І сабакі брэшуць, быццам іх на аблаву выгналі. І смурод на ваніты цягне.

Алеся аддалася яму ці гэта таксама прымроілася? Ды не, нешта нібы было, адбрыквалася. Узяў ці не ўзяў? Нідзе не дзенецца. Трэба толькі глядзець, каб не зацяжарала, тады не адчэпішся, старая Людміла зашмаргне пятлю і — бывай воля.

Раман устаў, хістаючыся, як пасля перапою, гуло ў скронях, і трашчала галава. Шукаў каменя, каб шпурнуць у сабаку, але ўсюды быў пясок, кусцікі крапівы апякалі рукі. Блішчаў пад месяцам нікель матацыкла, і Раман кінуўся да яго, як да жывой істоты, што можа яго ператаваць. Паставіў «Яву» на колы, тузаў нагою стартэр, і матор усё-такі завёўся, напоўніўшы роў сухім металічным трэскам і сівым дымам. Свабода! Вецер і пыл з-пад колаў! Яшчэ б аднюсенькую гарошыну пад язык. І — паесці чаго-небудзь.

Ён асядлаў матацыкл, газануў і адчуў, як задняе кола асядае ў пясок, зарываецца ў яго. Злез і, не адпускаючы муфту счаплення, выскоквае з пасткі. Не выпускае з рук руля, бяжыць за матацыклам, які самавольна водзіць

яго па крузе, абстрэльваючы начную цішыню і напаўняючы кар'ер чадам. Шлем насунуўся яму на вочы, і Раман не бачыць перад сабою нічога — пясок і рэдзенькія кусцікі зеляніны. «Ява» водзіць яго, апісваючы няроўныя кругі. Пясок, крапіва, пот залівае вочы, грузнуць у пяску ногі. Дзе ж раўніна? Дзе ж прастора і воля? Са злосці ён газануў, і «Ява» вырвалася з яго рук, праімчалася ўперад і легла набок, грабучы колам і пырскаючы на Рамана пяском. Ён ляжаў, адплёўваючыся, пясок скрыпеў на зубах, крапіва джаліла руку. Выграбшы пад сабою яму, матацыкл заглух, і на Рамана зноў упаў люты сабачы лямант. Няўжо ўсё гэта адбываецца толькі ў яго ўяве? Але ж гарошынкі — пропуск у рай... Які ж гэта рай? Ні волі, ні любові. Ваўкі ці сабакі? Ну, падыходзьце, падыходзьце, няхай ужо хутчэй канчаецца гэты сон...

## 88

Вецер ганяе па шпітальным двары бланкі рэцэптаў, кавалкі марлі, парожнія каробачкі ад лекаў, валяюцца згубленыя хворымі тапачкі, утаптана ў асфальт вата.

Толькі што адпраўлена ў Маскву яшчэ адна група апрамененых, якія патрабавалі асаблівай дапамогі, астатніх развезлі па навакольных раённых бальніцах. Некалькі медыкаў-мужчын выносяць у РАФ мяшкі з лякарствамі, скрынкі з інструментамі — усё, што можна паспешна вывезці. Яны павольныя і немітуслівыя не ад прафесійнай звычкі, а ад двухсутачнай стомы. Дый куды ім цяпер спяшацца: і шпіталь, і горад ужо апусцелі. У палатах гуляюць скразнякі, камяні бальнічных сцен, здаецца, выпраменьваюць акумуляваныя за некалькі гадоў чалавечыя пакуты і не могуць звыкнуць да цішыні: няўжо ўсе ў гэтым горадзе здаровыя?

— Пячатку не забудзьцеся, Уладзімір Аляксандравіч! Без пячаткі мы не лячэбная ўстанова, а цыганскі табар...

З дзвярэй выбягае дакторка з мужчынскім тварам.

— А Паліводу! Палівода ў моргу! Хто ж яго пахавае? Хіба вось так пакінем? Жонка званіла, што ідзе сюды з дваімі дзеткамі, не паехала. У сталярнай ёсць дамавіна, Уладзімір Аляксандравіч.

Маслюк наступіў на жоўтую костачку даміно, што ўпала са стала, за якім адпачывалі вадзіцелі, уціснуў яе ў асфальт.

— Пазваніце ў штаб, Чыжову. Няхай выдзеляць машыну. Машыну і некалькі чалавек. Скажыце, што ў нас ужо няма сіл. Ні падняць дамавіну, ні выкапаць яму... Прынамсі, я ўжо на гэта не здольны.

З-пад рэчкі, з яе завоін наплываў на горад туман. Кракталі жабы, і іхнія галасы біліся ў пустых будынках, як у фантастычных рэзанатарах. Начныя паязды ляцелі паўз гарадскі чыгуначны вакзал не спыняючыся.

Аўтобус з медыкамі апошні вылятае з горада. За ім, высалапіўшы язык, на ўвесь дух бяжыць старая, з аблезлай па баках поўсцю аўчарка.

Валодзя Маслюк ці не ўпершыню за некалькі гадоў заўважыў надпіс на арцы пры выездзе з горада: «Шчаслівай дарогі!» Стуліўся, прыціснуўся шчакою да халоднага акна і заплюшчыў вочы.

Аўчарка ўсё адставала і адставала ад апошняга аўтобуса.

## *89*

Густая — нажом яе можна рэзаць — ноч легла на вакольныя лясы і на Гарадзішчы. У хатах, дзе жывуць людзі, дзе ёсць хоць бы адна чалавечая душа, свецяцца вокны. Лыпае мёртвымі шыбамі толькі пакінутая сядзіба каля цвінтара, у якой шворацца лісы з лісіцамі. А таксама — кінутыя дачы. Сляпы Сакрат пазірае на дарогу, і пластмасавы сланечнік пад фізікавым акном не павярнуў галавы на ўсход сонца, а глядзіць на поўнач, у бок горада.

Выкупаныя Адаркаю голыя дзеці ляжаць на печы. Марыя знайшла ў куфры неданошаныя штонікі і кашулькі сваіх сыноў, Адарчыну сукеначку. Адарка моўчкі круціць стары скрыпучы «зінгер», падкарочваючы і ўшываючы дзецям адзенне. Марыя сядзіць пад фотакарткамі свайго роду, глядзіць, як дагарае свечка ў шклянцы з пшаніцаю.

Фёдар носіць вёдрамі ваду са студні, налівае ў бачок, у парожнія слоікі, у начоўкі, выварку, саганы. Паналіваў, напоўніў вадою ўсё, што ўгледзеў. Узіраецца ў студню, быццам адтуль павінен з'явіцца самы блізкі яму з усіх, самы добры і цярплівы брат Мікола. Завісае на зрубе, несама гаворыць нешта ў далёкую волкую глыбіню, але адтуль ніхто не адгукаецца яму. Фёдар выцягвае яшчэ адно вядро вады, зачыняе вечка ў студні, абцягвае яе поліэтыленаваю плёнкай, старой цыратай і забівае цвікамі. Звон-

ка разлятаюцца над Гарадзішчамі ўдары яго малатка, і мама кожны раз уздрыгвае над фотакарткамі роду. Зноў гэты халодны гук, быццам паспешліва прыбіваюць вечка дамавіны.

Пастрэльваючы маторам, каля варотаў Міровічаў спыняецца падрапаная таратайка з каляскаю, з якой і дагэтуль вытыркаюцца рулоны неразвешаных заклікаў. Саскоквае з сядла брыгадзір, нагою прачыняе брамку, узыходзіць на асветлены ганак. Запэцканыя ялавыя боты, сіні надтрэснуты шлем на галаве, скураная пілоцкая куртка.

— Забыўся, вы ж памінаеце дзеда Івана, майго папярэдніка...

— Ужо і сына... Міколу...— адказала Марыя.

— Значыць, не брэшуць нашы на брыгадзе. Праўду кажуць, што Мікола не на тую кнопку націснуў і разнесла рэактар...

— Цяпер, брыгадзір, шмат праўды. Паспявай толькі выслухаць яе і аддзяліць ад хлусні. Не плявузгай, брыгадзір, а калі ўжо зайшоў — сядай ды памяні абодвух...

— Не час, не ўрэмя расседжвацца. Стоячы спацееш, работы багата ў гэтую ноч.— Ён, не скідаючы нават шлема, выпівае налітую чарку, смокча кіслы агурок, каб не зачапіць хворы зуб. Адарка трымае на руках свайго Руслана, каб адзець яго ў перашытыя майтачкі. Стаіць пад старою сямейнай іконаю, на якой жанчына таксама трымае голага хлопчыка на руках.

— Ваапчэ кажуць, паступіла каманда: адступаць! У глыб краіны! У суседні раён. Але — арганізавана. Адступаць толькі пабрыгадна, вёскамі, з буйным рагатым скатом. Дробны скот пакідаць ворагу. Прэ, як малахольны, зараза! І няма яму праград. Цяпер інструктаж кажу: падоеную і пакормленую карову заўтра загнаць у летнюю стайню каля фермы. На шыю ската пачапіць бірку з адрасам і фаміліяй... хазяіна. Людзям будзе два аўтобусы, камфартабельныя. Браць усіх жывых. І — толькі харчы. На тры, чатыры, пяць, шэсць дзён. Пашпарт, капейчыну, якая ёсць. За паніку — штраф! Рублёў дзвесце штрафу за паніку.

Ён наліў сабе яшчэ чарку, выпіў, занюхаў хлебам, каб не зачапіць хворага зуба, і выйшаў з хаты. Ужо з парога дадаў:

— Тысяча восемсот трыццаць дзве курыцы пакідаем. Нясушкі. Хто мне іх спіша? Хто?

На гарадзішчанскім цвінтары стаіць грузавік, паблісквацюь у цемры агеньчыкі цыгарэт. Побач з магілаю старога Міровіча вырасла свежая, толькі што насыпаная ўначы двума мужчынамі.

— Выбачай, Змітро, што так...

— Нахлусяць потым пісакі: гучалі развітальныя залпы. А мы і яму, лічы, выкалупалі па калені...

— Мы сёння, Змітро, павінны былі заліваць падмурак тваёй дачцэ. Яшчэ і перасварыліся: рабіць склеп ці не? Ты баяўся, што ў паводку заліваць будзе. Зальe, Змітро, ох і залье цяпер. Памыляўся я...

— Трэба хоць Сафію давезці да Івангорада. Чым даедзе з дваімі дзеткамі, бо нам — т у д ы.

— Не-не, я пабуду каля яго. А вы едзьце. Пабуду. Пастаю яшчэ. Вунь вёска свеціцца, пераначую, каб заўтра прыйсці на магілу. Выбачайце, што няма чым і памянуць...— прамовіла Змітракова жонка, тулячы да сябе дваіх маленькіх дзетак.

Фёдар стаіць каля забітай студні, як прывід. Трымае ў руках вядро з вадою і ўглядаецца ў цёмную дарогу, па якой павінна прыйсці (некаторыя кажуць, што ўжо прыйшла) бяда з горада. Ягонае ўчэпістае вока ўбачыла ў густой цемры нейкую постаць з двума падкрылкамі, што валакліся па зямлі. Можа, гэта я н о і ё с ц ь? Хацеў схавацца за студню, але пасаромеўся, успёрся на яе дашак і чакаў. Каб не спалохацца яшчэ больш, Фёдар пайшоў насустрач. Калі нерваваўся, трэба было дзейнічаць, таму і пайшоў з поўным вядром вады. І нарэшце разгледзеў: двое дзетак вядуць за рукі жанчыну ў чорным адзенні, у чорнай хустцы. Напіліся вады і пайшлі за ім, відаць, і не здзівіліся, што ён нямы.

Гаўкнуў у сенях Пушок і замоўк, улёгшыся на ватоўку.

— Наталка вярнулася...— сказала Марыя, нават не павярнуўшыся за сталом.

Стала на парозе жанчына з дваімі дзецьмі — хлопчык і дзяўчынка. Зразумела — а д т у л ь.

— Сядай, дачка, вячэрай. Бяда бядою, а есці трэба І табе, і дзецям. Есці, каб жыць...

## 90

Ціхі правінцыйны райцэнтрык Івангорад ужо ўсё ведае. Яго вуліцамі прайшлі сотні аўтобусаў з эвакуіраванымі, ён і цяпер уздрыгвае ад цяжкіх грузавікоў, цягачоў, бульдозераў, што з уключанымі фарамі цягнуцца туды, у бок горада і атамнай. У раённым Доме культуры працуе штаб, што рассяляе эвакуіраваных, дапамагае сваякам і блізкім знайсці адным адных. У раённай гасцінічцы начуюць міністры і генералы, райкамаўцы спяць па некальві гадзін у крэслах у сваіх кабінетах.

Старэнькая раённая бальніца гудзе, як сталічны вакзал. Дзяўчынка ў школьнай форме пытаецца ў людзей, якія стаяць у чарзе да жанчыны-дазіметрысткі:

— Каму тут здаюць кроў? У мяне першая, самая пашыраная група. Хутчэй кажыце, бо зараз тата мяне дагоніць...

У доўгім вузкім калідорчыку пад сценамі сядзяць жанчыны. Не хапае табурэтак, і некаторыя стаяць каля парога, нервова зіркаючы на гадзіннік над кабінетам з надпісам: «Гінеколаг».

— І муж хацеў другога дзіцяці. Ды хто ж ведаў? Хто мог ведаць?

— Не, пакідаць нельга. Бо калі, крый божа, не такое ўродзіцца — куды яго тады? Няхай лепш цяпер, пакуль не бачыла, не нарадзіла, пакуль і яму ўсё роўна...

— І я таксама адважылася. Ці падужае толькі гэты чалавечак. Ледзьве на нагах стаіць. А нас яшчэ вунь колькі. Можа, хоць яблык у каго-небудзь ёсць падкрапіць яго?

— Шакаладка ёсць. Толькі сынок надкусіў. Тут купіла, не заражаная,— кажа поўная жанчына Наталцы, якая сядзіць каля яе, сутаргава счапіўшы пальцы рук на сваіх каленях.— Калі ты і на блоку была — трэба рабіць! Я паўдня ў чарзе па імпартныя кашулі мужу прастаяла — і то страшна. Яшчэ наплодзіш здаровенькіх, крыклівых і мажненькіх, як слімакі... Не бойся. Думай, як табе тады было добра, яно і не забаліць...

— Ды замоўкніце, прашу вас! Галава ад вашай балбатні — як рэактар, вось-вось разарвецца... Гэта ж толькі блок разарвала, а як бомбу кінуць?

Расчыняюцца дзверы гінекалагічнага кабінета. На парозе маленькі, сухенькі мужчынка, якому медсястра выцірае ўсеяны потам лоб і стомлена гаворыць:

— Нечыпарэнка Наталля Пятроўна...

— З'ешце шакаладку...— кажа гаваркая поўненькая жанчына і перадае Наталкаю шакалад доктару.

## 91

Равуць на ўсе Гарадзішчы і перагукваюцца ў лясах і пералесках маторы грузавікоў і аўтобусаў, буксуюць колы ў грузкім пяску, раве жывёла, пускаючы тонкую, як павуціна, сліну на вецер. Кудахчуць напуджаныя куры, якіх гаспадары стараюцца злавіць і засекчы, вішчаць свінні. На цемені гіпсавага Сакрата, што глядзіць на дарогу, сядзіць стракаты матылёк.

Забітыя студні, усё роўна як сляпыя, утаропіліся ў нябесную невядомасць.

На пярэплаце двара Міровічаў сядзяць пяцёра дзяцей (каля Тарасіка, Руслана, Ліды двое Паліводавых — Змітрык і Ніна), як пяць нот на лінейках. Адзежа на іх нехлямяжая, мешкаватая — усё перашыта наспех на вока, з дарослых.

Фёдар у хляве чэша скраблом Маўру і туліцца шчакою да яе цёплай поўсці: ты, Маўра, нямая, як і я, але ўсё разумееш, пагавары са мною.

Учора па абедзе прыйшла ў Гарадзішчы Алеся. Нічога не расказала, упала на канапу пад старою іконаю і заснула. Сёння яе разбудзіў Андруха Кудыпашлюць: яго дачкадзесяцікласніца вось-вось разродзіцца, а сельскі фельчар некуды паехаў сваёй машынай, а везці ў Івангорад няма чым. Пайшла, і дагэтуль няма. Андруха, кажуць, сеў на ровар, перавесіў цераз плячо стрэльбу і паехаў у Трыдні шукаць эканаміста, каб ішоў і глядзеў — падобнае да яго дзіця ці не?

Марыя садзіць у печ хлеб свайго замесу ў вялікіх чорных формах. Адарка дапамагае ёй.

— Ці паспеем, мама? Можа, давядзецца вось так і пакінуць?

— Вы едзьце, дзеці. Едзьце ад бяды. А я з Маўраю, з курамі, з Пушком і крацянём застануся. Што мне будзе, падранай панчосе? Чорт не схопіць, калі бог не адвернецца.

— І не кажыце такога, мама! Не кажыце, бо я таксама не паеду нікуды. Чулі ж: Маўру прывязуць туды, куды і нас. Некалькі дзесяткаў сваіх кароў ды калгасных

тры сотні — хто ж гэтае дабро пакіне? Прывязуць. Кажуць, Андруха застаецца на эвакуацыю жывёлы, я яму пляшку занясу — ён і дагледзіць Маўру.

— А як цяліцца пачне?

— Самі ж казалі, што яшчэ два тыдні хадзіць ёй...

— Я таксама не паеду, Марыя Ігнатаўна, калі вы застаняцеся,— сказала Сафія Палівода, прыбіраючы са стала і складаючы наедкі ў кошык, на дарогу.— У мяне бацькі на Палтаўшчыне, але паеду з вамі.

— Як жа я ўсё гэта пакіну? Каму? Немец у вайну прыходзіў, які страх быў — паліў, вешаў, расстрэльваў, а зямля заставалася наша. Зямля, вада, хлеб, паветра, лес нас хавалі і абаранялі. Ад аблаў я двойчы хавалася ў капе і на гарышчы. Куды ж цяпер уцякаць, як напасці не відаць і не чуваць? Агарод не дасадзіла, дзевяць дзён па Міколу не справіла, а там па Івану сарачыны... Кулі не лятуць, бомбы не рвуцца, сады зацвілі, рэчка ўваскрэсла, а ты — уцякай?! Семдзесят гадоў з гэтай зямлі не сыходзіла, а цяпер, жывая-жывусенькая, пакідай усё? Дык куды ж гэты дурны свет ляціць? Куды яго нясе?

Архіп-трактарыст калоў у двары двух сваіх парсюкоў. Абсмаліў іх паяльнаю лямпаю і цяпер свяжуе. Яму дапамагаюць сынок-школьнік і жонка ў цыратавым фартусе, запырсканым свіной крывёю. Усе трое запэцканы сажай ад паяльнай лямпы, вывадзганы ў тлушч і трыбухі, мітусяцца, вострацъ нажы, рыхтуюць ночвы, вываркі, слоікі на мяса і сала.

— Ды не сланяйцеся, трасца вашай матары, бо паедуць без нас. Калі б купілі цёмна-сіні «жыгулёк» — паехалі б цяпер куды хацелі, а так... выкідай палавіну свінні сабакам...

— Не трэба было абодвух адразу пускаць пад нож, Архіп. Аднаго закалоў, а другі не здох бы ў хляве, пакінула б яму высевак з бульбаю... Куды падзець усё гэта, такое свежанькае? Хто і пачым яго купіць?

— Не падвывай хоць ты! І так сэрца рвецца. Будзе з намі мяса і сала — не прападзём. Думаеш, чакаюць нас там? Нешта прадамо эвакуіраваным, дакладзём на кніжку, можа, бежанцам будуць даваць машыны без чаргі як пацярпелым...

Брыгадзір з некалькімі міліцыянерамі заходзіць у двор Міровічаў.

— Цётка Марыя, скока можна цягнуць ката за хвост? Вядзіце карову на ферму! Адарка, вядзі свой вывадак да аўтобусаў, бо шафярня ўжо варам мочыцца ад нерваў. Трэ эмігрыраваць у суседні раён, з якім спаборнічаем, і яны, бачу, у гэтым годзе выйдуць наперад. Раз-два — паехалі! — выпаліў брыгадзір.

— Выводзь дзяцей, Сафія! А ты, Адарка, хлеб з печы вымі. Фёдар, хату зачыні, пакінь курам зерня, пастаў пудзіла, каб вароны грады не выграблі. Падмяціце падлогу, каб вярнуцца ў чыстую хату. Я завяду Маўру. І не камандуй тутака, брыгадзір! Не вагон пакідаем, а хату, дзе век пражыла, родную зямлю. Хто я без яе? Гэта такія свістуны, як ты: раз-два і адсек.

— А вашы? Усе, апрача глуханямога, уцяклі з Гарадзішчаў. На лёгкае жыццё і камфорт, у горад...

— Ты маіх не чапай. Не святыя, але і не смецце.

— Дзядзька Іван таксама некалі камандаваў. Дагэтуль у вёсцы помняць...

— Лепш за цябе ведаю, але ён ужо на могілках. Адкамандаваў, а ты яшчэ толькі ў смак уваходзіш.

Каля аўтобуса гоман, лямант, нервовыя сігналы вадзіцеляў. Зайшлі і занялі месцы толькі школьнікі — гэта, уласна, уся моладзь Гарадзішчаў. Ды яшчэ хіба глуханямы Фёдар. Астатнія — людзі пахілага веку — дзяды і бабы.

— Не спяшайцеся, можа, яшчэ адменяць, можа, прыедзе ганец з раёна, а нас ужо няма...

— Не баламуцьце людзей! Вам, старым, аднолькова, а нам жыць хочацца,— агрызнулася жонка Архіпа-трактарыста, уносячы мяшок у аўтобус, але мяшок падраны, і з дзіркі высоўваецца абсмаленае свінячае рыла.

— Ці ж мы вам стаім папярок дарогі на гэтым свеце? Жывіце! Множце дзяцей, а мы вам усё пакінем. Нічога не забяром... А ты і свіную галаву цягнеш.

— А што там есці будзеце? — спыталася Архіпава жонка.— Ці вы на курорт сабраліся?

— Гэта ж другі дзень вялікадня. Заўтра ж усёю вёскаю пайшлі б на могілкі ўсіх сваіх памянуць. На каго ж мы іх пакідаем?

— Вечарам дачка з дзецьмі ў водпуск прыязджае. Ажно з Архангельска. Прыедзе, а хата апячатана. Падумае: пасадзілі тату за нешта...

— Гарадзішчы занядбалі, каб горад красаваўся. Дзяцей яму аддалі, а цяперака і горад неперспектыўны, ужо тыдзень радыяцыя па ім гуляе.

Падбягае задыханы брыгадзір:

— Таварышы калгаснікі! Праштальнага мітынгу не будзе! Паехалі! Пакуль расселіцеся — скот падвязуць. Міліцыянеры будуць берагчы нашы хаты як зяніцу вока! Упярод! Па машынах!

Марыя адбымае за шыю Маўру, туліцца да яе шчакою і заводзіць у загарадзь на ферме.

— Шырока ногі на машыне расстаўляй, каб не рассыпалася па дарозе. Я першая цябе сустрэчу. Не лажыся на кузаве — затопчуць...

Адарка раздае ў аўтобусе свае выпечкі хлеб.

— Бярыце, бярыце! Яшчэ гарачанькі! Мама на праштанне спякла і сказала раздаць.

Фёдар падхоплівае маму, якая ледзьве дыхае, дабегшы да аўтобуса, дапамагае падняцца і сесці ў новенькі блакітны «Турыст», што ўжо раве маторам.

Тарасік нешта малюе на запацелым акне ў аўтобусе.

Алеся трымае на руках скрутак з толькі што народжаным хлопчыкам дзесяцікласніцы. Сумна глядзіць у акно, насупраць якога вецер абрывае яблыневы цвет, абрывае і нясе туды, да могілак, разам з пылам. Цвет і пыл б'юцца ў акно, праз якое выглядае яе маркотны твар.

Аўтобус паехаў, яго колы заскакалі па аголеных каранях. За аўтобусам пацягнуўся шлейф дыму і апалага цвету.

Мільганулі могілкі з дзвюма свежымі магіламі побач. Недалужны надпіс «в. Гарадзішчы».

Пыл і цвет.

І гіпсавы Сакрат з-за шторы акна...

## *92*

На цэнтральнай вуліцы раённага мястэчка па-за зонаю цесна ад заклапочаных прахожых. Большасць у ахоўных касцюмах, з дазіметрамі, лекарскімі скрыначкамі, процівагазамі на поясе, міліцэйскімі пагонамі паверх робы.

Будынкі, дрэвы, вокны пошты абклеены аб'явамі:

«Штаб завода «Юпітэр» у 7 «А» класе школы № 1».

«Калгас «Айчына» Вялікабагачанскага раёна Палтаўшчыны запрашае сем'і на пастаяннае пражыванне. Даём хату, карову, агарод, мэблю. Праўленне калгаса».

«Мамачка! Я — тут, вул. Шаўчэнкі, 12. Люся Лапацюк».

«Хто без пашпарта — вазьміце даведку. У касе кінатэатра. Кругласутачна».

«Дзяржаўная грашовая дапамога выдаецца ў эвакуіраваных ЖЭКах. У школе-інтэрнаце».

«Хто згубіў пярсцёнак — звярніцеся ў кнігарню».

Чарга па дзяржаўную дапамогу. Жанчыны з дзецьмі, мужчыны, дзяды і бабулі.

Каля акенца касы Сцяпан, Адарчын муж. Прасоўвае касіршы дакументы і даверанасць.

— Я, жонка, двое дзяцей. Чацвёра. Па дзвесце — восемсот рубчыкаў. Хоць адзенемся ды зможам выехаць да бацькоў у Херсон. Даверанасць заверана ў сельсавеце, пры сведках. Дзіця прыхварэла, то я адзін прыехаў... з даверанасцю...

— Ды не трызвонь, дзядзька. Не сляпая. Выдам. Толькі памаўчы. За двое сутак рукі спухлі чужыя грошы лічыць. Распісвайся.

Сцяпан, ссутуліўшыся, адыходзіць ад касы, зладзеявата азіраецца, нібы баіцца, ці не даганяе яго касірка, знікае ў натоўпе прахожых. Вынырае на выездзе з райцэнтра, галасуе грузавікам, што імчацца на ўсход.

— І тут, гады, сухі закон увялі. У людзей гора, зняць бы радыяцыю, расслабіцца... З грашамі не прападзём... Спыніся ж, карашок! На паўлітра кіну!

Прытармазіў, заехаўшы на абочыну, нейкі бензавоз. Сцяпан стрымгалоў пабег да яго...

## 93

Пад парогам хаты Міровічаў вые Пушок. Вые тонка, пранізліва, выліваючы сваю сабачую тугу і безнадзейнасць.

Калона цяжкіх жывёлавозаў душыць карэнне на дарозе, і яно пырскае сокам. Равуць каровы ў кузавах. Калона павольна знікае ў лесе.

Андруха і Мірон, якія згадзіліся застацца ў Гарадзішчах для вывазкі жывёлы, сядаюць на пакінуты воз пад загонам з прыватнымі каровамі, дастаюць пляшку, Ан-

друха п'е нагбом, а Мірон вымае цыгарэты «Космас» з пачка, абгорнутага цэлафанам, налівае ў яго, таксама п'е.

— Не шкадуй! У Міровічаў з хаўтур засталося з скрынку. І выпадак які — унук нарадзіўся.

— Перастань! Апячатана, мільтоны шнырацъ. І няёмка неяк... Я ведаю, дзе мая ведзьма закапала. Цяпер можна дастаць...

І ў гэты момант чамусьці спудзіліся каровы за агароджаю. Кінуліся сюды, у бок Андрухі і Мірона, але мужчыны замахалі рукамі, кепкамі, адпалохваючы жывёлу. Статак кінуўся ў супрацьлеглы бок, патрушчыў падгнілыя калы, агароджа завалілася, і жывёла пабегла ў розныя бакі.

— Андруха! Турма будзе! — крыкнуў Мірон і кінуўся напярэймы.

Большасць весніц закручаны дротам, забіты ці зашчэплены, і каровы, якія прыбеглі да сваіх двароў, стаяць каля варотаў.

Мірон з Андрухам зноў зганяюць скаціну ў цэнтр вёскі, на выган. Загарадзь разламана, куды заганяць жывёлу?

— Ёсць ідэя! На могілкі, там загароджана! — гукае Андруха.

Яны заганяюць кароў на гарадзішчанскі цвінтар, задаволена зачыняюць могілкавую браму.

Маўра абнюхвае дзве самыя свежыя магілы...

## *94*

Людміла Міровіч (яна і дагэтуль носіць жалобу — муаравую стужку цераз лоб) на прыёме ў Юрыя Асауленкі — намесніка старшыні эвакуіраванага гарсавета.

— Што ж мне рабіць, Юрый Аляксандравіч?

— Крышку пачакаць. Вы ж бачыце, якое стоўпатварэнне. Расшукваем людзей, адкамандзіроўваем усіх, хто цяпер не патрэбны атамнай, размяшчаем прыбыўшых на ліквідацыю аварыі, міліцыя наводзіць парадак у зоне, вылоўлівае марадзёраў, адпраўляем дзяцей на поўдзень. Шок ужо прайшоў — столькі спраў навалілася... Атрымлівайце звычайную дапамогу, а тады возьмеце розніцу як жонка загінуўшага. Самі бачыце: справа складаная. Усе ведаем, што Мікола Іванавіч загінуў смерцю героя, а пасведчання пра смерць няма. Параюся з юрыстамі, і дапаможам вам. Шок прайшоў — дапаможам...

— А з кватэраю як будзе?

— Вам як жонцы загінуўшага, як мужнай жанчыне скажу праўду: зімаваць у горадзе не будзем. Гэта точна. Дзяржава ні пра кога не забудзе, а пра вас — тым больш. Думаю, вам дадуць кватэру ў абласным цэнтры па-за ўсялякай чаргою. Пра гэта мы паклапоцімся. Няхай толькі пройдзе стоўпатварэнне...

## 95

Падышлі новыя жывёлавозы ў бязлюдныя, прыціхлыя пад паўдзённым сонцам Гарадзішчы. Спыніліся каля могілак. Вадзіцелі выкінулі трапы.

Андруха і Мірон бегаюць паміж магіламі, ловяць кароў і вядуць іх на вяроўках па трапе да кузава. Маўра ўпіраецца, Андруха садануў ёй ботам пад чэрава, карова застагнала і — пайшла. Апошняя. Стала каля задняга борта.

Мірон бяжыць да машыны з вёскі. З трохлітровым слоікам самагону ў руках. Любоўна прымошчвае слоік на сядзенне, ускоквае ў кабіну сам.

— Паехалі! У Міровічаў хата не замкнутая, але... страшна... міліцыя...

Жывёлавозы валюхаюцца па карэнні, ды вадзіцелі набіраюць хуткасць, не цырымоняцца — жывёла.

Вые Пушок каля парога. Кудахчуць куры на птушніку, у небе ўжо вісіць ястрабок.

На лясным калдабане вадзіцель апошняга жывёлавоза рэзка прытармазіў, а тады нервова газануў. Маўра не ўтрымалася на нагах, налегла на задні борт і... перавалілася цераз яго, цяжка ўпала на пясчаную дарогу.

У кабіне гэтага не заўважылі.

## 96

«Чортава кола» ціха, неяк санліва пракручваецца вакол восі. Машыніст, мабыць, не ўключыў тормаз, і вецер раскруціў яго. Кола пранізліва павісквае ў восі, гайдаючы пустымі люлькамі. Скрыпяць незачыненыя дзверы пад'ездаў. Галодныя каты і сабакі валтузяцца каля сметнікаў. Панурыя, кволыя вароны сядзяць на білцах балконаў. Верталёты, што робяць разварот над горадам, пады-

маюць вецер, і ён ірве афішы, гоніць вуліцамі абгорткі ад марожанага, кавалкі газет, шматкі цэлафану, акуркі.

На кухні, за сталом у сваёй кватэры, сядзіць дзядуля з ордэнскімі планкамі на штрыфлі пінжака. Яшчэ можна жыць. Электрычнасць падаюць, халадзільнік працуе, пратрымаюся. Знайшоў кіпу газет, што складала, не чытаючы, нявестка, стаў іх праглядаць. Цяпер ніхто не пакрыквае на яго, нікому ён не замінае, і ўпершыню гарадское жыццё стала прыемнае. Вось толькі з курывам трэба сябе абмежаваць, бо кватэра не праветрываецца, нельга адчыняць форткі — радыяцыя. Вокны шчыльна зашторалы, таму гарыць настольная лямпа, накрытая вялікім вільготным ручніком,— маскіруецца, могуць засекчы яго міліцэйскія патрулі.

Асцярожна расхінае штору, каб выглянуць на вуліцу. Скрозь шчыліну відаць рачная плынь, стары човен, што ўткнуўся носам у пясок. Пусты човен пад скасабочаным грыбком, дзе яны сядзелі з Ксеняю.

Чытаючы газеты, ён пачынае жыць назад, ад апошніх дзён красавіка да яго пачатку, да канца сакавіка — назад, назад, назад! Газет хопіць, цэлая кіпа на кухонным падаконніку. Апошняя — навагодняя.

Сухая, усыпаная пяском, што насыпаўся з сетак верталётаў, дарога да атамнай. Манатонна гупаюць на швах між бетоннымі плітамі колы вайсковай бронемашыны, што паблісквае пад сонцам вузкімі акенцамі-байніцамі, да якіх прыпала некалькі пар чалавечых вачэй.

— Надзеньце процівагаз, Аляксандр Іванавіч,— кажа Чыжоў, нахіліўшыся з задняга сядзення да Міровіча. Той не адмаўляецца, і Чыжоў, стаўшы на ногі і згорбіўшыся пад нізкай столлю браневіка, нацягвае процівагаз на лысую Міровічаву галаву. Акадэмік нешта адказвае яму, але з-пад маскі кепска чуваць. Напружана прыслухоўваецца.

— І вы... пасцеражыцеся...

— Мне, Аляксандр Іванавіч, ужо ўсё роўна... Члены дзяржаўнай камісіі гавораць са мною як з падсудным. Нехта іх настроіў супраць мяне...

— Разбяруцца. Але як вы Міколу майго не збераглі? Мама не даруе.

— Вы неяк праскочыце. Герой. А я спіца ў коле. Замоўце за мяне слова там уверсе...

— Хутчэй! Газу давай! Ускочылі ў прастрэл! Зашкаль-

вае! — крычыць непрыкметны да гэтага дазіметрыст вадзіцелю бронемашыны, маленькаму ростам, з пяшчотным, ледзь не дзіцячым, тварам хлопцу. Той спрытна кідае цяжкі бранявік уперад, ажно адкінулася высокая Міровічава галава ў процівагазе, і Чыжоў падтрымаў яе рукамі за патыліцу.

Зводдаль яны праімчаліся каля руінаў рэактара. Праімчаліся на вялікай хуткасці, пад аховай брані, але Міровічу было і гэтага дастаткова.

— Праўда! Цяпер ужо бачу: праўда! Мой блок... Упершыню ў гісторыі цывілізацыі... у такіх маштабах...

## 97

Марыя хоча ўсунуць у руку вадзіцелю траячку, але той адмаўляецца:

— Ідзіце вы, бабка, са сваім смеццем... Во завязу назад, дзе ўзяў!

Марыя вылазіць з кабіны і заломвае ў лес.

...Тое, што яе Маўры няма, яна ўбачыла і адчула яшчэ здалёку. Кароў разабралі гаспадары, а Маўры ўсё ж не было. Андруха бажыўся:

— Не прадаў жа я яе, заражаную. Хто яе купіць? Найлепшае месца на скатавозе выдзеліў. Уцякла, зараза...

Сыпанула ў ягоную п'яную морду жменю пяску, і ён нават абрадаваўся: не падасць баба ў суд.

Гарадзішчы расскватаравалі ў Княжым Любечы — невялічкай, але заможнай вёсачцы, жыхары якой падрабляюць у калагасе, але жывуць з сотак, а найбольш — з велізарных цяпліц, што даюць гараджанам раннюю гародніну. Міровічаў з дзецьмі размясцілі якраз у такога гаспадара, на другім паверсе яго дома, падобнага на Дом быту ў Івангорадзе. Не паспела Марыя пазнаёміцца з гаспадаром, які завіхаўся ў цяпліцы, як прывезлі скаціну. Пабегла стрымгалоў па Маўру, а яе няма. Як жа гэта так — усе мы выехалі ў бяспечнае месца, а Маўрачку пакінулі? Карміла нас малаком столькі гадоў, была членам сям'і, а цяпер пакінулі яе ў радыяцыі, цельную, няшчасную і бездапаможную, на зубы ваўкам? Трэба ехаць і шукаць, бо грэх будзе мучыць.

...Убачыла міліцыянера на матацыкле — залегла ў пералеску, уціснулася ў зямлю каля мурашніка, бо ў траве ажно кішаць мурашкі, налазяць у рукавы, поўзаюць па

шчоках. «Тутака яшчэ жывуць людзі, яшчэ не зона, чаго я баюся? Навокал жа свае людзі, чаго гэта я, як зладзейка, хаваюся?» Але ўсё роўна перачакала, пакуль прагуркацеў матацыкл, устала, вытрасла з адзежы мурашак і пайшла далей.

...Маладзенькі салдацік перавозіць яе праз пантонны мост на танку. Мост перакінуты праз невялікую рачулку. Не сказала, што дабіраецца ў зону. «Падвязі, дзеткі, я не задарма, дам на цыгарэты...» — «Я, бабушка, Азербайджан. У нас украінска дэньга нэ ходыт. Нэльзя дэньга дават, бабушка, бяда...»

...Угаворвае дробненькага, з вострым, як сякера, тварам мужчынку:

— Чаго табе баяцца? Я пад берагам выйду, а ты назад. Затое будзеш на правым беразе мець бабу Марыю, кожны вечар прыязджаць у госці: накармлю, напаю, а галоўнае — жонка не прыскочыць, бо рэчка. Набярэш картоплі, як трэба, у мяне поўны засек у склепе. Перавязі старую. Век не забуду. Усе грахі твае замалю...

— Ідзі ты, баба, да ўсіх чарцей! Забаранілі на рэчку чоўнамі выходзіць! Паміраць вам трэба, а не плысці на той заражаны бераг...— бурчыць мужчына, але з твару відаць — мякчэе. Марыя ад таго ажыўляецца.

— Іду, іду да чарцей! Толькі яны на тым беразе. Перавязі, перавязі, і я пайду да іх у абдымкі, сама пайду...

— І дзе ты ўзялася на маю галаву? Не баба, а восеньская слата, смала, падагрэтая чэрцямі. Носіць вас у ліхую гадзіну...

Адвязвае човен, устаўляе вёслы, скідае штаны і сарочку (як канфіскуюць човен — вернецца дадому, пераплыўшы рэчку), вязе.

— Але як паддурыш, баба, і памрэш... Глядзі ў мяне, бо прыеду ў госці, як радзівацыю разгоняць... Змусілі нас студні пазабіваць, але я бяру са сваёй, п'ямо, і — нічога...

Набліжаўся родны бераг з лесам, за якім былі Гарадзішчы. Сэрца ў Марыі забілася часта і парывіста, яна ўжо нічога не чула.

## *98*

Бронемашына з Міровічам і дазіметрыстам імчыцца вуліцамі бязлюднага горада. «Нельга такія дасягненні навукі, чалавечага розуму даручаць прайдзісветам, кар'еры-

стам, авантурыстам!» — сказаў Аляксандр Іванавіч Чыжову ў прысутнасці членаў дзяржаўнай камісіі. «Але ж да гэтай кампаніі належыць і ваш родны брат Мікалай»,— агрызнуўся Чыжоў. «Мікалай — ахвяра злачыннага ўказання. Ён вінаваты толькі ў тым, што безаглядна падначаліўся вашаму загаду».

Маштаб аварыі ашаламіў Аляксандра Іванавіча. Ён зразумеў, што давядзецца адказваць перад самымі высокімі інстанцыямі, і таму заўтра ў Маскве будзе прасіцца, каб яго ўвялі ў рабочую камісію па ліквідацыі вынікаў аварыі. Ды яшчэ трэба дакладваць. Па-сучаснаму, беручы віну і на сябе, але — у меру, у меру, каб не зарвацца. Зрэшты, я ўжо атрымаў самае цяжкое пакаранне: загінуў брат Мікола, брат Рыгор ляжыць з прамянёвай хваробаю...

Міровіч прыпаў шклянымі вачыма процівагаза да вочка-амбразуры браневіка: мноства бязлюдных будынкаў, замкі на дзвярах магазінаў, устаноў, між бетонных пліт ходнікаў выцягнулася буйная трава, стымуляваная радыяцыяй, пакінутыя ў дварах дзіцячыя веласіпедзікі, паўзункі на балконных шнурах. На дзвярах гарадской гасцініцы надпіс: «Свабодных месцаў няма» — і дзверы апячатаны. На клумбе, што адзінока пярэсціцца расквітнелымі цюльпанамі, пасецца пакінутая некім каза, што забегла сюды з гарадскіх ваколіц. У высахлым ложы вадаспада некалькі мёртвых вераб'ёў. Дзесятак раскормленых пацукоў чынна, не баючыся нікога, перайшлі дарогу. Разбітая «Волга» пад слупам, у які яна ўрэзалася. Рэкламны шчыт кінафільма «Контрудар» над забітым накрыж дошкамі ўваходам у кінатэатр. Праз выбітую вітрыну рэстарана два міліцыянеры выводзяць падлетка з блокамі цыгарэт пад пахаю.

Гарадская Дошка гонару, пад дашком якой ластаўкі ўжо лепяць свае гнёзды. Сонечны водбліск вялікага шкла Дошкі гонару ўдарыў Аляксандру Іванавічу па вачах, ажно ён міжволі сплюшчыў павекі пад процівагазам.

Расплюшчыў.

У яго пільна ўзіраўся Мікола. Братавы вочы злавілі яго праз вузкую шчыліну ў брані і не адпускаюць. Трымаюць штосілы.

Аляксандр Іванавіч кладзе руку на плячо вадзіцелю, на голы салдацкі пагон, і той рэзка затармазіў. Міровіч мітуслівa намагаецца адчыніць люк над галавою, але маўклівы дазіметрыст кідаецца яму напярэймы.

— Вы што? Тут сорак пяць рэнтгенаў! Недзе легла

пляма ці кавалак паліва! Мы заўсёды пралятаем гэта месца алюрам!

Салдацік пагнаў бронемашыну на выезд з горада, але перад Аляксандрам Іванавічам усё стаялі і стаялі братавы вочы. Некалькі разоў ён засланяў даланёй шчыліну, але Міколавы вочы гэтак жа ўзіраліся і ўзіраліся ў яго. Нібыта і развітальна глядзелі, але ўсё роўна пякло ў зрэнках, і рукі на вострых каленях дрыжалі.

Бронемашына з'язджае з асфальтавай шашы на пясчаную лясную дарогу, што вядзе да Гарадзішчаў. «Калі ласка». Стандартная ўкраінка завучана ўсміхаецца, трымаючы хлеб на ручніку. Свежая, падмаляваная да майскіх святаў. «Калі ласка».

Могілкі, дзе ляжыць бацька. Не паспеў разгледзець бацькаву магілу.

Салдацік заварочвае бранявік каля дворышча Міровічаў. Забітая студня. Выгнала бур'ян, засланяе вокны. Насцеж расчынены хлеў. Зарослая бур'яном сцежка. Сцяна падрапана кіпцямі катоў ці лісіц, сляды вядуць да дзіркі пад страхою. На гнаявінні грабуцца сонныя, ачмурэлыя куры. Сярод іх ляжыць бруxатая, разамлелая ад наедку і цеплыні лісіца. Не спалохалася, толькі ляніва павяла вокам і сочыць. Куры ходзяць, пераступаючы праз яе хвост, грабуць сухім гноем у вочы і морду лісіцы, але яна абыякава пазірае на іх, быццам пасе і чакае, калі зноў абзавецца ў ёй голад. Пудзіла на градах у зашмальцаванай куфайцы з раскрыжаванымі рукамі нібыта хоча абняць некага — таго, хто ступіць на граду. Замест галавы стары закураны саган на палцы, накрыты старой шапкай. На плячах у пудзіла сядзяць вароны.

«Мама заўсёды пакідала ключ на слупку, пад пустым вядром... Няма вядра, значыць, і ключа не пакінулі... Мая пупавіна закапана... у зоне...»

Худы, абвешаны дзядамі, з падрапанай мордаю Пушок выскачыў з бур'яну і, стаўшы на сходах ганка, злосна брэша на незнаёмую машыну.

Аляксандр Іванавіч махнуў вадзіцелю: паехалі. Вялікія вінавата шэрыя Міколавы вочы зноўку глядзелі на яго, быццам Мікола намагаўся распазнаць: брат ці не брат пад процівагазам.

Затрашчалі карані пад цяжкімі коламі бронемашыны, пырснула сокам на браню і на пясок. У лесе, у пясчанай каляіне, ляжала мёртванароджанае цялятка, каля якога шнырылі галодныя сабакі і вараннё. Аб'ехалі, паламаўшы

кусты ляшчынніку і глогу, вырваліся на трасу, дзе палыскуецца чорнаю фарбаю «Волга».

Аляксандр Іванавіч доўга выцягвае з бронемашыны сваё нязграбнае цела, вадзіцель і дазіметрыст падсаджваюць яго ў люк. Міровіч перасядае ў машыну, але процівагаза не скідае.

Нешта перашкаджае яму дыхаць і думаць, але што менавіта, забыўся: Міколаў позірк ці гумовая маска на твары?

## 99

Да Княжага Любеча, куды эвакуіравалі Гарадзішчы, аўталаўка прывезла таннае адзенне перасяленцам. Гандлююць каля клуба, што размясціўся ў старой царкве, з якой знялі крыжы, залаталі дзіравыя купалы, патынкавалі, зрабілі залы для танцаў і для кіно.

Гарадзішчанцы прымяраюць паркалёвыя сукенкі, танныя халацікі, заляжалыя на складах мужчынскія штаны і сарочкі.

Фёдар абкошвае бур'янішча пад парканам клуба. Ён чакае маці. Каб менш нерvavацца, каб хутчэй бег час, пазычыў у дзядзькі касу і сцінае крапіву і палын пад клубам. Абдаўшы яго гарачым пясчаным пылам, побач з ім спыняецца мікрааўтобус з надпісам «Тэлебачанне». Фёдар косіць далей. Да яго падбягае карэспандэнт з мікрафонам, барадаты чалавек наводзіць на яго кінакамеру.

— Мы ведаем, што вы эвакуіраваны з небяспечнай зоны, што вы родны брат Міколы Міровіча, які загінуў на рабочым пасту, і брат героя-пажарніка Рыгора Міровіча, які не даў пажару перакінуцца на суседнія блокі, ўратаваў усіх нас ад яшчэ большай бяды. Вы перажылі страту і эвакуацыю, а ўжо прыступілі да працы... Мабыць, вас і братоў так выхавалі? Што можаце сказаць пра гэта?

Твар у Фёдара напружыўся, рэзка выступілі і забегалі па скулах жаўлакі. У вачах успыхнулі ўнутраныя пакуты нямога, які хоча нешта сказаць. Хоча, ды словы паміраюць, не нарадзіўшыся. Нямко глядзіць на камеру.

— Добра, тады скажыце, ці марыце вы вярнуцца ў родную вёску? Гэта ж часовыя цяжкасці, якія патрэбна перамагчы, ці не праўда?

З-за спіны ў Фёдара высоўваецца Тарасікава галоўка.

— Дзядзька Фёдар усё знае і разумее, але не скажа...

## 100

Марыя якраз ступіла на сцежку, што вядзе да Гарадзішчаў, як пачула гул матора і ўбачыла — выскачыў з вёскі зялёны танк, але на гумовых колах. Навучаная за доўгую сваю дарогу з Княжага Любеча да Гарадзішчаў асцярожнасцю і страхам, што яе могуць вярнуць, адышла ў лес, схавалася за тоўстыя камлі соснаў. «Чаго было вывозіць нас? Усё цвіце і зелянее, як і ў Княжым Любечы. Бераг — як кілім, што не вытаптаны дачнікамі. Ціха, люба, цёплая зямля пад нагамі — толькі тут і жыць».

Бронемашына абдала яе гарачым бензінавым перагарам, секанула пяском з-пад колаў. З вузенькай шчыліны на Марыю зірканулі велізарныя жудасныя і халодныя шкляныя вочы. Не заўважылі яе за сасною, дзякаваць богу, няхай сабе едуць. Ім зона, а мне родная зямля... Хоць бы хутчэй сцямнела, каб ціха зайсці ў сваю хату, яна прыме, абароніць, сагрэе. Няхай толькі спарэе. Можа, і Маўра чакае, нарадзіўшы ў хляве цялятка...

Выйшла на паляну, што густа зарасла чарнобылем. Непадалёку, пад крутым берагам, ціха пялёхкалася рэчка, над галавою спляліся кронамі сосны. Ведала і любіла гэта месца, але была тут даўно, бо за лета яго выгарцоўваюць дачнікі, што хаваюцца сюды ад спёкі, пакідаюць галавешкі начных вогнішчаў. Цяпер зазелянела, як тады...

...Май. Хрушчы заплятаюцца ў валасах, задрэмлеш, а хрушч варушыцца, шамрэе каля вуха. Малы Сашка засынае, ледзь дакрануўшыся да падушкі, але кожны раз паспявае папрасіць: разбудзі, як тата з вайны прыйдзе... я хачу з яго аўтамата пастраляць...

Гарадзішчы ўжо адсвяткавалі Перамогу. Два дні іграў гармонік на плошчы, дзе цяпер аўтобусны прыпынак. Гарманіста кармілі з рук і падпойвалі, каб іграў бесперастанку. Цвілі сады, і слупам стаяў залаты пыл, узняты танцорамі. Уваходзіла ў круг і Марыя з Сашкам, танцавала да апошняга поту; на плечы, на твар, на голыя лыткіналіпаў пясчаны пылок, і Марыя вярталася дадому зняможаная, але залатая, быццам вылітая з бурштыну. Клала Сашку, а сама апоўначы бегла да рэчкі, каб пакупацца, каб быць чыстаю, як прыйдзе Іван з вайны. На гэтым месцы пакідала сваю адзежу, тут пад месяцам выцірала сваё маладое цела тоўстым саматканым ручніком, слухала рэчку, і лес, і сябе самую, ледзьве верачы, што перажыла такую вайну, што Іван яе жывы, што ўсё найстрашнейшае

ўжо мінулася. Цяпер толькі жыць, множачы дзяцей, і любіць свайго Івана.

У той дзень, у маі, Марыя распачала вялікае мыццё на рэчцы, якраз тут, пад берагам, на гранітным валуне. Стамілася, наклаўшы на радно гару чыстых фіранак, прасціралдлаў, Іванавых і Сашкавых сарочак — вымыла ўсё, што знайшла ў хаце, быццам вайну змывала з усяго. Прыйшла на гэтую паляну і выцягнулася на мяккім чарнобылі. І, мабыць, паспела задрамаць.

Прачнулася, адчуўшы, як нехта, дыхаючы ёй у твар цыгарэтным духам, схіляецца над ёю. Устрапянулася, убачыла незнаёмыя чорныя вусікі. І штосілы ўляпіла аплявуху па смуглай мужчынскай шчацэ, ускочыла на ногі. А ён смяецца і качаецца па муражку.

— Ура! Гэта, бачу, *мая* Марыя!

Іван! Жывы Іван! Ногі слабнуць, і яна падае на яго.

Паляна гайдаецца пад імі, як хісткі човен на вадзе. Шорсткія Іванавы пацалункі (вусы калючыя і казытлівыя адначасова!). Адляцеў у кусты Іванаў кіёк. Утаймаваная мужчынскай пяшчотаю і ап'янелая ад радасці, паспела прашаптаць:

— Ванечка! Медаль адшпіліўся і коле мне шпількаю грудзі...

А ў лютым, на грамніцы, ужо гайдалася пад бэлькаю калыска з Міколкам. Гайдалася, як маятнік гадзінніка.

— Ой, Мікола, Мікола... У радасці цябе зачала і лёгенька нарадзіла. Думала — самы шчаслівы будзеш... А цяпер хоць бы костачкі твае знайсці і пахаваць на нашым цвінтары. У твайго таварыша, Паліводы, хоць магілка ёсць, змогуць прыйсці і пакланіцца жонка, дзеці яго. Прыйдуць Змітрачок і Ніна, калі путныя вырастуць у гэтым вар'яцкім свеце, дзе столькі ўсяго нагатавана супраць нас намі самімі ж...— прамовіла Марыя ўголас. Лёгка знайшла тое самае месца, дзе ляжала з Іванам, на дванаццаты дзень мая сорак пятага, і, укленчыўшы, легла на цёплую зямлю, з палёгкаю выцягнуўшы сваё кволае цела.

Убачыла пад кустом паліняную ўжо жаночую хустачку, абкіданую па краях чырвоным «крыжыкам». Дзе ж я яе бачыла? Здаецца, у Алесі. Дапраўды, у Алесі, летась купіла ў краме батысту, парэзала яго на насовачкі і абрубіла «крыжыкам». Калі ж яна была тутака? Сёлета, нядаўна... Мабыць, калі дзеда хавалі... Запхнула хусцінку ў кішэнь у пінжак: памыю і аддам унучцы.

Марыя прачнулася ад таго, што нехта дыхае ёй у твар. Спакойна расплюшчыла вочы і ўбачыла перад сабою... падрапаную Пушкову мызачку. Ён радасна заскуголіў, лізаў ёй рукі і твар, качаўся ў бур'яне, поўзаў навокал яе. Марыя лавіла яго рукамі, прыціскала да грудзей: які ж ты худы, кожную костачку можна намацаць... Зараз пойдзем дадому, накармлю цябе...

Пачуўшы чалавечы дух, брухатая, растлусцелая лісіца лянівa і неахвотна ўстала з купіны гною пад хлявом, засвяціла вачыма і адышла на дворышча дачнікаў. Улеглася пад кустом каліны, на якой вісяць старыя шкарпэткі, стаптаныя чаравікі і пляжныя шапачкі, але каліна ўсё адно зацвіла. Лісіца ляжыць і сочыць за Марыяй.

Пудліва азіраючыся, несучы на руках сабачку (ох і ўедлівае сабачаня, усю морду яму парвала, а стараецца выжыць яе з двара!), жанчына ўваходзіць у хату.

## 101

Княжым Любечам праімчалася машына «хуткай дапамогі», крута завярнулася каля двухпавярховага, пампезнага, але без свайго аблічча будынка, дзе прынялі на часовы пастой Міровічаў. Жалезная брама, металічны высокі плот. Адгадаваны ваўкадаў выскачыў на цаглянную будку, стаў лапамі на вароты, запырскаў слінай на мігатлівы чырвоны крыж над пярэднім шклом машыны.

Гаспадар толькі што вярнуўся з кіеўскага базару, сядзеў за сталом у вялікім пакоі, раўняў далонямі пакамечаныя грошы, раскладаў іх на кучкі, каб было лягчэй палічыць. Каго яшчэ там прынесла нячыстая? Некага падсяліць хочуць? Пяцёра дзяцей узяў, бабу, дзве маладзіцы, дзеўку, глуханямога. У раённую газету інтэрв'ю бралі... Каго там прынесла?

Да іх, да цыганскага табару, госці. Паклікаў кватарантаў. Выйшла да іх нейкая з маладзіц... Трэба палічыць грошы. Толькі адна паўсоценная купюра, а то драбяза папяровая, але багата.

Адарка выйшла да машыны. Чалавек у белым халаце, накінутым паверх касцюма, пайшоў ёй насустрач.

— Вы з Міровічаў? Патрэбны Рыгораў брат або сястра. Тэрмінова! Раніцай яго будуць аперыраваць — перасадка коснага мозгу. Брат або сястра. У аэрапорце чакае самалёт.

— Федзя! Фёдар! Нам трэба ехаць ратаваць Грышку.

Ды Фёдар ужо стаяў за спіною ў Адаркі. У цемры ён не мог скеміць, пра што гавораць, але адчуў: трэба некаму дапамагчы, кроў аддаць, ці скуру, ці, можа, і душу... Трэба!

— Вось толькі развітаюся з дзецьмі.— Адарка кінулася ў хату. Алеся і Сафія Палівода выграблі апошнія свае рублі, сілком увапхнулі ёй у руку. Пацалавала сонных дзяцей і выбегла на вуліцу.

Разлютаваны сабака зноў стаў лапамі на вароты і доўга брахаў услед «хуткай дапамозе», з якой усё азіраліся Адарка і Фёдар.

— Можа, многа таго мозгу трэба... то мы ўдваіх, з братам, з Фёдарам...— паўтарыла Адарка яшчэ раз.

## *102*

Святла Марыя не ўключала — вартуе міліцыя ў вёсцы, убачаць і вывезуць. З'ела халоднай бульбы, што засталася ў сагане з памінак і пачарнела. Дастала з халадзільніка недаедкі каўбасы і накарміла Пушка, ён глытаў не жуючы, з матузкамі, душыўся і скуголіў.

У хаце да яе памалу вярталася ўпэўненасць. Тут усё было роднае, абараняла, вяртала думкі да таго, даваенага жыцця. Думала, што гэтыя сцены ведаюць пра яе ўсё, памятаюць яе маладую і дужую, як вясновая вада, хворую, як балота, упартую, як бараноў рог, добрую і ўсёдаравальную. Яны чулі яе бабскае выццё да паўночы, калі Іван загуляў з Насцяю і тая нарадзіла ад яго Васіля. Толькі сцены і ведалі, што я яму, паразіту і спадніčніку, дарую, ішоў бы ўжо дамоў, не павырываю яго цыганскія зенкі, не абалью яго мармызу кіслатою, а нагрэю вады, каб адмыўся, каб не патыхала Насцяю ад яго. Відаць, радыяцыя прапякла кожную костачку хаты, але даміна стаіць, не падае.

Марыя падумала, што цяпер яе жыццё — ноч, як у савы, удзень на вуліцу не паткнешся. І нічога тутака не зменіш. Набрала ў склепе мяшэчак бульбы, адзелася ў чорнае і заўвіхалася дасаджваць агарод. «Калі б можна было пагукаць Маўру, пракрычаць на ўсе бакі лесу, яна пачула б мяне, прыйшла б, ды павінна маўчаць, як Фёдар. Шукай, Пушок, Маўру, шукай, не круціся каля мяне...»

Садзіла роўнымі радамі, у мелкія ямкі, бо бульба толь-

кі што са склепа, не прагрэта на сонцы, ледзь выкінула расточкі, зямля сагрэе. Бяда бядою, а бульба мусіць радзіць, без бульбы нельга, без яе і вайну не пражылі б.

Калі Пушок навострываў вушы, унюхваўся ў ноч, Марыя адразу хавалася за пудзіла, замірала, не дыхаючы, а потым зноў бралася за работу: садзіла сланечнік каля сцежкі, сеяла буракі, кроп і пятрушку — вернуцца дзеці і ўнукі, а ў нас на гародзе ўсё расце. Дадому вярнулася, а не ў пустыню. Драла ў горле, але баялася кашлянуць. Пушок недзе пацягнуўся. Толькі б яму бяздомныя сабакі сцёгнаў не пакусалі, чула, гіцлі будуць іх адстрэльваць па мёртвых вёсках, трэба Пушка ў хаце зачыніць.

З агарода пайшла ў хлеў — можа, Маўра ўжо чакае мяне? Няма. Сонныя куры сядзелі на краі загарадкі. Па адной перанесла іх на курасадню, бо тутака і ліс, і куніца дастане. Куры не крычалі, не кудахталі, толькі крыпла шыпелі і лопалі крыламі. Села на білца ясляў: божа, колькі было заўсёды работы ў дварышчы, а гэта ўсё ўжо зрабіла, хоць кладзіся ў дамавіну. Можа, да Івана пайсці і да Змітра? Казала Сафія — дзевяціны іхнія сёння. Змітровы і Міколавы. Адна баба на ўсе Гарадзішчы — вось табе і памінкі.

Марыя хоча набраць ахапак сена ў другой палавіне хлява, укінуць яго ў яслі, можа, усё-такі прыйдзе Маўра, і натыкаецца рукою на нешта цвёрдае пад сцяною. Хуценька разграбае сена — пад абдрапанай глінянай сцяною стаяў дубовы крыж. «А я, Іване, усё ў цябе дапытвалася, дзе падзеўся дубовы брус, што застаўся, як рабілі ганак? Ён прапаў тады, калі ты стаў худнець і чахнуць на вачах. Вось чаго ты зачыняўся ўночы ў каморцы, кашляў і стругаў нешта. Значыць, ведаў... Насця сказала. Яна тады якраз памірала, і я пагнала цябе: пайдзі, развітайся, ірад! Пераказвалі, Насця сказала: не затрымлівайся т у т а к а, б о я т а м цябе чакаю, ужо без Марыі... Адшліфаваў дубіну, прааліфіў. Прасушанае, ажно звініць дрэва. І радыяцыя яго не возьме...»

Марыя адвязала ад металічнага колца ў яслях Маўрыну вяроўку, абматала ёю крыж, перакінула канцы матуза праз правае і левае плячо, паддала крыжаку і, цяжка ступаючы, выйшла з двара.

Крыж націраў спіну, уядаўся ў хрыбет, але яна, сашчапіўшы зубы, хапаючыся рукою за паркан, несла яго, маленькая і згорбленая, мёртвымі сваімі Гарадзішчамі, у якіх падвывалі галодныя сабакі, лопалі крыламі куры,

што спалі на дрэвах, шнырылі па дварах лісіцы. Пад паркаиам ужо адцвіталі дрэвы, крыж часта чапляўся папярэчынаю за нізкія галіны, і цвет сыпаўся Марыі на плечы, на чорную хустку, на крыж, на мокрыя ад поту рукі, што ажно пасінелі, трымаючы вяроўку.

«Я і там, Іване, знайду цябе з Насцяю, адаб'ю ад яе, але тваё шчасце — не маю права паміраць цяпер. Бачыш, што робіцца? Там ляжаць кожны зможа, а ты паспрабаваў бы пажыць тутака... Нікудышняя стала я, а крыж як каменны. У першае лета вайны, калі думала, што ўдавою стала, мяшок картоплі ажно ў Кіеў насіла на хлеб мяняць. І раніцаю дадому вярталася. А колькі дубовых калод перацягала з лесу ў двор. Апаршывела, баба. Чаго яны так спалохаліся той радыяцыі — няма ж яе ці кепска бачу?»

Яна часта спынялася, ставіла крыж на зямлю, замірала пад ім, прыслухоўвалася, як ён цісне на яе сваёю вагою; здавалася, што вось-вось зусім прыдушыць яе і яна ўжо ніколі не ўстане. Ды паволі супакойвалася сэрца, раўнела дыханне, яна ў думках усё роўна як загаворвала крыж, каб ён быў лягчэйшы, што павінна яго несці, што не варта яму ўпірацца, бо лепш быць крыжам на магіле, чым згарэць у печы...

Данесла ўсё ж на могілкі, апусціла яго на зямлю і ўбачыла, што Іванава і Змітрава магілы здратаваны каровінымі капытамі і загаджаны каровамі. Згрэбла прасохлыя ўжо каравякі, занесла іх пад плот, адкуль забурчаў на яе сабака, што драмаў каля купкі курынага пер'я. Загаварыла да яго — замоўк.

Доўга падграбала пясок на абедзвюх магілах, але зрабіць гэта голымі рукамі было цяжка, то з'яднала магілы ў адну, бо папачы Змітра пахавалі надта блізка ад Івана. Выграбла пасярэдзіне ямінку, падцягнула на вяроўцы крыж на магілу.

«Як Міколава душачка стрэнецца табе, Іване, каб не скупіўся, прыгалуб, супакой, бо я цябе ведаю: толькі б нарады даваць і пакрыкваць. Хоць цяпер прыгрэй. І Міколу, і Змітра. Пра іх, бедненькіх, сёння газета з Масквы напісала. Іду я сюды, дадому, міліцыянеры мяне пераняў, не пускаюць. А адзін сядзіць на матацыкле і газету чытае. А з газеты на мяне Мікола глядзіць... І Змітра ўпершыню ўбачыла. Кажуць, калі б не наш Грышка з таварышамі, то ўжо і вобласць вывезлі б... Не паверылі, што я іхняя маці, вярнулі, але я абышла лесам, бо ў іх карта,

а ў мяне ногі дарогу знаюць. Вывезлі нас, Іване, адсюль. Далёка, за сто кіламетраў. Добра, што наша зямля вялікая, а калі б малая і цесная? Куды тады ехаць? За граніцу? Прасіцца да чужога народа? А калі ён не прыме, будзе лічыць нахлебнікамі? Куды тады? На Месяц? Дык там таксама такое... з зямлі відаць уночы, як брат брата на вілы ўскінуў, помніш, бачылі, калі прастойвалі з табою пад маімі варотамі і ты мяне адзінуюлюбіў? Вот які свет настаў, Іване, пасля тваёй смерці... Нельга адных дзяцей пакідаць у ім. Павінна жыць, як заклятая...»

З апошняе сілы Марыя падняла крыж, паставіла яго вертыкальна, загрэбла нагою пясок, прытаптала і нямогла павісла на дубовай папярэчыне.

Прыйшла дадому, калі над Гарадзішчамі, над лесам, над зонаю світала. Зачыніла дзверы на засаўку і, не распранаючыся, легла на рыпучую канапку. «Ці прачнуся, калі засну?» Што не зрабіла? Бульба ўжо расце, крыж стаіць, Пушок накормлены. Чаго гэта так мучыць мяне цішыня? Бо нікога, апрача цябе, няма ў Гарадзішчах. А, вунь яно што — не ідзе гадзіннік. Не хапае яго манатоннага цікання, не засну без яго.

Устала, падцягнула гірку, гайданула маятнік. Цяпер можна жыць. Заслані фіранку на акне, можа, міліцыя будзе абход рабіць, загляне каторы.

Марыя падышла да акна. Засланіла фіранку, і ў гэты момант забрахаў Пушок каля парога. Вось і ўсё, нагаспадарыла!

Дрыжачаю рукою зрабіла шчылінку, каб выглянуць у шыбку. І — убачыла якраз перад сабою белую Маўрыну зорачку на лбе. У цэнтры белай зорачкі запяклася кроў.

## *103*

«І адкуль яны бяруцца, такія тупыя і бяздушныя?» — думала Вольга Міровіч, знемагаючы ад чакання, а вахцёр іхняга спецыялізаванага шпіталя ўсё вывучаў і вывучаў яе пасведчанне. Ведае ж у твар, а курчыць з сябе прыгранічную заставу. Нарэшце паверыў!

— Я вам сваё фота падару, вывучыце ў вольны час. Мяне хворыя чакаюць...— сказала, хаваючы пасведчан-

не, але вахцёр прамаўчаў, ужо правяраў дакументы медсястры з яе аддзялення.

Ведала, што шпіталь на асобым рэжыме, што дай волю вахцёру, то ён будзе правяраць нават біяграфію супрацоўнікаў, але за чырвонец прапусціць і старонняга. Ведала, але... не сёння, не сёння... Апоўначы Рыгору стала дужа пагана. Учора ў яго стала цямнець скура, пачыналася пігментацыя. Толькі перасадка коснага мозгу! Толькі перасадка. Толькі малады, моцны мозг! Фёдар! Рыгоравай групы ў шпітальным банку няма... Ёсць Фёдар... Ці знойдуць яго?

Вольга прачыняе дзверы бокса, дзе ляжыць Рыгор.

На белай падушцы, на прасцірадле, на белай пласцікавай падлозе рассыпаліся чорныя яго кучары. Як чорная пена, што ўпала на снег. Бачыла, як лысеюць на вачах маладыя хлопцы, разумела, што гэта станецца і з ім, але... Учора ж яшчэ, ідучы дадому, расчасала... Жмуток валасоў ён зацiскаў цяпер у пачарнелым кулаку ў правай руцэ, якая не была пад кропельніцай. Чамусьці падумала: скажу санітарам, каб не выкідалі чупрыны... Наталка прасіла аддаць ёй, калі гэта здарыцца... Здарылася. Сёння зноў сустрэне мяне, як выйду са шпіталя, і будзе прасіць: паратуйце! Салгаць не змагу. Наталку таксама трэба абследаваць... Хапанула і яна.

Рыгор ляжаў, адвярнуўшыся тварам да сцяны, лысая, з пацямнелаю скураю галава ўціснулася ў падушку, шыя зморшчылася і пакрылася плямамі. Не паварочваючы вачэй, ён паціху падняў правую руку, расціснуў кулак, і з яго высыпаліся яго кучаравыя валасы, упалі на голую галаву і скаціліся на падушку.

— Не муч сябе гэтым, Грыша. Вунь Сашка ўсё жыццё, лічы, без чуба, і — нічога. Любіла і люблю. Твая Наталка ўчора сказала: калі я адагнала ад яго зграю сваіх саперніц, то адвяду і белакроўе. Зараз прыляціць Фёдар. Аперыраваць цябе буду сама. Будзе прысутнічаць славуты амерыканскі хірург. Так што выскачым, Грышачка. А чуб мужчыну лішняя раскоша, толькі марока з ім. Яшчэ вяселле тваё адгуляем...

— А чаму не прыедзе Мікола? Чаму ты мне нічога не кажаш пра Міколу?

— Эвакуіраваны яны ўсе. З горада, з раёна. Сашка ўчора лётаў туды, быў у Гарадзішчах — усіх вывезлі ў бяспечнае месца. Пачаліся работы па ліквідацыі вынікаў аварыі. Уся краіна паднялася. Відаць, Мікола там. Саш-

ка і Наталля рвуцца да цябе, але ж ты ведаеш — нельга. Ніводзін староннi чалавек не пераступіў парога нашага шпіталя.

Рыгор слабою рукой перабірае свае апалыя валасы на падушцы, складае іх у купку. Павольна павярнуў твар — ён увесь стаў зямлісты, пад вачыма чорныя кругі і глыбокія ўпадзіны, заламаныя над пераноссем маршчакі.

Прачыніліся дзверы бокса: малады асістэнт клікаў Вольгу.

— Мы яшчэ збяромся ў Гарадзішчах, яшчэ дамо жару на тваім вяселлі...

— Вольга! Калі я выжыву, дзеці ў мяне будуць? Не мані, я вытрываю...

— Прабач, мяне кліча галоўны. Відаць, амерыканец прыехаў. Той, што жартуе: атамны век — гэта век вялікіх сем'яў, каб было ў каго браць косны мозг, інакш не выжывем. Я зараз вярнуся, Грыша... Я мігам...

## *104*

«Цяперака хай выганяюць мяне з Гарадзішчаў ці вывозяць. Усё роўна,— падумала Марыя, калі аддала Маўры паўвядра апошняй, набранай яшчэ Фёдарам вады, але карова не напілася.— Лічы, на вадзе жывём, а ад прагі паміраць будзем». Хацела абмыць распухлае Маўрына вымя, у якім запяклося малако і кроў на драпінах (колькі ж ты ішла, Маўрачка, лясамі і нетрамі, што не перанялі цябе, не злавілі?), а вады няма, студню Фёдар забіў, як дамавіну. Бок у Маўры абадраны, трэба было б на добры толк адпарыць, а тут напаіць няма чым. Дажыліся: лічылі ваду ворагам, а цяпер смага дakанае...

Марыя ўспомніла, што ў склепе ёсць бярозавы сок, Фёдар нанасіў у сакавіку з лесу. Падагрэла яго, распарыла Маўры вымя. «Сок чысты, не заражаны, Фёдар спускаў да аварыі, не бойся, Маўрачка, цярпі. Цяперака ўсім цяжка: і людзям і скаціне. Усім, хто мае душу, баліць...»

Лёгенька дакранулася да цвёрдых Маўрыных саскоў, гладзіла іх, прамацвала, размінала, карова азіралася на яе, тыцкала губамі ў плячук, уздыхала і паціху стагнала. Першае малако было з крывёю, потым пырснулі малінавыя струменьчыкі ў даёнку, праз нейкі час белыя, але пена паднімалася бледна-вішнёвая, густая, бурбалкі не лопаліся, а, акругляючыся ў шарыкі, вывальваліся з даёнкі.

Пажадліва прынюхваецца да малочнага паху Пушок на парозе ў хляве, белы, увесь у дзядоўніку хвост яго сагнуўся да зямлі, стаў як тычка.

— Не падлізвайся, не дам. Хіба я ведаю, дзе Маўра пасвілася? Наталля сказала, што малако цяпер атручанае. Не прасі мяне, не дам і сама піць не буду.

Марыя ідзе з вядром на загуменне, вылівае малако на кусты чарнобылю. Зяляніна адразу становіцца белая, а тады сівее на вачах, бо галінкі і лісце ўкрываюцца серабрыстай плеўкай. Малако сцякае па стаўбурах на зямлю, збіраецца ў выемку, якая напаўняецца да краёў. Ужо не малако, а рудая сукравіца цячэ далей, пакідаючы тлусты ржавы след. Пушок нюхае яго і глядзіць на Марыю. Пацякло ажно пад старую яблыню, пад яе падрапаны, пабелены вапнаю камель.

«Нават калі ўсе нашы Маўры пасвіліся на палыне, то ўсё адно было малако. Крывіліся, але пілі. І сілы прыбывала. А цяпер атрута...»

Яна здымае са сцяны фотакарткі свайго роду, дастае іх з рамак і складае на стол. Дзеці ўсміхаюцца ёй, прытворна сур'ёзнеюць, бесклапотна пазіруюць, хлопцы паказваюць сілу і дзёрзкасць, Адарка — ціхую пакорлівасць. Усе яны перад ёю маладыя і прыгожыя, яшчэ не пацёртыя жыццём і часам, нагадваюць Марыі пра тое, што і яна ж не вечна была бабаю, бо ўсе яны з яе маладой крыві.

— Што будзе з табою, мой родзе? Разарвала, раскідала цябе, усё роўна як вялікую вайну пераЖылі. З забітымі, параненымі, прапаўшымі без вестак. І без зямлі засталіся, быццам прайгралі гэтую вайну. Злыя языкі кажуць, што і Сашку могуць пасадзіць, зняць яго з Героя. Няўжо толькі Федзька застанецца, бо ўсе яны былі т а м... Няўжо толькі Федзя? Ён не зможа расказаць нікому, хто мы такія, Міровічы. Якія? Як жылі?

Завязвае фотакарткі ў белую простую хусцінку, пустыя рамкі вешае на месца і доўга сядзіць пад імі, заплюшчыўшы вочы і пагойдваючыся перад пагаслаю свечкаю, што засталася на стале з памінак.

— Цяпер магу ісці. Цяпер я патрэбна ў Княжым Любечы. Тутака ўжо няма жыцця. Ні мне, ні Маўры, ні Пушку. Там хоць пахаваюць па-людску... Трэба ісці. Маўра звіхнула нагу, але трэба, бо тутака ўжо ні травы, ні вады.

Яна яшчэ раз перабрала фотакарткі, знайшла адну вялікую, на якой — уся радня каля хаты (на Іванава пяці-

дзесяцігоддзе прыехаў нават Сашка з Масквы), і выставіла яе ў акно з хаты — няхай выглядае на вуліцу.

Узяла з куфра адзежу, прыгатаваную сабе на пахаванне, запхнула яе ў поліэтыленавы мяшэчак, укінула туды вузельчык з фотакарткамі і выйшла з хаты. Замкнула яе, паклала ключ на слупок, накрыла даёнкаю. «Каб не шукаць потым, як вернемся, не забудуся — усё жыццё там хавала».

Вырвала кусцік чарнобылю, таксама ўкінула яго ў мяшэчак. Прывязала Маўры вяроўку на рогі, пакінула хлеў адчынены, каб куры ад лісіц хаваліся і яйкі неслі на абед, як вернемся...

Моцна заматала сабе на руку другі канец вяроўкі, пачапіла Маўры на рог мяшэчак і смела, ужо не баючыся нікога і не крадучыся, пайшла ў бок рэчкі. Маўра накульгвае, але пляцецца за гаспадыняй. Пушок тройчы абабег хату, удыхнуў паху роднага дворышча і пабег за імі.

Маўра парываецца напіцца вады з рэчкі, але Марыя трымае яе за рогі.

— Не дуры! Нельга, Маўрачка! Гэта ўжо не тая вада. Думаеш, я б не напілася яе сама цяпер? Пацярпі. Пераплывём, і напаю цябе з першай чыстай студні...

Марыя заходзіць да шыі ў ваду, Маўра ўпіраецца, але яе цягнуць штосілы. Нервуецца, грабе пясок і хрыпла брэша Пушок, але ўбачыўшы, што Марыя з Маўрай паплылі ўжо, кідаецца ў рэчку.

Яна вырасла каля рэчкі, умела плаваць з дзяцінства, але набрынялая адзежа цягнула яе ўніз, рукі нямелі, часта сёрбала ваду, захлыналася ёю, таму ўхапілася за Маўрын рог, і карова не адштурхнула яе, не скінула ў ваду.

Голая, белая, быццам аблітая Маўрыным малаком, галава жанчыны плыла побач з каровінай галавою, рогі тырчалі, як дзве антэны, мяшэчак скакаў на хвалях і пабліскваў, нібы луска велізарнай рыбіны, што несла на сабе жанчыну і карову да супрацьлеглага берага.

Плынь зносіць іх, яны ўжо не супраціўляюцца вадзе, цяжка сапе Маўра, вольнаю рукою Марыя ловіць за поўсць Пушка, і ён малоціць лапамі на ўсю моц, каб не патануць.

Рэчка вынесла іх на вузкую пясчаную касу, і яны паваліліся на мелізне. Маўра піла ваду, і Марыя ўжо не забараняла ёй, ляжала, паклаўшы мокрую галаву на жоўты пясок, цела было ў вадзе, у цёплай вадзе, што ціха тулілася да ног і рук, быццам толькі што народжанае цялят-

7*

ка аблізвала яе. Пушок вытрасаў з поўсці ваду, пырскаў Марыі ў твар, але яна не гневалася — ратавальнічак, і не кінуў таксама мяне...

### *105*

На досвітку, пакуль спалі дзеці на старых куфайках, пасланых на падлозе і засланых старымі, мытымі-перамытымі прасцірадламі, Алеся правяла Сафію Паліводу да царквы-клуба, дзе на аўтобусны прыпынак указваў дашак на чатырох бетаніраваных слупках і раскіданыя навокал акуркі. Грошы на аўтобусны білет Сафіі Алеся пазычыла ў жанчыны з медпункта. Ледзьве ўгаварыла Паліводу не браць з сабою дзяцей. «Прыгляну за імі, Сафія, а вы паедзьце, атрымаеце грашовую дапамогу. Гарадскім выдаюць у Івангорадзе, возьмеце і на цётку Адарку, і па дзяцей, і на мяне. Вось даверанасць, заверылі ў сельсавеце. Даведаецеся пра навіны. Спытаецеся ў эвакаштабе пра маму, адрас наш пакіньце. І — вельмі вас прашу — пра Рамана Цвігуна, я запісала вам прозвішча. А за дзяцей не перажывайце, спраўлюся...»

Дзеці спалі і тады, калі Алеся вярнулася. Няхай спяць — менш клопату, бо як прачнуцца — ці ўгледзіш за ўсімі? Стала гатаваць ім снеданне ў альтанцы, дзе паставілі газавую пліту, выдзеленую калгасам на іхнюю найбольшую сярод эвакуіраваных сям'ю.

Гаспадар з жонкаю ўкладаюць у багажнік машыны скрынкі з свежымі памідорамі.

— Спытаеш Кульчыцкага. Ён і месца дасць, і даведку пра дазіметрычныя аналізы зробіць, але ўсялякае можа быць, кватаранты ж а д т у л ь. Вось гэту скрынку Кульчыцкаму дасі, калі... пакруціцца з аналізамі...

— Ды не вучы вучонага. Удваіх спадручней, але ж небяспечна пакідаць хату і цяпліцы на гэту саранчу. Думалі шпалеры клеіць, падлогу перафарбоўваць... Чорт яго ведае, калі выберуцца?

Алеся пачула гэту размову, і старая бульбіна, якую яна абірала, выпала ў яе з рук і пакацілася па цэментавай дарожцы ажно да сабачай будкі.

Паднялася ў пакой на другі паверх, стала збіраць пажыткі, якія змясціліся ў стары бабулін чамадан, збіты з фанеры. Будзіла дзяцей:

— Ой, гусі-лебедзі! Дам вам есці, дам вам піць...

## 106

Фёдарава рука ссунулася з аперацыйнай каталкі і павісла над падлогаю. Вольга глядзела, як пад маладою, пажаночы пяшчотнаю хлопцаваю скураю пульсуе вена. Доўгія пальцы з цвёрдымі, выпуклымі пазногцямі шчодра «цвілі» белымі плямкамі. Як у Сашкі, далібог, як у майго Сашкі.

Рыгору не давалі наркозу, баяліся, ці вытрывае, ці прачнецца. Ён ляжаў на каталцы побач з Фёдарам, ляжаў нерухома, заплюшчыўшы вочы, скура на гарбінцы носа напнулася і бялела, як маленькая зорачка. Асістэнты не адводзілі вачэй ад датчыкаў апарата, што пераганяў і ачышчаў кроў.

Доктар-амерыканец сцягвае гумовыя пальчаткі, мые рукі пад кранам.

— На дадзеным этапе можна ўмываць рукі. Я забабонны, але пакуль што, пакуль што... можна. Давайце не будзем пудзіць капрызную долю гэтага адчайнага хлопца, над якім прырода патрудзілася ўволю.

Пальцы ў Фёдара заварушыліся, быццам шукалі нечага, што згубіў ён толькі што. «Сашкава рука ў маладосці. Вось так, прачынаючыся, яна шукала мяне. Я любіла гэта назіраць кожнае раніцы. Нават наўмысна ўставала раней, каб паназіраць...»

Заварушылася ўся рука, сагнулася ў локці і павольна зашарыла пальцамі ў паветры. Дацягнулася да Рыгоравай каталкі, прамацвае яе акруглы выступ, дакранаецца да выцягнутай уздоўж цела правай братавай рукі. Рыгорава рука слаба адклікаецца на гэты дотык, ажыла, заварушыла пяцярнёю.

Амерыканец стаяў з намыленымі рукамі, па прафесійнай звычцы паднятымі ўверх, на яго застылым твары засвяцілася ледзь улоўная цікавасць.

Фёдар намацаў Рыгоравы пальцы, лёгенька сціснуў іх у сваім кулаку.

— Гэта адзіны выхад, калега! Іншага ў чалавецтва няма. Гэта і лекі, і выхад. Іншых варыянтаў я не ведаю, шаноўная пані Міровіч...

## 107

— Яшчэ крышку, Маўрачка, вунь там, за лесам, адчуваю, ужо будуць людзі. Нам бы толькі туды. Не зляж, бо

я цябе не панясу. Схуднела ты, але не панясу,— гаварыла Марыя, цягнучы за вяроўку Маўру.

Яны ішлі ўвесь дзень, сонца ўжо завісла над вяршынямі соснаў. Відаць, заблудзіліся, бо здавалася, што адолелі бязлюдную планету, чужую і пакінутую (аслупянела стаялі ў палях бульбасаджалкі, сеялкі, трактары, на якіх густа сядзела вараннё), спыняліся адпачыць, Марыя здойвала Маўру, і малако цякло па зямлі, і Пушок хлябтаў яго, Марыя не адганяла, бо ён прабег двойчы больш за іх з Маўраю — увесь час вырываўся ўперад, прынюхваўся да паветра, нібы адшукваў чалавечы пах на гэтым свеце, і вядзе іх, вядзе, як сляпых.

— Не ўпірайся. Лёгенька ступай на балючую нагу, бо я нічым табе не памагу. Ужо недалёка. Нам бы да першага жывога сяла. Не, я цябе не пакіну. Ні ваўкам, ні радыяцыі. Трэба ісці. Нюхай, нюхай, сабачка, і запамінай дарогу назад. Як будзем вяртацца — я Маўру на машыну не аддам, нагамі пойдзем...

Пушок вывеў іх з лесу, заскуголіў, лёг на жывот і, качаючыся з боку на бок, папоўз да Марыі. Яна хацела адпіхнуць яго нагою, каб не наступіла Маўра, але ён не баяўся, таму вымушана была спыніцца. Узняла вочы, паправіла збітыя на лоб валасы.

Мана? Праўда?

Людзі на гародах... Бусел на сухім явары каля крайняй хаты... Дух баршчу і хлеба... Шызы дымок над комінам. Касец кладзе ў пракосы траву, на сядле яго матацыкла дрэмле кот, белы, на жываце палатаны чорным... Поўзае трактарчык па ўзгорку, пастрэльваючы роўнымі колцамі дыму... Пабеленыя дрэвы ў садах стаяць, як школьніцы ў белых панчошках... «Якое ўсё роднае тутака! Не верыла, што вочы мае ўбачаць такое. Людзі жывуць...»

Хацела закрычаць, але перасохлае горла не паслухалася яе, ціха прахрыпела і заціхла. Крайняя хата глядзела на яе сваімі вокнамі, на шыбах якіх іграла вячэрняе сонца, і Марыя зноў пацягнула Маўру за сабою, баючыся выпусціць з вачэй тое ціхае ззянне на шыбах.

У двары выпражаны конь жуе свежую траву з воза, пафырквае і адмахваецца хвастом ад камароў. Студня з прычыненым вечкам, але не забітым наглуха. Поўнае вядро вады на вочапе, пад дашкам. Пацягнуліся да вады Ма-

рыя і Маўра. Марыя ўступіла месца карове. Выцягнула, цяжка налягаючы на корбу, яшчэ адно вядро.

— Годзе, годзе, Маўра, запаленне схопіш.

Прагна піла сама, адчуваючы, як разыходзіцца сухая смага ў горле, як прахалодная сіла ўліваецца ў яе. Заплюшчыла вочы, каб не бачыць старэчай змучанай бабы з ускудлачаным сівым валоссем на галаве, бабы, якая глядзела на яе з вядра.

Яна ўжо не змагла адысці ад студні. Убачыла, як Маўра, валочачы нагу, дашкандыбала да воза, уткнулася ў яго губамі. Конь незадаволена скасіў вока, але адступіўся крыху і зноў жаваў траву, смецячы ёю пад колы.

Марыя апусцілася на лавачку пад бетонным кругам студні, прытулілася да яго спіною. Жвакуе Маўра, прытуліўся да ног Пушок... Я дома...

Яна задрамала, бо не пачула, як зайшоў на дворышча з агарода худы, загарэлы на раннім сонцы мужчына з сярпом у руцэ і з ахапкам травы трусам.

«Вось чаго кот мыўся, госці прыбылі»,— падумаў мужчына, укінуўшы галодным, ненажэрным трусам зяленіва і выціраючы даланёю мокры ад поту абадок злінялага шавіётавага картуза.

— Мікола... Міколка...— ціха пазвала баба, што драмала каля студні. Ён міжволі здрыгануўся, пачуўшы сваё імя з вуснаў гэтай незнаёмай жанчыны-здані.

— Вось дзе я. Тутака! Хадзіў на поле па канюшыну трусам... Такія ненажэрныя, што страх.

Марыя ад ягонага голасу прачнулася.

«Дзе я? Ці жывая яшчэ? Маўра жуе сена з воза... Пушок каля ног... Жывая!»

— Заходзьце ў хату. Незамкнёная... Нешта не магу ўспомніць вас, цётачка... Шкада, гаспадыні маёй няма — павезла дзяцей у раён, у лагеры, на поўдзень павязуць іх. Няма чым гатовенькім і накарміць вас з дарогі. Калі б была мая маладзіца, ужо ж прышчэла б на патэльні. То вы самі прыгатуйце, бо я толькі яечню ўмею смажыць, дый то перасалю. Бачу, што вы а д т у л ь... Можа, маму маю знаді? Няма ўжо, у студзені пахавалі нябожчыцу. Пагаспадарце, бо я павінен людзям свежай вады на поле завезці. Гэта праўда, што т у д ы прывезлі тры робаты з Японіі, дык адзін згарэў, другі запіпікаў і спыніўся, а трэці ўцёк назад у Японію? Як будзем без дзетак цалюткае лета — уявіць не магу. І двор, і вёска без дзяцей — страшна...

## 108

Дзеці не могуць нацешыцца з новае хаты, куды прыняла іх цётка Алеся. Крыкнеш, а яно доўга паўтараецца пад купалам, быццам перадражнівае нехта, схаваўшыся высока-высока. І ёсць дзе гуляць — вунь якое дворышча каля клуба, і гаспадара не трэба баяцца — няма яго тут, бо гэта клуб, каб прыходзілі людзі.

Старшыні калгаса Алеся нічога не тлумачыла.

— Трэба быць каля тэлефона, могуць званіць з Масквы. Пажывём у клубе, усё роўна пустуе пакой вясковага музея, не да экскурсій цяпер. І дзяцей дагледжу, і дзяжурыць буду ў медпункце...

А дзецям строга наказала:

— Калі хто возьме ў рукі хоць адзін экспанат — вернемся на старую кватэру.

Вадзіцель «хуткай дапамогі», прымацаваны да медпункта (прыехаў машынаю ажно з Таліна, па некалькі разоў на дзень укідае ў паштовую скрынку лісты), дапамог унесці ў вялікі музейны пакой жалезныя механізатарскія ложкі, расставіць іх у рад пад сцяною, як у студэнцкім інтэрнаце.

Вясковы краязнаўчы музей павінны былі адкрываць на дзевятага мая, яшчэ не ўсе экспанаты расставілі на месца, ды аварыя шмат што перайначыла, што ўжо казаць пра такія драбніцы... На сцяне вісіць і вялікая, перамаляваная мастаком карта княстваў Кіеўскай Русі, дзе тлустым, адразу кідаецца ў вочы, кружком пазначана вёска Княжы Любеч, і фотапартрэты сельскіх рэвалюцыянераў, камнезамаўцаў, яшчэ адна карта, дзе паказаны рух франтоў і армій, якія ідуць вызваляць Княжы Любеч ад фашысцкай навалы. На другой сцяне — графік росту пагалоўя буйной рагатай жывёлы і павышэння ўраджаяў у мясцовым калгасе. На стэндах, пад шклом, мандат даяркі, якая была дэлегатам Усесаюзнага партыйнага з'езда, акт на права калгаса карыстацца зямлёю. Адзежа будзёнаўца, акуратна зашытая дзірачка на грудзях гімнасцёркі. Надтрэснутая каска нашага салдата часу Вялікай Айчыннай вайны...

Ды большасць экспанатаў яшчэ не выстаўлены, яны абы-як скіданы ў закутак музейнага пакоя, стаяць на падаконніках, ляжаць на падлозе, раскладзены на вялікім стале.

Кажуць, мясцовы настаўнік гісторыі, выйшаўшы на пенсію, усе свае зберажэнні ўклаў у гэты музейчык, вы-

жаброўваў экспанаты ў Кіеве, у Маскве, у Пераяславе, збіраў па людзях. «Што можа адзін-адзіны чалавек...— надумала Алеся, аглядаючы ўсё гэта дабро, сярод якога былі і мамантавы біўні, і каменная сякера, і самаробны макет атамнага ядра і сонечнай сістэмы.— Гэта ж столькі пражыта людзьмі. І кожны некага кахаў...»

— Я прынясу вады са студні, памыеце ногі і — спаць. Толькі нічога не чапайце, бо... ужо сказала...

Ды як толькі яна выйшла за дзверы, дзятва дружна кінулася да экспанатаў: ну хоць памацаць рукамі, хоць дакрануцца! Тарасік спачатку накрычаў на малодшых, але самому хацелася нясцерпна залегчы за кулямёт, уздзяберыўшы салдацкую каску. Гэта ж табе не ў кіно ўбачыць, не на малюнку. Калі яшчэ будзе такая магчымасць? Толькі адну хвілінку, Алеся і не будзе ведаць.

Тарасіку можна, а я таксама... без таты! — Змітрык узяў у рукі цяжкі, паточаны ржою меч, уздзеў на галаву касманаўцкі скафандр.

Ніна раскручвала вялікі школьны глобус, ён паскрыпваў, мігацеў стракатымі мацерыкамі, морамі і акіянамі, на галаве ў яе ўзвышалася лёгкая, з пап'е-машэ княская карона, босыя ногі стаялі ў драўляных хадаках. Глобус раскручваецца і раскручваецца, ператвараючыся ў суцэльны мігатлівы шар, на якім ужо не адрозніць ні граніц, ні дзяржаў, ні колераў.

Руслан шукае, што б узяць яму, самае цікавае расхапалі старэйшыя. Іржавая кальчуга княскага грыдня прыгнула яго да падлогі. Ну яе... Надзеў будзёнаўку і заціснуў у руцэ казацкі пістоль, цэліцца ў запаленую электрычную лямпачку над галавою.

Лідзе дасталіся нязграбны макет атамнага ядра і каменная сякера з новым тапарышчам. Ці таму, што ёй трапіліся найнецікавыя цацкі, ці таму, што яна ўспомніла пра папярэджанне цёткі Алесі, яна ціхенька заплакала.

Тарасік устаў з-за кулямёта, каб патрымаць у руках дзіду, што стаяла ў кутку. Ён узяў яе, падняў рукамі ўгору і ненарокам разбіў металічным вастрыём адзіную лямпачку пад столлю.

Настала жудасная цемра, пасыпалася гарачае шкло на іхнія галовы. Дзеці не бачылі адно аднаго, ім стала страшна і адзінока ў нямой, беспрасветнай цемры.

І яны заплакалі ўсе адразу ад страху, адзіноты, роспачы. Заплакалі з такім жалобным адчаем, на які здатныя толькі дзеці сярод ночы, калі побач няма дарослых, калі

няма каго паклікаць і няма каму паскардзіцца. Яны пакарысталіся бязмежнай свабодай і пакараны за гэта.

Іхні плач біўся пад купаламі старой царквы, адгукаўся, множыўся, але тоўстыя старыя сцены не выпускалі яго ў свет.

Яны плакалі да знямогі, баючыся ступіць і крок, сталі —

у касмічным скафандры,

у салдацкай касцы,

у княскай кароне,

з каменнаю сякерай у руках.

Яшчэ круціўся школьны глобус, усё цішэй і цішэй паскрыпваючы. Яшчэ круціўся...

## *109*

Гэты плач пачула Марыя Міровіч, ідучы за возам, на якім Мікола вёз Маўру ў Княжы Любеч, бо нага ў каровы распухла. Пушок бег далёка спераду, белы хвост яго гайдаўся, як полымя свечкі.

Ужо віднеліся на ўзгорку агні Княжага Любеча. Марыя адстала ад воза, спынілася перавесці дых. Убачыла над галавою лёткую мігатлівую зорку, што не падала, а ляцела ў вышыні і свіцілася. Блізка і далёка ў адзін і той жа час.

І тады яна пачула дзіцячы плач. Ён ударыў яе, штурхнуў уперад.

— Я тутачкі. Жывая! Пацярпіце. І супакою, і прыгалублю. І — усыплю як след. А тады пашкадую зноў...

*Чарнобыль — Кіеў,*
*1986—1987*

# ВЕЧНЫЯ КАРТЭЛІСЫ

**АПОВЕСЦЬ**

Маёр Голінг любіў сваё цела. Ён ведаў, што любоў гэтая міне, як і ўсё на свеце: як гэтая сухая прыкрая восень з яе ўедлівым дробным пылам, што набіваецца ў лёгкія, у вочы, вушы і нават у страўнік, як гэтая, апошняя на свеце, вайна за панаванне тысячагадовага рэйха, у якой яму выпала шчасце ўзяць удзел. Заўжды дробязі (накшталт пясчынкі, што скрыгатнула цяпер на яго камлюкаватых, густа ўсаджаных у вішнёвыя дзясны пярэдніх зубах) — так, праўда, менавіта дробязі столькі стагоддзяў не давалі арыйцам выканаць сваю місію на гэтай бязладнай планеце. Некаторыя цельпукі, у чые артэрыі выпадкова трапіла чыстая і звонкая арыйская кроў, пасля папярэдняй сусветнай вайны сталі думаць, што місія нашай нацыі нязбытная. Дзе вы цяпер, духоўныя рахітыкі? Дзе? Ваюеце! Ды яшчэ як ваюеце, спрытней за нас, стараверaў, баіцеся, каб вас не западозрылі ў колішніх сумненнях. Старайцеся, старайцеся, пасля разбяромся.

Калі б на долю іншай нацыі выпала столькі выпрабаванняў і паражэнняў — дзе б яна была? Распарушылася б, як гэты трыклятыы, бясплодны пясок валынскага Палесся. «Хто былі немцы?» — пытаўся б ратнаўскі гнілазубы настаўнік Данілавіч у нейкага смаркатага неданоска. І малое цікавала б з-пад ілба, настаўляла б вушы, каб пачуць падказку з першай парты: «Ваяўнічае племя... паўтарыла гісторыю татара-манголаў... дзікіх ордаў. Апошні ўспамін пра яго ў ...ым стагоддзі».

Юрген Голінг ажно спалохаўся гэтай думкі, яна смяротным халадком сашчаміла яму скроні. Ён паспешліва злавіў языком пясчынку, што скрыгатала на зубах, і гідліва сплюнуў яе на чыстую (учора гаспадарова дзеўка памыла, ды яшчэ з ядавітым салдацкім мылам) падлогу. Нават з папрокам зірнуў на свой адбітак у люстэрку і пагразіў яму пальцам.

Дзе былі б цяпер арыйцы, калі б сама прырода не надзяліла іх здольнасцю штораз самаадраджацца і самаўзнаўляцца? Вось і цяпер нацыя вынасіла ў сабе унікальны маналіт на імені Гітлер. У першую сусветную ён быў бы проста нацыянальным рамантыкам, зацёртым у дзеншчыкі або конюхі. Але цяпер, калі гадзіннік гісторыі выбіў «арыйскі час», доля ўзняла над ім вешчы знак!

Голінг некалькі разоў парывіста прысеў (аж хруснула ў каленях) і зноў пачаў разглядаць сваё цела.

Ён такі любіў яго. Можа, таму, што ведаў: гадоў праз дзесяць гэтая пругкая, эластычная скура, гэтая ігра дужых, тугіх мужчынскіх цягліц, лёгкі, бязгучны подых, якім упіваюцца яго прагныя лёгкія, гэтая раўнюткая, з ледзь прыкметным горбікам адамавага яблыка шыя, гэты цвёрды, нават крыху запалы жывот, які ён без асаблівых намаганняў мог уцягнуць так, што грудная клетка навісала над ім, быццам крутая скала над горным возерам,— усё гэта бязлітасна звяне, спрацуецца і пачне існаваць не для цябе, а ты будзеш жыць дзеля таго, каб даць яму рады. І нічым не спыніш гэтага фатальнага працэсу. Бо ўсё мінае.

Адчуванне хуткаплыннасці хвілін, дзён, месяцаў, пораў года, маладосці, уцех, любові, усяго чалавечага жыцця чым далей, усё часцей чамусьці прыходзіла да саракаадпагадовага паліцэйскага маёра нямецкай арміі Юргена Голінга. Спачатку яно страшыла яго, ён з агідай выціскаў прэч з сэрца ненавісную, удушлівую сентыментальнасць, баючыся, каб ніхто з падначаленых не заспеў яго ў гэтым бязвольным стане, які пасуе хіба што старэйшай баўэравай дачцэ-пярэрастку, калі сватаюць яе меншую сястру. Спачатку гэтае адчуванне такі палохала яго, і ён старанна шукаў нагоды, каб адасобіцца, утапіць настрой у чарцы добрага румынскага каньяку, але з таго часу, як ён асеў у гэтых бандыцкіх, нейкіх дзікіх землях — сапраўды дзікаватых, бо ні ў адной вясковай хаце не сустракаў ванны або цёплага клазета, толькі сядзе сонца — і ўжо ўсё паглынуў пячорны морак без электрыкі,— гэтае адчуванне хуткаплыннасці ўсяго на свеце нават радавала яго. Ён навучыўся цярпліва чакаць яго. Тады сядаў за красамоўныя, прачулыя лісты да сваёй — дзякаваць богу! — ізноў цяжарнай Крысціны (студзеньскі водпуск, атрыманы ад камандавання за знішчэнне партызанскай банды ў Пінскіх лясах, увянчаецца яшчэ адной галінкай на дрэве роду Голінгаў), да аўдавелай у 39-м (клятая Польшча!) сястры

Зіты, да ціхага набожнага бацечкі Вальтэра, вядомага ў Штутгарце гадзіншчыка, які хоць і казаў некалі, што не патыкаецца ў палітыку, а між тым направленыя ім гадзіннікі паказваюць час новай гісторыі рэйха. Калі гэтага настрою хапала надоўга — ён пісаў лісты ўсім сваім пецярым дзецям, хоць прачытаць напісанае мог толькі самы старэйшы — Карл, астатнія падрастуць, прачытаюць і яшчэ лепш зразумеюць свайго тату. Пісаў ён нават вечна насупленай, крыклівай мачасе Клары. Здаралася, што ён адоўга не пасылаў тых пісем, бо любіў чытаць іх сам. Аддаваў палкавому паштальёну толькі тады, калі яны абрыдалі яму або ён ведаў іх на памяць.

Праўда, усё сплыве вадою, усё часовае на гэтай зямлі, усё парасклёўваюць гадзіны, месяцы, гады. Усё, акрамя вялікай і канчатковай перамогі арыйцаў. Яна будзе вечная толькі тады, калі кожны сапраўдны немец фатэрлянда зразумее гістарычную місію свайго народа, аддасць сябе перамозе і... народзіць шмат дзяцей.

Ён адарваў лісток перакіднога афіцэрскага календара, з якога штодня цікавала хцівым вокам штораз іншая голая жанчына.

## *28 верасня 1942 года*

Праз колькі дзён Крысціна павінна нарадзіць. Так, якраз мінае дзевяты месяц, як ён быў у водпуску. От ужо паласаваўся цывілізацыяй: па некалькі разоў прымаў пахучыя ванны, хадзіў да масажыста, які прамацае і праціскае кожную костачку і ўвалье ў цябе столькі сілы, што нават ненасытная шэльма Крысціна сярод ночы ўцячэ ў дзіцячы пакой і зняможана засне, сцяўшыся ў Эміным ложачку. Пераканаўшыся, што яе не разбудзіш нават і запусціўшы «Юнкерс», ён крадком прачыняў дзверы ў пакой братавай Эрыкі. Праўда, ацеслівая яна нейкая і млявая — для кволага інтэлігенціка, а не для салдата з фронту. Шчасце брата Ота, бадай, у тым, што ён не знаў іншых жанчын; нічога, француженкі ў акупіраваным Парыжы яго навучаць. А ўсё ж такі — немка, хай Ота даруе. Свае, пасля перамогі разбяромся, калі будзе патрэба...

Ён пагладзіў сваё цела, выціснуў маленькі прышчык у ямцы паміж грудзей, падміргнуў сабе ў люстэрку і стаў хутка адзявацца.

Няхай паспрабуе цяпер Маер, гэты безгаловы лантух з

салам, гэтая пузатая бочка са смуродным кайзераўскім духам (аж нудзіць, калі ён дыхне табе ў твар: ці то дзіркі ў зубах баіцца залатаць, ці то страўнік не варыць? Бадай што страўнік, бо ці ж можнаператравіць усё тое, што паглынае гэты вусень?), хай паспрабуе гэтая гара мяса, накрытая зверху палкоўніцкімі пагонамі, не даць яму, Голінгу, водпуск да нованароджанага — цьфу, цьфу, каб не ўрачы! — сына. Хай паспрабуе гэтае скасмапалітызаванае ў акопах першай сусветнай пудзіла, якое лічыць сябе знаўцам Расіі, няхай паспрабуе замаўчаць яго аперацыю «Трохкутнік» і адбыць падзякай са свайго паганага рота. Няўжо там, наверсе, не разумеюць, што скончыўся не толькі перыяд жарцікаў з рускімі, украінцамі і беларусамі, а скончыўся цыкл такіх бяздарных акцёраў, як Маер, пад пагонамі палкоўніка паліцыі. За нерашучасць маераў мы ўжо ў тыле пачынаем плаціць жыццём нашых салдатаў і афіцэраў. Гэтая вайна не для старых педантычных ваякаў, якія млява падымаліся па сходках сваёй кар'еры, яе выйграюць маладыя рашучыя арыйцы, што выйшлі з нетраў простага люду, каб запаліць сваё імя ў гісторыі фатэрлянда, і для якіх найвышэйшае званне — належаць да найвышэйшай расы. Так што гэтая вайна для нас, для Голінгаў — сыноў гадзіншчыкаў, баўэраў, краўцоў і асенізатараў. Зрэшты, ёсць прыклад самога фюрэра...

Пра «Трохкутнік» Голінга вось-вось пачуюць у вермахце, і якраз тады, едучы ў Штутгарт да Крысціны, ён павінен спыніцца ў Берліне. Няхай тады гэтая старая руіна, што не паддаецца ўжо ніякай рэстаўрацыі, недарэка Маер, зразумее, што ён ужо паўарыец, якому наканавана падстаўляць гаршчочак пад азадак унукам і напаткаць ціхую старэчую смерць дома ў пярынах.

«Трохкутнік» ужо здзейснілі. Яго правялі бездакорна, у ім на ўсю моц выявіўся талент германцаў і няздарнасць тубыльцаў. І ўсё таму, што я, Голінг, уклаў у «Трохкутнік» свой розум і душу.

Юрген старанна прычасаўся, змёў шчотачкай некалькі русявых валасінак з пагонаў, прывычным рухам насадзіў на галаву фуражку, выцягнуўся ў струнку перад маёрам-двайнікам у люстры і падняў з рагатых рычагоў тэлефонную трубку:

— Звяжыце з Брэстам. Шэфа тапаграфічнай друкарні!

Неўзабаве адгукнуўся стомлены, з глухой шапялявінай голас:

— Тападрукарня. Шон слухае.

— Камандзір трэцяга батальёна пятнаццатага паліцэйскага палка Голінг! — У такіх выпадках Юрген не называў свайго звання. Няхай думаюць самі.

— Г-у-ут...— цягуча прамовіў Шон, відавочна, цягнуў час, каб удакладніць нешта ў сваіх паперах.— Пятнаццаты паліцэйскі... Голінг. Карта вашых раёнаў, маёр, ужо друкуецца. Сёння скончым.

— Вы скончыце яе заўтра.

— Палова тыражу гатовая. Так што сёння!

— Надрукаваныя карты нам ужо не патрэбныя. Запісвайце! Вёска Картэлісы і ўсе хутары навокал. Кар-тэ-лісы ў раёне Ратнага. Баркі, Забалоцце, Барысаўка ў раёне Малáрыты. Іх ужо няма. Нам трэба карты без іх. Вы зразумелі, Шон?

— А куды я дзену ўжо гатовыя карты?

— Спаліце.

— Што вы, такая папера...

— Такія былі вёскі... а мы — спалілі...— у тон яму прамовіў Голінг і палажыў трубку.

Упершыню за апошнія чатыры з паловай стагоддзі на зямлі няма Картэлісаў. Некалькі дзён таму былі, некалькі стагоддзяў таму — былі, а — няма... Толькі след ад іх. Гарачы. Вельмі гарачы. Што чарэнь — не даткнуцца.

Усе стварэнні, што палеглі ўжо былі на зімовую спячку — чорныя ад попелу, папечаныя,— распаўзаюцца з гэтага месца.

А можа, Картэлісаў і не было? Можа, выдумалі іх валынскія палешукі пад шолах аеру, пад восеньскае ўздыханне балотаў і думны гоман спрадвечнага лесу? Валыняк і здатныя на такое, бо ўмеюць бачыць далёкія светы скрозь крону дрэў, якія іх кормяць, грэюць і аберагаюць ад неспадзяванае навалы, бо лес чужынца не любіць.

Можа, і сапраўды выдумалі? І маёр паліцыі Голінг сваім арыйскім рэалізмам, звыклы да абсалютнай дакладнасці, можа, проста зруйнаваў іхнюю выдумку сваім «Трохкутнікам»? За пяць дзён. Тое, што існавала пяць стагоддзяў, знішчана за пяць дзён. Вёска? Ці выдумка?

### *За дзень да «чорнае серады»*

Ужо другі год, як вёску акупіравалі фашысты. Ужо яна выправіла ў лес свой партызанскі атрад, ужо былі яе першыя трагедыі, але... яшчэ 22 верасня 1942 года тут

смяяліся дзеці, кахаліся хлопцы з дзяўчатамі, жанчыны мылі бялізну ў сажалках, варылі баршчы, церлі каноплі, сварыліся са сваімі мужыкамі і ціха любілі іх, латалі падраную недзе на выгане дзіцячую адзежынку; мужчыны, што не пайшлі яшчэ ў партызаны, няспешна капалі бульбу, рыхтавалі галлё на зіму, выносілі сена з балаціны, па грудзі гразнучы ў дрыгве, накрывалі чаротам стрэхі, бабы няньчылі ўнукаў, перабіраючы выкапаную бульбу, нібы свае гады; дзяды збіралі па садах апады, мацаючы, каторы мякчэйшы, каб зачапіцца за яго сцёртымі за доўгае жыццё зубамі. Усё гэта было 22 верасня 1942 года.

На маленькім, адваяваным у лесу лапіку зямлі жыццё сцвярджала сябе ў трох з паловай тысячах людзей, адны з якіх толькі што збіраліся жыць, іншыя — жылі штосілы, яшчэ іншыя — проста жылі сабе, ласуючыся старасцю, а сёй-той дажываў, з годнасцю пазіраючы то ў бок жыцця, то ў бок ціхай, прыроднай, як і нараджэнне, смерці.

Усё гэта было.

### *За ноч да «чорнае серады»*

Нават Голінг не пярэчыць.

На карце, часткова надрукаванай у Брэсце 27 верасня, Картэлісы яшчэ ёсць.

Вунь яны. Пачціва, каб не муляць вока, селі сабе ці не на найгоршым у тутэйшых землях месцы. На найгоршым, але надзейным. Бо спіною прытуліліся да лесу, з бакоў адгарадзіліся дрыгвой, пакінуўшы толькі пясчаную стужку пакручастай лясной дарогі, што звязвае іх з усім светам. Вёска на самым ускрайку Украіны, павярнулася тварам да Луцка і Кіева. Праз два кіламетры ўжо Беларусь. Да Брэста картэлісцам амаль утрая бліжэй, як да Луцка, але спрадвеку тут жылі палешукі-ўкраінцы, у мове якіх часта шапаціць лёгкае рэха гаворкі сяброў, а ў беларускіх Барках учуеш пявучую ўкраінскую скорагаворку.

На новай, выпушчанай ужо пасля званка Голінга карце на месцы Картэлісаў значыўся прагал. Шон, праўда, забыўся зняць пункцір лясной дарогі. Можа, не ведаў, як зрабіць. Дарога да Картэлісаў засталася.

І яны былі — Картэлісы.

Нават калі вёска праіснавала адзін дзень — яна ўжо мае сваю гісторыю і права называцца вёскай людзей.

А Картэлісы ў дакументах упамінаюцца ўжо ў пятнац-

цатым стагоддзі. І ўжо называюцца Картэлісамі, межавым сялом Ратнаўскага староства, што належала тады Літве. Заваёўнікаў, якія ішлі сюды з Еўропы, першыя сустракалі ратнікі з Картэлісаў.

Як і кожная вёска, якая шануе сваю памяць і верыць у заўтрашні дзень, Картэлісы маюць сваю легенду.

Нібыта волата-валыняка па мянушцы Корт ваявода Ратнага засудзіў на разарванне звяроў. Бяззбройнага Корта выгналі ў лясныя нетры. Праз колькі год ужо і забыліся пра яго. Але ніводзін звер не крануў гэтага чалавека. Наадварот — мядзведзі, ваўкі, лісіцы, буслы прыносілі яму харч, зімавалі з ім, грэючы Корта сваім цяплом.

А Корт быў незалежны ні ад кога, нават ад звяроў, бо дзяліўся з імі пароўну.

Потым нехта, заблукаўшы ў лесе, напаткаў Корта, пазнаў яго, пражыў у яго хаціне некалькі дзён і пайшоў дадому. А неўзабаве прыехаў сюды са шматдзетнай сям'ёю. Мясціну гэтую доўгі час называлі Кортаў лес. Праз колькі год у неба дыхалі каля двух дзесяткаў каміноў.

Гісторыя Картэлісаў пастаянна пераплятаецца з падзеямі гісторыі сусветнай.

1795 год. Трэці падзел Польшчы. Картэлісы ўжо ў складзе Расійскай імперыі разам з Заходняй Валынню.

Вось так і жылі некалькі стагоддзяў: падпільноўвалі рыбу ў затоках, звера, грыбы і ягады ў лесе, габлявалі драўніну на хату, на калыску, на дамавіну, на лыжку і крыж.

Здавалася б, характары картэлісцаў павінны былі б даўно прытупіцца, акругліцца ад аднастайнага клопату ў пошуках ежы ды ад глухой безнадзейнасці быцця.

Але варта было лістападаўскай ночы семнаццатага года новага стагоддзя пралунаць стрэлам неўскага крэйсера ў Петраградзе, як гэты покліч рэвалюцыі пачулі і тут. Вось факт: у гады грамадзянскай вайны ў Картэлісах быў створаны ўзброены рэвалюцыйны атрад пад камандаваннем Ф. П. Карнелюка і С. П. Дардзюка — двух непрыкметных вясковых дзядзькоў, у якіх не злядачала кроў прашчураў-ратнікаў.

І гэтым Картэлісы напомнілі: м ы  ё с ц ь!

А потым на іх навалілася акупацыя. Буржуазна-панскай Польшчы. І вёска, здавалася, правалілася ў летаргічны сон гісторыі. Дзіва, што па іх нават справіла «імшу» варшаўская газетка тых часоў:

«...Картэлісы жывуць у каменную эпоху. Няма ні баль-

ніцы, ні фельчара. Лечыць іх непісьменны знахар. Жывуць людзі ў курных хатках па васемнаццаць чалавек. Ураджаю хапае на два месяцы пасля жніва, а на працягу дзесяці месяцаў жывуць на поснай юшцы, няма масла, малака. Зямлю аруць сахою. Лічыць умеюць толькі да пяці. Ад гэтай карціны валасы на галаве становяцца дыбарам».

На шчасце, у Картэлісах не было каму прачытаць гэтую газетку. Дый — няма калі. Картэлісы жылі. Цяжка, аж да знямогі здабываючы хлеб надзённы, але нястомна тварылі сваю гісторыю ўжо ў новым стагоддзі. Няхай не гучную, але — сваю.

У 1935-м у Картэлісах ёсць свая ячэйка КПЗУ, а ў 1937-м — вялікая партыйная група, якую ўзначальваў А. Т. Пракапчук. Так што ў Картэлісах умеюць лічыць больш як да пяці: у групе КПЗУ семнаццаць членаў.

Цэлыя стагоддзі Картэлісы ішлі да ўз'яднання, да верасня 1939-га. Дзеля таго і жылі, бераглі сваю мову і звычаі, дзеля гэтага і душу сваю бераглі, велічную мужнасць прашчураў-ратнікаў і ўчарашніх камуністаў-падпольшчыкаў, і памяць і веру сваю бераглі.

Адразу ж ствараюцца органы Савецкай улады, і ўпершыню за чатыры стагоддзі картэлісцы выправілі дзяцей ва ўкраінскую школу. Упершыню займелі хату-чытальню і бясплатны медычны пункт. Упершыню картэліскія немаўляты нарадзіліся не пад капой ці ў брудным запечку, а ў белай бальнічнай палаце і адразу ж убачылі свет белым. Упершыню паміж беднякамі раздзялілі панскую зямлю.

Толькі і жыць!

І Картэлісы заўсміхаліся да суседніх вёсак, да Ратнага, да Луцка, да Кіева і Масквы: мы ёсць. Чуеце? Ёсць!

А ў 1941-м, 22-га дня месяца чэрвеня, уночы, вёска прачнулася, не паспеўшы задрамаць першым хлебаробскім сном. Фашысты ўжо бамбілі Брэст і Ковель.

Свет жудасна захістаўся, але Картэлісы ўтрымаліся на сваёй зямлі, яна не выслізнула з-пад іхніх ног.

І цяпер я не магу да канца спасцігнуць таямніцы іхняга духу. І дагэтуль не магу суняць здзіўлення: Картэлісы былі савецкімі ўсяго 20 месяцаў. Новае, савецкае шчодра засеялася ў душах картэлісцаў, але яму б хоць пару гадоў сонца і спакою, каб пачаць шчодра радзіць. Хоць пару год. А яшчэ калі ўлічыць іх аддаленасць ад Масквы, Кіе-

ва, Луцка, нават да райцэнтра, да Ратнага, 32 кіламетры, калі ўлічыць тагачасную бездараж і сродкі камунікацыі, калі ўлічыць непралазныя на той час нетры, у якія былі закінуты Картэлісы, улічыць, што іх цэлыя стагоддзі ўпарта абмінала цывілізацыя... І раптам — т а к о е выпрабаванне. Выпрабаванне якраз на гэта — савецкае, найсвяцейшае ў якім — патрыятызм.

### *Картэлісы былі*

Бо калі знямоганыя, хворыя, зраненыя, прыгнечаныя ўсім тым, што сталася ўлетку і ўвосень сорак першага, акружэнцы, вязні-ўцекачы з лагераў ваеннапалонных, абаронцы Брэсцкай крэпасці, якія, сцякаючы крывёй, пасля няроўных смяротных баёў пакідалі свае бастыёны, калі ўсе яны як найдалей ад магістральных шляхоў, запруджаных фашыстамі, прарываліся на Усход,— і х с у с т р а к а л і К а р т э л і с ы. Нешматслоўна і з годнасцю, як умелі сустракаць блізкіх сваякоў у бядзе. Штосьці такі свяцілася ў вачах Картэлісаў даверлівае і чыстае, калі большасць знясіленых, параненых байцоў тут і зазімавалі. Картэлісы не вагаючыся далі ім свайго хлеба, які трымалі толькі для дзяцей, далі бульбы, якую ўжо падзялілі на зімовыя дні на кожнага сем'яніна, паступаліся сваім і без таго цесным жытлом. А вось веры ў перамогу і незалежнасць сваёй Айчыны не дзялілі, бо мелі яе спаўна: бярыце, колькі хочаце! Загойвайце свае раны, бярыце нашых хлопцаў і мужчын і станавіцеся на бой з рабаўніком. Пакорнымі перад заваёўнікамі Картэлісы не былі ніколі. Пераможам і фашыстоўскую навалач.

Сотні жывых, якія перажылі тую акупацыйную зіму сорак першага і адгэтуль пайшлі ў партызаны, сцвярджаюць:

К а р т э л і с ы б ы л і. Інакш і нас не было б ужо на свеце.

Да таго ж яны в е л ь м і я с к р а в а б ы л і, калі іх спалохаліся фашысты.

Ды яшчэ так спалохаліся, што задумалі супраць іх самае страшнае.

*Праз трыццаць сем зім пасля «чорнай серады» сорак другога,* у трэцюю сераду мая васьмідзесятага года, я стаяў каля брацкіх магіл, дзе ляжаць д з в е т ы с я ч ы в о с е м с о т с е м д з е с я т п я ц ь неўміручых картэлісцаў.

Шчабечуць дзеці ля новай школы на колішнім пажарышчы.

Аж да знямогі вызваляе сваё сэрца ад салодкай веснавой млосці салоўка на кусце каліны.

Гудуць пчолы ў квецені яблынькі, што вырасла са старога, апечанага нават пад зямлёю кораня.

Млосна пахнуць жыццём кучаравыя дымкі над белымі хатамі Картэлісаў...

Картэлісы — ёсць.

Картэлісы — былі.

Яны — вечныя.

## *Да «чорнае серады» дзесяць месяцаў*

«Дурная баба па-дурному і маўчыць. Як пра мяне сказана!» — на ўсю сваю жаночую злосць лаяла сама сябе Ганна Дардзючка, са злосцю хапала падвешанае да бэлькі на ланцугу дубовае вядро і ў адной толькі кашулі, тонкай сацінавай спадніцы ды ў галёшах на босую нагу выскоквала на мароз. Вядро было да краёчкаў поўнае, перад змярканнем хадзіў да студні яе (от халера! Ужо і ёй да языка прычапілася гэтае «яе», чаго ўжо з суседзяў дзіўіцца!) Барыс-акружэнец, а каму ўночы тая вада патрэбная? Удавала, што бяжыць да сажалкі, каб заспець пад сваім акном языкатую суседку Матрону, ад якой усе плёткі расходзяцца па Картэлісах.

Ганне ўвесь час здаецца, што Матрона цікуе за ёю, каб падгледзець, ну, нешта такое, ну, бабскае паміж акружэнцам і Ганнай. Гупне камяк снегу з хваіны ўскрай падворка, а Ганне здаецца — Мотра шчэміцца пад вокны, каб угледзець, ну, нешта такое, пад яе плёткі гожае.

І трэба ж было мне гэтага кватаранта! Бралі іх гаспадары, адны — з ласкі і міласэрнасці (свае ж, бедакі, вунь не раўнуючы як з крыжа знятыя, косці ды скура і напарстак жывога духу, куды ж ім далей?), іншыя — з выгады (з'едзеную за зіму бульбу ўвесну адробіць на полі, такіх пастаяльцаў і дваіх можна ўзяць, харчы не прападуць, вернуцца, вунь камендант Зянюк і солтыс Палівода ўзялі сабе па парабку, значыцца, за гэта не караюць). Але ж то ўсё гаспадары бралі, а мне, удаве, нашто? Дзеля Мотрынага пустабрэху? Маўляў, цяпер і Ганна пры мужыку, наэканоміць дроў за зімовыя ночы, бо з такім трыццацігадовым генералам не змерзнеш...

Вось сабачка гаўкнуў — і Ганна ўжо на дварэ, нібы па ваду бяжыць, а сама карым вокам кажух Мотрын выглядае пад сваімі вокнамі. Няма. Бадай такі паспела ўцячы або яшчэ не прыходзіла.

Мароз прагна лапаў яе пад тонкай, безліч разоў мытай сарочкай, шчымліва калоў у вільготную спіну, дрыготкі подых адразу ж абмярзаў па краях — кажуць жа: люты свайго не ўпусціць...

Адно дзякаваць богу, што Барыс, ну, не таго... спакойны, набедаваўся ў лагеры пад Бяла-Падляскаю, з-пад трупаў вылез і прышкандыбаў аж сюды з Польшчы, праз Беларусь і Украіну, прышкандыбаў з прастрэленай ножачкай (а каб цябе, нагою! Ды яшчэ такою вялізнаю, што насілу яму чаравікі ў Ратным на кірмашы папытала). Слава богу, шлавінне ў ім не віруе — так мае мама казалі пра мужчынскі вывадак, царства ім нябеснае. Спакойны. Усё думае нешта і думае, аж зло, бывае, бярэ: пагаварыў бы са мною, не каменная ж і без мужыка шостую зіму, тыфус паваліў майго Якава,— і яму царства нябеснае на тым свеце. Расказаў бы: хто ён, адкуль... Ці ёсць жонка, дзеці, то, можа, і я адтала б, даруй, божа, мне гэтыя думкі, ты ж усё бачыш зверху.

Некаторыя пастаяльцы такія хвацкія, што аж хаты па вечарах разлягаліся. Федзя-масквіч вунь гармонік направіў і расцягвае яго аж ад стала да парога цэлы вечар ды жарцікі трусіць, ажно ўсе Пракапчукі за жываты бяруцца, а дзеці з печы ад смеху сыплюцца, бы гарох са струка. Паўвуліцы да Пракапчукоў на гэтакія вячоркі сходзіцца, а мой (цьфу! Барыс-акружэнец) як сурочаны: думае пра нешта, думае. Сказана ж — граматны, абмовіўся быў — настаўнічаў да вайны...

Ганна зачэрпнула вады з сажалкі (добрая вадзіца — не замярзае), яшчэ раз агледзела падвор'е: дзе тая Матрона? Прыйшла б, яшчэ раз пагаварылі б, часы цяперака такія, што адной галавой на ўсё рады не дасі. Уецца недзе, можа, у Пракапчукоў, каля Федзі-масквіча спадніцай вецер ганяе, пакуль Дзям'ян авечыя ды воўчыя скуры дубіць. А што ёй — замужняя: хтосьці брахане — Дзям'ян заступіцца.

За мною, удавіцаю, абы-што ўгледзелі.

Яна згубіла ў снезе вялікі галёш-самаклей, наступіла босаю нагой на скутую марозам сцежку і толькі цяпер апомнілася: раздзетая ж выбегла! Во якраз не хапае табе цяпер залегчы, а Барыс каб даглядаў цябе, накрываў дзя-

ружкаю, паіў ліпавым чаем, варыў бульбу, клаў сваю руку (на левай няма двух пальчы... двух пальцаў) на лоб, дазнацца, ці няма гарачкі...

Яна аж запунсавелася ад гэтай думкі і адмахнулася поўным вядром ад яе, а можа, і ад сябе самой.

Вобмацкам абула галёш і заспяшалася ў хату: дурная баба, выменяй сваю ўдавіную долю на пару глуздоў, ты ж старэйшая ад яго вунь на колькі! Ды наколькі ж? А гады на тры. Божа, памілуй мяне, выратуй ад гэтых бабскіх думак, не хачу я іх у такую страшную часіну, яны самі лезуць у душу, як той мароз у хату.

Можа, справадзіць яго да старой бабы? І дапамогу мела б, і за сына магла б выдаць, калі што, бо мову нашу ведае, а на хлеб сабе цяслярствам заробіць (хутчэй, праўда, удае, што цясляр, чым сапраўды хвацкі да гэтага рамяства, але ж дзве труны збіў, калі стары Кухар памёр, а потым Варвара Ліхванка). Можа, такі да бабы якой старой, пакуль пагалоска пра мяне яшчэ не разышлася па Картэлісах? Сама б я і дамовілася. Ён граматны, зразумее. Або і цяпер скажу яму пра гэта: так і так, я ўдавіца, бачыце, не старая яшчэ, тутака ў нас усё на віду, вы сабе пабудзеце і пойдзеце далей, а мне ў Картэлісах век векаваць, вы ачуняеце трохі і далей, а мяне, я знаю, ахрысцяць Ганнай-акружэнкаю, толькі не злуйцеся, богам прашу, файны вы чалавек, але языкі людзям не завяжаш... Гэтак і скажу зараз...

Яна ababіла снег з галёшаў, гучна пракашлялася (каб не заспець яго за чым такім, ну, сваім, мужчынскім: разуваецца ці яшчэ што... кашулю скідае...), прачыніла дзверы, якія Барыс нядаўна аблажыў сенам і абцягнуў старой мешкавінай, кажа — недзе бачыў такое, у Сібіры, ці што.

Барыс Міхайлоўскі трымаў на каленях дошчачку і крышыў на ёй тытунь з маленькай кучкі.

Пабачыўшы на парозе гаспадыню з цяжкім дубовым вядром, адлажыў дошчачку з тытунёвай сечкай і нязграбна кінуўся на дапамогу, але Ганна паспела спрытна (нават калі Якаў быў жывы, насіла ваду сама) павесіць свой цэбар на ланцуг пад бэлькай.

— Сказалі б, Ганна Кандратаўна... Зробіце з мяне нахлебніка, а мне ж яшчэ жыць трэба...

— Дый мне трэба. Вы тутака з ветрам вайны, а мне векаваць у Картэлісах. Ці і падасць хто вады, калі занядужаю...— зачарпнула квартай вады і выпіла ледзяной

сцюдзяніцы, хоць зубы і так ляскалі ад холаду. Ей здавалася — ён ведае, чаго яна паперлася на двор галяком.

— Праўду кажаце. Вам тут векаваць, а я цяпер — як парушынка ва ўрагане вайны. Сёння ёсць, а заўтра шукай ветру ў полі. Яшчэ і цяпер не веру, што выскачыў з пекла, дзе цэгла пылам пайшла...

— Ці не ў Брэсце?

— А яно вам трэба, Кандратаўна...— усміхнуўся, два залатыя зубы злавілі кволы водбліск газнічкі на стале. Паклаў дошчачку на калені і зноў крышыць тытунь.

Вось табе і пагаварылі. І так ужо трэці тыдзень.

Ганна дастала з печы саган з бульбай, сцадзіла ў вядзерца ваду, падкінула дроў і стала грэцца каля агню.

Нешта я мела яму сказаць?

Штосьці вельмі пільнае, але — што?

Лагоднае цяпло з печы ахутвала млявасцю, кроў паволі супакойвалася, і, разморaная подыхам роднай печы, маладзіца і сапраўды забылася, што хацела сказаць гэтаму чужому (калі б не вайна — дзе ж бы яна дазволіла пераступіць парог увечары, ды яшчэ і начаваць, ды яшчэ і ў адным пакоі, ды яшчэ і не адну ноч!) чалавеку, які хавае ад яе не толькі што думае, але і сваё прозвішча. Хай начуе яшчэ гэтую ноч. Яшчэ гэтую, а там... будзе відаць.

## *Газета «Правда» ад 21 чэрвеня 1961 года*

«Нядаўна пад час раскопак памяшкання, дзе размяшчаўся камандны пункт (Брэсцкай крэпасці.— *У. Я.*), знойдзена пабітая радыёстанцыя і астанкі воіна. Вядома, што рацыю абслугоўвалі радавы Г. Макатроў і старшына Б. Міхайлоўскі. Яны да апошняга моманту пасылалі на Вялікую зямлю паведамленні пра тое, што гарнізон крэпасці не здаўся ворагу».

## *Заклік*

«У інтарэсах агульнага спакою ў краі паведамляю, што належыць:

1. Прыступайце спакойна да працы, як і раней.

2. Не ўдзяляйце ніякай дапамогі асобным расійскім жаўнерам або вайсковым часцям. Хто ім падасць якуюнебудзь дапамогу, раду, гасціннасць, харч або ўвогуле

хто будзе чым-небудзь ім дапамагаць — **б у д з е р а с с т р а л я н ы.**

Гэтая самая кара будзе за патуранне ўцякаючым палітычным камісарам або працаўнікам.

3. Пры ўсякай нагодзе тлумачце адасобленым расійскім жаўнерам, што яны павінны здацца і скласці зброю на найбліжэйшым нямецкім вайсковым пасту, тады яны не будуць расстраляны, а толькі забраныя ў лагер ваеннапалонных.

4. Дапамагайце расшукваць склады і запасы расійскага войска. Паведамляйце пра гэта ў бліжэйшую вайсковую камендатуру. Хто пра гэта не паведаміць або знойдзеныя запасы знішчыць, зробіць іх нядатнымі да ўжытку ці прысвоіць іх сабе або перадасць іншым асобам,—

*б у д з е п а к а р а н ы.*

Камандуючы нямецкім войскам».

Вясною васьмідзесятага ў Картэлісах мне казалі амаль усе: во гэтай дробязі такі не памятаю, столькі год збегла, агоў, ужо новая вёска стаіць тутака, і хочацца запамятаць як найбольш цяперашняга жыцця... Наведайцеся на хутар Даліна, да Казака Аляксандра Сямёнавіча, той усіх памятае, нават калі адзін толькі раз сустракаўся з чалавекам.

Нават старшыня сельсавета — хударлявы жвавы хлапец, якога картэлісцы адклікалі з настаўніцтва, адзінагалосна абраўшы на гэтую пасаду,— нават ён, Міхайла Краглік, якога я сустракаў у самых глухіх хутарскіх закутках, скідаў свой матацыклісцкі шлем, праціраў хусцінкай акуляры, закурваў, глядзеў у зямлю, потым у неба, вінавата хаваў блізарукія вочы і казаў: гэтую дэталь можа ведаць дзед Казак. Доля злітавалася над ім толькі за кошт, калі можна так сказаць, нямецкага педантызму. Яго хата на хутары Даліна не ўвайшла ў Голінгаў «Трохкутнік». Я думаю іншы раз, што доля была літасцівая да яго і дзеля памяці. Усё, што ён чуў, бачыў, перажыў за сваё шасцідзесяцігадовае жыццё,— усё помніць, быццам яно было сёння або — учора.

Сустрэчу з Аляксандрам Сямёнавічам Казаком я, перамагаючы цікаўнасць (насілу перамагаючы!), прыберагаў на канец, калі поўнасцю, ва ўсім жахлівым аб'ёме, паўстане перада мною картэліская трагедыя. Тады я пайду да яго па «апошнія штрыхі», якія ўжо не зможа паставіць ніхто, акрамя яго.

Шэсцьдзесят гадоў такі патапталіся па ім. Сутуліцца, нібы мае на плячах нейкую неадступную ношу. Не можа — ці не хоча — скінуць яе нават тады, калі сядзіць за сталом у сваёй святліцы. Вось толькі вочы... Калі б не карая, вуглістая туга ў зрэнках, яны былі б да твару нават хлопцу-маладзёну, столькі ў іх разумнай годнасці і лагоднага здзіўлення.

Тут, у яго старой драўлянай хаце, павернутай вокнамі да Картэлісаў (на хутары Даліна ўсе хаты крайнія, акрамя ягонай, бо яна стаіць найбліжэй да новых двухпавярховых Картэлісаў, да манумента загінутым, што паўстаў на кургане да паўнеба, бліжэй да волатавых магіл з закатаванымі, большасць з якіх ён ведаў асабіста), менавіта ў яго, Казаковай, хаціне я адкрыў для сябе яшчэ адну, любоўна выхаваную гісторыяй і побытам рысу валынскіх палешукоў.

Ён доўга думае, гаворыць нібы сам з сабою, то шпарка прыскорваючы словы, то павольна перабіраючы іх, быццам калоды: з якою будзе менш марокі, перш чым яна стане кроквай? Прыпальвае патухлую цыгарку, пагладжвае сівага ката, што залез яму на калені, збірае крошкі хлеба на стале, але... Але нейкая незразумелая, ледзь прыкметная староннаму чалавеку часцінка яго пагляду ўвесь час нацэлена ў акно. Ён ужо і сам, бадай, таго не заўважае, як на паўслове перапыняе расказ і кажа:

— Нечы салдацік пайшоў. З чамаданчыкам... блішчыць ад чаравікаў і да фуражкі. На пабыўку да мамы. Ці не Хрысцін? Але, Хрысцін. Якраз гадок адмаршыраваў. А Хрысця і не чакае. Бачыў, паехалі з Косцем сена сушыць. Сястрыца дома. Сустрэне...

І зноў вяртаецца да размовы, падхапіўшы думку якраз у тым месцы, дзе толькі што яе кінуў. Нібы і не бачыў нічога, нават інтанацыя тая самая.

У стэпавай Украіне акно — гэта проста акно, зашклёная адтуліна для сонца і святла, у яго заглядаюць гаспадары толькі пры патрэбе, зрэдку (сабака залямантуе, пастукае хто ў шыбу сярод ночы). Тут жа, у дрымучых лясах, што падступаюць да сядзібы з усіх бакоў, акно спаконвеку было «назіральным пунктам» палешука, які больш пэўна адчуваў сябе ў лесе, чым у чатырох сценах свае хаты. Пагляд акна быў заўсёды нацэлены на свет, ад якога штораз чакалі неспадзяванкі. Калі сям'я дома — нехта адзін мусіць пaглядаць у акно, аж пакуль не сцямнее. А сцямнела — тушы каганец, не швэндайся па хаце,

не кашляй, не рыпі ложкам — нас няма да раніцы. А на досвітку спачатку паглядзі ў акно, а ўжо тады выходзь за парог.

А між тым стары Аляксандр Казак многае бачыў у сваім жыцці і не, як тут кажуць на беларускі лад, «крозь» акно. Таму і сапраўды памятае больш за іншых аднавяскоўцаў.

### *Сведчанне Казака Аляксандра Сямёнавіча*

«Міхайлоўскага? Чаму ж не ведаў? Акружэнцаў у Картэлісах каля сотні было. А гэтага памятаю. Відны быў, прыкметны. Зараз прыгадаю.

...Сусед мой памёр — Барыс прыходзіў труну рабіць...

...У Картэлісах некалі па фаміліях не зналіся. Па вулічных мянушках. У каго жыў акружэнец — то яму і гаспадарова мянушка пераходзіла. У дзеда Якушыка — павясковаму Неафіт — жыў кіргіз ці то казах, дык так і звалі яго: Курбан-неафіт.

Барыс жыў у Ганны Дардзючкі, забілі яе немцы тады разам з усімі, мянушка ейная была па мужу, нябожчыку Якаве, Старанівец, яна так і засталася — Стараніўка Ганна. Да Барыса яна чамусьці не прыстала. Акружэнцы называлі яго за вочы Барысам-радзістам. Ці ў яго радыё было схавана, ці ўмеў напраўляць — не скажу вам. Барысрадзіст — дый годзе. Цяперака і дзеці ў школе ведаюць, а тады хіба на такое попыт быў?

Прыйшоў да суседзяў труну майстраваць, на харч зарабляў, бо ў Ганны Стараніўкі бульба не да хлеба, а замест хлеба... Прыйшоў. Зараз прыгадаю...

Статны такі, моцнай мужычае косці. Накульгваў на правую нагу. Высокі. Калі заходзіў у хату вады напіцца, згінаўся, але шапку ўсё роўна збіваў. Нос прысадзісты, шырокі, з кірпацінаю. Ага... яшчэ... двух пальцаў на левай руцэ не было. Знядаўна, бо шнары свежыя. Вочы зеленкаватыя, але бліжэй да шэрых. Русявы... два залатыя зубы паблісквалі, калі ўсміхаўся. Задумлівы, але ж хіба каля труны да пустазвонства, то ж не калыску ці лаву чэша...

...Я ж бачу — не ягонае тое рамяство: не рука сякеру, а сякера руку яго водзіць. Адну дошку ўжо зглуміў.

Тады акружэнцы сумысля таілі свае прафесіі. Добра яшчэ, калі не кадравы вайсковец і нешта петрыць у вяс-

ковым жыцці. Той галёшы клеіць, той воўну на валёнкі збірае, а той на гармоніку цэлы вечар рыпае, хто ідзе душу адвесці — прыхопіць з сабою пад крысо гасцінца, Мікола-фельчар (ажно цяпер даведаліся — вайсковы ўрач Варановіч, Мікола Іванавіч Варановіч) лячыў. Хто што мог... А гэтаму, бачу, не з добрае волі трунарства дасталося, каб выжыць у ліхую часіну.

Тады я падступіўся да яго, нібы памагчы, нібы каб хутчэй збіць дамавінку, а на самой справе дошку да дошкі падганяю. Рукі ў яго, бачу, не ад сякеры, а ад пяра... ці ад вучонае работы.

Навядзе мяне на гаворку, а сам слухае, слухае...

...Я ж бачу, куды ён хіліць. Ці не чуў я, дзе цяперака фронт? Кажу: знаю — там, дзе нашы б'юцца з немцамі. Глядзіць на мяне, маўчыць. Вось так запомніў яго. Лішняга казаць не буду, бо не бачыў, а толькі чуў. Не, маню! Бачыў яго раз у Картэлісах, да таго як спалілі. Ён ужо камандаваў партызанамі, яшчэ нямнога іх было, калі сярод белага дня разграмілі Зенюкову паліцыю. Здалёк бачыў яго, але пазнаў адразу...

...Ён тутака даваў жару! Немцам і паліцаям. І гэтта — у Ратненскім раёне, і тамака — на Беларусі. Тыя, даруйце на слове, дрыстуны-паліцаі паасобку і да нужніка баяліся выйсці...»

## *Да «чорнае серады» дзевяць месяцаў*

Учора, на вадохрышча, Хомка з паліцаямі страляў галубоў. Во ўчора толькі. І страляў абы-як, наўгад, у нізкае зімовае неба. А ўжо сёння зранку пачуў, ідучы па ваду: «Хомка-паліцай».

Вось так павяло цябе, сябар Хомка з вёскі Мацы Кобрынскага раёна, коцішся так, што і немаведама дзе спынішся.

Цешыўся ты сваёй пісанай мардзякаю і вачыма, што выклікалі давер у незнаёмых людзей. Сябра Хомка з сяла (а калі трэба — вёскі) Мацы Кобрынскага раёна, шчырая ўсмешка, даверлівы погляд вачэй, ад маці — блакіт, ад бацькі — мяккая вінаватасць ці то і сарамяжлівасць,— і ўсё, цябе ўжо лічаць за свайго. Сябра Хомка — і ўсё. Не сапсуй толькі пра сябе думку, то будзеш жаць прыязнасць.

Так было на будаўніцтве Стрыгоўскага аэрадрома, які разбамбілі немцы ў першую ж ноч вайны. Яшчэ толькі бу-

даваўся, а ўжо знала шакальня пра яго. Так было і тады, калі ты, сябра Хомка з вёскі Мацы, апынуўся на Украіне, у Оўручы, зайшоў у райкам камсамола і затурканы сакратар не пашкадаваў на цябе часу і нават даў сто рублёў (ці не сваіх нават, са свае кішэні), каб падтрымаць цябе, сябра Хомку з вёскі Мацы. Табе, а дакладней маміным і татавым вачам ды прыгожай пысе тваёй, верылі зняможаныя галодныя пехацінцы, што з незараджанымі вінтоўкамі — патроны скончыліся яшчэ пазаўчора — ішлі на нямецкія танкі, а немцы і не стралялі, толькі цэліліся ў вас пальцамі і рагаталі, высунуўшыся з люкаў.

Ты нічога не разумеў у гэтай страшнай вайне, бо за два месяцы, што быў ты ў арміі, ні разу не стрэліў у ворага.

Ты вярнуўся ў Мацы да мамы і бабулі ў той дзень, калі ў Кобрыне каля моста немцы расстралялі дваццаць чатырох раённых актывістаў. Праз гадзіну пасля таго, як ты зайшоў у родную хату, да цябе наведаўся твой аднагодак, сябар Міхайла Сіты:

— Дзе ты?

— Адгэтуль не відно...

І ён пайшоў.

А маці замітусілася, загаласіла:

— Уцякай, Хомка, ой, уцякай, куды знаеш...

Ты ўцёк у лес, а паліцаі нават гной увесь пaперапаролі штыкамі, шукаючы цябе.

Ты пайшоў на Украіну, пэўны, што табе ўсюды павераць, накормяць і пакладуць на начлег.

Так яно і было, сябар Хомка з вёскі Мацы. Прыйшоў у сяло Самары, пастукаўся ў першыя ж дзверы — і цябе ўпусцілі, хоць гаспадар меў сваіх чатырох сыноў. Прынялі, не пытаючыся нават, хто ты, Хомка з вёскі Мацы. Цешся, табе ўсюды вераць.

Чаго ж ты сумеўся, калі табе паверыў і пан камендант з Картэлісаў? Ды яшчэ як паверыў — забраў за парабка ў свой дом. Не кожнаму выпадае такое шчасце. Наеўся нарэшце дасхочу ў Зенюкоў, цесць і цешча камендантавы называюць цябе сынком. Праўда, калі Зянюк знянацку ўвапрэцца ў цябе чорнымі, як сасновая сажа, вачыма,— у Картэлісах ходзіць шэптам чутка, што камендант і сапраўды быў за Польшчай мулярам-камінарам:

— Як табе новая ўласць, Хомка?

І танцуеш у рэшаце, каб на дзюрачку не ступіць, каб камендант паляпаў табе па плячы.

Давер, Хомка. Далёка ты зайшоў, ужо і камендант нямецкай паліцыі табе верыць, чарку з недапітага налівае. Няхай бы лепш павітуха забылася табе пупавіну завязаць, чым гэтак во каціцца...

Учора Зянюк даверыў табе ў галубоў пастраляць з паліцаямі, а сёння забудзь, што ты сябар Хомка з вёскі Мацы, ты Хомка-паліцай, без месца нараджэння, без бацькі і маці. Зянюк — твой бог і твая бацькаўшчына.

Пачуўшы той шэпт за спіною: «Хомка-паліцай ваду панёс, пані камендантава загадалі ёй бялізну памыць... што ж гэта за пасада — найміт і паліцай у адной скуры?..» — ён спатыкнуўся, наліў вады за халяву юхтавага бота і, быццам злодзей, шуснуў за высокія вароты Зенюкоў.

Трэба ўцякаць або — застрэліцца! Годзе! Развітайся з колішнім сябрам Хомкам з вёскі Мацы, вазьмі ў Зенюка пісталет (той жа не хавае яго, а вешае ў сенях на цвік, давярае табе!) — і на той свет. Пакуль грахоў няшмат. Покуль Зянюк не бярэ цябе на свае аперацыі. Хацеў быў узяць на расстрэл трох камсамольцаў у Сяльцах Картэліскіх, ды жонка ягоная Ганя ўпрасіла, бо ў яе якраз схваткі пачыналіся. Не сёння-заўтра ды возьме.

Хама да абеду круціўся ў сенях, пазіраў на бліскучую кабуру пісталета, аднак яму ўвесь час здавалася, што Зенюковы бельмачы нават праз сцяну бачаць кожны яго рух.

І праўда, толькі Хама спыніўся каля кабуры, што пахла яшчэ свежай скурай (а пах хрому Хомка любіў яшчэ з дзяцінства, ён заўсёды нагадваў яму свята, калі мама дастае са скрыні новыя чаравічкі на рыпах), толькі крануў яе рукой — на парозе стаў Зянюк:

— Хочаш пачысціць пісталет, Хомка? Во дзе хазяйскі хлопец. З такою кемлівасцю пры цяперашняй уладзе не прападзеш! Відаць, што калгасам не сапсаваны. Чысці, чысці, Хама, ды рыхтуйся ў паліцаі. Бо пачнём вымятаць з сяла ўсю зайшлую навалач, акружэнцаў, камісарню. Ад'еліся, пазбыліся вошай — і ў Нямеччыну! Во як прыдумана. Арыйскі розум — гэта толькі арыйскі розум, Хама. Чысці. Не бойся, патроны я павымаў...

І чысціў у вялікім пакоі, на зэдліку, а Зянюк у авечым кіптары-камізэльцы наапашкі, у чорных валёнках без галёшаў сядзеў каля цёплае грубкі, час ад часу ўстаючы, каб пакалыхаць калыску з на тым тыдні народжаным сынам.

Хомавы пальцы дрыжалі, і ён губляў то спружыну, то баёк затвора і яшчэ больш нерваваўся ад таго, ведаючы, што камендант за ім сочыць.

— Добра, Хама, што мы з Ганяю не спяшаліся з гэтай справай,— зноў падышоў да калыскі, гайдануў яе.— Бач, як разлічылі. Пяршунчык нарадзіўся ўжо пры сапраўднай уладзе. Чула маё сэрца, што маскалі тут транзітам. От падмяцём яшчэ гэтых паскудных галадранцаў у Нямеччыну і можам праветрываць свае хаты, каб і духу іхняга не засталося. Ужо Саветы спінаю ў сваю Маскву ўперліся. А яшчэ і года не мінула, як немцы з імі счапіліся. Хіба ж іх можна не любіць, Хама? Запомні гэта, бо сваім розумам не дойдзеш, а знаць трэба, яшчэ малады... Гэтага не ведае нават Палівода, бо таксама дурны, як шворан з воза. Да бабскіх падалоў дарваўся і шастае з-пад адной коўдры пад другую...

Хама пакорна слухаў Зенюка, ужо каторы раз няўдала намагаўся сабраць пісталет, бо ўвага яго раздвойвалася: трэба было чуць каменданта і прыслухоўвацца да знаёмага з дзяцінства голасу сябра Хомкі, што звяртаўся да Хомкі-найміта і... яшчэ не паліцая.

«Акружэнцаў будуць вывозіць у Нямеччыну... Барыса-радзіста... Федзю-маскоўца... Міколу-фельчара, Мішку Каляду, што ўлялюскаўся ў настаўніцу Дусю з хутара Выжэчна і ходзіць за ёю, што тая здань, ды прыпявае: «Ой ты, Дуся, Дуся, я з табою ажанюся...» І Курбана-неафіта... Усіх, каго ты паспеў уведаць, і не толькі іх.

Зянюк кажа: «пад мятлу», каб «хаты праветрываць»...

Сябра Хомка з вёскі Мацы! У моры разгубленасці доля падае табе руку!

Папярэдзь Барыса-радзіста, вакол яго круцяцца ўсе хлопцы-акружэнцы.

Калі б не дала табе прырода гэтага ружовага, прыпаднага чужому позірку аблічча і даверлівых вачэй, быў бы цяпер, як і ўсе акружэнцы, чалавекам. А то ж патрапіў у самае логава. Яшчэ і Жэнька, сястра Зенюкова, перакладчыца ратнаўскай камендатуры, усё часцей аж з Ратнага круціць свайго ровара ў Картэлісы. Да брацiка, у госці. Ведаю тое гасцяванне, баюся з ёю сам-насам аставацца. Ратнаўскім немчыкам, каменданту Даніловічу і райцэнтраўскім паліцаям ужо збрыдзела гэтая пародзістая кабыла. Хаму Канавальчука ёй на ўцеху!

Давай ногі ў рукі, сябра Хомка! Бо і душу тут пакінеш!»

## *Сведчанне*
## *Казака Аляксандра Сямёнавіча (прадаўжэнне)*

«Скажу цяперака і пра Міколу Зенюка...

Ведаў я яго — лепш бы не ведаць...

Вунь тамака, дзе дзеці і дарослыя, што ідуць да нас пакланіцца магілам забітых, купляюць паштоўкі пра Картэлісы, значкі і ўсялякую драбязу на сувеніры, будынак цяпер пабудавалі. Тамака і стаяла ягоная хата. Тата яго быў пры Польшчы дзякам. Паны картэліскія.

...Сярод тутэйшых багацейшых за Зенюкоў і не было.

...Мікола недзе з пятнаццатага ці шаснаццатага, не, такі з шаснаццатага года. Меў чатыры сястры. Найпрыкметнейшая з іх Жэня. Харошая была, толькі што з яе красы — сорам адзін. Высокая, пад хлопца стрыглася. Вучылася ў Варшаве нямецкай мове. Як вярнулася з тае навукі, то не толькі па-іхняму ціўкала... які толькі вясковы хлопец ні таптаў яе грэчку. Сорам... За тымі, першымі Саветамі была за настаўніцу ў Ратне. Данілевіч, шкура, быў тады дырэктарам, то ўзяў яе. Відаць, добра гадзіла старому (Данілевіч, бадай, аднагодак старога дзяка Зенюка), бо і Міколу Зенюковага паставіў настаўнікам у Сяльцах Картэліскіх. А прыйшлі немцы — Данілевіч адразу стаў раённым камендантам. Жэню не адпусціў ад сябе — перакладала пры камендатуры. Тады яе інача́й і не называлі за вочы — выбачайце — як «курва камендан-цкая» або «матрац паходны»...

А Зянюк быў пры Польшчы паштальёнам, камінарам і...— гэта ўжо ў час акупацыі адкрылася — агентам тайнай польскай паліцыі — даносчыкам на камуністаў. Не ведаю, якое рамяство галоўнае ў яго. Чытаць умеў. От і ўвесь розум.

Прыйшлі нашы ў трыццаць дзевятым — вывернуў, падла, шкуру навыварат. Данілевіч паставіў яго настаўнікам. Я ўжо казаў... Арганізаваў Зянюк нават камсамольскую ячэйку ў Сяльцах Картэліскіх. Зараз прыгадаю... Іван Амельянчук, Трахім Сахарук... і... Марка Дардзюк. Усё былі ўтрох хадзілі, прыгожыя, вясёлыя. Зянюк іх арганізаваў, агітаваў яшчэ іншых уступаць...

Толькі прыйшлі ў Ратань немцы, Данілевіч (ужо камендант раённай паліцыі!) не забыўся пра брата сваёй наложніцы. Зянюк вярнуўся ў Картэлісы вясковым камендантам, у паліцэйскай форме, пры зброі. І першае, што зрабіў,— пры людзях расстраляў увесь камсамол у Сяль-

цах Картэліскіх. Сляды, відаць, замятаў. Хлопцы да апошняга не верылі, што ён гэтак учыніць. Думалі, маскіруецца настаўнік... Такія словы ім яшчэ нядаўна казаў...

Яшчэ во не сказаў вам. Не любілі Міколу Зенюка ў Картэлісах і да вайны. З твару і паставы відны. І заможны, а от не хацелі дзяўчаты ісці за яго. Жаніўся аж тады, калі сілком старыя, запалоханыя ягонымі таемнымі паліцэйскімі паўнамоцтвамі Дудзікевічы аддалі за яго сваю сірату-ўнуку Ганю...

...У першыя дні вайны хадзіў па Картэлісах з дубальтоўкай, перапыняў прахожых і казаў: «Пры Саветах усе былі пахмурыя, а цяперака смяюцца. А табе што, зубы баляць? Ану! Засмейся!..»

## *Загад*
## *пра паводзіны войскаў на Усходзе*

*«13 лістапада 1941 г.*
Сакрэтна

У пытанні пра стаўленне войскаў да бальшавіцка-савецкай сістэмы існуюць яшчэ ў многіх выпадках бязглуздыя ўяўленні.

Асноўнай мэтай паходу супраць бальшавіцкай сістэмы з'яўляюцца канчатковы разгром дзяржаўнай магутнасці і выкараненне азіяцкага ўплыву на еўрапейскую культуру.

У сувязі з гэтым перад войскамі ўзнікаюць заданні, якія выходзяць за межы звычайных абавязкаў воіна.

Да барацьбы з ворагам за лініяй фронту яшчэ недастаткова сур'ёзна ставяцца. Усё яшчэ бяруць у палон каварных, жорсткіх партызанаў і вылюдкаў-жанчын; да адзетых у напаўвайсковую або цывільную форму асобных стралкоў з засад і валацуг ставяцца ўсё яшчэ як да сапраўдных салдатаў і накіроўваюць іх у лагеры для ваеннапалонных. Палонныя рускія афіцэры расказваюць з усмешкай, што агенты Саветаў вольна ходзяць па вуліцах і часта харчуюцца з паходных нямецкіх кухань...

Забеспячэнне харчаваннем мясцовых жыхароў і ваеннапалонных — непатрэбная гуманнасць.

Усё тое, у чым кіраўніцтва і айчына адмаўляе сабе і з вялікімі цяжкасцямі пасылае на фронт, салдат не павінен раздаваць ворагу, нават у тым выпадку, калі гэта тра-

феі. Яны з'яўляюцца неабходнай часткай нашага забеспячэння. Войскі зацікаўлены ў ліквідацыі пажараў толькі тых будынкаў, якія павінны быць выкарыстаны для размяшчэння вайсковых часцей. Усё іншае, што з'яўляецца сімвалам колішняга панавання бальшавікоў, у тым ліку і будынкі, павінна быць знішчана. Ніякія гістарычныя або культурныя каштоўнасці на Усходзе не маюць значэння...

...У выпадку прымянення зброі ў тыле арміі з боку асобных партызанаў ужываць супраць іх рашучыя і жорсткія сродкі. Гэтыя меры пашыраюцца і на мужчынскае насельніцтва з мэтаю папярэджання магчымых з яго боку замахаў. Пасіўнасць шматлікіх антысавецкіх элементаў, якія займаюць пазіцыю чакальнікаў, павінна быць ліквідавана шляхам тлумачэнняў, і яны павінны быць уключаны ў актыўнае супрацоўніцтва ў барацьбе супраць бальшавікоў.

Калі яны не ідуць на такое, то няхай не скардзяцца, што з імі абыходзяцца як з прыхільнікамі савецкага ладу. Страх перад нямецкімі захадамі павінен быць мацнейшы, чым пагрозы з боку бадзяжных бальшавіцкіх рэштkaў.

Не заглыбляючыся ў палітычныя разважанні пра будучыню, салдат павінен выконваць двайное заданне:

1. Канчатковае знішчэнне бальшавіцкай ерасі, Савецкай дзяржавы і яе ўзброеных сіл.

2. Бязлітаснае вынішчэнне варожых хітрасцяў і жорсткасцяў і тым самым гарантаванне бяспекі жыцця ўзброеных сіл Германіі ў Расіі.

Толькі такім чынам мы можам выканаць сваю гістарычную місію, вызваляючы назаўсёды нямецкі народ ад азіяцка-еўрапейскай небяспекі.

Галоўнакамандуючы фон Рэйхенаў,
генерал-фельдмаршал».

## *Да «чорнае серады» восем месяцаў*

Тры месяцы дачка Агаты Мусюк будзе жыць ва ўлонні маці і пяць месяцаў— на свеце.

«Не так ужо і страшна, як казалі бацька і маці. Можна жыць. Ніхто не чапае нас на хутары. Усе свае, як адна

сям'я. У многіх хатах ёсць акружэнцы, але кожны ўдае, быццам суседавага пастаяльца не заўважае. Тое і добра, ніхто нікога не прадасць. Зянюк з Паліводам да нас не наведваюцца, занятыя Картэлісамі. На бульбе і вадзе, ды не ў бядзе, кажуць у нас на хутары Паплыўцы.

Недзе там у чужым свеце ваююць, арміі з танкамі і самалётамі ідуць адна на адну, салдацікі гінуць. Але што зробіш — вайна, без смерцяў ды хаўтур яна не абыходзіцца...

А ў нас, дзякаваць богу, ціха, што ў царкве на імшы, калі святы айцец псалтыр перагортвае.

Страшна было, калі пачалася гэтая новая бойня, дужа страшна.

Страшылі адно аднаго: канец свету, абрыне ён у безднь, бо калі ж яшчэ такая сіла на такую сілу ішла? Гарыць Брэст, гарыць Ковель. Савецкія салдацікі адступаюць, месяць кобрынскія балоты, топяцца ў іх, акопы пад картэліскім лесам капаюць, абы адбіцца. А немцы і не перашкаджаюць ім акопвацца, няма калі ім — ужо Ковель, Луцк, Роўна іхнія.

Колькі тыдняў грукацелі па брэсцкім тракце на ўсход танкі, машыны, засцілі сонца самалёты, ішла процьма немцаў.

Усе думалі — ненадоўга. Думалі — яны з чортавымі рагамі, з ікламі і воўчымі вачыма. Аж дзівіліся, калі ўбачылі: такія нібы, як і мы. Збягаліся з хутароў паглядзець, калі колькі іх там на матацыклах прыехала ў Картэлісы. Пачалі мыцца. Парфумамі ад іх пахла. Параздзяваліся да пояса каля сажалкі. Мы вачам сваім веры не давалі: усё, як у людзей, такое самае цела. Мыюцца, рагочуць. А тады падаставалі зубныя шчоткі. Усе аднолькавыя. Бацька і войкнуў, а тады шэптам: «Можам не ўстаяць. Бачыце, якая ў іх армія,— кожнаму шчотачку на зубы выдаюць...»

І — паехалі сабе. Нікога нават не забілі.

Для нас вайна такі прайшла бокам, за дзесяць вёрстаў. Брэсцкім трактам прайшла. Хай ідзе сабе, хоць бы і пад самы хутар, абы да нас не заходзіла.

Мы сабе нават акружэнца не ўзялі, бо надта ж сям'я вялікая, дый пэўнасці больш. Суседзі благога пра нас не кажуць, самі бачаць: людзей у нашай халабудзе — што маку ў макаўцы. Свякруха, свёкар, мы з Алексам і з малым, Алексаў брат Іван з жонкай ды дваімі дзецьмі. Уночы чарга каля дзвярэй, каму першаму па сваёй патрэбе бегчы. Пакуль малога Міколкі не было, то мы з Алексам

на сене летавалі аж да маразоў, бывала, прачнёмся — іней на косах. А цяпер і не ўзлезу на сена, хоць бы і закарцела выспацца ўсмак, дзіця ўжо ножкамі бэрсае ў жываце. Вайна вайною, а кожнаму жыць хочацца. І нам, і дзеткам. Няхай нараджаюцца. Адну зіму перабылі, ужо са страхі цуркоча, і певень курэй па-вясноваму топча...»

Агата Мусючка асцярожна правяла рукамі па сваім вялікім жываце, затрымала на ім чуйныя пальцы, бо ёй здалося, што намацала дзіцячую галоўку.

Усміхнулася сама сабе, і ўсмешка надоўга замерла на яе яшчэ зусім юным, крыху прыпухлым, але не зблажэлым ад цяжарнасці твары.

У хаце валтузіліся дзеці, сыкала верацяно ў руках у свякрухі Параскі, патрэсквала кудзеля з канапляным лыкам, вішчала парася ў загарадцы, але ўсе гэтыя гукі нячутна абміналі Агату. Яна прыслухалася, ці не заварушыцца зноў я н о.

Нават сярод гэтай трыклятай вайны яна такі была шчаслівая. Вайна была нібы недзе далёка, зверху, а яна са сваім ціхім жаночым шчасцем затаілася на дне гэтага ўсхваляванага, як акіян, свету. І тут ёй было добра.

На мясаед перад вайною справілі з Алексам вяселле, забраў яе да сябе. Цесна ў хаце, але ж усе свае, родныя. Толькі нядобра, што спаць удваіх няма дзе ўзімку: дзеці на палку і на печы, жанкі — на ляжанцы, а мужчыны — на сенніках з саломаю, покатам, як захрапуць — халабуда падымаецца, гэта здароўе ў кожным кіпіць... Цесната, а без звады абыходзіцца. Хоць Агата зацяжарала, а саромеецца прызнацца нават Алексу. Няёмка неяк было, першы раз у жыцці такое... А маладзюсенькая, васемнаццаць год, нічога не відаць зверху, а каб не падумалі пра яе чагосьці там — і ў лес па дровы, і мех бульбы са склепа, і вады наносіць, і абед зварыць, памые ўсім кашулі... Аж калі знепрытомнела, воз гною варочаючы, аж тады свякруха з Алексам уведалі... Міколка знайшоўся ў іх. Здаровенькі, ручкі, ножкі, «сучок», загаварыў, як усе дзеці...

«А цяперака другое будзе. Як у людзей. Алекса пры мне, не пад кулямі, не гібее ў акопах, бо не паспелі і прызваць нікога з Картэлісаў; каб пайшоў на фронт, як хацеў, то я звар'яцела б, бегла б за ім, кулі рукамі б адводзіла, трымала б, каб не вырываўся перад іншымі, кашульку жаўнерскую мыла б ды есці варыла б... Пры мне. Гукні — адзавецца. Нават ціхенька: «Але...», а ён: «Га?..» Ці ж мне многа трэба для шчасця?..»

8*

Так думала Агата Мусючка, трымаючы рукі на жываце, у якім паціху тузала ножкамі дзіця. Надта ж паціху, відаць — спала. Вайна вайною, а жыць хоча. ...А Алекса пайшоў на вятрак, дзе Сямён Дзем'янюк млынарыць, садраць кукурузы на кулеш, зараз вернецца, людзей цяпер на млыне мала, пракруціць трохі зерня і прыйдзе. Іван вунь лыжку з грушовага сука выразае, бо ўчора выскрабалі саган, дык зламалася.

...Сусед увайшоў у хату. Прынёс марозу і кашлю.

Паклікаў Івана. За дзверы паклікаў. Мужчынская размова, бадай. Даўгавата не было.

«Спіць дзіцятка ў жываце. Спі-спі, яшчэ наробішся на гэтым свеце. Спі.

Алексы доўга няма. Загаварыўся з млынаром. Хай гаворыць, Сямён — слаўны чалавек, дурнога не падкажа, бо і сам не ведае...

Зайшоў Іван. Моцна дзвярыма грукнуў, а заўжды ціха ўваходзіць, адразу відаць, што гэта ён, так ціха.

Закурыў. А заўжды выходзіў з самакруткаю ў сені, бо «Агату знудзіць».

Недаструганаю лыжкаю па стале грукнуў. Падняўся на ўвесь свой высозазны рост.

— Ото людзі, называецца!

Дзе мой Алекса? Што з ім? Дзіцятка задрыгалася...

— Пакуль Алёшка парабкаваў у іх — добры. Маладзец Алёшка Папоў!

Слава табе, госпадзі, не пра Алексу майго. Алёшка — гэта акружэнец суседаў. А я ўжо падумала — з маім Алексам ліха якое...

— Тыфус у Алёшкі пачаўся. Яны яго цяперака на двор, у хлеў, кажа, вынесем, бо самі пахварэем. У хлеў, да парасяці! Чуеце?! А думалі ўвесь час — суседзяў маем. Вайна многіх праявіць.

Свякруха маўчыць, толькі кудзелю смыкае так моцна, што аж перахіляецца.

Свякруха маўчыць, а я што маю сказаць? Маладзейшая, нявестка, маё за апошнім разам мелецца.

Хіба можна так рабіць, як нашы суседзі? Алёшка ім хату перашаляваў, Алёшка з ледзяной вады ўвосень сена ім з балаціны выносіў, Алёшка бульбу капаў да маразоў, дзяцей нават забаўляў — усё Алёшка. А тыфус напаткаў — Алёшку на двор?.. Грэх ім будзе! Ім і дзецям іхнім хопіць. Так я сабе думаю, але ж у мяне не пытаюць. Прамаўчу. Нявестка ж бо. Наймаладзейшая».

— Хадземце, мама, паможаце мне, Агата, засцялі палок. Зараз прынясу Алёшку.

Свякруха спалатнела і загаласіла:

— З ты-ы-гы-фусам...

— Мама, сціхніце! Хадземце, паможаце пасадзіць мне яго на плечы. Агата, засцілай!

## *Загад*
## *аб стварэнні рэйхскамісарыята «Украіна»*

*«20 жніўня 1941 г.*

Згодна з маімі загадамі ад 17 ліпеня 1941 г. пра кіраванне акупіраванымі ўсходнімі абласцямі загадваю:

### *I*

Заселеная ўкраінцамі частка акупіраваных усходніх абласцей, што не ўваходзіць у кампетэнцыю генерал-губернатара [1], стварае рэйхскамісарыят згодна з маім загадам ад 17 ліпеня 1941 г. пра ўвядзенне цывільнага кіраўніцтва ў акупіраваных усходніх абласцях і пераходзіць у падпарадкаванне рэйхсміністра акупіраваных усходніх абласцей. Рэйхскамісарыяту надаецца найменне «Украіна».

### *II*

Знешнія межы рэйхскамісарыята «Украіна» я буду вызначаць у адпаведнасці з ходам баявых дзеянняў, а ў пэўны час вызначу канчаткова. Час увядзення цывільнага кіраўніцтва ў рэйхскамісарыяце «Украіна» або яго асобных частках я вызначу асобна.

### *III*

Рэйхскамісарам «Украіны» прызначаю гаўляйтэра і обер-прэзідэнта Эрыха Коха. Яго рэзідэнцыя часова знаходзіцца ў Роўне.

Галоўная кватэра фюрэра.
Гітлер,
Ламерс».

---

[1] **Польскіх акупіраваных абласцей *(заўвага аўтара).***

## *З дырэктывы рэйхсміністэрства ўсходніх абласцей*

«...2. Рэйхскамісарыят «Украіна»

1. Межы, памеры і колішні абласны падзел. Рэйхскамісарыят «Украіна» ствараецца на ўкраінскай тэрыторыі, акупіраванай нямецкімі войскамі.

Рэзідэнцыя рэйхскамісара будзе вызначана фюрэрам; часовая рэзідэнцыя — Роўна.

Межы рэйхскамісарыята такія:

На захадзе і паўднёвым захадзе рэйхскамісарыят мяжуе з колішнімі савецкімі Львоўскай і Цярнопальскай абласцямі, па лініі Сакаль — Броды — Падвалочыск — рака Збруч да ўпадзення ў Днестр (Заходняя Украіна, якой кіруе генерал-губернатар акупіраваных польскіх абласцей). Далей межы ідуць уздоўж Днястра да Васілютаў (каля Магілёва-Падольскага), Лядава, праз Прымазеніцу, Бар (уключна), потым уздоўж рэчкі Роў і заходняга берага Буга да ўпадзення яго ў Чорнае мора (удакладняецца).

На поўначы межы праходзяць у цэлым за дванцаць кіламетраў на поўнач ад чыгуначнай лініі Брэст — Гомель да пункта, што размешчаны за 20 кіламетраў на ўсход ад Мгліна (удакладненні будуць дадзены пазней).

Пра далейшыя межы будзе абвешчана пазней...

2. Новы тэрытарыяльны падзел.

Заходняя частка рэйхскамісарыята «Украіна» падзяляецца на такія генеральныя акругі:

1. Генеральная акруга (Generalbezirk) ВАЛЫНЬ.

Тэрыторыя: Ровенская, Луцкая і Камянец-Падольская вобласці, потым паўднёвыя часткі Пінскай і Брэсцкай абласцей колішняй БССР. Генеральная акруга складаецца з 24 акруг.

Месца знаходжання генерал-камісара — Роўна.

2. Генеральная акруга Жытомір.
3. Генеральная акруга Кіеў.
4. Генеральная акруга Мікалаеў.
5. Генеральная акруга Таўрыя.
6. Генеральная акруга Днепрапятроўск.
7. Генеральная акруга Чарнігаў [1].

Рэйхсміністр акупіраваных усходніх абласцей
Розенберг.

*Жнівень 1941 г.».*

---

[1] У Чарнігаве генеральная акруга так і не была створана. З прычыны баявога становішча і актыўных дзеянняў партызанаў ёю кіравалі вайсковыя. франтавыя ўлады *(заўвага аўтара)*.

Іван Карнялюк цярпеў толькі тых дзяцей, якія толькі вучацца хадзіць. Мог глядзець на іх з пагардай. Калі ж тое малое выцягнецца пад самыя яго вочы (сонца, вада, пясок, бульба, грыбы, чарніцы — за лета галаштаннікі выраcталі, што трыснёг), Іван ледзь стрымліваў сябе, каб не ўрэзаць пстрычку між вачэй.

Дарослых ён пазнаваў лепш здалёк, чым зблізку, бо як падыдзе *ён* — здагадваўся па халявах, чаравіках, пасталах, калі ж *яна* — па лытках. Знаў ногі картэліскіх жанок і дзевак, далібог, лепш за роднага мужыка ці нарачонага, з якім вось-вось стануць пад вянец.

Іван меў ад нараджэння хібу. Казалі, што гэта — яго-най маці за нейкі ўтоены ад усіх вялізны грэх. Такі ён і нарадзіўся: з пакручанымі, што тое карэнне ў падмытага вадою дуба, маленькімі нагамі. Можа, прырода і сама адчула, што перабрала меру, пускаючы яго такога ў свет да людзей, і — каб зменшыць сваю правіну — дала Івану прыгожы, ажно нябесны тэнар. З такім голасам, бадай, пражыве, падумала прырода і склала свае творчыя паўнамоцтвы.

І не памылілася. Жыве, нічога.

Праўда, у вёсцы голас не надта пракорміць, а да таго ж калі, ужо хлопец, Іван Карнялюк запяе на вяселлі — госці сумнеюць, спявае вясёлае — жанкі слязу хаваюць у ражок хусткі: калека, даруй божа; а мужыкі ніякавеюць, нібы сорамна ім, здаровым, статным, даўганогім, перад Іванам. Запяе ўвечары на Рынку (базару ў Картэлісах няма, а пляц каля царквы, дзе моладзь на гулянкі свае збіраецца, чамусьці Рынкам называюць здаўна) — хлопцы хутчэй выхопліваюць дзяўчат з гурту і разыходзяцца па сваіх кутках.

За прыгожы голас у вёсцы не плацяць. Гэта каб у горадзе... Але ж куды там... з такімі нагамі...

Іван прыстаў да старога, ужо падслепаватага кажушніка, падаваў яму вады, уцягваў нітку ў іголку, дапамагаў квасіць скуры, гнаць шво па лініі — і такі навучыўся шыць кажухі. Спачатку благенькія, з перапрэлых аўчын, дзецям навырост, а потым прызналі людзі за майстра.

Прыходзяць, просяць, Іван удае, што работы ў яго на цалюткі гадок, што ажно вочы на патыліцу вылазяць ад шытва, а хто ж не хоча кажуха на зіму, калі ўжо і авечак нарэзаў дзеля гэтага? Просяць, напрамілы бог мо-

ляць: я за цябе, Іванка, сена скашу і на двор прывязу, душа ў цябе, Іване, добрая, падатлівая, душа — як і голас.

Ужо яно можна было б і пагадзіцца, бо застанешся ж без заробку, але ён паглядаў знізу на заказчыка і адчуваў сябе вышэйшым за яго. Ведаў, што гэтае адчуванне часовае, бо яшчэ так вось пакорна прыйдзе той на прымерку, яшчэ таксама прыйдзе выкупляць гатовы кажух, а як толькі заплаціць грошы — зноў стане вышэйшы і зняважліва пазірацьме на Івана зверху. Таму заўжды цягнуў час: няхай яшчэ раз папросіць — кажушніка ў Картэлісах больш няма...

Такія во трывалыя пагадненні былі найлепшымі гадзінамі ў жыцці Івана Карнелюка. Асабліва калі прыходзіў бацька, у якога ёсць дзеўка пад замуж. Трэба жаніцца і Івану, ужо аднагодкі пра світкі дзецям сваім дамаўляюцца з ім, а ён яшчэ і да рукі дзявочай не дакрануўся ні разу... Трэба... каб яна спрахла, тая жаніцьба! А трэба...

Двое сватоў-баламутаў нарэшце ўгаварылі падстаркаватую ўжо, з вялікай беднай сям'і Сашуню.

Хацела спачатку выправіць сватоў з хаты, але памалу сціхла, слухаючы іх, як лагоднае варкатанне кошкі ў запечку: твае хлопцы даўно пажаніліся, Іван — адзіны кажушнік у Картэлісах, кажуць, золата ўжо мае, а голас, голас які: падпяе бацюшку ў царкве — святыя на абразах прыслухаюцца. Дый па іншых маладзіцах бадзяцца не будзе — куды там яму... Сват спыняўся, разумеючы, што не туды кіруе. Заходзіў з іншага боку: чаго табе па гэтым глухім хутары гібець? Хто цябе тут знойдзе, у балоце? Іван забярэ цябе ў цэнтр, пад самую царкву. А тое, што пакручаны,— дык хто яго ведае, мо і выпрастаецца пры добрай жонцы. Ідзі, Сашуня, не ўпірайся, бо і нам набрыдла балота да цябе мясіць. Боты ж не казённыя...

Сустрэлася поглядам з хворай мамаю і не стала больш адмаўляцца. Чаму быць — таго і не мінуць.

Яна так чакала сямейнага жыцця, так балюча марыла пра яго, што кінулася на злом галавы. Сорамна, праўда, ісці з мужыком у людзі, але калі сядзіць за кравецкім сталом, паміж аўчын, забывае, што ён у яе... ростам маленькі.

Вельмі квапілася жыць. Хуценька нарадзіла Івану двух сыноў і памерла (стары Іван Карнялюк так і сказаў мне ўвесну 1980 года: «Хуценька памерла Сашка».— *У. Я.*).

За другім разам Іван жаніўся асцярожна. Гаспадар,

пры грашах, дапамагае бацюшку імшу адпраўляць у царкве — пры такіх козырах яшчэ і дзеўку можна ўзяць. Хлапцоў пазабіралі ў польскую армію, дзяўчаты на Рынку па вечарах ушчыкаюць адна адну і папіскваюць сабе ціхенька, журботна... Можна выбіраць сабе гаспадыню. Іван прымяраецца доўга, як да аўчыны, перш чым загнаць яе ў нажніцы.

Не, лепш удавіцу. Пэўнасці больш. І каб трохі пасагу прынесла.

І каб дзяцей ад каго іншага не мела. Найлепш падышла пад усе меркі (меркаваў і так і сяк) Марфа з Ягадкавага хутара. Галоўнае, што яна яму падышла, айцец Бандарчук сваю справу зробіць: якая ж маладзіца не палічыць за гонар, калі сам бацюшка ў сваты набіваецца. Не трэба і шапкі перад Марфаю скідаць, лепш перад айцом Васіліем...

Так і зрабіў.

І Марфа, паскладаўшы на падводу свае манаткі, запрэгла сытага коніка і заехала на Іванава падвор'е:

— Айцец Васілій сказалі, каб так было...— І адразу ж пачала завіхацца пры хаце, вэдзгаючы падол і аб павыбіваную падлогу, і аб патрэсканую печ, і аб неабагнаную бульбу на гародзе.

Айцец Васілій раіў: ты хутчэй на хрэсьбіны мяне прасі, Марфа, дзеці лучаць мужа да жонкі больш за... не, гэтаксама як абяцанне перад усявышнім...

Пакорліва кіўнула галавою.

І двойчы паслухалася айца Васілія.

Праз малога Грыцка Іван Карнялюк пакуміўся з заможным картэлійскім гаспадаром, што ў яго воспа ўвесь твар рабаціннем пабіла,— намеснікам войта Андрыянам Паліводам. Праўда, на хрэсьбінах Андрыян блазнаваў, бо хіба ж да твару прадстаўніку шляхецкай улады гэтак аціраццa каля чужой жонкі, ды яшчэ тады, калі ў яе немаўля плача? Прынёс з сабою патэфон, і танцуюць пад яго з Марфаю раз у раз. От каб Івану здаровыя ногі — пайшоў бы з Палівадзіхаю, бо злуецца яна і ўсё майструецца дадому ўцячы. Кум кумам, але ж і чэсць трэба знаць: ухапіў чужую жонку аберуч, што той сноп. Не танцуе, а носіць яе па хаце. Мне не выпадае з Палівадам гыркацца, а яна, Марфа, магла б сказаць: кумочак, Іван глядзіць. Не, ямкі ад воспы лічыць на Андрыянавым носе. Затое Палівода цяпер у мяне на цугундары.

Кажушнік і падзячы Іван Карнялюк — гэта адно, а

кум Палівадаў, другога чалавека пасля войта ў Картэлісах, то, выбачайце,— не вшыстко едно. А Марфа не ўбудзе ад яго, кумавых, прыцісканняў, абы Палівадзіха не ўгневалася, хоць у вёсцы і шэпчуць, што яна прыдуркаватая, а ўсё ж — другая войціха (пасля жонкі войта Такарскага) і кума.

Калі Марфа, расчырванелая і расхрыстаная, ішла карміць немаўля, магла б і адвярнуцца да печы грудзьмі, не, свеціць Паліводу сваім багаццем і ўдае, што дзіцятка яе губамі казыча,— вось хай пойдуць госці мае дарагія... Яна корміць, а Іван жытнёўкі падлівае Андрыяну:

— Свецкая ўлада цяперака ў кума Паліводы, а царкоўная — у кума Карнелюка. Хто супраць нас? Не відаць нікога...

Потым прыйшлі камуністы і знялі кума Паліводу і далі ўладу Яшку Сідаруку, якога Андрыян ледзь у Бярозу Картузскую не ўпёк. А калі ж гэта ўлада ў пасталах хадзіла?

Толькі мне кум і скардзіўся, як пакрыўдзілі яго. А на людскія вочы печы кладзе па хутарах, маладзічак пацяшае. Ніхто не здагадаецца, як душа ў кума зайшлася ад такой знявагі: войт — печы кладзе! Нейкі дурань і плётку пусціў: Палівода змуруе печ удавіцы і не пойдзе з хаты, покуль не праверыць, ці не абрыне, калі ўдваіх залезці... А калі вытрымае печ, то ён нібы пячатку на коміне ставіць, тую яшчэ, старую, войтаву, што цяпер ужо нікому не патрэбная...

Я цярпеў тады, не пераказваў куму тае брыдоты, што пялялі вакол яго.

За гэта і люблю сябе. А я к о г а кума цяпер, пры Гітлеры, маю! Не другі пасля солтыса нейкага пры шляхце, а сам нямецкі войт Картэлісаў і навакольных вёсак. Гутэн таг, пан стараста. Гутэн таг, я ваш кум, Іван Карнялюк, вшыстко [redacted] пожондку (цьфу, дзе ўжо тыя палякі!).

Цяпер мы, Карнелюкі, як у бога за дзвярыма. Нават сам Зянюк нам не страшны. Вось трэба авечку зарэзаць, хай прыйдуць кума з кумою, Зенюкі, Палівадаў намеснік Фёдар Карнялюк, а колькі нашых у паліцыі: Карнялюк Якім, Карнялюк Васіль, Карнялюк Іван — хай прыходзяць...

І Марфа галаву ўжо прадзяўбла мне: кум не заходзіць, бо ты не просіш...

Прыйдзе, Марфа. Толькі я табе пазуху на той вечар дратвай зашыю.

## *Праз 37 восеняў пасля «чорнае серады»*

Іван Мусюк, дзевер Агаты Мусючкі,— высокі жылісты мужчына — звычна пераскочыў праз агароджу летняга хлеўчука, а карова, якую ён пасвіў у лесе, пайшла ў абход і павяла за сабою добра ўкормленае цялятка.

Не здзівіўся, убачыўшы на сваім падвор'і незнаёмага, а здалёк ускінуў руку на прывітанне, кіўнуў галавой — паправіў невялічкую шапку на макаўцы (май васьмідзесятага быў на Палессі няпэўны, па ім блукалі яшчэ рэшткі красавіка, а то і сакавіка) і густым, роўным голасам сказаў:

— Мусюк Іван Грыгоравіч. Пасвіў дагэтуль карову.— Глянуў прыязна і цёпла, быццам мы з ім знаёмыя не адзін год і ўчора бачыліся. Доўгім, на яго рост, пастухоўскім кійком падпірае сваё вострае падбароддзе. Карова не пайшла ў хлеў, а стала каля гаспадара, прытуліўшыся шыяй да яговатоўкі.

— Во, засумавала па кампаніі. Ідзі да цяляці. Зараз Агата з поля вернецца, падоіць.

І толькі ў канцы нашай гутаркі Іван Грыгоравіч Мусюк між іншым спытаўся:

— А вы адкуль? Ці не з Кіева? Можа, павячэралі б з намі? Кіеў далёка, стаміліся едучы. Жонка з Агатаю баршчу вам зварацць. Зараз прыйдуць з поля...

## *Сведчанне Мусюка Івана Грыгоравіча*

«Пра Алёшку Папова, значыцца...

...Папоў Аляксей Аляксандравіч, старшы лейтэнант. З Расіі ён, з Разанскай вобласці, вёска ягоная называлася — дзярэўня Малы Сапажок. Папаў у палон пад Каралеўскім каналам, у Беларусі. Быў у лагеры ваеннапалонных. У першыя дні вайны немцы так верылі ў сваю перамогу, што лагеры ахоўвалі абы-як. Нават можна было прыйсці і сказаць: вунь мой сваяк, было, што і адпускалі. Асабліва калі нешта дасі. Я вам скажу, што ў Ковелі і ў Ковельскім раёне цяперака многа сем'яў, якія так пабраліся тады. У Ковелі вялікі лагер быў. Барыс Міхайлоўскі нават меў думку вызваліць адтуль зняволеных, але нешта ў яго не выйшла, сарвалася перад самым нападзеннем на Ковель. Так было: прыйдзе маладзіца да лагера,

прынясе яек і масла начальніку (толькі не забывайцеся, гэта яшчэ ў сорак першым), нагледзіць сабе палоннага і кажа: ото мой брацік, пусціце, ён ваяваць проці вас не будзе, святы божа сведка — не будзе. Жанкі знаюць гэтакія штучкі. Было, адпускалі. Абагрэецца чалавек, набярэцца сілы і, глядзі, ужо ў партызанах. А пра выратавальніцу не забыўся. Многія пасля вайны ўжо нікуды і не ехалі. Траплялiся, праўда, і такія, што пад падалкам усю бяду і праседзелі. Таго можаце і не запісваць на магнітафон, гэта я толькі вам, маладому, каб ведалі...

Мы забралі Алёшку з тыфусам...

Ага, я ж не даказаў. То з лагера ён уцякаў тройчы. Варта глядзела тады на ўцёкі скрозь пальцы. Маўляў, далей Нямеччыны яны не паўцякаюць. З Польшчы праз Беларусь Алёшка прабіваўся да лініі фронту. Думаў, што фронт недзе тут, побач. А калі даведаўся, што немцы ўжо ўзялі Кіеў, зазімаваў у Картэлісах...»

## *З загада начальніка паліцыі бяспекі і СД*

*«17 ліпеня 1941 г.*

У дадатку я накіроўваю дырэктывы адносна фільтрацыі лагераў, дзе ўтрымліваюцца савецкія ваеннапалонныя. Гэтыя дырэктывы выпрацаваны сумесна з АКВ — аддзелам ваеннапалонных. Каменданты стацыянарных і перасыльных лагераў (шталагі і дулагі) атрымалі паведамленні АКВ.

Прапаную неадкладна выдзеліць лагерам ваеннапалонных, што знаходзяцца на гэтай тэрыторыі, каманды ў складзе аднаго СС-фюрэра і 4—6 радавых. У выпадку, калі для выканання пастаўленых задач будуць патрэбны дадатковыя сілы, пра гэта неабходна паведаміць мне; пры гэтым прашу мець на ўвазе, што органы дзяржаўнай паліцыі не змогуць выдзеліць дадатковых сіл з прычыны абмежаванай колькасці супрацоўнікаў.

Для аблягчэння правядзення чысткі павінны быць выдзелены ў распараджэнне начальніка лагераў ваеннапалонных у 1-й ваеннай акрузе Усходняй Прусіі генерал-маёра фон Гіндэнбурга і начальніка лагераў ваеннапалонных у генерал-губернатарстве генерал-лейтэнанта Гергота ў Кельцах — па адным кіраўніку сувязі.

...Экзекуцыі[1] павінны праводзіцца не ў самім лагеры і не ў непасрэднай блізкасці ад яго; яны тайныя і павінны праводзіцца па магчымасці непрыкметна.

Што ж тычыцца праверкі перасыльных лагераў у новаакупіраваных абласцях, то наконт гэтага будуць дадзены асобныя ўказанні аператыўным камандам паліцыі бяспекі — СД...

Подпіс: Гейдрых.

Засведчыла: супрацоўніца канцылярыі
(подпіс)».

### З дадатка № 2 да гэтага загада:

«...Каманды працуюць на падставе асобых паўнамоцтваў і згодна з дадзенымі ім агульнымі дырэктывамі ў рамках лагернага распарадку самастойна.

...Для ажыццяўлення заданняў зондэркаманд няма магчымасці перадаць у іх распараджэнне нейкіх пасобнікаў. «Нямецкая вышукная кніга», «Спісы па выяўленні месцазнаходжання», «Асобая вышукная кніга СССР» выяўляюцца карыснымі ў невялікай колькасці выпадкаў. «Асобая вышукная кніга СССР» недастатковая, бо ў яе занесена толькі нязначная частка з тых савецкіх рускіх, якіх трэба лічыць небяспечнымі.

Таму каманды дзейнічаюць у меру сваіх ведаў і магчымасцей і на сваю думку.

...Каманды павінны старацца знайсці сярод ваеннапалонных элементы, незалежна ад таго, камуністы яны ці не, якія могуць быць выкарыстаны як інфарматары ўнутры лагера, а ў далейшым у акупіраваных абласцях.

Перш за ўсё неабходна выявіць:

усіх выдатных дзяржаўных і партыйных службовых асоб, асабліва:

прафесійных рэвалюцыянераў,

дзеячаў Камінтэрна,

усіх уплывовых дзеячаў Камуністычнай партыі СССР і арганізацый, што да яе далучаюцца, Цэнтральнага Камітэта, акруговых і раённых камітэтаў,

усіх народных камісараў і іх намеснікаў,

усіх колішніх паліткамісараў Чырвонай Арміі,

---

[1] Так у дакументах фашыстаў маскіраваліся знішчэнні людзей (*заўвага аўтара*).

кіраўнікоў дзяржаўных устаноў, цэнтральнага і сярэдняга звяна,

кіраўнікоў у гаспадарчым жыцці,

савецка-рускіх інтэлігентаў

і ўсіх яўрэяў...

...Экзекуцыі не павінны праводзіцца ў лагеры або ў непасрэдным суседстве з лагерам...»

### *Сведчанне*
### *Мусюка Івана Грыгоравіча (прадаўжэнне)*

«...Зазімаваў Алёшка ў Картэлісах... Спачатку ў суседа нашага... колішняга, а як занядужаў на тыфус — мы яго забралі.

Паверце, сам не ведаю, як наважыўся. Дзеці ў хаце, Агата ў цяжы, дзевяць душ у пакойчыку адным. Агату з дзецьмі ў каморку выселілі... У прас гарачага вугolля натыплем — вось ім і цяпло ўсё. Ведалі, што пахварэем, тыфус — такая зараза, паратунку ад яе няма ніякага. Агату з дзецьмі берaглі...

Алёшка ўсё трызніць, некім камандуе, лаецца на некага. Страшны такі ляжыць, мусілі пастрыгчы яго.

Ужо і не ведаю, што мая маці яму рабіла тады... Прыйшоў да сябе і грушкі сушанае папрасіў. Чагосьці надта ж ігрушкі нашы любіў, ці іх няма ў Малым Сапажку, яго дзярэўні? Не ведаю. Не скажу вам.

Ужо нам усім праяснела: уцёк Алёшка ад смерці. Фельчар Вdespite Варановіч прыходзіў, але чым ён паможа. Тыфус. Барыс-радыст наведваўся да Алёшкі, нешта там гаманілі паміж сабою. Хомка-паліцай, выбачайце, але мы так звалі яго тады, пшана раз прыносіў у клінку, што сыр адціскаюць. Я здагадваўся, што яны нешта зацяваюць, але ўсё шыта-крыта ў іх было.

Алёшка ўставаць пачаў. Я яму свой пінжачок аддаў, Алекса — нагавіцы. І ігрушкі есць. Нічога, абы — ігрушак дайце.

Думалі, абышла нас бяда, а яна толькі прытаілася.

Злегла мая мама... З тыфусам...

Потым усе дзеці падрад...

А пасля — нічога не памятаю...

Прыйшоў да памяці, хочаце верце, хочаце — лайце мяне, а, далібог, бачыў у той першы момант, як смерць з касою за дзверы выйшла.

Над кожным з нас схілялася, а не ўзяла нікога. Алёшка адзін усіх глядзеў, выходжваў.

Сталі мы на ногі, і Алёшка Папоў пайшоў у партызаны. Наведваўся да нас, калі яны яшчэ стаялі ва ўрочышчы Душэліна. Заходзіў ігрушак паесці і аддаць пінжачок, нагавіцы (я і забыўся ўжо пра іх, а ён...).

Па харчы заходзіў двойчы. Давалі, хоць паліцаі ўлетку сорак другога за гэта ўжо расстрэльвалі без суда на месцы.

Усяляк людзі ратаваліся ад смерці ў «чорную сераду» сорак другога, каму як доля выпала. Але як наша Агата ўратавалася — не дай божа ворагу найгоршаму!

Хіба — Гітлеру-паскудзе! Горшага ў родзе чалавечым я і не ведаю...

Той гад глынуў атруту — і няма, Агата ж і дагэтуль... гарыць...

Як я бег з хлопцамі-пехацінцамі да Берліна ў сорак пятым! Не дабег. Другога мая нагу мне перабіла...»

### *Паказанні Карнелюка Якіма Харытонавіча, колішняга паліцая, потым бандэраўца (мянушка — Окунь)*

Суд у г. Ратным, 1959 год. *Роўна праз 17 восеняў пасля «чорнае серады».*

«...Пракурор. Як вы трапілі ў нямецкую паліцыю, падсудны Карнялюк?

Карнялюк. Не знаю... Я нічога не знаю...

Пракурор. На папярэднім следстве вы ведалі. Зачытаць?

Карнялюк. Зянюк і Палівода знаюць...

Адвакат. Падсудны Карнялюк, пры якіх абставінах Зянюк і Палівода загітавалі вас пайсці ў паліцыю?

Карнялюк. Яны выратавалі мяне ад забойства... калі ўсіх білі ў Картэлісах. А тады далі дзесяцізарадную расейскую вінтоўку і сказалі: нашто мы цябе і сям'ю тваю ратавалі? Я думаў, дзесяцізарадная вінтоўка, каб партызаны не напалі на мяне. І ўзяў. Недзе ж трэба было рабіць. А што — дармаедам? Сям'ю трэба карміць...

Пракурор. Колькі вам, падсудны Карнялюк, плацілі за службу ў паліцыі?

Карнялюк. Адразу як навічку плацілі дзевяноста рублёў... ну, дзевяцьсот рублёў украінскімі акупацыйны-

мі карбованцамі. У Роўне пячаталіся, новенькія былі. Паёк яшчэ давалі. Абмундзіраванне, павязку, ленту. Прэміі былі час ад часу, пасля добрых аперацый. Патронаў колькі хочаш. Не лічыліся...»

### *Да «чорнае серады» чатыры месяцы*

— Хай знаюць, што новая цвёрдая ўласць, калі з ёю добра быць, за людзей іх мае,— казаў Хомку Мікола Зянюк і заганяў вялікую, што пранік, руку ў кішэню ў галіфэ, пашытых у Ратным з зямлістага нямецкага сукна. Кішэня была глыбокая, бо калі Зянюк ішоў па вуліцы — ключы і патроны дзынкалі недзе на каленях. Цяпер ажно нагнуўся, каб дастаць штосьці адтуль.— Хай знаюць. На, Хомка, ключы ды адчыні школу. Хай патанцуюць. Галавой адказваеш за парадак. Паскачуць трохі, замкнеш, і каб — орнунг, Хомка, орнунг! — Адчапіў ад вязкі ключоў пляскаты рагачык і кінуў Хомку.— Акружэнцаў пакліч. Няхай патанцуюць на астатку. Ды прыглядайся, ці ўсе ўжо ад'еліся, бо дарога ім далёкая... Няхай патанцуюць. Святая тройца сягоння... Жэня з гасцямі прыедзе...

— А няго ж, і вам адпачыць след, гер камендант. Усё будзе, як сказалі...— І Хомка паглядзеў на яго такімі яснымі і даверлівымі вачыма, што Зянюк не патрапіў рукою з ключамі ў сваю кішэню і яны зваліліся яму пад ногі.

Хомка падбег, падаў ключы і шуснуў у сені.

«Сябра Хомка Канавальчук з вёскі Мацы Кобрынскага раёна, хутчэй да акружэнцаў! Сёння табе можна заходзіць у любую хату. Камендант загадаў сабраць людзей на танцы. Маю права заходзіць, куды мне трэба. Хай сочаць цяпер за мною рабы Якім Карнялюк і сын ягоны Васіль. Хай цягаюцца за мною — загад каменданта выконваю. Во як, сябра Хомка».

Найперш яму хацелася пабегчы да Барыса Міхайлоўскага, але той перайшоў жыць чамусьці на хутар да брата сваёй колішняй гаспадыні Парaскі — да Грыцка Дзем'янюка, які толькі во ажаніўся з Юхімкаю (Барыс зрабіў ім цясовы стол і падараваў на вяселле). А што, калі Зянюк угледзіць? А калі ён сумысля даў такое даручэнне? Не, сябра Хомка, цяпер ты не толькі за сябе адказваеш. Дбай пільна.

Наваксаваў юхтавыя боты, збіў набок фуражку, вый-

шаў за вароты і доўга стаяў, нібы ўзважваючы: у які канец вёскі ісці, а на самой справе паціху зіркаў на вокны, ці не глядзіць з-за фіранкі пільнае Зенюкова вока.

Няма. Гайда, сябра Хомка.

А на танцы такі пазбіралася люду-люду! А чаго ж? Перазімавалі, скаціну, якую па хутарах немцы не падчысцілі, выгналі на зялёную пашу, дзятва на малако перайшла. Пасеялі бульбу і жыта, да баршчу шчаўе падрасло ды крапіва. Твары крыху паяснелі ў старых пад вясну, а ў маладых — кроў зайграла. Усё як мае быць — вясна. Якія некалі карагоды вадзілі на Рынку, пад дубамі,— старыя і малыя прыходзілі паглядзець. Вялікдзень і сёмуха — два вясеннія святы — разгойдвалі Картэлісы, нібы калыску, на цэлае лета хапала радасці.

З пачатку вайны Зянюк і Палівода ўсе гулянкі скасавалі, а гэта ўпершыню дазволілі. Пайду, паспрабую, ці ногі не адвыклі, на людзей пагляджу, мо і на мяне хто вока кіне...

Трэба пайсці, бо ходзіць чутка, што да Нямеччыны будуць маладых забіраць. Пайду, пабачу сваіх, хто ведае, як яно і будзе далей. Пайду.

Танцы былі сумныя. Усе чамусьці хацелі глядзець, як іншыя танцуюць, стаялі па кутках, падштурхвалі адзін аднаго на цэнтр школьнага пакоя, але кожны ўхіляўся — хай хто іншы ідзе першы. Федзя-масковец іграў абы-як, мардаваў гармонік, нібы выганяў з яго нячысціка.

Здавалася, так яны і скончацца, гэтыя танцы, праз сілу замест колішняй хмельнай і доўгай гулянкі на сёмуху.

Ды з гурту выйшаў русявы, статны, з іскрыстымі блакітнымі вачыма, у багатай, на ўсе грудзі вышыванцы Яшка Карпук, якога пры Польшчы мала хто з картэлісцаў і ведаў. Хіба што: а-а, гэта той Карпукоў Яшка, што сядзеў у астрозе... За палітыку, кажуць,— гэта шэптам,— у камуністы пайшоў.

У трыццаць дзевятым Якаў вярнуўся з Бярозы Картузскай. Выбралі яго старшынёй сельсавета, адпрасіўся ў людзей, маўляў, дайце хоць крыху панастаўнічаць, усё жыццё марыў зайсці ў клас настаўнікам. Арганізаваў школу, дзятва за ім чарадою хадзіла. І — на табе! — вайна.

З год не надта і выходзіў на людзі, па начах болей, бо Зянюк хваліўся быў неяк: «Не відаць майго колішняга

калегі па педагогіцы, а так гучна пачынаў пры Саветах. Калі ціха будзе, вазьму ў... паштальёны ці... камінары... Сёй-той пачынаў якраз з гэтага. Але калі Яшка ніжэй травы будзе! Па мой абцас!»

Яшка выйшаў на сярэдзіну кола, трасянуў жытнім чубам, павёў вачыма па дзявочых тварах. Сустрэўся поглядам са сваёю суджанаю Ірынкаю Гераль, міргнуў ёй хвацка і пайшоў да найбяднейшых на вёсцы (нават на свята толькі старэйшая была абута ў маміны пантофлікі, а астатнія басанож) дачок Хрысціны Кухаркі, якія стаялі асобна, зайздросна паглядаючы на дзяўчат, што выхваляліся цярновымі хусткамі, туфлямі на рыпах, зляжалымі, даваеннымі, сукенкамі.

Яшка падышоў да іх, пакланіўся старэйшай, васемнаццацігадовай Ярыне Кухар. Яна запунсавелася, упусціла на дол маленькую вышываную хустачку, не стала яе падымаць (вунь ёсць малодшая — Аксана, хай падбярэ, то ёй і застанецца), выструнчылася, горда закінула галаву і пайшла да Якава. У гурце ажно шолах прабег: хто б падумаў, за год Ярына Кухарка во якая пава стала: як ідзе, як руку Якаву падае, як галаву трымае, а перагінаецца як у таліі, а нагу ставіць!

І Федзя-масковец нібы прачнуўся. Рвануў гармонік, шпурнуў ім пад ногі польку — расступіцеся, бо ногі паадтоптваюць!

Стаў на парозе рабы паліцай Якім Карнялюк:

— Танцуеце? Блох вытрасаеце?

— Мы не табе, Якім, танцуем, а сабе! — адказаў Яшка Карпук і так хвацка акруціў Ярынку, што яна аж цішком войкнула: «Якаве Сілавічу-у-у!»

Рабы Карнялюк падаўся быў уперад, але выйшаў на кола Хомка-паліцай, запрасіў да танца Ірыну Гераль, аж тады адказаў Якіму:

— Сказалі камендант танцаваць, гер паліцай. І за парадак тутака я адказваю. Загад Зенюка.— І закружыўся з Ірынкай, нарачонай Якава, часта наступаючы сваімі вялізнымі юхтавымі ботамі на яе парусінавыя пантофлікі, нацёртыя зубным парашком.

У Якіма яшчэ выразней выступілі прыроджаныя плямы на твары, ён знарок гучна высмаркаўся на парозе, перакінуў стрэльбу на другое плячо і пайшоў прэч.

На сярэдзіну пакоя пасыпаліся пары. Якой дзяўчыне не хапіла хлопца — брала да танца таварышку, Федзя-масковец ірваў гармонік, быццам будзіў яго застаялую

душу. Усхадзіўся пыл з долу, нехта (ці не Ярынка Кухарка) першы засмяяўся — і цяпер толькі пачаліся тыя танцы, якіх чакалі, ідучы на Рынак аж з далёкіх, акружаных палескай непралазнай дрыгвой хутароў.

Федзя-масковец апантана грукаў сабе нагою, ажно ямку ў падлозе выдзеўб, гнаў польку ўсё хутчэй і хутчэй, здавалася, зараз ён сам, знясілены, зваліцца пад ногі танцорам, ды толькі выцірае лоб аб злінялыя, безліч разоў клееныя цыратай мяхі гармоніка, іграў яшчэ шпарчэй.

Стомленыя давалі месца свежым, ахвочым да забавы парам. Хлопцы выскоквалі на двор глынуць свежага паветра і выкурыць самакрутку (а то і высветліць свае кавалерскія справы, падзабытыя за год вайны).

Выходзілі і акружэнцы. Курылі, гаманілі з тутэйшымі хлопцамі пра надвор'е, дзяўчат, пра музы́ку Федзю-маскоўца...

Картэліская моладзь, што падрасла за вайну, вярталася ў цесны пакой, а акружэнцы непрыкметна знікалі ў цемры. Нібыта разыходзіліся ў розныя бакі Картэлісаў, але неўзабаве пераскоквалі праз агароджу могілак і адразу адказвалі паролем на вокліч Барыса Міхайлоўскага:

— Закурыць маеш, хлопча?

— Дам зацягнуцца. У Хомкі-паліцая пазычыў.

— Свой. Падыходзь. Хваста не цягнеш?

— Бясхвосты...

## *Сведчанне Варановіча Міколы Іванавіча*

Беларус. На пачатку вайны быў камандзірам медсанбата 22-й танкавай дывізіі ў Брэсце. Абараняў Брэсцкую крэпасць. Зімаваў у Картэлісах, у хаце камуніста Якава Карпука. Адзін з арганізатараў партызанскага атрада імя Варашылава. Камісар гэтага атрада. Цяпер загадвае 2-й паліклінікай Брэста.

«...У школе былі танцы. Мы, гэта значыць акружэнцы, якія паспелі за гэты час паразумецца між сабою і паверылі адзін аднаму, чакалі нагоды, каб сабрацца і вырашыць: што нам рабіць далей? Сітуацыя была надзвычай драматычная. Усе мы, хто трапіў у акружэнне,— кадравыя афіцэры і салдаты. Вайскоўцы. Прайшлі праз няроўныя смяротныя баі з ворагам, праз палон, лагеры і неаднаразовыя ўцёкі адтуль.

У Картэлісах крыху акрыялі. З болем разумелі, што да лініі фронту нам ужо не прарвацца, далёка...

Я не магу дый не маю права меркаваць пра настрой усіх, хто зімаваў у Картэлісах і на навакольных хутарах. Зразумейце — не ўсім мы маглі даверыць наш план. Было ядро аднадумцаў, якія верылі адзін аднаму.

Мушу сказаць, што Палівода і Зянюк ведалі пра акружэнцаў, аднак спачатку не чапалі нас. Не праз велікадушнасць. Гітлераўцам было не да нас, загадаў з Ратнага не прыходзіла, а Зенюку выгадна было штораз рапартаваць: у «яго Картэлісах» — поўны парадак. Маўляў, яго-ная, камендантава, заслуга.

Ды нам ад гэтага не было лягчэй. Раней ці пазней фашысты возьмуцца і за нас. Так што трэба дзейнічаць.

А тут такі выпадак. Наш сувязны Хама Канавальчук запрашае на танцы...

На могілках нас сабралася чалавек дваццаць. Разводзіць розныя пражэкты і дыскусіі няма калі. Адзіны выхад: арганізаваць партызанскі атрад і ісці ў лес. Калі? Адны: заўтра. Іншыя: няхай пацяплее. І тут выявіўся камандзірскі талент Барыса Міхайлоўскага. З гэтае хвіліны мы ўжо партызаны! Да гаспадароў ніхто не вернецца. Чаму гэтае рашэнне было самае разумнае? А дзе ўпэўненасць, што заўтра пра атрад імя Варашылава не будзе ведаць Зянюк або Палівода? Мы ж ведаем адзін аднаго ўсяго колькі месяцаў.

...З картэліскіх могілак выходзілі ўжо не прыніжаныя сваім становішчам і горкім найменнем «акружэнцы», а байцы партызанскага атрада імя Варашылава.

### *Сведчанне*
### *Булаева Дзмітрыя Яўгенавіча*

Рускі. Колішні партызан атрада імя Варашылава. Жыве цяпер у г. Аркідан Саратаўскай вобласці. На пенсіі.

«У маі месяцы было нейкае рэлігійнае свята, якое — не скажу, і яшчэ вяселле было ў Млыновым, бо мае гаспадары пайшлі на вяселле...

Танцы былі ў хаце-чытальні ці ў клубе... Я не танцаваў, бо не ўмеў... тады.

Якаў Карпук, у якога жыў Варановіч, падышоў да мяне і шапнуў на вуха: ідзі на могілкі. Пароль: «Дам заця-

гнуцца. У Хомкі-паліцая пазычыў». Пароль дакладна помню, бо вельмі баяўся тады забыцца яго.

...Быў Барыс Міхайлоўскі — радыст, Мікола Варановіч — доктар. Якаў Карпук, Мацей Ліхван — гэта з тутэйшых, картэліскіх, палешукоў-украінцаў. Людзей было мнагавата, усіх не прыпомню. Камандзірам атрада выбралі Міхайлоўскага. Камісарам — беларуса Варановіча. Зброі ў нас было 12 ці 13 вінтовак. Дзе іх дастаў Міхайлоўскі, я не ведаю...

Каб ніхто не данёс, вырашылі ў гэты самы дзень, а дакладней — ноч — напасці на картэліскі паліцэйскі гарнізон.

...Успомніў яшчэ... Хомка Канавальчук пажартаваў тады: якраз аддам ключы Зенюку, калі будзем яго браць...»

### *Сведчанне*
### *Канавальчука Хамы Арсенавіча*

Беларус. Колішні партызан атрада імя Варашылава, сувязны, кулямётчык, разведчык, камандзір узвода. Жыве ў г. Харкаве. На пенсіі.

«...Была сёмуха, вяселле ў Млынавым і гулянка ў Зенюка. Я, Хомка Канавальчук, як на свет зноў нарадзіўся, бо хлопцы-акружэнцы мяне за свайго прызналі. А то ж брыдка было людзям у вочы глянуць. Учора яшчэ быў чырвонаармейцам, зубамі горла фашысту перагрыз бы, а цяпер каменданту па гаспадарцы прыслужваю, пісталет чышчу. Увесь час думаў: каб гэта мама мая ўбачыла — не лічыла б за сына...

Дагэтуль не разумею, як мяне «прачытаў» Барыс Міхайлоўскі, што падаслаў сваіх людзей і даў распараджэнне: зблізіцца з Жэняй, нямецкай шлюндрай, нават нібы пазаляцацца, каб выведаць у яе ўсё пра ратнаўскую паліцыю, пра навіны з фронту, пра што гавораць Зянюк і Палівода. Напэўна, браты Пракапчукі яго пераканалі, што я свой. Праз іх, а асабліва праз старэйшага, Арцёма, я і трымаў сувязь з акружэнцамі...

Але — дагэтуль не магу зразумець — чаму мне так верыў Зянюк? Ён жа такі змей хітрушчы, асцярожны — страх, а паверыў. Можаце сабе ўявіць: аднойчы нават увесь картэліскі паліцэйскі гарнізон на... мяне пакідаў. Праўда, адзін вечар я нават «камандаваў» картэліскімі паліцаямі...

Пераказвалі мне, што ён хадзіў у спецыяльныя абла-

вы на партызанаў, каб са мною паквітацца... Так і не сустрэліся...

Да таго, што вы ўжо ведаеце, магу дадаць: у той вечар на могілках былі з намі дзве дзяўчыны-разведчыцы, з тутэйшых. Сашуня Дардзюк і Надзя Краўчук.

Яшчэ скажу: зброю мы бралі ва ўрочышчы Глінянае. Выкопвалі. Там у першыя дні вайны быў зацяты бой з немцамі нашай пяхотнай часці. Дык мы выкопвалі іхнюю зброю...

Неба было на сёмуху зорнае, толькі халоднае, быццам асенняе...

Мне было сказана зайсці ў памяшканне камендатуры, забіць вартавога паліцая, перарэзаць сувязь з Ратным.

А неба халоднае, нібы ў лістападзе, я казаў ужо, здаецца...

Міхайлоўскі даў мне свой пісталет. Пры поясе, пад кашуляй, насіў яго.

З засады, з нявыкашаных леташніх бур'яноў, бачым — глушаць самагон два паліцаі. Ці і прыпомню цяпер... Тады ведаў...

Бадай, Антанюк і Жукоўскі... Імёнаў іхніх не прыпомню ніяк...

Іду. Паднімаюся на ганак камендатуры і думаю, ну от, Хомка з вёскі Мацы, хутка год, як фашысты напалі на тваю зямлю. Ужо год вайны, а ты вось сягоння, на сёмуху, першы раз стрэліш у ворага. Так, супакойваю сябе, бо рука, што ляжыць у кішэні на курку пісталета, калоціцца, што ў трасцы. Баюся заўчасна стрэліць. Няўжо, думаю, яны не здагадаюцца, што іх, гадаў, забіваць прыйшоў? Здагадаюцца, думаю... Але як ужо будзе...

Зайшоў. А адзін з іх (Антанюк ці Жукоўскі — не скажу): «О, міністр культуры Картэлісаў Хомка Зенюкоў... Наравішся ты мне, Хомка». А пыса п'яная, закіслая ў яго. Вінтоўкі ў купе, да бачка з вадою прыпёртыя...

...Другі (Антанюк ці Жукоўскі — не ведаю) шклянку самагону мне падае...

Тут тэлефон зазваніў. Абодва, Антанюк і Жукоўскі, кінуліся да яго. Я скочыў да бака з вадою, дзе вінтоўкі іхнія. І адтуль стрэліў у патыліцу. Каму першаму — не скажу. Антанюку ці Жукоўскаму.

...Тут убеглі Міхайлоўскі, Вaraновіч, Андрэй Ліхван. Міхайлоўскі кіўнуў мне: «Бяры трубку».

Падняў. Слухаю, кажу, дзяжурны Хомка Канавальчук, кажу. Гэта Макавецкі, з ратнаўскай паліцыі званіў,

ці ўсё нармальна ў Картэлісах. Кажу: «Орднунг, гер начальнік!» Кажа: «Нешта я цябе не прыпамінаю, Канавальчук». А я яму: «Ды толькі сёння, на сёмуху, уступіў, з Зенюковай ласкі».— «Маладзец! — кажа.— На днях буду ў вас — падыдзі да мяне пазнаёміцца». Развіталіся. Кладу трубку, а Ліхван дрот нажом — чык і перарэзаў.

...А мне ж да Зенюка карціць... Ключ аддаць...

Акружылі мы яго хату...

...Дагэтуль не магу зразумець, як ён, сволач, выскачыў. Не засталі яго...

...Ганя з дзіцем мне ў ногі: памілуй, Хомачка! Старыя Дудкевічы (дзед і баба Ганны) сталі перада мною на калені: злітуйся!

Дурны я, бо такое сэрца маю... Пашкадаваў, папрасіў Міхайлоўскага і Варановіча... Узялі патроны, колькі гранат, харчу. З адзежы, бадай, нічога... Боты юхтавыя і пінжак я не аддаў...»

## *Сведчанне Лакішыка Васіля Еўдакімавіча*

Украінец. Колішні сувязны партызанскага атрада імя Варашылава. Жыве ў в. Заскросніцы Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. На пенсіі.

«Упершыню я ўбачыў Барыса Міхайлоўскага ўвесну сорак другога, пасля сёмухі... Недзе ў дваццатых чыслах мая, калі я пачуў пра разгром паліцыі ў Картэлісах. Пачуў і пайшоў у партызаны...

Быў ён адзеты ва ўсё вайсковае, пры поясе насіў пісталет. Выглядаў бадзёра. Гадоў трыццаць меў. Залысіны. Нос шырокі, кірпаты...

Пасля нападу на паліцыю ў іх, лепш сказаць, у нас, было чатыры кулямёты Дзегцярова, два аўтаматы ППД, шмат вінтовак дзесяцізарадных. Патроны, гранаты... Варановіч меў многа бінтоў польскіх...

Штодня да нас пачалі прыходзіць новыя людзі, прасіліся ў партызаны.

Міхайлоўскі вельмі стаяў за дысцыпліну. Каб як у арміі ўсё.

Яшчэ хачу сказаць: быў у партызанах з картэліскіх акружэнцаў Паўлуша-кулямётчык. Моцна закахаўся ў Афійку Пішчук — картэліскую дзяўчыну, у яе маці быў на кватэры. Страх як пакахаў. Не пускала яго ў парты-

заны. Плакаў, але... пайшоў. Абяцаў наведвацца. Усё прасіў Міхайлоўскага: пусціце хоць на гадзінку да Афіі, прынясу хлеба свежага. Так прасіўся, што ўсе мы ішлі да Барыса Мікалаевіча: пусціце...

Любіў Паўлуша прыказку: «Вясёлы мароз, рабочы мароз».

Лепш бы мы яго не пускалі. Трапіў у пастку да паліцаяў... Забілі яго ў стажку, дзе ён схаваўся, ідучы да Афійкі...

Ва ўрочышчы Душэліна мы не доўга стаялі. Вучыліся там страляць нават. А тады пайшлі ў Барысаўскі лес суседняга, Дывінскага, раёна...

Хомка Канавальчукварыў партызанскую кашу... усё баяўся, каб не прыгарэла. Так баяўся, што яна... зноў прыгарала... Перажываў, што дзіця...»

### *Сведчанне Мусюка Івана Грыгоравіча (прадаўжэнне)*

«...На сёмуху мы чакалі Алёшку дапазна... Чуем, ужо і моладзь з танцаў паразыходзілася. Думаем, пагуляе яшчэ і прыйдзе. Ажно няма і няма. Мы з Алексам на Рынак выходзілі, пуста. Мама плача ціхенька за кудзеляй, Агата не спіць, у акно выглядае...

А тады раптам страляніна ўсчалася. На Рынку, дзе школа была і камендатура нямецкая. Мы і абселі. Маці тварам у кудзелю ўпала. Агата загаласіла. Дзеці на печ... з кацянём. Усё, думаем — няма ўжо нашага Алёшкі Папова. Не ўпільнавалі мы яго. Што цяперака скажам дзярэўні Малы Сапажок?

Каб жа ж хоць пахаваць яго па-людску... Так тады думалі... Хацелі з Алексам ісці на Рынак. Жанкі ў ногі нам учапіліся. Маці з кудзеляй стала на парозе, дзверы загарадзіла... Ніхто вачэй не заплюшчыў да раніцы. Дзеці не спалі...

На досвітку даведаліся: акружэнцы разбілі гарнізон картэліскі. Ці то пяць, ці то чацвёра паліцаяў забілі. Астатнія разбегліся, пахаваліся...

Хадзіла чутка, нібы Зянюк не паведаміў пра гэта ў Ратна, каб не знялі яго... Такое дапусціў — партызаны ў вёсцы. Але хтосьці сказаў у Ратне...

У абед прыехала ім, паліцаям, падмога. Машыны. Салдаты. Паліцайні ўсякае. Нібыта і з Ковеля былі...»

### *Сведчанне*
### *Канавальчука Хамы Арсенавіча (прадаўжэнне)*

«...Прыбеглі людзі з Картэлісаў... Я якраз кашу варыў. Кінуўся да іх... каша ізноў падгарэла, пакуль слухаў...

Сказалі, што панаехала немцаў на машынах у вёску. Людзі пахаваліся — тыя, чые акружэнцы пайшлі ў партызаны. Зянюк нейкія спісы складае з Паліводам...

Міхайлоўскі вырашыў: ісці ратаваць вёску. Разбіў нас на ўзводы, аддзяленні. Варановіч з групай будзе наступаць ад царквы, Міхайлоўскі — ад ветрака. Маё заданне: з кулямётам падпаўзці чым бліжэй да камендатуры. Сігнал атакі — тры ракеты ў небе...

...Федзя-масковец латаў гармонік... Яшка Карпук вучыўся страляць (пудзіла з фрыцавага фрэнча было ў яры). Пяцёра братоў Пракапчукоў — Хама, Арцём, Максім... яшчэ двух забыўся,— усе пяць пайшлі ў партызаны. Надумаліся падстрыгчыся. Дзе яны дасталі машынку, усе дзівіліся. Чарга дайшла да Арцёма, Пракапчукі смяюцца: вам і так добра, а мы ж роднай матулі на вочы паказацца пойдзем...

Гітлераўцы і паліцаі не чакалі нас. Зянюк з Паліводам частавалі прыезджых. Рабілі выгляд, што разгром паліцыі — перабольшанне. Нават зброю недзе расстараліся. Маўляў, нічога не ўзялі акружэнцы. Забітых паліцаяў пахавалі хуценька, нібы і не было...

Далі мы ім тады прыкурыць... пасля трох ракет у небе. Сярод дня напалі. Забілі некалькіх фрыцаў, многа паліцаяў. Машыны выгналі за вёску і спалілі.

А Зенюка ізноў я не заспеў дома...

...А гэта запішыце: не помню ўжо, хто гэта быў. Хлопец картэліскі... найболей мяне дражніў Хомкам-паліцаем раней. Падышоў да мяне, а гэта ж сярод дня, пазнаць можна, так і так, даруй мне, Хама, я не ведаў... Аддаў мне свой капшук з махоркай... А праз колькі дзён і сам прыйшоў у атрад...

Картэлісцы віталі нас моцна. Абдымалі, пазнавалі, неслі хлеб, сала. Прасілі: начуйце, не ідзіце нікуды... Праводзілі аж за вёску...

...Многа было людзей, вельмі многа, але не ўсе. Не ўсе...»

## *З пратакола суда ў г. Ратным. 1959 г.*

Сведчыць Ленартовіч Фёдар Амяльянавіч, колішні сакратар нямецкай раённай паліцыі г. Ратна.

«Старшыня суда. Які быў прынцып будовы і размяшчэння нямецкай паліцыі ў Ратнаўскім раёне?

Ленартовіч. Раённая паліцыя на чале з камендантам і мною, сакратаром, значыцца... знаходзілася ў мястэчку Ратным. Акрамя раённай паліцыі, у вёсках Картэлісы, Самары, Рэчыцы і Хоташаў былі ўчастковыя паліцыі, якія падпарадкоўваліся каменданту і мне, сакратару, значыцца. Недзе з лета сорак другога... Ага, так... з ліпеня, значыцца, дзень нараджэння быў тады ў Голага, то я і запомніў...

Пракурор *(удакладняе)*. Вы маеце на ўвазе Голінга, маёра паліцэйскага батальёна з Макран?

Ленартовіч. Ага, Голінга, маёра...

Старшыня суда. Далей.

Ленартовіч. Значыцца, з ліпеня сорак другога, пасля многіх нападаў савецкіх партызанаў на картэліскую паліцыю, на самарскую ды і на іншыя, яны былі злітыя з раённай паліцыяй. Жылі тут, у Ратным. Аднак, значыцца, паліцаі тут адказвалі за свае вёскі, часта выязджалі туды наводзіць парадак, каб усё мірна было... значыцца, праводзілі ў жыццё законы, якія нам паступалі ад немцаў.

Старшыня суда. Якую зарплату атрымлівалі паліцаі за службу, якую адзежу насілі? Раскажыце пра гэта дакладна.

Ленартовіч. Ратнаўскія і сельскія паліцаі мелі аднолькавую плату. Жанатыя, значыцца, сямейныя, атрымлівалі на дваццаць пяць працэнтаў больш за халасцякоў. Значыцца, атрымлівалі каля 800 украінскіх карбованцаў, значыцца, рублёў... Каменданты вясковых паліцый мелі больш, чым радавыя паліцаі, а раённы камендант — яшчэ больш. Нават больш за мяне... Недзе з тысячу, можа. Мне гэта вядома, бо я складаў ведамасці на заробленыя грошы. Складаў на ўсіх, акрамя каменданта Данілевіч сам на сябе пісаў ведамасць, значыцца, на машынцы пячатаў. Усе паліцаі насілі сваё хатняе абмундзіраванне, некаторыя, хто хацеў, значыцца, насілі пагоны. Камендант Ратнага і сельскія каменданты насілі пагоны ўвесь час. Данілевіч, а потым Лагвінскі, які прыйшоў замест яго,

насілі пагоны, абшытыя па краях жоўтай стужкай, а сельскія каменданты насілі на пагонах яшчэ тры жоўтыя стужкі. Каменданты мелі ўсялякія вінтоўкі. Акрамя зарплаты, паліцаі мелі прадпаёк, і гарэлку мы ім часта давалі, значыцца, камендант і я, сакратар, значыцца, колішні...»

## *Да «чорнае серады» два месяцы і дзевяць дзён*

Юрген Голінг верыў, што гэтая вайна будзе вельмі кароткая. У ёй канчаткова выявіцца арыйскі геній, які столькі стагоддзяў марнаваў сябе на гадзіншчыкаў, дробных баўэраў, краўцоў, рахункаводаў, муляраў, кволых музыкантаў (нават свет хацелі здзівіць глухім як пень кампазітарам), хатніх палітыканаў. Не завінаваціліся перад нацыяй толькі мацяркі, бо яны старанна і нястомна нараджалі арыйцаў. Маці не вінныя, што іхнія дзеці рабіліся пасля цырульнікамі, асенізатарамі, пекарамі, шахцёрамі, гандлярамі, вершаплётамі, канфідэнтамі. Вінаватая доля нацыі і яе гісторыя. Нічога, чым больш занядадаў мы перажылі, тым вышэй паднімемся, тым разумнейшыя будзем там, на вяршыні.

Праўду кажучы, гэта і не вайна. Гэта ўзыходжанне на вяршыню. Нас, арыйцаў. Драматычнае ўзыходжанне, з ахвярамі, з тысячамі забітых, але ўзыходжанне.

Нацыя наша павінна забыцца на ўсе прафесіі, акрамя адной — арыец. Мы не маем права марнаваць сябе на гадзіншчыкаў, як мой бацечка, на рахункаводаў і прачак, на кратоў-земляробаў і каменяроў. Нарэшце пасля гэтай апошняй (хоць не, канчатковай, а не апошняй! — узрадаваўся з сваёй трапнасці Голінг) вайны мы будзем рабіць тое, што нам даўно належала: быць найвышэйшай расай на зямлі і радасна ўсведамляць: мы кроўныя арыйцы. Гэта наш асноўны занятак, наша жыццё, мэта і прызванне.

А ўся гэтая навалач, што называе сябе рускімі, англічанамі, французамі, украінцамі, палякамі — годзе засмечваць сабе памяць гэтымі дзікунамі! — усе яны будуць цвёрда знаць сваё прызначэнне на зямлі. На нашай зямлі! Мы раз і назаўсёды вызначым іхні, прыдатны для нас кірунак. Французы будуць рабіць нам віно і каньякі. Зрэшты, не французы, а вінаробы. Рускімі зоймецца фюрэр. Ён ужо выказаў геніяльную думку: няхай вырошчваюць неядомыя культуры, лён, напрыклад. Вырошчваеш, а не

з'ясі, жывіся кантраляванаю пайкай. Не будзе пагрозы іхняга размнажэння. Харчамі будзем рэгуляваць іх колькасць, патрэбную нам. І — не рускія, а ільняры ці нешта накшталт. Адным словам, немцам ёсць пра што падумаць пасля перамогі. Неадукаваныя ўкраінцы будуць вырошчваць нам хлеб і сваю ўлюбёную грэчку. Няма ўкраінцаў — ёсць пакорныя дзікуны-грэчкасеі, якія знаюць, напрыклад, што раджаць можна толькі тады, калі нехта ў сям'і памёр. Некалькі бяздарных аўстрыякаў змогуць сачыць за гэтым цалкам паспяхова.

Шкада, што фюрэр не пакіне крыху яўрэяў для цырульніцкай справы... Нічога, навучым гэтаму рамяству чэхаў або палякаў. Столькі тых нацый напладзілася на зямлі, што невядома, ці хопіць усім прафесій. Цікава ж будзе: пад нашым нямецкім наглядам беларусы сварацца з латышамі за шавецтва, за права шыць нам боты.

Юрген Голінг не хацеў адпускаць ад сябе гэтыя думкі, але мусіў. Яго вадзіцель — ссутулены фольксдойч у гадах, у якога часам так бурчыць у жываце, што і матора старога «опеля» не чуваць,— рэзка затармазіў, вылаяўся і адразу ж папрасіў прабачэння ў маёра за самавольную лаянку. Брукаваная траса Брэст — Ковель у гэтым месцы была разварочана выбухам. Юрген адразу здагадаўся, што гэта сталася нядаўна, што тут была перастрэлка з мясцовымі бальшавіцкімі бандытамі (парассыпаныя па траве нямецкія цыгарэты, аблезлая руская пілотка, гільзы...). Ён высунуўся з машыны і ўбачыў у кювеце мёртвага обер-лейтэнанта, які ляжаў, ухапіўшыся задубелымі пальцамі за кусцік крапівы, з-пад кораня якога вылаўзалі мурашкі і па далонях, па руках лезлі ў рукавы мундзіра. Нават не мёртвы обер-лейтэнант, не развернутая выбухам дарога, а мурашкі, што лезлі ў рукаў нябожчыку, у русявыя, раздзеленыя раўнюткім праборам валасы, абдалі маёра агідным страхам. Раптам яму стала холадна, ён зачыніў дзверцы ў машыне. Цяпер ён спалохаўся, што яго хвілінны пярэстрах заўважыў гэты непаваротлівы фольксдойч, у якога зноў загуркацела ў жываце.

Пакуль Голінг суняў сябе, фольксдойч ужо павярнуў машыну назад.

Голінг скінуў фуражку, нібы хацеў выпусціць з яе брыдкі холад, правёў рукою па чупрыне, трасянуў пяцярнёй (паверыў, што на валасах сапраўды выступіў іней) і няпэўным голасам гыркнуў:

— На Макраны! Іншай каманды я не даваў!

Матор сцішыў абароты, праз яго гуркатанне праступіў... ледзь не грукат з жывата шафёра.

Голінг скрывіўся і вырашыў: першае, што зраблю ў Макранах,— памяняю вадзіцеля. А потым падумаў: а куды ж гэтага? Пускаць у лес, на партызанаў? У яго ад хвалявання пачынае так буркатаць у жываце, што рускім бандытам пра пачатак аблавы лепшага сігналу і не прыдумаеш. На кухню! Можа, хоць там ад'есца.

Голінгу ажно сорамна стала, што ад такіх салодкіх, высокіх, годных яго арыйскаму розуму думак, якімі ён упіваўся па дарозе ад Брэста, давялося спусціцца да клопату пра гэтага баязліўца фольксдойча. Спрабаваў ізноў падняцца да касмічных роздумаў, якія найбольш стасуюцца да сапраўднага салдата фюрэра. Не выйшла. Зрабіў яшчэ адну спробу — розум не набіраў вышыні.

Фольксдойч павёў машыну ў аб'езд, праз рэдкае зялёнае жыта, што цыркала малачком аж на чорны капот «опеля». Маёр ухапіўся рукамі за сядзенне і трэцяй спробы не стаў рабіць.

«Опель» ізноў выскачыў на дрогкі брук, і Голінг засярodзіўся на іншым. Зрэшты, яно цяпер не менш важнае маёй вялікай нацыі, дый мне асабіста, супакоіў ён сябе і мімаволі адшпіліў кабуру з пісталетам.

На фронце — там усё ясна. Тэўтонскі геній апошні раз — канчаткова! — пагуляе ў вайну, усе да аднаго арыйцы прыедуць з фатэрлянда паглядзець на Крэмль перад тым, як мы падымем яго ў паветра, і гісторыя пачне гаварыць толькі па-нашаму.

На імгненне Юрген падумаў, што яго розум ізноў «набраў вышыню», але...

З фронтам усё зразумела. Галоўныя падзеі цяпер пачынаюцца за спіною нашага непераможнага вермахта. Тут, у гэтых Брэстах, Мінсках, Кіевах, Луцках... Макранах. Так, менавіта ў Макранах найперш. Трэба перапыніць апошнюю агонію бальшавікоў. Ніякае гэта не супраціўленне, а сапраўды агонія. І з тае прычыны, што апошняя,— асабліва небяспечная. Адчай нельга параўнаць нават са страхам. Іначай нічым не вытлумачыць гэтую іхнюю вылазку на трасу, забойства афіцэра вермахта. Разумная істота адразу зразумела б, што гэта ўсё бязглузда, безнадзейна, іхняя армія ўжо прайграла вайну. Кожны на поўны розум думаў бы пра тое, як выжыць. Схілі галаву і жыві... пакуль што... Так, іх ахапіў адчай. І яны аслеплі ад яго.

І табе, Голінг, выпадае рэдкая місія: ачысціць свет ад ненавісных рэшткаў фанатыкаў, што зграямі блукаюць у гэтых дзікіх нетрах. Ты зробіш гэта ў бліжэйшы час. І ўдзячны фатэрлянд не забудзе пра гэта ніколі!

Маёрава правая рука самахоць вылецела наперад, нібы ён рапартаваў пра заканчэнне сваёй місіі самому фюрэру. Фольксдойч здзіўлена лыпнуў вачыма, і камандзір паліцэйскага батальёна, згадаўшы пра яго прысутнасць, працёр даланёй ветравое шкло. Нібы якраз для гэтага і ўзняў руку.

Аднак хвілінная затрымка яшчэ больш раз'ятрыла думкі.

У яго асабістым лёсе ўсё як мае быць. Нават гэтая смярдзючая кайзераўская бочка Маер не ведае, што ён зрабіў для мяне больш, на што здатны быў камандзір паліцэйскага палка. Ён, напэўна, жарэ з радасці, што пазбыўся мяне са свайго штаба, курыцу, запечаную ў гліне. Гучна чмякае і калупаецца ў зубах, цешачы сябе тым, што занадта рашучага (як на яго, струхлявелага касмапаліта) нацыянал-сацыяліста Голінга справадзіў у самае пекла — камандаваць батальёнам у Макранах. Дзе ж яму зразумець, што якраз гэтага мне і хацелася. Пры святле пекла я лепш буду відаць з фатэрлянда, чым у заплеснелых калідорах штаба.

Вайна кароткая, і за гэты час трэба ўціснуцца ў гісторыю рэйха! Чым лепш! Найэфектней! Уляцець проста з пекла. Няхай з абгарэлымі рукамі і крыссем кіцеля, але з жывым сэрцам арыйца.

Спачатку яго прыгнятала тое, што папярэднік, камандзір трэцяга батальёна з Макранаў Олгафен, апаганіў гонар нямецкага афіцэра. Тубыльныя бандыты напалі на маёра Олгафена, калі ён гасцяваў у каменданта нейкай вёскі. Якая ганьба, партызаны знайшлі маёра (наша форма, нашыя пагоны, наша зброя!) у шафе з паднятымі дагары рукамі. Добра, што штабны афіцэр Голінг паслаў сям'і нябожчыка паведамленне: іхні сын, муж і татка загінуў у баі з бандытамі. Так што Маер думаў, што пасада камандзіра трэцяга батальёна, на якую ён прызначае Голінга, безнадзейна скампраметаваная. У штабе так і кажуць: а-а, Голінг, які стаў у чаргу за... Олгафенам... да бога.

Але Голінг пераканаў сябе: гэта нават добра! Ён прымае батальён, які стаў пасмешышчам усяго пятнаццатага паліцэйскага палка. А Голінг верне батальёну рэпута-

цыю! Спачатку толькі верне, а потым здабудзе славу! Батальёну, палку, войскам СС, вермахту і рэйху! І — сабе, Голінгу.

— Ты вязеш у Макраны старога штабнога радыкулітніка ці баявога афіцэра вермахта?! Гані хутчэй! Цямнее ўжо!

Тонкая, уся ў маршчаках шыя фольксдойча, нібы слімак з ракавіны, высунулася паміж плеч, падалася наперад і напружана замерла.

Машына шпарчэй заскакала па бруку.

Голінг адразу і пашкадаваў, што даў гэты загад, але ж адмяняць яго не стаў.

Найстрашнейшае цяпер салдатам фюрэра — нерашучасць!

## *Даведка з партархіва Інстытута гісторыі партыі пры ЦК Кампартыі Беларусі*

«Партызанскі атрад імя Варашылава. Атрад дыслацыраваўся ў раёне Кобрына, Ратнага, Дзівіна, Чарнянаў, Макранаў, Картэлісаў, Вялікарыты. На працягу кароткага часу (выдзелена аўтарам.— *У. Я.*) атрад разграміў паліцэйскія ўчасткі ў Ратным, Дзівіне (2 разы), Чарнянах (2 разы), картэліскі паліцэйскі ўчастак».

## *Сведчанне Чубарава Сяргея Дзмітравіча*

Рускі. Колішні партызан атрада імя Варашылава. Жыве ў в. Каразьма Котлаўскага раёна Архангельскай вобласці. Настаўнічае.

«...Мы чулі пра існаванне ў лясах, на ўзмежжы Украіны і Беларусі, партызанскіх атрадаў: Барыса-радыста, Барыса-інжынера, атрада Міхайлоўскага і атрада імя Варашылава. Думалі, што ўсё гэта розныя атрады, а калі я трапіў у атрад, выявілася — адзін.

Міхайлоўскі, калі мы з ім разам ваявалі, быў просты, чулы, уважлівы да кожнага партызана і да жыхароў вёсак.

Аднойчы мы натрапілі ў лесе на ўзброеную групу людзей, якія выдавалі сябе за савецкіх партызанаў, а на самой справе адседжваліся па глухіх хутарах. Я тады ўпершыню ўбачыў яго раз'юшанага. «Вас варта аддаць пад трыбунал. Не за бяздзейнасць, а за тое, што вы сме-

еце называць сябе савецкімі мсціўцамі, якія абараняюць родную зямлю ад фашыстаў!» — ледзьве стрымліваючы сябе, крычаў ён. І тыя хлопцы потым няблага ваявалі ў нашым атрадзе.

...Міхайлоўскі дастаў праз сувязных радыёпрыёмнік, і штодня мы ведалі пра падзеі на франтах.

Ён пастаянна падтрымліваў кантакт з партызанскай групай, у якую ўваходзілі жыхары Картэлісаў і навакольных вёсак. Якаў Карпук быў камандзірам гэтай групы. Яго забілі, калі ішоў на хутар Замосце, каб сустрэцца з нашым сувязным...»

## *Сведчанне Мешытбая Хасэнава*

Дагестанец. Колішні партызан атрада імя Варашылава. Жыве ў Дагестане, Магарамкенцкі раён, в. Куйсун. Партыйны работнік.

«Аперацыя на трасе Брэст — Ковель нам удалася. Мы знішчылі адну легкавую машыну, забілі обер-лейтэнанта, які вёз у Кіеў і Берлін (у генштаб) каштоўныя сакрэтныя дакументы: дырэктыву Гітлера пра арганізацыю сельгаспаставак арміі, пра барацьбу са «сталінскімі бандытамі» і тымі, хто ім спачувае. Прыпамінаецца, настаўнік са Смаленска, які ведаў нямецкую мову, пераклаў нам: «Знішчаць без суда і следства». Была там і дырэктыва пра збіранне металалому. Мы ўзялі тады 9 вінтовак, 2 парабелумы, 5 камплектаў адзежы, многа цыгарэт і папярос, некалькі тысяч украінскіх рублёў нямецкага выпуску...

...Былі ў нас страты... Як у мяне — дык згубіў сваю франтавую пілотку. Дагэтуль шкадую, што не вярнуўся тады па яе...»

## *Да «чорнае серады» месяц і адзін дзень і сем смерцяў*

Карнелюкова Марфа прыйшла дадому позна ўвечары. Дзіця ўжо адплакала, адкрычала сваё і заснула, калі яе мужык, крываногі Іван, укруціў у анучку кавалачак хлеба і даў немаўляці пасмактаць. Чакаючы жонку, Іван зглуміў дзве найлепшыя аўчыны — цяпер хіба на кліны пойдуць.

Марфа ўбегла ў хату, і Іван, адурманены кісляцінаю ад скур, пачуў — запахла свежым сенам. Пакуль ішла да

калыскі, убачыў на яе лытках дробныя дрэпкі — ляжала на сене!

— Ой, Іван, якую навіну ад Паліводы я прынесла табе. Нават ляяцца не будзеш, што затрымалася ў сельсавеце з кумам... у яго пакоі,.. пры лямпе...— дастала ў дзіцяці з рота хлебную суслу і палезла рукой за пазуху.— Кум Палівода застаецца цяпер галоўным у Картэлісах. Зянюк са сваім войскам будзе перабірацца ў Ратна. Так немцы загадалі, а кум — ужо мне...

Іван яшчэ раз зіркнуў на жончыны лыткі — рубчыкі крыху расправіліся, яшчэ трохі — і следу не будзе.

Пасоўгаў кароткімі нагамі пад сталом і не стаў казаць усяго, што колькі ўжо разоў моўчкі выгаворваў Марфе, закалыхваючы малое. Час такі няпэўны... А пакуль Марфа мая — Палівода таксама мой. Марфіны лыткі, дарэчы, згладзіліся зусім. І не скажаш...

Дазнаўшыся, што Зянюк з паліцаямі павінны пакінуць Картэлісы, старая Матрона Дардзючка ўпершыню за гэтае трывожнае лета расчасалася каля маленькага аскабалка свайго яшчэ дзявочага люстэрка. Паточаныя густой сівізной валасы збіліся ў каўтун, і раговы грэбень ледзьве прадзіраўся праз яго. Грэбень паціху грэў яе зморшчаную, шэрую даланю, бо Васілёк яго выразаў. З рога даваеннай каровы Сцежкі, якая згубіла яго пад час асенняга загулу, счапіўшыўся з Зенюковым бугаём.

Слава богу, вымятаецца гэтая п'яная навала з Картэлісаў. Цяперака і Васіль мой зможа наведацца з партызанаў. Недзе тут яны, бо хіба ж можна яму ад роднае хаты далёка адыходзіцца, ад роднае мамы? Калі б знала, дзе ён са сваімі таварышамі начуе,— баршчу ды кашы бульбянай аднесла б ім на вячэру, яечак колькі сабрала з-пад адзінай куркі, што хаваецца, разумніца, ад паліцайні ў хмызняках. Ды дзе ж там яго знойдзеш — лес што мора. Павымятаецца гэтае смецце з вёскі (усе ж яшчэ ўчора былі людской брыдотай, а сёння павылазілі... на самыя вочы!), то Васілёк часцей прыходзіцьме да мацнькі. Капульку пераадзець, дроўцаў нашчапаць, сена на сяннік накасіць, таго, што ў садзе, яно з мятай ды з палынком, з крываўнікам...

Матрона расчасалася, закруціла танюткую коску абаранкам на патыліцы, а тады сумна пахітала галавой: у гэтай гульцы валасоў было ці не столькі сама, як у падоле,— гэтак вылезла, пакуль часалася.

Узяла саганок з бульбянымі лупінамі і, насцярожана азіраючыся, панесла яго адзінай курцы на двор...

Стары Мірон Ліхван звечара не гаварыў са сваёй жонкай Ляксандрай. Сягоння ўжо і перазлаваў, але яшчэ маўчаў. Фасону трэба датрымаць, казаў сабе. Учарашняя сварка зноў усчалася праз сына, праз Андрэя, які другі год партызаніць.

Калі Андрэй пайшоў на сёмуху з усімі — плакала. Калі другі раз разбілі камендатуру, занялі вёску і адкрыта хадзілі па вуліцах — не магла ўстаяць на месцы, увівалася каля сына пры царкве, гузік ва ўсіх на вачах прышывала яму да жакеткі, калі зняў ён з грудзей трафейны аўтамат, сухароў у кішэні панапіхала, шнуркі на чаравіках па-свойму завязала. Што ты ёй скажаш — маці.

А з таго часу, як Зянюк і Палівода забралі карову, парася і коніка, жыта з каморы, а на астатку са злосці прастрэлілі Андрэеву фотакартку між абразоў,— Мірон заходзіць у сваю хату толькі на ноч. Якой ужо толькі работы ні парабіў у сябе, у суседзяў, у далёкіх родзічаў, каб толькі не чуць Ляксандрыных хліпаў і неадчэпных просьбаў: пайдзі, Міроне, пайдзі і прывядзі Андрэя да мамы. Хоць на гадзінку! Бо не веру, што жывы... Пайдзі, Мірку!

Учора ён не стрымаўся, гэпнуў аб зямлю паліваную міску, у якую жонка хацела наліць поснага баршчу, і ўпершыню за дваццаць тры гады іхняга жыцця выпусціў з языка пачатак лаянкі. Толькі слоўца, дзеці і не ўцямілі, а яна... Выскачыў на двор, хацеў са злосці ссекчы хворую, здуплавелую яблыню, але пашкадаваў, апусціў сякеру. Пачаў яшчэ драбней секчы нарыхтаваныя на зіму цурбалкі...

Сягоння ўжо і загаварыў бы з ёю. Але фасон хто будзе трымаць? Жонцы толькі папусціся...

У Хрысціны Кухаркі, у Картэлісах ці не самай беднай, але багатай на дзевак, было ў хаце «вяселе». Так маці называла тыя гулі ў пакойчыку, калі ўсе пяць яе дачок (нават найменшая, трохгадовая Оля, якая на рэшата казала «латашо») пачынаюць пырскаць танюткімі хіхікамі і хадзіць на дыбачках, калі хто-небудзь з вясковых хлопцаў зазірне ў іхнюю хаціну ды прынясе з сабою нязвычны тут мужчынскі дух.

Хрысціна некалі наракала на бога, што раз за разам пасылаў ёй дзяўчынку, наракала і на мужыка, асабліва тады, калі ён ізноў хацеў хлопчыка... дзеля прозвішча.

Ды, з другога боку, яно і добра: панашывала адзін раз сукеначак і сачы тады, каб у час перадавалі адна адной, каб не пераношвалі. А цяпер яшчэ выгода: старэйшая, Ярынка, з мамінага пляча блузку носіць.

Але гэта не бяда. Вайна ахвочая да хлопцаў. Адны ў арміі ці ў партызанах, некаторыя, хто пустадомак ці так дурны, у паліцаях, на іншых у Германію спісы, чула, складаюць. А дочкі пры маці. Адна марока — замуж выдаць. Такі клопат... з нашым набыткам...

А сягоння «вяселе» ў хаце. Аж два хлапчукі прыбіліся. Нездарма на тым тыдні кошка цэлы дзень мылася. Так смешна гаворацъ, але па-нашаму. І імёны маюць нашыя — Сцяпан і Валодзя.

Скуль яны? Кажуць — з усходу, з «Пальтавы». Чула-чула, там нібыта галушкі на вербах родзяць, такая зямля тлустая.

Уцяклі абодва з нявольніцкага поезда. У Германію везлі іх. Лясамі, бедакі, балотамі — і да нас. Ды не, дамоў пойдуць.

Няхай мае дзеўкі крыху парагочуць ды з хлопцамі пагавораць, бо здзічэюць за вайну, хто іх тады возьме? Няхай... Але спаць хлопцаў пакладу на гары. А Ярыну? О-о, гэтую пры сабе. Ой, божачкі, вока ды вока за дзеўкамі... Хоць бы аднаго браціка ім... для аховы. Эх, Архіпе, Архіпе, як табе там цяпер, у дамавіне?..

### *Сведчанне Круш Фядоры Лаўрынаўны, даяркі саўгаса «Картэліскі»*

«...Пад абед, во як цяпер. Сонца стаяла якраз напроці гнязда з буслямі — бацюнамі па-нашаму. Я і дзяўчынаю так час пазнавала. Гляну, дзе гняздо, а дзе сонца — знаю.

...Паліцаяў і немцаў аж чорна, так панаехала ў вёску. Легкавая стала пад вароты Зенюковы. Дзеці — туды, паглядзець на машыну. Мне таксама хацелася глянуць зблізу, а сорамна — дзеўка, дзевятнаццаты год...

...Пачалі зганяць усіх на сход. Загад павінны новы чытаць. Усіх зганялі на Рынак, пад царкву.

...Карнялюк Васіль (сын рабога Якіма) знайшоў дзеда Каленіка ў студні. Чысціў дзед яе. Знайшоў і пагнаў на Рынак.

Сабраліся, стаім. Мяне нечага на самы перад выштурхнулі. Стаім, перагаворваемся ціхенька.

9*

Расступіліся людзі. Зайшоў на сярэдзіну нямецкі афіцэр, Зянюк, Палівода...

А тады мы як глянулі — памлелі. Вядуць звязаных... Матрону Дардзючку, маму Васілёву, што пайшоў у партызаны... за ёю... Ліхваноў абаіх: дзядзьку Мірона і цётку Ляксандру, ой... і хлопчыкаў іхніх, меншых за Андрэя, партызана... Міколку і Максімку. А за імі яшчэ двух хлопцаў, не вядомых нікому. Такія, як я тады была, можа, і меншыя...

...Немец прачытаў наказ... Страшны надта... Ярынка Кухарка як загалосіць, а сёстры за ёю...

...Палажылі тых бедных, звязаных, тварам да зямлі. Больш я вам нічога не здолею сказаць... Не магу...»

### *Сведчанне Дардзюка Сцяпана Якаўлевіча, колішняга ўпраўляючага 3-м аддзяленнем саўгаса «Картэліскі», пенсіянера*

«...Бадай, гэта было ў канцы жніўня... ужо пасля спаса, бо мой дзед Сымон сушыў яблыкі... Глухенькі быў дзед, дык паліцай Мішка Гірнік ударыў яго — каб ішоў на сход, бо дзед недачуў...

...Палажылі іх вачыма да зямлі, эсэсавец... высокі чын, я ў іхніх чынах не разумеўся... Маладжавы такі, гадоў сорак, высокі, во, успомніў — з праборам валасы, бо скідаў фуражку і выціраў яе ўсярэдзіне хустачкай... пастраляў іх у патыліцу...

Я, праўду кажучы, не чуў, але людзі казалі — дзядзька Мірон прасіў прабачэння ў сваёй жонкі Ляксандры. Гэта калі па вёсцы да царквы іх вялі. А хіба, скажыце, ім, бедным, было да таго?.. Не ведаю...

Эсэсавец яшчэ дабіваў іх, а Зянюк крычаў: «Так будзе з кожным, хто дапамагае партызанам!» А тады ліслівa: «За кожнага партызана, панове спадары, выданага паліцыі, пяцьсот марак пан афіцэр абяцаюць...»

Расстраляных закапвалі паліцаі, на тым жа месцы. Цяпер там адна з *нашых* брацкіх магіл...»

### *З пратакола суда*

### *ў г. Ратным, 1959 г.*

Паказанні падсуднага Кашалюка Андрэя Якаўлевіча, 1900 г. н. з в. Рэчыща Ратнаўскага раёна. Служыў у ратнаўскай паліцыі, уласнаручна расстраляў каля сотні са-

вецкіх грамадзян. Прымаў удзел у знішчэнні вёскі Картэлісы. Вулічная мянушка Арудзія. Паліцэйская і бандэраўская — Дораш. Быў у бандзе УПА. У момант арышту (1958 г.) працаваў рознарабочым ратнаўскай цагельні, дзе ў 1942 г. уласнаручна расстраляў групу савецкіх грамадзян. Штодня хадзіў там. Апазнаны выпадкова.

«Старшыня суда. Раскажыце, падсудны Кашалюк, як вы ўпершыню выстралілі ў нявіннага чалавека?

Кашалюк. Упершыню я не страляў...

Пракурор. Адразу — другі раз?

Кашалюк. Я не хацеў... *(Змоўк надоўга.)*

Народны засядацель. Але ж стралялі?

Кашалюк. Не хацеў я, не хацеў, прымусілі. Мне выпала тады.

Я раскажу. Гэта ў вёсцы Хоташава Ратнаўскага раёна. Улетку сорак другога я быў і паліцаяў нашых з дваццаць. Прыбылі ў Хоташава. Намі камандаваў камендант хоташаўскай паліцыі Макавецкі Пятро і яго намеснік Дайнека Лук'ян. У абед прыйшлі мы да каморы, дзе сядзелі затрыманыя савецкія грамадзяне. Тады Макавецкі сказаў, што іх трэба расстраляць. Але ніхто з нас не выказаў такога жадання, няёмка неяк было... сярод дня...

Тады Макавецкі знайшоў палку за каморай і сказаў: мерайцеся. Ну, знаеце, як дзеці мераюцца: чыя рука будзе на самым версе — той пабяжыць кароў заварочваць... Так мы мераліся пад каморай. Я не хацеў, каб рука мая — зверху, а яна — зверху...

Тады Макавецкі сказаў: «Давай, Дораш». Іх недзе пятнаццаць выйшла з каморы, самі выйшлі, калі іх паклікалі. Тады Макавецкі даў мне расейскі аўтамат з круглым дыскам. Я не хацеў, прасіў Макавецкага, каб паставіў іх да мяне патыліцамі. Ён паслухаўся мяне і зрабіў так. Я страляў адзіночнымі стрэламі, бо цэліўся ім у патыліцу. З аднаго метра страляў, каб пацэліць...

...Старшыня суда. Следствам устаноўлена, што вы былі ў Картэлісах на першым расстрэле некалькіх грамадзян у жніўні сорак другога. Дайце сведчанні.

Кашалюк. Праўду скажу: быў. Мы прачэсвалі лес пад Макранамі. Камандаваў намі нейкі маёр... я яго тады не ведаў, потым ужо... Не знайшлі нічога, стары паклеены гармонік толькі. Заначавалі ў Макранах, у казарме з нямецкімі салдатамі, хоць асобна нас палажылі, праз перагародку. А раніцай пабудзілі. Кажуць, паедзем у Картэлісы на аблаву... а мне з Картэлісаў бліжэй дадому...

...Акружылі вёску. Было загадана нікога не выпускаць з яе. Ну, і я не выпускаў нікога. Так ішлі мы да цэнтра... гналі перад сабою ўсіх, каго бачылі.

Мы з Кіпенем, сябра мой, таксама паліцай, стаялі каля паповай хаты, трымалі людзей у кальцы...

Вецер быў з нашага боку, то я нічога не чуў, што там гаварыў маёр Гольдрых[1], ці як там яго... а тады пастраляў. Сямёра было нейкіх. Адна баба старая была... укусіла мяне за руку...

П р а к у р о р. Пры якіх абставінах?

К а ш а л ю к. Зянюк сказаў прывесці яе да царквы, бо ў яе сын у партызанах. Мы кажам ёй па-добраму: ідзі, баба! Не хацела. То мы з Кіпенем давай несці яе... за рукі і за ногі. Я нёс за рукі, укусіла. От, за гэты вялікі палец...

С т а р ш ы н я с у д а. Значыць, на гэты раз вы не забівалі нікога?

К а ш а л ю к. Не забіваў, б о г э т а й в ё с к і я н е а б с л у ж в а ў...» (выдзелена аўтарам.— *У. Я.*).

### *Сведчанне Казака Аляксандра Сямёнавіча*

«Зянюк канфіскаваў маёмасць расстраляных, а сядзібы Дардзючкі і Ліхваноў спаліў. Трэба было, каб хтосьці на возе завёз манаткі іхнія ў Макраны. Зайшлі паліцаі да дзеда, Аксенем клікалі... не, прозвішча не ўспомню ніяк, выбачайце. Забралі ў яго коней. Дзед не даваў. Кажуць: тады едзь сам і забярэш свае коні. Паехаў. Там, у Макранах, яго немцы і забілі.

...На дубе, пад якім закапалі расстраляных, потым увесь час варанне ґаласіла...

Яшчэ хачу сказаць: айцец Васілій хацеў арганізаваць з паліцаяў вясковы хор. Як заспявалі аднойчы — бацюшка перахрысціўся і распусціў іх...»

### *Каментарый Наканечнага Уладзіслава Андрэевіча, загадчыка партыйнага архіва Валынскага абкама Кампартыі Украіны*

«Такім чынам, летам сорак другога ў раёне Картэлісаў, Кобрына, Ратнага (геаграфія гэтая досыць умоўная, бо партызаны вымушаны былі пастаянна мяняць месца

---
[1] Голінг *(заўвага аўтара)*.

свайго знаходжання) дзейнічалі два партызанскія атрады. Атрад імя Варашылава, ядро якога складалі былыя акружэнцы, мясцовыя актывісты, выхаваныя гадамі барацьбы за ўз'яднанне з Савецкай краінай. Камандаваў атрадам камуніст Барыс Міхайлоўскі.

На гэтай жа тэрыторыі, але ў асноўным вакол саміх Картэлісаў і бліжэйшых вёсак, дзейнічала мясцовая партызанская група. Яна дапамагала атраду ў баявых дзеяннях, кіраваў ёю картэліскі камуніст Якаў Сілавіч Карпук. Тут трэба ўлічыць адну важную акалічнасць: у Карпуковай групе былі людзі, якія добра ведалі навакольную мясцовасць, у нейкай ступені яны былі «прывязаны» да сваіх сем'яў. Іх тут усе ведалі, і гэта дыктавала ім сваю тактыку: яны маглі хутка растварыцца сярод вясковага люду, калі ў гэтым была патрэба, і хутка ізноў арганізавацца ў баявую адзінку. Яны былі тут, на месцы, як ахоўнікі навакольных сёлаў. Як тыя віцязі-ратнікі, якія ў даўніну далі назву гэтай зямлі — Ратнаўшчына. Значэнне іхняй дзейнасці нельга недаацаніць, зыходзячы з іх магчымасцей. Карпукова група вызваліла картэлісцаў, якіх гналі, каб адправіць эшалонам у Германію. Напалі на паліцаяў, што канваіравалі адабраную ў жыхароў вёскі скаціну, і вярнулі яе людзям. Дзякуючы мясцовым партызанам Картэлісы пастаянна сабаціравалі пастаўкі фашысцкім рабаўнікам. Ёсць факты, якія сведчаць: пра нескораную вёску Картэлісы чуткі хадзілі па ўсёй акупіраванай Валыні...

Атрад Міхайлоўскага (не забывайцеся, што ён быў ваенны) пастаянна манеўраваў у гэтых мясцінах, нападаючы на паліцэйскія ўчасткі ў вёсках: раённыя камендатуры, на фашысцкія калоны, што хадзілі па трасе Брэст — Ковель. Міхайлоўскі задумаў проста-такі дзёрзкую аперацыю: вызваліць вялізны лагер савецкіх ваеннапалонных у Ковелі, перарэзаць важную чыгуначную артэрыю фашысцкага фронту. Ён ужо ішоў у поўнай баявой гатоўнасці на гэтую аперацыю. Уяўляеце, колькі тады ўлілося б у атрад савецкіх афіцэраў і салдатаў... На жаль, партызанская падмога[1] не змагла прарвацца да Ковеля, каб падтрымаць атрад Міхайлоўскага.

Мяркуючы па вядомых фактах, можам сцвярджаць, што Міхайлоўскі меў на мэце стварэнне вялікага парты-

---

[1] Маецца на ўвазе група з партызанскага атрада, які дзейнічаў у раёне Брэста, пад камандаваннем В. Грэбнева *(заўвага аўтара)*.

занскага атрада з суровай ваеннай дысцыплінай, з шырокім размахам баявых дзеянняў. Менавіта таму ў ліпені сорак другога ён аб'ядноўваецца з атрадам Сцяпана Шкаварады, які прыйшоў сюды з-пад Шацка. Уласна кажучы, увосень таго ж года ў партызанскім руху на ўкраінскім і беларускім Палессі наспяваў якасна новы этап: канцэнтрацыя, кансалідацыя сіл для вялікіх баёў з фашыстамі. Я б сказаў, што заканчваўся першы, многа ў чым «самадзейны» перыяд партызанскай вайны і пачынаўся перыяд, так бы мовіць, «прафесійны», з цэнтралізаваным партыйным кіраўніцтвам, з выразна акрэсленай праграмай дзеянняў, з пастаяннай сувяззю з Вялікай зямлёй. Так што аддадзім належнае Міхайлоўскаму: ён прадчуваў гэта. Таму пасля аб'яднання з атрадам Шкаварады яны рушылі ў беларускія лясы, каб уліцца ў партызанскае злучэнне.

Баявая хроніка атрада зафіксавала: 15 жніўня атрад ужо трымаў салоўскі бой. Гэта за добрую сотню кіламетраў ад Картэлісаў, якія яшчэ і не здагадваліся пра сваю «чорную сераду». А яна ўжо выспявала ў фашысцкіх галовах...»

### *Да «чорнае серады» адзіннаццаць дзён. І — адна спроба Хомачкі Гасюка азірнуцца назад*

Гасюк яшчэ перад вайною заўважыў у сабе дзіўную ўласцівасць: яму чамусьці хацелася назіраць за сабою нібыта збоку. Лавіў сябе на тым, што не думае пра тое, *што* яму рабіць, а больш дбае, *як* ён будзе выглядаць, робячы тое ці іншае. Гэта і сапраўды дзіўная, як на вясковага хлопца з глухога хутара пад Картэлісамі, уласцівасць. Селянін кладзецца спаць, дакладна ведаючы, *што* яму трэба рабіць заўтра, прачнуўшыся на досвітку, ён жа думае пра тое, *як* яму найлепш управіцца — з касьбой ці сяўбой, капаннем бульбы ці апрацоўкай лёну. А тут во што найшло на чалавека, ды яшчэ зусім маладога. Ліха нейкае.

Ідзе па хутары. Ногі самі нясуць яго, а ён глядзіць на сябе праз акно кожнай хаты. І бачыць сябе зайздросным вокам: добрыя чаравікі, чыстая кашуля, паголены, дагледжаны маладой жонкай, упэўнены ў сабе.

Прыйшло гэтае пачуццё да яго ў зусім непрыдатны для таго момант. Толькі першы раз ажаніўся — з Гапачкаю, толькі новую хату пачалі ставіць, толькі сынок знайшоўся — памёр хлопчык. Дзела нажыўное, сказаў сабе праз колькі дзён пасля пахавання Хама. Добра, што не па-

мёр пазней, калі ў яго бацькоўскі клопат і перажыванні ўложаны былі б. Дый смерць яму яшчэ не страшная была. Нажывём з Гапачкаю мацнейшых дзетак, калі гэтае такое кволае нарадзілася...

І ўсё было б добра. Ды памерла Гапачка. Прастудзілася, вывозячы гной на поле, і — памерла. За вочы на хутары абгаворвалі Хаму: мог бы і мужык гной вывезці, але так, прама — ніхто. Гапчына маці, праўда, у роспачы спрабавала яго ад труны адштурхнуць...

Таму на могілках Гасюку вельмі хацелася, каб усе бачылі, як ён шчыра бядуе, які ён няшчасны застаецца на гэтай зямлі!

Вось тады якраз і ўбачыў сябе раптам збоку, з натоўпу. З цягам часу глядзеў на сябе як на ўдаўца, потым — як на маладога ўдаўца без дзяцей, а тады — як на маладога (а і праўда, дваццаць адзін год толькі!) прыгожага жаніха, які мае, ну, не дабудаваную, але ж новую хату. І сапраўды хлопец ён быў гожы. І семнаццацігадовая Варачка з самых Картэлісаў закахалася ў яго з такою безаглядною страсцю, што хавалася ў кустах пад плотам, калі Хомачка паблізу цалаваўся са старэйшай дзяўчынай. Яна не бачыла і не чула сваёй саперніцы, бо яскрава ўяўляла, што ўсе тыя словы Хама кажа ёй.

Неяк нават сустрэла яго позняй парою, калі ішоў са спаткання, нібыта вады вынесла, каб напіўся. Тады і разгледзеў яе моцны, любоўна акрэслены месячным святлом стан, ясны твар, цяжкую, што каравай на панскім вяселлі, касу.

Пабачыў сябе з ёю староннім вокам, пазайздросціў сабе. Ажаніўся.

І зайздросціў цяпер увесь час. Варка ажно зацвіла ўся, завіхаецца па гаспадарцы. Хама яшчэ спіць, а яна ўжо чыстую кашулю яму качае (дзе ж, праса не было яшчэ), боты ваксуе, каб як прачнецца — паглядзеў на яе. Цэлы дзень лётае па дворышчы, свіней, курэй, карову, кошку, сабаку, гарод прыгаворкамі ды прыспеўкамі абсыпае. А ўсё дзеля таго, каб Хама глядзеў на яе. Ну няхай разік гляне, і я пабягу свінню карміць ці карову даіць.

— Хомка...

— Чаго табе?

— Так проста.

Узняў свае вочы. «Божачка, якога ж я слаўнага чалавека сабе маю».

— Хомачка, калі ўсё параблю, пойдзем з табою прайсціся па хутары?

— Позна будзе.

— Няхай. Яшчэ лепей, як позна...

— Людзей на дварэ ўжо не будзе. Нашто тады гуляць, калі ніхто не бачыць...

Ці то над ёй час не мае сілы, ці характар такі ў Варкі: ужо дачка Ганна адзінаццаць год мае, сыну Луцку дзевяць, а маме ўсё хочацца з таткам прайсціся па хутары, калі ўсе нармальныя людзі спяць.

І ўсё ж Хомачка Гасюк быў задаволены жонкай, якая яго любіць гэтаксама як і некалі. Нябожчыца Гапачка за адзін год змянілася, а Варка нібы ўчора толькі сустрэла мяне з квартаю вады на вуліцы. Дванаццаць гадоў, а яшчэ з ёю хочацца жыць.

Калі вайна гэтая страшная яе не змяніла, то ўжо такая і будзе. Да канца. Хто яшчэ такую жонку мае? А-а, мае яшчэ Хама Гасюк. Калі глядзіць на сябе збоку...

## *Да «чорнае серады» дзесяць дзён. I — спроба Івана Раманюка азірнуцца назад*

Іван Раманюк упершыню напіўся, аддаўшы крываногаму кажушніку Карнелюку бацькаву авечку за літр жытнёўкі. Напіўся і двое сутак праляжаў на могілках паміж нечымі дзвюма магіламі. Так нудзіла, што траву з гарбочка еў. Там і знайшоў яго бацька. Не сварыўся, бо ведаў прычыну: учора Хомачка Гасюк ажаніўся з Варкай.

Іван думаў, што жыццё ягонае цяпер пакоціцца долу, як воз без коней. Заплюшчы вочы і чакай апошняга ўдару і апошняга болю.

Бацька баяўся, што Іван саб'ецца з тропу, але гарэлка так далася ў знакі сыну тады, на могілках, што і ўспамінаць пра яе баіцца. Глядзеў, каб не налажыў на сябе рукі Іван.

На ўсё лета малады Раманюк наняўся ў Ратнае лесарубам і вярнуўся дадому павесялелы. А пасля вялікага посту ажаніўся з Варчынай родзічкай Філяй, каб з Варкаю можна было тады-сяды сустракацца. На сямейных святах ці хаўтурах нават...

Філя як усхадзілася радзіць яму дзяцей — аж на сёмым хлопчыку толькі ледзьве спынілася, бо вайна пачалася. Куды там, ці і тыя, што ёсць, павыжываюць?

Маёр Голінг шукаў у сабе прачулага сантыменту, каб напісаць Крысціне ліст ужо з новага месца, з самага бандыцка-бальшавіцкага логава, але душа яго, як сам любіў казаць, «зашпілілася на ўсе салдацкія гузікі» — ні варухнецца пад кіцелем, нібы пайшла ў падполле. Нічога, праз колькі дзён выйдзеш, я цябе разварушу.

Голінг паглядзеў у люстэрка і сказаў свайму двайніку маёру Голінгу:

— Ану, паўтары мне яшчэ раз словы нашага фюрэра. Давай: «Той, хто далучаецца да мяне, прызваны стаць членам новай касты. Пад гэтым пунктам погляду згодна з іерархіяй будзе падзелена ўся нямецкая нацыя, пад ёю пласт новых рабоў. Над гэтым усім будзе высока стаяць новае дваранства, якое будзе складацца з асабліва заслужаных...» Гэта паўтары яшчэ раз, маёр Голінг: «Асабліва заслужаных... асоб. Шырокім масам рабоў будзе зроблена ласка — яны стануць непісьменныя. А мы самі вызвалімся ад усіх гуманных і навуковых забабонаў». Дзякуй, маёр Голінг, вы маеце неблагую памяць. А цяпер малітву арыйца і — спаць.

«У цябе няма сэрца, нерваў, на вайне яны непатрэбныя. Знішчай у сабе жаласлівасць і спачуванне — забівай кожнага рускага, савецкага, не спыняйся, калі перад табою стары ці жанчына, дзяўчына ці хлопец — забівай, гэтым ты выратуеш сябе ад пагібелі, забяспечыш будучыню сваёй сям'і і ўславіш сябе навекі». І ўславіш сябе навекі,— паўтарыў, здалося Юргену, увесь панскі будынак, дзе размясціўся яго штаб.

Пахадзіў па пакоі, прыслухаўся да сваіх крокаў. Яму здалося, што яны лунаюць водгуллем па ўсёй, ужо акупіраванай, Еўропе. І гэта ізноў вярнула яго да думкі пра аперацыю па знішчэнні партызанскіх сіл.

Ён ужо прадумаў, краем вока нават бачыў яе. Аднак у нечым Юрген яшчэ заставаўся штабным афіцэрам і ведаў, што там, наверсе, любяць дакладныя, крылатыя выразы. План «Ост»! Як заклік, як удар. Прыдумана ж як было! Акцыя Голінга?.. Няблага, але выкліча ўсмешкі штабных зайздроснікаў. Дый колькі ўжо было тых акцый. Страціцца і стане безыменная... Лідзіцэ — хіба гэта аперацыя? Яна мне... на падпалку. І то ці хопіць?

Ён прутка падняўся на наскі і некалькі разоў прысеў, шырока раскідаючы рукі.

Не, трэба хоць колькі слоў напісаць перад сном Крысціне. Паведаміць новы адрас, бо, калі затрубяць праз пару дзён нашы газеты,— няхай дома знаюць, што маёр Голінг — гэта іхні Юрген...

Трэба напісаць. Вось-вось Крысціна народзіць, і вестка будзе шукаць адрасата ў штабных калідорах Брэста, а не тут, у Макранах.

Ён сеў за свой стол, засланы картай аператыўных дзеянняў яго 3-га батальёна, разгарнуў альбомчык, які спецыяльна на пісьмы падарыла яму ў час апошняга водпуску Крысці, напарфуміўшы сваімі любімымі духамі і наклеіўшы на першай старонцы сямейнае фота Голінгаў, і задумаўся. Напісаць абы-як: «Любыя мае», пералічыць усіх аж да мачыхі? Я — тут, адрас, рыхтую аперацыю... Не, гэты мой ліст не можа стаць гістарычным, яго будуць прасіць у Крысціны газетчыкі. Я не магу так будзённа паўстаць перад сваёй нацыяй! Не.

А як напісаць? Як?

З маленства, калі яшчэ старэйшая сястра Зіта вучыла Юргена пісаць першыя літары нямецкага алфавіта, у яго з'явілася такая звычка: калі не ведаў, як намаляваць «Z» (першая літара сестрынога імені) — пачынаў нервова крэсліць трохкутнік. Біла сястра па руцэ, але яму пасля гэтага яшчэ больш карцела яго намаляваць.

Ужо ў школе, калі Юрген Голінг не ведаў, як рашыць задачку, кантрольную работу сваю ён не падпісваў, а настаўнікі пазнавалі яе па маленькім, густа заштрыхаваным трохкутніку, які стаяў замест адказу ў задачы.

Нават нядаўна, у Брэсце, Маер часта вяртаў яму сакрэтныя штабныя дакументы.

— Маёр, сатрыце свае дзіцячыя малюнкі. Мне абрыдла рабіць гэта за вас.

Голінг ледзьве стрымліваў у сабе абразу, выціраў намаляваны алоўкам трохкутнік і, каб супакоіцца, пачынаў маляваць ізноў. Адзін трохкутнік, дзесяць... сто! Але на чыстым аркушы.

Дык як жа звярнуцца да родных у пісьме?

Удыхнуў знаёмы пах Крысцініных парфумаў, расхваляваўся і закурыў, хоць дзённую, вызначаную ім самім норму цыгарэт выбраў яшчэ а 6-й гадзіне 23 хвіліны па берлінскім, а не тубыльным часе. Левай рукой падтрымліваў цыгарэту, а правая, сціскаючы хімічны аловак, несамахоць рухалася над падсцеленай пад альбомчык карце, малюючы трохкутнік. Рука рабіла гэта без удзелу Юрге-

навай свядомасці. Завучаным рухам вывела правільны трохкутнік і стала штрыхаваць яго ўсярэдзіне.

Юрген дакурыў цыгарэту, старанна праветрыў прасторную памешчыцкую святліцу, пабачыў у люстэрку стомленага маёра Голінга, пашкадаваў яго, кінуўшы спачувальны погляд, і рашуча сказаў сабе: спаць! Заўтра а восьмай гадзіне (па берлінскім часе!) свежым і бадзёрым я павінен зайсці ў кабінет, дзе ўжо будуць сядзець камандзіры рот. Свежым і бадзёрым, Голінг!

### *Да «чорнае серады» тры дні і тры ночы*

Раніцаю пасля жвавай фіззарадкі і галення маёр Юрген Голінг асвяжыў твар цёплым кампрэсам і выпадкова разліў ваду на карту. І на ёй выразна выступіў чарнільны трохкутнік, на ражках якога былі Картэлісы... Баркі... Забалоцце...

*Можа, у Брэсце, Роўне ці ў Берліне знойдзецца хоць адзін чалавек, які жахнецца і адменіць гэтую аперацыю? І тады ў Картэлісаў будзе проста серада. Звычайная серада...*

«№ 44 — Сакрэтна
15-ты паліцэйскі полк — *22 верасня 1942 г.*
3-ці батальён

### *Аператыўны загад пра знішчэнне сёл*

1. 23 верасня 1942 г. батальён знішчае размешчаныя ў раёне на паўночны ўсход ад Макранаў заражаныя бандыцкай заразай вёскі:

Баркі, Забалоцце і Барысаўку.

Рота «Нюрнберг» знішчае Картэлісы.

2. Для гэтага выдзяляюцца:

9-я рота без узвода Фрона з падначаленым ёй жандарскім матаўзводам 16-га палка — у Барысаўку.

10-я рота, і адзін унтэр-афіцэр, і 7 салдатаў штабнога канвою, а таксама 3 шафёры — у Баркі.

11-я рота з узводам Фрона і 14-цю салдатамі бронеаўтамабільнага падраздзялення 10-га палка — у Забалоцце.

3. Роты без падмацавання 22 верасня да 18 гадзін 00 павінны прыбыць у вёскі:

9-я рота — паходным маршам у Дзівін,

10-я і 11-я роты — на сваіх машынах да заходняга выхаду з Макранаў.

4. Падмацаванні падцягваюцца такім чынам:

а) жандарскі мотаўзвод 16-га палка 22 верасня да 18.00 з'яўляецца да камандзіра 9-й роты ў Дзівіне, выстраіўшыся перад будынкам раённага ўпаўнаважанага па сельскай гаспадарцы;

б) адзін унтэр-афіцэр і 7 салдатаў штабнога канвою, 3 шафёры, узвод Шона і 14 асоб бронеаўтамабільнага падраздзялення 10-га палка павінны з'явіцца 22 верасня да 18.00 у 10-ю або 11-ю роты ў Макраны;

в) рэзервы батальёна: рэшткі жандарскага мотаўзвода 15-га палка і 4 радавыя сувязісты.

5. Пачатак аперацыі 23 верасня 1942 г. 05 гадзін 30 хв. Да 04.35 населеныя пункты павінны быць акружаны (знешняе акружэнне).

6. Аперацыю праводзіць згодна з маімі загадамі, дадзенымі пад час абмеркавання абстаноўкі з афіцэрамі 21 верасня 1942 г.

7. Канфіскацыю пагалоўя скаціны, сельскагаспадарчага інвентару, запасаў хлеба і іншага с/г набытку праводзіць згодна з маімі вуснымі інструкцыямі.

8. Для вывазу згаданай у параграфе 7 маёмасці рота павінна арганізаваць абоз з сялянскіх вазоў і падвезці іх на блізкую адлегласць ад месца дзеяння (распараджэнні адносна гэтага дадзены вусна).

Голінг (подпіс)».

## *Паказанні Кашалюка Андрэя Якаўлевіча (прадаўжэнне) на судзе ў г. Ратным*

*Роўна праз семнаццаць гадоў пасля «чорнае серады»*

«Старшыня суда. Вы прымалі ўдзел у знішчэнні вёскі Картэлісы і яе жыхароў?

Кашалюк. А калі гэта было?..

Старшыня суда. Дваццаць трэцяга верасня тысяча дзевяцьсот сорак другога года, падсудны Кашалюк. Хіба вы забыліся? Сёння — роўна семнаццаць гадоў...

Кашалюк. А, другі раз. Тут вы мяне ўжо не падловіце... Тут я нікога не страляў, бо не абслужваў гэтай вёскі (выдзелена аўтарам.— *У. Я.*). Я толькі ў ланцугу стаяў і канваіраваў да ямы...

Пракурор. Падсудны Кашалюк, раскажыце пра гэта суду дакладней: як атрымалі загад, ад каго, як дабіраліся да вёскі?

Кашалюк. Пра гэта раскажу... бо я тутака нікога не забіваў. Немцы самі.

...Дваццаць другога верасня нас, усіх ратнаўскіх паліцэйскіх, сабраў камендант Лагвінскі. У форме ён быў. Калі быў у форме, то мы ведалі — паедзем на вёскі...

Лагвінскі сказаў, каб мы пайшлі і добра паелі і ўзялі з сабою хлеба і сала. Кіпень, ведаю, са мною не еў, яго паслалі ў нейкую вёску збіраць дзядзькоў з падводамі.

Паелі, селі на вазы і паехалі ў бок Картэлісаў, але дарогу на Картэлісы прамінулі і паехалі ў Беларусь, на Макраны. Прыехалі ў Макраны пад вечар.

Забыўся сказаць... Зянюк з некалькімі паліцаямі не паехаў з намі, а ў Картэлісы... Дык ён там і начаваў, бо ў Макранах я яго не бачыў.

У Макранах нас пастроілі перад кантораю шуцбатальёна. Не толькі мы, ратнаўскія, усякія паліцэйскія. Многа, не лічыў, бо многа. З Каменя-Кашырскага былі, з Маларыты беларусы былі... Выйшаў на ганак Гольдрых... ці як там яго, маёр. Агледзеў нас у страі. Лагвінскі даў каманду, каб мы прывіталі маёра, але не паспелі, ён зайшоў у фальварак.

...Недзе з дзве гадзіны мы пабылі ў Макранах, паелі... выпіць, сказалі, дадуць... уночы.

Сцямнела — і нам сказалі садзіцца па вазах. Па дарозе мы зразумелі: едзем назад. Цяпер ужо ў Картэлісы.

...Мы нічога не ведалі. Усё знаў Лагвінскі... але не казаў нам, а мы не пыталіся... і Зянюк усё знаў, гэта ён паехаў туды спісы складаць з Паліводам, каго не біць, а мы нічога не ведалі...

Мужыкоў з падводамі многа ехала, Лагвінскі распарадзіўся, каб сталі ў лесе, накармілі коней, пад'елі самі і чакалі, пакуль іх паклічуць.

Прыехалі мы сярод ночы... Ужо серада была (выдзелена аўтарам.— *У. Я.*). Нешта ж я тады падумаў: серада... Сталі мы там, дзе быў хутар Запакіўе ці Паплыўцы, забыўся. Немцаў яшчэ не было з намі. Холадна было, туман...

Лагвінскі сказаў здаць усе патроны. Здалі. Тады ён даў кожнаму па адным. Сказаў: страляць можна толькі тады, калі будуць на цябе нападаць, а так не страляць у людзей, нават не біць прыкладам нікуды. Сказаў: усіх

жывых гнаць да царквы на сход. Кругом шукаць і гнаць, каб у нас за спіною ніхто жывы не астаўся, ну каб не выпусціць нікога з акружэння. Яшчэ сказаў: немцы будуць правяраць, ці ўсіх сабралі...

...Сталі мы ў шарэнгу, так метраў сорак-пяцьдзесят, не, болей... ці меней, каб бачыць адзін аднаго і чуць, каб ніхто не прабег...

...І пайшлі... холадна было ў сераду (выдзелена аўтарам.— *У. Я.*), і мы нічога не ведалі...»

### *Сведчанне*
### *Гасюка Хамы Тадэевіча, жыхара хутара Порахна Картэліскага сельсавета. Пенсіянер*

«...Не спалася мне ў сераду, ой, нібы нешта шумела, трашчала, гайдалася... Устаў, яшчэ і не развіднела. Устаў... Варка мая ўжо была на нагах, есці, ой, варыла. Меўся я ісці ў Сяльцы Картэліскія, сена мне там солтыс даў на ўкос, карове на зіму...

...Ой, Варка мне казала, пойдзе да маці ў Картэлісы. Паможа бульбу маме выкапаць. Ой, кажу, не ідзі, Варвара, я не пускаю цябе, дзяцей глядзі. Заўтра, кажу, пойдзеш. Нават крута так сказаў ёй: сядзі дома. Паспрабуй толькі пайсці, сказаў я ёй...

Цёмна. Туман, хоць ты нажом крой. Я дарогу знаю. Выйшаў на ковельскі тракт з лесу. Ой, нямецкія машыны. Я назад. Свісток. Цурук! Куды ўжо ўцякаць! Ой.

Немец стары. Шыя доўгая і худая. Трохі па-руску казаў. Дарогу да Картэлісаў знаеш, пытаецца, ой. Знаю, кажу. Тады сядай, кажа, да мяне ў кабіну, пакажаш. Што я мусіў тут рабіць. Сеў, ой.

...Машын многа было, не знаю колькі. Толькі — брызентавыя будкі зверху... Грузавыя ўсе... з салдатамі.

...Скуль я мог знаць, чаго яны едуць у Картэлісы...»

### *Сведчанне*
### *Казака Аляксандра Сямёнавіча (прадаўжэнне)*

«...Я праз сцяну хаты пачуў — татахкаюць падводы ў лесе, на дарозе. Пачуў і прачнуўся апоўначы. Дарога на Картэлісы тады была не гэтая, што цяпер, а лесам, праз наш хутар Даліна. Я і падумаў: ці не партызаны вярнуліся да нас? Я пайшоў, пашмараваў свой воз, пачаў проса таўчы ў ступе...

...Восень была надта сухая. А ні кроплі са жніўня. С е р а д а пачыналася павольна вельмі, праз туман... А тады і машыны паехалі. Я падбег бліжэй да дарогі. Але ж было пылу за імі! Спераду ехаў «опель». Дванаццаць машын я налічыў. Можа, і не ўгледзеў нейкую. Пыл і туман... С е р а д а» (выдзелена аўтарам.— *У. Я.*).

***Сведчанне***
***Дардзюка Пятра Аксенцевіча,***
***капітана міліцыі ў адстаўцы, жыве ў Картэлісах.***
***Яго кветнік мяжуе з адной з брацкіх магіл***
***сучаснага мемарыяла.***

«Мы тады жылі на хутары Запакіўе. Малы я быў. Толькі выкараскаўся з тыфусу. А калі быў тыфус, то немцы і паліцаі патрабавалі, каб на дзвярах было пра гэта напісана. Дык нехта з нашай сям'і, вялікая была сям'я, калamaззю напісаў, здаецца, проста на сцяне драўлянай: «Тыфус». Я ўжо ачуньваў, але радня не сцерла надпісу. Пэўна, не было калі: бульбу пачыналі капаць, жыта сеялі на зіму.

Я ляжаў яшчэ зусім слабы ў с е р а д у. Тата з мамай падсцілалі скаціну ў хляве. Раптам нейкі гвалт усчаўся на двары. Чую: «Сход», «На сход». А дзядзька мой Міхайла Васілевіч кажа камусьці: «Тыфус у нас, тыфус». Тата з мамай не выйшлі з хлява, дзядзька Міхайла гаварыў з імі, тыфусам палохаў. Таму яны з пярэпалаху і не зайшлі ў хату, дзе я ляжаў, ні ў хлеў, дзе былі нашыя тата і мама. А дзядзька Міхайла пайшоў. Як цяпер бачу: зайшоў у хату ўзяць каптур, бо як жа на сход і без каптура?..»

***Сведчанне Карпук Сафіі Ануфрыеўны.***
***Жыве ў в. Даманаве Картэліскага сельсавета.***
***Пенсіянерка***

(Скажа некалькі слоў, загалосіць. Выбежыць з хаты, выплачацца. Заходзіць. Толькі збярэцца расказваць — ізноў выбягае.)

«...На хутары Годынь, на ціхім нашым хутарочку, жылі мы тады. Ёсіпка, мужык мой, у сераду рана ўстаў. Гупгуп цэпам за хатаю, жыта малоціць...

...Я фартушком аперазалася. У печы запаліла. Бульбу наставіла свінням варыць, каб не крычалі, бо мы на цэлы дзень у поле пойдзем. З дзецьмі. Любе было 7 гадкоў, Олі — 9, а Настачцы ўжо 12 было.

Бачу, людзей гоняць вуліцаю, ад краю хутара. Нічога не зразумела, сэрца мне: уцякай з дзецьмі. Я да Ёсіпкі: уцякайма, сэрца мне кажа. А ён: гуп-гуп цапком на таку...

Я за дзетак. Паверыце — траіх іх падняла адразу. У клуню, паміж снапоў з жытам...

Чую, паліцаі гавораць з Ёсіпкам. А ён цэпам: гуп-гуп, гуп-гуп. Ужо не гупае. Відаць, паліцай у яго цэп выхапіў. Чую: «Ану, на сход. Важны ўказ будуць зачытваць, трэба, каб усе былі, нават тыя, што сёння толькі вылупіліся на свет. Усіх збірай». А Ёсіпка ім: «Няма, у поле паехалі». А адзін: «Зараз усіх прывядуць з поля».

Забралі Ёсіпку і павялі, чую. Настачка мне: «Мама, я пайду з татам». Не паспела яе за ручку ўхапіць... Выскачыла з клуні, ад грудзей маіх адарвалася і пабегла за таткам... на сход... Вельмі любіла круціцца, дзе людзей многа. Чула я яшчэ: «Тата, пачакайце мяне...»

А сэрца маё, чую, грудзі праб'е мне. Гэтых дзвюх трымаю ўжо штосілы...

...Ціха стала на хутары, аж страшна... Я за дзяцей — і ў карчы, да возера. Гляджу адтуль на хутар, а па двара паліцаі з немцамі. Яшчэ людзей шукаюць. Бачу, у нашую клуню зайшлі, у хату. Адзін выйшаў ажно сюды, пад карчы. А я ж над возерам, куды ж мне ўцякаць з дзецьмі. Калі б сама — кінулася б у ваду і ўтапілася. А дзяцей на каго кіну? З дзецьмі не скочу ў ваду.

Ён пахадзіў па карчах, выбачайце, а так было, прысеў у карчах — толькі стрэльба відаць... а тады пайшоў да тых... А цяперака я выдыхнула паветра, дзецям роцікі адкрыла, бо далонямі была заціснула,— каб не заплакалі...

...Падвод наехала многа. У наш двор двое калёсаў. Сталі ўсё выносіць з хаты, карову пагналі...

...Адна курыца аж да нас, да возера, даляцела...»

### *Сведчанне Кухар Хрысціны Купрыянаўны. Жыве ў в. Картэлісы. Пенсіянерка*

(На досвітку, удзень, увечары, нават уночы — колькі разоў я праходзіў ці праязджаў каля яе хаціны — увесь час яна глядзіць у акно. Выглядае некага. А вочы ледзь-

ве бачаць. Намацала маю руку і не адпускала ўвесь час, пакуль гаварыла.)

«...Нарадзіла іх пяцёра... Лёгка радзіла... Пяць пальцаў на руцэ.

Спалі мае дзеўкі ў с е р а д у... Не будзіла ў той дзень рана. Ярынка прачнулася: «Мама, вы паляжыце, а я пайду карову падаю». Чаго я не паслухалася яе? Пашкадавала...

Пайшла сама карову даіць, за хлявом трымалі карову, бо паліцаі забяруць. Даю, у тумане ледзь знайшла тую карову. Даю, а сама грэюся яе цяплом. Холадна. Туман, што вата, стаяў — сябе не чуеш...

Нясу малако ў хату, зараз дзяўчат напаю. З сенцаў ім гукаю: Ярына, Агата, Аксана, Ксеня, Оля! Якая першая ўстане — тая першая замуж выйдзе! Так я іх будзіла. Усе ўраз падымаліся. А тут — ціха. Зірк — чаравікаў маіх няма ў сенях. Ярынка абула і выбегла некуды.

Я ў хату. Палок пусты. Я на двор. Дзіцё нечае бяжыць па вуліцы: «Цётачка, вашых дзяўчат на сход пагналі, і вы ідзіце». Падумала-падумала, не пайду, Ярына ўжо дарослая, запомніць, што скажуць немцы і Палівода...

...Выганю карову на пашу і стану есці дзеўкам варыць. Галодныя ж прыйдуць...

...Оля, найменшанькая, коціка з сабою ўзяла на сход...»

### *Сведчанне Дардзюка Сцяпана Якаўлевіча (прадаўжэнне). Жыхар Картэлісаў. Пенсіянер*

(Ён мае такія чыстыя і ласкавыя блакітныя вочы, нібыта ад дня нараджэння і да гэтага часу толькі тое і рабіў, што глядзеў, як цвіце валошка. Унукі і суседавы дзеці ўвесь час лезуць яму на калені, на плечы — ні разу не кышнуў на іх. Сядзім пад грушаю — адзіным дрэвам, што засталося ад дзедавай сядзібы. Адкурыць трошкі цыгаркі і патушыць. Ізноў запальвае, каб сказаць: «Ядавітая гэтая «Прыма», у вочы заходзіць». Я ж бачу: не ад дыму вочы хустачкай выцірае. Не ад дыму...)

«Пра першы расстрэл я вам казаў ужо. Цяпер пра другі. Вельмі рана ўсталі таго дня, у с е р а д у. Тата, мама, дзед, баба, дзядзькі... Мама есці варыць, тата бізунчык плятуць, бо недзе згубілі стары. Світаць пачало... Мама глянулі ў акно: «Немцы нас акружылі!» Мы да вокнаў,

а мама па ваду пайшлі, каб дазнацца, чаго нас немцы акружылі. Мы праз акно за імі сочым. Немец не хацеў, відаць, каб з пустым дарогу яму перайшла. Смяецца. Набралі вады, нясуць. Ён стаіць і смяецца. Напіўся вады, з вядра, нахіліўшы. «Васэр гут!» Рукі памыў, з вядра проста. Смяецца: «Сход, матка, сход!» А ці і не маладзейшы за яе... «Маткаю» назваў. І пайшоў. Я да акна прыліп. Бяжыць адтуль, з канца вёскі, таварыш мой, аднагодак — Астап Дардзюк. На вечарынках, у дзяўчат быў цэлую ноч. Спыніў я яго. Кажа: вёску акружылі немцы і ідуць да цэнтра ланцугом, метраў пяцьдзесят адзін ад аднаго ідуць. І людзей усіх гоняць. Кажу: заставайся ў мяне, удвух будзем.

Глядзім: ужо праз Лапаху гоняць людзей, як скаціну, пыл з-пад ног... Мусюк Палажка ўпіраецца, ісці не хоча, а паліцаі нагамі яе, нагамі. Жанкі дзяцей маленькіх нясуць на руках. Дзеці не крычаць — маткі плачуць. Забілі ўсю вуліцу людам. Многа хто і абуцца не паспеў, босы ідзе на сход... Колькі падвод было, старых бабаў, якія хадзіць не могуць, Мартося Сілічка, Вусця Чубіха... на падводах вязуць на сход...

Ужо да нашай хаты люд набліжаецца. Кажу маме, тату — не пойдзем, схаваемся. Мама: вы з Астапам схавайцеся, а нам нічога не зробяць, і дзеду з бабай нічога. Усе ж вунь ідуць...

Мы з Астапам хуценька залезлі ў стажок сена за стаенькаю. Зайшлі паліцаі з немцамі на двор, забралі маму, тату, бабу. Я казаў ужо — дзед Сямён глухі быў. Два разы прыходзілі па яго, аж калі стрэльбу прыклалі да грудзей руляю — пайшоў. А людзей усё гоняць, гоняць, а тады радзей пайшлі — гэта ўжо тыя, каго падчышчалі ў пустой вёсцы.

Гоняць, гоняць, а мы з Астапам думаем: калі гоняць — сход яшчэ не пачаўся...

...Жанчыну павезлі на возе, крычыць, за жывот схапілася, схваткі ў яе пачыналіся. І так мне зрабілася... ажно сена ў рот напхаў, каб не закрычаць...»

### *Пасля «чорнае серады» трыццаць восем гадоў. І — адно існаванне Івана Карнелюка*

У Картэлісах усе мяне папярэджвалі: і не ідзіце да яго, і не гаварыце з ім — не скажа нічога: можа з двара выгнаць, вунь там яго хата, з краю... Ніхто каля яго і не

будуецца. Але — не ідзіце, тут з газет прыязджалі, калі адкрывалі мемарыял, хацелі з ім пагаварыць... Праз акно глядзеў на іх, але нічога не казаў, і дзверы былі замкнёныя. Праўда, ведае ён многа, старэйшыя людзі, нябожчыкі ўжо, казалі: тое, што ён бачыў, ніхто не мог бачыць. Але — не скажа, забярэ з сабою ў магілу.

А я не мог паехаць з Картэлісаў і не меў права брацца за пяро, не пагаварыўшы з Іванам Карнелюком. Пасля шматлікіх маіх спроб сустрэцца...

Са старых, перагнілых ужо дошак Карнялюк выдзіраў іржавыя цвікі, невядома дзеля чаго выпростваў іх, хоць яны ўжо і ў зямлю не палезуць. Стаяў на каленях, падклаўшы пад іх кавалак старой аўчыны.

У мяне і дагэтуль не загаіліся пальцы ад той работы-дапамогі. Ясна ж: я быў без магнітафона і нататніка. Памяць лавіла кожнае яго слова. З каленяў так і не ўстаў, хоць некалькі разоў памагаўся. Так што —

### *Сведчанне Карнелюка Івана Давыдавіча. Колішні кажушнік, спявак царкоўнага хору, падзячы і дзяк (у часы акупацыі)*

«...Чуеце? Нас тожа тады, бадай, серада была, узялі, як і ўсіх. Узялі — чуеце? Мяне ўзялі, Марфу маю, чатырох сыноў маіх узялі, сястру маю Варвару ўзялі і пяцярых яе дзетак узялі, як і ўсіх. Не цырымоніліся: на сход, і ўсё! Пытаеце, чаго кум Палівода Андрыян не заступіўся? Не было яго тутака, сваімі справамі займаўся ў сельуправе.

...Гоняць... Дзеці Варчыны бягуць, а мне цяжка — бачыце, якія ногі маю, урадзіўся з такімі. Адстаю ад гурту нашых, а немец нават крыкнуў на мяне, хутчэй ідзі. Стараюся, а ногі нікчэмныя.

...Прыгналі да людзей мяне. І сям'ю маю. Да людзей! Чуеце!..

Мае ўперад пайшлі, а я ззаду, каб не патапталі мяне, столькі люду... Я нічога не бачыў, што там, у цэнтры, бо ззаду стаяў, такія ногі маю, не бачыў праз галовы... Спіны людзей бачыў — чуеце?..

...Перакажчык [1] пачаў называць прозвішчы. Назваў — выходзь з сям'ёй. Думаў, што на загубу выклікаюць. Хоць бы мяне называць не сталі. Чую, сям'я Карнелюка! Але —

---

[1] Перакладчык (мясцовае).

Якіма Окуня, паліцая. Выйшла. Калі Якімавых паклікалі — не на загубу, думаю. Чаго ж мяне прапусцілі? Паліводы нешта не відаць...

...Назвалі і мяне! — чуеце?! За людзьмі я, за людзьмі і стаў, дзе ўсе названыя стаялі. І сыны мае каля мяне. І Марфа. Тады яшчэ нікога не стралялі. Адсюль я ўжо бачыў добра...

Машыны нямецкія стаялі. Немцы спірт пілі з біклажак. Рукавы закасвалі... Ямы выкапанай яшчэ не было. Кулямёты не стаялі. Толькі людзі стаялі. Хто на руках дзіця трымаў, хто аж на плечы ўссадзіў. Нейкая жанчына з хутароў, не ведаю, хто яна, карміла дзіця маленькае зусім, каб не плакала, ад немца адвярнулася, саромелася.

Нас было па гэты бок Рынка душ з паўсотні, тых, каго адабралі па спісе. Немцаў таксама, як і нас,— з паўсотні. Можа, на вёсцы яшчэ іх было колькі, не ведаю. Паліцыі — чорна!

Пытаеце, каго яшчэ выклікалі? Родзічаў усіх паліцаяў... айца Васілія, мяне... Чабатара [1] Цецюка Нічыпара з жонкай. Набралася мнагавата. У кожнага паліцая родзічы, сям'я. Спіс быў ужо гатовы.

Называлі і Сямёна Ліхвана. Тры разы ажно называлі, а ён нешта не выйшаў да нас...

Завялі ў хату, яна стаяла там, каля першай справа магілы, як з майго двара глядзець цяперака. Вокны завесілі анучай, каб мы не бачылі, каб праз акно не глядзелі. Поўная хата. Старыя, маладыя, дзеці. Далі нам цэбар, калі каму на двор будзе трэба, цэбар далі. Адзін на ўсіх — чуеце?

...Дык мы нічога не бачылі, бо вокны пазавешваныя. Толькі чулі: маторы вельмі раўлі і праз маторы: та-та-тата і зноўку: та-та-та-та...

Айцец Васілій усё маліліся, каля іх я стаяў... Прасілі айцец: «Маліцеся, людзі, маліцеся...»

Тады толькі падумаў: а В а р в а р у, с я с т р у, з д з е ц ь м і я з а б ы ў с я ў з я ц ь з с а б о ю. Можна было ўзяць, а забыўся... з пяццю дзецьмі, пляменнікамі маімі...

...Гадзіны са тры ці чатыры: та-та-та-та, і маторы равуць.

---

[1] Шавец (мясцовае).

...Тады сказалі нам: выходзьце з хаты, што можаце, кладзіце на вазы, едзьце ў Ратнае.

І павязку нейкую на рукаво кожнаму, каб немцы не чапалі.

Ямы капалі не людзі, а самі паліцаі. Мелкія былі ямы — недзе на метр, не глыбейшыя. З аднаго краю людзей б'юць, а з другога паліцаі яшчэ яму капаюць...

...Шкада, Варвару забыўся з пляменнікамі...

Дождж пачаўся. А яны кажуць: едзьце ў Ратна... Змокну, думаю, а з маім здароўем, самі ведаеце...

Падышоў я да немца, афіцэр, я так па пагонах пазнаў, і каманды ён даваў, прашу яго, на ногі свае паказваю. Тады яго перакажчык мне: аставайся, але на золку каб цябе тутака не бачылі.

...Начаваў я ў Картэлісах, а многія паехалі зразу. Апошнюю ноч начаваў у сваёй хаце...

...Лічыце, што і не спаў...

...Чаго я Варвару не ўзяў з сабою... Сястра родная...

...Марфа мая памерла потым, як і першая, Сашуня...»

Іван Раманюк, у якога Хомачка Гасюк адбіў дзяўчыну, паехаў у поле з а ў т о р к а н а с е р а д у. Філя прасіла: начуй дома, з раніцы паясі гарачанькага, сагрэеш душу ды паедзем удваіх, Іване. Чаго табе гібець на возе? Ночы сцюдзёныя ўжо, агню не распаліш, каб якая навалач не налезла на цябе ўночы (не дай табе божа агонь класці!).

Не, Філя, пакуль ты тут нашых семярых вераб'ёў (Сафія Ануфрыеўна Карпук кажа, што Іван сваіх дзяцей называў «вераб'ямі», а часам — «верабейчыкамі», як калі) пакорміш уранні, я ўжо воз бульбы накапаю і прывязу. Тады і цябе забяру.

Філя не любіла яму пярэчыць. Паехаў.

Звечара задрамаў напаўвока на возе. Конь хрумаў сенам, пырхаў паціху — хукаў на гаспадара цяплом, таму і спалася. А калі конь лёг адпачыць на зямлю, Іван змёрз пад пралыселым у многіх месцах кажухом — крываногі Карнялюк блага паправіў. Прачнуўся — атосаў у тумане не відаць.

Сам капаў ямкі, калі бульбу садзілі, цяпер на тых месцах і выкопвай, там яна і сядзіць, дзе ты яе пасадзіў, падахвоціў сябе і, каб сагрэцца, намацваў кусты перасохлага бульбоўніку, заганяў пад іх рыдлёўку.

Калі стала шарэць над лесам і прарэзаліся з туману

верхавінкі сосен, пазбіраў бульбу ў мяшкі. Падвода была не поўная. Яно-то і лепш, бо ў каня правы задні капыт трэснуў.

Едучы пад лесам дадому, трошкі задрамаў. А чаму б? Конь дарогу ведае. Не першы раз.

Так і на хутар заехаў. Бульба толькі з зямлі, цяпло мае, а цяпло чалавека на сон хіліць.

Аж калі конь пад варотамі сваімі стаў — Іван прачнуўся і саскочыў з воза.

От, каб учора не паехаў — і я з імі, вераб'ямі, дагэтуль пару ў столю пускай бы. А так ужо воз бульбы дома. Няхай паспяць.

Не спяшаючыся насіў мяхі ў склеп.

Калі гэта баба Салавета з бур'яноў вылазіць з лыжкаю ў руцэ. Твару няма — толькі вочы ды сівыя пасмы. Без хусткі і без твару...

Гаварыць не можа. Ледзьве ўшалопаў: на сход пагналі ўсіх... і Філю, і семярых сыноў...

Вецер данёс з Картэлісаў роў матораў і кулямётныя чэргі.

Іван Раманюк ускочыў у хату.

У печы гарыць.

На стале міска з гарачым баршчом і сем лыжак...

— Верабейчыкі-і-і!

І вылецеў на двор. З Картэлісаў зноў заскавытаў кулямёт.

Праз гароды, праз дрыгву, праз апусцелыя картэліскія дворышчы, між паліцаямі (адзін нават хацеў не пусціць, бо загад: не ўпускаць нікога таксама!) Іван Раманюк бег на людскі енк і плач.

Ён ужо бег вуліцаю.

Голінг убачыў яго. Прыцэліўся: хай падбяжыць бліжэй...

### *Сведчанне*
### *Гасюка Хамы Тадэевіча (прадаўжэнне)*

«...Калі заехалі яны ў Картэлісы, ой. Куры, паверце, пералятаюць з месца на месца. Скаціна ходзіць па вёсцы. Дым сцелецца з каміноў... Сабака кінуўся машыну за кола ўкусіць...

...Прыехалі ў цэнтр.

...Паліцаі нешта ўжо капалі рыдлёўкамі...

Немцы павыскоквалі з машын. Дасталі кулямёты, скрынкі з патронамі... Я толькі тое бачыў, што відаць з кабіны, праз шкло. Шафёр выйшаў, а я сяджу, нічога мне не сказана.

У хатах, якія я бачу з кабіны, вокны пазавешваныя знадворку чорным. Дзверы замкнутыя, ой, зачыненыя, паліцаі стаяць каля вокан, дзвярэй, на кожным рагу хаты стаяць...

Крывы немец паставіў кулямёт, навёў яго на дзверы, ой.

Матора немец не заглушыў, гыркае матор. Ваду заліў у яго шафёр, гэты, мой, з якім я прыехаў сюды. Афіцэр яго клікаў ф о л ь к с д о й ч а м, здаецца. Худы, шыя доўгая, пярсцёнак на пальцы. Я куру беспярастанку — у роце чорна...

Ужо ўбачыў — гэта яму паліцаі капаюць... Немцы каля яе кулямёт ставяць і наводзяць на тых паліцаяў, якія капаюць. Думаў, паліцаяў будуць біць, ажно не...

Шафёр сеў у кабіну... да мяне. Даў машыну назад, пад самую хату з вокнамі, чорным пазавешванымі, пад'ехаў... Сядзіць у кабіне...

...Паліцаі сталі ў два рады, калідор зрабілі ад самага парога да ямы, шырокі, метраў з дзесяць, і доўгі — да ямы...

...У кабіне ў немца фотакартка была, жонка з дзвюма дочкамі...

...Павялі калідорам пяць чалавек... Знаёмыя, але не помню, ой... Нічога далей не помню... Дайце закурыць мне...

(Паўза. Доўга не можа трапіць цыгаркаю ў рот, дрыжачымі рукамі не можа запаліць запалку.) Шафёр як зараве маторам, як зараве, бо кулямёт забрахаў каля ямы... ой.

Ізновака вядуць пяцёх... Ізновака раве машына, каб кулямёта ў хаце не чулі...

...Вядуць і вядуць мужчын, хлопцаў... Горача ў кабіне, пара з матора ідзе...

...Тры немцы, што адстраляліся, на крыле машыны нашай... п'юць з біклажкі і вадою запіваюць, ой.

А што я мог тутака зрабіць? Самі разумееце...

Думаю, гэта мужчын картэліскіх забіваюць, каб у партызаны не ішлі, бо ўсё маладых, здаровых з хаты выводзяць...

І мяне заб'юць пасля іх... бо і я ж малады, здаровы, ой...

Я ўжо бачыў, што толькі картэліскіх б'юць, але я тут, то заб'юць і мяне... Бачу, нікога не шкадуюць...

...Божачка! Ой! Жанок павялі. Па дзесяць — пятнаццаць, як калі.

З дзецьмі! Дайце яшчэ закурыць... (Паўза. Ківае галавой сваёй дачцэ, каб адышла яна ад нас, каб не слухала...)

...Пяць выйшла, відаць, сёстры, найменшая з кацянём. Прыціснула да грудзей, а яно драпае яе, пішчыць. Старэйшая рукамі іх закрывае, як мама...

Павялі... ой...

А матор раве, фотакартка ў кабіне падскоквае...

А-йё-ой! Матка боска! Варвару маю ў гурце вядуць! Мая...

У той спадніцы, што з раніцы была. Хуста яе... на руцэ... Шукаю каля яе вачыма Ганну і Луцка, дзяцей... Чужыя ёсць, маіх няма. Варвара, ой.

...Капшук з тытунём выпаў у мяне з рук... І розум пайшоў ад мяне...

Шафёр паглядзеў, што капшук мой упаў, газуе.

Думаю, без мамы застануцца Ганя і Луцко, то хоць з татам будуць.

...Варвара моўчкі ішла... хуста праз руку... дзіця чыёсьці каля яе...

...Я ж ёй казаў! Не ідзі! Не ідзі ў Картэлісы ў сераду да мамы. Ой! Казаў жа: «Заўтра пойдзеш... у чацвер...»

...Стала на секунду і вачыма над Картэлісамі правяла... Толькі вочы яе ўбачыў...

...Пытаецеся, ці яна мяне ўгледзела? Не, я ў кабіне сядзеў, цяжка было ўбачыць...

...Дзіцятка чыёсьці ўзяла за руку... пайшла...

...Я ўжо нічога больш не бачыў. Розум у мяне прапаў...

...Не ведаю, колькі тое было. Шафёр мяне вярнуў да свету, па плячы ляпнуў...

Калідор паліцаі знялі ўжо... Дзверы ў хаце насцеж...

...Немцы вадою кулямёты студзяць... Ходзяць вакол ямы, дастрэльваюць...

...Кацянё пабегла ад ямы... чырвонае...

...Кажу шафёру: ці біце мяне, ці пусціце да дзяцей...

...За жывот ён трымаўся нешта... у кішках у яго бурчала...

...Пайшоў ён да афіцэра, нешта гаварылі... ой.

...Хлопчык выскачыў з ямы, уцякаў... паліцай з вінтоўкі яго...

...Прыйшоў шафёр. Кажа: жыві!

...Паліцаі яшчэ двух хлапчукоў аднекуль прынеслі... кінулі ў яму. Забілі. Ой.

...А там, дзе цяпер лясніцтва Картэліскае, немцы сабе ўжо абед варылі...

(Позна ўночы пайшоў я на тое месца, якое паказаў Хама Тадэевіч. Ад магілы да двара лясніцтва толькі... сорак сем маіх крокаў. Памераў яшчэ раз — ужо ад лясніцтва да брацкай магілы — пяцьдзесят шэсць крокаў...)

Кухня ўжо даўно стаяла... Абед быў гатовы... Сталі рукі мыць, ручнікі свае падаставалі... Паліцаяў тут не было... асобна елі... Стралялі яшчэ па вёсцы, па хутарах... То там, то там стралялі, ой.

Шафёр даваў мне булкі, я не ўзяў, не палезла б мне ў рот... Вады папрасіў... Даў. Выпіў я, бо смага пякла... Тут і званітавала... шафёр смяяўся з мяне...

Мёду аднекуль, з нейкай хаты, прынеслі... Мёд елі, смяяліся. Сталі ў чаргу да кухара свайго... Акуратна сталі ў чаргу, адзін за адным... Шафёр мой апошні быў...

Пайшоў некуды... Прынёс мне нейкую анучку на рукаво... Прывязаў... Даў закурыць, кажа: ідзі да дзяцей, бо без гэтага — на павязку паказаў — пук-пук...

...Ага, фольксдойчам яго клікалі немцы... Ён нікога не забіваў, толькі маторам роў...

...Пайшоў я дадому, ой! Між вазамі ішоў — столькі падвод панаехала ў Картэлісы. Усіх сагналі, хто коней меў... Ужо рэчы, збожжа, скаціну вывозілі... Ратнаўскія, сяльцоўскія, млыноўскія, макранскія, ляхавецкія, восаўскія, дабрасоўскія — пазнаваў многіх, а многа і чужых было, не знаў іх...

...Прыйшоў дадому, сеў пад хату, зайсці ўсярэдзіну ўжо не магу, плачу...

...Тата Тадэй прывёў дзяцей маіх і... Варварыных з лесу. Прыгарнуў я іх да сябе: сіроты ж вы мае... ой...»

### *Сведчанне*
### *Круш Фядоры Лаўрынаўны (прадаўжэнне)*

(З усіх цяперашніх сядзіб у Картэлісах яе, даяркі саўгаса «Картэліскі», новая, яшчэ недабудаваная хата найбліжэй да Вечнага агню мемарыяла. Два левыя акны ўдзень ловяць сонца, а цэлую ноч — водсветы Вечнага

агню. Калі глядзець упачы ад помніка, здаецца — толькі Фядора не спіць у вёсцы, акно яе свеціцца. Доўга не мог сустрэцца: прыйду на досвітку — ужо пайшла на ферму, зайду прыцемкамі — яшчэ няма... Няйначай адзіноты баіцца, уцякае ад сябе да людзей. Замуж так і не выходзіла. На абліччы і дагэтуль сляды не сцёртай часам красы. Што б ні рабіла на падвор'і — паглядае на Вечны агонь.)

«Што ўчора было — не ведаю, а тады, у сераду,— усё помню, нібыта яно сягоння зранку сталася...

Мама звечара на Беларусь пайшла, за бычка адрабляць да родзічаў. Я за маму засталася ў хаце, дзевятнаццаць мне тады было, казала ўжо вам пра гэта. Тата Лаўрын, два браты і тры сястрычкі — усе меншыя ад мяне... (Плача і глядзіць на Вечны агонь.)

...Хлеб мама замясіла, а я на досвітку пячы пачала. Усунула ў печ, няхай пячэцца. Праз акно бачу, сусед наш Васіль Ліхван каня павёў на пашу. Хлеб пячэцца сабе. Бацька ўстаў.

Сусед Васіль Ліхван бяжыць з канём назад, крычыць нам: «Вёску немцы акружылі». Тата дзяцей пабудзіў. Мы ж тут, у цэнтры, жылі, вунь тамачкі, праз дарогу. Бачым: людзей гоняць вуліцаю. Паліцаі з немцамі ў двор наш заходзяць: на сход! На сход! Бацька кажа: «Дык я пайду, а ты з дзецьмі і хлебам аставайся». А малыя Кірылка, Нікан, Святланка, Ганя: «Мы з татам пойдзем, бо страшна без таты аставацца».

Я за печ схавалася. Паліцаі ў хату зайшлі, хлеба з печы гарачага дасталі, а яго ж гарачага есці няможна, кішкі пакруціць. Ядуць. Няма тут нікога, кажуць. Яшчэ бохан дасталі. Татавы боты адзін абуў. Пайшлі.

Думаю, і мне трэба ісці, яны ж хлеб мой елі, то не зробяць мне ліха. Нічога пра расстрэл не казалі. Пайду, адзенуся толькі...

Злезла з печы — ізноў ідуць паліцаі...

Як ускочыла на гарышча — сама не ведаю, без драбіны. Там ужо суседзіха Агата Ліхван з дзіцем, Даркаю, сядзела (Дарка ў Харкаве цяперака жыве). Ляжым, не дыхаем. Доўга ў хаце былі паліцаі, хлеб елі, і бульба ў мяне была вараная...

Пайшлі...

Ціха стала, страшна...

Я снапок выдзерла, каб паглядзець, што ў свеце робіцца.

Цётка Агата адцягвае мяне ад дзіркі, а я, ведаеце, нібы прыкіпела...

...Не магу расказваць, бо бачу ўсё, як было... (Плача.)

...Некаторыя хацелі ўцячы, калі вялі да ямы. Даганялі і расстрэльвалі, а тыя яшчэ на калені ўставалі і прасіліся...

...Баба Хрысціна Цвіруха ўпала з унукам на калені... так і забілі іх...

...Нейчы хлопчык быў з драўляным — цацка — аўтаматам... Немец узяў яго на рукі. Я думала, пагуляцца, ці што, хоча з ім... Кінуў хлопчыка ў яму...

Падвода пад'ехала... Некалькі старых баб на возе. Штурхаюць іх рулямі, не злазяць, не могуць. Сталі некалькі паліцаяў, перакулілі воз у яму...

...Дзяўчынка кінулася ўцякаць ад ямы... Яны па ножках яе кулямі... Мама хоча падысці, памагчы, яны — па маме...

...Тры дачкі Васіля Гірніка абдымалі тату са страху... Так і паваліліся... У дзядзькі Васіля пад бравэркаю ўнучак быў, немаўлятка. У яме ўбачылі... дабілі...

...Галовы, рукі з ямы падымаліся...

...Хоць бы слоўца было пачуць!.. Нешта ж казалі на развітанне, наказвалі нешта нам!.. Маторы лямантуюць, і страляюць бесперастанку... каля царквы, каля школы... у пяці месцах людзей білі, нібы змагаліся, хто хутчэй скончыць біць...

...Жывых скідалі ў ямы з вадою, дзе гліншча было. Тут, дзе курган цяперака насыпаны і агонь гарыць... скідалі. Яны, бедныя, захлынаюцца вадою, а іх б'юць з аўтаматаў... Вада чырвоная з ямы выцякае, бо кідаюць і кідаюць дзяцей, бабаў... Вада чырвоная аж сюды, дзе цяперака агарод мой, цякла... ручаінкаю...

...Бацяны з гнязда на дубе адляцелі на досвітку і не вярнуліся больш... хоць вырай яшчэ не настаў. А пасля вайны ізноў селі, хоць дуб абгарэў і не рос болей. Ён і цяпер стаіць там... сухі...»

### *Сведчанне Кухара Сцяпана Якаўлевіча*

(Яго, рабочага саўгаса «Картэліскі», часта запрашаюць выступіць: то перад школьнікамі, то перад экскурсіямі ў музеі, то на мітынгах. Таму гаворыць складна, роўна, нават завучана, хоць жонка Філя часам і падказвала

яму. Я выслухаў тое, што Сцяпан Якаўлевіч расказвае «ўсім». А тады пачалі з самага пачатку, з падрабязнасцямі. Жонка Філя ўжо не ўключалася ў размову...)

«...У гэтым кутку вёскі (Астрыўем зваўся) толькі Кухары жылі. Кожная хата — з Кухарамі...

Баба Хрысціна Кухарка, у яе пяць дачок забілі, вунь, праз хату, жыве. Цяперака ўсялякія жывуць, а тады — толькі Кухары...

Тата Якаў, мама Марыя, старэйшая мая сястра Варвара, я, меншы брат Іван. Мне было дванаццаць тады. Маміна маці з намі жыла, Матрона, баба мая...

...Тата, мама і Варвара ў с е р а д у, цемнатой яшчэ, паехалі бульбу капаць. Праз туман паехалі. Я меўся карову з цялушкай пасвіць, але не гнаў — няхай туман абсядзе, баяўся карову згубіць у лесе або цялушку — бацька біць будзе. Нашто ж мне, каб бацька біў?..

Выйшаў да варотаў паглядзець, ці не гоніць хто карову на пашу, то я б да яго прыстаў. Ніхто.

Два паліцаі ідуць. Адзін кажа: «Дай капачкі нам». Кажу: «Няма таты дома, я без яго нічога не знаю». А другі: «Партызану дык даў бы...» — і абазваў мяне пагана.

Я ад яго ў хлеў схаваўся. Іван малы выйшаў, гукае, не адзываюся. Ён знайшоў мяне ў хляве, Іванка малы. Лезе да мяне ў жолаб.

Нехта з бабай Мотраю гаворыць...

Зайшла баба ў хлеў... Убачыла Івана, мяне не ўбачыла. Да малога: «Я табе зараз схаваюся, на сход хадзем, а то Яшка карову пагоніць, а ты тутака сам наробіш мне бяды, хату запаліш, я цябе знаю».

Баялася, каб Іванка хату не спаліў... Чаго яна баялася — не знаю...

...Іван упіраўся, што той бычок, якога я на пашу гнаў. Дала яму па задніцы і павяла.

У суседа, таксама Кухара, забіралі ўсіх з куткоў. Бачу праз дзірачку: ізноў паліцаі прыйшлі. У хату глянулі. Зайшлі. Выйшлі. Адзін бабіны пацеркі на пальцы круціць, другі жуе нешта... У хлеў, да мяне ідуць.

Селі на жолаб, дзе я ляжаў... на край жолаба. Адзін: «Тутака пуста, хадзем у другі двор». Сказаў і палез у жолаб, дзе я быў. Ну і схапіў мяне. Узяў за вуха і павёў да ўсіх.

Ды мяне баба Мотра забрала і насварылася, што я старэйшых не слухаю...

Павялі нас, увесь куток Кухараў. Іван трымаецца то за бабу, то за мяне...

Паліцаі ні разу не стрэлілі. Нібыта ім далі толькі па патроне. Калі б далі больш, яны б тутака расстраляліся і людзі паўцякалі б, а так на сход ішлі, ніхто і не баяўся, бо не раз хадзілі на тыя сходы...

Думаю, мяне тут пратрымаюць да абеду, а карова з цялём будуць галодныя, што мне татка скажа?

Нарэшце адчынілі дзверы. Паліцай з парога: «Не памерзлі тут?! Бо на дварэ холадна...»

Узяў пяць чалавек, кажа: «Ідзіце, свежага ветру дыхнеце...» І зачыніў дзверы... І маторы моцна загудзелі, стралянiны не чуваць было. А можа, я аглух?

Загналі нас у хату паліцая Карнелюка Хвядоса. Цесна, я на адной назе стаяў. Людзі быццам нямыя, ніхто і слова не сказаў, ці гэта я тады аглух?

...Усё прыходзяць і бяруць, бяруць людзей...

Ужо нам вольна ў хаце стала. Іван есці захацеў, баба цыцкае на яго. Ужо можна хадзіць па хаце, а ніхто не ходзіць. Так і стаяць...

Нас павялі. Баба, я, Іван малы, яшчэ людзі. З дзесяць. Вядуць, а Іван есці просіць у бабы...

Падышлі да ямы... а ў ёй людзі крычаць, дыхаюць яшчэ, варушацца... тыя, што былі з намі ў хаце... Я бачыў, бо тварам да ямы нас паставілі... Івану перахацелася есці, а я і не хацеў... старэйшы ж ужо. Баба кажа: вось мы і наеліся, дзеткі, ужо не захочам...

...Я нечага аглянуўся. Бачу, немец, кульгавы такі, нешта ў аўтамаце ці кулямёце напраўляе, заела ў яго нешта... Думаю, а карова з цялём не на пашы. І — уцякаць, каб карову напасвіць яшчэ да вечара. У нас тады хлопчыкі без штаноў хадзілі, дык лёгка было бегчы. Выстралілі па мне і не пацэлілі. Тут возікі, абоз цэлы, едуць. Я паміж коньмі, між вазоў — у чараты. Праз ваду, балота, імшарыну — дадому.

Хуценька выгнаў з хлява карову з цялём і пагнаў да лесу пасвіць...

...Там людзей нашых напаткаў. Тату, маму, сястру Варвару. Два тыдні ў лесе жылі...

А на другі дзень пачалі крайнія хутары паліць, дык мяне ўссадзілі на самую высокую хваіну, каб пагледзеў, ці гараць Картэлісы... Не відаць было... за дымам...

...А баба Мотра баялася, каб малы Іван не падпаліў хату...»

### *Сведчанне Гірніка Васіля Кірылавіча*
### *Жыве ў в. Сяльцы Картэліскія Картэліскага сельсавета*

З вечара «чорнае серады» 1942 г. — інвалід.

«...Усе, хто меў коней у Сяльцах, паехалі... Загадалі ў абед, 22 верасня, накарміць коней, падмазаць калёсы, вупраж паправіць, узяць харчу, бо на вечар паедзем у картэліскі лес на нарыхтоўку дрэва. Думаў я тады: як бы адкруціцца? А стараста сялецкі, Андрэй Грыцэвіч, нібы адгадаў мае думкі: пальцам на кабуру сваю паказвае. Ну, паеду, гэта ж дрэва вазіць. Нават узяў сякеру, вяроўку...

Мы паехалі ўжо за паліцаямі і за немцамі ззаду, абозам...

За Млыновым доўга стаялі, каманды не было, што нам рабіць. Коней карміді, пра ўсякае гаварылі. А мне цяжка нешта! Як перад смерцю. Есці не хачу, сусед чарку наліў — не выпіў...

Тады спераду каманда пайшла, з пачатку абозу: едзем! Паехалі...

На беразе Картэлісаў стаялі яшчэ паліцаі, размяркоўвалі нас, куды каму ехаць...

...А ад воза да воза пабегла: «Картэлісы ўжо выбілі ўсе, нікога ўжо няма». У мяне тамака радні многа... было...

У цэнтр вёскі мяне паслалі: у які двор хочаш — у той заязджай і кідай на воз усё, што бачыш, а тады скажам: у Ратне ці ў Макраны...

Страшна мне, а дзе падзенешся — паліцаі ўсюды... Думаю, усё адно людзей пабілі, чаго будзе дабро прападаць. Іду, як і ўсе...

Пад'ехаў да Рынка, а конь як упудзіцца, як панясе мяне з возам...

...І праваліўся ў яму... і нешта гарачае і ліпкае заліло мне твар. Правёў рукою — кроў людская...

...Не знаю больш нічога...

...Адказалі мне тады ногі, спаралізавала мяне...

...Прывезлі дадому, і ляжу ад таго... Ні разу не ўстаў...

...Час для мяне тады як спыніўся, так і стаіць... Так і стаіць...»

## *Са справаздачы камандзіра роты «Нюрнберг» обер-лейтэнанта Глюкса камандзіру батальёна маёру Голінгу*

«...Аперацыю па знішчэнні бальшавіцка-партызанскай вёскі Картэлісы і хутароў правёў, поўнасцю прытрымліваючыся вашага загаду і вусных наказаў...

23 верасня 1942 г. у 04 г. 35 хв. Картэлісы з хутарамі былі акружаны знешнім ланцугом з паліцэйскіх. Каб не выклікаць выпадковай панікі — выдаў паліцэйскім толькі па адным патроне. Загадаў: усіх гнаць на цэнтр вёскі на сход. Я трымаўся так спакойна, што мой спакой перадаваўся падначаленым і ахвярам, і гэта забяспечыла поспех аперацыі.

...Ланцуг акружэння звужаўся, меншала адлегласць паміж пастамі, і я вызваліў частку паліцэйскіх для падчысткі недапрацовак першай лініі. У выніку мне ўдалося захапіць і канваіраваць да месца расстрэлу ўсіх жывых з Картэлісаў і з хутароў. У с і х, б е з в ы к л ю ч э н н я (тут і далей у справаздачы выдзелена аўтарам.— *У. Я.*).

Прыхаванне сапраўднай мэты збору насельніцтва стала надзейным сродкам: насельніцтва верыла ў тое, што яму будуць чытаць загад, да апошняга моманту. Замкнуў насельніцтва ў царкве, школе, прылеглых да цэнтра будынках, толькі тады выдаў камандзе паліцэйскіх далакопаў рыдлёўкі.

Паставіў лёгкія кулямёты на зручнай пазіцыі. Да кулямётаў паставіў вопытных, правераных мною салдатаў, якіх мяняў праз кожныя 30 хвілін.

Расстрэл праводзіў у пяці месцах адначасова, глушачы кулямёты гукам аўтамабільных матораў. Спачатку расстраляў маладых мужчын, якія маглі супраціўляцца. Расстрэл жанчын і дзяцей праходзіў без аніякіх ускладненняў...

Б о л ь ш а с ц ь ж ы х а р о ў в ё с к і т р ы м а л а с я г о д н а.

Яны не зналі, што іх чакае, і ішлі с п а к о й н а насустрач сваёй цалкам заслужанай долі, якая ў выніку нечыстаты іх сумлення зусім не стала для іх нечым нечаспадзяваным...

Расстрэл пачаўся у 9.00 і закончыўся ў 16.25 таго ж дня. Ваш загад выкананы поўнасцю, ён выконваўся без

ніякіх адступленняў, падрыхтаваныя мною меры выявіліся цалкам эфектыўнымі.

Рота «Нюрнберг» страт не мае. Адзін шафёр пасля выканання загаду захварэў на прыступ гастрыту. Знаходзіцца ў санізалятары батальёна. (Ці не фольксдойч? — *У. Я.*)

Выдаткавана патронаў: 4 тыс. 321 (чатыры тысячы трыста дваццаць адзін). Адзін кулямёт патрабуе рамонту ў выніку празмернага перагрэву.

Обер-лейтэнант Глюкс».

Час і свет у гэтым часе існуюць вечна. Асобны чалавек заўсёды часовы. Адна з найбольшых і найтрагічнейшых радасцей чалавека — ён разумее, што жыве часова. Таму чалавек імкнецца жыць штосілы, нарадзіць дзяцей, пабудаваць ім жытло, перадаць свой вопыт. Тады час набывае сапраўдную чыннасць, становіцца часам жыцця людзей.

Калі за сем гадзін і дваццаць пяць хвілін абрываецца жыццё дзвюх тысяч васьмісот сямідзесяці пяці чалавек, калі ў кожным з іх памірае мінулае, сучаснасць і будучыня, калі агнём выпальваюць сляды іхняга жыцця на зямлі (гарэлі хаты, хлявы, азяроды сена, сцежкі, студні гарэлі, сады, крыжы на могілках, кветнікі, масткі і кладкі праз балота, птушыныя гнёзды, і зямля нават картэліская гарэла!) — скажыце: існуе на гэтым нясцерпна гарачым кавалачку свету час? Калі існуе, то кім яго мераць, для чаго ён існуе?

Што рабіць з часам, калі цэлых пяць стагоддзяў можна забіць за сем гадзін і дваццаць пяць хвілін, калі пяць стагоддзяў Картэлісаў можна спаліць за пяць дзён (дваццаць восьмага верасня яшчэ дагаралі царква, вятрак і могілкі)?

Аднак...

Тыя картэлісцы, якія засталіся жывыя, людзі з навакольных лясных хутароў усё ж мералі час: дзень пасля Картэлісаў, тыдзень, месяц пасля Картэлісаў.

Баяліся серады. Калі перажывалі чарговую сераду — з палёгкай уздыхалі. Чацвер, пятніца, субота, ну, яшчэ нядзеля, панядзелак — ужо на душы неспакойна, аўторак — страшна: от каб сераду прамінуць, каб чацвер адразу.

### *З журнала баявых дзеянняў і справаздач 3-га батальёна 15-га паліцэйскага палка*

«...З 6 верасня 1942 г. да 24 лістапада 1942 г. батальён расстраляў і спаліў у адведзеных яму раёнах баявых дзеянняў 44 тысячы 837 чалавек...

Спалена 27 вёсак і ўсе блізкія да іх хутары.

Расстраляна — 113 партызанаў» (падкрэслена некім са штабных работнікаў палка, магчыма, Маерам, бо каля лічбы стаіць падазроны, нервовы, ажно папера ў тым месцы парваная, пытальнік. Мала? Ці Маер западозрыў Голінга ў «прыпісках»? — *У. Я.*).

*Пасля «чорнае серады» была адна серада, другая, сёмая, дзесятая.*

На трох уцалелых хутарах кожны тыдзень пачыналі жыць пасля серады. Ад серады да серады. На нядзелі не надта і зважалі. Хіба што... да серады ўжо недалёка.

І гэтая нядзеля была паміж дзвюма серадамі, пасля Картэлісаў.

### *Пасля «чорнае серады» першае вяселле. На яшчэ жывым хутары Рабіна*

Нават год мае свае, спакон веку выпрабаваныя нашымі продкамі часіны вяселляў. У пост вяселле, напрыклад, не спраўлялі ніколі.

— Вайна, Федзя, гэта вялікі і цяжкі пост. Ці ж яно табе пячэ, тое вяселле? Сышліся з Варвараю наперакор мне — то і жывіце сабе, а вяселле не рабіце. Такія часы страшныя. Ці і прыйдзе хто да вас?.. Хіба што галодныя,— прасіла Наста Дардзючка сына Фёдара. І ён згаджаўся, не трэба, пасля вайны зробім...

Але прыходзіў да Варвары, пачынаў асцярожна адгаворваць яе.

Варка слухала, давала тым часам нарачонаму баршчу, налівала чарку.

А сама ходзіць па хаце, ходзіць, вокны фіранкамі затуляе, ходзіць па хаце, ходзіць, дзверы бярэ на зашчапку, ходзіць па хаце, ходзіць, Фёдар выпіў і вачыма за маладзіцаю водзіць і водзіць... Бачыць Варка — пара! Блузку праз галаву скідае, рукі дагары падняла і трымае, быццам галава яе не пралазіць праз каўнерык...

Федзя не даядае баршчу і кідаецца памагаць...

Калі Федзя сціхае і ўжо хоча засынаць, Варка асця-

рожна вытра на чорным пушку верхняе губы ў хлопца некалькі кропелек цёплага яшчэ поту і вінавата неяк папросіць:

— А вяселле такі справім, Федзя, бо як гэта без вяселля? Людзі не паверацъ нам, што сапраўды пабраліся...

Сонным голасам Фёдар адкажа:

— Як ведаеш...

— От і добра, Фёдар...

Ёй, Варвары-маскоўцы, сапраўды было цяпер добра. Не заўсёды ж яна, гэтая клятая бойка з немцам. Набедавалася і перажыла столькі, што на век старой бабы хапіла б, а ёй жа толькі дваццаць шэсць набегла. Удавіца. З прозвішчам ад чалавека, які памёр перад самай вайною. Толькі і пакінуў памяць пра сябе — мянушку гэтую.

Першы, Іван, у Маскве ніколі не быў, з хутара Тарасава нікуды і не выходзіў. Дзед ягоны быў у Маскве яшчэ ў першую сусветную, дык так за імі і замацавалася — маскоўцы.

Цяпер такое ў гэтым краі робіцца, што яе, Варвару, немцы і за мянушку мужыкову могуць расстраляць. Масква ўпоперак горла ім стала. Удава... у дваццаць шэсць, на глухім хутары Рабіна. Два гады падушку па начах кусала і думала, каб хоць хутчэй пастарэць... Іван пакінуў добрую гаспадарку, але кінуў яе якраз тады адну, калі толькі і зразумела, які гэта рай — свой мужык.

А тут, як забілі людзей у Картэлісах, хто астаўся, жывы, па няспаленых хутарах да родзічаў папрыставалі. Хутар Ягадкава з агнём пайшоў, а Фёдар скаціну пасвіў у лесе тады, у сераду — дык жывы і астаўся. Куды яму? У свет шырокі? І куды ў свет — усюды вайна. Да сястры прыйшоў, да Палажкі, у Рабінае, да суседкі Варварынай. У Палажкі сям'я — спяць стоячы, бо яшчэ родзічы прыбіліся, з іншых хутароў, што папалілі.

— У мяне столькі тых работнікаў, што і не накармлю, Варачка, ходзяць адзін за адным... А ў цябе ж гаспадарка. Дык хай Федзя памагае, на харчы мецьме... — прастадушна радзілася Палазя і думала: а чаго? Хай памагае. Адным ротам меней будзе.

Палажка і думаць ні пра што іншае не думала: дзіця яшчэ Федзя, і семнаццаці няма, малако на губах не абсохла...

Спачатку спраўна мітусіўся на дворышчы ў Варкі, яна камандавала ім, пакрыквала, потым сціхла, а потым Федзя

з'яўляўся на вочы старэйшай сястры толькі тады, калі Варка свежае малако ад каровы несла. Любіў з вядра піць. Дзіця ж... яшчэ.

Усё. Ужо ў іх вяселле, ужо ён адкрыта начуе ў яе. Што гэта за парадак: яшчэ ў царкве не былі, а ўжо дапаліся... Вайна. Яна ўсё перайначыла. Абы толькі жылі. Праўда, дзіця Федзя... проці жонкі сваёй. Іх клопат...

Прызначылі вяселле на блізкую нядзелю. Федзя запрог коней Варчыных, надзеў касцюм з пляча Варчынага мужа-нябожчыка і паехаў па хутарах прасіць гасцей. Доўга ездзіў, бо цяпер усе абмінаюць пажарышча картэліскае. Хіба што ўночы цішком выбіраюць печаную бульбу з попелу. Голад не баіцца ні зданяў, ні паліцаяў. Вярнуўся ў суботу прыцемкам, хацеў яшчэ раз адгаварыць Варку ад вяселля, але... сам гасцей панапрошваў. Няхай.

Госці паціху сходзіліся. Прыехала падвода з Млыновага і Сяльцоў, з хутара Паплыўцы і з Старой Нівы, а свае, рабінскія, з самай раніцы тут, каб дома не снедаць. Сяльцоўскіх, Варчыных сваякоў, прывёз Стратон Дардзюк, які адразу ж засадзіў гасцей за стол і пусціў па крузе першую чарку. Аж цяпер толькі заўважыў, што няма маладых, бо Варка яшчэ выдавала з каморы хлеб і мусіла замкнуць схоў на замок. Але чарка ўжо пабегла з рук у рукі. Вяселле пачалося. Без музыкаў, без рытуалу, але вяселле, бо ёсць маладыя і госці, бо ёсць што з'есці і выпіць.

### *Сведчанне Дардзюка Стратона Юхімавіча. Рабочы саўгаса «Картэліскі», жыве ў в. Сяльцы Картэліскія Картэліскага сельсавета*

(Ні ў кога з яго равеснікаў з Сяльцоў я не бачыў шлюбнага пярсцёнка. Калі хлопцы галодных трыццатых гадоў пры панскай Польшчы жаніліся — дзе іх было ўзяць? А ў Стратона Юхімавіча — ёсць, толькі чамусьці на мезеным пальцы...)

«...Як чорт іх абаіх падбіў: вяселле спраўляць. Не хацеў я з Ярынай ехаць. Такі свет далёкі — Картэлісы... колішнія абмінаць трэба! Хто там быў, кажуць — прывіды ходзяць па папялішчы і людзі крычаць з зямлі. Не хацеў ехаць, бо, праўду сказаць, яшчэ і коней шкада...

Фёдар упрасіў, кажа: Варка вас і знаць не захоча, калі не будзеце...

Паехаў...

Моўчкі людзі выпілі і паелі...

Прыбягае з лесу дзяцюк. Здаровы, плячысты, але вочы нейкія... Я не знаў яго зусім. Ужо пасля ўсяго дазнаўся: Пракоп-паўдурак звалі яго, а па-вулічнаму Туранічын. Крычыць не сваім голасам: «Разбягайцеся ў лес, бо немцы едуць!»

Нейкі рабінскі, тутэйшы, бо знаў Пракопа: «Цыц, дурны! Табе фрыцы ўжо мрояцца».

Што ж вы хочаце — мужыкі нападпітку рахманыя. Ды яшчэ і паўдурак сказаў. Хто паверыць? Жанкі, праўда, прыціхлі, торгаюць мужыкоў за крыссе, а тыя не зважаюцца...

Эт, што там казаць...

Калі бачу: акружаны хутар паліцаямі і немцамі...

Сам не знаю, як я з хаты вылецеў і праскочыў між імі... У лесе ўжо ацяміўся, калі аўтаматы білі. Недзе, думаю, у лесе Ярыну сваю згубіў. Хадзіў, шукаў яе, шукаў. Горача стала, дым пайшоў паміж дрэў. Гарыць Рабіна. З другога боку гараць Паплыўцы, з трэцяга — Старая Ніва. Страляніна сціхла...

У лесе — як у печы...

Нічога, думаю, мабыць, уцякла... спрытная яна...

Праз дзве гадзіны, можа, праз тры, *бо часу для мяне ўжо не было*, бачу, паехалі з хутара лесам паліцаі і некалькі падвод са скрынямі, дзежкамі, цапамі — усім, што было ў хатах.

Так я і начаваў у лесе, на дрэве... горача было надта...

...Да абеду хадзіў па кустах каля пажарышча, дзе быў хутар, баяўся выйсці з лесу — раптам немцы засаду пакінулі.

...Тады выйшаў на тое месца, дзе Варчына хата з вяселлем была. Хацеў знаць: тут Ярына ці ўцякла...

...Між недагаркаў — косці...

...Як не звар'яцеў тады — не знаю, толькі што бог ура таваў мяне.

...Рука нечая з попелу... Пярсцёнак на абгарэлым пальцы... Той, які Ярыне да шлюбу купіў...

...Вось ён у мяне, пярсцёнак... Над Ярынай я насадзіў яго на палец...

...Не здымаецца, можаце паспрабаваць...»

### *Сведчанне Зайко Варвары Мікітаўны. Былая калгасніца, жыве на хутары Паплыўцы Картэліскага сельсавета. Пенсіянерка*

(Хутар маленькі, некалькі старых, спехам пастаўленых пасля вайны хат. Новых тут ужо не будуюць. Можна ў Картэлісах, а ў гэтым балоце?.. Гаспадараць тут старыя бабы, якія адмовіліся пераехаць да дзяцей у вёску. Усю вясну васьмідзесятага ішлі дажджы, і хутар з усіх бакоў абступіла дрыгва. Сустрэў яе на парозе хаты. Доўга, пасялянску ўважліва вывучае мяне, нібы адразу ўбачыла: гумовыя боты — з чужой нагі, брызентавы плашч — не з майго пляча. Не верыць: хіба дзеля таго, каб пагаварыць са «старой, забыўкаватай бабаю», варта чалавеку мясіць столькі багны? Бадай, так і не паверыла, што я прыходзіў да яе толькі пагаварыць. Можа, цяпер паверыць?..)

«...А што я магу сказаць вам? Жывая — бачыце. Тых паліцаюгаў ужо пастралялі, у турмы пасадзілі, людзі іх праклялі, а я — жыву. Гэта, скажу вам, як каму запісана на долі.

...Вуньдзекі, праз балота, стаяла некалі хата бабы Яўдосі Хамучкі. Была такая баба. Кажу «баба», а яна ж тады была ці не ўдвая маладзейшая, як я цяперака. Пяць разоў немцы палілі яе хату, а не згарэла. Бо доля такая. Падложаць паліцаі галавешку пад хату і паедуць, а Яўдося з кустоў выйдзе, галавешку ў балота — і зноў жыве ў хаце... Доля. Ужо і паліцаі пачалі бабы баяцца. Сям'ю яе выбілі ўсю, дык яна нічога не баялася. Перажыла вайну і сваёй, як мае быць, смерцю памерла.

Можа, так і мне напісана?..

...Калі немцы акружылі хату з вяселлем, то мы ўсе і забеглі ўсярэдзіну. Зайшлі паліцаі. Зенюка я знала, Якіма Карнелюка, рабога... Можа, і немцы былі, не скажу...

...Як ударацъ па нас кулямі з усіх бакоў: з вокан, дзвярэй, праз сцены нават...

...У руку мяне ўдарыла, кроў пайшла... я ўпала на некага, а тады на мяне сталі падаць... Мёртвая я... Кроўка пад мяне цячэ, цячэ. Мая, думаю...

Скуль я знаю, колькі так ляжала? Стала задыхацца ад жару, дым пайшоў па зямлі... Гэта ўжо запалілі хату з намі, з Варчынымі гасцямі мёртвымі...

Што мяне тады падняло — не знаю. Вылезла з кучы мерцвякоў і скочыла праз акно...

...Стралялі па мне доўга...

...Што вам яшчэ сказаць? Дарэмна ішлі да мяне колькі. Нічога вам і не сказала...

...Вы ажно з Кіева, то, можа, знаеце: памерлі Зянюк і Палівода ў Амерыцы ці яшчэ жывуць?.. Усякае кажуць, а я хачу пэўна ведаць...

...Колькі жыла, то здавалася: кулі за мною лятуць, лятуць...»

## *Сведчанне Мусюк Агаты Іванаўны. Фельчарка в. Даманава Картэліскага сельсавета.*

(Пахаваўшы мужа Алексу, жыве ў дзеверавай сям'і — у Івана Мусюка, які ўратаваў Алёшку-акружэнца ад тыфусу. Хлопчыку, які прынёс пазычанае рэшата, Агата прыцемкам вынесла піражок, але той ужо пайшоў. Дагнала. Калі даведалася, што ў мяне ёсць маленькая дачка, нібы я ёй раднейшы зрабіўся. Спякла булку і праз колькі дзён знайшла мяне ў Картэлісах: «Вазьміце дачушцы, скажаце: ад цёткі Агаты».

Гаворыць ціха. Вельмі ціха. А калі даходзіць да т а г о — нават крычыць.)

«...Нарадзіла я другое сваё... у дваццаць гадоў. Кацярынка ў мяне знайшлася. Здаровенькая, да малака ахвочая. Нассецца і спіць. Прачыналася, калі есці хацела. Паесць, гайдані разок калыску — ужо спіць. Аніякага клопату з ёю... Нібы чула — на двары вайна. На ручку я завязала ёй нітачку чырвоную, няхай, думаю, не ўракуць... Мух з хаты павыганяю і пакіну яе аднюсенькую — знаю: спацьме. Сама ў хляве кручуся ці на агародзе ці воўну чашу пад хатай...

...Вяселле ў Варкі-маскоўкі і Федзі прыйшлага было. Варка на сем-восем год старэйшая за яго. Маладзіца ўжо... але такая гожая і ласая маладзіца. Не, не, не спявалі на вяселлі... Колькі разоў спрабавалі заспяваць, але не ішло ім...

...Я Кацярынку накарміла, спавіла, гайданула калыску і пайшла на двор воўну часаць... Іван з Алексам, мужыком маім, у лесе былі, слава богу...

Стала на парозе. Нешта бур'яны сухія трашчаць! Ажно самлела: немцы ідуць ланцугом праз гарод! Да хат ідуць. А ў ж о ж Картэлісы згарэлі, ужо тры

тысячы люду забілі там. У нас ужо ў нервах былі Картэлісы.

Усяго ад немцаў чакалі...

Як схапіла я Кацярынку, як ускочыла з ёю на гарышча — не памятаю.

Аж тады падумала: Міколка, старэйшы мой, у хаце! Спаў яшчэ. Немцы з паліцаямі (усіх называлі іх тады немцамі) ужо ў сенях. Адзін голас: «Я во толькі дзеўку бачыў на парозе...» Другі: «Табе, бугаю, яны ўсюды мрояцца...»

Зайшлі ў хату. Усё паперараварочвалі ў куфрах, кулеш з'елі... Я чула з гары, як лахі дзялілі, як жытнёўкі шукалі, як Міколка прасіўся: «Дзядзечкі, не біце мяне, я вам буду каровы пасвіць, бульбу ўмею пячы...»

...Злезла, закрыла б яго сабою, але Кацярынка прачнулася, не плача. Як яе кіну тутака?

Міколка закрычаў: «Мамачка!»

...І я — забітая!

Расплюшчыла вочы, калі пякло надта. Агонь на мяне падаў.

...І не было мяне ўжо болей!

Гэта не я была, не Кацярынчына маці... бо я без памяці выскачыла з агню, а яна... сэрца маё згарэла з ёю... з Міколкам... Не знаю, нашто і жыць засталася... не ведаю...

...Праз два дні прывялі мяне на пажарышча... Упала на попел, людзі мяне адцягваюць, а я косточкі перабіраю, каб пазнаць свае...

...Пазбірала ў скрыначку... Нейкая жанчына прыйшла і некалькі костак выкінула: гэта, кажа, каровіны, Агата... Я і каровіны палажыла туды і пахавала на могілках, у лесе...

Заўтра пайду на тое месца, магілку падпраўлю...

Скажыце мне праўду: я — жывая?».

— Агата! Не дурней мне тут! — таўчэ ў зямлю сваім пастуховым посахам Іван Грыгоравіч Мусюк і няўмела, ніякавата бярэ Агату пад руку, заводзіць у хату.

Доўга потым сядзім з ім на прызбе моўчкі. Цяля ліжа Івану руку. Вячэрняе сонца тузаецца ў халодных дажджавых хмарах па-над самым лесам. Іванава жонка мые бялізну, паглядае на дзверы ў хату. Праяснелі вочы: выйшла Агата з вядром. Што здань. Пайшла ў хляўчук даіць карову. Іван пагладзіў цялятка і загаварыў.

### *Сведчанне*
### *Мусюка Івана Грыгоравіча (прадаўжэнне)*

«...Няма чаго дзівіцца. Та-акое перажыла. Ды яшчэ і брата майго Алексу, мужыка ейнага, забілі бандэры, бо загадваў хатай-чытальняй. Ці не рабы Якім Карнялюк з Якавам Кашалюком, якога звалі Арудзія.

...А калі ў Картэлісах забілі тры тысячы люду... Лічыце — тры. Адкапалі дзве тысячы восемсот семдзесят пяць, а некага і не знайшлі... у студнях, у сажалках, у балотах... Тры тысячы — не менш!

Калі іх забілі і запалілі вёску — тут ужо ўсе былі партызанамі! Усе паўсталі супраць немца, хто якую мог зрабіць яму шкоду — рабіў.

Тут усе сталі партызанамі. Жылі ў лесе сем'ямі, вёскамі цэлымі. Дадому наведваліся як у разведку. Увесь час вартавых выстаўлялі, дзе людзі ўсе жылі. Мянялі мы адзін аднаго і стаялі ўвесь час на варце. Дзеці на дрэвах спалі, старыя — на зямлі. Улетку і ўзімку... Зімою толькі будані паробім з галля, каб дзяцей схаваць... Агню не палілі, каб немцы з паліцаямі на след не натрапілі. Яны думалі — тут усё ўжо мёртвае, жывой душы не засталося, думалі — дяперака гэтая зямля ўжо іхняя, дзікая зямля...

А як толькі фёдараўскія партызаны тут паявіліся — колькі людзей жывых павярталася ў свае вёскі! Хворыя, прастуджаныя, худыя, пазарасталыя — а жывыя!

Многа нас да Фёдарава пайшло. І я пайшоў. Многа мужчын пайшло. Помсціць за Картэлісы. За хутары. За тры тысячы людзей...»

### *Сведчанне Ліхвана Андрэя Міронавіча.*
### *Былы партызан атрада імя Варашылава;*
### *першы збудаваў зямлянку на картэліскім папялішчы.*
### *Памёр у 1979 г. Сведчанні захоўваюцца*
### *ў Валынскім партыйным архіве*

«...Калі немцы закатавалі 2875 картэлісцаў: дзяцей, мужчын, жанчын, дзядоў і бабаў, калі яны змялі агнём з твару зямлі самі нашыя Картэлісы, па заданні партызанскага штаба — а чутка пра гэтае злачынства нагнала нас ужо ў Пінскім партызанскім злучэнні — наш разведчык пранік у нямецкі штаб, які знаходзіўся ў Брэсце. Ён пе-

раканаў фашысцкае начальства, што батальён спецыяльна расстраляў не партызанаў. Партызаны як былі, так і засталіся, яшчэ больш іх стала па лясах. Наш разведчык неяк так гэта ўсё там павярнуў, што нібыта камандзір батальёна нават «заахвоціў» сваёй аперацыяй «Трохкутнік» партызанскі рух. Тады яго, таго, хто камандаваў аперацыяй, адправілі на фронт...» (выдзелена аўтарам.— *У. Я.*).

## *Пасля «чорнае серады» роўна 16 месяцаў*

Роўна шаснаццаць, бо 23 сакавіка 1944 г. Савецкая Армія вызваліць Картэлісы. Васемнаццаць зямлянак. Так што яны зноў ёсць.

Маёр Голінг думаў пра тое, што ён пастарэў на цэлую вайну. Пастарэў і стаміўся. На цэлую вайну, якая доўжыцца ад дня яго нараджэння. А старасці ён баяўся панічна. Нічога страшнейшага за старасць няма, бо за ёю ўжо смерць, а смерць — гэта назаўсёды.

Два гады таму ён заглядаў сабе ў душу толькі тады, калі вышукваў сентыментальныя прачуласці для чарговага ліста Крысціне, для таемнага, нават падпольнага выхаду ў сваё мінулае, для сустрэчы маёра пятнаццатага паліцэйскага палка Голінга з Юргенам — сынам штутгарцкага падслепаватага рамесніка-гадзіншчыка. Гэтыя сустрэчы хоць і не мелі інтымнага характару, праходзілі не на роўных (сын гадзіншчыка лісліва падлабуньваўся да маёра, мітусіўся перад ім і хутка надакучваў), а ўсё ж падсалоджвалі свядомасць і ўзвышалі маёра Голінга над іншымі, нават над самім сабою.

Цяпер ён думаў, што зусім занядбаў сваю асобу, бо нават учарашні дзень яго стаяў за непрыступным бар'ерам, за недасягальнай мяжой мінулага.

Голінгу хацелася хоць крышку спакою для душы, каб спасцігнуць, што ж гэта робіцца з ім і з яго вялікай нацыяй. Няўжо нейкая гістарычная дробязь ізноў адкіне арыйцаў у бездань? І гэта тады, калі яны ўжо былі за крок ад вяршыні. Хоць бы дзень спакою — і ён паспрабаваў бы зразумець, што ж адбываецца. А дзе ўзяць той дзень? У каго яго выпрасіць? У палкоўніка Берта, які ўсе свае намаганні накіроўвае на тое, каб прыхаваць нажыты на інтэнданцкай службе гемарой? Берт і сам бы пайшоў жабраваць той дзень сабе, каб загаіць свой гнілы азадак ды яшчэ

раз праверыць колішнія мужчынскія патрэбы на безадмоўнай у гэтай справе тэлефаністцы Берце. А не можа. Стоячы камандуе палком і слухае прыдуманыя ягоным дзеншчыком брыдкія гісторыі...

Голінг ужо не сумняваўся: перад тым як пачынаць вайну, трэба было смела прачысціць і самую арыйскую нацыю, у якой замаскіраваліся маеры і берты, заражаныя прымітыўнымі ўяўленнямі пра свет, пра вайну і пра лёс рэйха. Трэба было без шкадавання пазбыцца гэтага баласту. Куды наш фюрэр глядзеў! Варта было пасылаць сюды, у гэтыя дзікія краі, толькі людзей, не кранутых ніякімі інтэлігенцкімі забабонамі і ніякімі маральнымі абмежаваннямі,— стэрыльных арыйцаў, якія з калыскі ведаюць, што свет належыць толькі ім. Астатніх, хто ў гэтым хоць трохі сумняваецца, знішчыць. Калі б так было зроблена, вайна даўно б закончылася і я, Голінг, не залежаў бы ад волі шалудзівага Берта ці прымхаў франтавой смерці, а стаяў бы на вяршыні шчасця, звысоку пaглядаў бы на нікчэмную чалавечую мітусню, бачыў бы сябе арыйцам, а ў кароткія перапынкі множыў бы з Крысцінаю Голінгаў.

Трэба было знішчыць добрую трэць немцаў, якія яшчэ не дараслі да місіі арыйца, а спыніліся недзе на паўдарозе.

Але ўжо калі так сталася — не трэба было даваць палкі гэтым застарэлым касмапалітам маерам. Нават адступаючы, мы б цяпер ішлі па дзікай, вымерлай пустыні, па яшчэ цёплым папялішчы. А не акопваліся б пад гэтым праклятым Ратным, якое мы ўсё адно здадзім. Калі б мяне не адправілі на фронт (гнілазубы крэцін Маер ужо, напэўна, даў драла са сваім палком у Польшчу), тут даўно ўжо была б пустыня імя Голінга. Кажуць, на папялішчы родзіць як нідзе. А так — ваюй цяпер за гэтае паганае мястэчка, якое ў сорак другім я мог ператварыць у попел.

Нічога, з Маерам я яшчэ разбяруся. Няхай толькі мы спынім рускіх каля свяшчэнных граніц фатэрлянда — там у нас з'явіцца сапраўды арыйскае, а таму — непераможнае!

Голінг дастаў з кішэні невялічкае люстэрка і крадком зірнуў у яго. Няголены, з пачырванелымі ад бяссоння, запалымі вачыма двайнік лыпнуў набрынялым павекам і скрывіўся.

Паблізу колішняй ратнаўскай камендатуры гахнуў цяжкі снарад, і па вуліцы праскакаў конь, валочачы па гразі выпатрашаную з чэрава кішку. Пасыпаліся шыбы,

і Голінг адскочыў да дзвярэй. Другі снарад выбухнуў недзе на ваколіцы, але трасянуў камендатуру так, што зваліўся са сцяны партрэт фюрэра. Не хапала, каб цяпер сюды заскочыў Берт: што, м-маёр, сабраліся да рускіх? П-п-партрэцік знялі ўжо... Юрген хацеў павесіць партрэт на месца, але... правая рука вісіць падвязаная, асколак парваў яму мускул. Берт хацеў выправіць яго ў шпіталь. І гэта тады, калі Голінг падышоў д а с в а і х, д а п а м я т н ы х мясцін, дзе з яго паглумілася доля ў асобе бяздарнага цэбра Маера.

Не, якраз тут ён, Голінг, і паваюе. Сам фюрэр у першую сусветную пачынаў тут, у гэтых праклятых мясцінах... яфрэйтарам.

Праўда, ваяваць няма з кім. Пад Сарнамі палёг ледзь не ўвесь яго пяхотны батальён, а з рэзерву падкінулі неабстраляных смаркачоў, у якіх гітлерюгендскія жылкі дрыжаць ад кожнага выбуху.

Калі давядзецца адступаць, ён падпаліць Ратнае! Ён пашырыць свой «Трохкутнік» на сотні кіламетраў.

Дзе ж падзеліся тутэйшыя пацукі, што служылі мне ў сорак другім? Дзе Лагвінскі, які глядзеў мне ў вочы быццам Ісусу, дзе яго падначаленыя? Ужо недзе ў Брэсце, пэўна, пакуюць Маеравы чамаданы, а ты, Голінг, спыняй грудзьмі асатанелых рускіх і плаці за гэта сваёй чыстай арыйскай крывёй!

Ух, сволачы, даганю я вас, даганю.

Голінг зноў нерваваўся і не мог думаць пра долю сваёй нацыі. Хто ж будзе думаць, калі не ён? Хто? Берт? Чым ён будзе думаць — сваім гемароідным сядалішчам? Германія некалькі гадоў так старанна рыхтавала фронту воінаў, што забылася пра мысліцеляў. Каб не я, Голінг, то ці знайшлася б у арміі хоць адна вартая галава. Калі б перад вайною мы прыбралі гэтых асцярожных маераў, якія недааценілі мяне, мы даўно святкавалі б перамогу.

Ускочыў пасыльны яфрэйтар са штаба. Спачатку спалохана зіркнуў на партрэт фюрэра, што ляжаў дагары нагамі, а потым — на Голінга, які стаяў у кутку, прысыпаны тынкам і таму амаль незаўважны ў прыцемку пакоя.

— Павесіць на месца! — хрыпла скамандаваў Голінг.

— Няма калі, маёр! — голас яфрэйтара рвала задышка.— Палкоўнік Берт загадвае батальёну адступаць да Макранаў...

— Я... загадаў... павесіць партрэт фюрэра!! — Голінг

хацеў па звычцы палажыць руку на кабуру, але рука зайшлася такім болем, што ён прыпёрся да сценкі і запэцкаў аб яе кіцель.

— У нас у тыле партызаны, гер маёр. Берт загадаў неадкладна адыходзіць у Макраны і акапацца. Інакш мы...

— Мы будзем прымаць бой тут! Іначай... іначай я застрэлю цябе, як правакатара!

— Палкоўнік Берт, дарэчы, сказаў, што гэта «вашы» партызаны! Якіх вы своечасова не знішчылі... Калі служылі ў паліцыі...

Голінг левай рукой дацягнуўся да кабуры. Яфрэйтар па-дзіцячы зацікаўлена сачыў за яго рухамі, хацеў нават дапамагчы маёру дастаць пісталет, але не паспеў.

Позірк так і застыў у яго вачах.

Струменьчык крыві поўз да ямкі ў глінянай падлозе, спыніўся там, а потым пацёк пад партрэт фюрэра.

Нейкі момант Голінг утрапёна сачыў за ўпартым рухам крыві. На лбе фюрэра праступала чырвоная пляма — і Голінг пхнуў ботам рыпучыя дзверы і выскачыў на двор. Яго батальён ужо спешна строіўся паротна. Голінг схаваў пісталет у левую кішэню і павольна пайшоў да машыны. Кіўком галавы падазваў да сябе камандзіра роты:

— Спаліць усё! І яфрэйтара таксама. Ён быў заражаны бальшавіцкай заразай!

Машыну кідала на разбітым бруку, рука смылела, Голінг падумаў: калі б добры доктар мог адняць яе адным махам — ён бы, відаць, згадзіўся. Ад болю заплюшчваў вочы, але бачыў перад сабою скрываўлены фюрэраў твар.

Ішоў мокры сакавіцкі снег, брудная юшка з-пад колаў пырскала ва ўсе бакі, абляпваючы аж пад самыя стрэхі прыдарожныя ратнаўскія хаты.

Снег мокры, адзначыў Голінг, гарэць будзе блага.

...Трэба-такі было легчы ў шпіталь. Быў бы час падумаць пра сябе, а то і — з'ездзіць да Крысціны. Ці адышла Крысці пасля таго, як нарадзіла мёртвага сына? Мой набожны бацечка (пісала братавая) супакойвае Крысціну, што гэта не яе віна, што гэта пакута за нейкі вялікі Юргенаў грэх. Бачылі — хоча, каб з вайны вярталіся чысценькія, як з кірхі... На вайне грахі не лічаць, на тое і вайна. Я выконваў волю фюрэра.

От чорт, вылаяўся шэптам Голінг, усю вайну мне не шанцуе на шафёраў. Таму ў жываце бурчыць, той мае такі намер абутку, што ціснe на акселератар і тормаз адна-

часова, а гэты анучы не мяняе. Голінг прачыніў акно і хапнуў свежага сакавіцкага паветра. Адкінуўся на сядзенні і раптам з жахам зразумеў: смурод ідзе... ад яго правай рукі! Прынюхаўся і ўвесь здранцвеў — гніе рука!..

Яго родная, прыгожая, з тонкай абручкай на пальцы, яго незаменная і паслушная ва ўсім правая рука — гніе!

— Праз гадзіну каб былі ў Макранах! Іначай будзеш месяць балота з маршавым узводам!

Шафёр тузануўся ўсім целам наперад, уключыў дальняе святло, і машына загуляла на слізкім бруку, абмінаючы грузавікі, цягачы, пешыя калоны.

Нарэшце тракт пачаў патроху пусцець, бо снег паваліў густы, з рэзкім ветрам, праз крок — белая сцяна перад вачыма, выстаўляй наперад руку, бо грымнешся лбом.

Голінг стагнаў ад болю, смуроду, агіды, абразы на лёс, а вадзіцель на сваю рызыку з'ехаў з брукаванкі на ўзбочыну — там хоць не трасе. Машына і сапраўды кацілася мякчэй, Голінг прыціх і нават закурыў. Напалоханы вадзіцель імчаў цяпер навослеп, бачачы толькі нос аўтамабіля і часам аблепленыя з паўночнага боку снегам ствалы хвой.

Не, не, Голінг не можа памерці такой бяздарнай смерцю! Для чаго тады было радзіцца і належаць найдасканалейшай у свеце расе. Не! Я памру толькі пасля таго, як пераканаюся: мой народ дасягнуў таго, чаго ён варты, я памру толькі тады, калі род Голінгаў раскіне магутную крону над зямным шарам. Смерць зломіць свае зубы аб мае белыя, як гэты снег, косці! Каму ж тады жыць на гэтай планеце? Маерам? Бертам? Гэтаму безгаловаму Оту, які ўмее на два бакі круціць руль? Каму?! Без іх гісторыя абыходзілася тысячагоддзямі, абыдзецца і далей!

Я прыстаўлю макранскаму доктару да грудзей пісталет і не адыму, пакуль нельга будзе ўзяць зброю правай рукой!

Я выклічу на фронт пабітых моллю прафесараў медыцыны, я...

Машына раптам слізганула ўніз, пранізліва зароў матор, і пад нагамі ў Голінга захлюпала вада.

Вадзіцель высунуўся на прыступку кабіны і ўпершыню чорна вылаяўся пры маёру. Чвякаючы нагамі ў рудой багне, абышоў машыну і сказаў:

— Мне вяртацца ў роту? Я гатовы, гер маёр. Мы заблудзіліся, сядзім у балоце. Матор не завядзецца ў вадзе...

Дык што, гэты смярдзючы рабак будзе жыць? Будзе жыць у свеце Юргена Голінга, а сам Голінг сканае ад гангрэны?

Сцяўшы ад болю зубы, Голінг выйшаў з машыны і да пояса праваліўся ў халодную прорву. Снег залепваў яму вочы, ён імкліва шуснуў левай рукой у кішэню і разрадзіў у шафёра ўсю абойму парабелума.

На месцы, дзе ўпаў вадзіцель, яшчэ доўга булькацела густая вада.

Цяпер толькі Голінг разгледзеў навокал балота густы лес, які бачыўся яму нібы праз бінт на вачах. Ён ледзьве паспяваў выціраць снег з пахаладзелага твару, з губ, а потым штосілы закрычаў:

— Лю-у-угу-удзі-і-і!

Але голас упаў у балота каля ягоных ног.

Ён убачыў перад сабою белую-белую смерць. У белым вэлюме, у белых пальчатках і з чорнымі зубамі.

Яна ішла да яго ў густым балоце, але Голінг выскачыў, дзе было мяльчэй.

Белая смерць стагнала ў яго за спіною, дыхала мокрым, агідным холадам у патыліцу. І ён пабег.

Мокрае галлё хвастала яму па твары, лясныя карчы хапалі за босую нагу, ствалы хвояў загароджвалі дарогу, кустоўе тузала за крысо шыняля. Ён падаў, крычаў у глухім лесе, злізваў чырвоны снег з абадраных губ, падымаўся і бег ізноў.

Тальмах на правай руцэ даўно парваўся, і цяпер кожны крок даваўся яму з болем, ад якога пры іншых варунках ён даўно памёр бы.

А белая смерць нахілялася над ім, шчэрыла чорныя, вуглістыя зубы, цягнулася белымі, жахлівымі пальцамі да яго грудзей. І ён бег ізноў, скідаючы ёй пад ногі шынель, фуражку, рэмень з кабурой, мундзір...

Недзе ж павінны быць людзі ў гэтым лесе? Было ж іх тут, як пяску, як чарвякоў, як мурашак, столькі, што і не перастраляеш. Хоць бы якая сволач адгукнулася. Ён жа гі-і-не-е!

Цяжка дыхаючы, выбег на паляну і зняможана паваліўся. Хапаючыся левай рукой за зямлю, папоўз. Во — нарэшце! Нарэшце!!!

Праз снег яму засвяціліся два маленькія трапяткія агеньчыкі.

Яны паціху набліжаліся да яго, і ён з апошняе сілы папоўз ім насустрач. Апантана гроб і гроб знясілены ле-вай, каб наблізіцца да выратавальных агеньчыкаў хоць на сантыметр.

Але зямля чамусьці выслізгвала з-пад яго скрываўле-ных, мёртва-здзервянелых пальцаў. Голінг доўга адплёў-ваўся, а потым выцер даланёй засмяглыя губы. І раптам... адчуў на языку саленаваты прысмак попелу. Ён добра по-мніў гэты смак.

Усунуў руку глыбей пад снег, пад попел. Там... зямля і дагэтуль была яшчэ цёплая.

Змешаны са снегам попел распаўзаўся пад ім, засмокт-ваў ягонае цела ў брудную сукравіцу. Чым больш сіліўся Голінг, каб выпаўзці з гэтай прыкрай пасткі, тым хутчэй яна паглынала яго.

Толькі б наблізіцца да двух агеньчыкаў, што мігцяць скрозь завею! Голінг ашалела скрыгатаў зубамі і лаяўся, бязладна, у агоніі соўгаў нагамі... і яма пад ім рабілася ўсё глыбейшая.

Чорны ад месіва мокрага снегу з попелам, Голінг быў падобны на абгарэлую калоду на мёртвым папялішчы. Левая рука ўжо не слухалася яго, і ён хапаўся зубамі... за попел, краечкам свядомасці трымаючыся за два агень-чыкі, што ўсё ж набліжаліся да яго.

...Галодны воўк, які ўпадабаў гэтае пажарышча (калі згарэла вёска — ён меў тут досыць печанай бульбы і ў са-мыя лютыя маразы мог спаць у цёплым попеле), заўважыў у сваіх уладаннях нейкае паўзучае стварэнне, што дурма-ніла і саладка казытала ягоныя ноздры пахам мяса. Гэта былі яго, воўчыя, мясціны. Ён толькі часам саступаў іх людзям, якія прыходзілі сюды ўлетку, да магілак спаленай вёскі, доўга сядзелі моўчкі і ішлі сабе. Ён добра ведаў, як яны пахнуць — ж ы в ы м і л ю д з ь м і. Прынюхаўся яшчэ раз. Ягоны нюх тонка ўлавіў пах мярцвячыны. Не, сваімі ўладаннямі воўк не пасгупіцца!

Шэры затросся ад хвалявання, прысеў на заднія лапы, прутка адштурхнуўся ад мяккай зямлі.

Апошнім кволым рухам сваёй свядомасці Голінг ад-чуў, як нешта апякло яму горла...

З лесу шэрым ветрам вылецела галодная воўчая зграя...

## *Даведка*

У 1941—1944 гадах нямецка-фашысцкай акупацыі трагічная доля Картэлісаў напаткала на Валыні 106 вёсак:

у Ратнаўскім раёне: Залысіца, Пяскі Рэчыцкія, Рэчыца;

у Уладзімір-Валынскім раёне: Быстракі, Даміпопаль, Карчунок, Стралецкае-І, Стралецкае-ІІ, Пузаў;

у Гарохаўскім раёне: Маруся, Наталін, Цярэшкаўцы, Уманцы;

у Іванычаўскім раёне: Порыцк;

у Камень-Кашырскім раёне: Верхі, Карасін, Карпілаўка, Майдан, Радошынка, Фарынкі;

у Ківерцыўскім раёне: Берасцяны, Вулька-Катоўская, Дзерманка, Гнатаўка, Клубочын, Востраў, Сафіеўка, Юзэфін;

у Ковельскім раёне: Бахаў, Бераг, Будзішча, Гарадзілец, Гулевічы, Дубавое, Калінаўка, Краснадуб'е, Кругель, Крычавічы, Лапні, Люблінец, Машчэна, Несухаежа, Новыя Кашары, Вуглы, Чаркасы;

у Лакачынскім раёне: Запуст Рудзенскі, Канюхі, Памажанка, Рудня;

у Луцкім раёне: Брышча, Брышча-ІІ, Вярбаеў, Віктараны, Хробраў;

у Любешаўскім раёне: Бярэзічы, Свалавічы, Лобнае, Любязь, Хоцунь;

у Любомльскім раёне: Баўтуны, Барэмшчына, Выжаўка, Высоцк, Віліца, Воля Астравецкая, Воля Падгародненская, Заполле, Замлынне, Застаўе, Зямліца, Куты, Леснякі, Новы Апалін, Церахі, Янкаўцы, Астраўкі, Падгародняе, Пярэшпа, Пендзюхі, Сокал, Стары Апалін;

у Маневіцкім раёне: Гута Лісоўская, Лесавое, Пагулянка, Стараселле;

у Ражышчынскім раёне: Іванчыцы, Лукаў, Міраслаўка, Незвір, Падалаўка;

у Старавыжаўскім раёне: Глухі, Лесякі, Пясочнае, Смедзін, Шайна;

у Турыйскім раёне: Гаруша, Дольск, Клявецк, Азяраны, Папоўка, Равушкі, Ружын, Руда, Ставок, Свінарын, Тулічаў.

83 вёскі ізноў пацвердзілі, што яны — вечныя. Толькі 24 не адрадзіліся з попелу.

Кропку ставяць самі жыхары сённяшніх Картэлісаў — героі гэтай аповесці.

### *Сведчанне-эпілог*

Дардзюк Пятро Аксенцевіч: «...Ужо пад Луцкам ігралі нашы гарматы... Хто застаўся жывы ў Картэлісах — выбягалі (за дзесяць кіламетраў) на тракт — пацешыць душу, гледзячы, як уцякаюць фашысты... Далі драла з імі і падбрэхічы іхнія, якія найболей правінаваціліся перад нашымі людзьмі і зямлёй нашаю. Зянюк забраў з сабою ўсю сям'ю. Андрыян Палівода... не паверыце... уцёк ад жонкі, ад дваіх дзяцей, уцёк, не, такі не паверыце, з... найбольшай шлюндрай, якую тут толькі зналі за ўсе часы... з Жэнькаю Зенюковай... Цьфу, у дочкі яму...

...Аж у Амерыцы, у Філадэльфіі, азірнуліся, ці не даганяюць іх. Нарабавалі дабра, дагэтуль жывуць... у крыві Картэлісаў...

...Палівода ўжо пасля вайны лісты прысылаў. Я дык быў міліцыянерам тутака, то знаю: ліставаўся праз кажушніка крывога, Карнелюка Івана, кума ягонага. Карнялюк і пасылкі атрымліваў ад яго, хусткамі гандляваў. Паедзе ў Ратнае па пасылку, старгуецца і п'яны едзе ў Картэлісы. Хваліцца грашыма, а людзі ўцякаюць ад яго, што ад тыфознага... Праўда, з год ужо як Палівода забыўся на свайго кума. Нібыта падыхае ўжо ў шпіталі, у Філадэльфіі... Жэнька, пэўна, дачакацца не можа... Але каму яна там цяпер патрэбная...

...Многіх «чорнарабочых» паліцаяў павышуквалі нашы «ястрабкі» ў бандах бульбашоў і бандэраўцаў, куды хаваліся ўсе фашыстоўскія сабакі. Сёй-той выйшаў з павіннай, адбыў сваё пакаранне (хто якое заслужыў). Але сюды не вярнуўся ніводзін.

Бо на гэтым самым месцы ізноў людзі жывуць».

Мусюк Іван Грыгоравіч: «...Я з арміяй пасля вызвалення Картэлісаў хадзіў на Варшаву, у Нямеччыну надта рваўся. Старшына мяне лаяў: «Не пары гарачку, валынянка, паспееш, парадак трымаць трэба...»

Калі мы бралі Франкфурт-на-Одэры, вельмі ўпіраўся фашыст. Я подбегам нашу снарады да гармат і выкрыкваю: «Гэта вам, сволачы! *За Картэлісы! За Картэлісы! За Картэлісы! А цяпер — за Паплыўцы! За Рабінае! За Старую Ніву! За Доўгачасовае! За Хамут, Цепянец, Запакіўе, Касіцу, Замосце, Тарасава, Дорашава, Сасноўку, Хлебава, Беліцу, Падгадзінец, Годзінь, Вепру, Броды, Бор, Ягадкава! Ізноў — за Картэлісы! За Картэлісы!..»* А таварышы мне: «Спыніся, Іване, яны ўжо здаюцца...»

Калі мы вызвалілі канцлагер Шпандаў — маю гімнасцёрку вязні парвалі... на памяць хацелі сабе нешта... Заехалі ў тое Шпандаў на танках па грашах нямецкіх. Банк іхні разбілі. Дык па грашах, па грашах... Я набраў у жменю і крычу хлопцам: «Каму зарплату?!» І пыл імі сцёр з керзавых ботаў...

...Надта да Гітлера я рваўся. Казаў ужо: 2 мая падбілі мяне, нагу прашыла.

...А ўжо дзевятага зароў увесь шпіталь: перамога! Адкінуў мыліцы і танцаваў...

...Уся тутэйшая сволач, поскудзь людская — паліцайня, паляцела ў банды бандэраўскія. А куды ж ім ад людзей добрых было хавацца?»

Круш Фядора Лаўрынаўна: «...І хто тыя крывавыя пасылкі купляе ў крывога Карнелюка? У Картэлісах ніхто. Прадае ён іх далёка, дзе ніхто яго не ведае... Я іх і задарма баюся...

...Сын у Паліводы, Ляксандр — глуханямы, ведаеце?..

...Я тутака хату сабе новую стаўлю, бо з парога бачу, як дзеткі адусюль прыязджаюць мемарыял паглядзець, чысценькія такія, у гальштучках, з кветкамі ідуць і ідуць... Я і ўсміхнуся ім калі, бо сваіх жа не маю...

...Дарэмна з дуба, што абгарэў і ссох, а стаіць і дагэтуль, гняздо бацянова... буслянку знялі... Хай бы сядзелі... Я б за імі і прыбірала сама...»

Зайко Варвара Мікітаўна: «...Дык, кажаце, падыхае Палівода ў Амерыцы? (Першы раз усміхнулася.) Калі будзеце знаць, што здох, калі пэўна ўведаеце,— напішыце мне або перакажыце цераз каго. Тутака і буду, на хутары Паплыўцы...

...Дзеля гэтага ішлі да мяне праз балота? Каб сказаць пра Паліводу? Варта, варта было... восьдзека сырадойчык, выпіце».

Кухар Сцяпан Якаўлевіч: «...Мы на тым самым месцы хату паставілі. З недагаркаў, з хмызу... А тады ўжо ізноў на гэтым месцы новую збудавалі, дзе сядзім. Час бяжыць, што вада.

...Маёй меншанькай, Раі, роўна столькі, колькі мне было тады, каля ямы... Вунь як паднядзелілася ў піянерскі лагер. Бяжыць час. А так і мае быць».

Кухар Філя (яго жонка): «...Дайце нарэшце і мне сказаць...

А ты, Сцяпан, схадзі маладой цыбулькі нарві...

...Сярод вазакоў, абознікаў, усякія людзі былі. Адны плакалі, коней пакідалі і ўцякалі адсюль, іншыя моўчкі праклінлі сваю долю. А былі і такія, што на людскім горы... Гэтага не пішыце, а так, каб ведалі сабе: нашы часам у Макранах, у царкве, пазнавалі — хто сваю спадніцу, хто кажух, пацеркі, боты. Дык каб ведалі: усякія ў абозніках былі. Яны-то не вінаватыя, але...»

Дардзюк Сцяпан Якаўлевіч: «...Надта ж не люблю печанай бульбы, не магу і бачыць яе. Цэлы год поначы хадзілі сюды, на картэліскае пажарышча, паролі яе з попелу. Нават у скляпах папяклася... І не хадзілі б — ды як жыць?

Наеўся тае бульбы і пайшоў у партызаны. Аж у сорак чацвёртым вярнуўся, бо паранілі цяжка.

Банды бандэраўцаў шасталі па лясах.

Тады і ажаніўся, але вяселля не рабілі.

Нельга ў такія часы вяселле спраўляць, нельга...

...Аж да нядаўняга быў брыгадзірам у саўгасе. Рэдка і загадваў ісці на работу. Не паверыце, прасіў жанок, каб ішлі ўжо дадому з поля...

...Бачыце, як грушка дзедава Сямёнава цвіце сёлета? Няхай цвіце — уродзіць...»

Карнялюк Іван Давыдавіч: «А скуль вы ведаеце, што Андрыян Дзмітравіч... Палівода... мне піша? Нічога ён мне не піле і не піша, бо слабы надта...

...Я нікога не забіў у сваім жыцці — чуеце? — чаго мне баяцца? Дзеці мае жывуць добра, а я дажываю ўжо... Грыцко мой на настаўніка вывучыўся, дырэктарам школы ў Станіслаўскай вобласці (здзівіўся, калі я сказаў яму, што такой вобласці ўжо даўно няма — ёсць Івана-Франкоўская.— *У. Я.*)...

Скажыце, калі ведаеце, які, даруй божа, год цяперачкі? Бо кажухоў не шыю, дык не ведаю... А, высакосны? Можа быць...»

Краглік Міхайла Косцевіч (старшыня Картэліскага сельсавета): «...Бачу, ужо вы мне, а не я вам можаце расказваць, як гэта ўсё было. Я тут новы, яшчэ не ўсіх і знаю. Прачынаюся на досвітку і думаю: ці планы школьныя напісаў... На цяперашняй пасадзе па дзесяць разоў на дзень «педсавет» трэба весці самому...

...Адно вас папрашу: напішыце добрае слова пра Казака Аляксандра Сямёнавіча. Ён вам не сказаў і не скажа (такі ўжо дзед!), што хаваў у сябе лётчыкаў, падбітых пад Кобрынам. Што партызаны ў яго харчаваліся. Што дабравольцам пайшоў на фронт і толькі з Луцка вярнулі, бо пальцаў у яго няма. Хаваў, каб паваяваць з фашыстамі, таіў... Лесніком быў у Запарожжы, у Кастраме, тут леснікаваў доўга. Усё, што бачыў і чуў, памятае. А паперкі на пенсію забыўся падрыхтаваць. Такі чалавек. А цяпер паспрабуй пазбірай іх... Без іх, клятых, ніяк не магу яму пенсію заслужаную аформіць. Стажу нейкіх там месяцаў не хапае. А два гады смяртэльнай рызыкі? Калі партызанам і афіцэрам-акружэнцам дапамагаў? Калі хаваў у сябе? Хіба не стаж? Успомніце дзеда. Хоць прозвішча ўспомніце. Не забудзеце?»

Казак Аляксандр Сямёнавіч: «На астатку так скажу: людзей у Картэлісах немцы пабілі за некалькі гадзін. Паабедалі (як тое ім у горла лезла?), селі на машыны і паехалі. Мы ў лесе сядзелі ўсім хутарам, чулі, як яны, п'яныя, гарлапанілі на ўвесь лес. Хавалі страх...

Паліцаі засталіся ў Картэлісах. Дацямна там стралялі, дабівалі, хто ў хаце схаваўся, каго знайшлі ці хто ў яме варушыўся...

...Адна жанчына, Марыя, прозвішча не ведаю, не скажу, вылезла з ямы ўночы... Успомніў! Карнялюк Марыя з Пацяхоў была, да Івана, цьфу, Карнелюка яна нічога не мае, не родзічка. Прозвішча аднолькавае...

Тыя ўсе, што засталіся: паліцаі і тыя, каго фашысты не расстралялі за нейкія там «заслугі», нават дазволілі яшчэ пераначаваць,— «чысцілі» цэлую ноч хаты, што ў каго было з даражэйшага...

...Абозы ехалі і ехалі з Картэлісаў, з хутароў. Скрыні, куфры, падушкі, саганы, збожжа, бароны, ложкі, абразы, лавы, дзежкі — усё, чым людзі жылі, чым карысталіся ў жыцці сваім...

Калі з хутара ўсё вывезлі, там з'явілася каманда факельшчыкаў. Лета сухое было, хаты драўляныя, чаротам крытыя, хоць у сераду 23 верасня неба і заплакала і над забітым людам, і над Картэлісамі, а згарэла ўмомант...

Агонь з усіх бакоў, з хутароў, ішоў на Картэлісы. Нават тут, на хутары Даліна, горача было. У небе ні птушкі, трава пачала ад таго страшнага цяпла зелянець ізноў...

...У чацвер пачалі паліць хутары, у пятніцу — ужо Картэлісы, і ў суботу іх палілі, а ў нядзелю было царкоўнае свята — узвіжанне — запалілі царкву, вятрак, школу, іхнюю ж сельуправу і паехалі.

...Чорныя ад сажы ехалі па лесе... Усе чыста аднолькавыя, бо чорныя...

...Пра вяселле так скажу: малады Федзя і жонка ягоная, Варвара-маскоўка, выскачылі тады з акружэння. Як — не скажу. Жывыя асталіся. Федзя Дардзюк... памятаю — Несцеравіч, пайшоў з нашымі на фронт і загінуў, а Варвара?.. Яшчэ раз выйшла сабе замуж, бо мела выгляд... звонку. Праўда, за ўдаўца, трое дзяцей было. Пасля вайны выехалі ў Крым...

...Пра Якава Карпука, камуніста нашага... Многа дабра ён тутака зрабіў людзям. З групай сваёй ад Нямеччыны ратаваў картэлісцаў, скаціну канфіскаваную вяртаў людзям. Фашыстам, скажу вам, з Картэлісаў нічога не перапала, пакуль не перабілі ўсіх...

...Загінуў Якаў... Улетку сорак трэцяга. У самым канцы ліпеня, на хутары. Сачыла за ім паліцайня. Ён адзін ішоў, а іх з паўтары сотні. Вельмі хацелі жывога яго

ўзяць і гаспадарам сваім клятым прывезці. Цэлую гару палажыў іх Яшка! А жывога не ўзялі. Падарваў сябе апошняй гранатай.

Усе яго тут ведаюць. І дзеці...

Паліцай Гірнік Мішка яго прадаў. Таварышы партызаны адпомсцілі за яго. Такі быў у Якава сябар, звалі яго капітан Ванька, з Расіі, акружэнец... Заспеў Гірніка дома і расстраляў яго і яшчэ паліцаяў, колькі іх там было...

...Барыса Міхайлоўскага забілі фашыстоўскія найміты, калі ішоў на баявое заданне. У сорак трэцім. Ён пахаваны ў Кобрыне ў брацкай магіле.

Пытаецеся пра мяне?.. Жыву сабе з бабаю, лісты ад сыноў перачытваю ды выглядаю, калі ў водпуск прыедуць. І карову пасу, чуеце, ужо кліча мяне?..

...Ваша прозвішча хачу запомніць, скажыце яшчэ раз. Можа, хто ў мяне папытаецца, дык каб я ведаў...»

Мусюк Агата Іванаўна: «...Калі б у вас ці ў вашых прыяцеляў нарадзілася дзяўчынка і шукалі імя ёй — назавіце Кацярынкаю. Так прыгожа: Каця, Катруся, Кацечка, Кацюня, Кася, Кацярыначка, Кацечка, Кацярына... назавіце, як *маю* звалі...»

Кухар Хрысціна Купрыянаўна: «...Ужо цяпер не адну мяне вы пакідаеце. Родзічаў буду мець. З Палтаўшчыны прыслалі на сельсавет пісьмо і фотакартку. Брат піша, што старэйшы, Валодзя, якога везлі ў Нямеччыну, уцёк з цягніка на Валыні і забіты немцамі недзе тут. Прачытаў у газеце пра нашыя Картэлісы, дык падумаў: а ці не брацік ляжыць у брацкай магіле? Спачатку Фядоры Круш паказалі фотакартку, яна і загаласіла: ён! Ён, бедненькі... А тады і я апазнала, пасля Фядоры, бо вочы слабыя маю...

Родзічы ў мяне знайшліся. Ажно ў Палтаве.

Яшчэ і Сцяпанавы знойдуцца. Пабачыце, яшчэ знойдуцца...»

Гасюк Хама Тадэевіч. Калі мы развітваліся з ім, падышла яго трэцяя жонка (імені не назвала) і кіўнула Хаме на магнітафон у маёй руцэ.

«...Няхай сабе пішуць... Я ж нічога не вінаваты. Немцы Варку расстралялі... ой. Што я мог зрабіць? Хіба... папрасіць шафёра-фольксдойча, сказаць: гэта мая жонка, уратуйце яе. Не падумаў нешта... А дзяцей выгадаваў... Чаго мне баяцца, няхай запісваюць... Шкада Варкі, слаўная была ў мяне жонка, усе зайздросцілі...»

Гасюкова трэцяя жонка. (Дагнала мяне. Толькі цяпер заўважыў — п'яненькая.)

«Забярыце яго з сабою куды-небудзь... хоць да Кіева забярыце. Першая жонка праз яго памерла... праз яго, навошта прымушаў гной на марозе кідаць? Другую ад немцаў не забраў. А я гэтую ноч... у суседзяў начавала...»

## *З пратакола суда*

### *Прысуд*

«...Улічваючы асабліва цяжкія злачынствы перад народам і Радзімаю, злачынствы, якія звязаны з забойствам многіх савецкіх грамадзян... Ратнаўскі народны суд пастанаўляе.

*Асудзіць:*

Кашалюка Андрэя Якаўлевіча... да вышэйшай меры пакарання.

Карнелюка Якіма Харытонавіча... да вышэйшай меры пакарання».

## *З касацыйнай скаргі асуджанага Карнелюка Я. Х.*

«...Пасля вайны я хацеў павярнуць сваё жыццё на дабро. Рабіў, што мне казалі, нават раз атрымаў прэмію — 25 руб. (на старыя грошы.— *У. Я.*). Нікога не ўдарыў, не затрымліваўся міліцыяй...

...У мяне ёсць жонка (на момант арышту ў г. Туране Тувінскай аўтаномнай вобласці ён меў тры жонкі, якія не ведалі яго біяграфіі.— *У. Я.*), дзеці, я хачу іх сумленна гадаваць...

...Прашу дараваць мне жыццё, каб я мог з а м е с ц і

с в а е   г р а х і   п е р а д   С а в е ц к а й   у л а д а й... (выдзелена аўтарам.— *У. Я.*). Буду ўдзячны...»

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Украінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі адхіліў касацыйную скаргу Кашалюка А. Я. і Карнелюка Я. Х.

П р ы с у д   в ы к а н а н ы   ў   с т у д з е н і   1960 г.

## *Ад аўтара*

*Картэлісы запалілі 25 верасня 1942 г. 28 верасня яны яшчэ гарэлі да глыбокае ночы. А. С. Казак сведчыць: уночы 28-га павеяў парывісты вецер з паўночнага захаду. Праз Луцк, Роўна, Жытомір дым несла на Віннічыну, на хутар Тэкліўку. Я нарадзіўся 11 кастрычніка таго ж года. Можа, першае паветра, якое я ўдыхнуў, было з дымам Картэлісаў?..*

## ЗМЕСТ

Литературно-художественное издание

*Яворивский Владимир Александрович*

МАРИЯ С ПОЛЫНЬЮ В КОНЦЕ СТОЛЕТИЯ
*Роман, повесть*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Яварыўскі Уладзімір Аляксандравіч*

МАРЫЯ З ПАЛЫНОМ У КАНЦЫ СТАГОДДЗЯ
*Раман, аповесць*

Рэдактар В. І. Рабкевіч
Мастак А. М. Малышава
Мастацкі рэдактар А. І. Цароў
Тэхнічныя рэдактары Л. М. Шлапо, Г. Г. Федарук
Карэктар Я. А. Бебель

ІБ № 3340

Здадзена ў набор 29.06.90. Падп. да друку 19.09.91. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 2. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,80. Ум. фарб.-адб. 17,38. Ул.-выд. арк. 18,09. Тыраж 5400 экз. Зак. 534. Цана 1 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Явары́ускі У.**

Я 16 Марыя з палыном у канцы стагоддзя: Раман, аповесць/Пераклалі з укр. мовы В. Рагойша, У. Рагойша.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 315 с., [1] л. партр.— (Проза народаў СССР).

ISBN 5-340-00549-6.

Яворивский В. Мария з полынью в конце столетия: Роман, повесть.

Кнігу вядомага ўкраінскага празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Украінскай ССР імя Т. Шаўчэнкі У. Яварыўскага (нар. у 1942 г.) склалі аднайменны раман пра лёс звычайнай украінскай сям'і, для якой трагедыя Чарнобыля стала не толькі найвялікшым узрушэннем, але і выпрабаваннем, і дакументальная аповесць «Вечныя Картэлісы», якая расказвае на падставе шматлікіх дакументаў і сведчанняў відавочцаў аб страшнай трагедыі валынскай вёскі, спаленай фашыстамі ў верасні 1942 г. разам з 2875 жыхарамі.

Я $\frac{4702640201-116}{М302(03)-91}$ 150—91 **ББК 84Укр7**

**ВЫДАВЕЦТВА**
**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**
**МІНСК**

**У 1992 годзе**
**РЫХТУЮЦЦА ДА ВЫДАННЯ КНІГІ**
**Ў ПЕРАКЛАДЗЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:**

ВІКТАР АСТАФ'ЕЎ
**Сумны дэтэктыў**
*РАМАН, АПАВЯДАННІ (з рускай)*

АНДРЫС КОЛБЕРГС
**Голая са стрэльбаю. Цень**
*РАМАНЫ (з латышскай)*

АНТОН ЧЭХАЎ
**Выбранае**
*АПОВЕСЦІ. АПАВЯДАННІ*
*ВІШНЁВЫ САД (з рускай)*

ВАЛЕРЫЙ ШАЎЧУК
**Забойства Пятра Невядомага**
*ГІСТАРЫЧНЫЯ АПОВЕСЦІ*
*І АПАВЯДАННІ (з украінскай)*

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК

**У 1992 годзе**
**РЫХТУЮЦЦА ДА ВЫДАННЯ КНІГІ**
**Ў ПЕРАКЛАДЗЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:**

**Белы замак на гары**
*ВЫБРАНЫЯ СТАРОНКІ*
*СУЧАСНАЙ ЛІТОЎСКАЙ ПАЭЗІІ*
*(з літоўскай)*

АЛІШЭР НАВАІ
**Лірыка**
*МІНІЯЦЮРЫ (з узбекскай)*

МІКАЛАЙ НЯКРАСАЎ
**Багаславі і не забудзь!**
*ЛІРЫКА (з рускай)*

ЯН РАЙНІС
**Выбранае**
*П'ЕСЫ, ВЕРШЫ (з латышскай)*